# МАКСІМ

ЗБОР
ТВОРАЎ
У ЧАТЫРОХ
ТАМАХ

# ЛУЖАНІН

# 2

ПАЭМЫ

ВЕРШЫ (1955—1965)

ПРОЗА

МІНСК «МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА» 1980

## ХТО РОБІЦЬ ПАГОДУ

*Нібыта казка*

Дзея дзеецца ў той краіне,
Што называюць Салодкім Сном...

Сніцца сон аднаму хлапчыне:
Раптам затрося ад грукату дом,—

Усхадзілася сем Вятроў,
Расшумелася сем Дажджоў,
Забялелася сем Снягоў,
Зазлавала сем Маразоў.

Прыйшлі да Міхалкі і страшаць хлопчыка,
Гавораць грозна:
— Усё патопчам мы!
Нас — дваццаць восем,
У нашых руках і вясна і восень,
Мы пасылаем зіму і лета,
Пра нас абвяшчаюць усе газеты.
Захочам — людзі аруць і косяць,
Захочам — прыйдзем, калі не просяць,
Дыхнём — і не ўздымуцца самалёты,
Засвішчам — спыняць цягнік сумёты,
Цвет паб'ём, памарозім зерне,
Увесь каляндар дагары павернем...

Міхалка чухае носік аблуплены,
А перад ім —
Маразы насупленыя,
Страхапудзілы, сівабародзіны...
«Чаго яны,— думае,— папрыходзілі?»
— Нашто ты нас бэсціў? — Вятры шумнулі.
— Бурчаў на нас! — завялі Дажджы.
— На нас злаваўся.— Снягі сыпнулі.—
Чым не ўгадзілі табе, скажы?

Міхалка працёр ад здзіўлення вочы.
Збіраўся ён раніцай на каток,

Не трэба дажджу яму, снегу не хоча —
Вось бы сярэдні яму маразок!
Бо калі грымне вялікі ў брамы —
Прасі ні прасі, а не пусціць мама.

Зірнуў на Дажджы, паглядзеў на Снягі:
Хто з іх добры, а хто благі?
Не разабраць! Не з рукі спрачацца,
Бо напсуюць яшчэ ў час вакацый.

Але Міхалка быў хлопец смелы,
Нешта яму адказаць карцела.
— Не страшце,— кажа,— хоць вас тут многа,
Занадта на аднаго малога.
Вось хутка з'явіцца мой абаронца,
А вы ж, як агню, баіцёся Сонца.—

Тут Вятры зашугалі,
У шыбы застукалі,
Маразішчы нагамі
Ад гневу затупалі:
— Знайшоў абаронцу!
А што нам Сонца?
Спіць гэты лёжань пад цёплымі хмарамі,
А мы гаспадарым, як гаспадарылі.—

Сказалі так і стаяць, смяюцца.
Міхалка думае:
«Хоць бы прачнуцца,
Можа б, згінулі ўсе напасці...»
Кліча сястру:
— Абудзіся, Насця! —
І хітравата міргае стыхіям:
— З нашаю Насцяю жарты малыя,
Яна разбярэцца, калі ашуканцы вы,
Яна працуе на метэастанцыі.

Памякчэлі Маразы,
Сталі ветлымі Вятры,
Паласкавелі Снягі,
Раздабрыліся Дажджы:
— Мілы хлопча, ты сястры
Нашай грозьбы не кажы.

Мы цябе просім —
Усе дваццаць восем.

— Добра,— гаворыць Міхалка,— згодзен.
Больш не рабіце вы зла ў прыродзе,
Дарог не заносьце,
Зярнят не марозьце,
Будзьце ў людзей, як жаданыя госці.—

Міхалка дастаў запісную кніжачку:
— Ды вы сядайце, спачніце крышачку,
А я вашы прозвішчы пазапісваю.
Паселі ў крэслы:
Маразы лысыя,
Вятры кудлатыя,
Снягі пухнатыя,
Дажджы цыбатыя.

Вада закапала на падлогу.
Міхалка заўважыў:
— Душна? Нічога!
Вы не стыдайцеся,
Парасправайцеся!

Маразы,
Дажджы,
Снягі
Паскідалі кажухі,
Балахоны, башлыкі
І падобны сталі ўмомант
На людзей даўно знаёмых:

Той на бацьку,
Той на дзядзьку,
Той на бацькавага свата,
Той на дзядзькавага брата,
На суседа
І на дзеда.

А сярдзіты Вецярок,
Што павесіў на кручок
Замашныя крылы,

Стаў надзвычай мілы,
Смешнаваты жэўжык,
Як асенні пеўнік.

Багата да рання было нагаворана,
Хто люльку цягнуў, хто смаліў «Беламорыну»,
Міхалка дазволіў старэйшым курыць,
А дым выдзімалі праз фортку Вятры.

Папраўдзе сказаць, я не быў за бяседаю,
Ды што адбывалася — ўсё ж такі ведаю.
Адкуль?
Пачытаў я Міхалкаву кніжку
І раіў бы вам.
Пацікаўцеся крышку.

## ШТО ЗАПІСАЎ МІХАЛКА ПРА МАРАЗЫ

Калі зрывае лістапад
Лісты пажоўклыя [illegible] прысад,
Блукае па нізінах
Малы мароз — Падзімак.
Ён вельмі лёгкі на бягу,
Амаль не шчыпле за нагу,
Кладзе румянец на шчаку
І мае лёгкую руку:
Цярусіць нам парошу.
Падзімачак — харошы.

У снежні, трактам кругавым,
Прыходзіць майстар снегавы,
Адчыніць кузню ён сваю
І без кавадла, малатка,
Без меха, нават без агню,
Што хочаш робіць на заказ;
Закоўвае азёры ў сталь,
І лёдам скутая рака
Не гоніць хваль, не льецца ўдаль.
На тое ён — мароз Каваль!
З лядовага жалеза
Змайструе ён падрэзы,
Прыварыць іх на палазы,
І ў сані сядуць маразы.

Прыедзе студзеньскі мароз,
Які завуць Чырвоны Нос.
Вось гэты — злосны не на жарт,
Ён то за вушы, то за твар
Хапае ледзяною
Даўжэразнай рукою.

Затым прыбудзе Сіні Нос,
Сібе́рны лютаўскі мароз,
Ён ходзіць з кіем ля бяроз
І замарозіць можа:
Шануйся, падарожны!

Пасля прыводзіць сакавік
Мароз лагодны — Веснавік:
Звініць лядок на лужынах,
Усе вясною ўзбуджаны,
Вясёлыя дзянькі,
Але — бывай, канькі!
Вясна бяжыць да нас угрунь,
І раптам выскачыць на рунь
Наш непрыяцель даўнішні,
Мароз шкадлівы — Ранішнік.
Няпрошаны і ў маі
Усюды дапінае.
Тады палі кастры ў садах,
Перасякай злачынцу шлях:
Уп'ецца дымам сінім,
Пакруціцца і згіне.
І ёсць яшчэ стары мароз,
Ён сівым інеем аброс,
Ён мае вельмі важны пост,
Ён — над марозамі мароз.
А з выгляду — румяны дзед.
І хоць халаднаваты сам,
Але гарачы шле прывет
І падарункі носіць нам
Па хатах і па школах
Да навагодніх ёлак.
Нашто імя яго казаць,
Вы так павінны адгадаць.
Кранёмся далей пакрысе,
Бо Маразы, здаецца, ўсе.

## ШТО ДАВЕДАЎСЯ МІХАЛКА ПРА СНЯГІ

Спачатку валіць на шляхі
То мокры снег, то снег сухі.
Адзін завецца Хàлепа,
Другога клічуць Шалепа,
Ідуць на гразь і робяць гразь,
Хоць проста з хаты не вылазь!

Азябне, вымакне прасцяг
І ўзмоліцца...
І паляцяць
Сняжынкі роем на палі,
На пожні, на пакошы,
І стане бела на зямлі —
Ляці, ляці, Парошa!

А працавіты ж гэты снег!
Пабеліць сад, укрые двор
І санкі выцягне з-пад стрэх:
Пара пачаць катанне з гор!
Бяжыць на ўзлёце самалёт,
Надзеўшы лыжы ўпершыню,
Бяжыць сувораўцаў узвод
Пракладваць звонкую лыжню.

Вялікі мае кошык
Вясёлы снег Пароша!
Засыпле кожнае сцябло,
Каб цёпла спаць яму было
Да самае прадвесні,
Да жаўруковай песні.

Пасля надзьмуцца халады,
Папрачынаюцца тады
Калючы, дробны Венічнік
І тонкі, сыпкі Сенечнік.

У тых снягоў сяброўкі ёсць —
Завея і Мяцеліца.
Калі агорне цётак злосць —
Закруцяцца, узвеюцца.

Схапіўшы ў рукі дзеркачы,
Пачнуць адна адну таўчы,
Параспускаюць косы
Пад самыя нябёсы,
Пасварацца з мужамі
І тымі дзеркачамі
На тракце зробяць снежны вал,
Хай пабуксуе самазвал,
На сцежкі вывернуць сумёт,
Каб не прабіўся пешаход,
Дамы па вокны занясуць
І ў сенцы поўна намятуць.

Злуюць ліхія цёткі,
Ды век у іх кароткі!

Мінуць яны. На пастаўнік
Пагоніць статкі красавік,
Тады змятае неба
Апошні снег — Паскрэбак:
Ляцяць да долу крупкі,
Нібыта соль са ступкі.

Які б ні падаў снег з аблок:
Ці то сняжыска, ці сняжок —
Ён ад марозу ні на крок,
Бо вельмі ж нетрывалы,
Жыве надзвычай мала.
Як толькі сонейка зірне,
Праменнем на яго міргне —
Заплача, загалосіць снег
І перакáпаецца ў дождж,
І пойдзе хлюпаць без галёш.

Ужо Снягі, здаецца, ўсе.
Дык пойдзем далей пакрысе.

## ЯКІЯ БЫВАЮЦЬ ДАЖДЖЫ І ШТО ЯНЫ РОБЯЦЬ

Са стрэх звісаюць капяжы,
На полі — снежны малахай,

А ўжо вясновыя дажджы:
Дождж Раставай і Палівай
Наўсцяж бягуць лугамі
І гоняць снег дубцамі.
— Гэй, Раставай! Займай з бакоў!
— Гэй, Палівай! Прышпар з лясоў! —
Услед гукаюць дзеці,
І рэха носіць вецер.

Гудзе гамонка ручаін,
Трава паблісквае з нізін,
Гучыць падпаскава труба,
І апранаецца вярба
Пушыстымі каткамі...
Ты з гэтымі дажджамі
Сябруй, ад сэрца паважай —
Яны гадуюць ураджай.

Калі прыпарным летнім днём
Разрэжа пасак агнявы
Клубкі аблокаў кучавых —
У сто гармат бабахне гром,
Прыгнуцца ў страху дрэвы,
І рыне дождж Залева.

Стальныя вострыя цуркі
Б'юць зверху проста як штыкі,
Праніжуць за хвіліну,
Як кажуць, да рубіны,
Пялёсткі з яблынь атрасуць,
На жыце абаб'юць красу
І цэляць, каб упокат
Злажыць усё навокал:
Парваць на тракце правады,
А ў рэчку столькі даць вады,
Каб поймы затапіла,
Праезджы шлях размыла.

Калі не радуеш людзей,
А шкоду робіш найчасцей,
Цана табе — гарэлы грош,
Хоць ты і моцны, буйны дождж!
Сказаць папраўдзе, да таго ж

Залева — ашуканец!
Калі яго чакаюць,
Нагоніць хмар
На ўвесь абшар,
Пастрашыць,
пырсне раз ці два,
Што не здаволіцца трава,
Што не прыб'ецца нават пыл,
І — пакаціў за небасхіл!

Вядома ўсім з прыкмет былых:
З вялікай хмары — дождж малы.
Залева чуў пра гэта,
Ён ціхенька, сакрэтна
Схаваецца за хмаркай,
На ёй пад'едзе шпарка,
Саскочыць, схопіць, пракурат,
Свой дажджавальны апарат
І — як з вядра!
І — як з вядра!

Багата робяць хлюпаты
Дажджы, стрыечныя браты,
Касіла і Сушыла
І трэці дождж — Мачыла.
Касіла не дае касіць,
Сушыла не дае сушыць,
Мачыла копы мочыць
Ад раніцы да ночы.

Яны і восенню ідуць,
Тады іначай іх завуць:
Дажыначнік — ліе ў снапы,
Бульбянік — цэдзіць на бурты,
А Канаплянік цёплы —
На лён і на каноплі.

Усяк, бывае, клічуць іх,
Але звычайна лічаць іх,
Усіх шасцёх, дажджом адным,
Заядлым, спорным і густым,
Якога знае кожны
Пад іменем Аблажны.

Затое дожджык Грыбасей —
Адна уцеха для дзяцей!
Прыпусціць ён — зямля цвіце,
І грыб, і ягада расце:
Цягні гэту супалку
За вуха і ў кашолку!

Над малайцамі маладзец
Дождж Ворыўнік.
І дождж Сявец —
Выдатны памагаты
Калгаснікам-аратым.

Мацуй з дажджамі дружбу,
Павывучай іх звычкі,
Яны саслужаць службу,
Хоць ростам невялічкі:
Разуюць чаравічкі,
Падвяжуць світкі лычкам
І папрацуюць для цябе
На ворыве і на сяўбе.

Вось і Дажджы, здаецца, ўсе.
Кранёмся далей пакрысе.

## МІХАЛКАВЫ ЗАПІСЫ ПРА ВЯТРЫ

Павінны ведаць вы, сябры,
Што вельмі крыўдзяцца вятры,
Калі сказаць, што ў свеце
Адзін існуе вецер,
Усходні ці заходні,
Лагодны ці халодны.

У рыбакоў і маракоў
Знаёмых многа між вятроў:
Смерч, Бóра, Шторм і Ураган,
Нагон, Марана, Трамантан,
Зімняк, Шалоннік, Баргузін,
Лабач, Калышань, Фардэвінд...

Навошта нам злічаць усе,
Нам больш цікавы толькі сем,

Тых, што былі ў Міхалкі,
Што ў нас бытуюць змалку,
Дзьмуць у бліжэйшых месцах:
Пад Гомелем ці ў Брэсце.

Народ гаворыць нездарма,
Што ў ветру сталасці няма,
Бо можа дзьмуць адзін і той
Гарачым летам і зімой.

Віхура, скажам, па страсе
Завею ў студзені нясе,
А ў маі — будзіць буру.
Няпэўная натура
У гэтага Віхуры.

З вятроў найболей стала
Працуе дзед Ківала,
Мажны, высакаваты,
Чубаты і вусаты.
Надзьмецца ён, дзьмухне, кіўне —
Млын зараз крылламі махне,
За ім электраветрачок
Па правадах пагоніць ток,
Каб лямпачкі гарэлі,
Каб мы кіно глядзелі.
Каб з вадаводнае трубы
Вада лілася ў жалабы,
Ішла на фермы, ў агарод...
Ківала ў працы круглы год,
Киваецца памалу,
На тое ён Ківала.

Тужэй падцісну ўшы пояс,
Прыходзіць з поўначы да нас
Марозны Сівер-вецер,
Ён цягне снегу венцер,
Імжой іглістаю сячэ,
Да косці холадам пячэ.
Так, Сівер злы.
А сама горш,
Калі заходзіцца віхор,
Пануры, чорны Сухавей
З крыламі, але без вачэй.

Ён па краінах цёплых
Ваду растрос да кроплі,
Нагрэўшыся ў прасторах,
Насох, нібыта порах.

Ляціць.
Сляпіцай, напралом,
Каб нівы засушыць кругом,
Забіць ім спёкаю духі,
Каб стаў наўкола стэп сухі.
Аўсы, не могучы дыхнуць,
Далоні на грудзях складуць,
Кусцістая пшаніца
Пажоўкне, зляжа ніцма...
Каб Сухавей з вачамі быў,
Ніколі б гэтак не зрабіў!

На Сухавей ідзі вайной!
Лесаахоўнай паласой
У часе паабводзь палі,
Каб там і яблыні цвілі,
Расла акацыя, бружмель,
Раскашаваўся пышны хмель.
Няхай на варту стане дуб,
Падняўшы кучаравы чуб:
Ён можа, ён умее
Збіць пыху Сухавею.

Калі дыхне мядком з садоў,
Павее кветкаю з лугоў,
Дык ведай: там ад рання
На працу стаў Мядзвянік.
Ён знае абавязак свой,
Нясе пылок ад хвой да хвой,
З расліны на расліну,
З травіны на травіну,
Каб завязалі завязь
Антонаўка і вішня.

Мядзвянік гоніць заедзь
З жывёліны увішна,
Калі ж сустрэнецца з пчалой,
Ён дапамогу дасць малой,

Пад крыльца падтрымае,
Пот з рыльца абдзімае:
— Ляці хутчэй
У свой вулéй,
Назбірвай мёд
На цэлы год.

Каб шмат нажаць, раней пасей,
Закінь зярняты проста ў глей.
А як жа ступіш на разлог,
А як жа выбеліш нарог?
Вада стаіць...
Чакай пары,
Бо ў полі грузнуць трактары.

Вось тут ляціць праз далягляд
Упраўны вецер Вадахват,
Шумлівы, белабрысы,
Матне шырозным крыссем —
На ўзгорках пасушэе,
У долах патужэе,
І зататахкае матор,
І пара ўздымецца з разор,
І ляжа чорным хібам
Адгорнутая скіба.
Як брыгадзір, паважны грак
За дзень натупаецца ўсмак:
Ідзе за сіненькім дымком,
Барозны мерае крылом,
Чарвям рыхтуе згубу
І чхае на ўсю дзюбу.

Апошні вецер Пераност —
Не вельмі пэўны мае ўзрост,
Не дзед, аднак не маладзён,
Парадак вельмі любіць ён.
Прыхільны да прыхатніх спраў,
Усюды мёў бы, падчышчаў:
Устане, ўспорацца чуць свет,
Лісты з дарог зграбе ў кювет,
Паабмятае крыллем
Ад пылу чарнабыльнік,
Бярозавы гасцінец

Завесіць павуціннем,
Каб сонцу, што да нас прыйшло,
Уцешна, хораша было.

Паводле гутарак старых,
Быў чалавек ён, а ў вятры
Патрапіў за ахвоту
Да розных чутак-сплётак:
Пачуе што — памчаў, панёс,
Таму й празваны Перанос.

Калі пачне ён завываць,
Гаворацъ, можна разабраць,
Чым устрывожан шчыры бор,
Дзе абзываецца тапор,
Што жораў кнігаўцы сказаў,
Што бусел чаплі напісаў,
Хто чым дыхнуў, хто чым жыве,
Раскажа гэты ветравей.

Гадаць не будзем, так ці не,
Гаворкі зараз не ў цане,
Прыслухвайся, хто не глухі...

А Перанос ужо другі
Знайшоў сабе занятак
У лесе і пры хатах:
Натросшы ў клёнаў і ялін
Зярнят крылатых з верхавін,
Нясе за трыдзевяць зямель,
У пухкую кладзе пасцель.
Каб адужалі дрэўцы,
Каб цешыліся сэрцы,
Калі там зашуміць здалёк
Зялёны хвойнік ці гаёк.

## ЧЫМ СКОНЧЫЛАСЯ ГЭТА ДЗІЎНАЯ СУСТРЭЧА

Доўга Міхалка пісаў.
Самлела,
Моцна зайшлася ў яго рука.

Самы старэйшы і самы белы
Мароз прамаўляе да хлапчука:

— Заключым умову, Міхалка Бабок!
Будзем жыць згодна з табой, галубок.
Калі мы ўздумаем дзьмуць і марозіць,
Зараз падскочаць сюды Вятры
І папярэдзяць вас аб пагрозе,
Падкажуць надвор'е тваёй сястры.

— Вельмі дзякую за турботу!
А ці не час вам, дзядзькі, за работу?..

Насця зайшла.
Усхапіліся госці.
Быццам збянтэжыліся чагосьці
Вятры кудлатыя,
Снягі пухнатыя,
Дажджы цыбатыя.

Кажа дзяўчына:
— Я ведаць вас ведаю,
А не здаралася стрэць за бяседаю.
Вы, Маразы, не зрабілі масты,
Не ўмацавалі як след балаты,
Нельга стагі перавезці на фермы,
Дзякуй не скажа жывёла цяпер вам.

Вось і Снягі сабе бібікі б'юць,
Кураць па хатах, на працу не йдуць.
Людзі шчыты пастаўлялі на полі,
Каб затрымаць вас,
Мець вільгаці ўволю.
Лес для будоўляў ляжыць напілованы,
А да чыгункі шляхі не тралёваны —
Снегу няма...
Я пытаю ў Вятроў:
Можа, падганіце вы гультаёў?
Метэастанцыя зводку зладжыла:
«Будзе мароз немаленькае сілы...»
Мы абвясцілі, а дзе ж той мароз?

Тут абазваўся віхор Пераног:
— Не пачынай ты, дзяўчына, з дакораў,
Трохі нам крыўда, трохі нам сорам.
Справа сюды прывяла такая:
Нешта зводкі твае кульгаюць.
«Сягоння — дождж!» — абвяшчае радыё,
А сонца небам бясхмарным радуе.
«Дзень без ападкаў!» — грыміць перадача,
А дзень той з раніцы слёзна плача.

— Не трэба пазніцца, прыходзьце ў часе,—
Так Пераносу гаворыць Насця.—
Нашто ганарыцца: мы, бачыш, стыхіі!
У чалавека рукі даўгія.
А ў нашых людзей асабліва дужыя:
Ужо спадарожнік зямлю абкружвае,
Паслалі ракету мы ў той прастор,
Куды не падымецца з вас ніхто.
Яшчэ гадок — і ўзляцім на Месяц,
Тады не будзеце куламесіць:
Знізу і зверху пачнём загадваць,
Каб вы працавалі дружней, брыгадамі —
Вецер з дажджом, а мароз са снегам.
Улегцы не будзе ніводзін бегаць,
А хто не захоча зводкі трымацца,
Пазбавім адразу права на працу.

На гэтым і скончылася размова...
На месца пайшлі
Маразы суровыя,
Вятры кудлатыя,
Снягі пухнатыя,
Дажджы цыбатыя.

Пайшлі таксама, правёўшы пасланцаў,
Міхалка ў школу, а Насця — на станцыю.

## ХТО РОБІЦЬ НАГОДУ

На станцыі дзяўчына
З блакітнымі вачыма,
З даўжэзнаю касою,

Харошая сабою,
Камандуе дажджамі,
Сябруе са снягамі,
А на вятры наводзіць страх —
У Насці тэхніка ў руках!

У неба пусціць шар-пілот
І вызначае ветру ход,
Барометра бліскучы дыск
Пакажа ёй паветра ціск,
Тэмпературу добра
Запісвае тэрмограф.
Дзяўчыне служыць вельмі шмат
Прыбораў дзіўных і прылад.

Яна прасочыць рух аблок,
У глебе змерае цяпло,
Увечары і ўранні
Запіша назіранні,
Дзе ўсхватваюцца хмары,
Адкуль чакаць прыпару
З агністай небяспекай
Для працы чалавека.

Чакаюць вестак аграном,
Пілот, вадзіцель за рулём,
У белым кіцелі марак,
Вучоны, школьнік і рыбак:
— Давайце неадкладна,
Ды каб было дакладна!
Бо трэба знаць і трэба ўмець,
Каго, калі і як сустрэць.

Пасты хлапцоў, пасты дзяўчат
Абнялі вартай далягляд:
У Насці шмат сяброўак,
Бялявых, чарнабровых,
А ў тых сяброўак ёсць сябры,
Усе — бывалыя майстры,
Яны то зладзіць здужаюць
З вятроў шкадлівых ружаю,
Патайныя іх плыні
Прыкмецяць і запыняць.

Пасты хлапцоў, пасты дзяўчат
Абнялі вартай далягляд,
Пагоду ўдзень і ўночы
I робяць, і прарочаць.
Яны сягоння ўсёй зямлі
Шырока вестку падалі:
— Ідзе Вясна! Ідзе Вясна!
Усе ўставайце да відна!

*1959*

# ЖЫВЫЯ РЫСЫ ІЛЬІЧА

Хто бачыў Леніна?
Радзее
Гвардзейскі строй старых байцоў.
А як жа тым, чый ранак днее,
Хто данясе да юнакоў
І рокат ленінскае мовы,
І востры зірк, і ўзнёслы рух,
І ўсё, за што былі гатовы
Узняцца міліёны рук,
Калі з нявольніцкага чаду
Выходзіў пераможны клас,
І ў тыя дні, як бралі ўладу,—
Ён з намі быў, ён быў між нас.

Так мы будоўлі пачыналі,
Так мы за шчасце ваявалі,
Так мы дужэлі на вачах,
І ўсё выразней выступалі
Жывыя рысы Ільіча.

Хто бачыў Леніна?
Паўсвета!
І свет збярэцца пакрысе.
Таму на запытанне гэта
Мы так адказваем:
— Усе!

Па-свойму рыбакі з Байкала
І плытнікі з Беразіны;
І колькі душ ні уяўляла,
А рысы ўсё ж былі адны.

Адно аблічча.
Ды такое,
Дзе, як у люстры, ажылі
Усе аблічы ўсіх герояў,
Што любіць казка на зямлі:

Аратага, пасля асілка,
Што верне горы спаквала,
Стральца, што не дае памылкі,
Ці майстра шчасця — каваля.

Быліны...
Іх ручай не высах,
Ён гарачэй, ямчэй забіў:
Аб тым, як Ленін браў Барысаў,
Ад белых бараніў Сібір.

Дзе пралятаў ён самалётам,
Дзе проста верхам праязджаў,
І люба ўсім, сказаць ахвота,
Што нават пеша пахаджаў.

Так не было. А вось бывала ж!
Народ сказаў — няма цаны:
Так праспяваў рыбак з Байкала
І плытагон з Беразіны.

І стаў яшчэ бліжэйшы Ленін...
Дык вось, і ў гэтым слове ёсць,
Дзе чутае, дзе уяўленнем
Здабытае.
За ўсё жыццё маё.

*

Год дзевятнаццаты.
Прадвесня
Такая, што дасюль чутна.
Як перадчасна, як балесна
Свярдлова горкая труна.

Нясуць труну...
А Ленін следам,
Сляза да веек прырасла,
І самым чыстым самацветам
Імжынка гэтая была.

У ёй мільгнула ўсё: падполле,
Развой шляхоў, вытокі спраў...

Свярдлоў!
Каб ён чаго не здолеў?
Быць не магло...
Ды вось упаў.
Зноў гэты боль!
Адкуль?
Ад кулі
Эсэраўскіх баявікоў...
А ён жа лёс зямное кулі
Пачаў выблытваць з ланцугоў.

Малая кропля на павеках
І першы промень сівізны
Нам паказалі чалавека,
Душу нязвыклай цаліны.

Ён цвёрды быў па абавязку,
Нялёгкаму у тыя дні,—
Не заўжды права меў на ласку,
Бо сэрца — воск, не закрані.

*

Дваццаты год.
«Пасля вакацый,—
Расказваў мне адзін з сяброў,—
Я перакладчыцкую працу
Браў ад крамлёўскіх устаноў.

Ішлі дажджы, цяклі гамашы.
Трамвай? — задарагі білет.
Я меў паёк, паўлыжкі кашы,
І часам пропуск на балет.

Паўзмрок высокіх веж крамлёўскіх
Нагадваў чуткі даўніны,
Як хтосьці на пажар маскоўскі
Глядзеў з зубчатае сцяны.

Ён разлічыўся лёсам слёзным...
А зараз жа да гэтых сцен
Зноў рвецца тлум ваякаў розных
Ледзь не з усіх зямных кален.

Але хадзіла па Расіі
Ужо ўздужалая вясна.
Падумаць толькі!
                    На якія
Шляхі гарыстыя, крутыя
Раптоўна ўздыблена яна.

Як свята, прадчуваў я постаць
Таго, кім скалануты свет.
Ён гэтак проста, вельмі проста
Праліў святло далейшых мэт
На цяжкасці, на сэнс задачы,
Што чым складаней, тым прасцей.

...Яго не на трыбуне ўбачыў,
Не між байцоў, а між дзяцей.
Са школы выбегшы, гулялі
Па ўсім Крамлі.
                    Ад іх мяча
Ратуючыся, як на хвалі,
Я раптам згледзеў Ільіча.

І ўкамянеў.
                    А ён паволі
Спусціўся з ганка, мяч падняў,
Спыніўся, мусібыць ад болю,
Хацеў адбіць, ды так аддаў.

Пазналі... І ад захаплення
Малыя ў крык, ледзь-ледзь не ў плач.
Цяплеюць вочы, кажа Ленін:
— Мы вам дастанем добры мяч! —

Званок паклікаў з перапынку...
Правёў ён зіркам хлапчанят,
Пасля пайшоў сабе сцяжынкай
Развеяцца ў Тайніцкі сад.

Сеў. пры газончыку зялёным
Ужо ва ўладзе дум сваіх:
Ён вёў штоночна і штодзённа
Баі.
    На ўсіх франтах баі:

За еднасць партыі, за збожжа,
За цягнікі, за караблі.

...Узвіўшыся над агарожай,
Да лаўкі гукі падплылі.
То абудзілі громам светлым
Армейцы старадаўні дом:
«Смело мы в бой пойдем
За власть Советов!»

І словы ўсё вышэй шыбалі.
Ільіч падняўся, пастаяў
І раптам варухнуў губамі.
Я здагадаўся:
Ён спяваў!»

*

Зірнуў мой сябар, нібы час той
Зноў аднавіў сваю бягу:
«Я гэта ўспамінаю часта,
Пэўней — забыцца не магу.

Якім тады ён здаўся зблізку?
Зірк трохі зморaных вачэй,
Не так, каб дужы, ростам нізкі,
А нечым за другіх вышэй!

І зараз сэрцу неспакойна:
Чаму спыніцца я не смеў,
Няхай бы дзёрзка, непрыстойна,
А трохі болей паглядзеў.

Год дваццаць першы...
На машыне
Ён праязджаў па Махавой
І пасміхаўся:
мне,
дзяўчыне,
ўсёй вуліцы,
сталіцы ўсёй.

Яшчэ вясна. За ёю восень,
Ужо ў Крамлі яго няма.

І бачыць больш не давялося.
Прыйшла астатняя зіма».

*

У склепе — хай сабе з граніту,
У холадзе — няхай вякоў —
Спрабуй, мой дружа, уяві ты
Жывейшага з бальшавікоў.

Адразу сэрца дрогне болем...
Ён спіць, чаму ж не спіць Масква?
Каторы дзень!
Яшчэ ніколі
Так доўга ён не спачываў.

Сняжок сцярушваецца сыпкі,
А мы ідзём, як па жарстве,
І голас вырваўся са скрыпкі,
Рыдае, жаліцца, плыве.

І гора —
разлілося морам,
Ды ў мора ёсць і берагі,
Дзе ж бераг у такога гора,
Ва ўсенароднае тугі!

*

Сонца чырванню палымнее
На крыле Маўзалея.
Туды
Падыходзім,
Яго мы праводзім —
Страшна вымавіць! —
Назаўжды.

Дзесьці тлее надзея:
Устане!
Акрыяе, падымецца ён,
На прыціхшых таварышаў гляне:
— Вельмі ж цяжкі прыбачыўся сон.

*

Выдзьмуў вецер — пясчынку малую —
І мяне на маскоўскі брук.
Вось па плошчы іду і чую
Устурбованых сэрцаў стук:

Тых,
чый попел у сценах вякуе,
Тых,
што ў заўтра шляхі кіруюць,
Чую поціскі братніх рук.

Раздзялілі мой боль
і журботу маўклівую
Працавітыя людзі з усёй зямлі,
І сінія елкі, ад гора сівыя,
Плакаць плакалі,
а раслі!

*

І вось пасля ўсяго цяжкога,
Жалобных шэсцяў, слоў і слёз,
Мы бачым Леніна — жывога —
Ва ўсім, чым наш багаты лёс.

З ім кожны гаварыў у марах,
На дапамогу заклікаў,
І ён, як родны, як таварыш,
Нас падбадзёрваў, падымаў.

У час пагрозаў, войнаў, зрухаў
Ён тым цвярдзей трымаў штурвал,
Бо сэрцы нашыя выслухваў
І сэрца людзям раскрываў.

Калі ж да нас зварочваў слова,
Было ў ім столькі прастаты,—
Хто ўчуў — ужо сказаць гатовы:
Дык гэта ж так, як думаў ты!

І словы тым шчыльней ядналі,
Што пры гаворцы з кім адным

Ён размаўляў з усімі намі,
З народам гаварыў усім.

Хоць значыў ён для ўсіх адразу
Шляхі ў агульнай барацьбе,—
Ты адчуваў за ўсё адказнасць,
Нібыта сказана табе.

Мы спорна шчасце будавалі,
Знаходзілі і зноў шукалі,
Бо ёсць маяк і ёсць прычал!
І ўсё выразней выступалі
Жывыя рысы Ільіча.



Быць можа, здасца непраходным шлях
Ці галава закружыцца на кручы,
Але цябе ўтрымае на нагах
Узор жывы і прыклад неўміручы.

Няхай ты будзеш зморан цераз край
Уздымам ад ступені да ступені,—
Не супыняйся, у сябе спытай.
Успамяні:
А як таварыш Ленін?

Як некалі Ільіч праторваў першы след,
І колькі пуцявін было прабіта?!
Ён і сябры... Наўкол варожы свет,
Няпэўны рух — і праіграна бітва.

І ён у бітвы кіраваў свой крок,
Крыніцы адшукаўшы ў нетрах класа,
Зліў у струмень, злучыў іх у паток,—
І партыя на хвалях паднялася.

Мы дзверы ў заўтра мусім адчыніць.
Прайсці агонь, прабіцца цераз камень.
Не бойся, дружа, бур і цішыні,
Абы сябры былі ў тваім шуканні.

Не той, хто ў словах ломіць буралом,
А людзі, ненатольныя да працы,

Што ставяць дом, спраўляюцца з рулём,
І руль дзяржавы прымуць, не збаяцца.

Калі ж пачнецца непраходны шлях
Ці галава закружыцца на кручы,—
На перавал, дзе ўсё відно ў гарах,
Цябе падыме прыклад неўміручы.

*

Мы горды роднаю зямлёю,
Разумнай працай смелых рук,
Народаў добраю сям'ёю,
Вялікай моваю сваёю,
Святым і правым імем —
друг!

Ва ўсім пачатак ёсць адзіны,
Натхнёны, непаўторны міг:
Мы бачым з Леніным радзіму
Усю!
З каналамі, садамі,
З гудкамі па-над гарадамі —
Усю!
Ад нетраў залатых,
Ад тундры з вечнымі снягамі
Да пальмаў з цёплымі лістамі
І сініх берагоў марскіх.

*

Калі з надзейнымі сябрамі
Мой дужы край ярмо пасек,
Мы расхінулі насцеж брамы
І ў новы год, у новы век
Пайшлі.
Палепшалі пагоды,
Папрастарнеў абсяг вачэй.
Па горных схілах пяцігодак
Усё далей,
усё вышэй,
Усё бліжэй да кроўнай мэты,
Усё ясней, наўздзіў, наўзлёт,

Па найдарожшых запаветах
Мы кіравалі свой паход.

І вось, да высненага шчасця,
Здаецца мне, сябры мае,
Нам застаецца столькі часу,
Што толькі песню прапяеш.

Я ведаю, што гэта мары...
Няторан шлях, далёк папас,
Яшчэ гасіць вайны пажары
Нам давядзецца.
І не раз.

Ды з кожным разам,
як прарочыў
Ўладзімір Ленін для вякоў,
Шырэй расплюшчваюцца вочы
У катаваных і рабоў.

Так час няўхільна набліжае
Здзяйсненне мар, здзяйсненне мэт:

Яна відна, часіна тая,
І завязь, і чырвоны цвет.

— Хто бачыць Леніна? — спытаем.
— Усе! —
Адкажа цэлы свет.

*1957*

## ХАДОК

*

Мінуўшы тыдзень будні,
Збіраецца народ
Пагаманіць пры студні
Ля дзедавых варот.

Дзе што чуваць на свеце,
Што на чарзе рабіць,
Калі на гэтым леце
Пачнуць лугі касіць.

Як лепш выпальваць вугаль...
Гудзец параіць рад,
Набіўшы ў піпку туга
Адменны бесараб.

За ім усе мужчыны
Дастануць капшукі
Ды пусцяць дым ляйчынай,
Прадзьмуўшы цыбукі.

Адзін успомніць гэта,
Той прыпляце сваё,
Але для ўсіх у дзеда
Адказ і рада ёсць.

Здаўна шумела спрэчка
За выганчык малы:
Тры вёскі кожны вечар
Ламалі там калы.

Такія ж бойкі, мусіць,
Прапрадзеды вялі —
Сягоння плачуць Прусы,
А заўтра Чапялі.

І хоць былі рэўкомы,
Не спішылі садом

Ні цвёрдаю рукою,
Ні ласкай, ні судом.

Штодня ідуць патравы
І енкі ля хацін.
Гудзец па гэтых справах
Да Леніна хадзіў.

Ён проста ў свет не рыне,
Дзед мае гонар свой:
Са старасвецкай скрыні
Дастаў вясельны строй.

І з крамнага тавару
Адзенне паўскладаў,
Адменных ботаў пару
У хустку завязаў.

І так, з расою, ранкам
Павесіў на кіёк
У торбачцы буханку,
Любовага скрылёк.

А каб не звесці рою,
Як звычай вымагаў,
Прыселі ўсёй сям'ёю:
— Ну, божа, памагай! —

Праводзілі да жыта,
Да ростані дарог.
На пыл, дажджом прыбіты,
Упаў слядоў шнурок.

Было крыху трывожна,
І ўсе глядзелі ўслед,
Пакуль у хвалях збожжа
Зусім схаваўся дзед.

А дзень смяяўся ў вецці,
Па-свойму гаманіў.
Ледзь кратаў лёгкі вецер
Цымбалы звонкіх ніў.

*

Дзед грошай на дарогу
І браць не пажадаў:
— Не можа быць, старога
Каб хто на воз не ўзяў.

Я сам адзін, без клункаў,
Магу ў Сібір жыгнуць,
Падамся паўз чыгунку,
Напэўна ж, падвязуць! —

І хто б таму паверыў:
За пару тыдняў дзед
Павыпраўляў паперы,
Каму як валадзець

Тым выганам, што спрэчкі
Па воласці гулі,
Дзе вёскі кожны вечар
Скрыжоўвалі калы.

*

Масква ад нас не блізка —
Паўстанкаў не злічыць.
Даехаў дзед да Мінска,
Дамоў яму карціць.

Ішлі аж цераз суткі
На Слуцак цягнікі,
А тут жа трэба хутка,
Дый сам ён трапяткі.

Чакаць, у сціску ехаць?
Пагода ж — рай наўкруг:
У лесе грае рэха,
Звініць малы жаўрук.

Да змроку ён ва Ўрэччы,
І дом не за гарой...
Наважыў. Мех за плечы
І ўрэзаў пехатой.

Не спачываўшы ўночы,
Па сцежках баравых
Прынёс у Белабочы
Патрэбныя правы.

З вялікаю павагай
У школе ўсім сялом
Паперу каля сцяга
Павесілі пад шкло.

Гудца ж, нібыта ў свята,
Бадай што кожны дзень
Вадзілі з хаты ў хату,
Каб трохі пасядзеў.

*

Дзед не скупы расказваць,
Што бачыў, дзе хадзіў:
— Я зблытаўся адразу,
Калі ў Маскву прыбыў.

Спраміж муроў каменных
Ляжыць Чырвоны пляц,
У тры цагліны сцены
Стаяць наўкол Крамля.

Разоў пятнаццаць, мусіць,
Каля варот прайшоў.
А як зайсці памкнуся:
— Ідзі ты, дзед, дамоў! —

Гукае з брамы варта,
Няма як прыступіць.
Паставіў бы паўкварты,
Каб меў за што купіць.

Тут нехта падарожны
Праходзіў праз масток,
Прыціхла ўся старожа,
А ён:
— Ты што, дзядок? —

Паблісквае вачыма,
Гаворыць спакваля.
Немалады мужчына —
Бародка ж, як мая!
Кажу:
— Хіба я вінен,
Што мушу тут стаяць?
Каб гэта знаў Калінін...
— А гэта,— кажа,— я.

Чаго,— пытае,— хочаш?
З якіх-такіх краёў?
— Я з вёскі Белабочы
Да Леніна прыйшоў.—

Ну, тут наросхліст брама,
А ён каля салдат
Правёў мяне таксама,
Як бы яму я сват.

Гаворым, значыць, жупім.
Пытаецца ў мяне:
— Як, у такой халупе
Ці жыў бы ты, ці не? —

А ў кожнай з тых будынін
Змясціў бы жыхароў
З Чалевіч і з Паўстыні,
Дый нават з хутароў.

От гэта, людцы, хаты!
Пасля паказваў ён
Старую цар-гармату
І старадаўні звон,

Што больш званіць не будзе,
Бо, каб пачаў званіць,
Ад нас прыбеглі б людзі,
Пакінуўшы касіць.

А гэтая гармата,
Каб раз адзін цяла́,

Не падлічыў бы страты,
Не накупляўся б шкла.

Хаджу сабе, як дома,
Не разяўляю рот.
Ён кажа:
— Нам вядома,
Чым дыша земляроб.

Аралі ды касілі,
Бывала, дзень пры дні,
Ды вось дала Расія
Мне годнасць старшыні.—

І так была размова,
Дай божа хоць каму:
То ён мне скажа слова,
То слова я яму.

Разважым ды прымерым,
Што да чаго, зачым...
Пасля ён даў паперу
На ноч і на харчы.

— Мы,— кажа,— спраўдзім клопат,
Пабудзь тут пару дзён,
Калі ж чаго не хопіць,
Звані мне ў тэлефон.—

Узяў я квіт, і ў торбе
Было сяго-таго,
Ды хлеб плячэй не горбіць,
А тутака ж я госць.

Рад, хоць у ладкі пляскай,
Вяду да варты крок.
— Праходзьце, калі ласка! —
Руку пад казырок.

Праводзяць — проста міла,
Дзе той імпэт былы.
— Глынулі, хлопцы, мыла,
Ну, што — ўзялі, арлы? —

Частую добрай скваркай,
Дык не бяруць яны:
— Хапае ў нас прыварку,
На гэта не жадны.—

Крыху перакурылі,
Ды я падаўся спаць,
Бо костачкі старыя
Хацелі спачываць.

Дастаў сабе пасцелю
У лепшых нумарох
Якогасьці атэлю,
Няхай ратуе бог.

Бялізна — страшна легчы:
Бялюткая як снег,
Пад ёй спружына крэкча,
Калі рукой кранеш.

Абмыў з дарогі гразь я,
Бо там жа акурат
У самай хаце лазня
І шмат другіх прылад.

Але адно да скону
Запомню, да труны —
Я тыя тэлефоны,
Няхай іх перуны!

Вісіць на сценцы дудка,
Блішчасты апарат,
Празвоніць вельмі хутка,
А што — не разабраць.

*

Назаўтра ўстаў я рана,
Як на касьбу ўставаў.
Іду. Міхал Іваныч
Зноў да сябе зазваў.

— Сядай!
— Ну што ж, і сяду,

Так лепей гаварыць.
Вы ж нашая улада,
А мы — гаспадары.—

Сядзім. Ільіч не едзе.
Заняты. Вось напасць:
А можа фурман недзе
Зламаў якую снасць?

Тым часам чаю шклянку
Кабетка наліла
Дый кажа:
— Ён на ганку.
Машына падышла.—

І ён, аднекуль збоку,
У чорненькім пальце,
Устаў на відавоку,
Як быццам узляцеў:
Вясёлы, лёгкі ў кроку,
Уся душа ў хадзе.

І мы ўстаём.
— Сядзіце!
Дзень добры! Вельмі рад.—
Растаў я, нібы дзіцем
Зрабіўся акурат.

І сам таго не зглёдзеў,
Як вылажыў сваё:
Што пе́рацъ нас суседзі,
Што здачы мы даём.

Кажу.
Відаць, не верыць.
Штось хутка запісаў.
— Як вы сказалі: пе́-рацъ? —
Спытаўся.

Я дадаў,
Што перацъ — гэта месяць,
Ну, значыць, моцна б'юць.

Ільіч падняўся з месца,
Прыжмурыў вока чуць:

— Вас пе́рылі?
— Траплялa.
— Скажыце, а за што ж?
— Ды ўсё за выган!
Мала
Лугоў у нас, пакош.—
Ён ціха абазваўся:
— Міхал Іваныч, як?
Навіны моваанаўства
Расказвае случак.

Вазьміце дзеясловы:
Біць, плакаць і тужыць —
Да іх у кожнай мове
Адценняў не злічыць.
Жыццё ўсяго народа,
Нібыта ў люстры, тут...
...Як нам дайсці да згоды —
Вяршыць давайце суд:
Каму участак спрэчны —
Мацнейшаму калу? —

А я шапчу:
— Навечна
Аддаць майму сялу.—

Ільіч ківае:
— Вось як?
Пакрыўдзім жа людзей.
А да якой з трох вёсак
Ваш выганчык бліжэй? —

Кажу:
— Мяркуйце самі,
Сярэдзіна якраз:
Тры вуліцы платамі
Выходзяць на папас.

— І што ж, растуць там травы? —
Я гавару:

— Адкуль?
Што выскачыць — патравім.
І зноў, як на таку.

— Як дрэвы ў Белабочы?
— Пагана, губіць суш,
Дзіця не знае ў вочы
Ні яблык, ні ігруш.

— Дык вось, найлепей будзе,—
Ён кажа,—
Каля хат,
На гэтым спрэчным грудзе
Разбіць грамадскі сад.

— А божа, а худоба? —
Ледзь-ледзь не галашу,
Ды Ленін кажа:

— Добра,
Я воласць папрашу,
Мне думаецца, можна
Знайсці свабодны клін,
Даць выган вёсцы кожнай
Па колькі дзесяцін.—

От, сто гадоў як быццам
Я добра ведаў іх:
Яны пра ўсе драбніцы
Апытвалі ўдваіх.

Ці ўвесь загон засеян,
Дзе ураджай які,
Ці спраўджваюць насенне
Сялянскія шнуркі?

А ці не лепш выпадкам
Зямлю ў кавалку мець,
Быць пэўна, больш дастатку
Тады прыдбала б клець.

У гэтым меркаванні
Казалі між сабой:

— Аграрнае пытанне
Навязвае нам бой.—

І так я ў розных справах
Ім трохі дапамог.
Жыццё ўсяе дзяржавы
Разважылі мы ўтрох.

Калі ўсё развязалі,
Памкнуўся быў ісці.
— А што найбольш,— спыталі,—
Вам рупіць у жыцці? —

Я аказаўся, помню:
— Спакою б толькі нам...—
А Ленін кажа:
— Скромна! —
Прайшоўшы да акна.

— Спакою,— кажа,— хочаш?
Ты ж мусіш ведаць, дзед,
Што поўдзень ботам топча
Раз'юшаны кадэт.—

Калінін з папяросы
Пусціў дымок пад столь:
— Спакою першы просіць,
Дасюль прасілі соль.

— А вы пусціце дзеда,—
Абодвум гавару,—
Дык я таго кадзета
На мэтлахі сатру.

— За гэта,— кажуць,— дзякуй,
Ды не твае гады.
Яшчэ ў Расіі браку
Няма на маладых.

Мінуўся час панура,
Ты вёску супакой.
А мы зрабілі буру,
Каб даць людзям спакой.

*

Ну, што ж? Даруем дзеду,
Калі што прыманіў,
У падарожжы следам
Ніхто з ім не хадзіў.

Хоць ён на гэта стар быў,
Каб дарма воду ліць,
Ды хто ж ярчэйшых фарбаў
Адмовіцца ужыць!

Агледзеўшыся дома,
Пачаў дзед гамяну,
Што побыт па-старому
Няма чаго цягнуць.

Што болей сее вёска,
Як мае малаціць.
Бо як градá палоска,—
Пявун пераляціць.

Дык ці не лепей гэтак:
Шнуры пераараць,
Зрабіць адзін палетак
Ды разам урабляць.

Тады працуй пазменна,
А трэба — ўсім сялом
Выходзь прасушваць сена,
Ваюй сабе з аўсом.

Калі ў Маскву дастаўся,
Пра ўсё напрасцяка
У Леніна пытаўся,
І Ленін даў адказ.

Праз гэтую гаворку,
Чаго таіць — было!
Багата ўпічак горкіх
Старому прыпякло.

З гасцінца на гасцінец
Паплыў пляткарскі звон,

Што дзед Гудзец здзяцінеў
І верне на прыгон.

Што бог яго асудзіць,
Што пракляне зямля.
Штодня благія людзі
Пад'юджвалі сялян.

Бывала, білі шыбы,
Каб горай дапячы.
Паўз дзедаву сядзібу
Хадзілі плюючы.

Але суседзей бліжніх,
Пяцёх такіх, як ён,
Што мелі многа лыжак
І вузенькі загон,

З вялікаю намогай
Гудзец у гурт сабраў.
Баб покуль паўмалёгваў,
Дык воз лапцей стаптаў.

Спярша не вельмі ёмка
У гурце справы йшлі,
А потым ад маёнтка
Прырэзку ім далі.

А далей — больш: глядзі ты,
Лагодней стала жыць,
Банк вылучыў крэдыты
Начынне прыкупіць.

Пасеялі, пажалі,
Злічылі:
— Хлеба ёсць!
І скварку з ураджаю,
І чарку знойдзе госць!

Адно было няўдала,
Што вёска дрэнны рэй,
Зацяўшыся, трымала
Да тых усіх людзей.

Збівала руні коньмі,
Травіла мурагі,
Але радзілі гоні
Не горш, як у другіх.

Ішло за летам лета,
Мінаўся дзень пры дні,
Пакуль суполцы гэтай
Паверыў селянін.

З вялікім землятрусам,
Дзіўным цяпер для нас,
Той першы ў Беларусі
Пачаў жыццё калгас.

Бліжэй зірніце крышку,
Там светла каля хат:
Пад сонцам, у зацішку,
Румяніць вішні сад.

*1957*

## БЯССОННЫ ТЭЛЕФОН

*

Праз ноч, праз морак даўніх дат
На промні выплыў апарат:
Пад нікель вілачка-рычаг,
У рубчык трубка...
                    На вачах
З'явіўся шнур, на чорны бок
Лёг вітых лічбін ланцужок:
    Тры,
    Шэсць,
    Адзінка,
    Восем,
    Два.
Чый гэта нумар?
                    Іх Масква
Ці раз мяняла,
                    і дарма
Шукаць, пытаць...
                    Такіх няма.

І ўсё ж ткі гэты нумар ёсць,
Ёсць старамодны тэлефон,
Здаецца, фірмы «Эрыксон».
На ім сівая часу поўсць,
А ні хвіліны не маўчыць!

Нам права дадзена званіць
На золку і сярод начы,
Не адкладаючы ані,
Звані...
        Хвіліна цішыні
Пасля званка,
                    і ў той жа час
Здалёк пачуецца адказ:
— Алё!

Пра што хачу, калі хачу,
Магу сказаць я Ільічу.

1

Мой дружа! Як стане скрутна,
Рынецца боль з ручва,
Скажы,
І паўторыць трубка:
Тры,
Шэсць,
Васемнаццаць,
Два.

Шапчы гэты нумар зблізку,
Далей ад благіх вушэй.
Галоднай тэлефаністкі
Ты ўчуеш галодны шэпт:
— Злучаю!
І здасца: трохі
На доме хіснуўся дах,
Задзьмулі вятры эпохі
Па нервах, як па дратах.

Ломіцца ў двор мяцежнік.
Змову снуе эсэр...
Абвешчана незалежнай
Краіна БССР.

Снедае чаем Ленін.
Ранак.
Сягоння з'езд.
Значыць:
Даклад,
Праграма,
Слова, як жыць сялянам.
Пайка — скупыя грамы.
Ён палавіну з'есць.

Дружа мой, пэўна, сорам
Яго турбаваць, калі
Ён б'ецца з няшклёным горам
Круглай, як звон, зямлі.

Круглай і ўсёй у прорвах,
Поўных людской бяды,

Ціхай, калі б не порах,
Сытай — гады ў рады.

Дык лепей трубку пакладзі,
Сваёй бядою не трудзі.

2

Пасля Смаленска, перад Тулай
Душа душы была жадна,—
Як пад сашнік, сяброў гарнула,
Не засыпаючы, вайна.

Крок — і Масква!
Гарань атакі.
Хапаю трубку дзень пры дні.
А што скажу?
Што рвуцца танкі?
Адбі, а потым пазвані.

З тае крыві, з таго плачу
Не пазваніў я Ільічу.

А ўжо хрыбты вайне зламаўшы,
Хацеў паведаміць на маршы,
Што цераз Шпрэе — ў-рра! — качу,
Аж у Берлін масты машчу.

Я вывеў подпіс на рэйхстагу:
— Ну, што, дажыўся, дабрадзей?
Мог і ўзляцець...
Але ж адвага
Маіх людзей
вышэй падзей.

І не званіў я Ільічу
Пра ўсё, што хлопцам па плячу.

3

Раз, у маленькім гарадку,
Быў на рычаг падняў руку
І, ў трубку кінуўшы:
— Маскву!

Чакаў:
адкажа — аджыву.

Пад ля́мпкай на шаснаццаць ват
Вісеў старэнькі апарат,
Падобны ў шафцы дзервяной
На пісталет фарсісты той,
Што ў скрынках, ладных, без сучка,
Насілі хлопчыкі з ЧэКа.

Мне дрот даносіў галасы:
Праз недаед, праз недасып
Ішло вугалле на-гара,
Сляпіла вочы сталь з каўшоў,
Гукалі судны на марах,
Спрадаўся лён, мудрэй за шоўк...

Гуў лес — тайга,
Мёў снег — пурга.
Самой завеі бегчы слізка,
А шлях жа босенькі, няблізкі!

Стань па-над зморай, не звані,
Яму ў жыццё лепш зазірні.

Я зняў з паліцы сіні том.
Хай сто завей мяце хвастом,—
Я гурбы сонцам распляшчу,
З людзьмі, з вясёлкаю, з дажджом.

Не пазваніў я Ільічу.

4

Не выбіраючы гадзін,
Не адкладаючы ані,
Нам права дадзена:
Будзі!
Нам права дадзена:
Звані!

Дабро ад зла адгарадзі,
Што праўдзе точыць карані,

Сагрэй душу цяплом удач,
А плакаць хочацца — паплач!

Кажы пра ўсё, і ў той жа час
Дасць сэрца партыі адказ.

*

Праб'е пара, калі збярэцца
Пад сіні наддзяржаўны дах
І з іншых светаў чалавецтва
Падняць жыцця высокі сцяг,—
Не ўцерпіш ты, я не змаўчу,
Мы ўсе пазвонім Ільічу.

*1977*

## ШУМІГАЙЦЫ

Ой, дзяўчына, шуміць гай...

Народная песня

1

На пясчаным узгорку, на ўзлесным акрайцы
Жаў,
Касіў,
Абсяваўся
Калгас Шумігайцы.

Не з прыкметных ён быў, не лічыў на мільёны,
Але мякка раслося там руням зялёным,
Конь улегцы не бег, быў нарог не іржавы,
І ставала сабе, і не вінны дзяржаве.

Ды казалі не ў жарт, што не трэба быць зайцам,
Каб раку пераскочыць каля Шумігайцаў.

Я быў добры знаёмы тае ручаіны:
Выпаўзала насілу яна з балаціны;
Ледзь вясною падняцца асмеляцца хвалі,
Іх балотныя нетры за косы хапалі,
Не пускалі ў прасторы ударыць паводкай...
Ва ўсёй рэчцы жылі толькі ёршык ды плотка.
Не нап'ешся як след, не паплешчашся ў спёку,
Пераступіш раку, не натужыўшы кроку.
Не лавіла люстэрка ні сонца, ні хмары...
— Не,—
Казаў я,—
Калгасу рака не да твару.
— Малака то нальём, а вады — прабачайце! —
Уздыхнуўшы, адказвалі мне шумігайцы.

2

Прашумела вясна раз і два́раз над краем,
І пачуў я здалёк:
ручаіна спявае!
І падняўся на голас я хвалі малое —
Паглядзець ярыны, акунуцца ў жытное.

...Прыпыніўся цягнік.
Я пайшоў пехатою.

Пры дарозе каменне — з палёў пазбірана,
Насып свежы.
Пясок.
Будзе шлях брукаваны.
Нехта едзе ступою на сівенькай пары,
Кінуў коні, ляціць стрымгалоў па папары.
Падбягае:
Андрэй!
Ледзь аддыхаўся ён.
Проста ў вочы глядзім, рукі моцна трасём.
— Ты яшчэ не жаніўся?
— Дамок дабудую,
І вяселле, і ўлазіны разам рыхтую.

Як заўсёды на першай хвіліне сустрэчы,
Нам гаворыцца слаўна ў жытнёвай гушчэчы.
Каласы падступаюць да самага вуха,
Быццам нешта спытаць,быццам нешта паслухаць.

— Што цяпер запяеш? Скажаш, кепская рэчка?
Пакланіся — засыпле і жытам і грэчкай.—
Ён рукою паказвае:
— Гэтым разлогам
Мы для смаку падкінулі глею рачнога.
Памаўчаў.
— Я паеду...—
Пацёр пераноссе
І, як змоўца, прамовіў:
— Цяпер пачалося!

3

Марна просіць абвестка:
«Курыць не дазволена!»
Дым шугае да столі, шукае расколіны.
За акном, дзе завіснуў і сіліцца выйсці ён,
Некурашчыя клёны ўздрыгваюць лісцямі.

І папала ж усім тады ад Кацярыны:
— Як, мне ўвесь маладзёж?
Што вы — строіце кпіны!..—

Старшыня гэта слухае,
Цемя пачухвае:
— Ды яны за табою, нібы за квактухаю.
Ты хацела асушкі, ты іх падбухторвала,
Дык вядзі на балота, стаўляй іх на ворыва.
— Не круці, старшыня! Ты заўсёды падгадваеш,
Дзе цяжэй, дык мяне, Кацярыну, з брыгадаю...

— Ты цішэй, пазбягаюцца ўсе шумігайцы,—
І Пракоп-брыгадзір падымае два пальцы: —
Старшыня — Шумігай, ты сама з Шумігаяў;
Трэба, каб Шумігай Шумігая не лаяў.
А ты моладзь вазьмі, давядзі нам на прыкладзе,
Што язык намалоў, хай рука твая выкладзе.—
— З чым тут выкладзеш? Подлеткаў цэлае седала:
Мне далі Ларывончыка, Зоську ды Хведара...—
І Андрэй дабаўляе:
— А Домну з Наташкаю?

Упацеў старшыня над задачаю цяжкаю.
На Пракопа глядзіць. Той завёў:
— І не брыдка вам!
Языком падсякаеце, горай як брытваю.
Ён гатовых майстроў вам з калена не выламіць...
— Згода! —
Кінуў Андрэй.—
Мы не скрыўджаны сіламі,
Хоць яшчэ маладыя, але завадатары.
Хай параяць таварышы механізатары,
Будзем разам рашаць.—
І праўленцы глядзяць
На Рыгора.
— Рыгор, гавары, як суддзя! —
Трактарыст у гадах, чалавек гаспадарлівы,
Ён прастуджаны, горла абвязана марляю,
Кашлянуў:
— Мы паправім малодшых, паможам ім вырасці...
І работнікі будуць па справядлівасці.

Не гадзіну, не дзве дым па хаце качаецца,
Але спрэчкі ў праўленні ніяк не канчаюцца —
Тут гарачая справа, гаворка начыстую:
Хочуць вывесці ў людзі імшару багністую,

Плодным полем зрабіць, урадліваю глебаю —
Ёсць пад бокам дабро, дык навошта ім грэбаваць!
Значыць, трэба злучыць сваю рэчку з суседкаю,
З безназоўнаю гэткай, з нячутнаю гэткаю,
Каб гучнейшыя сталі, імёны прыдбалі,
Каб на працу плылі да дняпроўскае хвалі.

І, нібыта ў адказ на развагі такія,
Заляцелі ў акно галасы маладыя:
«Ой, рэчанька, рэчанька, чаму ж ты не поўная,
Чаму ж ты не поўная, з беражком не роўная?»

І прымоўклі праўленцы. Басы, як чмялі,
Нечаканы прыпеў пачалі, павялі:
«Ой, хутка мне поўнай быць,
З беражкамі роўна плыць».

А рачулка, аб кім была песня і спрэчка,
Смеючыся, плыла каля хат недалечка.

4

Пачалася па сходзе гаворка другая...
У Пракопавай хаце сядзяць Шумігаі,
Старшыня з брыгадзірам — Даніла з Пракопам.
На стале селядзец, бульба свежая з кропам.
— Цяжкавата, Пракопе!
— Ды дзіва што цяжка.—
Падлівае Пракоп самаробнай у бражку.
— Што,—
Пытае,—
Патрэбна?
Жывём не гуляючы,
Лыжкі ў крупнік мачаем, гарбом зарабляючы.
Нам вады — аж пасюль! І, нарэшце, не гусі мы.
Не, Андрэй з Кацярынай купацца прымусілі.
— Эх! — азваўся Даніла і змоўк. А Пракоп
Дабіраецца п'яўкай да самых вантроб:
— Пагляджу на цябе — заганялі мужчыну,
То была МТС, то купляйце машыны,
Экскаватар наймайце, згадзіце бульдозера —
Сёння хочуць канал, заўтра ўздумаюць возера!
Растрасаем здабыткі, набыткі калгасныя,
А навошта нам што? Абы грошыкі ляснулі...

Словы гладка плятуцца, а сэрца не радуюць.
Старшыня схамянуўся:
— Адлезь са спагадаю!
— Ну, а што я кажу табе, брату стрыечнаму? —
Адступае Пракоп.—
Мы на свеце не вечныя.
Ты, Даніла, працуеш, аж ломяцца скабы,
А тут, маеш, палезла камандаваць баба,
У раён дапінае, да ўлады вышэйшае:
Гляньце, добрыя людзі, яна разумнейшая!
І хоць як старшынюй, трапячыся, бы ў нераце,
Адпіхае назад, а сама ўсё наперадзе.
Не спагада, я з гэтым не лішне чапляюся,
Бо цябе то сапхнуць,
Ну, а я то ўтрымаюся.

Узгарэўся Даніла:
— Ты добры дарадца,
Я адно пагляджу, як ты будзеш трымацца.
Ты хавацца прывык за шырэйшаю спінаю,
Гавары: можа, знюхаўся ўжо з Кацярынаю?
— Не яршыся! —
Усмешка мільгае ў Пракопа.

Зноў ядуць селядца, пасыпаючы кропам,
Зноў Пракоп неўзаметку рулюе на плыткае,
Суча словы, як нітку са шпулькі высмыквае:
— От, сказаць бы вышэй, паўз начальства раённае,
Што для гэтых каналаў мы надта зялёныя...

— Кінь ты глупства! —
Даніла не спрытны на одум.
— Э, Даніла, ці мала так робяць? Заўсёды!
Перш пачнуць, потым кінуць — згарнуць давялося.
Што мы — горш за людзей? Пакапалі, і досыць!
Скажам: праца на полі становіцца ўлетку.
Грошай торбу ўгацілі, а з кінець наедку.
Ты паперу складзі, так як след, з падыходам,
Заўтра ў вобласць падскочу — і ўся валавода!

Растлумачу: памылку праўленне дало,
А сяло не хацела, спытайце сяло.
— Хто ж заяву падпіша?

— Не твой гэта смутак,
Падмахне Верабей, зробім пару закрутак...—
Шумігай Шумігая
Пад рэбры штурхае,
Дапазна ў іх гаворка, гаворка даўгая.

Ледзь пайшоў старшыня, павяла самагонка...
— Насця! —
Будзіць Пракоп.—
Дай капейчыну, жонка.
Еду ў горад, глядзі тут, маўчы! Абы ціха,
Абы гладка сышло: можаш быць старшыніхай.

5

Упіраліся моцна балотныя нетры,
Высыхалі кашулі на сонцы, на ветры,
Апускаецца «баба» на венчык акуты,
Слуп у грунт убівае глыбей штомінуты,
І рагочуць мужчыны:
— А баба — не слаба,
Мусіць, нашым не ўгнацца за гэтаю «бабай».
— Што за «баба»?
— А як жа? Не скажаш — кабета,
Не пасуе прыладзе, згадзіся, Альжбета.
І вага ў вас не тая, адна, можа, Насця
Палю трохі скранула б казённаю часцю...
Кацярына глядзіць, як жа Домна з Наташкай?
Галавою ківае:
— Працуюць, мянташкі! —
А дзяўчаты ўсё ўподбега, дружна бяруцца,
Засмяюцца ці прыпеўкаю абзавуцца.

Раптам чуецца голас насмешлівы нейчы:
— Хлопцы, ціха! На помач ідзе Верабейчык.
Два пакункі ў руках, быццам дуб, здаравенны.
Паглядзеўшы на постаць — работнік адменны.
Пакахекаў у жменю, гугнявіць з дакорам:
— Ая-яй, дарагія, каб я ды не хворы,
Каб крыху, ну але, маладзейшыя рукі...—
Домна кажа:
— Старымі капні, для навукі.
— Прэч,—

Махнуў Верабейчык,—
Яна мне сяброўка!
Цяжкавата, браткі, нам з адною рыдлёўкай...
— А каму гэта — нам? Я пакуль што не бачыў,
Каб ты ўзяў жалязняк ці тапор, небарача,—
Падышоўшы, Андрэй паджыўляе гаворку.
Верабейчык яму:
— Добра тут, пры пагорку,
А калі цераз багнішча пойдзе канал?
Там не толькі што конь, каб і сам не сканаў.
Земснарад бы дастаць! Гэта хітрая штука!
Я чуваў, ён працуе: ні стуку, ні груку.
— Вось бы ты акрыяў! —
Пад'язджае Андрэй.—
Сам спярша падкасайся, хоць раз упацей.
— Не чапляйся да дзядзькі! Не бачыш? Ён хворы!
Кацярына, хаваючы ўсмешку, гаворыць.
Гэта чуючы ад брыгадзіркі самой,
Верабей стаў падлічваць бяду за бядой:
— То жывот, то хрыбеціна, то паясніца...
— Многа спіш, аж распух!
— Ад нядужасці спіцца.

Кацярына пытае:
— Ты, мусібыць, з рынку?
— Ну але, ну але, трэба ж хлеба скарынку...
І хоць мне, ну але, недалёка да свечкі,
Кошык ягад прадаў, малачко ды яечка.
Працадзень, ну але, пацягнуў скупавата,
У мяне ж блазнюкоў гэтых — поўная хата!
— Не стагні ты! — на жарты Андрэй завадатар.—
Земснарад яму пахне, глядзі, які вёрткі!
Ці даўно ты насіў з адным гузікам порткі?
А цяпер у яго, на каўказскі манер,
Трыццаць гузікаў чорных падперла каўнер.
Агінаешся толькі, як цюцька ад мух,
Не скідаеш і ў чэрвені цёплы кажух.
Вось, каб часу не траціць, скажу табе, брат:
На — рыдлёўку, па майстру якраз земснарад!

Верабейчык заенчыў:
— Ды сла́бы ж я, сла́бы!
Мажа, як і прыйду, папытаюся ў бабы.

— Вось бы дзядзьку «Пабеду» —
Па грыб, на бяседу,
Ды яшчэ тэлефончык,—
Пакпіў Ларывончык.—
Ах, якая выгода была б для старэчы:
Верашчаку заказвай, не злазячы з печы!
— Дзе мне гэта бразготка! Хай вам, камсамольцам:
У кароўнік названьвацца Любе ці Вольцы,—
Верабейчык прыжмурвае хітрае вока,—
Ад жадання, браточак, да справы далёка.—

Ларывончык адсек:
— Ну але, ну але...
Ты хацеў бы гатовы пірог на стале.
Расшалопай адно: калі моцна жадаю —
Буду мець, і лічы, што амаль ужо маю.
Мы для рэчкі свае маладога засваталі:
Не сягоння, дык заўтра чакай памагатага.

Верабейчык сумеўся, паплёўся на дворышча.
Праца шумна віруецца.
Хараша, горача!

6

Не таптаў каласоў,
Хоць было вузкавата,
Польнай сцежкай прыйшоў
У калгас памагаты.

Закрычалі малыя,
Нібыта ад жаху:
— Ён жа рэчку глытае,
Як бусел вужаку!

Матарыст усміхнуўся,
Зірнуўшы з кабіны,
І нядбала гукнуў:
— Сцеражыся машыны!

Экскаватар схіліўся,
Пасля разагнуўся,
Пастаяў,

Сапраўды даўгашыі,
Як бусел,

І з ракі,
Што хрыбет выгінала на сонцы,
Стаў цягаць чарпакі
Проста ў кузаў трохтонцы.

7

І цікава ж, цікава дзяўчатам было:
Зазірнуць бы ў кабіну — адсвечвае шкло!
А там нехта чарнявы, такі загарэлы,
Толькі зубы блішчаць на абліччы ўпацелым.
Як прывёў, як паставіў яго старшыня,
Ні на кога не глянуў, капае з паўдня.

Вось кіўнуўся ўгары і спыніўся чарпак.
З экскаватара злазіць высокі юнак.
Падышоў да хлапцоў:
— Хто купацца са мною? —
Абступілі, пытаюць яго талакою:
— Ці здалёк ты? —
Смяецца, гаворыць:
— Не надта.
— А сямейны?
— Пакуль што яшчэ нежанаты.
Дзед Якуб, вартаўнік, патаптаўся на месцы:
— Нешта нейкае ёсць, бачыў я цябе дзесьці.—

Доўга збоку глядзела у твар Кацярына:
— Як завешся?
— Сцяпан.
— А як маці?
— Марына.—
Падступіла бліжэй яна: верыць, не верыць...
І — на шыю хлапцу, прыгарнула абедзвюх.
— Вы зірніце: Марыны, нябожчыцы, вочы!
Гэта — Сцёпка Цыган... Мой жа ты Цыганочак!
Дзе ж была я, чаму я цябе не пазнала?
Я ж кашулькі твае, Цыганок, паласкала...

І не верыцца Домне, і дзіўна Наташцы:
Строгі іх брыгадзір можа так хвалявацца,

Не стыдаецца слёз, туліць твар да адзежы,
Як малой, валасы ёй пагладзіў прыезджы...
— Я вас першую, цётка, прыкмеціў сягоння...
— А маўчаў, хоць бы слоўкам прывеціў, нягоднік.—
Падбягае Андрэй, абдымае Сцяпана:
— Задавацца пачаў? Можа, трохі зарана!
Ды здароў, Цыганішча! Забыўся, напэўна,
Што за гэту мянушку ты біўся, як пеўнік.
— Сцёпка Бірыч знайшоўся! —
І тут усе чыста
Пачалі пазнаваць, прывячаць матарыста.
Старшыня Цыганка зазывае дадому:
— Перш за ўсё да мяне, а пасля да знаёмых.

Па расе, па сцяжыне, за Шумігаем
Сцёпка Бірыч ідзе, Сцёпка ўсё ўспамінае.

8

Маці немцы забілі, і бацька загінуў,
Кацярына-ўдава прыняла сірaціну.
Працаваць ён малы, а гуляць брыдкавата,
Ён пачаў пакрысе памагаць каля хаты:
Сучча з гаю наносіць, вядро не пустуе.
— Працавіты хлапчук! —
Кацярына цікуе.
Разумее ўдава, падвясельвае трошкі:
— Ты б на коўзанку збегаў, размяў свае ножкі.
— Дзякуй, цётачка, дзякуй! —
На лаве прыткнецца
З кніжкай, што засталася са школы савецкай.

Кацярына аднойчы прачнулася...
Рана.
Дзе той хлопец падзеўся? Няма ўжо Сцяпана.
Бачыць: торбачку ўзяў, хлеба чорны асушак,
Кніжку, лапці з сянец і стары паўкажушак...
Дзень тужыла, другі... Не забыць Кацярыне!
А хлапчук тут як тут, лёгкі быў на ўспаміне.
Нехта стукнуў уночы, зірнула ў акенца,
Адчыніла.
— Замкні, каб не згледзелі немцы.
Твар грубейшы

І голас не той, не даўнейшы.
Не падрос, а нібыта зрабіўся сталейшы.
Бот ужо на назе, не па ім, але новы.
Кацярына пытае:
— Хаця ж ці здаровы? —
Сцёпка вочы падняў:
— Немцы чуюцца хістка,
Каб сяла не спалілі, дый ты актывістка.
Адным словам, збірайся!
— Збірацца?
— Са мною.
— А куды ж я з табою такою парою?
Глянуў хутка, як стрэліў ён вейкаю чорнай:
— Хопіць месца для цёткі, у пушчы прасторна.
— Не збярэшся без лямпы.
— Мы вокны завесім.
— Будуць клункі, не дойдзем.
— А сані на ўзлессі!
Папярэджаны ўжо: Савасцей і Кандрат,
Цімаховы, Ігналевы — ўсе акурат.—
Так жа думала, тое ж у сэрцы насіла,
І пайшлі.
А мяцеліца след заваліла.

Прамінула вайна, і ён з першым наборам
У вучылішча трапіў, прыехаўшы ў горад.
Шапка з кантам, бушлацік — рамеснік удалы!
Самым лепшым сталіца Сцяпана спаткала,
Хоць па картачках ела і мерзла ў руінах,
А знайшліся і хлеб, і цяпло для хлапчыны.
Вось пакойчык зацішны — жыве ў інтэрнаце,
І настаўніца з твару, з вачэй — нібы маці.

А навука цяжкая!
Пакінуць?
Ніколі!
Партызанскі медаль на грудзях не дазволіць.

Год за годам ідзе. І, нарэшце, пуцёўка:
Падымайся, Сцяпане, на стажыроўку!
І забыў, як вучыў яго майстар сівенькі:
Экскаватар вялізны, а ён жа маленькі.
Ператросся таксама, калі ўпершыню

Бацька ўскінуў малога на спіну каню
І пусціў павады...
А Лысак яго слухаў:
І ступою ішоў, і бягою патрухваў.
Так і тут абышлося, хоць сэрца зайшлося,
Зазвінела ўвушшу, пот заліў пераноссе,
Але зрушыў рычаг, ён паддаўся слухмяна,
Трос напяўся, падняўся чарпак з катлавана,
Прыгадаў, як вучыў яго майстар сівенькі,
Экскаватар вялікі, дый сам не маленькі!

Па расе, па сцяжыне, за Шумігаем
Сцёпка Бірыч ідзе, Сцёпка ўсё ўспамінае.

9

Весяліцца пад столлю жывы аганёк.
— Спаласніся крыху ды за стол, галубок,—
Старшыня завіхаецца каля гасця,—
Прывыкай да вясковага, браце, жыцця.

Паўлітроўку дастаў:
— Ужываеш, Сцяпан?
— Ад сябе не адсоўваў, а сам не хапаў.
— Гляньце, як ён навучан!
А мы, брат, прасцей,
Хоць каторы й калючы,
Шануем гасцей.
— Не калючы ані, што я — вожык які...
— Пацягні, памякчэеш, ды мы ж сваякі.
Па-сваяцку цябе я да Мінска паслаў,
Праз мяне спецыяльнасць у рукі ты ўзяў.

Шумігай утлумачвае, як хлапчуку,
Параготвае, ляпае па плечуку:
— Сваяка падапрэш — і акупіцца з часам,
Ён цябе не пакіне з бядою сам-насам.
— Што сваяцтва! Ніхто вас у крыўду не дасць,
Вас і людзі шануюць, і слухае снасць.
За здароўе! —
Сцяпан патрымаўся за чарку
І гаворку скіроўвае на гаспадарку.

3 Зак. 2682

Шумігай падхапіўся:
— Пацэліў жа, вось!
Як не быць ім, прыбыткам, прыбыткі то ёсць,
Каб адно не былі яны марна праедзены,
Самі робім сабе мы паслугу мядзведзеву...

— Усхадзіўся, пачаў! —
Гаспадыня спыніла:
— А дзе будзе ён жыць, ты падумаў, Даніла?
— Пэўна, ў цёткі,—
Гаворыць Сцяпан.

— Дам кватэру
Як работніку добраму і кавалеру:
Будзе дом з сырадоем,
Падушкі — гарою! —
Пакрывіўся Даніла: —
Што тычыцца цёткі,
Волас доўгі і розум, відаць, некароткі.
Ты яе, калі хочаш паслухаць, паслухай,
Але больш да людзей настаўляй сваё вуха.

— І самому не шкодзіць! —
Бурчыць гаспадыня.
І да Сцёпкі:
— Як справы, скажы, маладыя?
— Не хвалюся,—
Сцяпан абыходзіць пытанне,—
На завочным вучуся,
Работы не ганяць.
— Кумкі ёсць у сяле, на іх кажуць — завочніцы,
Бо за вочы абрэхваюць кожнага, склочніцы.
Гэта смехам кажу. Ты вучыся, ты — хлопец,
Для такога работы чысцейшае хопіць.—
Цягне думку, з якою зваў Сцёпку дахаты,
Выкладае Даніла:
— Што твой экскаватар?
Хлеб малы ад яго, ды мазоль то вялікі.
А ў канторы хацеў бы ты весці падлікі?
Мы бухгалтара зразу б пад гэта... каленам
І з табою удвух рахавалі б нядрэнна.
— Не,—
Смяецца Сцяпан,—

Не дазволіць характар,
Не да густу кантора, я сеў бы на трактар.
— І застаўся б?
— Чаму ж, абы толькі пусцілі.
— Што магу, то магу, а на гэта не ў сіле.

Схамянуўся: мо кепікі строіць сваяк?
Старшыня стаў выкручвацца гэтак і так:
— Не адно, дык другое пад ногі падкоціцца —
Пачынаюць кляваць, пачынаюць падкопвацца:
І такі, і сякі, і асвета малая...
Зорак з неба, я ведаю сам, не хапаю,
Ды скажу: пагартаў і Лысенку і Вільямса.
Хоць удоўж пакаліся, ці ўпоперак выламся,
Як ты тут ні круці языком і мазгамі,
Наша справа — зямля, болей трэба рукамі.

Адчувае Сцяпан: Шумігай неўзаметку
Падышоў да сакрэтнага,
Да запаветнага.

— Быць не можа, ніхто вас мяняць не
збіраецца...

— Не кажы, брат, старая хлеб-соль забываецца,
Што збіраў я калгас па гужу, па вяроўцы,
Першы год баразну прадзіраў на кароўцы,
І жывёлу натужыў, і сам прыпрагаўся,—
А пашана адна і цана, брат, адна ўсё.
Калі моцна прыцісну́ць, у горад паедам,
Там жыве землячок, быў нядрэнным суседам,
Ён цяпер «угары», недзе па міністэрству,
Ён прыстроіць да міскі мяне па-братэрску...

— Смех, дый годзе, знайшоўся міністрам
памочнік!
Мо паставяць лавіць вераб'і альбо скочкі? —
Гаспадыня сказала.
— Прачхайся, стары!
Я ўставала тут сорак гадоў да зары,
Жала, хаты глядзела, усё мне да сэрца,
Ціха, хораша, ведама, роднае месца...

— Але мне як? Ісці ў брыгадзіры ці ў конюхі,
Ці на старасці год уцінаць на гармоніку? —
Зашумеў старшыня:

— Завяліся з каналам!
Бачыш, лямпа гарыць, і з нядрэнным накалам.
Кулаком абзываюць — дажыў чалавек!
Бачыш, моцна пільную калгасны засек.
Гаспадар я ці не?
                    Што суседзі не маюць,
Галава не баліць мне, яна ўжо сівая.—
Выпіў чарку Даніла:
— Дзяўбуць Шумігая!
Баба пнецца ў старшыні, як жаба на купіну,
Пачакай, будзе скурка на носе аблуплена.
Ох, на гэтых квактух
Узлаваўся цяпер я:
Паляціць ад іх пух,
Паляціць ад іх пер'е...

— Хто ж вам шкодзіць?
— А гэтая, цётка твая.
Каб ты ведаў усё, даражэнькі сваяк...—
Сцёпка ўстаў, бо даўно ўжо карцела ўцячы.
— А куды ж ты, Сцяпане?
— Пара на спачын.
— Не крыўдуй, пасядзі, дай яшчэ падабедаем...
— Дзякуй! —
Кажа Сцяпан.—
Кацярыну праведаю.

10

Не туды павярнуў, як сышоў з панадворку,
Апынуўся хлапец за сялом, на пагорку.
Стаў.
Павеяла з бору паветрам смаловым,
Выдыхаецца чад недарэчнай размовы.

...Так жа лета цвіло... У сталіцы калісьці
Ён для першага дома пляцоўку расчысціў,
І хоць многім пасля пакапаў катлаваны,
Да пяршынца таго не губляе пашаны:
Каляровыя вокны на кожным паверсе,
Вежа з чорным гадзіннікам звоніць уверсе,
Людзі шчасце страчаюць, праводзяць трывогі.
І не знаюць, хто дом іх паставіў на ногі.

А ён поблізу ходзіць, а ён хіба знае,
Кім завершаны дах, пад якім пражывае.

Стала ўсё зразумела: для ўласнай асобы
Не старайся акрасы, не прагні аздобы.
А Даніла? Гаруе: імя не назвалі...
Лепш, каб добрую працу дабром прыгадалі.
Трэба ўдала пачаць, толькі гэтак узяцца,
Каб лічылі сваім у сям'і шумігайцы...
Так Сцяпан развaжае насупраць начы,
Сам сябе выкпівае, назад ідучы:
«Вось табе, заблудзіў, ды ў знаёмых мясцінах!
Прынялі яго, скажуць, занадта гасцінна».

11

Прызба.
Смешкі дзявочыя.
Голас мужчынскі:
— Мы ўжо думалі, ты апынуўся пад Мінскам! —
Кліча сябра Андрэй.

Пры слупе з ліхтарамі
Быццам плечы расправіла хата старая,
Дым са стрэшкі ў маленства вядзе непрыкметна,
Твар смяецца насустрач надзвычай прыветна.
Не ступіла дзяўчына, а вынесла постаць.
— Не забыўся Алёну? — прамовіла проста.
Прыкмячае Сцяпан: за плячом у сяброўкі
Нехта пальцамі смыча ражок тараноўкі.
— А яе не пазнàеш? Апошняя наша,—
Падказала Алёна.
— Наташа?
— Наташа!

І здалося Сцяпану, калі паглядзела:
Над азёрнаю хваляю птушка ўзляцела.
Усміхнулася светла, ды так жа нязвычна:
І касой, і рукамі, і смуглым аблiччам.
Не пазнаць у дзяўчыне той плаксы малое,
Што мурзатая поўзала ўслед за сястрою
Ды ўсё хныкала, румзала, покуль Алёна

Не раскажа,
Як боршчык варыла варона,
Як сарока саліла,
На дзетак дзяліла,
Гэтаму дала, гэтаму дала...

Чарада успамінаў над імі прайшла.

Зашумела гаворкай сяброўская стрэча,
Так зрабілася лёгка, так стала сардэчна!
Неўзаметку Сцяпан расказаў аб усім,
Што здаралася з ім, сябравалася з кім,
Папрасіўся ў раён, а з раёна сюды...
— Добра дома! Ды толькі баюся вады! —
Засмяяліся ўсе.
— Што ты, Сцёпка!
— Чаго ты!
— Я,—
Адказвае ён,—
Не капаў на балотах.
— Наламаешся трохі і пойдзе гладзей.
Пазнаёмімся!
Я — трактарыст, Аляксей.—
Мажнаваты хлапец паціскае руку,
Спадабаліся вочы яго Цыганку.

І сябры пачалі тады наперабой
Гаварыць аб турбоце, аб рэчцы сваёй.
— Дасць балота струмень,—
Загарэўся Андрэй,—
І шырэй яна стане, і многа паўней.
Добрым часам прыехаў ты зноў, Цыганок!
А на ліха цябе старшыня павалок?

Не гаворыць Сцяпан:
— Пераказваць нялоўка...
— А-а, ну, значыцца, плёў пра гужы і вяроўкі.
— Мы,—
Сказала Алёна,—
Сядзелі ў чытальні,
Пад акном выглядалі, пасохлі з чакання...
— Хай бы сохла па мне! Не паспеў паказацца,
Чуць з'явіўся хлапец, а яна — прызнавацца!

— Мы з табой, галубок,—
Залілася Алёнка,—
Дзякуй богу — не муж, дзякуй богу — не жонка!
Выдумляе, што замуж ісці не хачу я,
Покуль новую хату сабе не збудуе.
— Госці, ў хату! Расселіся там ля слупа!
Уставай, Аляксей, падымайся, Сцяпан!
Здор няўжо вам не пахне? Гатовы аладкі.
Кліч, Андрэйка, бярыце пад рукі, дзяўчаткі,—
Запрасіла з парога Андрэева маці.

12

Абудзіўся Сцяпан ужо ў цётчынай хаце.
Ён адзін.
Гаспадыня кудысьці пайшла.
Свежы ганак глядзіць з-за ружовага шкла.
Цераз шыбіну ўскочыў зялёны праменьчык,
З люстра выбеглі зайчыкі, большы і меншы.
У хлапца мімаволі зліпаюцца вочы:
Бачыць вечар Сцяпан, тварык бачыць дзявочы.
Зноў на момант уся яна ўсмешкаю стала
І растала.
І зноў, як жывая, паўстала...

Тонка дзынкнуў будзільнік: на працу пара!
Сон з павек спаласнуў, за сабою прыбраў,
На паліцу зірнуў:
«Чым цікавіцца цётка?»
Кніжак трохі, праграма за сямігодку.
Кацярына з дзвярэй падышла да стала:
— Не глядзі, усяго за сем класаў здала...—
Сцёпка ўспомніў адразу: дык вось хто «завочніца»!

— Будзем снедаць, Сцяпане!
— Ды нешта не хочацца.
— Еш, бо, мусіць, учора гаворкай кармілі.
Засмяяўся:
— А чым вы Данілу ўгнявілі?
— Чалавек гэта добры, ды трохі нягеглы,
Але можа цягнуць, калі б добра запрэглі.
А зайшло — за канал: стаў дубка са старымі,
Камсамольцы — насупраць, і я разам з імі.
«Гаспадар я ці не? Сілай, значыць, капа́й,

Свой калгас падрывай!..» —
Бушаваў Шумігай...
Я кажу: «Што ты, сеў ці ступіў на гарачае?
Чым канал табе шкодзіць?» Сяк-так утлумачыла.
Паскакаў, пастагнаў і пачаў адыходзіць.
«Дай, гаворыць, з табою закончым па згодзе
І дамовімся: дойдзе да справы якое —
Пачынаць яе разам, адною рукою...»
Чалавек неблагі ён, кажу, не асуджваю,
Так, упрэцца часамі ці збоку пад'юджваюць.

Неўзабаве пабачыш, разгледзішся скора.
Чаю выпі ды пойдзем. Пасля дагаворым.

13

Пры смалістым бярвенні, на жвірыстым беразе,
Дзетвара аж кіпіць, як пячкурыкі ў нераце.
Праціскаюцца ўперад, раты разяўляючы.
Не, яны не прапусцяць! Ды гэткае з'явішча:
Сцёпка Бірыч працуе; от нешта закручвае,
От і цурачку ўзяў, правярае гаручае...

Экскаватар на дошкі пакладзен стралою,
Быццам волат з адкінутаю рукою,
За зямлю ён схапіўся і не выпускае:
Можа, з нетраў прыбавіцца сіла жывая!
— Як жа гэта? — цікуюць малыя і мружацца.—
Рэчку ўчора глытаў, а цяпер і не рушыцца!
Не падняць чарпака: толькі шчэлепы зводзіць,
А ўгару — хоць пабі! — заядае, не ходзіць.
Сáма працу пачаў і, вось маеш, асекся,
Спёкся, скажуць, падаўся на першым агрэсе!
Доўга Сцёпка машыну выстукваў, выслухваў,
Змогся ўрэшце, змакрэў.
Сонца смаліць.
Задуха.

Як назло, Верабейчык з гаворкай прыцёгся.
Над душою вісіць, так і капае дзёгцем:
— Штó, паклаў ты яму галаву на калодку?
То хутчэй адсякай ці пакліч сваю цётку,
Пойдзе справа барждждэй: —
Кацярына мажэ...—

Ды прыгнала Пракопа яшчэ, Шумігая,
Ён слязіну пускае, і цешыць, і джгае:
— Не выжыльвайся, хлопча! Зірнуўшы па сутнасці,
Мо яму, так сказаць, не хапае магутнасці?
Рэчка вязкая,
Днішча гразкае,
Дык ён браць не бярэ, а зубамі палясквае.
Гэта, брат, не карова — кармі яе, пой,
А табе не бяда: і не пой, і не дой —
Усё роўна капейка ідзе за прастой.
— Дзядзька, лепш памаўчы! —
Сцёпка бразнуў ключы.

— Добры дзень вам! Здаровенек, майстар галоўны!
Назбіраў ты, гляджу я, памочнікаў поўна,—
Аляксей і Рыгор падыходзяць да рэчкі:
Трактарысты пачулі, што ў Сцёпкі асечка.
— Загараеш?
— Ды дзе там, я хутка згару.
— Ахалодай крыху, пакуры...
— Я куру.
— Хай Рыгор паглядзіць, што ў яго з трыбухамі.
Дазваляеш, Сцяпан?
— Мусіць, трэба механік.—
Недакурак адкінуў, бярэцца Рыгор:
Тросы пільна агледзеў, праверыў матор,
Кажа Сцёпку на вуха:
— Драбніца, браток...
Вось цяпер газані, дай мацнейшы рывок.

Верабейчык ляжаў, грэў бакамі зямлю.
Папярэджвае Сцёпка:
— Уцякай, падчаплю!
— Не турбуйся, чапляй, я — на моцных падрубах.
На, вось бачыш,— крысо запхчамлю яму ў зубы.
Падымай, ну але, я, браток, рызыкоўны:
Хоць пад неба нясі — не шманаю ўсё роўна.—

Экскаватар зачахкаў... Павёўшы стралою,
Вераб'я падхапіў і панёс над ракою.
Той раве, растапырыўшы рукі ў кажусе:
— Не ўпусці, галубок, бо, дальбог, намачуся! —

Аж кладуцца са смеху малыя хлапцы:
— Бусел жабу злавіў! Будуць жабе капцы!

14

У нядзелю Сцяпан выязджае ў мястэчка:
Зазірнуць у кнігарню, забраць свае рэчы.
Даў каня старшыня: дваццаць пяць да раёна.
За калгасам — у новай сукенцы Алёна,
Уздымаюцца грудзі ад шпаркай хады.
— Падвязеш?
— Калі ласка! Загадвай, куды?
— Мала сена масціў, будзе ехаць пагана.—
Лейцы з рук адабрала дзяўчына ў Сцяпана:
— Ты прывык газаваць на жалезным кані,
А Буланы — слабейшы... Не надта гані.
— Ты далёка?
— Заказваць даяркам халаты
І на базу пайду, можа, ёсць сепаратар.

Прабягае дарога між росных палян.
Замаўчала дзяўчына. Маўчыць і Сцяпан.
Вось яна прыкмячае: хлапец уздыхнуў.
— Што ты ў Мінску пакінуў, каго ўспамянуў?
— Там не кінуў,—
Ён кажа,—
І тут не знайшоў...
— А хацеў бы знайсці? —
Запыталася зноў.
І паблісквоюць вочы ў дзяўчыны, здаецца,
Што запалена ў кожным па тоненькай свечцы.

Ён глядзіць і не бачыць.
Грукочуць калёсы.
Пацягнуўся ў кішэню, дастаў папяросы.
— Пераборлівы, мусіць? —
Алёна жартуе.—
У таго, хто мяняе, аглоблі пустуюць.
— Ды з машынай няўпраўка... І зразу ж упічкі,
Што я майстар — як заяц запальваць сярнічкі.
Прыкурыў ён. Дымок над аблiччам павіс.
— І няўжо, Цыганок, ты праз гэта раскіс?
А было табе слухаць бабуль стогадовых,

Ім такія размовы,
Як мёд верасовы.
Што ні кумка,
То думка...
Не маленькі! —
Дзяўчына нібыта злуе.—
Разумей, дзе сябры і сяброўкі твае.—
Галавой страсянула, упала каса.

...Неўзаметку на сонцы ачахла раса.
Зазіраючы ў вочы прыветнаму дню,
Адчувае Сцяпан у грудзях цеплыню.
— А калі б я спытаў, што б ты мне адказала?..

На сядзенні
Яна ад здзіўлення
Прыўстала:
— Папытай.—
А ў хлапца слова быццам загусла
І не можа ніяк адляпіцца ад вуснаў.
— Ці дзяўчына... такога... магла б спадабаць?
— Яшчэ й як бы магла! —
Ён глядзіць спадылба:
— Дык прызнацца?
— Прызнайся...
— Асмеліцца цяжка,
Абсмяеш...
— Я не злая...
— Не ты, а Наташка...
— А-а, Наташка! Старайся, дык будзем раднял —
Хвазянула ляйчынай па рэбрах каня.
Конь ад пуду рвануў, прыпусціўся наўскок,
Голым цемем на лёсткі упаў Цыганок.
Падымаецца, бачыць — яна счырванела:
— Дай, хіба, пашкадую, каб меней балела...—
Прыхінулася хутка, нібы апякла,
Ды хусцінку на вочы — і з воза... Ўцякла.

15

Узлятаць памагае запеўцы гармонік,
Ліпа лапы працягвае на падаконне,
Рой у голлі не ціхне, у цвеце бушуе...

Надзявае Сцяпан у палоску кашулю,
Ён спяшае: казалі зайсціся майстры,
Што нядаўна ў калгас прывялі трактары.
Раптам — песня.
Глядзіць: каля самае хаты,
Каля вокан праходзіць Андрэй п'янаваты.

Не вітаўся ён, вуліцу ўлукаткі мераў,
Трос рукою:
— Наехала тут кавалераў!
Ты глядзі мне адно, хутка раду знайду.
Не заводзься, ў штаны крапівы накладу.—

Гэтак з ім?
Як з малым?
Стала крыўдна Сцяпану:
— Не дражніся,—
Сказаў,—
Не такі ўжо ты п'яны,
Вось зайдзі, пасядзі...—

Той мацней ускінае:
— Я гуляю!
А ты... твая справа малая.
Я на хрэсьбінах быў і яшчэ закушу,
Сам на хрэсьбіны хутка людзей запрашу.
— Ты раней ажаніся...
— А што, пераб'еш?
Да мае не гарніся,
Кажу, як найлепш.

У Сцяпана са шчок ледзь не пырснула чырвань:
— І ў той бок не гляджу, гавару табе шчыра.
— А ўсё ходзіш ці з ёю,
Ці з меншай сястрою,
Хто каго падабае,
Сам чорт не ўгадае.

Хоць узрушан Сцяпан, сарамлівасць юнацтва
Замінае прад сябрам паспавядацца.
І цяпер, і тады, калі ехаў з раёна,
Ён і ўспомніць баяўся пра стрэчу з Алёнай.

Расказаць бы, ды зблытаў вагання Андрэй,
Ён прамовіў, стаўляючы крокі цвярдзей:
— Не тваё, дык не руш! Так і знай, Цыганішча:
Пусціш дружбу на вецер — ад ветру не сышчаш.—
Адыходзячы, зноў
П'яна песню завёў:
«Ўсе дзяўчаты — як дзяўчаты,
А мая — як рэзгіны:
Тры нядзелі
Па вяселлі —
На чацвёртай хрэсьбіны!»

16

Каля брамы Рыгор сустракае Сцяпана:
— Пакаштуй з намі дранікаў цёткі Мар'яны.—
Трактарысты сядзяць у цяньку, ў агародчыку.
Прамільгнуў самалёт, след застаўся ад росчырку.
— Вось дык хуткасць! Падумаеш, дзіву дасіся:
Сеў у Мінску, а пара гадзін — і Тбілісі,—
Аляксей, паглядзеўшы, сказаў летуценна.

— Як каму, а па мне ў Шумігайцах нядрэнна,
Абжываемся, хутка жанок папрывозім,—
Заўважае Рыгор,—
Наваселле змарозім.
Праўда, Лёшку не хочацца быць навасёлам,
Разумееш, цаляў усё ў лётную школу,
Не папаў, па здароўі далі яму брак там,
Вось і ныдзіць хлапец, самалёт жа не трактар.

Вочы ўскінуў на Сцёпку нарэшце Кузьма,
Ён глытаў здаравезны тамішча Дзюма:
— Добра кажаш: арол будзе ўсюды арол,
Ці мы ў небе лунаем, ці ў полі аром.
Быў, тут пішацца, некалі граф Монтэ-Крыста,
Гараваў, потым золата мераў каністрай,
Але шчасця не меў...
Хай бы гэтак цікава
Той Дзюма напісаў пра калгасныя справы.
Памяркуй: што я тутака ва́жу сягоння —
Член арцелі, ужо гаспадар, не сезоннік!
А то жыў ды бадзяўся, нібыта наводны,

Не падступішся толкам да справы ніводнай.
Хоць душа за калгасны ўраджай і балела,
А даць рады — ніяк налажыцца не ўмела,
Мы былі ў МТС... Папытай у Рыгора...

Той рукою махнуў:
— Вёска з тэхнікай — горад!
Праўду кажуць, пара касаваць процілегласць.
Дрожджы новыя бродзяць, дарогі пралеглі...
Пастараўшыся добра, пагаспадарыўшы —
Што тут будзе рабіцца!
Зірніце, таварышы...

Быццам зняўшы рукою заслону з прастораў
Недалёкага часу, ён зноўку гаворыць:
— Шумігайцы... На дахах бліпічыць чарапіца...
Прыязджаем з работы...
Куды? Ў камяніцу!
Тры пакоі вялізазных, ка́пае душ,
Спаласнуўся, спачыў, зноў і весел, і дуж.

Тут Рыгор перабіў:
— А вунь бачыш пагорак?
Шчэпы рынуцца ўгору! Гектараў на сорак
Белы цвет!
І на ўгрэве, як быццам на сподку,
Будзе спець вінаград, звісне яблык салодкі.
Прыдабудзем удалы шматок сенажаці,
І зямлі гэтаксама ў балота адхвацім,
Пракапаўшы канал...
— Вінаград? Рызыкоўна! —
Аляксей не паверыў.—
Чаму не бавоўну?

Усміхаецца Сцёпка, гаворыць Кузьма:
— Чалавечаму спрыту і ўпынку няма!
Дзе падзенем набыткі? Па-мойму, не шкодзіць
Збудаваць, хай малы, кансервовы заводзік.

Аляксей рагатнуў:
— Заграпічны буржуй,
Хоць давіся, чарцяка, ад злосці, а жуй,
Еш кансервы і надпіс чытай на бляшанцы:
«Канфітуры з агрэсту. Мэйд ін Шумігайцы».

— Не іржы ты, Алёшка! Чаго тут дзівіцца,
Што адпусцім крыху паспытаць заграніцы.
— Не, браткі, з Шумігаем мы свет не дагонім!
Ён машын не хацеў, думаў, выцягне коньмі,—
Умяшаўся Кузьма,—
Са старшынькаю — швах!
Не такая ў яго галава на плячах.
Быў калісьці струменьчык,
Ды скепсціўся, высах,
Быў агеньчык,
Цяпер толькі попел і прысак.—

Далучаецца Сцёпка да шумнай размовы:
— Кацярына казала: нічога, талковы.
— Дзе!.. —
Пярэчыць Рыгор,—
Абабіўся, абы́раў,
Ён трымаецца толькі на брыгадзірах,
Калі ёсць дождж і гром,
Дык і ён аграном.—

— Колькі мы ні дзяўблі: «Шумігай, сей ты
проса!» —
Толькі б'е ў перадок, абрывае атосы.
Сам у хаце заказвае пшонную кашу.
А на полі пасеяць, дык справа не наша.

— Тут прамашка, браток. Ці адны мы не сеем?
Мала ўсюды,—
Згадзіўся Рыгор з Аляксеем: —
Добрым просам спрадвеку вядомы Старобін,
Не падга́дзілі б мы, ды нічога не робім.
— Ну, Старобін! Там, браце, калійная соль,
Нам за ім не падскочыць — высокая столь,—
Разважае Кузьма,—
Трэба іншы ў старшыні:
І рабіць ён не робіць і шкоды не чыніць.
Вось такая натура...

— Натура? Завала!
Што з калодаю робяць, каб не замінала? —
Гарачыцца Алёшка: —
Убок, на спачын.—
Сунімае Рыгор яго:

— Ты памаўчы!
І калоду
Адразу не вывернеш з ходу.
А навослеп шыбаючы — лесу наломім.
Пагаворым, адчынены дзверы ў райкоме
І вышэй...
Нешта, Сцёпка, ты зноў не ў настроі,
Калі што — прызнавайся, развaжым, нас трое.

— Я хачу ў Шумігайцах
Застацца на працы,
А закончым канал — і мяне перакінуць...

— Як, ты хочаш пакінуць
Такую машыну? —
Падхапіўся Алёшка.—
Мяняйма на коні!
Хочаш сесці на трактар?
— Давай, хоць сягоння!
— Вось гарачка! —
Кузьма пасміхаецца.—
Што вы?
Памяркуйце спярша, астудзіце галовы.
Так, Сцяпане... У сэрца патрапіла стрэмка,
І таму на пуцях пераводзіцца стрэлка?

Сцёпка трохі збянтэжаны, а не здаецца.
Аляксей падахвочвае:
— Слухайся сэрца!

17

З гэтай справай ішлі адвячоркавым часам
Аляксей і Сцяпан у праўленне калгаса.
Дом пад клёнамі, хмель абкруціў частаколіны.
Шумігай у акне, вельмі нечым здаволены.

— А, заходзьце! Прывет інжынерам і тэхнікам.
Старшыню ўсё шаруеце жвірам ды вехцікам?
Можа, стану чысцей, не злую, трасца матары.
Што цікавага рэкнеце, механізатары? —
Без патрэбы, браткі, пачынаць пераробку,
Выязджаць, мусіць, прыйдзецца нашаму Сцёпку:
Нам параіла вобласць работу спыніць...—

Моўчкі хлопцы ў аблічча глядзяць старшыні.
У гаворку тры грошы ўтыкае Пракоп:

— А хацелася ж, хлопцы, а добра было б
Тыя рэчкі злучыць, спаласнуць нашы сёлы:
І раскоша самім, і выгода жывёлам.—

Старшыня са здзіўленнем зірнуў на Пракопа:
Ці ён кажа напраўду, ці так, для прыклёпу?
А Сцяпан з Аляксеем нібы панямелі,
Чырванелі, бялелі, ізноў чырванелі.

Не стрывала нарэшце Алёшкава сэрца:
— Быць не можа! —
Гукнуў: —
Выдумляеце, чэрці! —
Хмыліць губы Пракоп:
— Хочаш з'ездзіць, дазнацца?
Адрас дам — упраўленне меліярацыі.—

Сцёпка крок падступіў:
— Вы чаму гэтак рады?
Мы закончым канал камсамольскай брыгадай...

Шумігай спадылба за хлапчынай цікуе:
— Абы толькі сабраў, дзе ж ты возьмеш такую? —
Старшыня дастае папяросу:
— Магчыма...
А хто грошыкі дасць на цябе, на машыну?
Можа, скажаце, банк вам адчыніць крэдыты?

— Ты не страш! —
Абазваўся Алёшка сярдзіта.—
Экскаватар прысланы на цэлы сезон,
Грошы ты перавёў,
Працаваць будзе ён!

— Я ж казаў, было слухаць,—
Пачаў Шумігай,—
Грошы ўбухаць то ўбухаў —
Цяпер нажывай!

— Старшыня! Ты ўжо стаў не Даніла, а Якаў:
«Я» ды «я»... Ты адно б выстаўляўся ды вякаў,—

Зноў сячэ Аляксей.
Крокі ў сенцах, з дзвярэй
Белы бінт мільгануўся: заходзіць Андрэй.
«Добры вечар» дае.
— Што ў вас тут, пасяджэнне?
Старшыня, наказаў перадаць Гарашчэня...—

У Данілы прыкметна варушацца бровы,
Ён Андрэя дапытвае тонам вымовы:
— Сакратар? А чаго ты цягаўся ў райком?
— Не ў райкоме, у больніцы быў я, з рукой.
Ён на пальцы падзьмуў:
— Вось набыў жа аздобу...

— Ды расказвай хутчэй!
— Пачакаў я аўтобус
І пайшоў... А за мной — сакратар на «Пабедзе»,
Сам вядзе. Прачыняе мне дзверцы:
«Паедзем!»
Я з ахвоткай...

— І ўсё гэта з бухты-барахты? —
Не паверыў Даніла.

— Пытаў ён пра трактар:
«Як там ваш старшыня, добра трактар вядзе?
Зараз,— кажа,— пад'еду, хачу паглядзець»,—
Засмяяўся Андрэй.—
Ты гатоў да экзамену? —

Шумігаю здалося, што сунецца ў яміну...
— А ці нельга мяне падвучыць, паганяць? —
На Алёшку лагодна зірнуў старшыня.

— А яшчэ,—
Хітравата Андрэй дабаўляе: —
Гаварыў сакратар: «Папярэдзь Шумігая,
Нехта ў вобласць ад вас хадакоў пасылае,
Прыязджаюць і стогнуць: канал не пад сілу!»
Ці не чуў ты. Пракоп? Ці не чуў ты, Даніла?

— Ён у вёсцы не быў! —
Аляксей аж падскочыў.—

Ён заўчора патайна прыехаў уночы! —
І Пракопа за грудзі:
— Работа чыя?
Не твая, можа, скажаш?

— Дальбог, не мая!
— Але ж ездзіў?
— Дык я чалавек паднявольны,
Мне сказалі: «Вязі!» Я давер'ем давольны...

— Ох, і гáдаў ты сын! Паглядзі, як загаўкаў!
Сам падбіў, сам падвёў і схаваўся пад лаўку! —
Ускіпеў старшыня:
Так пад'ехаў з падкопам!
Суча ён кулакамі пад носам Пракопу.

Той скрывіўся:
— Ды кінь жа! Трасуцца паджылкі?
І святыя, бывала, давалі памылкі,
Ёсць аб чым гаварыць!.. Мы ж удвух вінаваты,
Але страты няма і не здарыцца страты,
Абы смецця не вынесці з хаты ў гарачцы,
Не раззвоньваць аб гэтым на ўсе Шумігайцы.
Не вялікае штó! Каб якое здарэнне,
Праўда, хлопцы? Рабіце як след, па сумленню.—
І Сцяпана пад бок:
— Так ці не, галубок?—

Адхіснуўся хлапец, быццам варам абліты.
— Ну, не злуй жа, не злуй, далікатны які ты...—

Аляксей па-сур'ёзнаму зморшчвае лоб,
Але давіцца смехам:
— Вядома, Пракоп,
Што сумленне табе? Без яго нават лепш:
Ні згрызотаў, ні клопату, ёмка жывеш!

— Сход склікай, Шумігай, каб дазнаўся народ,
Старшыня ты ці хто...

Крык пачуўся:
— Гарым!

Хлопцаў вымела з хаты,
Бягуць па двары.

Трэба ж ластаўкам ціўкаць! Такія свавольніцы:
Наляпілі гняздзечак на саменькай больніцы,
Мітусяцца яны пад акном, а ў палаце
Папраўляе Наташа ахайны халацік,
Каля койкі стаіць, паглядзіць на Сцяпана
І пад вейкамі вочы схавае ціхмана.

Ён схуднеў, не пазнаць — з галавою паголенай,
Размаўляць з ім падоўгу яшчэ не дазволена...
А Наташа сказала б! Ды сорам дзяўчыне,
Не адважыцца вымавіць пры Кацярыне,
А яна безупынку смяецца, жартуе.
Вось устала, схілілася: Сцёпку цалуе!
Быццам гэта Наташа зрабіць не магла...
Зноў цалуе... Бадай ты здарова была!

Як, ужо адыходзіць? Але ж на расстанне
Хоць у вочы даўжэй яна хвораму гляне,
А скажы тое слоўка — зрабілася б цёпла:
Ачуняў бы, ўсхапіўся, адужаў бы Сцёпка!

...Занялося з Пракопавае варыўні...
Напярэдадні брагу Пракоп рашчыніў,
Ноччу гнаў самаробную, добра нюхнуў,
Спаць паклаўся, як след не заліўшы агню,
А пад вечар падняўся, пабег запрашаць
Да сябе старшыню — ён жа любіць пяршак.
Як на тое, пад попелам іскра смылела,
Пакрысе на падстрэшку салома затлела,
Потым вецер махнуў, перанёс на гумно,
За хвіліну — сухое! — ўзялося яно.
Людзі покуль набеглі, шугала ўжо моцна.

На суседнія стрэхі паўзлазілі хлопцы:
Накрывалі мяхамі, вадой аблівалі,
Не пускалі агонь на дамы, ратавалі.
Да гумна ж не падступішся! Шлангам здалёку
Трохі полымя збілі — і гэта палёгка.

— Людзі добрыя! Мусібыць, бабка ў гуменцы! —
Закрычала Пракопіха, выбегшы з сенцаў.—

Спіць яна там, сляпая, глухая, не чуе! —
Ломіць рукі жанчына: —
Ратуйце старую!
Раптам вусцішна стала ў людской калатэчы...
Сцёпка нейкую посцілку ўскінуў на плечы:
— Аблівайце вадой!..—
Разагнаўся і ўскочыў
Проста ў пройму варот...
Думаў, выгараць вочы,
Дым ядучы грудзіну яму разрывае.
Кліча: «Бабка! Бабуля!» Няўжо нежывая?
Застагнала... На рукі яе падхапіў,
А далей што — не помніць...

— Ціў-ціў ды ціў-ціў,—
Пад акном абзываюцца ластавяняты...
Санітарка праводзіць Андрэя ў палату:
— На хвілінку, глядзі! —
Завярнулася, выйшла.
— І гультай жа, гультай! Халадочак, зацішна —
Ён і рад, раскашуецца, быццам нядужы.
Ты ўжо, Сцёпка,— арол... Ну, здаровенек, дружа!
А за глупства, за тое, браток, выбачай...—
Павіталіся хлопцы, відаць па вачах,
Што абодва забылі аб прыкрым здарэнні.
— Я даўно б акрыяў, ды схапіў запаленне.
— Акрыяеш, нічога! Бабулька старая
За цябе ўсім угоднікам свечкі стаўляе,—
Кпіць Андрэй,—
Бачыў: тупае, доіць казу.
«Я гасцінца,— гаворыць,— яму завязу».

Смешна хлопцам.
— Частуйся — лясныя маліны,—
Запрашае Андрэй, выкладае навіны:
— Не чакаўшы праўлення тады, з Шумігайцаў
Палянцеў старшыня да раёну: «Здымайце!
Даў памылку мазгамі — усё адраблю.
Дапусціце рукамі варочаць зямлю».
— А Пракоп?
— Гэты, пэўна, з гадок не пап'е,
На благое нікога больш не падаб'е.
На паперчыне ў вобласць падробліваў подпісы,

Верабейчык дазнаўся, ганяў яго з поплiскай.
Смеху, гвалту было...—
Схамянуўся Андрэй,
На гадзiннiк зiрнуў, крок зрабiў да дзвярэй.
— Не спяшайся! Каго ж вы абралi ў старшынi?
— Адгадай! Даручылi пячаць...
— Кацярыне?
— «Будзем слухаць, не бойся»,— запэўнiлi людзi.
О, яна не папусцiць, не дасць памарудзiць.
Старшыня, сакратар... Нас адведваюць часта,
Каб ты ведаў, на полi працуе начальства!
Ну, бывай! Не ўхаплю расказаць усё роўна...

Сцёпку вельмi карцiць запытаць аб галоўным:
— Як там рэчка? Злучылi?
— Даходзiм памалу.
Кiламетр, сама больш, засталося канала.

19

Белай хваляй рамонка
Шумiць на лугу.
— Дзе ты, дзе ты, Алёнка?
Алёнка, агу!

Сiнi мак-самасейка
Звiнiць на бягу.
— Дзе ты, дзе ты, Андрэйка?
Андрэйка, агу!

Дзераза-павiвашка
Паўзе пад нагу.
— Дзе ты, дзе ты, Наташка?
Наташка, агу!

Лёгкi пух абдзiманка
Страсае ў смугу.
— Дзе ты, дзе ты, Сцяпанка?
Сцяпанка, агу!

А ўжо гэтых рамонак жыве на рацэ,
Хоць ты проста бяры ды плывi ў малацэ!
На лугах, пеючы, бегучы, мiмаходзь,
Слаўна ў чорныя косы адну закалоць.

І на пальчыкі стануць рамонкі ў расе,
Паглядзець, як цвіцецца сяброўцы ў касе.
І з папараў тады да дзявочай рукі,
Быццам птушкі на хлеб, прыляцяць васількі.
Іх пабраць немагчыма і кінуць шкада...

...Парадзела юнацкая грамада.
Разыходзяцца пары, сягоння яны
На узлессі праводзілі дзень выхадны.
Не сціхаў дапазна шумігаеўскі груд:
Рэчкі злучаны!
Сёння сабраліся тут
І дзяўчаты, і хлопцы.
А дзе маладосць,
Там гармонік, і гульні, і прыпеўкі ёсць.
Але дзень прамінуўся, і вечар прайшоў.
Лазіць месяц па голлі надрэчных дубоў,
Нібы хоча нырнуць у світальны туман.
Паджыўляюць цяпельца Андрэй і Сцяпан,
І Наташка з Алёнкаю носяць сукі.
Затрашчаў і заняўся ядловец сухі,
Сінім слупам узняўся пахучы дымок,
Месяц чхнуў і схаваўся у воўне аблок.

Хлопцы любых нясмела за рукі бяруць,
Хлопцы любых паволі над рэчкай вядуць.
Людзі сон разабралі, а ім не пара,
Ім кувае зязюля ні свет ні зара.

— Колькі жыць? —
Кажуць смехам.—
Зязюля, ўгадай! —
І гады тыя рэхам
Падлічвае гай.

Ні канца таму ліку, ні краю няма.
Не старайся, зязюля, куваеш дарма,
Ім хапае гадоў і без ласкі твае.
Свет наўкол ім смяецца і песні пяе.

Заклікаючы сонца, азваўся пявун,
Сплясиуў крыллем, загагаў гусак на ставу.
Каля фермы праходзіць Якуб-вартаўнік,

За вялікі свой век ён да рознага звык.
Паглядае Якуб: цераз ранні суцём
Набліжаюцца з лесу дзве пары цішком.
Разлучыцца не могуць яны аніяк,
Да калгаса падыдуць — і зноў пад вятрак.
А-а, ён ведае тых юнакоў і дзяўчат!
На плаціне стаялі, стаяць ля прысад.

Пахнуць вусны дзяўчыніны дзічкай лясной.
— Будзеш, пойдзеш, Наташка, усюды са мной?
— Буду,—
Шэпча бязгучна,—
Харошы, кудлаты...—
І прыткнуўся да гузіка носік кірпаты.

Вартаўнік пад вярбою бародку паскуб:
— Ці не час і табе маладзіцца, Якуб? —

Калі нельга хлапчынай
Ізноў яму стаць,
Хоць бы гэтай вярбінай
Над імі звісаць!

— Будзеш, пойдзеш, Алёна, усюды са мной?
— Выбачай, не сказала табе пра адно,—
Адступіла яна: —
Зразумей, не хварэй...
Я пад восень паеду адгэтуль, Андрэй.

— Назусім?
— Не зусім, на чатыры гады.
Падвучуся і, пэўна ж, вярнуся сюды.
— А калі не пашлюць?
— Што рабіць, дарагі!
За чатыры гады, можа, станеш другі,
Пра Алёну забудзеш, не будзеш чакаць...—

Закруцілася крылле у ветрака,
Замахаў ён рукамі дзяўчыне услед,
Выпраўляючы ў свет...

20

Падымаюцца застаўкі,
Папаўзлі ланцугі...

Крыллем чыркаюць ластаўкі
Аб берагі.
Год мінуў.
Я хаджу па знаёмым калгасе.
Пры плаціне шырока рака разлілася.

Невысокі хлапец уключае рубільнік —
Рух пачаўся ў цагельні, зашастала пільня.
Падпаўзае да рамы калода патрошкі:
Хоць кладзі на абрус іх — бялюткія дошкі.
А рукой дакранешся: як добра сагрэты
Тым цяплом, што хваіна сабрала за лета.
Злёгку ўдарыш — яны абзываюцца звонка
Галасамі прастораў, птушынай гамонкай.
Адгаблююць з тых дошчак масніцы і дзверы,
Каб трымалі цяпло ў чалавечай кватэры.
Столь адкажа смыкам, пад абцасам падлога
Адгукнецца ім поклічам рэха лясного.
І сябры нашы ў свеце устануць за песняй,
За той самай, што мы пачалі на Палессі.

Моцнай дружбай у нас дружаць людзі і рэкі,
Мора стрэлася з морам, і гэта — навекі!

І турбота свая ў нас, і ўдача свая,
І гудкі не змаўкаюць, і хвоі шумяць,
У адзінае мора плывуць караблі,
І грымяць ноч у ноч —
Можна б нават цішэй —
Салаўі.

*Чэрвень 1953, май 1959*

## МАТЧЫН ДОМ

Мадузее — возера шырокае,
Чорная вада —
глыбокая...

*

Цэлыя вякі
Шумелі трысьнягі,
Кнігаўкі крычалі з кулікамі
Па-над берагамі...
Ды адкуль жа неспакой такі,—
Стогнуць хвалі,
Рвецца камень?

Што ж узварухнула гэта месца,
Самы за́цішак зямлі нямецкай?
Даль нямая,
І яна пытае...
Скрозь — драты,
Каб ніхто не мог падаць і знаку.
Скрозь пасты —
вартавыя і сабакі.

*

Збунтавалі чорную ваду,
Паплылі па возеры маторкі,
Загулі, рыхтуючы бяду,—
Смерць
на караблі з чырвонай зоркай.
А каб той мясціны не знайшлі,
Каб не падсачылі самалёты,
Робіцца работа
ўпотай,
Адвячоркам.

Каб ляцелі судны ў вечны змрок,
Выбухі пампуюцца ў тарпеды.

Назганялі шмат людзей,
Здалёк:
Не павінен знаць сусед суседа,
Каб жа змоў
Ніякіх не было,
Іншых моў
Ім не належыць ведаць.

Дрот аблытаў дрэвы і кусты,
Горбяць дах фанерныя баракі,
І гаруюць у бараках тых
Нашыя дзяўчаты-небаракі.
Дзе ж той дом?
Пасты
Стаяць кругом —
Вартавыя і сабакі.

Крок не збочыш... Толькі пераход
Грузкаю дарогай, пад штыкамі.
Гоняць бегма ўранні на завод
І бягом увечары таксама.
Здасць адных,
па ліку,
ўзводу ўзвод
І жане другіх ад брамы ў браму.

*

Гадаванкі быстрае Дзвіны,
Прыпяці вясёлай гадаванкі!
Сталі вы, надзеўшы рызманы,
Горкія, смутныя паланянкі.
Дзе ж той час,
Калі вятры вясны
Беглі прывітаць вас
На прыганкі.

Дзесьці,
У маленькім месце,
Дом стаіць, цвіце за домам сад.
Дваццаць год назад
Маці нарадзіла, спавіла,
Песню над калыскай пачала,
Ладкі-ладачкі зрабіла...

Так дзяўчына і расла.

А цяпер — мінула столькі дзён,
Падняліся ў неба хмары суму,
Трэба жыць...
Здушы ў сабе праклён,
Не тужы,
Не плач, не думай.
Спляміў плечы,
Скляймаваў прыгон,
Выпек ёй навечна
Доўгі нумар.

Чорны лёс, як нумар твой, сястра,
Еш той хлеб напапалам з карою,
Гніся ў крук, са сталі смерць збірай
На сваіх, сваёй рукою.
Можа, недзе
Падарвецца брат
На тарпедзе,
Зробленай табою.

А душа —
вядзе, як па вадзе,
Горне ў край, дзе за работай свята,
Там і той, што сэрцам валадзеў,
На ўсе справы здатны, статны.
Хоць бы як хвіліну
Паглядзець,
Вокам кінуць,—
Думаюць дзяўчаты.

Накрывае векам дамавіна,
Скрозь чужына.

Мадузее не пераплывеш,
Мадузее чоўнам не адолець,
Тут памрэш,
Прыцісне глей у доле.

На чужой, няветлай старане —
Ні каліны, ні дубочка,
Не аблашчаць ногі, як даўней,
Жоўтыя пясочкі!

Толькі лягуць хмары, як лаўжы,
Злосныя, калматыя, цяжкія,
І пачнуць смалу цадзіць дажджы —
Нудныя,
асеннія,
даўгія.

Жоўтыя пясочкі,
Цёплыя жвірочкі
Па-над Нёмнам,
Па-над Сожам!
Заўжды помніць
І забыць не можа
І ніколі сэрца не забудзе
Свет нязводны,
Кут наш родны...

Дзе ж вы, свае людзі?
Хто пачуе, хто асочыць
Смутак горны, боль дзявочы.

А палон —
як мур, стаіць навокала!
Хто ўратуе,—
Ўсе далёка...

Мадузее — не перавяслуеш,
Мадузее — не акінеш вокам.

*

Затужылі, знебыліся,
На ўцеху адно ім
Нашы песні засталіся,
Што ўзялі з сабою.
Заспявай, мая сястрыца,
Вярбу над вадою!

Заспявай пра верацёнцы
Ці пра ясны месяц,
Як у той у баразёнцы
Не хапіла месца...
Можа, блісне наша сонца
Над тутэйшым лесам.

«Як вярнуся ў Беларусь я
З таго Мадузее,
Рушу полем, росным долам,
Назбіраю зелля.

Не абы травы якое,
А буйнога хмелю,
Вырву каліва куколю,
Руты-мяты белай.

Хай тваё асцё, куколю,
Катам сэрца коле,
Хай твой колер будзе, рута,
Ім на вечны смутак.

А цябе прашу, мой хмелю,
Віюха лясная,
Хай іх век віно не хмеліць,
Радасць абмінае.

Хай з удачы і няўдачы
Плачма-плачуць вочы
За сірочы, за жабрачы,
За наш лёс дзявочы».

*

Гэтак запяюць крадком яны,
Песня зарыдае і заб'ецца,
Узмахне крылом праз туманы
Па-над возерам нямецкім.

Прыляціць яна ў свой край лясны:
— Хлопцы, беларускія сыны,
У няволі нельга больш нявесце!

Зноў і зноў махне яна крылом,
На ўсход сонца песня паімкнецца,
І ў паходным стане над байцом
Схіліцца
і стукне сэрцу ў дзверцы.

Слоўка дарагое
Песні скажуць,
І рука мацней на зброю
Ляжа.

З яснае тае далечыні,
Балазе дазор не ўзяў на мушку,
Да дзяўчат,
з паклонам ад радні,
Сядзе на закрацце песня-птушка.
На крыле —
чырвоная істужка.

Будзе шмат
Нечаканай радасці ў няволі.
Слоў няма —
Гаворыць родны колер.

*

Вечар.
Барачная лямпачка цьмее,
Сцены вільготныя,
Грубка не грэе.

Мерзнуць дзяўчаты,
Іх сон не бярэ.
Стыне — чужая! —
Вясна на двары.

Нары ў два ярусы,
Справа і злева,
Ганна з Хрысцінай
Стаяць каля Евы.

— Трэба асмеліцца,
Смелы не гіне,—
Ева руку пацiскае
Хрысціне.

— Так мы ўтраіх
Таго немца зваюем...
— Можа, й зваюем,
Калі паспрабуем.

Змова снуецца,
Тайная згода,
Шкоду
Чыніць хоць патрохі заводу.

— Страшна, сяброўкі...
Ды як жа, з-за крат?
— Што мы, без рук?
Стане рук акурат!

Краты расчыняцца,
Тупнем з прыпеўкай:
Спляжылі Гітлера
Друйскія дзеўкі!

*

Шнырацъ гестапаўцы,
Нюхаюць следу:
Весткі прыходзяць —
Не рвуцца тарпеды!

Сэрца выхватваюць,
Лезуць у душы
Вочы зякратыя,
Доўгія вушы.

Робіцца шкода,
А як?
Ані знаку!
Вось і пасты вам,
Вось і сабакі!

Гэта уведаўшы,
Рады дзяўчаты:
Хай небагаты,
Але ж пачатак!

Вушка да вушка,
Вусны да вуснаў:
— Ціхасце, дружкі,—
Ім не да густу!

*

Зрэшты парушаны сон неабудны!
Час у падполлі мінае марудна.

Маеш адвагу,
Зрабіся нячутным,
Стань невідочным
І будзеш магутным.

Хочаш на волю, працуй неўзаметку,
Ценем праходзь за драцяную сетку.

Ходзяць гестапаўцы,
Шпегі таўкуцца:
У акіяне
Тарпеды не рвуцца!

*

Ох, і даўгая ж ты, змена начная!
Але чаго гэта Ева міргае?

— Чуеце, дзеўкі? —
Праз хмарнае клочча
Гул нарастае
З трывожнае ночы.

Гэтак гудуць
Толькі тыя матары,
Што падымаюць чырвоныя зоры.

— Ціхасце, дружкі,—
Нашы над дахам!

Поўняцца сэрцы
Надзеяй і страхам.

— Хлопчыкі!
Скіньце пабольш падарункаў!

Белы наглядчык
Хаваецца ў бункер.

Перамагаюць ваганне
Сяброўкі,
Скокам да вокан
І — прэч маскіроўку!

Быў жа ён бедны —
Завод тарпедны!

*

І не дзень, і не два
Ваявалі хлопцы.
Шмат разліта пітва
Было на пачостцы.

Кроіў неба агонь
Шаблюкай крывою.
Крыжакоў-варагоў
Білі талакою.

Іх зжыналі сярпы,
Выкошвалі косы,
Беглі следам цапы
Выбіваць пракосы.

У лясах дзераза
Аплятала ногі,
Сек галлём беразак,
Блыталі дарогі.

Сам уломваўся мост,
Брод у твань хаваўся,
Груд сухі на сто вёрст
Багнай аплываўся.

А ўнізе і ўгары,
Каб слядоў не стала,
Выдзімалі вятры
Прышлую навалу.

Страшны бой пры канцы,
Засвяціла сонца.

Перакурым, байцы,
Залатыя хлопцы!

*

Дакаціўся гром да Мадузее —
Ўдарыў!
Аж зямля ў спалоху папялее —
Гром без хмары!

Гэта — невядома свету,
За ўвесь час,
Колькі ні падпальвалі планету,
Першы раз
Не па небе зранку
Хмары беглі — па зямлі,
Шлях ім праламалі танкі
І гарматы прадзяўблі.

А сабраўся ў хмары ўвесь наш гнеў.
Цяжкая помста.
Б'е пярун па цаліне,
Па чужой, няветлай старане —
Проста.

*

Паляцеў з дзвярэй ланцуг,
Пакідала зброю варта.
Паланянка! Глянь наўкруг:
Быццам ноч, а віднавата!

Прыгарнуў жаніх нявесту,
Стала праўдай тая вестка.

Сёння дзень і заўтра дзень
І ўсё —
воля,
воля,
воля!

Войска роднае ідзе
І ўсё —
болей,
болей,
болей!

— Гавары ж ты, гавары!
Столькі часу мы ў расстанні!
Дзе сяброўкі, дзе сябры?
Ці стаяць-гудуць бары,
Пахне верас на паляне?

Брат расказвае сястры
Ад світання да змяркання.

Ноч міне.
Напрасцякі
Кожны пойдзе іншым шляхам,
А ляжаць у іх шляхі
Праз жыты, паўз ветракі,
Ёй — на ўсход,
Яму — на захад.

*

Перажылі гэта:
Ты і я,
Ён і яго сям'я.
Расказвай праўду, аповесць мая,
Як насустрач вясне
Па яшчэ не сканаўшай вайне
Нашы дзяўчаты
Ішлі дахаты.

*

Абы толькі ранак зганяць пачынаў
Шкадлівыя зоры з нябеснай атавы,
На ўлоннях краіны з нядобраю славай
Патока раджалася.
Шпарка яна
Дужэла,
шырэла,
лілася, як лава.

Што далей, то больш высыпае з двароў
Нявольніц-жанчын і дзяўчат-паланянак,
З вясёлым абліччам, з распростаным станам,

Яны выпраўляюцца зараз дамоў
Ад горкае долі рабынь і служанак.

Цікуюць чародкі былых гаспадынь,
Дзябёлых і сытых, як ялаўкі, гладкіх,
Чужымі рукамі рабілі гады,
Было каму іх даглядаць, і гадзіць,
Падаць, і прыбраць, і паднесці апратку

Ім горача сёння да сёмых патоў,
У ветраным шоўку, у тонкай бялізне,
Садранай са свету ў прасторах вялізных,—
А ручка ж набітая ў рабаўнікоў!
У сэрцах трывога варушыцца слізнем:
А што, калі высадзяць шыбы з акон?
Уваляцца, скажуць:
— Ну, чортавы фраў,
А хто каму вінен за хлеб і за страву...
І фраў бялеюць, прымаюць паставу
Прыхатніх сваіх валавокіх мадон.

Чырвонага пеўня на дах бы пусціць,
А пырсне з-пад лап яго прысак і попел.
Слязой паланянак выгар затапіць,
Буйнейшай з усіх, што прыйшлося праліць,
Адной каб хапіла на люстра Еўропе.
Хай гляне на твар свой...

Драпежныя гнёзды,
З выпадку нясцёртыя богам вайны,
Разбурацца самі...
І рана ці позна
Будоўлі другія, другія барозны
Вандроўнаму нашчадку будуць відны.

Шумуе патока жанок і дзяўчат,
Плыве,
Разрастаецца ўшыркі і ўдоўжкі.
Не муліць плячэй падарожная ношка,
У хусты навязана хлеба патрошкі...
А вецер з радзімы — ў галінах прысад.

У майскае ночы кароценькі крок,—
І змрокам прастуюць, дадому няблізка,

Няхутка мяжы запаветная рыска,
Але ўжо чутно: уздыхаюць здалёк
Святыя руіны, што зваліся Мінскам.



Вастраверхія камяніцы
Дробных злосненькіх хутаркоў,
Між акацыі і пшаніцы,
З-пад ружовае чарапіцы
Пашчы выскалілі —
без клыкоў.

Хоць не зычаць яны дабра нам,
Але клічуць быць у гасцях,
І лісліва гаспадарамі —
Калі ласка! —
над кожнай брамай
Долу звешаны белы сцяг.

Недарэчны шматок анучыны,
З куфра выцягнуты напаказ,
Хіба можа сплаціць ім, змучаным,
Скруху Міншчыны, смуткі Случчыны,
Долю горкую жабрака?

Што прывабіць дзяўчат?
Нічога.
Што ім трэба?
Дамоў хутчэй!
Не пярэйдуць нідзе парога,
З поту ўласнага, з хлеба чужога
Іх пячайка дасюль пячэ.

Праз мурожныя лугавіны,
З дзьмухаўцамі па берагах,
Сёл драбкі, гарадоў руіны,
Нешырокі бяжыць, адзіны,
На радзіму з чужыны
Шлях.

*

Ідуць тры дзяўчыны,
Тры песні пяецца.
Пад ногі сцяжына
Кладзецца, віецца.

Наперад сама ім
Яна забягае,
Сцяжыну другая
Сцяжына страчае.

Сцяжына сцяжыне
Гаворыць:
— Сяброўка!
Вядзі на прастор іх
Да роднага слоўка.

Каб вусны не сохлі,
Каб сэрцы не смаглі,
Каб слёзы да кроплі
На вейках ачахлі.

Вядзі іх, сястрыца,
З узгорка на ўзгорак,
Дзе ноч на гасцінцы
Насыпала зорак.

І гэтак у ростань
Крыжуюцца сцежкі...

...Падбіліся,
босыя,
Крочачы пешкі.

*

Мусіць, хутка мяжа.
То гаі, то дуброўкі
Аблягаюць зялёным вянцом
далягляд,
Ды магілы гусцей —
нашых дзён валатоўкі...

Ты стаў волатам, хлопец,—
чырвоны салдат!

Пастаяць, уздыхнуць...
Спачывайце, героі!
І пасыпаўшы свежым пяском курганок,
Падаюцца з патокі
па двое, па трое,
Карацейшай пуціны шукаць у свой бок.

А вясна ўжо другая!
Смяецца, дурэе,
Прыбіраецца ў кветкі, мяняе страі.
І сяброўкі-зямлячкі ідуць з Мадузее,
Неразлучна, ўтраіх.

*

Нарэшце,
Пасля чужаземных дарог,
Прасёлкі пайшлі, вілаватыя сцежкі,
Ступілі радзіме яны на парог,—
І горна, і ўцешна.

Прастор усшумеўся густымі вятрамі,
А гром на аблоках, абапал зямлі,
Вясёлку сагнуў і паставіў, як браму,
Каб мілыя госці пад ёю прайшлі.

Наросхліст расчынены кожныя дзверы,
Запрошаны госцейкі ў кожную з хат.
Цалуюць іх людзі, частуюць і вераць,
Што хутка сваіх прычакаюць назад.

Вазьмі, папытайся ў страхі саламянай,
А колькі было ў абымшэлай трывог
За хлопцаў-байцоў,
За бацькоў-партызанаў,
Каб лёс некранёнымі іх усцярог.

І рады дзяўчаты, што чуецца ў ласцы
Ад родных турбота, ад родных любоў.

І сны іх вязуць
                у дзіцячай калясцы
У казку маленства са смутных гадоў.

*

Срэбрам выліўся
Месяц у рэчку —
                рагаты! —
Прытаміліся,
Сталі пад клёнам дзяўчаты.

Цень ад дрэва адскочыў,
Адбег і пабольшаў,
Хутка тыдзень, як ноччу
Выходзілі з Польшчы.

Доўгі віленскі тракт,
Палачанскі гасцінец...
І хоць сіл ужо брак,
Спадзяюцца яны
Неўзабаве спачыць у бацькоўскай хаціне,
Там, дзе хвалі Дзвіны...

*

Вось яна ўжо відна...
Развініся,
Дзвіна,
Не таіся!

Столькі сніліся ім
За ракою лугі,
Травы сінія,
Скрозь
        трыснягі, трыснягі!

А туман па рацэ,
Нібы складзены ў столкі,
Кветкі белыя —
Столькі!
Ні назе не ступіць, ні прабіцца руцэ
У пахучым, у волкім.

І палетак, дзе маці спявала, жнучы
Каласы залатыя, як жоўтыя лотаці,
Дзе зара пагубляла ключы, ідучы,
Несучы перавяслы на жніўныя постаці.

Ані шолаху,
Быццам бы газам патрута.
Голым-гола.
Дзяўчаты глядзяць неадрыўна,
А радзімы не бачаць, не могуць пазнаць.
Смутна.
Дзіўна.

Змалку ім гэта ўсё
Да рубінкі вядома,
А цяпер ні тых сёл,
Ні людзей каля дому.

Вянуць рэдкія коскі
Тужлівай бярозкі,
На пажарышчы туляцца
Каміны,
А за вуліцай
Гойдаюць хвалі Дзвіны
Два пабітых чаўны.
Вось іх вёска...

Трохі далей, пад гай,
Дзе смуга
І ў смузе беразак, як у сетцы,
Белы статак пасецца
Нямецкіх крыжоў.
Той, хто прагнуў маёнткаў,
Бароў, хутароў,
Мае лесу ражок,—
Тут нарэзан пасёлак,
Не надта вясёлы.

Як тут стала!
Спапялёнай радзімы
Душа не пазнала.
Смутна.
Дзіўна.

Дома!
Дзе ж тое — дома!
Шугнула з маланкай і громам
Ці вадою сплыло?
Дзе шукаць вінаватых?
Пад былое жытло
Ім ісці страшнавата.

— Паначуем у полі,—
Сказала Ганулякто.

Селі, смутныя, доле,
Адразу паснулі.

*

У дзіцячай калясцы
Проста ў казку дзяцінства
Едуць, бедныя...
Едуць у ноч, па гасцінцы.

Ноч багата што ведае,
Сон пляце павуцінне.

*

Спяць дзяўчаты і чуюць:
Аднекуль здалёку
Закіпае, шумуе, віруе
Патока.

Дзень трасецца ад гулу...
А з далечыні
Грукацяць па зямлі, па шашы
Камяні.
Проста рушаць
Вялізныя шэрыя крушні,
І няма ў той патокі
Канца і вытокі.

Як дабеглі да іх,
Грукат сціх,
Крушні тыя

Да долу прыстылі
І грымяць камянёвай,
Ніколі не чутаю мовай.

— Папалілі вам хаты
Чужыя салдаты.
Не сумуйце,
Не сплаквайце вочы, дзяўчаты.
Пасябруйце
Вы з намі,
З вашых ніў камянямі.

Мы прыйшлі не на стрэчу,
На працу прыйшлі,—
Прымем зрубы
На плечы,
Каб сталі і як прыраслі.

Толькі лепш, паланянкі,
Вам зложыць мураванкі.

Мы — каменне трывалае,
Стаўшы мурамі,
Не збаімся навалы
І птушак з дзюралю.
Мы стаяцьмем вякамі
У сяброўстве з сябрамі.

Хто калі ўваскрасіў
Скамянелы іх дух,
Абудзіў галасы,
Падахвоціў у рух?

Не паспелі дзяўчаты
Зложыць як належыць падзяку,—
Зніклі крушні:
Ні мовы, ні следу, ні знаку.

Толькі недзе далёка
Грыміць і віруе патока
І змаўкае,
Знікае назад у вытокі.

*

Зашумеў і прылашчыўся
Быстры вятрыска,
Да здзіўлёных дзяўчат
Падступаецца блізка,
Шэпча штось рызыкоўнае,
Дзіва дзеецца новае!

Паплылі
З-пад зямлі,
Пакідаючы схованкі,
Ручаі, ды якія!
Дальбог жа, зусім залатыя!
І звіняць,
Не іначай, што з золата кованы.

Паласой люстраною,
Даўгою-даўгою,
Палыскуецца,
Сыплецца жыта буйное.
Тым жа следам —
пшаніца
Плюскоча, бруіцца,
І апошні струмень —
Зерне ў зерне
ячмень!

Столькі збожжа — падумаць! —
Не зважыць, не змераць...
Вуха глухне ад тлуму,
І вочы не вераць:
Як ён выліўся з гумнаў,
Той збожжавы нераст?

Ды не ў гумнах, відаць,
Збажыну арxавалі
І не ў свірнах,
А ў жвірных
Засеках схавалі.

Збожжу хочацца ласкі,
Добрых рук гаспадарскіх.

Збожжа хоча ўназдрасты,
Сонцам вы́граты грунт,
Просіць дождыкаў частых,
Каб пасвілі рунь.

Кажа зерне жытнёвай,
Ніколі не чутаю мовай:

— Мы,—
Пяюць, бегучы, ручаі жаўтабокія,—
Паўзрывалі,
Парушылі ямы глыбокія.

Мы знудзіліся моцна
У поцемку чорным,
Затужылі па волі,
Па полі,
Па ворным.

Ні чакаць, ні трываць
Болей сілы не маем,—
Прарастаць
Пачынаем.

Рукі ў вас маладыя,
Сейце нас, гаспадыні!
Дайце нам над палямі
Шумець каласамі.

Гэта ж праўда!
Красою абдымецца поле,
Скочыць серп
Па расе,
Жнівень пяты на ржышчы паколе.
Стане золатам праца,
Сыпнецца на ток з малатарняў
Умалотам сам-дваццаць,
Адборным, прыварным.

Вось дзяўчатам работа!
Хоць зараз рабіць у ахвоту.

*

Не паспелі дзяўчаты
Падзяку
Прынесці зярнятам,
Як ізноў усё знікла —
Ні гуку, ні следу, ні знаку...

І задыхала пушча.
Галлём запаветным
Шумнула.
Неправідныя гушчы,
Патайныя нетры
Напалову
Шырокая трэль раскалола.

А па трэлі па той,
Верасамі,
Імхамі,
Напрасцяк,
Пакалыхваючы вяршкамі,
Бегма бег
Маладняк.

Тупацелі, спяшалі калючыя дзічкі,
Што ўзышлі абы-дзе і раслі абы-як,
Трохі большыя дрэўцы і тонкія тычкі,
Беглі яблыні, грушкі,
Вясёлы вішняк
Разам з гнёздамі:
Птушкі
Там ціўкалі ўсмак.

Кажуць дрэвы лясною,
Не чутай дасюль гаманою:
— З тых зярнят,
Што губляюць вятры-ліставеі,
Мы ўзышлі акурат,
Нас і зваць —
самасеі.

За скупое убранне
Мы жылі ў занядбанні,

Ды няма ў нас заганы,
Мы з добрага роду
І не горш дагляданых
Апортаў, рэнклодаў.

Ускапайце пасцелю
Для нас каля дому,
Прышчапіце нам вочы
Сяброўак садовых.
Мы відушчымі станем,
І восеньскім раннем
Нассыпаюць галіны
Вам проста на ганак
І салодкіх і вінных
Пладоў наліваных.
Шчасце будзеце мець,
Дадушы,
Кожны год
На прыплод
Спець
Пачнуць спарышы.

Пакланіліся дрэўцы,
Схаваліся ў бор.
Стала пушча на месца,
Наўкол —
сінім-сіні прастор.

Цёпла з марай!
Не хочуць прачнуцца сяброўкі.
Бачаць:
жоўтыя зрубы накрыліся кроквамі,
І мудрэй,
І ямчэй за бярвёны ў смале,
Астываючы, дранік запах на стале,
І садок ужо голлем заглядвае ў хату...

*

Сон што далей,
то болей
На дзівы багаты.

За вялізным ласём
Незлічоным
рагатым,
калматым
гуртом —

Ласяняты,
Ласіцы,
Казулі,
Дзікі...

А пазадзе — ваўкі!
Быццам псы-пастухі,
Гоняць статак...

Вось удача!
Аж вусцішна стала дзяўчатам:

Апусціўшы да долу
Разгатыя рогі,
Лось трасе барадою,
Сыходзіць з дарогі.
Ён гаворыць ласёвай,
Ніколі не чутаю мовай:

— Скрозь тут ваша:
Ёсць пушча, і паша,
І для поля насенне,
І для дома каменне,
І каб коні,
Дык будуйся хоць сёння.

Не збівалі нам каркаў хамут і ярмо.
Будзе цяжка,
Ды неяк прывыкнем,
Дармо.
Калі згодны на дружбу,
Прымем конскую службу.

Прывядуць ласянят
Нашы жонкі-ласіцы.
Дайце толькі дагляд,
Будуць добра даіцца,
Не горш за каровы.

Будзе дом
З малаком,
Каб пілі вашы дзеці здаровы.

Скончыў лось,
Рог
Схіліўшы да ног.

Тут жа выйшла казуля
З грамадкі казінай:
— Ева! — так пачынае.—
Гануля,
Хрысціна!

Я вас, любачкі, знаю
З далёкіх зажынак —
Вы адна адну звалі,
Гукалі ў ажынах.

І ўзагналі, забралі
З хмызоў казлянятка.
Я стаяла, дрыжала,
А я ж яго матка.

Прыручылі вы козку —
Стала дойнаю, свойскай.
Прывучайце ж і маці
Памагаць вам у хаце.

Уважайце, дзяўчаты,
Вядзецца дастатак,
Дзе жыве ў гаспадарцы
Коз па парцы.

Дзік ідзе велічэзны,
З клыкамі-клыкамі!
Дасць ён рады жалезу,—
Патрушчыць і камень.

Хіб настаўлены чорны,
І персні, як жорны.
Сам бы леў
Перад гэткім самлеў.

Кажа дзік:
— Як ні быў бы вялік,
Без свінні хлеў не хлеў.

Мы праз што падзічэлі?
Хто б ні стрэў, той і стрэліць.
А як трапіцца гад,
Пхае ў мех парасят.

Калі возьмеце нас у двары,
Будзе цэла і бульба, і морква:
Абяцаем не рыць
Паплавоў, панадворкаў.

Мы — жывёліна хлебная.
Што датычыцца ежы,
Дык, дальбог жа, не грэбуем,
Толькі б болей і свежай.

Дзік замоўк.

Падпаўзае
На чэраве воўк:
— Шмат нядобрых размоў,
Многа складзена баек
Пра нас, пра ваўкоў.

Праўды — трошкі,
Прыбрэхана большая частка.
Пра Чырвоную Шапачку —
смешная казка.

Дзе загіне цяля,
Хоць бы здохла ці ўкралі,
Як ты тут ні віляй,
А на воўка — тамоўка,
На нас толькі валяць.

Жыць па-воўчы
Не хочам:
Сорам выеў нам вочы.
Аддаёмся навек пад загад
Чалавечы,

Абяцаем любіць жарабят,
Бараніць бараноў і авечак.

Хоць не ўмеем брахаць,
А ўсяго дапільнуем, усочым:
Будзе цэла страха,
Мыш у двор не праскочыць.

І не дай бог сустрэцца
Воўку ў скуры нямецкай,—
Ад фервольфаў двуногіх
Будуць каскі ды рогі.

Цёмных пушч гадаванцы
Прыбеглі наймацца!
У здзіўленні дзяўчаты
Прыносяць падзяку,
Толькі дзе ўжо той статак —
Ні следу, ні знаку.

*

Сонца
Воблак прашыла бліскучаю дратвай
І за цёмную хмару схавалася раптам.

Не іначай жывая
Тая хмара густая!

З лугавін,
Дзе жаўцее вясновая лотаць,
Трэба ж крыллям завільжалым
Лопаць і лопаць.
Трэба ж тысячам горлейкаў
Кракаць і гагаць,
Тарабарыць,
выспеўваць,
высвістваць
над багнай.

Стала шумная хмара
На ніз апускацца,
Белым пухам

На плечы дзяўчат асыпацца,—
Селі птушкі,
Паціхлі, прымоўклі салісты,
Выйшла пара наперад,
Ды так урачыста!

Качка з яйкам пад крыльцам,
Гусь у дзюбе з пушынай
Прамаўляюць нячутаю мовай птушынай:

— Не туліцеся ў хусткі,
Не сорам,
Вы нас клікнеце хутка
На скорам:
Для вясельнай падушкі
Гусь — пярвейшая птушка,
На гусінай пярынцы
Мякка спіцца дзяўчынцы!

— А хто лепей за качку
Нагатуе прысмачкаў?
Дзе знайсці гэткіх матак,
Як яна ў качанятак?
Без пяра і яечак
Не спявае падпечак,
Ды без яйка, бадай, вам
Не ўмясіць караваяў...

Падручаецца жораў
Клікаць вёсны з-за мора.

Дзядзька бусел сардэчны,
Дзетанос векавечны,
Прыляцеўшы з вандроўкі,
Нешта кіне ў начоўкі:
Ці дачку, ці сыночка —
Проста з град агурочных...

*

Не паспелі дзяўчаты
Злажыць ім за клопат падзяку,
Зніклі птушкі:

Ні спеву,
Ні следу,
Ні знаку.

А сяброўкі ізноў
Па гасцінцы за снамі прастуюць,
Дыхаць лёгка, далёка відно,
Ноч нясе ім прыгоду дзіўную.

Раскаціўся сувой:
Палатно!
І другі разгарнуўся:
Абрусы!
Ну, а гэта які?
Ручнікі
І намёткі!

— Вашы маці і цёткі —
Вельмі добрыя ткаллі,
Нас прыдбалі і вам прыхавалі,—
Кажа ткацтва сваёю
Мяккай мовай льняною.—

Адышлося ўжо гора,
Час падумаць пра ўборы.

Не сумуйце па корце,
А палотны пакройце:
Лепш няма, паланянкі,
З палатна вышыванкі.

Пройдзе лета, а потым
Будзе хлеба ў ахвоту!
Абрусы пасцілайце
Ды бяседу склікайце.

*

Што ў жыцці — тое ў сне,
Толькі ноччу, як цуд, падаецца,
Што на дзённым відне
Не ўстурбуе ні думкі, ні сэрца.

*

Столькі сноў перагледзелі —
вочы баляць!
А прачнуліся —
пустка,
самота,
руіны.

Надарае салодкай і горкай слязінай
У крыві,
У гарачцы,
У шрамах —
Зямля!

Земны шар павярнуўся другою шчакою,
І другія падзеі ўзнікаюць здаля,
Бурай веюць вятры, рвецца шмацце спакою,—
У анучах,
У золаце,
Ў кратах —
Зямля!

Ці ты помніш, Зямля,
замятаючы пылам,
Хто цябе занявольваў і хто вызваляў?
Нешта вельмі ўжо блізка стаяць іх магілы...
Ды не мне дакараць цябе,
Маці-Зямля!

Не смуткуйце, дзяўчаты,
на казачны шлях
Падаліся ўсе дзівы начныя радзімы.
Перад вамі ўстае найдзіўнейшае дзіва:
У жытах,
У красе,
У вясёлках —
Зямля!

Роднай,
сівай,
бывалай,
Ніхто ёй не згрозіць,

Як яна ваявала,
Так родзіць і робіць.

Што яна абяцае,—
Дае год за годам,
Але вышай на цалю
І на шалях з паходам.

*

Мы надзеяй жывём,
Нашы вочы наступным захоплены,
Кожны з нас на няблізкай дарозе —
дамоў!
З той апошняй вайны
А спяшаў,
А ішоў,
Бо на тле папялішчаў,
Дамовак панішчаных
Бачыў сэрцам відушчым
за хмарамі попелу
Некранёны,
нярушаны
Матчын дом.

Снілі гэтак сяброўкі...
Былі яны хлебу жадны,
Але рупнай рукою дасталі малодзіва,
Але выснілі ўсё!
У дамок цагляны,
У садок, дзе антоны вісяць, як званы,
Запрасілі яны,
як вядзецца ў народзе,
І гульнуў я ўваходзіны!

1969

# ПРАВОДЗІНЫ

*Памяці Якуба Коласа*

1

Поле, луг
Пачарнелі ад золкіх дажджоў,
Дні мінаюцца хмарныя, нерассвітаўшыя.
Добры друг
Ад мяне адышоў,
Не спытаўшыся,
Не развітаўшыся.
Добры друг
Усяго, што расце і жыве,—
Земляў, сонцаў і сэрцаў прастору вялікага,
Сціплы той чалавек,
Што наўкруг
Дзядзькам клікалі,
Бацькам клікалі.

2

Не хацелася дзядзьку ў гэты вырай збірацца!
Толькі вось нарадзіўся,
як быццам хвіліна прайшла:
У нястачах — маленства, па астрогах — юнацтва,
Сталасць войны скрышылі...
А смерць нібы тут і была.

Не хацелася дзядзьку ў гэты вырай збірацца!
Сама ў сілу ўвабраўся, у ясную поўню гадоў.
А табе — ні сяброў, ні абвыклае працы,
Ні сардэчнай размовы,
ні мілых, над Нёмнам, дубоў.

Не хацелася дзядзьку ў гэты вырай збірацца!
Колісь люльку давалі, ў курган засыпалі каня,
Чарку — выпіць дарогай,
рог — да блізкіх азвацца,
Залаты — каб пранесла ракі небыццця быстрыня.

Вось і ўсё.
Каб і ўзяў гэта — мала карысці!
Сціхла сэрца, няма каму кроў весяліць,
Холад скурчвае пальцы, як сівер асенняе лісце,—
Ні па лесе прайсціся, ні люлькі набіць.

Як змірыцца, згадзіцца!
А ён жа з пароды асілкаў,
Што праломвалі горы, сякеркай валілі кражы,
Падымалі паноў на паўстанцкія вілкі
І стаялі насмерць пры сваім рубяжы.

Мог ён гэта!
Шукаў, дзе цяжэй, дзе упарцей работа:
Песняй мур закладай,
Ацяпляй дужым словам прастор,
Калі ты чалавек, дык прымі ўсе людскія турботы...
Век за імі хадзіў ён ды ходзячы так і памёр.

Сад застаўся шумець.
Спелы яблык блішчыць на прыпёку,
Смелы шчыглік пяе пра жыццё — не пра смерць.
Толькі ўжо гаспадар
сам за браму не ступіць ні кроку.
І не прыйдзе дамоў.
Сад застаўся шумець.

3

Аніколі ў жыцці не была яшчэ гэткай даўгою
Мне ад плошчы Цэнтральнай
Да Круглае плошчы дарога:
Людзі ўсе — за табою,
Людзі ўслед за табою,
Як рака па разлогах.

Ты ж быў добры і светлы, зірнеш —
і абудзіцца шчасце,
Відната нечуваная ўміг заўладае душою...
Дык чаму ж не насустрач натоўпы, з якое напасці
Людзі ўсе за табою,
Толькі ўслед за табою?

І адзін ты, адзін сярод вуліцы самай шырэйшай,
Рух увесь супыніўся, пагаслі найменшыя гукі:
Зараз, зараз пачуюцца свет адчыняўшыя вершы,
Зараз, зараз расшчэпяцца век працаваўшыя рукі.

Боль сціскае павекі.
І ўжо?
І навекі?

Аніколі ў жыцці не была і даўгой і кароткай
Мне праходка па горадзе нашым,
Як смутная гэта праходка.

Трубы плачуць мядзяныя,
Цяжка ўздрыгваюць плечы.
Мы ж не з медзі, не з каменю,
Мы — сыны твае, сын чалавечы!

Хоць і моцна любілі,
А песень такіх не зладжылі,
Каб цябе абудзілі.
Горка нам,
Несуцешным сынам,
За трунproblemsою ступаць,
Гаварыць пры народзе,
Шмат гадоў мы хацелі цябе сустракаць,
Давялося ж праводзіць.

А насустрач — зямля.
Не разрыты пагорак пясчаны,
А жывая планета прымае вялікае сэрца
Там, дзе ходзяць дажджы, каласяцца паляны,
Дзе слядоў чалавечых
З бяскрайніх прастораў не сцерці.

4

Я распальваў касцёр, млява слаўся на мох
Пахкі дым ядлаўцовы.
То крышку падскочыць,
То зальецца агеньчык,— прабіць ён не мог
Тумаnоў адсырэўшае клочча.

Два дубы ў галавах,
Дзве яліны ў нагах,
Штосьці шэпча таполяў сям'я гаваркая,
Віснуць слёзы імжакі на жоўтых кустах,
Быццам я той агонь не палю, а хаваю.

Туманок, туманок!
Хто цябе навалок
На прадоннае, соннае возера Нарач?
Хоць бы ветру глыток
Ці нябёсаў шматок,
А то ў хмары глядзіш і ступаеш на хмары.

А як зырка звінела ля гэтай вады
Наша полымя ў часе апошняй сустрэчы,
Калі мы, не расслухаўшы крокаў бяды,
Запрасілі гасця ў кола песень і спрэчак.

Ён прыехаў вясёлы, усмешліва кпіў,
Як мудрэц, што стаіць над жыццём і над смерцю,
Браўся загрудкі з імі.
— Як быць? — гаварыў,—
Пасабіце, не выберу часу памерці.

Калі ўзімку — марозна, не выкапаць склеп,
А вясною — зямля многа лепей ад раю,
Летам — часу няма, трэба думаць пра хлеб,
Хіба ўвосень, зірнуўшы, якія ўраджаі.

— Не,— казалі мы,— не! Так не выпусцім з рук,
Столькі будзеце жыць, колькі нам заманецца! —
Ён гразіўся:
— Вазьму ды зусім не памру,
Але ж часу вам дам, не паходзіце ўлегцы.

Цераз момант на сіні азёрны разлог
Кідаў вокам, далёкі ад гэтай размовы,
І гукаў дочак сябравых, белагаловых,
Нібы зглядзеўшы далечы іх нетаптаных дарог.

Гэта ўсё я пабачыў з густых тумаоў,
Не ўпаліўшы за вечар набракшага вецця,
І тады вось, майстры піянерскіх кастроў,
На ўспамогу прыбеглі вясковыя дзеці.

Прыцягнулі сухі беразак на аблонь,
Бураломіну-хвою скруцілі ў гушчары,
Акурат, як вучыў ён: раскласці агонь,
Каб у лесе і разу сякерай не ўдарыць.

Хлопчык скінуў пільчак, памахаў на цяпло,
Як начлежнікі робяць.
Уга, зашугала!
І адразу ж лясных верхавін памяло
Разгайдалася, вымела ў небе прагалак.

Мы паселі ўкружка. Я паціху кажу,
Як любіў ён жывое, як мы неаднойчы
У яго цеплыні сагравалі душу
І ягоным святлом распагоджвалі вочы.

Жыта сеяў, саджаў маладыя дубкі
І цяньку дачакаўся і плёнаў вялікіх.
Колькі ён парабіў, пахадзіў напрасткі,
Каб мінула нас доля Сымона Музыкі.

Ён жа сам быў такі...
Бедны хлопец Кастусь,
Што каленьмі свяціў у апратцы кастравай,
Выспеў коласам буйным,
а Беларусь
Стала чутнай і знанай на свеце дзяржавай.

Разгуляўся касцёр, расшыбаўся наўзлёт,
Аж памкнуўся злізнуць сіняватую зорку.
Пакружыўся над намі лясны самалёт,
Насварыўся крыламі:
— Эй вы, на пагорку! —

Два дубы ў галавах,
Дзве яліны ў нагах —
Не жалобная варта.
Мы сталі ў дасвецці
Вартай гэтых дзяцей, што ўзыходзяць на шлях,
Каб жывога агню не задзьмуў узвей-вецер.

Так пясняр вартаваў, так і ўсім наказаў.
Ён памёр, не сышоўшы з паста, камуністам.

І пачулі малыя, нібы залунаў
Па-над возерам голас магутны і чысты.

Прагучалі на ветры
Яго запаветы:

«Ці ты воін у скатцы,
Ці юнак баявы —
Палюбі сваю працу,—
І ты вечна жывы.

Беражы і ахоўвай
Залатыя правы
Нашай роднае мовы,—
І ты вечна жывы.

У бяду, ў небяспеку
Не ўгінай галавы,
Другам будзь чалавеку,—
І ты вечна жывы.

Не шкадуй для Радзімы
Ні турбот, ні крыві,
Пройдуць леты і зімы,
А ты — вечна жывы».

Яго імені той невялікі касцёр,
Гаварылі, відзён быў
не толькі на Нарачы.
Падышло, блізка ў твар зазірнула жыццё:
— Добры дзень вам, таварышы!

*1—3.VII.1957*

## ВОЛЖСКІ СШЫТАК

### ГУСІНАЯ ЧАРАДА

На туманістым золку
Са стромай лукі
Лёгка падалі ў Волгу
Пуху белага камякі.

Як гарлачыкі
даўгашыія,
Распускаліся над вадой,
Потым сталі яны птушынаю
Галасістаю чарадой.

А здавалася, што па небе
Хмары кружацца без грымот,
А паперадзе плыў, як лебедзь,
Наш трохпалубны параход.

### НОЧ НА ЦЕПЛАХОДЗЕ

Маці з дзіцем насілася —
Не хапала трох палуб,
Рук не чуе, падбілася:
Хоць хвіліну паспала б!

— Дай мне лапачкі,
коцэнька,
Раскажу табе казку:
Куры строілі лапцікі,
Гусі чысцілі боцікі,
Зайчык пугаю ляскаў...—

Туліць лапка мурзатая
Паркалёвага зайца,
А лясныя, пухнатыя,
Гэтак соладка сняцца!

Месяц жоўтаю грыўняю
Зазвінеў за кармою,
І павеяла жніўнаю,
Спелай рускай красою.

Маці сына пагойдвае,
Прыкархнула пры сценцы,
Зябка ноччу пагоднаю
Ёй у лёгкай сукенцы.

Грудзі трохі расхрыстаны,
А ніхто не ўсміхнецца.
Прамінаюцца прыстані,
І здаецца, здаецца,

Што не сонная, ў тапачках,
А расказвае Волга
Пра Чырвоную шапачку
І пра Шэрага воўка.

*

Каля Угліча мы стаялі,
І я ўспомніў майстроў старых:
Па-блюзнерску яны пісалі
Багародзіц з жанок такіх.

Не таму, каб аблічам светлым
На малітву вялі людзей —
Хвойнай гліцай, малочным ветрам
Патыхала ад іх грудзей.

Жыта жалі, варылі юшку,
Звонка лаяліся на плытах,
І заўсёды ў кожнай замужкі
Дзіцянё было на руках.

## СТАРЫЯ ТАВАРЫШЫ

«Пятроў і Сяргееў!
Вас просяць наверх да старпома!» —
У гурт пасажыраў гукнуў маладзенькі матрос.
Выходзяць: сівыя, у воку агеньчык знаёмы...
Няўжо гэта з імі сустрэчу наладжвае лёс!

Пятроў і Сяргееў — байцы каменданцкага ўзвода!
Пакліч аднаго — абзавуцца канечне ўдваіх,
І спяць толькі поруч, і ў шэрагу поплеч заўсёды,
І раніла разам абодвух на Волзе ў баі.

Мне подпісы нудзяць — на сценах, на горах,—
а гэты
Чытаў з асалодай у грозным берлінскім муры:
«Мы тут пакурылі. Пятроў і Сяргееў.
З прыветам!»
І фарбы на клічнік не пашкадавалі сябры.

Гарачая хваля ударыла ў борт і пад сэрца.
Бліжэй падыходжу, штурхаю ў плячо плечуком:
— Пятроў і Сяргееў! Давайце абдымемся, чэрці!
Знайшоўся таварыш. Няхай пачакае старпом.

## ВОДГУКІ БАЕЎ

Часіна змяркання. Маўчаць рубяжы агнявыя.
Наліта па стопцы, накроен адсвежаны хлеб.
— Паветра! Трывога! —
Нібыта мяцеліца вые
І вее снягамі ў апалены вераснем стэп.

Нам сыплюць паперкі — змастачаны брудна і
блага,
Высоўваюць джала і сыкаюць: «Штык у зямлю»...
Ударыць зямлю? Замаўчы, языкаты бадзяга,
Не толькі сваю — я ніколі не ўдару тваю!

Што ты нарадзіўся, ці ў гэтым яна вінавата?
З благога насення расце ў збажыне дурнап'ян.
Ты так гадаваўся, манілася стаць прыганятым:
На карту ўзаб'ешся, на свеце рассядзешся — пан!

Дарэмна галосіш! Відаць спевака па палёту,
Чым крык галасней, тым бліжэй, неадкладней
канец.
Тваю карталюшку, хіба для вядомай турботы,
Калі-нікалі, скамячыўшы, падыме баец.

Штыком з нашых руд я ў зямлю пакладу цябе
прахам,
Навылет праб'ю, а яе, залатой, не крану.
Дажджом спаласну, дам абвеяць вятрам, каб
ачахла...
Пятроў і Сяргееў! Мы разам пачнём баразну.

## МАТЧЫН КЛОПАТ

Зямля Паваложжа! Як шмат я табе абавязан —
Навукай вайны, чалавечай уцехай скупой.
...У полі хаціна. Сланечнікі над пералазам
Паводзяць за сонцам прастрэленаю галавой.

Мы скончылі бой: пры люстэрку малой ручаіны
Памыліся трохі, паскрэблі абветраны твар.
І так засмылела: пабыць пад страхою часіну,
Прысесці на зэдлік, пачуць, як пяе самавар.

Даўно гэта прага расла неадольна, нязводна:
Паўгода ж не бачыў, не нюхаў ніводзін жытла,
Масціліся ноччу, у снезе, на роднай, халоднай,
А ўранні — зямля нам абрусам і лавай была.

На пальчыках, ціха, пайшлі мы да мазанкі нізкай,
Як быццам на свята у хорам высокіх навук.
Ад'ехалі дзверы: ляжыць за парогам запіска.
На лёгкай тканінцы пад столь гайдануўся павук.

Сяргееў чытае:
«Ты, мусіць, галодны, салдаце,
У шафцы пашар і пад'еш, не стыдайся, сынок...»
Цыбуля, сухар...
Колькі б ты ні пакінула, маці,
Мне сілу адновіць падзелены напал кусок.

...Зенітка. Адна. Потым сотня адразу грукоча.
З крыжамі на крыллях пад хмарай навала паўзе.
Пятроў і Сяргееў хаваюць вільготныя вочы
І з хаты выходзяць, паклаўшы бляшанку энзэ.

* * *

— Някепска жывём,
я трымаю пяршынства па мясу...
— А ты папытай,
хто каго перакрыў з малаком!
Пятроў і Сяргееў, суседзі, старшыні калгасаў,
Сабраліся ў горад, на пленум паклікаў райком.

Я сам не прыкмеціў у спрэчцы, ў запале гаворкі:
Злузаліся раптам з магутных плячэй пінжакі,
Махнуўшы крысом, узляцелі на іх гімнасцёркі,
І снег сівізны атрусілі з галоў дружбакі.

## АПОШНЯЯ КУЛЯ

Хлопцы выводзяць з падвала фон Паўлюса,
Звалена зброя, як сучча ў лаўжы.
Крэкчуць палонныя: «Даваяваліся!» —
І неўзаметку зрываюць крыжы.

Сціплы праменьчык зары сталінградскае
На запацелым штыку заіграў.
Упершыню я, з адшпіленай каскаю,
Не прыгінаўся, не бег, а ступаў.

Трохі кантужаны і абмарожаны,
Нешта спяваў, хоць не чуў, што пяю,
Вернай лапаткай ад стрэлу трывожнага
Не захінаў я грудзіну сваю.

Раптам успыхнула знічка агністая,
Грымнула рэха ў аконны прахон:
Куля апошняя ўсё ж такі свіснула —
Вораг ёсць вораг, і ўзяты ў палон.

Як не шукаць! Сто руін абшукалі мы!
Быццам растаў ці хапіў яго звод:
Недзе зашыўся стралец недасмалены
І пацягнуўся з калонай на ўсход.

Можа, пасля, звераваты, пануранны,
Ён адрабляць сваю шкоду пачаў,
Цэглу насіў на будынак разбураны,
Вапну гасіў, а душу раздзімаў.

Хай яму трызніцца, хай яму блюзніцца
Пра уваскрошанне дзей нежывых —
Вораг ёсць вораг! Бываюць саюзнічкі,
Вось паспрабуй адбівацца ад іх.

Мы аддыхнулі і пераабуліся,
А не таймуецца ў свеце дасюль
Куля, якая са мной размінулася,
Самая злая, апошняя з куль.

Ці то ў прамове замежнага дзеяча
Востранька ціўкне яе галасок,
Ці то, уплывы ў калоніях дзелячы,
Дыпламатычна прашые пясок.

Б'е вадародная трасца з хваробаю
Буйных і дробных дзяржаў паўкапы...
Не пераробіцца тое, што зроблена,
Што пачалі малаты і сярпы.

**ПОЛЕ**

Пшаніца! Трэба падзівіцца,
Шуміць нароўні з галавой,
І кожны колас мне як быццам
Гаворыць:
«Я — таварыш твой!

З табой адною верай верыў,
Адным агнём заўжды гарэў,
Адною мерай гора мераў,
Адною лыжкай страву еў».

Я знаю гэтыя разлогі:
І тут, і там стаяў салдат...
Шумуе поле перамогі
Прыбоем дарагіх зярнят.

## МАМАЕЎ КУРГАН

У гэтых месцах быў, нібыта,
З канём закопаны ў курган,
Дружынай рускаю разбіты,
Татарскі це́мнік, ледзь не хан.

Тут пыл курэў бы ад Мамая —
Бамбёжкі сто разоў на дні,
А мы трываем і трымаем,
Сядзім на гэтай вышыні.

Даўно мінула ўсё...
Магчыма,
Мамай і ўслаўлен курганом,
А дзе ж крыклівенькі мужчына
З віхрастай грыўкай над ілбом?

Іду з гары, іду з вайны я...
Гудуць далёка трактары,
І лёгка ў ба́кі вадзяныя
Бразджаць, дурэючы, вятры.

## НА СТАЛІНГРАДСКАЙ ЛЕСВІЦЫ

Прычал. І недаступны горад
Ні злым намерам, ні вачам,
Са сцен сваіх, цераз пагорак,
Спускае лесвіцу гасцям.

Бяжым, адольваем усходы.
Высачыня!
А ўверсе, там,
Зялёнай волжскай прахалодай,
Надзьмуўшы шчокі, б'е фантан.

І сотні вадзяных свісцёлак
Кідаюць срэбра па кустах.
Вядомы нам у многа столак
Крунейшы схіл, цяжэйшы шлях.

Калісьці ворага ў аблогу
Тут мы ўзялі.
І дзень у дзень

Ішлі, рабілі перамогу:
Ступень, пасля
яшчэ ступень.

Тут наша ўсё — у гэтай рысе!
Калі наперадзе струмень,
Не адхіліся, не спыніся:
Ступень,
пасля —
яшчэ ступень.

* * *

Па кветніках, чырвоным жвірам,
Палаючым, як жар кастроў,
Дайшлі мы да праспекта Міру
Праз плошчу Паўшых Змагароў.

І, зразумеўшы, замаўчалі...
Таварыш, капялюш здымі!
А вуліца ляцела ў далі
З дамамі, птушкамі, людзьмі.

*1957—1958*

## РАДКІ МАЕ

Не ўключаныя ў аднатомнікі
З аправай вокладак цяжкіх,
Я вас люблю, радкі-бяздомнікі,
Вы ўсё на сцежках баравых.

На трактах, на шляхах чыгуначных,
Гарачынёю і ў мароз
Вы ўсё ў дарозе...
А падумаўшы,
Ці вам патрэбен іншы лёс?

Заціснуты шклянымі дзверцамі
У пыльны змрок бібліятэк,
Не чытаны людскімі сэрцамі
Сабе б вы ўкарацілі век.

А я смяяўся — вы смяяліся,
Я сумаваў — тужылі вы...
Сябрам на памяць вырываліся
Лісткі блакнотаў франтавых.

Хоць вечным лаўрам не адзначаны,
А шмат на вуснах дружбакоў
Па-свойму імі перайначаных
Маіх ды не маіх радкоў.

Я ведаю, ужо не сышчацца,
Не вернецца ніводзін верш,
А досвіткам другі напішацца,
А заўтра зноў...
І, можа, лепш.

*1955*

## ПОДПІС

Мой подпіс вядомы — нашто завяраць!
Яму не патрэбны ні штамп, ні пячаць.

У новых мара́х памакнуўшы пяро,
Я подпіс пачаў перад самай зарой,
Палямі павёў, кладучы баразну,
Урэзваў у стэп, аручы цаліну,
У домне яго выплаўляў я з руды,
Як літары, ставіў у ім гарады,
Вясёлай сцяжынай электраагнёў
У дольных прасторах той росчырк правёў,
Прадоўжыў на хмары магутным крылом,
На варце граніцы паставіў штыком.

І далечы неба, і земную шыр
Мой подпіс займае.
Мой подпіс за мір!

*1955*

## СТАРАДЗЯРОЎ

Стаіць пад яблыняю дзед,
Румяны, свежы, як ранет,
Нібыта ён з галіны
Сышоў на паўгадзіны.

Руку трасе, у юнака
Мацней ці знойдзецца рука!
Дарма што з барадою,—
Б'е вока сінявою.

Ды хітра жаліцца стары:
— Патрэбны, чуеш, дактары —
Ужо нічога я не варт...
І цягне ён даўнейшы жарт:
— От, каб старога прасмаліў
Ды зверху бляхай абабіў,
Дык, можа б, зноў зрабіў заход,
Адгрукаў столькі сама год.

Калісьці на такіх дзядоў
Казалі скрозь — старадзяроў!
Наслухаўся іх жартаў,
Начаставаўся з квартаў!

Глядзіш, зусім нядуж ляжыць,
А выведзі вясною ў гай,
Кляновіку напіцца дай,—
Пачне цягаць галлё ў лаўжы,
Пасля сякеркаю махне,
Пасля на поплаве гукне,
Пракос пацягне да ракі.
Хоць мерай шнурам напрасткі.

Ні ў чым не знойдзеш ганьбы:
І еў, і піў, і лгаў бы...

Прадвеснем і ў дасевак
Пільнуйце, хлопцы, дзевак!

*1955*

## КАБ...

Нейк пад вечар два калгасных старшыні
Размаўлялі аб карове, аб свінні:
Каб карова больш давала
малака,
Каб узяць па кублу сала
з парсюка,
Каб блізнятак ад авечкі
мець часцей,
Каб на дзень па два яечкі
ад курэй...
Шмат лічылі...
З гэтых «каб» ды «каб»,
Пэўна, бочка поўная была б,
Але як бы ні круцілі языком,
Не цячэ з яго ў дайніцу малако.

*1955*

## ТАПОЛЯ

*Сябрам-празаікам*

Строй тапаляў разложных
Выглядаў так панадна:
Кожны лісцік на кожнай
Быў апісан дакладна.

Бура грымнула ў полі
Ды ўзяла нечакана
Паваліла таполю
На пачатку рамана.

Пасля гэткай навіны
Цэлых восем раздзелаў
Церабілі галіны
З тапалінага цела.

Шмат адны разважалі,
А другія паволі,
Без развагі і жалю,
Пілавалі таполю.

Адшумела калоссе,
Людзі добра працуюць,
Вось і восень на носе,
А яе ўсё пілуюць!

Што казаць, эканомна
Прыбіралі таполю.
Пухне твор мнагатомны,
А яе не каголі.

Многа трэба ўдараў
Тапаром па калодцы...
Гэта дрэва нядарам
Не жадае калоцца:

Як парадкаваць трэскі
І збіраць пілавінне,

Будуць дадзены весткі
Аж у трэцяй часціне.

Будзе ворагам пастка,
А герояў пахваляць,
Будзе пятая частка,
Покуль дровы падпаляць.

То ўгарацца памалу,
То чарнілам зальюцца...
Лёгкі дух, нетрывалы,—
Тыпы не дапякуцца.

Клопат! Дойдуць і заўтра.
Гэта ж, можа, не пернік.
Дроў не стане, дык аўтар
Зноў камлюгу аберне.

Аднастайна і тонка
Снасцю вельмі тупою
Да апошняй старонкі
Дратавацьмуць тапалю.

Бо ад вострае пілкі
Ды ад спраўнай разводкі
Для мастацкай пасцілкі
Будзе твор закароткі.

А якога там смаку
У нятоўстым рамане?
Значыць, пляж небараку,
Прадаўжай пілаванне!

*1955*

## НЯКЕПСКІ ХЛОПЕЦ

Над ракою хлопец жыў,
І някепскі хлопец быў.

У парадку меў анкеты,
Працаваў,
Замяняла брак асветы
Галава.

Дасць памылку, хоць не часта,—
Скажа сам.
Падабаўся ён начальству
І сябрам.

Аб адным была трывога:
Хлопец — хват,
А пакойчык для такога
Цеснават.

Не сказаць, што вельмі просіць
Лепшы кут.
«Мне пакуль,— гаворыць,— досыць,
Рэчка ж тут!»

За ракой і луг, і кветкі,
І гаі,
Насупроць акно суседкі,
А за ім...

Ах, суседчына акно!
І прывабнае ж яно...

Там прастора і паветра...
Вось бы ўзяць:
Тры пакоі, кожны метраў
Дваццаць пяць!

Падкаціўся ён з гаворкаю
У цішы,

Ён заве жанчыну зоркаю
Душы.

Слёзы лье, іграе ў драму
З дарагой,
Прапануе выйсці замуж
За яго.

А жанчыне сорак нейкі
Быў гадок,
Ды ад пашпарта утоен
Быў чуток.

«Быць адной? — мяркуе.— Хопіць,
Пабыла!
Трэба йсці — някепскі хлопец».
І — пайшла...

Тыдзень, два. Прайшлі любошчы,
Быццам сон.
— Вызваляйце мне жылплошчу,—
Кажа ён.—

Начапіў я не па ўзросту
Хамута,
У мяне ёсць жонка — проста
Любата!

Але, ўлічваючы ваш пахілы век
І што я вам мілы чалавек,
Дазваляю ў кухні працаваць:
Мыць,
Варыць
І сукні прасаваць.—

І зажыў някепска над ракой
Той някепскі хлопец з маладой.

Госці чарку заядаюць
Акунько́м,
Хлопец душу спавядае
Вечарком:

— Пахіснуўся, прызнаюся,
Сам кажу,
Абвяла мяне бабуся,
Сам тужу!

Вінаваты, прабачайце,
Хто без плям?..
...Брыдкавата і начальству,
І сябрам.

Ды рукой махаюць:
«Клопат!
Толькі й спраў.
Ён усё ж някепскі хлопец,—
Сам прызнаў».

Што ж трывожыць кодэксы
Дарма,
Там пакуль артыкулаў
Няма.

Вось чаму
Судзі па сэрцу,
Мой дружбак:
Дзе б ні стрэўся
Гэтакі мастак,—
Ты руку за спінай
Прытрымай:
Ні па дружбе,
Ні па службе
Не падай.

*1955*

## ВЯСНА

Дзесьці з-пад Слуцка, а можа, з-пад Любані
Нехта ідзе па набракшых палях...
З гнёздаў буслы пазіраюць і дзюбамі,
Стрэлкамі нібы, паказваюць шлях.

Зграбная постаць вырастае ў далечы,
Штосьці знаёмае ў ёй пазнаю:
Голлем прысад, быццам крыллем гайдаючы,
Душу і песню турбуе маю.

То прабяжыць, як дзяўчо неўспагаднае,—
Пырснуць пралескі на сцежцы лясной,
То нечакана задзівіць і ўзрадуе
Сталай і шчодрай жаночай красой.

З добраю ласкаю зерне прадрогшае
Цёплай зямлёю агорне — мужай!
Ступіць — і дзень неўзаметку пабольшае,
І захлынецца ад шчасця ручай.

Клопату многа ў мае падарожніцы:
Нівы, каханне і дожджык касы.
Не наракайце, што трохі апозніцца,—
Будуць у часе шумець каласы.

Дыхае вецер смалістаю гліцаю,
Сінія травы кустамі растуць.
Блізка яна!
І гудкі над сталіцаю
Так заклікальна пад ранне пяюць.

З Маем пры людзях вясна абдымаецца,
Бы ўпершыню ёй насустрач іду.
Вокны і дзверы ў дамах расчыняюцца —
Добрую пару я ў горад вяду!

*1956*

## РАЗМОВА З ДАЧКОЮ

Ты паглядаеш прагна з-за вокан:
Слаўна! Сягоння зазімак,
Белыя вуліцы, сцягі навокал,
Свята святкуе Радзіма.

Добра, дзяўчынка. Вось ужо восем
Б'е на гадзінніку сінім.
Першы марозік: шапачку возьмем,
Шалік на плечыкі ўскінем.

Пойдзем!
І ўдарыла свежасць паветра,
Музыкі шумныя воды.
Нават на нашай вуліцы светлай
Крышку святлей, чым заўсёды.

Не адгадаеш, адкуль гэта ззянне,
Можа, ад нашых усмешак
Ці то ўмываецца сонца на ранні
Снегам з нятоптаных сцежак.

Стала цішэй на пачатку парада,
Зараз адзвоняць куранты.
Войскам насустрач з-пад эстакады
Грымнулі марш музыканты.

І самалёт, абганяючы гукі,
Промню сядае на плечы.
Вочы па небе бягуць, а рукі
Крыллем птушыным трапечуць.

Рушаць калоны.
Здаецца, ў сталіцы
Твар ад марозу ружовы.
Я пазнаю дружбакоў-металістаў,
Ты — сваіх школьных сяброўак.

Ды на хвіліну, праз мае вочы,
Глянь, што мне памяць малюе:

З рук ашалелай чэрвеньскай ночы
Я цябе вырваў, малую.

Хоць нечакана на дом напалі,—
Не пакарыць Беларусі!
Рэкі гарэлі, сэрцы палалі —
Вораг наш захлынуўся.

Толькі ж ізноў прасціраюцца кіпці,
Плачуць пад бомбамі людзі...
Ўчора ў Карэі, сёння ў Егіпце,
Заўтра...
Тых кіпцяў не будзе.

Ды не дзівіся, я ўспамінаю
Гэту цяжкую дарогу,
Каб ты адчула, мая малая,
Як берагчы перамогу.

*1956*

## ПАРТЫІ

Ішла ты з падполля, у бітвах расла праз навалы
З адзінак у сотні, у тысячы, у міліёны.
Быў хлеба кавалак,— яго ты на ўсіх нас ламала,
А сцяг разгараўся,
адзіны на свеце — чырвоны!

Ты нас павяла на вяршыні, на штурм пяцігодак,
Заенчылі здраднікі, загаласілі клікушы.
Мы ўсё здабылі,
што й не сніў працавіты наш продак,
Цяпер гаспадарым у небе, на моры, на сушы.

Ты мела ў шляхах невымерна суровыя страты —
Ільіч адышоў у спрадвечную засень спакою.
Сястра да сястры,
брат плячом прыхінуўся да брата,
І ты ні на міг не адчула сябе сіратою.

Мой друг і сучаснік! Не знаю святлейшай часіны,
Як зноў перачуць, над жыцця свайго картаю,
Той момант, калі стаў жывой,
неадлучнай часцінай
Турботаў тваіх і душы твае, партыя!

Яшчэ я ў райком не пісаў афіцыйна заявы,
Білета не меў, не было асабістае справы —
Я ўзносы работай сумленна плаціў, без спазнення,
На ўліку стаяў, як і кожны з майго пакалення.

Гукнеш — абзавуся,
твой просты салдат, на паверцы.
Пашлеш — дамагуся, здабуду яшчэ перамогу.
Не ўся цаліна абудзілася ў стэпах і ў сэрцах,
Дык вочы — на компас, а рукі — на руль.
І ў дарогу!

*1956*

## СТУКНУ-ГРУКНУ

Стукну-грукну ў дзверы сенечныя:
— Добры дзень!

Выйшла ты — нідзе не дзенешся! —
Стала ў цень.

А ў вачах мігаецца па плямцы,
А рука трымаецца на клямцы...

— Можа, падвяла мяне дарога,—
гавару,—
Прывяла не да таго парога,
не ў пару.

Вусны сціснуты дзяўчыніны,
Дзверы ў хату не адчынены.

І гаворкі больш няма...
Добра, што стаіць зіма,
Ды ніколі столькі снегу не было,
Каб табе і ў сэрца намяло.

— Выбірайся і з сянец,
маладзец!
Тут, выходзіць, ад варот
паварот...

Я паеду, але скрыпу палазоў
Не забудзеш ты да новых маразоў.

*1956*

## ЯК ЗА РЭЧКАЮ

Як за рэчкаю, за быстраю
Ходзяць хлопцы белабрысыя.

Ходзяць хлопцы маладыя,
Люба-дорага страчаць,
Ходзяць хлопцы, ды не тыя,
Не магу я ўпадабаць.

Каб сюды ласкавага,
Вунь таго, чарнявага.

Ён за рэчкаю, за быстраю
Ходзіць з нейкай белабрысаю.

*1956*

## АСЦЯРОЖНЫ КРЫТЫК

Выдаў майстар кнігу,
Вынасіў сумленна.
Асцярожны крытык
Пахваліў:
— Не дрэнна!

Трапіў слабы вершык
Дзесьці ў друк насценны.
Памяркоўны крытык
Працадзіў:
— Не дрэнна!

Нешта спёк халтуршчык,
Наманіў страшэнна.
Той жа самы крытык
Кажа зноў:
— Не дрэнна!

Нездарма ўжываюць
Гэты гнуткі вобраз!
Сказана: не дрэнна,
Значыць — і не добра.

Проста ж не пахваліш,—
Раптам хто паганіць?
Проста не паганіш,—
Раптам хто пахваліць!

Трэба добра ўзважыць
Справу папярэдне,
І ні так, ні гэтак,
А цаніць сярэдне:

«Як ні хрэн, ні рэдзька,—
Значыцца — картопля;
Як ні бот, ні лапаць,—
Значыцца — пантопля.

Ні чарпак, ні міска,—
Значыцца — бутэлька;
Ні пінжак, ні порткі,—
Значыць — камізэлька».

І куды захочаш,
Ён паверне зараз:
«Што ні верш, ні проза,—
Тое, мусіць, нарыс;

Што ні хлеб, ні каша,—
Значыцца — зацірка;
Калі не прадрана,
Дык магчыма дзірка!»

Ой, даліся ў знакі
Гэтыя адзнакі!
Крытык асцярожны,
Больш трываць няможна!

Гавары ты ў вочы
Проста чалавеку:
— Ні партач, ні майстар,—
Значыцца — няўмека.

Трэба ж навучыцца
Вызначаць з адвагай:
Што такое — добра,
Што такое — блага!

*1956*

* * *

Ліло.
Адмарасіла.
Пасля — ізноў ліло.
Стары ў ватоўцы сівай
Пахуквае на шкло.

Махне рукой на шыбу,—
Давай наводзіць нож.
Паруе за сялібай,
Як з лазні, цёплы дождж.

Каб крышку падсушыла...
Хоць брый, гарыць лязо.
Хацеў вязаць фашыны,
Паваяваць з лазой.

Зноў шапачка-магерка
Паглядвае ў акно...
За поясам сякерка,
Навострана даўно!

— Падмочана работа,—
Мармыча:
— А няўжо ж
I заўтра будзе слота?
Дакучлыў чортаў дождж!

*1956*

## ТАТА-ПАМАГАТЫ

Аляксандр Пятровіч Рак —
Чалавек салідны:
На прамовы ён мастак
І работнік відны.

Хоць дзесяткаў да пяці
Мала не хапае,
Раптам ён пачаў расці —
На вачах шугае.

Загаворыць: мех цытат
З класікаў навукі,
Проста цэлы вадаспад —
Настаўляйце рукі!

За гады другі б растрос
Багажу палову.
Аляксандр Пятровіч рос
Творча, ўсебакова.

Мае добры кабінет
І сядзіць патрошку:
Да вучобы стол хіне
На дубовых ножках.

Дзве паперкі падпішы,
Глянь у бліжні сектар
Ды чытай сабе ў цішы
Ці крымзоль канспекты.

Супрацоўнікі штодня,
За начальствам следам,
Узяліся папаўняць
На рабоце веды.

Папрыходзяць, справы ўбок,
Дастаюць пеналы.
І швейцар, сівы дзядок,
Навучаўся стала.

Дзе там дзверы адчыніць
Ці падмесці зранння!
Стол паставіў і сядзіць
За чыстапісаннем.

Агарнуў такі запал
Навучэнцаў гэтых, —
Не ўстанова — філіял
Універсітэта.

Стараваты шкаляры,
Ды студэнцкі звычай:
— Па стыпендыю, сябры! —
Іх касірша кліча.

А ў рабоце заняпад,
Што ні возьмеш — блага...
І ва ўсім быў вінават
Рачы сын, стыляга.

Не любіў малодшы Рак
Каля кніг старацца,
Дзесяць класаў ён сяк-так
Скончыў год у дваццаць.

Сам не здолеў бы таго,
За яго канчалі:
І пісалі за яго,
За яго рашалі.

Не прайшоў у інстытут,
На завочны ўпхнулі,
Не спраўляюцца ўжо тут
Маці і дзядуля.

Бацька ўзяўся за урок —
Прэч уся работа!
А сыночак на каток —
Чэмпіён факстрота!

Светла-жоўтыя штаны,
Пінжачок з распоркай.
Прывыкае да маны,
З роту пахне «горкай».

Бацьку пах той не чуцён,
Не відна слабіна:
Любіць ён ці губіць ён
Недаростка-сына?

І сядзіць пасля званка,
Як службіст заўзяты,
Піша працы за сынка
Тата-памагаты.

Завучыўся ўрэшце Рак:
На адной паперы
Падпісаў не Рак, а Гракх *
І дадаў — Тыберый.

Шум падняўся, сабантуй,
Наганяй, вядома:
— На рабоце ты працуй,
А вучыся дома!

І мясцком яго прабраў,
І ў насценгазеце...
Не вядзе старонніх спраў
Рак у кабінеце.

Стаў вучыцца дома штат,
Праца не кульгае,
Пройдзе год і атэстат
Той ці іншы мае.

Ну, а як жа з тым сынком,
Кажуць, рак не свісне?
Не, сын будзе мець дыплом,
Калі Рак націсне.

*1956*

---

* Тыберый Гракх — палітычны дзеяч у старажытным Рыме.

* * *

Ляснуў мокрай пугаю
Гром па-над акругаю.
Паглядаю на акно:
Не, нікога не відно.

Мусіць, за сасоннікам
Мыюць хмары сонейка,
А пакуль жа выстраяць,—
Я ўсю ночку выстаю.

Сэрца не счакаецца,—
Вось ужо і раніца,
Росы беляць палатно...
Не, нікога не відно!

Пачынаюцца прыпеўкі,
Ходзяць дзеўкі,
Носяць дзейкі:
Недзе,
Нешта,
Нехта-нейкі.

Хоць бяжы параіцца
З вернаю сяброўкаю,
Ды яна займаецца
Хлопцанарыхтоўкамі.

Ліпнуць дурні след у след!
Не адзін наш сельсавет,—
Паўраёна тупае
За такою ступаю.
Я прыйду туды:
— Прывет! —
І свайго застукаю.

Гляньце на нягодніка!
Ты чаго тут, родненькі?

*1956*

## РОЗДУМ

Калі табе зайшло за сорак,
Як ні круці — не малады!
Кране жыццё: ляціш, як корак
З паўпляшкі содавай вады.

А ты ж яшчэ не ўсё пабачыў,
Шмат не расчуў у шуме дрэў,
Не прычакаў зусім удачы,
А смутку вельмі многа стрэў.

І мімаходзь пачнеш збірацца...
Куды?
Каб ведаў...
К д'яблу змрок!
Ты столькі не паспеў дазнацца,
І ўжо рабіць астатні крок?

І свет ясней, і сонца вышай,
І меней для жыцця пагроз:
Яшчэ бялей пялёсткі вішань
І зеляней лісты бяроз.

Пра ўсё, што толькі вока ўхопіць,
Казаў бы ты і шырыў круг.
Адна бяда — жыцця не хопіць.
Ды дзесьці блізка ходзіць хлопец,
Ён малады...
Хіба што ўдвух!

*1956*

## ШУМЕЛІ БЯРОЗЫ

*З кінафільма «Палеская легенда»*

Шумелі бярозы на гром ці на вецер,
Шумелі бярозы.
Паехалі хлопцы на дзень ці на тыдзень
Ад Белае Русі.

Паехалі хлопцы па долю, па волю
Да Чорнага мора.
А Чорнае мора белыя косці
Казацкія мые.

Паехалі хлопцы і шчасце і праўду
Шукаць на Дунаі.
А ў сінім Дунаі вада закіпае
Мужычай крывёю.

Жахнуліся хлопцы, пабеглі на конях
Да гораў Карпатаў.
А ў горах Карпатах падпалены хаты
Гуцульскай галоты.

Усюды на пана і ўвечар і рана
Працуюць і гнуцца.
І з кожнай бярозкі насечаны розгі
Для беднага люду.

Пачулі за ветрам, што коні заржалі
З парогаў Дняпроўскіх,
І далей на Доне казакі гамоняць —
Пачулася хлопцам.

— А мы не казакі, а мы не ваякі? —
Прамовілі хлопцы,—
Мы жывы не будзем, а волю здабудзем
Навекі, навекі.

Спрабуем, ці моцна прышыты галовы
Да панскага карку!

Ды так спрабавалі, што ў копы складалі
Паноў і падпанкаў.

Заціснула войска, як чорная хмара,
Адважных малойцаў:
Стралялі, рубалі, схапілі, пагналі
На кару, на мукі.

Ты слухай-паслухай: з халоднага жвіру
Гучаць галасы іх.
І тымі ж мячамі ваююць з панамі
Другія малойцы.

*1956*

6 Зак. 2682

## ШАПКА

*З кінафільма «Палеская легенда»*

Ехаў служка гарбузовы,
Пад ім конік буракові.
Быў бы пан,
Ды жупан
Мае лапуховы.

Чабоцікі ў служкі з морквы,
З гурочніку шыты порткі.
У пістоль
Сыпле соль,
Кулі з дробнай бульбы.

Свінні служку абступілі,
Порткі й боты златашылі.
Стаў страляць —
Не прагнаць —
Кулі пракаўтнулі.

Засталася ўцеха служку:
Толькі шапачка са смушку.
Той качан
Яму пан
Даў за пабягушкі.

Спаў ён п'яны у карчомцы,
А ў той шапачцы-кучомцы
Чорны жук
І пацук
Пратачылі донца.

Ён заплакаў голасам,
Заткнуў дзіркі коласам,
Потым лясь
Шапку ў гразь:
Ходзіць з голым воласам.

Лепш хадзіць у латаным,
Ды ў сваім, не хватаным,
Зрэбным, нерабованым,
Панам не дарованым.

Згінь ты, пан,
І жупан!
Маю волю:
Сам я пан.

*1956*

## НЕ КЛІЧ МЯНЕ

*З кінафільма «Палеская легенда»*

Не кліч мяне, вясна мая,
У белы цвет прыбраная,
Я тут хаджу засмучаны:
І з ёю, і разлучаны.

Ціхая ноч,
Шырокае поле,
Ды горкая доля...
Ой, цёмная ноч!

Вячорнаю часінаю
Не стрэнемся з адзінаю,
У садзе не наседзімся,
У вочы не нагледзімся.

Жыве яна за сценамі,
Халоднымі, каменнымі,
І толькі неба ведае,
Як плача сэрца беднае.

Падкупіць варту золата,
Акно адчыніць долата;
Тады каня я выстраю,
Ляці нагою быстраю!

Хмарная ноч,
Шырокае поле,
Ды вольная воля...
Ой, добрая ноч!

*1956*

## ЧАКАННЕ

*З кінафільма*
*«Шчасце трэба берагчы»*

Падае змрок,
Жыта бяжыць на сустрэчу,
Месяц за зоркай плыве,
Голуб галубку заве,
Ціха абняў вецярок
Мае плечы.

Хочацца пець
Лесу, зямлі і аблокам,
Як я хвіліны лічу,
Як да яго я лячу,
Ды засталося ляцець
Недалёка.

Любы ты мой,
З добрай і дужай рукою!
Сонца маё, узыдзі,
Шчасце маё абудзі,
Сэрца маё супакой
Маладое.

*1957*

## ТОСТ

Трохі завейнай, трохі пагоднай
Час надыходзіць начы навагодняй.
Толькі й бяды, што малыя палацы,—
Стол жа шырок, будзе добра спявацца.

Тым, хто радзіўся,
                    каб весяліўся,
Хто ажаніўся,
                    каб моцна любіўся,
Хто пасварыўся,
                    каб памірыўся,
Хто прачакаўся,
                    каб спадзяваўся,
Хто спрацаваўся,
                    каб мацаваўся,—
Год налівае і пачынае
Першае слова цёплай размовы:

— Будзьце здаровы!

*1957*

## ВЯСНОВАЯ РАНІЦА

Вясна павеяць падгадае,
І мы адразу — юнакі!
Шчака з румянцам,
маладая,
Твае кранаецца шчакі.

За брамаю мігцяць вясёлкі,
Ляціць крылаты плодны гром,
Абверчана ў блакіту столкі
Бяроза спляснула лістом.

І ты ўсім гэтым узбагачан,
Надзелен скарбам дарагім:
І маладосцю, і удачай,
З людзямі клопатам адным.

*1957*

## ДУБЫ

Колькі ўзнялося дубоў маладых!
Лісцямі ў прыгаршчы ловяць праменне,
Шарнць у глебе галодным карэннем,
І наліваюцца мускулы ў іх.

Цёмна-зялёныя знізу камлі,
Быццам абцягнуты замшай тугою.
Самы малы — не бярыся рукою! —
Самы магутны — не вырвеш з зямлі.

Проста растуць, каб да сонца бліжэй...
Люба старэйшым, асілкам плячыстым,
Ім, хто прастояў па дзвесце, па трыста.
Біцца з грымотамі многа лягчэй.

*1957*

## КАМЕННАЕ СЭРЦА

Жыў дарожны майстар пры гасцінцы:
Светлы дом, вішнёвы сад, як гай.
Там блукаў сп'янелы хлопец Май,
Даў ён кожнай вішні па хусцінцы.

Завязалі — стала белым-бела!
Хораша! — ражкі пад бараду.
Я храбёр, калі туды іду,
А дайшоў — і мова занямела.

У руках аж падлятае тачка,
Мокры жвір куды лягчэй, як пух,
Я рабіць стараюся за двух,
А прычына — майстрава сваячка!

Пастаіць за брамкай незамкнёнай,
Больш ані — яна адна відна,
Тая, што не вішня, а цвіла
І таксама ў хустачцы была,
Толькі што не ў белай, а ў чырвонай.

Мне яна з адказам не спяшала:
Хай праз год, як разаўецца сад!
...Колькі ні вяртаўся май назад,
І па гэты дзень не адказала.

Напрадвесні з лёгкаю душою
Падкруціўся месяц красавік,
Падхапіў яе на грузавік
І памчаў вільготнаю шашою.

Ды, аднак, у майстра я не лішні,
У яго характар не ліхі,
Папраўляем разам з ім шляхі,
Белім дрэвы, абрываем вішні.

Дражнячы дарожніка старога,
Што малечы ягад шкадаваў,

Хор дзяцей бясконца паўтараў,
Галаву тлуміў каля парога:

«Чырвоны колер,
Вінны смак,
Каменнае сэрца,—
Чаму гэта так?»

У загадкі просценькі адказ,
Можа здагадацца самы меншы:
Костачка вішнёвая у нас
Так і называецца —
                    каменьчык.

*1957*

## ШТО ТАК ПОЗНА

— Што так позна ты, дзяўчына,
З кім стаяла на ражку?
— Не магла раней я, мамка,
Ільнавод трымаў руку.

— А як той, мая малая,
Што здалёку пісьмы шле?
— Хай ён, мамка, прыязджае
Да сяброўкі, да мае.

— Ён прыедзе, ён спытае,
Дзе любоў мая расце?
— Але ж гэты так кахае.
Што як гляне — лён цвіце!

— А ты можаш мне прызнацца,
Што шаптаў на вуха ён?
— Ах, матуля дарагая,
Ён казаў: пасеем лён.

*1957*

## МАСТАК

Згасала сонца. Ён пісаў
Карціну.
Здавалася, што прычакаў
Часіну
І перадасць
Адным рукі ўзмахам
Чаўны, і снасць,
І ўзлёт дзюбатых птахаў.

Ды каб чуваць было,
Аб чым
            сумуюць чайкі,
Ды каб відаць было
На дне марскім
                              зары акрайкі.

Ён працаваў
Аж покуль змрок
Не ўпаў на бераг,
І фарбы сіняе не мог
Адрозніць зрок
Ад шэрай.

Аднак ён з месца не сышоў,
І вось уранні
Зірнуў на твор
І на прастор
Бяскрайні.

Схапіў ён тонка вагары
І колер хвалі,
І птушкі белыя ўгары
Нібы крычалі.

А ўсё ж не гэтым і не тым
Жыла карціна,
Зусім не дыхала б яна
І не свяціла,

Каб не трымцеў між сінявы
Ледзь-ледзь прыкметны,
Але імклівы, трапяткі
Рыбацкі ветразь.

І знаў мастак,
Хоць залічылі
Знаходку ў скарбы,
Што ветразь той
Быў выпадковы
Кавалак фарбы.

*1957*

## НЕ ЗАЎТРА, А СЯГОННЯ...

Ад браку паўнаты сардэчнай,
Ад непаладкі з пачуццём
Шыракамоўна, шумнацечна
Гаворяць аб нібыта вечным,
А не аб тым, што поўніць дом.

А ў доме столькі працы спорнай:
Пячэцца хлеб, снуецца ўток,
Сплывае пот салодкай зморай,
І толькі звяга пальцам пора
На непадмецены куток.

Ды хоць чадзяць старыя зёлкі,
Мазоль крывавы на руках
Куды пачэсней ад мяцёлкі,
Чым ад бясконцай балаболкі
На выгінастых языках.

Вайны званіцы шумна звоняць,
Чуць воўчы скогат з берлагу,
І я не заўтра, а сягоння
Тут, на астатнім перагоне,
Плячом Радзіме памагу.

*1957*

## ГАЛУБЫ

Сонцу вокны расчыняла
Наша хата між дубоў.
На падстрэшшы буркавала
Пара дружных галубоў.

У манішку з чорнай стужкай
Галубок прыбраны быў,
Нешта смешнае на вушка
Ён галубцы гаварыў.

Елі з рук яны каноплі,
Крыллем лопалі, гулі
І дажджу буйныя кроплі,
Быццам зерняты, дзяўблі.

Мы — людзей прымалі ветла,
Галубы гасцілі — ў іх,
Ім і нам у тое лета
Сама лепш было ўдваіх.

Праз гады, з даўгой вандроўкі,
Нас юнацкі дах прыняў:
Там да сівае сяброўкі
Голуб сівы буркаваў.

*1957*

## ГУСІ-ЛЕБЕДЗІ

Каля Браслаўскіх сініх азёр
Гусі-лебедзі мыліся,
Паглядалі ў прастор,
Ці дарог не забыліся
Цераз долы шырокія,
Цераз моры глыбокія,
Пад нябёсы сінейшыя,
На паветра цяплейшае.

Узляталі яны
Над палеткамі любымі,
Церабілі яны
Пёры жоўтымі дзюбамі.

Паднялося адно
За дакосінамі,
за дажынкамі,
І здалося яно
Снегавою пушынкаю.

Пачалі гагатаць,
Абляпілі ўсе купіны:
Час прыйшоў адлятаць,
А ляцець ім не рупіла.

І зайздросцяць сябрам,
Што па хатах прыручаны:
Сёння тут, заўтра там —
Гэтак жыць надакучыла.
Хіба раз яшчэ ім
Праляцецца для вернасці,
А пасля назусім
Гусі-лебедзі вернуцца.

На азёрны прасцяг
Прывандруюць крылатыя
Па шляхах, па агнях
Над ляснымі Дрысвятамі.

*1957*

## ВУЖ

*(з польскага)*

Вуж
паўзе
сабе
дарожкай,
не кране
ніводнай
ножкай.

Ён
пакратаў бы,
каб мог,
але
вуж
не мае
ног.

*1957*

## Я ЎСІХ СУСТРЭЎ

Я ўсіх сустрэў...
Пад хмарным небам
Лёс пасылаў мне з цягніка
Малочніц, дзядзьку з булкай хлеба,
Дзяўчо на модных капытках.

А там не ехала нікога,
З кім вам было святлей святло,
Хто, як увойдзе,— ад парога
Каб халадзіла і пякло?

І зноў хаджу я па вакзале,
Не маю права наракаць:
Мне ж тэлеграмы не давалі,
Не запрашалі сустракаць.

Я проста адчуваў, што недзе,
Адным з усходніх цягнікоў,
Яна, хвалюючыся, едзе
І, мусіць, кліча, каб прыйшоў.

*1957*

## ЖАР-ПТУШКА

Раптам кіне пець, свяціць пакіне,
І адразу цёмна ў доме сэрца...
Лепш праз дзверы выпусціць, бо згіне,
Вылеціць з акна, не азірнецца.

Ні паклікаць, ні шапнуць на вушка,
Вуліцы ламлю — не сустракаю.
Вось калі ты выпырхнеш, жар-птушка,
Чым назад прывабіць — не ўгадаю!

Праз туман разгледзеўся цяпер я:
Над палянай жоўкне поўны месяц,
Ты сядзіш у каляровым пер'і
На разгатай хвоі ў слуцкім лесе.

Ці шукаць падпірышча ў законах,
Ці стаўляць сіллё са смачным зернем,
Ці лавіць па трубках тэлефонных,—
Свет павернем, а ўсё роўна вернем!

Я іду!
Загуў прастор крынічны
І рассыпаў водгулле на ранні:
Недзе стрэліў дурань-паляўнічы,
І зляцела ў снег маё каханне.

*1957*

## МАЛЮНАК

Чалавек даволі паважаны,
У гадах, аднак яшчэ на ўздыме,
Твар яго вядомы гараджанам,
І хадзе зайздросцяць маладыя.

Ён хварэе — не лятае лётчык,
Лепш сказаць, паводзіцца, як хлопчык.

Ёсць у горадзе адно акенца,
Ён пры ім не-не дый апынецца.

Пастаіць на процілеглым ганку,
Паглядзіць, як на акне фіранку
Захінаюць голаю рукою,
Тонкаю, а белаю якою!

Потым за фіранкай цені стануць...
Ён ужо не мае сілы глянуць.
Мог быць там!
І асабліва горка,
Што ўзляцець не цяжка з панадворку.

*1957*

## АСТМА

Не спіць адзінокі стары чалавек,
Глядзіць на гадзіннік раз-пораз:
Канчаецца ноч ці канчаецца век,
Жыццё перабора ці хворасць?

Ён хоча заснуць і баіцца не ўстаць.
Здаецца — тупоча, здаецца — шасціць.
Абутак, якога яму не стаптаць,
Адзенне, якога яму не знасіць,
І кнігі, якіх яму не прачытаць...
Не спіць ён і лямпу баіцца гасіць.

Абняты ўсеўладнаю сілай зямлі,
Ён горка прызнацца прымушан,
Што блізкіх няма, а якія былі,
Дык толькі надужвалі душу.

Пашана, павага... Не злічыш, бадай,
Сяброў і знаёмых па працы,
А дома — няма каму шклянку падаць,
Калі ён пачне задыхацца.

А каб жа у горле камяк не душыў,
Каб вокам без слёз ён у свет пазіраў,
Ён самую ясную праўду б сказаў
І самую лепшую справу б зрабіў.

Чатыры паліцы, чатыры сцяны,
Дубовая мэбля цяжкая,
Чужыя нявесткі, чужыя сыны
І жонка — чыясьці, чужая.

Паветра! Наросхліст чатыры акны!
Паветра! І столь асядае...

...І маці, здаецца, на пасту ў прыпар
Нясе, пасаліўшы, скарынку,
Цалуе і гладзіць зняможаны твар:
— Ужо ты адбегаўся, сынку!

*1957*

## Я ВЕРУЮ Ў ВЕЦЕР ЭПОХІ

Дарогі, вышыні, прасторы —
Знаходзь, рызыкуй, узлятай,
У нетры ўрывайся,
дазоры
Кіруй у завоблачны край.

І ты безупынку прастуеш
Настрэчу жаданай пары.
А поруч таварыш працуе,
З якім вы навечна сябры.

Хоць ты яго зроду не бачыў,
Ды лепшай не знойдзеш радні:
Адны ж у нас мова і ўдача,
І справа, і зорка адны.

*

Работы, турботы наўкола,
І раптам чуваць нацямку:
Нібыта рыплівае кола
Заходзіцца недзе ў пяску.

Рыпяць надаедна гаворкі...
Спрытнюгі знайшліся цяпер:
Тавар заляжалы і горкі
Збываюць яны напавер.

На выгляд — нішто сабе людзі,
А хворы на сверб языка,
Усё яны судзяць і гудзяць,
Скрывіўшыся з-пад казырка.

І воды ім, бачыш, не тыя,
І посныя нашы харчы...
Бяруцца галовы пустыя
Пустыя пражэкты пячы:

Дзе крэслаў пастаўлена дзвесце,
Пакінуць не болей за сто,
То ляпаюць мелам, то дзесьці
Мазнуць каламаззю густой.

Балбочуць, заплюшчыўшы вочы,
Натруджваюць голас і слых,
Не бачаць і бачыць не хочуць,
Што сонца ўзыходзіць без іх.

Вось гэтак сядзяць пры дарогах
Заядлыя псы-дварнякі:
Не дом сцеражэ ад чужога,
А брэша на грузавікі.

Вось-вось пашматае машыну,
Ляціць ён — і страх, і краса! —
А лапа — каўзель!
І пад шыну.
І кропка:
ні брэху, ні пса.

*

Паблізу цягаецца вораг...
Таварыш!
Зважай і зважай,
Каб зерне з мякінай гаворак
Не кінуў яму пустабай.

Вось гэты — з кашэчай паходкай:
Абедае тлустым сцягном,
Вячэрае свежаю плёткай,
А дружыць выключна з рублём.

На ўзносы ж не выб'еш чырвонца,
Нібы да кішэні прырос.
Ды дзе там!
За месца пад сонцам
Хіба ён заплоціць узнос!

Вось гэты — увішны, як скочка:

Пасып яго дустам, як моль,
А шпунтам у кожную бочку
Прыткнуцца, панюхаць дазволь.

Напэўна, не ўгнулася б глеба,
Калі б ён папар узараў,
Каб вырасла бульбы і хлеба
Хоць столькі, як сам сапсаваў.

Заводзяць, як мухі-гудухі,
Пасеўшы ў вала на рагах,
Што нейкія маюць заслугі,
Што недзе праторваюць шлях.

Дык, значыць, пашану кадзі ім,
Пасцелю, як пух, прыгатуй,
Вядома ж, не хлебам адзіным —
Танчэйшым прываркам частуй.

І ўсё гэтай прорве замала,
Такому нішто не ў цане,
Руку, што касіла і жала,
Уедліва бэсціць пачне.

Чаму, бачыш, дрэнна памыта,
Не зроблен чаму манікюр!
А вецер павее —
і крытык
Ляціць з усіх лытак пад мур.

Дапраўды!
Бліжэй падыдзіце,
Сарвіце аздобы няўзнак,—
Вы ўбачыце, як пры карыце
Пражэцца аслізлы чарвяк.

Пакуль жа не знойдуцца лейцы,
Паўзе і паўзе па зямлі...
Калісьці
маладагвардзейцаў
Вось гэткія прадалі.

*

Даволі ўжо, дробныя душы,
Зачмурваць людзям галаву.
Вы гэта не смееце рушыць,
Чым дыхаю, чым я жыву.

Я кроўным — не паступлюся!
Ніколі, ніякай руцэ
Не дам для маёй Беларусі
Выпісваць заморскі рэцэпт.

Яна акрыяла навекі
З Кастрычніцкае пары,
Знайшлі мы выдатныя лекі
І самі сабе дактары.

Ужо засявае абшары
Праменне, здабытае з рэк.
Зрабіў гэта добры таварыш,
Старэйшы, чым я, чалавек.

Ты знаеш, мой друг пасівелы,
Як выраслі бальшавікі,
Аўрорыны першыя стрэлы
І ўсіх інтэрвенцый штыкі.

Пасля будаваў ты Радзіму,
Насіў яе подзвіг і крыж
І зноў, як у тыя гадзіны,
На свет па-юнацку глядзіш.

Якія шляхі ні натрапіш,
Каго ні сустрэнеш на іх,
Ты вока ніколі не страціш,
Пазнаеш сваіх і чужых.

Вядома табе,— а каму ж бы? —
Дазволяць і справы, і такт
Ушчуць нас, параіць па дружбе,
Што гэта ці тое не так.

Ды толькі другую турботу,
Як майстар, па праву прыняў:

Прамашку, благую работу
Папраў і на месца пастаў.

Нас любяць, усюды нам вераць,
Мы ўмеем праветрываць дом,
Калі ж загняздуецца ерась,
Дык знойдзецца рада агнём.

Так зброю ўздымаюць салдаты
У імя вялікай любві.
...А ласка твая скупавата,
І з губ не лятуць салаўі.

*

І я не чакаю аладак
Для гэтых шурпатых радкоў:
Абурыцца нейкі пазадак,
Сябе ў іх пазнаўшы ізноў.

Пазадкі развеюцца скора,
Ні зерня ад іх, ні сцябла,
Таму вось не ганьба, не сорам
За кожны узмах памяла.

Хутчэй бы, хутчэй хоць на трохі
Ачысціць такі ад трухі!
Я верую ў вецер эпохі,
Бязлітасны, свежы, тугі.

Валошкі не зводзяцца ў жыце,
І шлях — не люстраная гладзь.
Таварышы! Добра зірніце,
Я ведаю, з кім ваяваць.

Калі ў нашых землях навала
Пякельны праворвала след,
Радзіма ў мяне не пытала,
Ці маю партыйны білет.

Даверыла ўсё! І ў сакрэты
Мы разам пайшлі па вайне.
А ўздымуцца светы на светы —
Зноў, светлая, не абміне.

Таму вось я чую і бачу,
Як дзвесце мільёнаў вачэй,
Як гэтулькі ж сэрцаў гарачых
Радзіміных верных людзей.

Дарма, што на скронях зазімак,
Я з гуртам сяброў і гаёў
Заўсёды ў паходзе, Радзіма,
Праўдзівае шчасце маё!

Прад намі вялікасны вобраз
Высокага свету свайго,
Мы свет гэты ведаем добра,
Мы самі будуем яго.

*1957*

## СЛОВА СУЧАСНІКА

Чалавечы след у хмарах вытаран!
Пацярпі, яшчэ крыху памар:
Будзем цаліну асвойваць на Юпітэры,
Бульбы на развод папросіць Марс.

Хоць куды, шпарчэй за чорта лысага,
Заімчыць ракета з вецярком,
І на Месяц, быццам да Барысава,
З'ездзіш міжпланетным цягніком.

Не навінка вабіць альбо рай які,—
Я мацней за ўсё люблю Зямлю.
А ў сусвет ляцець не то што праўнуку,
Нават сыну не пераступлю.

Грэў сваю зямлю, калі было ёй холадна,
Галадаў, калі было ёй голадна,
Бараніў, каб не была патоптана,
Будаваў, каб шчасце мела з коптурам.

А ў планет палеткі не завораны,
Спіць у нетрах сталь, чарнее медзь.
Што рабіць, як жыць у дружбе з зорамі —
Мне самому трэба паглядзець.

*1957*

## У КАСТРЫЧНІКУ

Пад цяжкі молат на кавадла
Пакладзены абрыдлы свет.
...Вялізманыя прасцірадлы
У вёску хлынуўшых газет.

У хаце чад, мігціць газніца,
На спінах выступае соль,
Ні варухнуцца, ні прабіцца,
Бо лягуць сцены, лопне столь.

І не міргне ніводзін вокам...
Не меншы ціск і на двара:
Стаяць сяляне каля вокан,
Каля расчыненых дзвярэй.

А рыжы хлопчык пры камінку
Чытае тонкім галаском
Пра царскі дом, хістанні рынку,
Без выбару, усё прытнóм.

Ад тых газет усіх кірункаў,
Якія можна уявіць,
Пад ранне дзервянее думка
І галава як звон звініць.

Адно і ўцямна і няэмрочна
І парабку і кавалю:
Час надыходзіць безаброчна,
Бязвыкупна прыдбаць зямлю.

Выводзіў дзядзька лысым-лысы
Сяло ў скарбовыя палі:
— Наконт яе дэкрэт падпісан,
Пайшлі дзяліць! —
І ўсе ішлі.

Натоўп сачыў тады спаважна,
Як беларускі чалавек

Адмерваў саматужным сажнем
Шырокі клін.
Сабе.
Навек.

Я шмат чаго пісаў у сшытак,
Але, па грэблях ідучы,
Што згублена, а што забыта,
А гэта — не!
Як ні лічы:

Тады Кастрычнік нарадзіўся,
Шынель на плечы — і ў паход.
Шкада: вясковы летапісец
Меў усяго дзевяты год.

*1957*

## Я ХАЦЕЎ

Я хацеў на вячоркі прыйсці і сказаць,
Што не варта дзяўчатам так позна спяваць,
Што не трэба хлапцам каля вокан хадзіць
І гармонікам змоўклыя хаты будзіць.

Я пайшоў, ды музык не спыніў, бо даўней
І гуляў я пазней, і спяваў галасней,
А дагэтуль не змог, як не змогуць яны,
Расказаць аб усім, што пачуў ад вясны.

Ты, завея, мне скроні занось ні занось —
Усё роўна віруе мая маладосць.

*1957*

## ДЗЕНЬ ПРЫБЫВАЕ

Яшчэ злуецца зіма сівая,
Снегам шпурляе, ветрам шугае,
Але іначай шумяць хваіны,
І ў ручаіны
спеў ажывае,—
Дзень прыбывае!

І вось на ўгрэве пякнула кропля.
Грак адвільжэлым крылом залопаў.
Лёгка ўстаецца,
Спорна працуецца.
На кожнай вуліцы,
У кожным сэрцы,
У кожным воку па сонцуззяе,—
Дзень прыбывае!

Можа, дзе ў свеце ёсць сонца болей,
А каб святлей там было — ніколі!

Калі мы вывернем скібу ў разлогах,
Дык азарыцца для ўсіх дарога,—
І тым, хто першы след пракладае,—
Дзень прыбывае!
У чалавецтва
Светлага часу больш застаецца.
Змрок адступае.
Дзень прыбывае.

*1958*

## У ПАДАРОЖЖЫ

Толькі над горадам выблісне раніца,
Сцены рассуне прывычны пакой,
Вось ужо шлях пад нагой пасцілаецца,
Быццам хто коціць тканіны сувой.

Цвёрда ступаеш, і вока не мружыцца,
Многа навін абяцаюць гады,
Нават з футбольнай камандай падужацца,
Добра схапіўшыся, мог бы тады.

Толькі не гэта, а, мусібыць, іншае
Заўжды карціць, выпраўляе ў паход:
Мора шуміць між пагоркаў на Міншчыне,
Нафта шыбуе з палескіх балот.

Вось прад вачыма жывая, зялёная
Толькі адна,— а не дзесяць радзім,—
Са спадарожнікам, з Плошчай Чырвонаю,
З дрэвамі дружбы, што я пасадзіў.

Я не кіда́юся кемнасцю прадзеда,
Хоць не сягнуў ён далей ветрака,
Але сягоння ўжо сілаю ядзернай
Поўніцца мірная наша рука.

Не па чарэп'ях, вякамі раструшчаных,
Што пашанцуе ў зямлі адкапаць,—
Па акіянах, па сонцах прыручаных
Будуць мой час і мяне пазнаваць.

Гаспадары — маладыя, прыгожыя —
Клікнуць і нас за сталы да гасцей,
Хай выбачаюць, што пылу дарожнага
Мы не паспелі абтрэсці з плячэй.

*1958*

## РАСІІ

Сад у снежнай красе,
Рунь у сіняй расе —
Тваё імя, Расія!

Светлавокі хлапчук
Ў ласцы матчыных рук —
Твая радасць, Расія!

Шчыт жалезных дзядоў,
Меч сталёвых сыноў —
Твая слава, Расія!

Першы гром, грозны след,
Што пралёг на ўвесь свет,—
Твая веліч, Расія!

Гарадоў галасы,
Спелых ніў каласы —
Твая сіла, Расія!

На палях, на марах
Яркай чырвані сцяг —
Тваё сонца, Расія!

Людзі розных краін,
Мы з табой як адзін —
Наша маці, Расія!

*1958*

* * *

Не першы дзень, не першы год
Свет выбіраецца ў паход...

Пакуль мне лёс дае спачын,
Патурбавацца ёсць аб чым:
І сваяку
Падаць руку
Праз моры, цераз горы,
І ў небе кожнаму кутку
Пасланнь людскія зоры.

Трывогаю дыхнула ноч,
Раскроіў свет маланкі нож.

Абводжу вокам далягляд,
Агнёў шумуе вадаспад:
Як звады збыць,
Як затуліць
Ад шалу і напасці
Жыцця жывога рубяжы,
Што называюць шчасцем?

Калі ж ты, свет, астудзіш лоб,
Калі патрапіш зноў на троп!

*1958*

## САПЁР

Ставіць мінныя пасткі набітая толам Нямеччына,
Злосна маняць — Здаёмся! — з гарышчаў сцягі
на кіях.
«Эх, рвануць бы гняздо, атлусцелае
на чалавечыне,
Звезці зброю ў варонку, а зверху заліць акіян.
Больш не вылезлі б войны...»

Рачулка булькоча на ростанях...
І мякчэе сапёр:
— Не адно ж тут жыве груганнё! —
Бачыць ён: на траве
Спіць, раскідаўшы ручкі, светлавалосае
Хлапчанё.

Мусіць, ногі малога
І доўга і многа
Хадзілі,
Што ні выбухаў рокат,
Ні родныя крокі
Яго не ўзбудзілі.

Мо яно
Сестрыно,
Можа сябра, а можа суседа?
Шмат замучыў палон, заняволіў няродны прасцяг.
Засталося адно,
Не ўсачыла бацькоўскага следу,—
Спіць дзіця.

Ён хутчэй плашч-палатку з плячэй узмакрэлых
скідае,
Накрывае малое, сядае курнуць.
— Сёння,— шэпча,— дарую,
Нагода такая:
Хлопец добра заснуў...
А другі раз, дальбог жа, рвану!

*IV.1945—XII.1958*

* * *

Паўтыдня цягнуўся састаў да Берліна,
Вагоны без труб, без аконнага шкла.
Я ехаў і думаў: а што за краіна,
З якой завaрушня на свеце пайшла?

Казалі, цірольцы іграюць на флейтах,
На кожнай сцяне пастушкі, акварэль...
А вось падкруціўся шалёны ефрэйтар,
Па бубну ім даў, і замоўкла свірэль.

Усе сантыменты, усе пастаралі
Трымалі, відаць, для адману вачэй.
Ліслівыя ўсмешкі яны пасціралі,
Запал ваяўнічы наўкол засквірчэў.

Сустрэлі ваяк мы і ахаладзілі,
Ад Волгі на Одэр — не жартачкі шлях!
З руін выпаўзаюць, вылазяць са шчылін,
Яшчэ не адмыўшы крыві з апранах.

Ізноў завываюць ваяцкія дудкі,—
З пружынай катрынка, надоўга завод.
Падэшвы свярбяць у заморскім абутку,
Малойчыкі мараць аб маршы на ўсход.

А чуюць, што больш не таптаць ім жывое,
А знаюць — ужо не падняць галавы,
І ціхнуць, як толькі зірне на іх воін,
Каменны мой друг, нежывы вартавы.

*IV.1946—XII.1958*

## КАСТРЫЧНІЦКІ РАНАК

Аралі мы поле сваё не плугамі,
А смуткам аралі.
Плаціла поле нам палынамі,
Болем ды жалем.

Вядома, якія былі нарогі,
Такія здабыткі.
Цягаліся здзірцы з бойнай дарогі,
Ўсё бралі да ніткі.

Але ў прасторах падратаваных,
Абрабаваных
Добрай часінай стаў на сцяжыны
Ветраны ранак.

Паміж звычайных свят і нязвычных
Болей чым свята,
Калі высвечвае ў чырвань Кастрычнік,
Дзень Дваццаць Пяты.

*1958*

## ПАРТЫЗАНСКАЯ ПЕСНЯ

Як атрад партызанскі ішоў з баёў,
Небагата ў атрадзе было штыкоў:
Хто скалечаны,
Хто паранены...

Позна вечарам
Пацягнула дымком з недалёкай ускраіны,
Заміргаў гарадок жоўтых вокан вачыма...
Вось, узрадаваліся, адпачынак!

Секануў кулямёт з маладога сасонніка,
Долу ўпаў запявала.
                    З рукі аслабеўшай,
Як прыступкі па сходах, мяхі гармоніка
На пагорку рассыпаліся, зазвінеўшы.

Партызаны залеглі,
Легіёны залеглі.

Грамадзянская не канчаецца.

Агрызалася, білася белая легія
Аж да белае раніцы,
Ды не стала трываласці,
Не ўтрымалася,
Адступіла, пабегла.

Уставалі байцы, астывалі патроннікі,
Патыхала крывёю і порахам прэсна.
Як па сходах,
            пайшла
                    па прыступках
                              гармоніка

**Партызанская песня.**

**Вырастала яна, гаманіла, шугала,—**
**Не ўміраў запявала.**

*1958*

* * *

І раптам гэтак закарцела
Пагаварыць...
О, божа мой!
І не на проста зразумелай,
А на маёй і на тваёй.

Так, як гавораць вусны нашы
Бязмоўнейшаю з людскіх моў,
І вока воку болей кажа,
Чым сто сяброў і сто тамоў.

*1958*

## ДЗЯВОЧАЯ ВЯЧОРНАЯ

Да ракі шырокай,
Пад зялёны дуб
Да мяне спяшаецца
Той, хто сэрцу люб.

Белая кашуля,
Сіні паясок.
Бачу друга вернага,
Чую шпаркі крок.

Годы маладыя,
Светлыя дзянькі.
У краіну нашай радасці
Шлях кладзецца напрасткі.

*1958*

## СЯМЁРА

Трох было іх са Случчыны,
Чатырох — з Магілёва,
Маладых, мала вучаных
Цяжкай справе вайсковай.

Ім пра вочы вясёлыя
Грацъ ды грацъ на баяне.
...Апынуліся ў полымі,
Пасталелі з баямі.

Спатыкала разведчыкаў
За няўдачай няўдача:
Быў адразу ж засечаны,
Потым змоўк перадатчык.

На імшарыну чэзлую
Немцы хлопцаў загналі,
Абкружылі, адрэзалі,
На прыцэле трымалі.

І ляжалі пад зорамі
Тыя хлопцы ў балотцы,
Піць таварышу хвораму
Падавалі ў пілотцы.

Грыб ды ягада кіслая —
От і ўвесь іх наедак.
Хоць бы птушка дзе піснула,—
Ані знаку, ні следу.

Самалёт над далінаю —
Свой па гуку, савецкі!
Эх, каб рукі дакінулі
На крыло яму вестку!

Далажылі б, пасведчылі,
Колькі танкаў, пяхоты...
І шукаюць разведчыкі
Для прарыву вароты.

Туга клешчы сціскаюцца,
І ўжо ведае кожны:
Недалёкая раніца,
Пэўна, будзе апошняй.

Ноч шапнула, параіла:
Трэба рушыцца з месца.
...Прыкрываць іх паранены
Лейтэнант застаецца.

Застаецца, загадвае
Адыходзіць па пары:
— Пакаўзнецца нага твая,—
Дапаможа таварыш.

Стань вужакай, віюхаю,
Дзеразой пасцяліся,
Праслізні папаўзухаю,
А прабіся, прарвіся! —

Хвойкі гонкія слухаюць:
Дружбакі разышліся.

Чуе ранены, ў цёмначы
Скалануліся елкі.
Гэта двое на поўначы
Пачалі перастрэлку.

«Падсачылі іх,— думае,—
На благую прыгоду».
Падымаецца шумная
Страляніна з усходу.

«Зноў,— мяркуе,— сарвалася,
Хоць бы выйшлі на поўдзень!
Сэрца, болей трываласці,
Мы нікуды не пойдзем».

Даў чаргу аўтаматную,
За кусты адпаўзае,
Б'е з-за дрэва гранатаю,
Перабег і страляе.

...Секлі бор кулямётамі,
Палівалі, страчылі,
Палкавымі і ротнымі
Мінамётамі білі.

І жахнуліся ворагі,
Як знайшлі на разлогу
Ні сівога, ні чорнага,
Аднаго, нежывога.

А далей пры выгарыне
Поруч леглі чатыры,
Павярнуўшыся тварамі
Да свайго камандзіра.

Не пайшлі, адбіваліся
Разам з ім ад напасці,
Каб хоць двое прарваліся
Праз аблогу да часці.

Трох было іх са Случчыны,
Чатырох з Магілёва,
Маладых, мала вучаных
Цяжкай справе вайсковай.

Хто іх высек ці выпіліў
З гэткай цвёрдай пароды
Проста ў ліпені, ў кіпені
Сорак першага года?

Іх аблічча бязвусага
Не кранаЛася брытва,
За зямлю беларускую
Маці іхнім не брыдка.

Войскі прышлага племені
Не змаглі, не зламалі
Чалавечага крэменю,
Чалавечае сталі.

*1958*

## ПЕРУНЫ

Бег я з начлегу дамоў басанож,
Грэбля гразіла разгатай вярбінаю,
А наўздагон прыпускалася ноч,
Страшная ноч, што завуць арабінавай.

Блісне і грымне...
                        І ў хмарах відны
Белыя, сінія, чорныя далечы.
Вёска прыціхла.
                        — Ідуць перуны,—
Маці гавораць, малых укладаючы.

Зараз, здаецца, устануць з ракі,
Неба дастануць плячыма замлелымі
Чорнабародыя ваякі
З пікамі і з бліскавічнымі стрэламі.

Ступіць старэйшы, крысо абтрасе —
Лінуць дажджы, расшумяцца з вятрыскамі,
Гляне ён — скочыць пажар па страсе,
Схопіцца лапамі жоўтымі, быстрымі.

Звыкшы вось так маляваць перуна,
Не палічыў за вялікае дзіва я
На паплаўцы пры будоўлі млына
Нейкага дзядзьку гарбатага, сівага.

Ён прымасціўся бачком на валун,
Біў па зубіле, як быццам не цэліўся.
Толькі прачуўшы, што гэта пярун,
Мы, як сініцы на крошкі, зляцеліся.

Пырснулі ў жменю: дзядок як дзядок!
Іскры не сыплюцца, вочы звычайныя,
Лата на лаце ў яго кажушок,
Нават аборы і то вераўчаныя.

Трос ён палойкай даўгой барады,
Стукаў-пастукваў ад рання да мораку,

Выдзеўбаў шпур і засыпаў туды
Ладны зарад самаробнага пораху.

Ой, як цікава! Зірнуць і ўцячы.
Сэрцы — хлапечыя, ногі — заечыя.
Дзе ўжо той сон! У глыбокай начы
Дрэвы падскочылі, шыбы заенчылі.

І раскалоўся на пяць камянёў
Век звекаваўшы асілак на поплаве.
Леглі ў падмурак, і млын замалоў,
Жорны сыпнулі мучыцаю цёплаю.

Выйдзеш увечары: змрок за крылом,
Быццам бародка матляецца дзедава...
Дзе гэты майстар, які ў яго дом,
Што ён далей парабляў — немаведама.

Многа ці мала мінулася дзён,
А перунова майстэрства не страчана.
...З громам ляцяць цягнікі пад адхон —
Спрытныя рукі ўзяліся за спадчыну.

Вёска гаворыць:
— Ідуць перуны! —
Дрэвы падскоквалі, шыбіны енчылі.
Біліся поруч бацькі і сыны,
Нішчылі ворага, рэйкі нявечылі.

Сеем і косім. На гэтым стаім.
Полымя гасім, а не разварушваем,
Але не зводзяцца ў родзе маім
Простыя людзі з агністай мянушкаю.

*1958*

## ЗАМБЕЗІ

Не прайсці пехатой, не праехаць канём
Па вільготных далінах на стыку Радэзій,—
Вадаспады шалеюць, з каньёна ў каньён
Пераскоквае сіняя стужка Замбезі.

О Замбезі! Блакітныя выспы, гаі,
Дзе ад месяца ноччу вясёлкі іграюць,
Настаўляючы рогі, равуць бугаі,
З хваль ласосі кіда́юцца на асагаі.

Спёка жоўтых пустынь, гром слановай трубы,
Войны чорных плямёнаў — пігмеяў і кафраў,—
Гэта я перажыў, хоць ніколі не быў
У цяню баабабаў сліпучае Афрыкі.

Па вандроўках такіх не вадзіў мяне лёс,
А Замбезі мая праплывала пад Слуцкам,
Паўз малое сяло, у каторым я рос,
Горды марай сваёй, як пявун галагуцкі.

Пры збяднелай рацэ тут народ бытаваў —
Ні глыбокіх віроў, ні пясчаных адхонаў,
І таму я вясною сябе адчуваў
Не іначай, як Стэнлі, або Лівінгстонам.

Крыгаход! Я, лапцей не шкадуючы, бег
Паглядзець, як па старыцы ўдарыць паводка,
Як заплешчацца морам затоплены блех,
Дзе каровы паслі і бялілі палотны.

Неадкладна ў паход абсталёўваўся плыт,—
З хлевушка выкрадаліся ўпотай вароты,
Хоць вушамі плаціў за прыгодніцкі спрыт,
Але, мокры па пояс, камандаваў флотам.

Апякаў маё сэрца лятункавы жар,
Як шукальнікі золата, з прагай на вейцы,

Я закопваў у глінішчы знойдзены скарб:
Цэлых дзесяць капеек — і ўсё па капейцы.

Пачапіўшы з арэшыны пруткае лук,
Пільнавала шляхі басаногая варта,
Як праз джунглі, ў хмызах прадзіраўся хлапчук
Са спізорыкам і самаробнаю картай.

Безупынку гулялі ў вайну...
Дзень пры дні
Маці паскамі нас заганялі ў пасцелі.
І хацелася быць нам у гэтай гульні
Толькі «чорнымі».
«Белымі» быць не хацелі.

Не маглі мы забыць, даравацъ аднаго,
І дзіцячай душы было крыўдна і горна,
Што хапаюць рабоў, разбіваюць багоў,
Адбіраюць сланоў беласкурыя ў чорных.

Не экзотыку зараз успомніць я рад
Са старонак падручніка Іванова,—
Адляцела маленства, і той далягляд
Мне адкрыты нанова, адчуты нанова.

Горка чорным людзям, а ярмо на гарбе,
Не адбіцца ніяк ад нахабных прыезджых:
Выпампоўвае нафту, ураны грабе
І не давіцца косцю слановай драпежнік.

З-пад зямлі ён вылузвае жоўты метал,
Каб глыбей захаваць — у свае падзямеллі,
Для яго пачынае таптацца тамтам,
Завывае шчымлівай струной укулеле.

Чорны дружа! Калі твае рукі куюць
Уратоўчую зброю і волю гартуюць,
Ты паслухай малую Замбезі маю,
Як шчаслiва і вольна пяе і шумуе.

Ты прывык да вулканаў, да ўздрыгаў зямных,
Паспрабуй уяві, у якім землятрусе,

У пажарах якіх, у паводках якіх
Гэта песня складалася ў рэк Беларусі.

Зробіць некалі свет сабе мір і спакой,
Смага працы адолее смерць у жалезе,
Я прыйду, каб нарэшце абняцца з табой
На ажыўшым прасторы ўваскросшай Замбезі.

*1958*

* * *

Няхай з крывёй, у цяжкім клопаце,
А ўсё ж ткі выветрае даль!

Вайны фанфаршчыкі і лопатні,
Найманцаў дробненькая шваль
З плячэй сусвету вобзем грымнуцца,
Навек патрушчыўшы рагі,
Вагою працы ў дол нізрынуцца
Багі часовае вагі.
Не змусіць гэта племя гадава
Людзей у потнай скуры жыць...

Так абяцаюць мне спагадліва
Дасягнутыя рубяжы:
Паветра чыстае, празрыстае,
Адкрыты ў будучыню шлях,
Усё, за што стаяў і выстаяў
Я з першым другам у баях.

Расце, ступае ў свеце волатна,
Рвучы праменнем гмахі хмар,
Мой век адзіны, дзень сяголетні
Наступнаму глядзіць у твар.

*1958*

* * *

Кіпіць зямля ад гор і да нізін
У грозны век, пабунтаваўшы атам.
Натхненне пазычаючы з вітрын,
Пісакі спрытна кланяюцца датам:

Ці мы згадаем згінуўшых братоў,
Ці плёны працы чаркаю адзначым,—
Курылка жыў!
Ён тут ужо, гатоў,
І на заказ смяецца альбо плача.

І хоць гарчэй за блёкат гэты смех,
А жаль танней за слёзы кракадзіла,
Ён знойдзе месца... ў друку шмат прарэх,
Не пакідаць жа на палосах дзірак.

Чым так спяваць — лепш голаў у пятлю,
Хай лепш язык патэльні пекла ліжа...
Калі люблю, дык, значыцца, люблю.
А ненавіджу — значыць, ненавіджу.

Мой родны край зазнаў маю любоў,
Нянавісці мае не выдыхае вораг.
А што датычыць розных спрытнякоў,
Не час яшчэ...
Дарагаваты порах.

*1958*

## ЛЮДЗІ ХОДЗЯЦЬ ЦЕРАЗ МОСТ

Паабапала ракі —
Два калгасы «Маякі».
І жывуць яны без спрэчкі,
Сваякі і дружбакі,
А з мастом у іх асечка,
Не варушацца дзядзькі,
І старшыні — на дыбкі.

Летам, кажуць, можна ўброд,
А зімой — трымае лёд...

А вясной, калі пачнецца
На рачулцы крыгаход,—
Моладзь разам не збярэцца
Ні на вечар, ні на сход,
Хоць выпісвай верталёт.

Старшыня да старшыні
Едзе верхам на кані,
Старшыніха к старшынісе
Чэша ўброд, падняўшы крыссе.
Хочаш з дзеўчынай прайсціся?
Пакупайся, абсушыся,
А тады не да гульні!

Гэты мосцік, па закону,
Будаваць бы двум раёнам,
Бо якраз жа на мяжы
Паміж іх рака бяжыць...

На раён глядзіць раён:
— Хай спярша бярэцца ён! —
Галавой другі ківае:
— Хай ён першы пачынае!

Шмат чакалі б мы рашэння,
Каб не смешнае здарэнне.

Раз
Шафёр грузавіка
Аб'язджаць паленаваўся.
«Ну, падумаеш, рака!
Пераскочу...» —
Спадзяваўся.
Ды, відаць, не скіраваў
І засеў, забуксаваў.

Малады яшчэ хлапчына,
Не сказаць, каб пустабай,
Піў ён, вывеўшы машыну,
У калгаснай чайнай чай.

Як заўжды, перад нядзеляй
Там калгаснікі былі,
Гаманілі, нешта елі,
Калі ж елі, то й пілі.
Мы таго недаглядзелі,
Не відаць, адкуль лілі.

Падыходзіць да шафёра
Старшыня:
— Здароў!
— Здароў!
— Мне з шафёрам проста гора,
Можа б ты да нас пайшоў?

Не пакаешся, ані!
Хату дам і працадні,
Забяспечу, адным словам...—
А шафёр, хлапец мясцовы,
Знаў слабіну старшыні.

Быў да кніжак тугаваты
Той нядрэнны гаспадар,
Ён чытаў хіба на свята,
І не больш, чым каляндар.

І шафёр надумаў штось.
Старшыні сказаў:
— Антось!
Націскайце на катушкі,

Бо міне вас важны госць,
Гэты самы, як ён?.. Пушкін.

Правяраць, які удой,
Ён прыбудзе адмыслова
З «Капітанскаю дачкой»
І з «Барысам Гадуновым».

Паглядзіць у «Маяку»,
Слава будзе ўся суседзям,
А да вас цераз раку,
Каб хацеў — не пераедзе.

Я,
Маўчы адно — сакрэт!
Шлях разведваў легкавушкам,
Кожны вымацаў кювет,
Каб не ўграз таварыш Пушкін.

Лоб наморшчыў старшыня:
— Гэты самы?
— Гэты самы!
Пачалася сумятня,
Зазвінела піларама.

Спрытна палі б'е капёр,
Выкладаюць маставіны.
Задаволены шафёр
Робіць змоўніцкую міну.

Мост гатоў...
Гасцей няма...
Перасоўка прыкаціла.
Працавалі недарма,—
Паглядзім кінакарціну.

Клуб запальвае акно.
З-за ракі, па свежым мосце,
Моладзь рушыла ў кіно.
Зал паўнюткі.
Пачалося.

«Капітанская дачка»
Пасміхнулася з экрана.

Тузянулі за рукаў
Старшыню...
                    Шафёр, ціхманы,
Кажа:
— Я крыху зманіў,
Ды зманіў напалавіну.
Пушкін, праўда, не прыбыў,
Бо на гэта ёсць прычына.

Старшыня дае руку.
Пасмяяўшыся, бясспрэчна,
Дараваў ён юнаку:
Хлопец клопат меў сардэчны
І не ў гэтым, а ў зарэчным
«Маяку».
На тым баку.

Справа мае добры лёс:
Людзі ходзяць цераз мост.

*1958*

## ВЕЧАР САМАДЗЕЙНАСЦІ

Танцавалі хлапцы, запявалі дзяўчаты,
Самадзейнасць, прызнацца, ішла сумнавата.
Вельмі ветла, аднак жа нібы з абавязку
Сакратар выканкома далонямі пляскаў,
Старшыня сельсавета яму памагаў,
І, вядома ж, калгасны актыў не адстаў.

Трэба іх падбадзёрыць! Расціце, артысты,—
Гэта ж нашы кароўніцы і трактарысты.
Я знадворку сядзеў пры акне на бярвёнах
І канцэрт гэты слухаў з малечай зялёнай,
Не ўдалося падлеткам працiснуцца ў клуб,—
Кажуць, вельмі дурэюць, абернецца зруб.

Узвілася над заляй прыпеўка-смяшынка.
— Мала солі! — скрывілася крышку дзяўчынка,
І хлапчук падхапіў: — Безумоўна, без солі!
На вячорках не гэтак спявае Антоля.
— Дык папраўце,— кажу ім,— дадайце красы
Ды папраўдзе цягніце, на ўсе галасы.

«Вельмі слаўная рачыца
Праплывае ў Рэчыцы.
Каму сэрца разбаліцца,
На Дняпры падлечыцца».

Стаў гармонік прыпеўку за руку выводзіць,
А малыя пад клубам па-свойму заводзяць:

«Замуцілася рачыца
Каля самай Рэчыцы.
Старшыня ўрача баіцца,
У шаптухі лечыцца».

Засмяяліся людзі, і зноў цішыня,
Скасавурыўся толькі адзін старшыня.

«І надвор'іца ж сягоння,
Будзе добра боб расці,

Дождж раіцца па раёне,
Воблачна па вобласці».

Не паспела дзяўчына закончыць на сцэне,
Хор малечы яе папраўляе з бярвення:

«У нас бульбачка сягоння
Дробна, быццам боб, расце.
Не зважаюць у раёне,
Я дайду да вобласці».

Б'юць у ладкі, грымяць. Сакратар выканкома
На гадзіннік глядзіць, нібы хоча дадому.

«Трэба ў млын паехаць Янку,
На двары мяцеліца,
Брыгадзір дае фурманку,
Хай жа мякка мелецца».

Памыкаецца ў дзверы шмыгнуць брыгадзір,
А яго за крысо: — Пачакай, пасядзі! —

«Трэба ў млын паехаць Янку,
Бо само не змелецца.
Брыгадзір не даў фурманкі:
— Прынясі гарэліцы!»

Тут спявачкі адна да адной пашапталі:
— Будзем,— кажуць,— спяваць, каб усе памагалі.

«Не напоен чорны бык
І карова ра́бая.
Мілы мой перадавік —
Першы з поля драпае».

Хто б мог думаць! Адразу ж з-за вокан малыя
Палажылі на музыку словы другія:

«Гладкі ходзіць чорны бык
І каровая ра́бая.
Мілы мой перадавік
Працай сэрца радуе».

Нeяк стала усім нам і цёпла, і ўцешна.
Шмат спявалі мы разам сардэчных і смешных.

«Майго хлопца засілілі
Пуцявіны кружныя,
Мусіць, неба засялілі
Зоры незамужнія».

Засталася, нарэшце, прыпеўка адна,
Падхапілася дружна ў той вечар яна:

«Жыў і жыць будзе калгас,
Доля сцежкі выткала.
Не сярдуйце вы на нас —
Гэта самакрытыка».

Дзед вярнуўся з канцэрта і, сеўшы на лаву,
На старую бурчаў за халодную страву,
А яна не распальвала печ апаўночы
І казала: — Люблю самакрытыку ў вочы!

*1958*

## ПОДСАЛАВЕЙ

Свішча, і ўсё! І ніякіх турбот галаве:
Лівень, а лісце — далёка не дах.
Аптымістычна настроены пóдсалавей
З мокраю песняй сядзіць у кустах.

Цвёрда упэўнен, што сонца ён высвішча
І паклянецца пяром у хвасце:
Дзень разгуляецца, высахне жытнішча,
Крылле расправіцца — можна ляцець!

Хутка ўстаю, прысаромлены прыкладам,
Да падарожжа рыхтую рукзак.
Што там баяцца надвор'я нязвыклага,
Я з табой згодзен, таварыш спявак.

Хто не зарасіцца, той не абсушыцца,
Не пакладзе у барозны разлог.
Дзень разгуляўся!
                    Настойлівай птушачцы
Шапкай махаю з падсохлых дарог.

Знае ж аднекуль, душа неспакойная,—
Шчасце не ў тым, каб лягчэй жыраваць,
А вось каб сонца дабіцца,
                              галоўнае —
Некаму трэба і ў дождж заспяваць.

*1958*

* * *

Усё мінае і змяняецца,
Гаворыць ісціна адна:
І сталь на полымі згінаецца,
І рвецца ў холадзе струна.

Я не спрачаюся, пытаюся:
А як жа з гэтым пачуццём,
Што з юных дзён расце да сталасці
Пад першы ліст, пад першы гром?

У крыку кнігаўкі над крыгамі,
У паху ранняе травы
Ляціць да тых яно, хто з кнігамі
Праседзеў век і стаў сівы.

Я ведаю, імкненні нашыя
Зусім не тыя, як даўней;
Я ведаю, яно іначшае
І, мусіць, многа трывалей.

Даўно дасведчылі навукаю:
Яно прыходзіць — не наўда...
А з'явіцца, ў акно пастукае,—
І не пазбыцца —
вось бяда!

*1958*

## НЕЧАКАНАЯ АКАЛІЧНАСЦЬ

Прасекі, прасекі! На жоўтых праспектах
Пад шпілямі елак калоны дубоў,
Напэўна ў нябёс лесавы архітэктар
Пазычыў паветра для гэтых будоў.

Пагодная восень мінае ў лагодзе,
І сівер прыемны — які ж гэта свіст? —
Здаецца, высокую ноту выводзіць,
На пальчыкі стаўшы, знаёмы артыст.

Калі туманы рэдкаватай заслонай
Затуляць свяціла агністы бурак,
Падобна, што фарбаю шэра-зялёнай
Накідаў эцюд мой таварыш-мастак.

І дождж́ык аблож́ны куды ласкавейшы,
Зашэпчуць хваіны — хіба ж гэта шум? —
Ды гэта хутчэй сумнаватыя вершы,
Якімі і сам я часамі грашу.

Каб восень хваліць,
 параўнанні з мастацтва
Я мог бы бясконца цягнуць і цягнуць —
Тут справа настрою, як шчэбет у птаства,
Ды трэба ўлічыць акалічнасць адну.

Я так гаварыў, папрашу заўважыць,
Бо восень падобна крыху да тае,
Што пэндзлем не схопіш
 і словам не скажаш,
А ўжо тэнарком ні за што не спяеш.

Жывая! І вусны ў рассыпістым смеху,
Як дзве журавініны з першага снегу,
Абы абазвалася — рэха акажацца —
Развяжацца свет ці натуга завяжацца!

Нібыта прамень надвячорнай гадзінай,
Мільгнула між дрэў — не знайсці дзіваку!

Яшчэ ж і каліны для гэтай хусціны
Далі па апошнім барвовым лістку.

Дарма! Не шукаў я ніколі спакою,
Зароку не даў на шляхі не глядзець.
Услед паківаюць бары галавою,
Салодкую лапу пасмокча мядзведзь.

Магчыма, нясталасцю гэта палічаць,
Рэзонна ўпікнуць за блазенства сябры...
Спаткайце у пушчы маю акалічнасць,
Што вы заспяваеце, чорт пабяры!

Спрабуйце прыдумаць вясёлае вока!
Дальбог, журавінныя вусны былі,
Ды толькі калісьці, далёка-далёка,
Смяяліся мне на асенняй зямлі.

І сівер ласкавы, і дождж мне харошы,
І хвоі не стогнуць, а міла пяюць.
Як манны з нябёсаў, чакаю парошы,
Тады ўжо са следу ніяк не саб'юць.

*1958*

## ГАВОРКА З ДЗЯДАМІ

Выб'е час мне ў дарогу збірацца —
Не ў Маскву, не на возера Нарач,
А ў нямілыя тыя палацы,
Што з крыжамі стаяць на выгарах.

Пагляджу, як дзяды мяне стрэнуць,
Можа, там заставацца не варта.
Пэўна, скажуць: «Спяшаўся дарэмна,
Мала ляда яшчэ карчаваў ты».

А мяне то за вас не ўпікалі? —
Быццам гнуліся век у цярпенні,
І дзе трэ было ўдарыць без жалю —
У нябёсаў прасілі збавення.

Ды я помню і Крычаў і Грунвальд,
Дзеі слаўныя продкаў харобрых.
Я кладу на міжземныя струны
Ваш дасюль неаспеваны подзвіг.

Памяркуем, чыё перацягне!
Напачатку давайце палічым,
Колькі страціў я сэрца і цягліц,
Каб спаветралі пан і панічык.

Вы за шнур калаціліся матчын,
За дзірван...
Што вы думалі, з'ем іх
Або напуста ў свеце растрачу?
Я з'яднаў усе нашыя землі.

І шырока франты гаварылі,
Гаманіла маё партызанства,
Як з братамі мы ў гаці гацілі
Гнедай масці драпежных насланцаў.

Узрасціў я нязвыклыя лёсы,
Гарады збудаваў на палях тых,

Дзе вы сеялі горкія слёзы,
На калах паміралі праз шляхту.

Не басцяўся, не шнырыў употай,
Я ад працы зрабіўся багаты.
Калі ж вам не да густу работа,—
Зазлую і вярнуся дахаты.

Гойкну рэхам па полі, па лесе,
А пасля, рады вы ці не рады,
Буду жыць на зямлі, колькі ўлезе,
Сто гадоў дагледзець сваё ляда.

*1958*

* * *

Еду, еду трактам бойным,
Жне і мэндлі ставіць лета,
Грудзі шырацца спакойна,
Думцы дыхаецца светла.

Перабег дарогу пошчак,
Смутнавата стала раптам,
Можа, гэта праз любошчы,
Што ў мой бок глядзяць не надта.

Адшапталі, адглядзелі,
Адчакалі, адышліся...
А ў мяне шумяць надзеі
Тым жа самым свежым лісцем.

І ўсё так жа мала трэба:
Дзень, хмурынай не замглёны,
Спеў у полі, лусту хлеба
І з грады гурок зялёны.

Каб цвілі ў мяне садамі
І ў цябе шумелі вечна,
Нашы ліпы на выданні
Мы саджаем, чалавеча.

І расце на гэтай працы
Заўтра, клопат мой адзіны...
Як з табою павітацца —
Не рукой, дык хоць галінай!

Вось тады б на небасхіле
Не шчымела больш трывога —
Нібы ў госці запрасілі
І забылі за парогам.

Я дазнаюся, што далі
Адкрываюць, абяцаюць.

Не лічыўшыся з гадамі,
Да высокіх веж спяшаю.

У наш родны свет прастую —
Перайду ці пераскочу,
А ўсё роўна зазірну я
Сонцу ў вочы, проста ў вочы.

*1958*

* * *

Даўно, калі ў маім світанні
Цвілі юначыя лугі,
Маленькіх смуткаў, хваляванняў
Прайшоў я вечныя кругі.

І ўпала марная заслона,
Адкрыўся мне шырокі свет,
Мой час, вячысты, акрылёны,
Хада людзей і рух планет.

Мне жыць асела і вандроўна,
І крок, і зірк звяраць з жыццём,
І сцяг чырвоны, сцяг мой родны,
Распасціраць на кожны дом.

*1958*

## БЕЛАРУСКАМУ НАРОДУ

Не з імглы кургяноў, задрамаўшых над стромай,
Не з паданняў, што вецер стагоддзяў растрос,—
Грозным, свежым і плодным Кастрычніцкім громам
Пачынаецца век наш, гартуецца лёс.

Не раскрой тады свет напалам, навальніца,
Цар бы шлях заступаў, страшыў карамі бог.
У краіне другой я не мог бы радзіцца,
Дацягнуцца да сонца ніколі б не мог.

Дужы молат і серп з нашых рук на штандары
Узышлі назаўжды.
Ім няма перашкод.
Вольна ў свеце жыве, ўсім народам таварыш,
Працавіт і вялік беларускі народ.

Поім газаю трактар уласнай гадоўлі,
Нашы нівы ў красе, нашы нетры ў хадзе.
Мой народ!
Ты гаворыш з палёў і будоўляў,
І вышэйшай трыбуны не знойдзеш нідзе.

Не баяўся вайны, не цураюся працы,
Калі трэба — ускіну на плечы ўдвая,
А ў любві да цябе не магу прысягацца
Па той простай прычыне, што ты — гэта я.

Я — твой ранні гудок, шум дубоў на узлессі,
Твой каваль,
я выкоўваю ў заўтра ключы.
Ты — крыніца мая
і гаючая песня,
Ты мой розум і кроў.
Нельга нас разлучыць!

*1959*

## НА МАЧТУ, СЛОВА!

*Прамова ў дзень 50-годдзя*

Таварышы!
                    Цяпер дазвольце мне
Ад сэрца павітаць: усіх прысутных,
Сяброў па пяцьдзесятай баразне,
Таварышаў, па ўзросту больш магутных,
І тых, што падышлі да гэтае мяжы,
І тых, каму яна пакуль не пагражае,—
Віншую горача!
                    Жадаю жыць і жыць,
Падвойваць і патройваць ураджаі.

Усё здаецца: ты яшчэ юнак,
Нараннi ўстаў і шлях свой пачынаеш.
Гады мае, навошта шпарка так?
А ўсё ж ткі я на вас не наракаю.

Я не хачу спыняць імклівы лёт,
Я з вамі сам ляту ў імгненне вока.
...Пішу я вершы больш за трыццаць год,
І пачалі сябры сівець навокал.

Шануючы заўсёды сівізну,
Мне, думаў, гэта справа без патрэбы,
Я меркаваў, што неяк абміну,
Схітрую, прыхаваюся дзе-небудзь.

Ды часава рука — яна мацней! —
Паперчыла і пасаліла скроні.
З прыправай гэткай, кажуць, трывалей,
Даўжэй паходзіш па зямным улонні.

Вось прад вачмі гартаецца пара́
Старых аселіц, жахаў і грамніцаў,
І я аб тым, што скінулі цара,—
Малы хлапчук — чытаю пры газніцы.

Трашчыць махорка, ў хаце мур сялян,
Слабы агеньчык кажухі абселі.

Гаворань так:
— Ёсць у паноў зямля,
Мужчыны, заўтра мы яе падзелім.—

Вось Мінск...
Рог вуліцы і невялічкі дом.
Сюды вучыцца вёскі нас паслалі,
Тут стрэліся мы з Трусам Паўлюком
І з песняю навек пасябравалі.

Насенне даўнішняй бяды і лебяды
Яшчэ жыло.
Ліпеў загончык вузкі.
Запеўку першую складалі мы тады
Пра трактар першы ў полі беларускім.

Нам грэла сэрцы лямпа Ільіча,
Што для бацькоў была — найменей цудам.
Раку святла, распростаны ў плячах,
Народ рукой зачэрпаў з Асінбуда.

І з курных хат са скрыпам панажоў,
Дзе ткалля слепла над шарачкам шэрым,
Мы выйшлі ў свет, і магілёўскі шоўк
Паплыў бліскучай пасмаю з фільераў.

Пасля — на фронт праводзіла Масква,
Як маці, слёзы ўкамячыўшы ў горле.
Я фронт прайшоў, вайну праваяваў
І па яе слядах вярнуўся ў родны горад.

Сабраліся мы, селі за сталом,
Не ўсе, на жаль...
Лёс прысудзіў расстацца.
А ці даўно з Бядулем і Кузьмом
Мы частаваліся ў Купалы ў хаце!

А колькі ж нёс ён для людзей цяпла
І вершам, і усмешкаю, і жартам,
І думка то сягоннягнім жыла,
То гэтым днём.
Тады ён зваўся — заўтра.

Твару яго і б'ю яму чалом.
Гудзе ў крыві, ўваччу зіхціць нязгасна
І радасць, і турбота, і святло —
Вялікі дзень мой, дзень сучасны.

Люблю бязмежна прадзедаў зямлю,
Руплівую і мужную краіну,
І не стыдаюся...
Але мацней люблю
Зямлю, якую праўнукам пакіну.

Той прадзед папаношваў лапці і лык,
Скарынак папаеў астрожных,
Каб сёння ўнук абуўся ў чаравік
І шпурлянуў пад зоры спадарожнік.

У руху ўся, у творчасці яна —
Зямля мая — пляцоўка камунізма!
І праца кожнага, адкуль ні глянь, відна,
Хоць і ліецца ў рэчышчы вялізным.

Такі наш час, такі наш добры лад!
Любіць людзей і дадаваць ім гарту
Ад Леніна навуку прыняла
Святлейшая з усіх наземных партый.

Не трэба ёй падзяк, ты сэрца ёй аддай,
І да тваіх паслуг усё — зямля і неба:
Карэннямі ўрастай, галіны прасцірай,
Грэх не рабіць, калі такая глеба.

І грэх маўчаць, калі табе народ
Даў цудаў цуд і зброю — нашу мову,
Каб песняю бадзёрыла паход,
З гудкамі падымала на будову.

І нам не варта падлічаць заслуг —
Злажыў радок або паклаў цагліну,—
Рабілі гуртам, сама менш удвух,
Прынеслі мы пасільную даніну.

Падхвальваючы мой няхітры спеў,
Сябры гавораць — сто разоў ім дзякуй! —

Што быццам я сабаку ў рыфмах з'еў,
А я ж дасюль жую таго сабаку.

Пісаць вучуся кожны дзень наноў,
Пампую словы з рупасцю адною,
Каб на радок, што на душы ўзышоў,
Мог сябар абаперціся душою.

Каб з верша веялі вятры маіх дарог,
Гарчыла пылам, зіхацела сонцам,
Каб кожны чуў, каб і дзіцёнак мог
Пазнаць, за што стаю, чаго я абаронца.

Як нудзіць твор, змайстраваны, знарок
Акроплены дзяшовенькай парфумай!
Не дай мне божа выціскаць радок,
Каб славіў час, а сам пра скварку думаў.

Я гэта чуў ад лепшага з людзей,
Каго так проста называлі — Колас.
Дом абыду, не дом — ужо музей,
Няма яго, а не змаўкае голас.

На мачту, слова! Нам адчынен шлюз.
Надзею маю аплаціць турботы,
Бо на плячах — пакуль што недагруз,
І хопіць добрай злосці да работы.

Мне зычылі гадоў — пярэчанняў няма.
Прайду свой шлях, даўгі ён ці кароткі,
Шчаслівы тым, што нёс і падымаў
Чырвоны вымпел першай пяцігодкі.

*1959*

## ЛАТЫШСКАЯ НАРОДНАЯ ПЕСНЯ

Ходзіць восень з жоўтым клункам,
Носіць дрэвам падарункі:
Дубу-асілку —
Залатую пасцілку,
Сукенку — асіне,
Ліпам — па хусціне,
А кустам усім у пушчы
Па барвовай яркай хустцы.

*1959*

* * *

Толькі ўсходзіцца вецер з вясновага краю,
Дым сарве з цягніка і пасцеле, як лён,
Чалавечай трывогай драты заспяваюць,
І дубы заўздыхаюць жалезным галлём.

Абмарожаны ў зімах, апалены ў летах,
Заняволены ў грукат вагонных калёс,
Я тады паварочваю тварам свой лёс
Да найлепшага ў свеце ветру.

А ён ляжа, затоіцца, скочыць навальна,
Шархане па абліччы махнатым крысом
І, ваду адамкнуўшы, завей руйнавальнік,
Мне адчыніць наросхліст прасторавы дом.

Дасць абуцца — з даўгімі халявамі боты,
Ад дажджоў прапануе паветраны плашч.
Мы гаворым з людзьмі, мы ідзём у турботы
Каля сонных садоў, каля доменных пашч.

*1960*

## ВЯСНОВЫ ДОЖДЖ

Нечаканы, буйны зразу,
Сек і ўпоперак і ўдоўж.
Па платах, па пералазах
Бег упарты, спорны дождж.

І рака дыхнула вольна,
Паднялася, паплыла.
У дубоў па чорным голлі
Кроплі падалі з чала.

Заблішчэла сіняй пражай
Маладая збажына.
Вось цяпер ніхто не скажа,
Што спазнілася вясна.

*1960*

## ТРЫ ВЕРШЫ ПРА АДНО СОНЦА

1

Толькі выйдзе — пасвятлее,
Ажыве завулак цёмны,
Толькі гляне — пырснуць з веек
І на дахі ўскочаць промні.

Не паспее захад згаснуць,
А ўжо ўсход гарыць над брамай.
Горад рады, горад ясны
Самай светлай, самай-самай.

Як бы верасень ні плакаў,—
Ступіш ты ў мой дзень вандроўны,
Блісвеш ты, і праз імжаку
Бачу сонца я ўсё роўна.

Каб кагосьці не любіла,
Каб жа зналася з манаю,
Столькі б сонца не насіла
І ў сабе і за сабою.

2

Хутка ўбачу.
Падпільную.
Падыду. Калі дазволіш,
Захаплю руку малую...
Ці ты шчасце, ці ты болей?

Не хачу пытаць багата,
Не хачу лунаць высока,
Будзь такою, як прыйшла ты,
Лёгкай сэрцам, цёплай вокам.

Не маё? І не зайздрошчу,
З неба манны не чакаю.
Мне глядзела сонца ў вочы
На прыпынку двух трамваяў.

3

Хай бы я, а то, дурное,
Ходзіць сонца за табою!

Зямля згубіла шлях і мучыцца:
Вакол чаго цяпер абкручвацца?

Я гавару ёй асцярожненька:
Ідзі са мною ў спадарожнікі.

З ног збіваецца, дурное,
Ходзіць сонца за табою!

*1960*

* * *

Прысядзьце на ростані, крылейка выграем! —
Склікала буслоў на адлёт сенажаць.
А хлопцам ужо не карцела за выраем,
Дый вырай вагаўся, ці варт адлятаць?

Няхай на паўдні і паветра цяплейшае
І неба сіней і бліжэй да зямлі,
Ці знойдзецца лапінка, сэрцу мілейшая
За тую, дзе самі і птушкі раслі?

Не здоўжыцца ростань з сябрамі крылатымі,
Пакліча вясна іх на родны парог,
Яны прышумяць перад майскімі святамі,
Не зблудзяць, нідзе не саб'юцца з дарог.

*1960*

## ПАНТАПЛЁВАЯ ПОШТА

Чутна мая суседка
У кухні за сцяной,
Як ягадка, кабетка —
На восем пальцаў лой.

Гадамі не старая,
Ды толькі брак адзін:
Заўсёды распірае
Суседку ад навін.

Лягчэй суняць паводку,
Спыніць абвал пяску,
Чым гэтай кумцы плётку
Стрымаць на языку.

Хоць ёсць і муж і дзеткі,
Турбота не карціць:
Суседка да суседкі
Бяжыць пагаварыць.

Нахіліцца з балкона
І як разявіць рот —
Здзіўлёныя вароны
Здымаюцца ў разлёт.

— Галубка, дарагая!
Кажу не ў абгавор...
І людзі зачыняюць
Адразу вокны ў двор.

А кумкі перагнуцца
Над білам,
                    і тады
Падвойнымі здаюцца
Магутныя клубы.

(Мы вольнасцей не любім,
А як сказаць інакш?

Не маляваў жа Рубенс
Жанчын без тых адзнак!)

Праз момант
чутак тона,
Нагнаўшы плётак ціск,
Ляціць да тэлефона
І борздa круціць дыск.

Паслухайце для спробы!
Раззвоніць, раззвініць
Не толькі ўсё, што робіш,
Што мерышся рабіць.

Каму і ў чым удача,
І хто куды прызначан,
І што каму да твару,
І хто каму да пары.

Хто браў камандзіроўку,
А лётаў да сяброўкі
І ўчора ці ў чацвер
Паехаў на цяцер.

Скажы ёй па сакрэту,
На смех, абы салгаць,
Што ты пускаў ракету.
— Пускаў,— падхопіць,— пяць!

Яна, нібы ў разведцы,
Шнуруе з дома ў дом,
Яна ўсё чалавецтва
Абмые языком.

Каб на мыццё бялізны
Такі патэнцыял,
І нам было б карысна,
І муж бы танцаваў.

Таму мы папрасілі б
Суседцы пад язык
Хоць на паўконскай сілы
Прыстроіць рухавік.

*1960*

* * *

Сябры кладуцца на спакой,
Плугі ў складах паснулі,
А я хаджу і за сабой
Цягну зямную кулю.

І сам не ведаю, калі
Прыняў я клопаты зямлі,
Павёў ад сэрца навылёт
Узвіў дарог, ракет узлёт.

І хоць павабны гэта рух,
А дбаю штомінуты,
Каб цэлы быў заўжды ланцуг,
Якім з зямлёй я скуты.

*1961*

* * *

Таварыш Куба, смела стой!
Ты будзеш вольнай, шчасце створыш,
Бо нездарма ж з табою поруч
Народ, які сваёй рукой
Пасеяў на арбітах зоры.

*Май, 1961*

* * *

Рыжы бадзяга
Плыве і пяе:
— Няма на свеце ягады
Над вішні мае!

Пад сонцам паўднёвым
Мінай, бяда!
Нясі, мой човен,
Гайдай, вада!

Туды, дзе прачакалася
Вясёлая адна,—
Ні разу спаць не слалася
За тры цямна.

На стрэчу рагоча
Ці на адыход
Крамяны, дзявочы,
Салёны рот?

І смутна, і блага,
І вас нестае,
Чырвоныя ягады,
Дзве вішні тваё!

*1961*

## ВЕЦЕР З КОНГА

*Памяці Патрыса Лумумбы*

Тужаць чорныя,
Тужаць белыя,
Кучаравыя, пасівелыя...

І каліна мая і шыпшына,
Без лісця, без цвету,
Кроплі ягад чырвоных
страсаюць з марозных павек...
І прачулі ж малыя,
што згінуў далёка за светам
Цёмнай скуры
ды самае светлай душы чалавек.

Не далі пахаваць.
Тры аршыны на дол не адмераеш.
Жвір, напалены сонцам, сплывае праз пальцы мае:
Сын усходу,
Індыец
І я, сын краіны з вялікаю вераю,
Сыплем жменю за жменяй.
Курган пад нябёсы ўстае.

Ходзіць вецер пустэльняю дзікай і голай,
Хціўцы сіляцца край расцягнуць
па бярвенцу з вянца.
Замыкайся, Радэзія!
На прабой зашчапіся, Ангола!
Не пускайце праз межы ні грама свінца.

Хай пустуюць павек аўтаматныя дыскі,
Каб і вашага сэрца не ўзяў на прыцэл
Партугальскі прыблуда
ці той завасўнік бельгійскі,
Пан калоній і служка паноў —
афіцэр.

Не схавацца забойцу пад фрак дыпламата,—
Па мундзіру — жандар,
Па прафесіі — кат,
А па брыдкай душы,
як яго ні заві далікатна —
Даг ці дог,
а з канца прачытай —
проста гад.

Помста здзірцаў дагоніць і пеша і конна,
Свае добрыя скарбы народ спажыве,
І сцягамі асушыць паўстаўшае Конга
Горыч слёз, што зірнуць не даюць удаве.

*1961*

## ПА-НАД СВЕТАМ ВЯСНА

Год за годам ідзе, а я ўсё нецярплівей
Заклікаю,
Чакаю,
Страчаю вясну.
Вось, нарэшце, яна!
                                        Прыпускаецца лівень,
І праклёўвае дзюбамі рунь цаліну.

Але зараз лячу не за статкам гусіным,
А крылом чалавечым махаю ўгары,
Як малодшы таварыш, зрабіўшы трамплінам
Шар, што век нас прыцягваў да ўласнай кары.

Без дарожных прысад, без слупоў тэлеграфных,
З гэтай крохкай лупінкі рвануўшыся ўвысь,
На яшчэ не наезджаных трактах галактык
Нашай сілы ўразаецца след агнявы.

Вось каб быў юнаком, расчыніў бы я дзверы —
І гайда на разведку касмічных дарог:
Зазірнуць бы пад хустачку цётцы Венеры,
Па-сяброўску схапіць Казярога за рог.

Гэта казцы пад сілу... Нашто легкадумна
Жартаваць, каб слязіну на вейках схаваць?
Я — шчаслівы і горды, мне крышачку сумна,
Што не тыя гады, ды не ўсім жа лятаць.

Дарагая Зямля! На табе нам не цесна,
Харашэй і дужэй у маёвай красе.
Хай мой друг узляцеў, а мне цёпла і ўцешна,
Бо сягоння мы сталі крылатыя ўсе.

Нашай веры і дужасці нашай крыніца
Акіяны ўздымае у сэрцах людзей.
Я з Эйнштэйнам ніяк не магу пагадзіцца,
Што ад хуткасці робіцца час павальней.

Болей сілы ў руцэ, зірк за хмары сягае,
На нязнанае думка знаходзіць адказ,
Маладзее вясна...
Час усё акрыляе,
Паскараецца ён
і працуе на нас.

*1961*

## ГОЛАС ЗЯМЛІ

Бег у наступ салдат.
Каля ног разарвалася міна.
Паднялі санітары,
Сказалі:
— Канец,
Дамавіна...
Ды іначай разважыў стамлёны хірург у санбаце,
Зондам раны прамацаў, налапіў крывавае шмацце.

Жменя дробных асколкаў
Бразджала ў цынкованай місе,
І пад скураю столькі ж! —
Да лепшых часоў засталіся.

Стаў на ногі салдат.
Больш не стрэўся ні з мінай, ні з куляй.
Аб раненні забыўся.
Баі ўжо даўно прамінулі.
Ён цягае падлешчыкаў, сеўшы над рэчкай ў Брэсце,
Раптам боль пранізаў:
Варухнулася вострае дзесьці,
Засвярбела,
Заныла,
І ў перадасенняй нягодзе,
Шво старое прарваўшы,
Забыты асколак выходзіць.

Гэта прыказка будзе да праўды,
дзіўнейшай за казку,
Пра дзірван, дзе плугі
штык падымуць ці вывернуць каску.
Дзе ўжо самі з яго,
з цела неадпачыўшай зямлі
Бомбы,
Міны,
Гранаты
Паўзці напаверх пачалі.

Пад лагоднай мураўкай
варушацца страшныя спраты,
Прыхаваныя ворагам
Бомбы,
Міны,
Гранаты.

Па іх бегаюць дзеці,
На іх прысягаюцца пары,
Па-над імі калоссем калышуцца сейбіта мары,
Распіраюць карэннямі тол маладыя хваіны,
Пад запалы штурхаюць,
збліжаючы смерць штохвіліны.
Чуе зброя
яшчэ не нашчэнт саржавелым сумленнем —
Не ўтрывае жалеза, калі прамарудзіць імгненне,
І людзей заклікае, бо людзі жалеза зрабілі,
На людзей зрыхтавалі,
і людзі стрымаць яго ў сіле.

Але зброя — нямая,
Сумлення і мовы не мае,
Гэта кліча зямля і са сховаў яе выціскае.
— Людзі! —
Кажа зямля.—
Гэтай смерці ўзрасці не давайце,
Проста ў ядзернай зыбцы
Яе пахавайце,
У марах затапіце,
Пяском у пустэльні засыпце
І дарогі замкніце,
Каб не бегла з агнём
ні па сцепах дамоў, ні па жыце
І каб ёю
з нябёс не шпурлялі,
з гармат не стралялі
і ў рукі ніколі не бралі.

Так наказваюць:
Дрэва,
што раны ледзь-ледзь зацягнула бяростай,
Маці,

сына падгадаваўшая да прызыўнога ўзросту,
Дзеўчанё,
што ў хлапцовых вачах свае вочы пабачыла зблізку,
І малыя,
што слова не зложаць,
а спяць і смяюцца ў калысках.

*1961*

## ГІМН БАРАДЗЕ

*Уладзіміру Дубоўку*

Зайздрошчу барадзе!
Не вузенькай, казловай,—
Акладзістай, густой, раскошнай, адмысловай.
З чым параўнаць яе?
Няйначай з памялом,
Ці з грывай львінаю, ці з амялы кустом,
З кужэльнай прасніцай,
з аблокам кучавым:
Плыве, нібы туман, і сцелецца, як дым.
Сам бог-айцец насіў і ўсе яго прарокі
Такую бараду...
Не страшны ёй урокі,
Змушае паважаць і хіліць да малітвы,
Баіцца ж аднаго...
Вы адгадалі — брытвы.

Не дзеля смеху, не, і не дзеля прыстраху
На гэтую красу я выступіў з замахам,—
Не патрыярха з сівай барадою —
Вітаю юнака з гарачаю душою,
Якога ранкам сонца абудзіла...
І ўсё наперадзе, і ўсё яшчэ пад сілу.

*1961*

## «НАМ» ТО «НАМ», ДЫ ЎМЕЙ І САМ

Страшэнна б не хацелі
Шукаць на сонцы плям,
Але ў адной арцелі
Быў старшыня і «нам».

А той арцелі жменька:
Чатыры-пяць майстроў...
«Сам» чхае памаленьку,
«Нам» кажа — будзь здароў!

І ўся — на дзень! — работа:
Ні людзям, ні сабе...
Нудота,
Спаць ахвота...
Хутчэй бы на абед!

Зяхаюць...
Раптам радасць!
Задзынкаў тэлефон,
Паззалі на нараду,
Хоць пераб'ецца сон!

*

Ды што арцелі, зрэшты,
Іх клычаць там і тут!
Кранём паважней нешта,
Ну, скажам, інстытут.

Не дзверы — проста брама,
Там вассядае «сам»,
А паабапал «сама» —
Другі і першы «нам».

І кансультантаў плойма,
І рэферэнтаў рой,
Хоць лепей бы, па-мойму,
Адзін, ды з галавой.

І ёсць там — кіньце кпінкі! —
Без шыльды на дзвярах
Адказная адзінка —
Нампамсакратара.

Такую назву даўшы
Пасадзе ўсіх пасад,
Напэўна, разрыдаўся
Ад шчасця бюракрат.

— Ды тут жа храм навукі,
Адкуль бюракратызм? —
Завохкаюць з дакукі
Вучоныя краты:

— Адкуль узяў, адкуль ты
Вядзеш сюды замах?..
Адкуль, адкуль!..
Ад культа,
Каб ён дашчэнту спрах.

Па табелі аб рангах
Бажкі былі ўгары,
А дзесь, на левым флангу —
Нампамсакратары.

І зараз — дайце рады! —
Без шыльды на дзвярах
Трымаецца пасада
Нампамсакратара

У пэўнай установе,
З якой мы пачалі,
Ды зблыталі размову
Вучоныя чмялі.

Дык вось, «нампам» — істота
Адзіная, відаць,
Гатовая з ахвотай
Сустрэць вас і прыняць.

Ён звоніць, узгадняе,
На ўсё дае дазвол

І «паму» падкладае —
Для подпісу — на стол.

А «пам» ідзе да «нама»,
Той да другога,
                    ўдвух
Кіруюцца да «сама» —
Ён пусціць справу ў рух.

«Сам» выслухае, ўстане,
Прамовіць:
— Камуфлет!
Сур'ёзнае пытанне,
Паставім на савет.

Тры дні высокі кворум
Саймуе, што рабіць:
Да колбы трэба корак —
Купіць ці не купіць?

І мудрае рашэнне
Прымае шумны сход:
Каб грошай страціць меней,
Купіць...
            але праз год...

*

Мы страшна не хацелі
Шукаць на сонцы плям,
Ды ў вочы лезуць вельмі,
Напрыклад, гэты «сам».

Вядомы, паважаны
Ад грэбеня да шпор,
Нераскрытыкаваны,
Ружовы, як апорт.

Жыве на тлустай лусце,
Каб даць нам болей кніг
Аб эстэтычным гусце
Палескіх камарых.

Над песняй камаровай
Пацеюць сто галоў
Малодшых навуковых
І пастарэй дзядзькоў.

А статак добра лысых —
Няйначай, дактары! —
Ля камарыных лытак
Гібее да зары.

Збіраюць экспанаты,
Абы ваду таўчы...
А чым жа «сам» заняты?
Усім, але нічым.

Хіба што тлуміць вушы,
Нібыта рэй вядзе,
І пальчыкам варушыць
Усюды і нідзе.

Ёсць «нам» па гаспадарцы
І па навуцы «нам»,
Вязуць работу ў парцы,
Не перарвецца «сам»!

Калі ж ён не вучоны,
Калі не гаспадар —
Нашто ў дзяржаўны човен
Пускаеце няздар?!

*

Мой друг! Ці бачыў дзе ты
Такога малайца:
Намесніка ў паэта
Ці, скажам, у шаўца?

А ў пральні або ў швальні —
Які ні возьмеш кут,
Усюды, дзе начальнік,—
Намеснік тут як тут!

Нібыта без яго мы
Не вылепім збанка,

Не атынкуем дома,
Не ўквасім малака?

Не трэба, ды не зволіш!
І ўмельцаў кіраваць
Бывае многа болей
За ўмельцаў працаваць.

Дык вось, падумаць трэба,
Дзе горай мець прарыў:
У выпяканні хлеба
Ці хлебных дырэктыў!

*1961*

## ГАЛІНКА І ЯЛІНКА

*(з польскага)*

Клопат малой Галінцы!
Бачыць, што на ялінцы
Вырас убор нязвычны:
Шапка і рукавічкі,

Кропля ў кроплю такія самыя,
Як падарылі ёй тата з мамаю —
Пуховыя,
Вельмі белыя,
Яшчэ новыя,
А ўжо не цэлыя.

Чысты,
Як быццам памыты ў лазні,
Палец іглісты
Наверх вылазіць.

Лапка дзяўчынкі
Лапку ялінкі
Лёгка трымала.
З лапкі ялінкі
Лапка дзяўчынкі
Снег абівала.

Ссыпаўся снег дадолу,
Павытыркала
Безліч іголак.

От, рукавічкі кволыя:
Пальчык адзін быў голы,
Стала
Рука ўся голая!

Дрэўца малое
Лашчыць малая
І суцяшае:
— Ціха, не плач, дурное!

Мама пазашывае.
Купіць іголак,
Нітак,
Пальчык не будзе голы...
Што гэта, паглядзі ты!

Шухнулася з разгону
На верхавіну варона.
Стросся з ялінкі
Снег на Галінку.

Зляцеў з галавы каптурык,
Разбэрсаліся касічкі.
— Во! —
Яна кажа.—
Бура!

Стаяць, быццам дзве сястрычкі,
Смяюцца,
Але нясмела
Глядзяць на тую варону:
Адна — ў зялёным,
Другая — ў белым.

Дзяўчынка ў снежным уборы
Дрэўцу цішком гаворыць:
— Будзь ты Галінка,
А я — ялінка,
Бо ў мяне ёсць зялёная сукня.
Ой, як змерзла!
Не чую рук я.

*1961*

## ДЗЯЎЧЫНА І СОНЦА

*(па народных матывах)*

Пахвалялася дзяўчына
Перад вернаю сяброўкай,
Што яна адна на свеце
Прыгажэйшая за месяц,
Прыгажэйшая за сонца.

А пачула гэта сонца
І хвальчыху выклікае:
— Будзем дужацца красою,
Хто з нас лепш пасвеціць людзям
Ад усходу да заходу.

Пасміхнулася дзяўчына
І прыбралася ў каморы.
На красуні ўсё зіхцела:
Каснікі, сукенка ў макі,
А найболей — чаравічкі.

Шчыравала моцна сонца,
Ад праменняў прыбывала
Безліч колераў і кветак,
І звычайнае каменне
Ззяла, быццам дыяменты.

Тут на двор дзяўчына выйшла,
І відно адразу стала,
Што ляжыць на дне азёраў,
Што зямля ў глыбінях тоіць,
Што ў чыёй душы схавана.

Не падняць на сонца вочы,
Хоць бяры ты іх заплюшчвай!
А як глянеш на дзяўчыну,
Гэтак зробіцца уцешна,
Вось, здаецца, заспяваў бы!

Ад усходу да заходу
Паміж іх трывае спрэчка,

Хто красою перасіліць?
Вечар, стала гаснуць сонца,
А дзяўчына прыгажэе.

Запрасілася свяціла:
— Лепш схавайся ты ў камору,
Бо пры двух агністых сонцах
І жанцам у полі душна,
І аратым на палетках,
І гаям з шумлівым лістам.

Не паслухала дзяўчына,
Не пайшла яна ў камору,
А ўздыхнула і ўзляцела
Па-над светам гучнай песняй,
Па красе да сонца роўнай.

Каб святло ў людзей гасціла,
Калі сонца спаць кладзецца,
Песню на зямлю вяртае,
Даўшы хору знак рукою,
Спеўны майстар, дзядзька сівы.

*1962*

## ШЫПШЫНА

Сустракала навалы ўсе ў чыстым полі,
Ворагі тапталіся — людзі зайздросныя:
Наквеці зрывалі, абломвалі голле,
Тады вось калючкі на шыпшыне павырасталі!
Сабралася ў куст, сплялася ад болю,
Гэтак і жыве, як вятры ні выпростваюць.

*1962*

* * *

Пахне спелай антонаўкай восеньскі сад...
Пастаю, адыду і вярнуся назад.
Ціха, яблык, не падай,
Не будзі маю радасць,
Да відна не будзі,
Пасядзі
На галіне —
Хай паспіцца дзяўчыне.

А крыніца паціху булькоча ў кустах
Аб зялёных вачах і аб мілых руках,
Што красуня лясная
Пра мяне ўспамінае...
Дык, ручай, не шапчы,
Зацурчы
Па даліне,—
Час прачнуцца дзяўчыне!

І мы самі, як хвалі крынічнай пары,
Цераз луг, цераз свет паплывём на зары.
Ужо нашы прасторы
Там, дзе месяц і зоры.
Хутка ноч праміне,
У акне
Стала сіне,—
Час выходзіць дзяўчыне!

*1962*

* * *

Нас не раджалі камуністамі,
Мы гэта імя здабылі,
Калі сцяжыну каменістую
Да ўсходу сонца павялі.

Лёс чалавечы, боль бярозавы
Пераціраў часоў вятрак,
А мы пасталі над баразнамі,
І зерне рынула ў латак.

Упершыню за ўсю гісторыю,
Што муравала век на век,
Нам давялося скончыць ворыва,
Каб разагнуўся чалавек.

І нездарма паміж магнатамі
Са звонам торбы залатым
Адны мы сапраўды багатыя
Нястомным пошукам сваім.

Не літарамі і не рысамі,
А золатам трывалых дзей
У дзень адпрацаваны ўпісваем
Дзень, што задніўся кагадзе.

Такім і некалі адгорнецца
Наш поступ дбаламу пяру:
Не пераход па чыстай роўніцы,
А ўздым па стромах на гару.

*1963*

## ВІШНЁВАГА ДРЭВА ГАЛІНА

Вятры накрывалі даліну
Нябёсамі з чорнага шкла.
Вішнёвага дрэва галіна
Прачнулася і расцвіла.

На змрочным крыле небасхілу,
Як быццам на хмары самой,
Пялёсткі яна распусціла
І свежага лісця спакой.

Здалося, зямля падымала
Вясельны букет у руцэ...
Яе не зачэпяць навалы,
Ёй трэба цвісці — і цвіце!

Сярод навальнічнай залевы,
Пад выбухі ў дальніх краях,
І ты, як расцвіўшае дрэва,
Радзіма, краіна мая!

Разгоняцца цёмныя хмары,
І цвету яны не зальюць,
І грому цяжкія удары
Не будуць трывожыць зямлю.

На сонцы, у лісці зялёным,
У гомане цёплых дажджоў
Даспеюць налітыя гроны
Бяссмертных чырвоных пладоў.

*1963*

* * *

Белы снег зыбаецца
На марознай вуліцы,
Ці табе спяваецца,
Ці табе сумуецца?

Ці ты помніш, некалі
З восеньскімі зорамі
Ехалі мы рэкамі,
Сінімі азёрамі.

Неба жураўлінае,
Хаты з журавінамі,
Яблыні падсоўвалі
Яблыкі пунсовыя.

А цяпер цярусіцца,
То на сіта сеецца,
То слупамі круціцца
Сыпкая мяцеліца.

Дзьме пароша хрусткая,
Хай цябе прыдзьме яна,
Хутаную хусткаю,
Да вачэй завеянай.

Змерзла? Нічагусенькі!
Снег змяту я шапкаю,
Адагрэю вусенкі,
Рукавічкі зябкія.

Можа непрыгожая,
Можа непрыветная...
Даль мая дарожная,
Жаль ты мой абветраны!

Неба жураўлінае,
Хаты з журавінамі,
Яблыкі пунсовыя,
Сцежкі верасовыя.

*1963*

* * *

Пад чаромхай каля прызбы
Хтосьці туліцца ўдваёх.
Заўтра ён ідзе на прызвы,
Заставацца трэба ёй.

У плячах, як дуб, хлапчыска,
Але шэпча ўсё адно,
Хоць няма нікога блізка,
Хоць нікому не чутно.

Тыя вусны, што спявалі,
Аж грымела сенажаць,
Да відна не адшукалі
Іншай справы, як шаптаць.

І замлелі ці знямелі
Тыя рукі без пары,
Што валілі бор на трэлі
І вадзілі трактары.

То сагнуць лазовы дубчык,
То па боце сцебануць
І ўсё круцяць і ўсё мучаць —
Сцебануць і зноў сагнуць.

Вартаўнік ідзе ад свірна,
Паглядзеўшы на замок.
Хлопец стаў па стойцы смірна,
Дзядзька ўзяў пад казырок.

Што казалі сціхатою,
Не пачуў і ён, на жаль,
Ды напэўна ж не пра тое,
Як пабольшыць ураджай.

Дзядзька ведаў гэта слова,
Ды забыў даўным-даўно,
Хоць шаптаў у час вясновы
Шмат начэй і ўсё — адно!

*1963*

## НА РАСКОПКАХ

Устаўшы да сонца,
Папіўшы кваску,
Выходзіў цясляр,
Аблюбоўваў сасну.

З пляча замахнецца
Сякераю цяжкай,
Камель распадзецца
На смольныя плашкі.

Старанна за долата
Возьмецца волат,
У кожнай палове
Выдзёўбвае жолаб.

І слухае ўмелец
Падзяку людскую...

Мы даўнія дзівы
З пашанай турбуем.
Зямля іх глыбока
Схавала ад часу...
Вось тут чаравічак
З высокім абцасам.

А поруч — аздобы,
Рыбацкія восці,
Паўміскі, з якіх
Частаваліся госці.

Што далей, то болей:
Штодзень па знаходцы!
Вось гэта майстры,
Беларускія хлопцы!

*1963*

## АНГЛІЙСКАЯ БАЛАДА

Дзень мінуўся, і вечар следам
З туманамі стаў да акон.
Пры каміне пад мяккім пледам
Задрамаў ці забыўся ён.

Нерухомы...
А кроў жа грэе,
Слепіць бляскам зубоў эмаль.
Не, партрэт Дарыяна Грэя
Не з яго маляваў Уайльд.

Ён дарос, ён даспеў — палітык! —
Хоць сягоння саджай ва ўрад,
Ён увесь ад вушэй да лытак
Беззаганны арыстакрат.

Як дыктуе праўдзівым лордам
За стагоддзі набыты лоск,
Можа быць непахісна цвёрдым
І падатлівым, быццам воск.

Плыў бы ў Кенію ці Уганду,
Нават згодзен на Занзібар,
Каб імперскі разбойны гандаль
Караблі на марах зыбаў.

Ён бы гонар зрабіў кароне,
Вынаходлівы дыпламат,
Ідэальны міністр калоній,
Толькі новых, на жаль, няма.

Выпараюцца проста з мапы
Тыя нават, што калісь меў,
І пякуцца, аж дзьме на лапы
Ад нястраўнасці кволы леў.

Значыць, дзеяч не ў часе выспеў,
Перацвіў ужо даўні цвет,

Калі сцягу маленькай выспы
Біў паклоны вялікі свет.

Юбілеі наўкол грымелі
Зорак першай велічыні,
Ім замешвалі на ялеі
Сорак вершаў, не менш ані.

Сорак свечак палілі...
Сорак
Руж выкладвалі на абрус,
І, пад столь узляцеўшы, корак
Душ і рук мацаваў саюз.

Мог бы ўзяць ён руля дзяржальна,
Калі выбіла пяцьдзесят,
Ды мінаецца ўзрост дзяржаўны
Без вітанняў і без пасад.

Нагадае пра час абеду
Непарушны, як лорд, слуга,
З тых, хто бацьку яго і дзеду
Быць дакладнымі памагаў.

Цішыня. У каміне вецер.
Распластаны на дыване,
Паляўнічы сабака сетэр
За дзічынай бяжыць у сне.

*1963*

* * *

Дзесьці бліскае... Сварыцца гром,
А дзяўчына дамоў не паспела
І стаіць пад страхой з юнаком,
Невялічкая, босая, ў белым.

Размаўляюць без слоў, на мігі,
Ды ў вачах не схаваеш, не ўтоіш,
Што насілі іх ногі ў лугі,
Што вадзіла іх сэрца ў жытное.

Людзі ноч разбіраюць... Дарма!..
Б'юць маланкі? І гэта дзівосна...
Ім далёкай дарогі няма,
Ім ніколі не росна, не позна.

Не маўчыцца... Пачні — падпяю,
Чарнакосая, тонкая, ў белым.
Я усцешан, што ў хату маю
Хоць у дождж маладосць заляцела.

*1963*

* * *

Аб слова ўдарылася слова,
Іскрына высеклася з іх.
Ператварыўся штык сталёвы
У зброю ворываў зямных.

І сэрцу час не памыляцца,
Дзе гліны пласт, а дзе руда.
Заўсёды праца будзіць працу,
Дык слова ў слова — зноў удар!

*1963*

* * *

Яшчэ ж запалу ў сэрцы ёсць,
А скаргі вырвацца гатовы:
Пралётнай госцяй маладосць
Бяжыць з другімі ўскрай дубровы.

За ўсе каралі прыгажэй
На шыі пацеркі з рабіны,
За ўсе званочкі смех званчэй
У гэтай здрадлівай дзяўчыны.

Нашто цураешся мяне,
Няўжо-ткі я прыстаў, як жораў
На непаднятай цаліне,
Між неаблётаных прастораў?

Яна знікае ў цень бароў
З касою ў белым павуцінні
І, мусіць, сённяшніх сяброў,
Як і мяне, калісь пакіне.

І ўсё павабней, чым далей,
І незваротней, і трывожней
Даносіць слова на крыле
Мне позні вырай па-над пожняй:

— Даруй! Хоць мала пабыла,
Я на цябе пабагацела,
Я звенчаком цябе ўпляла
У кола моладзі нясмелай.

Ты разам з імі ў новы гурт
Людскі пяройдзеш.
Можа й шкода,
А затрымацца не магу:
Ты — сёння, тут,
я — скрозь, заўсёды.

*1963*

## ЗАЧЫН ДА НОВАЙ КНІГІ

Гэта першая кніга, якую складаў,
Быццам зроду ніколі пяра не трымаў,
Ні трывог,
Ні растайных дарог
Не было,
Нібы ў вочы снягамі
Жыццё не мяло.

Гэта першая кніга,
Якую складаў,
Быццам рынула крыга,
Пайшоў ледастаў.
З рэк юнацтва ляціць неаперaны сон,
Неразменены век, дзе наперадзе ўсё:
Мары ўсе,
Хмары ўсе,
Моры ўсе,
Зоры ўсе,
Цалкам свет — не хачу па драбку, па крысе,
Цалкам свет і з буслами на кожнай страсе.

Скрозь, усюды пабуду і словам прайду,
Перамыю руду, залацінку знайду.
Самы час! Навальніца завільжыла пыл,
І ўкапала вясёлка два сініх слупы.

Хай сабе падбівалася ў войны хада,
Хай сабе пракрадалася ў вокны жуда,
Што ліхога сустрэў,
перабыў,
перанёс,
На грудзях я не грэў,
А злажыў у пракос.

Не змяню, не змяняю і мець не хачу
Больш за вочы, што рады касому дажджу,
Больш за крылы, з якімі ляцеў і лячу.

Маладосць
Мела досыць
Няскончаных спраў,
Кніга ёсць,
Не сягоння яе пачынаў
Ды ўкладаў не адзін,
А шляхі і гады,
А свяціў маладзік
І душа маладых.

*1964*

* * *

Паўзуць трывожна чуткі скрозь —
Нібы скрыпіць зямная вось...
Лухта! Ды гэта ўжо здаўна,—
Не ўломіцца, старая,
З адсталай тэхнікі яна,
Падшыпнікаў не мае.

Але паколькі страхаў шмат,
Наладзіць можна тэхагляд.

Пад шлангам выхвастаў зямлю,
І ў клопат апаясаң,
Ёй крылы новыя раблю
З нейлону і пластмасы.

Мяняю дбайна каламазь,
Пад модны лак наводжу масць,
Фарбую днішча, каб яна
Дачасна не ржавела,
Між фар стаўляю кабана —
Люблю свіное цела!

Не пасміхайцеся, аднак,—
Відаць, што майстар з Мінска!
Здаўна зямля, і гэта факт,
Была айчынай свінства.

Таму каўчэг рыхтую свой
Так пільна, як прапрадзед Ной.
Але не буду падзяляць
На чыстых і нячыстых,
Усіх вазьму, няхай ляцяць
Гультай і розум быстры.

Ужо зачынены капот,
За руль сядаю — і ў палёт!
Свяцілы, рушачы з арбіт,
Насустрач іншым светам:

Праз гром і хмары — у блакіт!
Хай ветраэ планета!

Страсе ману, вайну далоў,
Крадзеж, рабункі, краты,
Кафэ скептычных смаркачоў,
Акопы бюракратаў.

Калішні боль, калішні бруд —
Адвее ўсё дарога.
І смела я гляджу ў пару,
Дзе мёў і мыў падлогу.

Як доўга, мілая зямля,
Цябе нам чысціць спакваля!

*1964*

* * *

Я на руках малую гушкаю,
Яна рагоча, рвецца з рук:
Чаму заву дзяўчынку цтушкаю,
На смешнай мове гавару.

Ці гэтак лёсамі прызначана
І радасць гэта ці бяда —
Дачцэ тлумачыць слова матчына
І бацькаў боль перакладаць!

Ты не смяялася б, разбойніца,
Пабачыўшы ў імгле гадоў
Дзядоў нялёгкае спаборніцтва
З агнём, няўродам і вадой.

Ды звады вечныя з суседзямі
То за душу, то за мяжу,
За іх ласкавыя адведзіны,—
Пра бомбы я ўжо не кажу!

Благое ўсё з вачэй атрэсаю,
Як сон нягоднае начы,
Каб з рэштай каўтуна і крэсіва
У новы дом не валачы.

Але нічым — ні здзекаў намеццю,
Ніякай ласкай і хвальбой,
Адбіць няможна добрай памяці,
Што ў мове точыцца жывой.

Усё ў ёй — земнае і воднае,
І гарт людзей, і моц дубоў,
Любоў заўсёдная, нязводная
Тваіх сяброў, твая любоў.

Адзін глыток — і ты асвежаны:
І шлях шырок, і дзень высок,

І — сонца!
                                Быццам цераз снежаньскі
Нячутны, малады сняжок.

Час не палічыць таннай змоваю
На шыбы заўтрашніх акон,
Калі гаворым *гэткай* моваю,
Не толькі я, не толькі ён.

Мы з ёю, гордыя і радыя,
І першыя на ўсёй зямлі
Прыдбалі ўладу над уладамі,
У крыўду сцягаў не далі.

І ў свет, куды набыткі плодныя
Пазносяць людзі, як браты,
Усыпле жменьку слова роднага
Дачка твая, калі не ты.

*1964*

* * *

Як з торбай пісанаю, з бомбаю
Зноў цацкаюцца... А тады
Хіба не сталі катакомбамі
Два жаўтатварых гарады!

А дзе падзецца будзе ўдарыўшы,
Куды падацца вам самім?
Уся зямля шугне пажарышчам,
І так на ёй ледзь-ледзь стаім.

Аглушаны вайны катрынкаю,
Наш мілы шар ужо гатоў
Рассыпацца і стаць пясчынкамі,
Даўгім камецiным хвастом.

Не гавару — пара адумацца! —
На гэта трэба нешта мець,
Я ведаю, сплывае шумаю
З былых ваяк былая медзь.

Аслепнуць войны касавокія,
Што на рукаў чаплялі крэп,
І жаўранкі па-над аблокамі
Абвесцяць мірны сон і хлеб.

Удосыта абмыты стратамі
Пасадзіць дрэвы чалавек
На ратным полі, дзе аратыя
Мячы засыпалі навек.

*1964*

## КАНСЕРВЫ АГНЮ

Над зялёнаю хваляй, над самым Дняпром
Гарадок невялічкі, мой сённяшні дом.

Ён з гушчараў лясных узышоў на аблонь
І жыве на вадзе, а рыхтуе агонь.

Не ў бляшанках схаваны, не ў стрэльбах, адкуль
Вырываюцца вострыя дзюблікі куль.

Гэта — моцны агонь, і пад сілу яму
Ад жытла чалавека адпудзіць зіму.

Гэта — добры агонь, ён вандроўніку друг,
Паўгадовая ноч з ім не доўжыцца ўдвух.

Ён у пачках драўляных, а зверху на іх
Этыкеткі з зубрамі і вокладкі кніг,

І цікавых, і тых, што няма пакупца,
Бо не высекла іскры асадка тварца.

А такому агню трэба толькі раўню,
Каб і слова з агню і малюнак з агню,

Як вось гэты, дзе ў сонцы палае наш герб:
Молат вечна куе, вечна шастае серп.

Уладар над цяплом, уладар над святлом,
Гарадок працавіты, вялікі мой дом!

Наляпі ты паболей малюнкаў такіх
На скарбонкі з паўсотнямі сонцаў жывых.

Я майстроў і майстровак тваіх папрашу:
Укладайце вы кожнай запалцы душу,

Каб далёка, расстаўшыся з нашай зямлёй,
Яны ўсе загараліся, ўсе да адной.

Хай агеньчык малы, але што ні кажы
Нешта ж недзе запаліць у роднай душы.

*1964*

## САЛЁНЫ БАЛАМУТ

Аднойчы нейк
Пакупкі нёс дамоў
З раймага чалавек.
І паміж імі
                    Было
                    Вясло
Някепскіх тараноў,
Сухіх, з галовамі сухімі.

Дарога бегла цераз мост.
                                        І тут
Адзін таран, салёны баламут,
На шпагаце ад ветру загайдаўся,
Перахіліў за біла хвост,
Нячутна з вешала злузаўся
І пляснуў у сялібы
Жывое рыбы.

Скрозь па рацэ пайшлі кругі:
Адзін-другі, адзін-другі.
Ён уявіў,
Нібы ажыў,
І на баку паплыў па хвалі.

Тым часам рыбы паўцякалі:
Карась —
У гразь,
Акунь — пад корч,
Шчупак у заразнік папёр,
Мяні,
Ліні
І галаўні
Маліцца сталі ў цішыні,
Каб іх нябёсы не каралі.

Таран хвіліну скарыстаў.
— Ага, маўчаць, дык, значыцца, баяцца.—
Спыніўся ён каля куста
І стаў вучыць,

Як жыць
І як за розум брацца:

— Ну, што тут добрага ў вадзе? —
На ўсю губу таран вярзе,—
Хіба гэта жыццё?
Наплюхаліся, досыць!
Кідайце вы трысцё
І ўсе як ёсць —
На пляжы!
Бакі папражым,
Страцім вохкасць
І ад вагі не будзем вохкаць.

Рэкамендую: з гэтых дзён
Увесці посны рацыён,
А вам —
Самам —
Шчырэй за ўсіх
Пасціцца,
Далей трымацца ад саміх,—
На чорта гэтыя спадніцы!
Рашуча раю, вось што зробім:
Усе да аднаго прасоліма вантробы.
Нязвычна крышку напачатку,
Затое страўнік у парадку.

Глядзіце на мяне!
Вось прыклад, дабрадзеі,
Што значыць моцны дух:
Я пасаліў трыбух,
Не п'ю, не ем, а праўлюся, таўсцею...
(А ён і праўда ад вады разбух!)
Пасоліцеся вы, гуляць не будуць нервы,
Тады вас можна — у кансервы.
Вышэйшы рыбі стан!
Не так сабе бляшанкі,
А гэткія, што падабаюць янкі.—

Вядомы падхалім —
Налім,
Іначай кажучы — мяптуз,
Падняў угору вус:
— От слова мудрае, як не згадзіцца з ім!

Таран жа — галава, ого!
Маліцца трэба на яго,
Як на ікону:
Ён тут адзін — салёны.—

Вучоны кар'ерыст — шчупак
У ладкі плешча: — Гэта факт! —

Старэйшы одапісец — лешч
Давай складаць дзяжурны верш.

Дуэт заслужаны ўюноў
Стыль апявае тараноў:
— Таран — мастак!
Як ён плыве цудоўна:
Бачком, бачком, за хваляю ў асноўным.
Вось гэта стыль! Не брас, не кроль,
А чысты тараноль! —

— Не застанёмся мы ўбаку! —
Гукнулі маладыя плоткі.
І дробязь розная, як кажуць, верхаводкі
Плывуць, дурныя, на баку.

Навіс над рэчкай жаль і смутак:
Што б ні сказаў таран — падхопіць зводны хор,
А простай рыбе стала скрутна
І ад прамоў і ад рэформ.
Што дзень, то горш...

Але задзіра-ёрш,
Хоць, праўда, з-за карча,
Нюхнуў і закрычаў:
— Таран смярдзіць, браткі! —
І адскубнуў у маралісты
Кавалачак лускі.
Тут падхапіліся ўсе чыста,
І толькі бурбалка адна
Пайшла ўгару ад тарана.

Мараль, а дзе ж мараль?
Я ўсё сказаў, на жаль,
Хай ходзіць байка без маралі,
Каб тараны яе сушыцца не паклалі.

*1964*

* * *

Не пільнавацца вешак,
Што значаць шляхі да славы,
Шчоўкаць самы цвярды арэшак
Мары і явы;
Не адкладаць на потым
Песню вачэй аб новым,—
Вось яна, ўся турбота,
Можа, зашмат для слова?

*1965*

* * *

Рэкламуюць кнігі на цукерках,—
Падсмачым, лягчэй, чытач, глынеш,
Ды гарчаць цукеркі ад паперкі,
Да якой даткнуўся кепскі верш.

Рэкламуюць кнігі на запалках,
Гэта напамінак для сяброў:
Дайце верш гаручы на распалку,
Бо сырым радком не ўпаліш дроў.

*1965*

## СМЕРЦЬ

Гэта цётка —
Зусім не конніца,
Пешаходка,
І то благая.
Падчышчае з зямное роўніцы
І — ці хочаш ты — не пытае.
Нават той, хто за ёю гоніцца,
Мусіць, думае, што ўцякае.

Як і ўсе, з небыццём змагаюся
Пад шчытом улюбёнай справы,
Але локцямі не штурхаюся,
Бо кладуць без чаргі на лаву
Слова, знойдзенае хапаючыся,
Гвалтам выхапленую славу.

*1965*

* * *

Мне гаварыў адзін паэт:
— Ратуй, алах, вас ад напасці,
А ўдарыць Коласа няшчасце,—
Асірацее цэлы свет.

Хоць прыйдзе змены міліён,
А страты не сплаціць такое —
У гэты час вялікіх трое
На цэлы свет.
І трэці — ён.

*1965*

## АД ПАВОДКІ ДА ПАВОДКІ

Парным сонцам павеяла,
сокі рушылі ў луб:
развівацца можа смела
недаверлівы дуб.

Дзень, прачнуўшыся з цеслямі,
секануў па бярну,
з жоўтым трактарам на ўзлессі
узгарнуў баразну.

Не ўтрымаеш руплівага!
Ад майстроў гэты дзень
прычапіўся да каліны:
— Хусту белую ўздзень!

— А ў зялёнай я дрэнная,
не відна за вярсту?
Калі любіш, дык надзену,
цераз ноч зацвіту.

Льецца ветраны досвітак
сырадоем густым.
— Напіліся,— кажуць,— досыць!
І сады і кусты.

І гаворкі ўжо новыя
і ўсмешкі ў людзей:
— Калі буйны цвет вясною,—
будзе колас паўней.

Чуюць: золак за выраем
крыллем зноў зазвініць,
шпарка рынуцца пад свіран
ручаіны пшаніц.

І, абмыты паводкамі
наліўной збажыны,
падаўжэе дзень кароткі,
мерку зняўшы ў вясны.

*1965*

*Некалі, непадалёку ад зацішнага ляснога дома, старэйшы таварыш, тады ўжо сівы чалавек, кожнага вечара паліў касцёр, цяпельца, як гаварыў ён па-магілёўску. Не дзеля якой патрэбы, хоць і рабіў ён выгляд, нібыта хоча ачысціць лес ад лаўжоў і ламачча. Проста гэтага вымагала агнепаклонніцкая натура: пабыць сам-насам з агнём, падумаць аб тым дабры, што маюць праз гэту стыхію людзі, крыху пакланіцца пакоранаму богу і, чаго таіцца, пасумаваць: вось была зялёная хвойка, расла, ды не вырасла, упала — і ўжо знікае з дымам. Праўда, асвятліўшы, хоць ненадоўга, змрок.*

*Каля вогнішча грэўся Колас і многія людзі, цяпер за розум і талент знаныя дома і за домам. Тут выбухалі феерверкі вастраслоўства, раздзімаліся ўспаміны, шчодра высяваліся непаўторныя назіранні.*

*На прызвычаеным месцы, пасярод баравой паляны, рабілася ўсё больш шумна і мнагалюдна. Тады мы з таварышам уцякалі куды-небудзь у гушчар, у глыбіню лесу, раскладалі агонь і падоўгу маўчалі, парадкавалі думкі...*

*Потым вогнішча разам з яго аўтарам і даволі сталым колам прыхільнікаў культу агню пераехала на бераг вялікага возера. І дагэтуль гарыць там. Не так каб не згасаючы, але ад бярозавага соку да першых подмаразкаў.*

*Усіх тых прадвесняў і зазімкаў, калі думаў і ўспамінаў я пры вогнішчы, налічылася дванаццаць. Магчыма, гэта не падстава называць кнігу, тым больш што злажылася яна не тэматычна, па вогнішчах, а хутчэй, калі можна так сказаць, па ўзросту думкі. У такім кірунку я папраўляў напісанае, а часамі і дадаваў замалёўкі і невялікія навелы.*

*А можа, гэта не так ужо і кепска: гадзіна роздуму каля агню сярод нашага клапатнога, неспакойнага, шчодрага веку.*

1

## СА СЛУЦКАЕ ЗІМЫ

Шалясціць віша на балотах...

Віша — гэта трава, якую не паспелі скасіць у часе. Перастояўшы пару, яна ўсыхае і аказваецца пры кожным подзьмуве ветру, як асіна улетку. Вецер мяце сухі снег на сухія бадылінкі, і здаецца, што дзесьці адчышчаюць іржавыя нажы наждачнаю шкуркаю ці сыпкім жвірам.

Белае марознае поле. Дарога гладкая, слізкая, бліскучая. Ільсніцца сліпучы белы снег. І, як ахапіць вокам, на кожным кроку зіхціць пад нагамі дрыгаткая сіняватая зорка. З-за далягляду набліжаюцца верхавіны дрэў. Шэрань з іх напалавіну абсыпалася, і па галлі можна пазнаць, што гэта бярозы.

Адзінокага пешахода даганяе конь, запрэжаны ў сані без палукашка. Буланы, з абшэранелай добраю мордай. На ахапку саломы ляжыць хлопец, укруціўшыся ў кажух. Сярод белай зімовай бязгучнасці бягуць цені каня, саней і хлопца ў кажусе. Цёмна-сінія, вялізныя.

Цені ўсё вырастаюць, цямнеюць і нарэшце зліваюцца са змрокам. Здалёк чуваць сухое шархатанне вішы.

У хаце, куды ты толькі што схаваўся ад завеі, прынёс лісты і газеты з пошты, паліцца варыстая печ і весела гарыць лямпа.

Аднастайна плыве гаворка, жанчыны сучаць ніткі і шыюць, гаспадар крышыць самасадны «мультан» і частуе суседа, што завітаў перасядзець разам доўгі зімовы вечар.

— Цяпер, брат, тэхніка ў сілу бярэцца. Хутка газы і не знойдзеш. У Слуцку вунь скрозь электрычнасць, і самаходы бегаюць.— Сказаў і змоўк, залажыўшы руку за крысо старога паўкажушка без каўняра і рукавоў, што служыць яму за камізэльку. Шчокі ў гаспадара пазападалі, але гэтага амаль не відно, бо ўсё аблічча аблямавана сівою з рудзінкаю барадой. Каля губ барада і вусы яшчэ жаўцейшыя, як ва ўсіх заядлых курцоў. Вось і цяпер ён не выпу-

скае з зубоў ладнае самакруткі, але не ў паперы, а ў адвільжэлым тытунёвым лісці, накшталт сігары. «Так менш кашаль б'е»,— тлумачыць ён.

У хаце цёпла, але сусед, па вясковай звычцы, не распранаецца, нават не расшпіляе доўгага кажуха з вялікім калматым каўняром. У гэтай самай адзежыне чалавек можа сядзець некалькі гадзін на лаве супроць печы, адкуль так і патыхае гарачынёй, і столькі ж часу ехаць, не варухнуўшыся, у санях па наваго дн ім марозе. І яму аднолькава цёпла.

Сусед зацягваецца і падхоплівае кінутае слова пра тэхніку.

— Цяпер так выходзіць: дзе ні капнéш, усюды дабро. А мо і на нашым працерабе некалі «пуцілаўца» паставяць і з свае руды машыны рабіцьмуць. Усё можа быць...

(Прарочыя словы! Цераз тры гады ў гэтай вёсцы арганізаваўся калгас «Чырвоны пуцілавец», са старшынёй — пуцілаўскім рабочым. А яшчэ праз чвэрць веку на чыжэвіцкіх землях, за сем кіламетраў адгэтуль, былі прабіты шахты да саляных пластоў нечуванай магутнасці).

— Рабіць толькі трэба,— заўважае гаспадар.— Не паварушыш рукою — само ў далоні не ўпадзе. Мы ў бога верым, а ён не дае дарам, з нас хоча злупіць. Пастаў яму свечку, пакладзі залатоўку старасце, а папу дык і паўрубля...

— Цяпер і ў папа кепскія заработкі. От недзе, казалі, бацюшка агаладаў, дык пачаў падноскі падбіваць. Падаб'е, вядома, не ўмеючы, а яны назаўтра адваляцца. Мужык прыходзіць — ды па мацеры, ды за бараду... Як жа пасля гэтага святыя рызы ўздзяваць, хто тае малітвы паслухае.

Абодва смяюцца. Жанчын крыху абражаюць такія легкадумныя адносіны да бога і божых служак, але ўсміхаюцца і яны.

— Дык той поп, казалі яшчэ, і злодзеем стаў. Абы чыя курыца заскочыць да яго ў двор, адразу — хоп! І ў гаршчок. А людзі ладу не дабяруць, куды тыя куры дзяюцца! Нарэшце агледзелі пер'е ў бацюшкі на сметніку. І зноў папа біць!

Цяпер смяюцца і жанчыны.

— Хлопцы захацелі з яго пакпіць. Пайшоў ба-

цюшка па калядзе. Назбіраў у вёсцы збожжа, сала, кілбас. Падаўся на хутары. Там яго паклікалі на пачастунак. Поп папівае сабе самагонку, а хлопцы тым часам выкралі з саней добрыя кілбасы, а падлажылі...

Сусед мусіць спыніцца, каб даць волю смеху.

— Дасталі кішак, парэзалі на кавалкі старое вужышча і нарабілі вераўчаных кілбас. Прыехаў поп дадому, гасцей назваў... Узяліся за кілбасу, а яе ні ўрэзаць, ні адкусіць. Прыйшла нядзелька, скончыў поп абедню і давай казань гаварыць. «Жадаю, кажа, у новым годзе здароўя вам, мае парафіянцы. І каб у вас зубы не балелі, каб вы маглі тыя кілбасы жаваць, што мяне абдарылі...»

— І не гавары пра зубы,— крывіцца гаспадыня.— Усю зіму мучуся. І дня спакойнага не даюць.

— А да Юркі хадзіла?

— Хадзіла. Даў лякарства, гаворыць,— а мо і палегчае. Я паласкала-паласкала, адале давай ехаць у Слуцак. Там дакторка зірнула на мае лекі дый кажа: «Цётачка, гэта кроплі ад жывата!» От табе і Юрка!

Юрка — наш мясцовы эскулап. Вярнуўшыся з ваеннай службы, а ён там быў санітарам у шпіталі, разгарнуў шырокую медыцынскую практыку. Ад усіх хвароб лячыў парашкамі двух гатункаў: белымі і ружовымі. І памагалася, і Юрка меў неблагую натураплату яйкамі, маслам, сырамі, палатном і самагонкаю. Аж пакуль не высветлілася: белыя парашкі — чыстая сода, а чырвоныя — закрашаная патоўчанай цэглай.

— А свянцонай вадою паласкала? — пытае, пасмейваючыся, сусед.

— Паласкала,— гаворыць гаспадыня.— На дзень адпусціць, а потым яшчэ мудрэй баліць.

— Ды я не пра тую ваду,— бубніць сусед.— Ты нашымі, мужчынскімі кроплямі паспрабуй.

Гаспадар чухае патыліцу.

— А можа і праўда,— гаворыць ён.— Паспрабуй. Што застанецца — мы пакаштуем.

Жанчына крыху касавурыцца, але ўскідае на галаву хустку і знікае за дзвярыма. Пашарыўшы ў кладоўцы, яна вяртаецца з няпоўнай пляшкай, заткнутай кудзеляй, і кладзе на стол ружаваты кавалак мёрзлага сала. Мужчыны робяцца паважнымі

і, тоячы жаданне хутчэй узяцца за чарку, угаворваюць гаспадыню:

— Дык ты вазьмі, патрымай у роце, пакуль угрэецца, і добра прапалашчы. А потым і праглыні, калі хочаш.

— Ат! — яна махае рукою.— Нібыта я не ведаю. Вельмі вам у галаве мае зубы... Піце ўжо самі.

Гаспадар налівае першую сабе:

— Будзь здароў, чалавеча!

Выпіўшы, мужчыны ломяць па драбочку хлеба, далікатна адкусваюць ад скрылька сала і адкладаюць. Ажыўляецца кот на прымурку, ён саскоквае, сагрэты надзеяй паласавацца. Выгінаючы спіну, муркае і трэцца аб гаспадарову нагу.

— Псік! Ідзі, брат, мышэй лавіць. Ты чаркі не піў, дык і закускі не прасі.

— А чулі — гавораць, Пілсудскага забілі,— заўважае сусед.

— Так і трэба яму, шэльму. Колькі ў нас яго легіёны коней забралі, хат папалілі. А шампалы! Слагадзіха дагэтуль сесці не можа.

— Але ж праз гэта можа зноў вайна быць. Бо забілі яго свае генералы, а на Саветы ўсю віну складаюць.

— Ну, вайна! Не дай ты божа! Ці ў газетах пішуць што? Га, студэнт?

Кажу, што нічога такога не сустракаў. Не давяраючы ці то мне, ці газеце, сусед заўважае:

— Бывае і праўда, але не пра ўсё пішацца. А ты чаму чаркі не п'еш? Толькі крамную ўжываеш?

Я адмаўляюся, на здавальненне мужчын. Яны і так смутнавата паглядаюць, як вадкасць у бутэльцы пакрысе набліжаецца да донца.

У хату ўваходзіць шчуплы дзядок Аніська, вядомы ўмельствам даводзіць да шаленства сабак. Едучы цераз якое-небудзь сяло, ён выстаўляў праз палукашак прудкую саломінку з каласком і ўдражніваў ёю любога сабаку, нават з такіх, што не мелі ніякага намеру брахаць праз ляноту або па старасці.

Саломінка то пакручвалася перад сабачым носам, то спрытна ўцякала ад выскаленай пысы, а цюцька бег ды бег, брахаў і брахаў да хрыпаты. Калі ён крыху астываў і быў схілен спыніць бясплённую па-

гоню, Аніська злаўчаўся і перацягваў сабаку пужкаю. Сабака ўзвываў ад абразы і болю і з новым запалам кідаўся на недасяжную саломінку. Адвёўшы зморанага, задыханага пса за вярсту ад дому, Аніська накідаў яму на галаву пятлю і прывязваў да аглабіцы. У сваім двары, вызваліўшы няшчасніка ад вяроўкі, дзед даваў яму скарынку, лашчыў і казаў без злосці:

— А не будзь дурнем. Ідзі цяпер, адкуль прыйшоў.

Як ні дзіўна, большасць прыручаных такім чынам сабак заставалася ў Аніські і не думала варочацца ў старое паселішча. Дзедаў двор заўсёды гаўкаў добрым дзесяткам галасоў. Аніська лёгка раздарваў сваю здабычу па суседзях, прыгаворваючы:

— У цябе ўжо сабака стары. Дык я добрага вартаўніка прывёў. Дай дакурыць і прымай на векі вечныя!

Таму і зараз яго на парозе сустракаюць пытаннем:

— Аніська, ці няма ў цябе лішняга сабачкі?

Дзед абівае лапці ў мыцельніку, ідзе да стала, не чакаючы запрашэння, сядае.

— Няма. На кірмашы сягоння быў. Да коней прыцэньваўся. Дык траха не набілі.

— А што?

— Даражбіты цяпер пайшлі людзі. Цаны каню не зложаць. Сто пяцьдзесят просяць, а то і ўсе дзвесце. Абышоў кірмаш разы са тры, пакуль нагледзеў. «Колькі,— кажу,— кабыла?» — «Сто сорак».— «А сто трыццаць бярэш?» — «Не».— «Э, ды яна ж на адно вока сляпая».— «Ну, дык я пяцёрку скіну».— «Браце,— кажу,— як ты дзешава вока цэніш. Дай я табе вока выб'ю, дык адразу дзесяць рублёў дам». А ён мяне за́грудкі...

— То табе ж, Аніська, і конь не трэба зусім,— кажа гаспадар.— Табе абы патаргавацца. Я ж сам бачыў,— тут гаспадар зварочваецца да хатніх,— як аднойчы ён па кірмашы лазіў. Лапці вялізныя, панамярзалі, груку робіць за дзесяцярых і поўзае ад воза да воза, усё пытаецца: «Колькі просіш?». Гаспадар адкажа, ён паміргае вачыма дый гаворыць: «То падхадзяшча просіш». І пашыбаваў далей. Дзіва, што цябе біць кідаюцца.

Дзед не зважае, як быццам гаворать не да яго. Потым закурвае і падымае вочы на суседа:

— Давай з табою памяняем на коні.

— Давай! А колькі сабак у прыдачу дасі?

— Я табе тры сабакі, а ты мне свой язык. Ён усю вёску аббрэша.

*

Зноў вечар, зноў тыя самыя гаспадары і суседзі, і амаль такая самая гаворка.

— Трэба сена з балота забіраць.

— А ці пад'едзеш з канем — можа яшчэ не ўмерзла.

— Для злодзеяў умерзла. Пазаўчора паехаў Мікіта, а ягонага стажка ўжо няма. Голы адонак і торбачка на ім. Развязаў торбу, аж там паўбутэлек і акраец хлеба. І паперка пакладзена: «Выпі, закусі і налета накасі».

— То яшчэ сумленны злодзей,— кажа Аніська.— Некалі ў графа Чапскага ў Станькаве мудрэй зрабілі. Меў ён пару стаеннікаў, мо па тысячы рублёў кожны. Як выедзе, дык зямля ўгінаецца. Стайня была мураваная, дзверы накрыж жалезам ababіты, а завалы са сталі, у Пецярбурзе робленыя. На тых завалах па два замкі, вялізныя, як макатры. З Парыжу граф прывёз, каб ніхто ключа не дабраў. І повен двор сабак. Нанач іх з ланцуга спускалі — не падыходзь, парвуць на шматкі.

Рады граф, пахваляецца: «Да маіх коней ніякі злодзей не даступіцца».

Вось і прачулі пра гэта майстры зладзейскай справы. Як яны зрабілі, ніхто не ведае, але прачынаецца аднаго разу граф і бяжыць коней паглядзець. Аж варта ўся спіць, сабакі па пары хвастамі пазвязваны і паабапал плота вісяць, вароты ў стайні наросхліст, а коней і знаку няма. У парозе, пад каменем, запіска:

Граф Чапскі —  
Розум бабскі,  
Добрых коней мае,  
Ды не замыкае.

У Аніські заўсёды напашэве якая-небудзь смешная гісторыя. Ад злодзеяў ён пераходзіць да ваўкалакаў, выхадцаў «з таго свету». Гаворка гэтая заўсёды заводзіцца супроць начы, з разлікам каго-небудзь напалохаць.

Аніська быў селавы пастух і меў час слухаць і расказваць. Аднак на гэтай ганаровай пасадзе адзержаўся мала, два ці тры леты. Шкоды ён не пільнаваўся, статак распускаў па канюшыне і лугах беспурботна. Калі яго за гэта лаялі, маўчаў або адказваў з філасофскім спакоем:

— Якая тут патрава? Луг ваш і каровы вашы.

Не ўпадаў стары ні за гаспадаркаю, ні за ўласнаю зямлёю. Жонка яго, такая ж шчуплая, як і ён сам, махаючы пад носам кулакамі, крычала кожную вясну:

— Чаго ты глядзіш? Вунь Сцяпан зноў пераараў у нас паўзагона.

— Хай арэ, калі яму трэба. Што табе, зямлі шкада? Каб чаго, а то зямлі. Калі табе нестае, дык я пайду на засцянковае і накапаю мех. А мала будзе — два мяхі прынясу.

Пакуль я ўспамінаў гэта, Аніська кінуўся ў свае маладыя гады і пачаў расказваць, як ён начаваў у аднаго сваяка, што ажаніўся з намнога маладзейшаю.

— Пага́лілася на гаспадарку, падла. А цяпер пакутуе. Пакуль мы тарокаліся з ім, дык яна напякла, браце, грэцкіх блінцоў, насквaрыла сала цэлую патэльню, яшчэ і дзесятак яец убіла. Пад'ела ды як легла ўпoперак полу... Нібыта спіць, а чакае... А ён тупае па хаце, крэкча, легчы баіцца. Я кручуся на лаве і думаю: от, чалавеку жонка не трэба...

— Калі ж гэта было, Аніська?

— Калі ні было, абы было...

Мужчыны ўстаюць і закурваюць на дарогу. Мы выходзім з хаты разам. За вечар паспела змяніцца надвор'е. Патыхае цёплы вецер, туман асядае на твар кроплямі імжакі. За рэчкаю ў хмызняках чуваць рух, здаецца, бягуць распутаныя коні.

Аніська прыслухваецца:

— А браце ты мой! Гэта ж ласі жыруюць, аж стогнуць.

Адвільжэлымі пёрамі шалясціць віша на балотах.

## 2

## ПАЎДНЁВЫ ВЕЦЕР

Калі выязджалі з Мінска, на запасных пуцях стаяў паравоз. З акна выглядалі два твары, старэйшы і зусім малады: мусібыць, машыніст і качагар. У малодшага повен рот, ён нешта жуе. Гэта не замінае яму іранічна пасміхацца ў адрас лагодных абліччаў — людзі кіруюцца ў Крым. А можа яму крыху зайздросна, можа ён адкуль-небудзь са слуцкай веткі, дзе соваюцца рыплівыя вагоны і кукушкі-паравозікі.

*

Зусім недалёка ад Мінска, а гаворка стала бліжэй да ўкраінскай.

У Горадні чорнае, як галка, дзеўчанё з кошыкам яблык сказала:

— На рэшту грошай нэмае.

У вагон селі ўкраінскія фізкультурнікі, усе са стрыжкаю «бокс». Гэта робіць аднаго, самага чарнявага, падобным да Хамы Брута.

І сэрца пытае: куды ты, куды ты?
І колы грукочуць: абы вось паехаў!

Першыя радкі ў прадчуванні поўдня складаюцца на мулкай паліцы плацкартнага вагона.

Запомнім: сёння 16 чэрвеня, 1929 года.

*

Сімеіз. Мае таварышы, маладыя паэты — Віктар Казлоўскі і Сяргей Дарожны, жывуць у пансіянаце. А я зняў пакойчык у татар, на гары.

Ходзім, разглядаемся. Ад зморы і задухі спаборнічаем, складаючы недарэчныя параўнанні. Неба — капялюш, які надзявае зямля ў залежнасці ад наст-

рою: сіні ці дымчаты. Сёння, напрыклад, ён шэры — прадчуваецца дождж.

Мы смяёмся, Сяргей працягвае:

— Зямлі канечне патрэбна накрыўка, яна такі моцна злысела за апошні век, толькі частка Афрыкі ды Аўстралія захавалі амаль некранёнай сваю зялёную шавялюру.

*

Перад дажджом крымская прырода страціла яркія фарбы: кіпарысы здаюцца пыльнымі, насмех уткнутымі ў зямлю мяцёлкамі, горы — злінялай фанернай дэкарацыяй, а мора — шэрай мокраю коўдрай. Але схлынуў лівень, выбліснула сонца, і вочы зноў захапляе бясконцая, невымерная, невымоўная сінеча.

У сіняй вадзе расчыняецца бераг,
Тут сінія дрэвы і сінія студні.

*

Хадзілі на «Кошку». Цыкады. Яны проста глушаць. Сяргей пазатыкаў пальцамі вушы.

— Не вытрываць. А як бы напісаў пра гэта наш агульны друг? — і сам адказвае: «Піянеры нашага атрада па гарах рассыпаліся, як цыкады».

— Не лепей і ў нас, Сяргей, атрымліваецца,— дабрадушна абзываецца Казлоўскі.

Сяргей становіцца ў позу, захінаецца кашуляй, як плашчом:

— Няшчасны, калі хочаш параўняцца са мной, падстаў сабе пад ногі Ай-Петры.

Віцька няўважліва махае рукою.

— А якія ў цябе адносіны з Ясеніным? — з'едліва пытае ён, намякаючы на падазронае падабенства бяроз і сабак Дарожнага да ясенінскіх.

— Пераймай і ты, але ўсё ж падсявай Шаўчэнкавы радкі на сваё вуздзенскае сіта. А некаторыя хапаюць адкуль толькі можна: адна нітка з Лугаўскога, другая — са Святлова, трэцяя — з Хадыкі. Разматаўся клубочак, а ўсярэдзіне нічога няма, скамечаная паперка.

Віцька роблена засмучаецца:

— Ах, колькі геніяльнага напісалі б мы, калі б да нас не было ніводнага радка!

*

Стары татарын. Зусім бронзавы. А зморшчкі на твары нібы выразаны назнарок: вялікія, глыбокія.

— Жыта вы не сееце?

— Не. Вінаград рэжам.

— А з чаго яшчэ жывяце?

— Дзесятак барашкаў маем.

— Аж дзесяць барашкаў. І ўсе пішуць? — роблена здзіўляецца Сяргей. Пісьменніка з падобным прозвішчам ён выкпівае пры кожным зручным і нязручным выпадку.

Каштуем у старога віно і, павесялеўшы, спяшаемся на абед.

*

Вячэрняя прагулка. Сяргей расказвае пра сваё жыццё ў дзіцячым доме. У іх была выхавальніца, пераспелая пападзянка.

— Аднойчы мы бегалі ў садзе, вадою абліваліся. Яна пазачыняла ўсіх у спальню, а мяне завяла за хлеў і кажа: «Давай пацалуемся!» Я гавару: «Давай». І цалаваліся. Кожны вечар, аж да майго ад'езду ў Мінск.

— Прыбаўляеш!

— Напішы ў Мазыр, запытай. Адрас я дам.

*

На пляжы — беспрытульнік. Стаў у позу і завёў: «Этот случай был в прошлом году...» Старэнькія трусы, цела ў балячках, падвязанае вуха. Але чорны курцік на голым целе расхінуты па-іспанску, погляд востры і горды.

*

Гляджу на мора і разумею, чаму так хацелася сюды, чаму так прасілася душа ў невядомае. Як далёка відно!

Вершы пакуль не пішуцца. Так, жартуецца нешта.

Былі каралì —
карáлі.
Былі ў каралеўны
карáлі.

*

Віктар з'явіўся на пляж са спазненнем.

І ўсюды, дзе можна і няможна, сінелі на яго целе кропелькі хімічнага алоўка. Усю ноч пісаў вершы.

Сяргей нязлосна выскаляецца:

— От гэта работа. Крымзоліў на ўласным пергаменце. Разлік — на вякі.

*

Едзем па моры на маторнай лодцы. Матарыст і яго памочнік сварацца.

— Табе яшчэ канём трэба пакіраваць!

— А табе вярблюдам.

— Ідзі-валі он туды!

І матарыст падзьмуў на далонь, паказваючы за борт.

*

Канцэрт. Афіша абяцала «Купалінку». Як жа яна будзе гучаць тут, на поўдні, наша мілая песня? Чакалі, чакалі — і марна.

Пасля першага аддзялення пайшлі пытацца. Дырыжор растлумачыў:

— Мелодыя вельмі тонкая, вецер замінае выкананню.

Музыканты пакінулі на эстрадзе ўсе свае прычындалы і пайшлі вячэраць у бліжэйшы пансіянат.

Вецер застаўся гаспадарыць, раздзімаць і блытаць дэкарацыйныя палотнішчы, гартаць ноты.

Я пайшоў на бераг мора, і там усё бачанае злілося ў адзіны вобраз.

Забытыя ноты на чорным пюпітры.
Гартае іх вецер — вандроўны музыка.

*

Ялта. Другі дзень абшукваю могілкі. Тут жа апошнія дні глядзеў на свет Максім Багдановіч. Пад вечар, амаль без надзеі, рушыў на Аутку. Там недзе татарскія могілкі. Аблазіў усе закуткі і, змораны, клыпаю вячэраць.

Па дарозе яшчэ раз заходжу ў дамок Чэхава. Жанчына, здаецца, сястра Антона Паўлавіча, спытала, адкуль я і хто. Пачуўшы, што пішу, здзівілася:

— Такі малады? — І папрасіла распісацца ў кнізе.

У гэтым доме няёмка прызнавацца, што ты пісьменнік. Лепей бы сказаў — студэнт.

Хаджу, баючыся зрабіць гучны крок, неасцярожны рух. Стол перад нішаю. Вельмі ж пасуе левітанаўскі малюнак: вечар, восень, стагі. Кажуць, ён быў напісаны пасля невялічкай спрэчкі, на міравую. А хіба з Чэхавым льга было спрачацца ці сварыцца!

На тэрасцы група старэйшых школьнікаў слухае тлумачэнне: «За гэтым сталом сядзелі лепшыя людзі часу: Горкі, Бунін, Шаляпін».

Дзеці трымаюцца па-гаспадарску. Дзяўчынка ў чырвоным гальштуку бегае вострымі зялёненькімі вачыма па інструменце, крэслах, гадзінніку.

— Някепска жыў! — не вытрымлівае яна.

Жанчына лагодна глядзіць на малую, хаваючы ледзь прыкметную ўсмешку.

У гэтым скупым адвячоркавым святле, у гэтай падкрэслена мяккай цішыні здаецца, што зараз пачуецца лёгкае пакашліванне добрага, вельмі хворага чалавека.

Багдановіч таксама хварэў на сухоты... Паціху выходжу на дворык і саджуся на лаўку. Пад сэрца падступае шчымлівая хваля ўзрушанасці.

*

На вуліцы разгаварыўся з фатографам. Ён цягне аднекуль сваю трыногу і скрынку з чорнай хусткаю. Спыніўся, выцірае хустачкай карычневую ад загары лысіну.

— Магіла Багдановіча? Беларускага паэта? Ведаю. Фатаграфаваў, і не раз.

І мы ўжо бадзёра крочым назад, на гару, на абходжаныя мною могілкі.

Амаль на самым схіле — невялічкі курганок, заліты цэментам, і гранітная пліта з надпісам. Маладзенькі кіпарыс расце на самай магіле, каля яго — некалькі жытніх каласоў.

Іх пасеяла цёця Уладзя, жонка Купалы. Яна наказвала мне перад ад'ездам:

— Паглядзі, ці расце там маё жыта.

Расце, «хоць зерняткі засохшымі былі»!

Пакуль фатограф прыладжвае начынне, запісваю асобныя радкі.

Гэта сум з майго сэрца вырас,
Каб на варце стаць кіпарысам.

*

Мірсціцца невыразная задума паэмы, відаць, парадыйнай.

Вышэйшы літаратурны суд разглядае справу пісьменніка Васіля Кружаліна. Яго абвінавачваюць уласныя героі. Апісаў жывых людзей, перабольшыў іх адмоўныя якасці, зменшыў станоўчыя і выдае за выдуманых герояў, адмаўляючы хоць які, нават самы дробны, удзел у сучасным жыцці.

Гэта — як пралог.

Пачатковая сцэна. Кружалін вярнуўся з горада, запаліў лямпу і нарыхтаваўся пачытаць Гейнэ.

Уваліўся натоўп людзей.

— Не пазнаеш? Мы — твае героі. Як ты думаеш абыходзіцца з намі далей?

— Даруйце, вы яшчэ не прайшлі цераз рэдактуру. Вам яшчэ нельга аказвацца ўголас. Займіце свае

месцы на старонках рукапісу і не прысппяшайце падзей. Абдумвайце свае паводзіны і ўстрымайцеся ад размоў.

— Які там к чорту рукапіс! Мы такія ж людзі, як і ты. Вось нашы дакументы, а дзе мы жывём, сам ведаеш.

— Дзе вы можаце жыць, калі я вас усіх выдумаў?

— Выдумаў? Не, брат! Цягаўся за намі па пятах, падглядаў і ўсё браў на паперку.

Героі расказваюць свае сапраўдныя біяграфіі. Потым па іхняй прапанове пачынаецца вандраванне па рэспубліцы. Выдуманыя героі сустракаюцца з сапраўднымі героямі нашага часу, уваходзяць з імі ў дачыненні. Такім чынам высвятляецца, які ж герой мае права на жыццё ў літаратурным творы.

Кружалін

Доўга цябе гадаваў і насіў,
Думак жывое бярэма!
Цераз паводкі, палі і лясы
Стукае ў дзверы паэма.

Час у прасторы не спыніць бягу
Спраты вякоў адамкнуцца,
Вее над моракам творчых лагун,
Свеціць штандар рэвалюцыі.

Можа, не ўбачу патомкаў кастры,
Словы падымуцца з лёхаў,
Зменяць стагоддзі пакручаны рытм
І дарыфмуюць эпохі.

Галоўны герой

Канчай, не валаводзь, Васіль!

Кружалін

Асвойтаўся ты вельмі, братка!

Галоўны герой

Я тры гады, на смех усім,
Ляжу ў паперах без апраткі,
Давай жа месца мне ў жыцці,
Саджай у ДОПР, кладзі ў бальніцу,
Гатоў галодным я хадзіць,
Абы хоць крышку нарадзіцца!

Кружалін

Сканаеш, ты ж худы, як склюд,
Я ледзь табе агораў рэбры...

Галоўная гераіня

Мне трэба муж, патрэбен кут,
Я ж не зязюля і не зебра.

Кружалін

Усё адразу вам падай:
Кватэры, вопратку, пасады
Ды сатырычны тон трымай
І не збівайся на баладны.
Аднак гатова... Твор жывы,
Спакойна, роўна б'ецца сэрца...

Рамізнік

Стой! На зламанне галавы
Сабраўся ехаць без падгерца?
Конь з перадком падасца ў свет,
А зад з паклажаю — ў канаву.
Дзе твой падгерац, дзе сюжэт,
На чым грунтуецца ўся справа?

Галоўны герой

Змяніць яго!

Галоўная гераіня

Не той паэт.

Галасы

Судзіць яго!

Пішэм заяву!

Тут падняўся страшэнны шум. Героі, прыёмы, выяўленчыя сродкі і наогул усё тое, чаму знаходзіцца месца ў кожным прыстойным творы, узяліся вінаваціць Кружаліна, што не толькі не паклапаціўся аб стройным сюжэце, а і спазніўся з напісаннем, падае ў крывым люстры персанажы, не даводзячы іх да ўзроўню жывых людзей, робіць няўдалыя высновы і недарэчна вырашае сур'ёзныя праблемы, няўмела выкарыстоўвае арсенал паэтычнай тэхнікі, збіваецца з сатыры на оду і наадварот, і нават не ведае мовы.

Аб усім гэтым і была складзена заява.

У Літтрыбунал рэспублікі,
Савецкай Беларусі

рамізніка Шкарубліка,
дзяўчыны Ломыш Люсі,
рэцыдывіста Конскага,
касіркі Мані Плесні,
настаўніка Паклонскага,
Іларыёна Цеслі,
шаўца Івана Перніка,
эпітэта і мовы,
вучонага Каперніка,
чэкіста В. Арлова,
барона Ротэнфалена,
рабочага Кунявы
І Цімаха Дзяржаліна.

Заява

Мы маем вам пажаліцца
Вялікай грамадою,
Пісьменніка Кружаліна
Прыёмы і героі.

Няхай ён не падманвае,
Мы вельмі добра кемім,
Што твор яго заганны
І не сваяк паэме.

Каб одай быў ці псальмаю —
І то не цягне, мусіць,
Ніколі не пісалі так,
Прынамсі ў Беларусі.

Ударніцтва, спаборніцтва
Растуць, шумяць над золак,
А ён заняўся шкодніцтвам
І нас — у гэта кола!

Тут мы — ў сапраўдных прозвішчах,
З жыцця павыдзіраны:
Шкараблік — з Доўгіх Бродзішчаў,
Паклонскі — з Азяранаў,

Хай болей ён не ліпне к нам,
На гэтым ставім клічнік!
Усіх нас просім выклікаць
І выслухаць публічна.

«Для воўка лес і поле ёсць,
Каб толькі ногі неслі,
Мы — пры асобным поглядзе.
Арлоў,
Кунява,
Цесля».

Судовая зала. Перад пачаткам пасяджэння Кружалін нешта запісвае ў блакнот.

Цесля
*(падыходзіць)*

Блакнот наперагіб,
І зноў у бок ад тэмы.
Таварыш дарагі,
Давай канчаць паэму.

Герояў дапусціў
Пачаць з эпохай свару.
Даволі ўжо гасціць,
Пара ўжо гаспадарыць.

Песня
*(перапыняе)*

Кружалін, ты мяне забыў,
А што тваё пяро без песні!
А ты ж спяваў, калі хадзіў
Са мной па росах каля весніц.

І мы ўзляталі на Машук,
Да пяцігорскіх дуэлянтаў,
Шукаць сляды крывавых рук
Паміж далін, сярод палян тых.

Чытач

Не муч пяро, устань, паэт,
Перапыні пралог разбухшы
Ды пачытай вазьмі газет
І вызваляй ад смутку душы.

Я разумею, ёсць і боль,
Нам праз вякі спіна балела,
Цяпер адмовіцца дазволь
Ад слёз, ад продкаў скамянелых.

Кружалін

Замоўкніце ўсе галасы!
Усё ж ткі я тут гаспадару:
Ці дам вам промін творчых сіл,
Ці зноў у небыццё прашпару.

Пасля звычайных цырымоній, што спадарожнічаюць судоваму следству, пачаўся допыт, пад час якога многім героям давялося перасесці на лаву падсудных, дзе да гэтага сядзеў адзін Кружалін як абвінавачаны. І вось што ён сказаў на заканчэнне:

## Пералсывай мяне, пяро!

З гарбом пачуццяў на спіне
Іду, вітаюся з зарой.
У тым, што слова не міне,
Пералсывай мяне, пяро.

І шмат яшчэ крутых дарог—
Няпэўны крок і цвёрды крок!
І ў тым, што не схапіў мой зрок,
Пералсывай мяне, пяро.

Паперу густа абзмяіць
Падзей сягоннашняя кроў,
А ты і ў нашчадкаў сям'і
Пералсывай мяне, пяро.

Як даплывуць радкі мае
Да схілу дзён, да сходу троп,
У тым, хто спеў мой дапяе,
Пералсывай мяне, пяро.

Няхай дабром успамянуць
Трывогай выкрыўлены рот —
За іхні лёс, за іх вясну...
Пералсывай мяне, пяро!

3

## ПАЛЕССЕ ПЕРАД БУДУЧЫНЯЙ

Гэта запісы з выпадкова знойдзеных блакнотаў даўняга-даўняга часу.

Быў пачатак 1930 года. З камандзіроўкай літаратурнага згуртавання «Узвышша» я аб'ездзіў немалую прастору Палесся.

Ішла калектывізацыя. Пастрэльвалі, выходзячы з лясоў, банды, сыпаліся з-за мяжы варожыя адозвы. На голас царкоўных званоў збягаліся вёскі не пускаць прызначаныя для высылкі на поўнач заможныя сем'і. З вялікім намаганнем створаныя ўвечары калгасы — на раніцу рассыпаліся.

Сяляне насілі за пазухай артыкул «Галавакружэнне ад поспехаў». За нумар газеты з гэтым артыкулам аддавалі падсвінка, а то і цяля. Гэта быў як бы шчыт супроць угавораў, дый не толькі ўгавораў,ісці ў калгас.

Хоць і ставала прамашак і хіб у гэтай рабоце, хоць моцна шкодзілі варожая агітацыя і застрашванне, Мазыршчына — у той час акруга — пацягнулася да новага жыцця. Селянін — праўда, з болем і недаверам — расставаўся са сваёю палоскай і пачынаў урабляць зямлю гуртам.

Усё гэта бачыў 20-гадовы юнак, які многа чаго не разумеў, шмат у чым вагаўся, асэнсоўваючы гадзіны вялікага пералому. Бачыў і запісваў усё, сумленна, як пачуў і ўбачыў, не здолеўшы і не паспеўшы абагуліць запісанае.

Я не апрацоўваў запісаў, толькі вывеў іх са стану, зразумелага аднаму аўтару.

*

Выбегла з балота красуня-рака. Расхінула лазнякі: ой, колькі прастору! І давай разлівацца ва ўсе бакі. Па жвірах удоўжкі, ушыркі, як вока сягае.

Гудуць веснавыя ручаі-пераваллы. Прамываюць у пяску дзесяткі новых рэчышчаў. Улетку яны зара-

стаюць чаротам і робяцца плыткімі — па костачкі. У засені зараснікаў нерухома стаяць вялізныя, як плашкі, шчупакі, пільнуючы сабе наедку.

Недалёка ад ракі, сярод лясоў, на пясчаных узгорках уздоўж ярыстай даліны — горад. Здаецца, што не рукою чалавечаю падымаўся ён угору, а ўпаў аднекуль зверху, упаў і глыбока ўрос у зямлю. З правага боку — гара, з левага — таксама. Ідзеш, ідзеш па вуліцы і раптам ссунешся ў яр. З гор бягуць ручаінкі і шумяць проста на вуліцах.

Задраўшы галаву, бачыш павыкопваныя ў схілах пагоркаў прыступкі, быццам тэрасы. Гэта людзі скарацілі сабе дарогу да дамоў, што прытуліліся на гарбах жвірыстых гор. Там растуць сады, ходзяць дзенідзе каровы, і здаюцца яны знізу малымі, як козы.

Так пасябравалі рака і горад: Прыпяць і Мазыр.

*

Былы паляшук, стаўшы савецкім селянінам, развітваецца са словам «маё». А гэтае слова здаецца людзям аж цёплым, бо ўгрэта яно многімі вякамі, калі чалавек гнуўся крукам у працы, краў, маніў, паніжаўся, маліўся, біўся, праз кроў, слёзы, галадоўлю цягнуў, збіраў набыткі — абы як забагацець.

Падумаць адно: колькі часу людзі грэблі «да сябе», і ніводная душа не адгарнула найменшай дробязі «ад сябе».

Не дзіва, што з такім болем аддзіраецца зараз моцна прыкарэлая да сялянскага сэрца ўласнасць.

Ці можна было б цяпер абысціся без болю, аддаць справу сялянскага развітання са сваёй палоскай і сваёй кабылкай на вырашэнне часу?

Відаць, гэта было б магчыма, каб мы мелі той час. Каб не трэба былі — не сёння, а яшчэ ўчора і пазаўчора — першакласныя заводы, пастаўшчыкі турбін, аўтамабіляў і трактароў, бо не наездзішся на чужых, купленых за мяжою за такія вялікія грошы, быццам кожнае кола ў іх зроблена з чыстага золата. Каб не трэба былі нам неадкладна фабрыкі збожжа і мяса, садавіны і гародніны ў такой колькасці, што і сабе стала б і прадаць можна было б, не абмальваю-

чы лусты, ды сабраць рубель на кнігу, школьную лаўку, бальнічны ложак. Каб не пагражаў схапіць за горла атлусцелы, але ўчэпісты нэпман, каб не браў верху ў вёсцы акрыяўшы кулак і каб не спрабавалі яны разам падмінаць пад сябе тое, што даў Кастрычнік,— чалавечае права роўнасці.

І галоўнае — каб не скаліліся пашчы драпежнікаў з-за кардонаў, прымушаючы нас абгароджвацца з усіх бакоў дратамі і прымежнымі слупамі, бо, куды ні кінь, куды ні глянь, упіраецца вока ў варожы штык.

І мы не маем права сплюшчыць вочы і на хвіліну, хоць на момант зняць палец з курка.

Нам цяжка жыць і дыхаць у варожым сціску, часу ў нас мала, і каб выжыць — даводзіцца ісці на балючае, трэба дбаць аб тым, каб выперадзіць час.

Можа ў далёкім ці недалёкім будучым, якога мы хочам і чакаем, у імя якога працуем, і будзе сказана слова аб жорсткасці. Хай не судзяць нас нашчадкі. Калі мы зараз замарудзім, спынімся, папусцім лейцы, нас паспрабуюць задушыць. Не вагаючыся, па-сапраўднаму жорстка. Але хіба ж можа адступіць стаўшая нарэшце явай мара чалавецтва!

Мы ўсё выдужаем, не дагледзім прывабных сноў, не даядзім кавалка, каб жылі, спакойна спалі і моцна кахалі вы, нашы далёкія добрыя людзі!

*

Узнята і насцярожана, пільна і ўзбуджана жыве зараз Палессе, жыве акруговы цэнтр Мазыр. З гэтым горадам я сустрэўся ўпершыню. У яго баявы настрой, ён распроствае плечы і размінаецца перад хадой. У выканкоме, у земаддзеле — усюды працуюць, нібы перад блізкім наступленнем.

Усе акруговыя работнікі ў раз'ездзе: паклікала калгаснае будаўніцтва. Гэтаю ж работай занята і брыгада Цэнтральнага Камітэта партыі. Зараз яна ў Юравіцкім раёне. Ён — цяжкі. І таму раяць абавязкова пад'ехаць туды. Папярэдліва пытаюць:

— Зброя ў вас ёсць? Не смейцеся, на дарогах не вельмі спакойна. Можам даць.

— Хіба што кулямёт.

Так і развітваемся.

*

Гасцініца з гучнаю назвай «Марсель» — Мазыр жа амаль партовы горад!

Атрымаўшы пакойчык, са здавальненнем выпіў гарбаты, крыху пачытаў у ложку і пагасіў святло. Не паспеў накрыцца, як усхапіўся, нібыта ў крапіву ўскочыў. Пасцельная бялізна аж варушылася ад рудых драпежнікаў.

Вырашыў чакаць раніцы пры стале. Пачаў рабіць нататкі. Хвілін праз дзесяць дапялі і сюды. Успаўзлі па стол і глядзяць, быццам мерацца сказаць:

— Ці доўга ты будзеш бавіцца? Нам вячэраць пара!

*

Два аўтобусы — паштовы і аўтадараўскі — возяць народ на станцыю, падгадваючы рэйсы да адыходу цягнікоў. У іншыя кірункі і ў другі час даводзіцца ездзіць коньмі. Каб дазнацца, як гэта робіцца, уявіце, што ў дзіцячую каламажку запрэглі ката, за фурмана пасадзілі якую большую жывёліну, прыкладам барана, а пад буду над аглабіцамі напхалі гусей, індыкоў, пеўняў, цялят ці яшчэ што з худобіны. Так выглядае самы прымітыўны спосаб руху ў кірунку «на Каленкавічы», як тут кажуць, або балагольская фурманка.

Параўнанне вынікла з неадпаведнасці ўпрэжанай у аглоблі дохленькай канячкі і вялізазнага здаравяка балаголы ў суконнай бурцы паўзверх кажуха, падпяразанай вераўчынаю. Як гэтая канячка толькі валачэ чалавек 20 пасажыраў з клункамі, напакаваных так шчыльна, што няма куды шылам ткнуць. За дарогу (нешта каля сямі кіламетраў) замляваюць ногі, злезшы з воза, чалавек не можа адзержацца на нагах і садзіцца там, дзе стаіць.

*

Рынак. Над будачкай немаведама якога прызначэння намалявана гусь. Яна панура прапануе прахожым пяро, заціснутае ў непамерна вялікай дзюбе.

Ці гэта шыльда нарыхтоўчага ларка, ці прыклад птушынай самарэкламы? Далей тры будачкі, амаль што поруч, з надпісамі: «Выразка зуб'яў і нааст-рыць», «Склад нэблі», «Эта уборная недействительна».

А лепш за ўсё аб'явы на лістах бляхі, напісаныя і ўмацаваныя больш трывала. Да таго ж, на дзвюх мовах:

Белдзяржгандаль купляе:

Мёду, воску, чарніку і лектравы розных сартоў.

Белгосторг покупает:

Лён, кудзеля, конволас, пушнину и трапья разных сортов.

*

Вось і здагадайся, якую мову лепш ведае аўтар!

Стары местачковы кравец загортвае ў паперу пераніцаваныя порткі. І да заказчыка:

— Адна калоша вузейшая? Вы думаеце, вузейшае не зносіцца? Адкуль я вам шырыні вазьму? Са стары матар'ял робім, як пускаецца. Я так рад, што вылез з вас...

Заказчык таксама рад — нарэшце работа скончана.

— Ну, вы спакойны кліент,— майстар пералічвае грошы.— А ўчора адзін шкандаліў — ой, ой! І хто б вы думалі! Праваслаўны бацюшка. Крычыць: «Як ты гэта пашыў мне порткі на адзін гузік?» Як быццам у яго пад расаю відаць: адзін гузік ці зусім без гузікаў. Дык я яму гавару: «Ідзіце да праваслаўнага краўца. Ён з вас цану злупіць і роту не дасць разявіць. А вы хочаце, каб і дзешава, і накрычаць. Альбо тое, альбо тое...»

*

Юравічы. Нядаўна тут працавала экспедыцыя Акадэміі навук. Ці знайшлі, ці толькі шукалі косці маманта. Роўна адкапаныя пласты: адзін, другі, трэці. Калі хто ўмее, можна чытаць па іх біяграфію зямлі.

Сюды мяне прывёз інвалід з пратэзам замест пра-

вай нагі. Па дарозе падсадзіў знаёмую. Спярша яны гаварылі пра надвор'е.

— Дакуль гэты мароз трымацьме?

— Хлопец з Мазыра казаў — да вялікадня.

Інвалід прыкурвае, затуліўшыся ад ветру.

— Хай той хлопец да вялікадня не вытрымае.

Потым жанчына пачынае жаліцца на мужа.

— Ужо гэтак п'е, што і не выказаць. «Калі гэта скончыцца, Федзя?» — пытаю. «Калі ўсю гарэлку пап'ем!» — «Я ж столькі, кажу, на каленях стаяла, а ты зноў п'яны».— «Мусіць, мала стаяла». От і гавары з ім. А ўсё праз другую бабу — свет яму завязала салдатка адна. Аднаго разу я яму ў вочы так і ўсыпала прыску. «Ты, гавару, да яе ходзіш, а яна на цябе і не глядзіць. Ты ў яе на ганку і здохнеш». Гавару я, плачу, і ён плача, сядзім дваёх і плачам.

Жанчына прыглядаецца да падводчыка.

— Ты чаго чырвоны? Выпіў, ці што?

— Пакінуў мяне бог без нагі, дык я на траіх, як тая траяручыца: адною наліваю, другою выпіваю, а трэцяю закусваю.

Ён ляпае сябе па здаровай назе і рагоча.

*

У Юравіцкім раёне 8 сельсаветаў. Ужо ёсць 35 калгасаў. На чарзе — перавыбары сельсаветаў і калгасных праўленняў. Сеяць будзе чым: тры чвэрці насення абагулена.

Зноў дарога.

Пакідаем у Юравічах добрую сталоўку і магазін з сардзінамі, якія тут не знаходзяць пакупніка.

Застаецца ззаду і ганак з вясёлай шыльдай: «Мастерская обувь, А. Музыкант». Шавец — і такое прозвішча! А чаму б і не? Называюць жа некаторых музыкантаў шаўцамі.

*

Наперадзе — Аўцюкі, вёска на некалькі вуліц, кіламетровай, калі не больш, даўжыні. Неспакойная, перанаселеная. Праз гэта мае мянушку — Шанхай.

— У адным канцы не ведаюць людзей з другога,— кажа падводчык.— Спракуветачная вёска,— чамусьці дадае ён.

Чута аб гэтым паселішчы многа, і ў Мазыры і ў Юравічах. Калгас арганізоўваўся тут туга. Калі агітатары хадзілі па хатах угаворваць, малыя, шапялявыя яшчэ, запынялі іх на дарозе:

— Ты што — нашага бука забіраць прыйшоў? Дык я табе галаву расшчаплю, а буку ногі паадсякаю.

Наш падводчык нізенькі, моцны, прыгожы. Ён, ціхі і рахманы чалавек, расказвае, як крычаў на арганізацыйным сходзе:

— Вы ўсе ведаеце, я — востры бядняк. Сілаю ўступлю ў калгас, а душэю — не, душы ідалу не прадам.

Хто гаворыць вуснамі «вострага бедняка», здагадацца няцяжка, хоць бы па тэрміналогіі. У вёсцы ёсць былыя жандары, гарадавыя, 49 асоб пазбаўлены права голасу. Часамі яны не хаваюцца ні за чые спіны, а гавораць проста беднаце:

— Крычыце, крычыце! Мы вас на заметку бяром! Што тады будзе, як вясною прыйдзеце хлеба прасіць?

У праўленне паспелі ўбіцца асобы, да каго ў свой час уласнай персонай прыязджаў бандыцкі генерал Булак-Балаховіч. І вёска не верыць ім, не хоча ісці ў такі калгас.

— Будуць над намі тыя самыя паны! — уздыхае падводчык.

Балаховіч, вядома, заязджаў не проста ў госці. Падкінуў сваім паплечнікам і патронаў і зброі. Вінтоўкі для зручнасці ператварыліся ў абрэзы, ці, як тут кажуць, урэзкі.

— Іх яшчэ ў 25 годзе адбіралі. Бо, не дай бог, што рабілася ўвечары. Страляюць, як на пазіцыі. Людзі не палілі агню, сядзелі, вокны падушкамі пазатыкаўшы. Бо што якому бандзюку варта стрэліць?

Наш фурман разгаворваецца.

— От жа была вечарынка. Сядзеў хлопец з дзяўчынаю на ложку супроць акна. А яго цераз шыбу — з урэзка. Пачалі бабы на забітым кашулю рваць, а і ў яго пад крысом таксама ўрэзак. Чуў сваю долю, бараніцца хацеў. Не паспеў ды, пэўна, сам з таго кодла быў. А за дзяўчынай яны ўдваіх упадалі.

Далей гісторыя робіцца яшчэ больш дзікая і страшная.

— Дык таго забойцу пазналі і павінны былі заарыштаваць. Ён схаваўся, хацеў за мяжу перайсці і дзеўку з сабою перабраць. Вызваў яе поначы з хаты: «Пойдзем!» Тая кажа: «Не хачу». Селі на калоду, ён быдта ўгаворваць пачаў. Адале наставіў ёй у грудзі ўрэзак і бахнуў. Потым лёг доле ў нагах у нябожчыцы і сабе ў грудзі...

Мы ледзь паспяваем заўважыць, што сюжэт Коласавага «Балахоўца», выходзіць, далёка не такі літаратурны, як гэта здавалася крытыкам у Мінску.

— Цяпер пацішэла, і добра пацішэла,— пануквае каня фурман.— Зброю паадбіралі, пасудзілі за гэта. Ды на мала пазасуджвалі. Мо яшчэ не паспеў да тых высылак даехаць каторы, а яму ўжо строку канец — вяртайся дадому. І вяртаюцца. А ў іх яшчэ зброі нахавана колькі хоч. От заняўся ў аб'ездчыка хлеў, дык патроны ў агні ўсё пах-пах. А на пажарышчы колькі тых гарэлых стрэльбаў знайшлі!

*

Людзі ў Аўцюках жывуць бедна. Мізэрныя надзелы зямлі, па паўгектара, ды галоўнае — слаба родзіць. Канюшына расце толькі ў агародах. З капы жыта больш за пяць пудоў не намалоціш, а гектар дае насілу 12 коп, дый то на гнаі.

— Што ты мяне трактарам прынаджваеш? — казала мне адна баявая цётка.— На нашу зямлю трэба такі трактар, каб усё, як конь, рабіў: і гной настойваў і зямлю гнаіў.

Больш за палавіну двароў (55 %) вызвалена ад падатку. Вясною пачынаецца вандраванне ў Хойнікі па бульбу і хлеб. Праўда, крыху дае зарабіць лес. І бондарства памагае: у кожнай хаце ўмеюць рабіць цабры, драўляныя вёдры, лыжкі.

І ўсё ж з 466 двароў у калгас запісалася толькі 160.

— На Юр'я ў мінулым 1929 годзе тут пілі дзень, вечар, зноў дзень. Усё сяло хісталася і ўлукаткі хадзіла.

Гэта расказвае кааператар. Ён падлічыў, што было выпіта ўсяго-ўсякага на 4 000 рублёў, па 9 рублёў на двор.

І сядзіб, агародаў людскіх няма ў гэтай вёсцы. Не гэтак, як на Случчыне: дом, за ім хлявы, воддаль, у садку ўжо, гуменца. Тут я бачыў на адной сядзібе па тры хаты. Адна за адною. Як па шнуры пастаўлены. Відаць, аддзялялася ад асноўнай сям'і новая, і вырастала хата. А за ёю другая.

*

У адной хаце жывуць сакратар партыйнай ячэйкі, ён жа хатнік, старшыня калгаса, рабочы, прысланы з Гомеля, і кааператар. Жывуць без сямей, камунаю, разам ядзяць, калі ёсць што. Часцей за ўсё пякуць яечню, дый то трэба чакаць, каб якая цётка прынесла ў кааператыў яйкі памяняць на соль ці на мыла. З вёскаю ў гэтай тройцы актывістаў адносіны прыпсутыя — усё праз угаворы ісці ў калгас. Гаспадыні, якія раней варылі есці, раптам знялі ўсіх з прыварку...

У хаце непрыбрана, у кутку парожнія «паненкі з-пад беленькай», як жартуе кааператар. Гэтым людзям цяжка і непрытульна жыць амаль на асадным становішчы.

Кожнаму прыезджаму яны рады.

— Памагаць будзеце. А то калі мы прыходзім на сход, бабы ў крык: «Прывалакліся авечыя пастухі дый дурацць нам галаву. Давай нам мінскае начальства!» Вы ж з Мінска?

Пачынаем распытваць. Высвятляецца, што ўсё, чутае ад фурмана,— горкая праўда. Па вёсцы паўзуць пушчаныя ворагам чуткі, быццам калгаснікаў будуць таўраваць, надрэзваць вушы, як авечкам, каб пазначыць. А «некалектывістам», так завуць тых, хто ўстрымліваецца ад уступлення ў калгас, будзе ўзнагарода: уся зямля, на якой пасякуць лясы.

Па нейкай няўлоўнай нотцы нашага распытвання кааператар здагадваецца:

— Гэта вас «востры бядняк» падвозіў? У яго і брат ёсць, такі самы «востры». Гэты пайшоў у калгас. Але гальцом-голы. Усё паспродваў, што было.

Нават шыны пазбіваў з калёс і здаў у рудметгандаль. У калгасе новыя дадуць, кажа. І нічога не робіць, нічым не паможа. Прыйдзе, паснедаўшы, у кааператыў і вісіць, як сабака на разніцы. Стаіць і курыць, курыць і стаіць. Пакуль не зачыню краму. А раніцай, нацямку, у самы сон, мне ў шыбу грукае. «Чаго табе?» — «Запалак дай, няма чым у печы падпаліць».— «На!» — дастану з кішэні, падам цераз дзверы. Дык не бярэ: «Адчыні магазін, я купіць магу. Нашто мне твае пазычкі». І ўстаеш, адчыняеш...

*

30 заяў аб выхадзе з калгаса. Усе амаль аднаго складу: «Прашу сключыць мяне з члена калгаса і даць маё семяно».

Ідзём на сход. Будзем угаворваць забраць тыя заявы назад.

Сходы сталі звычайнай справай, і ўсе яны зараз падобны.

Дзве жанчыны ў шырачэзных спадніцах і адмысловых шапках пад хусткамі, як носяць замужкі, рослыя, дзябёлыя, кіруюцца ў другі ад школы бок.

— А на сход, цёткі?

— Не, тыфус галаву спорціў.

— А гаспадары вашы прыйдуць? — падсмейваецца настаўнік, з якім мы ідзём на сход.

Жанчыны прыбаўляюць кроку. Здалёк чуецца:

— Прыдам, хіба ак скажуць ехаць у Сібір ды дадуць ціждзень строку.

— Залезе дзядзька на гарышча і сядзіць цэлы дзень. Абы на сход не ісці,— тлумачыць настаўнік і пытае: — А вы заўважылі, якія тут шырокія ў косці жанчыны і шчуплыя, вяртлявыя дзядзькі?

Каля клуба некалькі жанчын у нерашучасці.

— Ідзіце ў хату, не мерзніце. Вясна прыйдзе, тады на двары можна гаварыць.

— Не будзе вясны,— абзываецца жанчына, уверчаная аж у дзве цёплыя хусткі: адна крыж-накрыж завязана на грудзях, другая накрывае галаву.— Будзе грэць, і халодна нам будзе. Баімся мы вас...

— Абіваем толькі клубы ў гэтых вашых клубах,— чуцён таксама з дзвюх хустак, але весялей-

шы, голас.— Хадзіцьмем, хадзіцьмем на сходы, адале вашаму клубу вокны паб'ём.

— Ну, чаму ж стаіце? — смяецца настаўнік.— Пачынайце, нечага, біць.

*

У клубе вакол бялявага старшыні і лямпачкі-курнушкі людзі стаяць і сядзяць проста на падлозе. Са сцяны ад парога паглядае з партрэта Сталін. Поруч плакат: хлопец у белай кашулі крычыць з-пад капелюша: «У кааперацыю ўступай, сваім паем яе ўзмацняй».

Дзве дзяўчыны на сярэдніх лаўках, бліжэй да стала, угнуліся, накрылі галовы адною хусткаю. Шэпчуцца, а не-не дый блісне вясёлае вочка на прыезджых. Цікава, і пагаварыць добра было б. Але сарамна: як пачаць? Кажуць, тут дзяўчаты да 25 год, пакуль замуж не выйдзе і не стане гаспадыняю, не бачаць чыгункі. Найдалейшы і найпавабнейшы пункт іхняга ўяўлення — Мазыр. Так, у мяне не раз пыталіся:

— Ву здалёк? Можа аж з Мазыра?

За дзяўчатамі, накрытымі хусткай, пануе над лаўкамі, ззяе, як рыза ад абраза, рыжая лапацістая барада. Яна дзвюма палойкамі кладзецца аж на шырозныя плечы, якія здаюцца яшчэ шырэйшымі ад гаматнага рудога халата, надзетага на кажух. Выседзець так моцна апранутаму цэлы вечар, не ўспацеўшы, не распеціразаўшыся, нават не паварухнуўшыся, дапамагае толькі жалезная палеская трываласць.

Дзядзька займае палавіну лавы. Паднімі яго — і вызваліцца месца на пяцярых такіх, як я.

Гэтая гара сукна і аўчын гаворыць нечакана тонкім і ласкавым голасам:

— Пачынай, старшыня! Як абабраўся за бацька, дык глядзі і гадуй нас...

З-пад задняй сцяны абзываецца чалавек у рудой кучомцы з чорным шалікам на шыі:

— Пачынай, бо зараз дзед умлее.

Дзед — невялічкі і вельмі вёрткі, як хлапчук.

Бародка ў яго такая рэдкая і мякенькая, як недапрадак кудзелі на прасніцы: скублі-скублі, пралі-пралі ды, паленаваўшыся, кінулі на смех дзесятак валасін. Затое яго падзёрты балахон падпяразан шырокім палескім поясам. І голас у дзеда — нібы аркестровая труба. Як толькі можа такая магутнасць змясціцца ў шчуплым цельцы:

— Старую ўладу скінулі, дык і смерць скіньце. Тады дзядоў не будзе.

Усе пакочваюцца з рогату, дзед умее пажартаваць. Ад упамінку пра смерць пры страшэнным басе і ружовых шчоках робіцца яшчэ смяшней.

Выходзіць, не толькі мы рыхтаваліся да гаворкі, ідучы сюды. Падрыхтаваўся і сход. Пасыпаліся пытанні:

— Якім, скажэце, будзе чыстка ў калгасе? — гэта пытае чалавек у кучомцы.

— Усім, хто нячысты? — ляціць з групы маладых хлопцаў, па ўсім відаць, камсамольцаў.

— А як знайсці ў нашай кааперацыі растрату? Каб тавары былі?

— Ліхтар і лічнікі ўзяць! — адказваюць вясёлыя хлопцы.

— А што рабіць з такім, што на старшыню калгаса кулаком махае і крučча гне?

Гэта пытаецца сам старшыня. Па тым, як збянтэжана сядае на месца селянін у кучомцы, робіцца зразумела, што пытанне мае непасрэдныя адносіны да яго.

Цяпер у гаворку ўключаюцца жаночыя галасы:

— І нашто гэтых кулакоў раскулачвалі? Мы, беднякі, у калгасе жывучы, забагацеем, дык яны вернуцца назад, будуць нас раскулачваць.

— Ты не бойся, цётка Хадора, багацей! — Гэта ўсё шчыруюць хлопцы.

— А калі нашага бацюшка выпусцяць?

За голасам цёткі Хадоры ўзвіваецца яшчэ добры дзесятак жаночых, заклапочаных, усхваляваных.

— Наш бацюшко — батрак: хто пакліча, да ўсіх на работу ішоў.

— Цішайсце там, жанчыны! — гукае старшыня.

— Як мы будзем рыб'ёнкі мець, дык як яны нехрышчаныя будуць? — не ўпыняецца Хадора.— Мы

без бацюшка не можам. А то народзіцца дзіцё, шыбаць яго ў лазу, ці што?

— Упраўная ты, цётка! — чуваць голас з камсамольскай групы.— Гэта ж бабы 300 рублёў і 125 пудоў жыта сабралі папу падатак заплаціць. А якая карысць, лепш на газеты б аддалі...

— Усім даём, а карысці няма.

— А нашто ж усім, хопіць і тым, хто хораша просіць! — грыміць дзедава труба, і зал тоне ў рогаце.

Праз некаторы час упартая цётка ўсё ж устаўляе слоўца:

— Цяпер хаджу ў дзіравых чобацях... Што гэта нас — бацюшко давёў?

— Труцень ваш бацюшка!

— Чаму гэта ён труцень?!

— Труцень, бо каля дурных баб трэцца! — зноў загрымеў дзед з рэдкай барodкай.

Не заўсёды мы знаходзім для гэтых палескіх сялян простае пераканаўчае слова. Часам замест цярплівага тлумачэння пачынаюць лаяць іх. Адзін прыезджы страхавы агент палез на сцяну ад такіх вось і добразычлівых і са шпількамі пытанняў і ляпнуў чорным словам на сход. За што? Навошта? Потым жа, дзівак, усю ноч калаціўся, каб не нагрукалі ў косці.

Часам мы выступаем з незайздроснай прасталінейнасцю, як робіць гэта зараз прамоўца.

Ён з абласнога зямельнага аддзела. Чорны з валасу, смуглявы з твару, з непахіснай упартасцю і настойлівасцю. Перад сходам ён падручаўся гаварыць 8 гадзін засаб, не спачываючы. І ўгаварыць тых, што пахіснуліся, падалі заявы аб выхадзе з калгаса. Можна даць веры, ён спраўдзіць слова. Наша місія будзе выканана, але не таму, што мы пераканалі. Проста паставілі людзей перад неабходнасцю.

І мне хочацца перапыніць прамоўцу, бо вельмі ж аднастайна і нецікава пачынае выглядаць будучыня з яго слоў. Трэба вымавіць штосьці такое, каб узламаўся лёд недавер'я, каб адлегла ў людзей ад сэрца, каб усе ўбачылі далейшы свой лёс.

Прамоўца трымае зарок гаварыць трацiну сутак без перадыху. Тым часам нехта ззаду ўсхрапвае. Дый на пярэдняй лаўцы таксама. Вось сядзеў-сядзеў дзядзька роўненька, і раптам звешваецца галава ў ку-

длатай шапцы, апускаюцца ўніз вусы, звісае не запраўлены пад шапку чорны чуб. Блішчыць чорная латка на шэрым калене даматканых нагавіц. Намёрзшыя за дзень растаптаныя лапці растаюць, з іх нацякае невялічкая лужынка. А нос пасвіствае ўсё мацней і мацней.

Гэта нервуе нават нашага трывалага дакладчыка. Ззаду, па радах лавак, падбіраецца вёрткі хлопец з групы камсамольцаў і лёгка стукае соннага казырком па носе.

Той чхае на ўвесь клуб і ўсхватваецца:

— Я не спаў! Дальбо, не спаў,— апраўдваецца ён спалоханым шэптам.

— Не спаў! — перадражнівае хлопец.— А лужына з-пад каго?

Дзядзька сумна глядзіць сабе пад ногі, нібы ён і сапраўды ў чым вінаваты.

— Дальбо, не! Мо які адзін мамэнт задрамаў, як той казаў...

— Сядзь, Паўлік! — утаймоўвае хлопца старшыня.

Роўная плынь даклада на хвіліну была парушылася.

Паўлік сядае каля мяне на вольны зэдлік і вачыма пытае, ці ўсім хаця відно, які ён спрытны і вынаходлівы хлапчына. Абуджаны дзядзька з асцярогай касавурыцца на яго, але хутка змора і духата бяруць сваё: ён пачынае ківацца — дрэмле і прахватваецца.

Нарэшце прамоўца канчае і просіць задаваць пытанні. Сход весялее.

— Ці гоняць рэзаць дровы і гарадскіх, каторыя свабодныя?

Гэта жаночы голас, не ведаю каторай дзяўчыны з тых, што сядзяць пад адной хусткай.

— А як таго кулака пазнаць?

Гэта ўжо дзядзька ў га́матнай світцы. І адразу падхопліваецца з адказам дзядок з рэдкай барадою:

— А ты глядзі, хто ў ботах, у галёшах і ў паліце.

— Давайце яшчэ пытанні. У другіх вёсках больш пыталіся.

— Дык там мо людзі разумнейшыя.

— Вы казалі, трэба попелам поле гнаіць, а дзе яго ўзяць?

— Дадзём вам попелу!
— Попелу мы беражом гэдак, як мукі.
— Не кожнае поле попелу любіць, калі, бывае, глей, дык не надта.
— Попел і дома трэба. Мы белле, як субота, так і золім.
— Нашы мужчыны ў нас сарочкі паўкрадалі на табак! Чаму табаку не вязуць у каперацу? А мула як?
— Трэба, каб танна ўсё шылі-ладзілі. А то прыйдзі да краўцоў ці шаўцоў, дык яны храпуць: куды нясеш лухмаццё гэстае?
— Сáма набалела, каб чабоцце наладзіць...
— Трэба па-нямецку, замест ботаў калодкі дзяўбсці...
— А яны паўсыхаюць, дык упадзеш.
— А ты з сухога выдзеўбі...
— І цукру па паўгода не бачылі...
— Г... цукар, пражывём.
— Даволі пра каперацу...
— Дык там жа адна Тэкля таргуе... Арыны ўжо няма.
— Натаргуе яна табе...
— Гэдак мне, як і табе...
Сход збіваецца з тропу: мы пачынаем забываць, чаго сабраліся. Падыходзіць чарга гаварыць мне. Маўчанне, якое патрывала нейкіх пяць-дзесяць хвілін, разрываецца дзедавай трубою:
— Ды ты ж тое самае гаворыш, што і нашы.
— Адна савецкая ўлада ўсюды, дзед.
— Дзед! — гукае старшыня.— Ідзі сюды!
— Чаго табе? — кажа дзед цераз увесь пакой.
— Нешта папытаць хачу.
— Я не глухі, адсюль учую.
— Не, ідзі сюды.
Дзед неахвотна ідзе і, хоць яму ніхто не замінае, робіць выгляд, што цяжка праціснуцца цераз натоўп.
Старшыня падсоўвае да яго кучку папер:
— Каторая твая?
— Што? — выпростваецца дзед.
— Заява. Ты ж казаў — заяву аб выхадзе з калгаса назад забярэш. Дык бяры, пакуль многа.
— А чаму гэта я павінен першы?

— Бо ты старэйшы.

— Слухай, старшыня,— відавочна хітруе дзед,— а нельга так зрабіць? Я пабыў ужо ў калгасе, цяпер няхай мой сусед пабудзе...

— Дык ты ж усяго два дні пабыў...

— Хай ён столькі ўбудзе...

Дзед памыкаецца пайсці на месца.

— От, ніколі не думаў, што стары чалавек і зманіць,— гаворыць услед старшыня.

— Як гэта! — дзед хутка паварочваецца, нібы яго парнулі шылам.

— Так,— кажа абыякава старшыня,— не трымаеш слова... Як на цябе сыны і ўнукі глядзець будуць? Ад сваіх дзяцей брыдка...

— А ты мне не жыгай, мяне словам не ўцвеліш... Давай ужо тую заяву...

— Не,— спакойна кажа старшыня,— сам прынёс, сам і забяры...

— Ды недабачваю я...

— Нічога. Ты ж ведаеш, на якой паперы ўнук пісаў...

Дзед нездаволена крэкча, нарэшце знаходзіць патрэбны лісток з вучнёўскага сшытка і ідзе да дзвярэй. Тут яму ўжо няма чаго рабіць, аднак ён вяртаецца ад парога. Цікава, хто наступны. А можа нікога не знойдзецца? Старшыня, выходзіць, чалавек з жылкаю дыпламата. Спачатку здалося, што ён слаба чытае па-пісанаму і, каб не памыліцца, прапануе дзеду адшукаць заяву самому. Аж гэта быў манеўр. Важна, каб той сам знайшоў і сваёю рукою забраў. Тады ўжо нельга будзе назаўтра з'явіцца ў праўленне, пакласці на стол заяву і бубніць: «От, учора ты ўпхнуў яе мне ў рукі, чалавеча. Я не хацеў. Дык няхай яна лепш у цябе будзе...»

І ўсё — прахам, і пачынай усё спачатку.

Акрамя дзеда заявы забралі яшчэ дзесяць чалавек.

*

Пасля сходу Паўлік падыходзіць да мяне.

— Есці хочаце? Пойдзем да мае цёткі. Там і заначаваць можна.

Дарогай ён расказвае малаверагодную гісторыю. У адну вёску, ці не ў суседнім раёне, прыехала даволі вялікая брыгада агітатараў.

Сядзелі некалькі дзён, не выходзячы, у школе, угаварылі запісвацца ў калгас. Не рабілі перапынкаў, толькі чаргаваліся прамоўцы. Пасля кожнай прамовы старшыня пытаўся:

— Ясна вам?

— Ясна, ды нясмачна,— гуў сход.

— У калгас пойдзеце?

— Не пойдзем.

— Тады слухайце зноў!

Калі тыя, што былі на лаўках, зморваліся адмаўляцца, уставалі дзядзькі, хто ўжо добра прыдрамаў седзячы або і так прыпёршыся да сцяны, змянялі зморапых і паўтаралі сваё ўпартае:

— Не пойдзем.

Пакуль не знайшоўся ў брыгадзе моцны чалавек. Гаварыў, гаварыў — не слухаюць. Узяў аркуш паперы і надпісаў сваё прозвішча:

— Застаюся ў вас. Каб я хацеў сабе зарабіць, дык мне заработку ў горадзе хапае. А я хачу ў калгасе жыць...

— Ты хочаш за старшыню застацца? — загулі палешукі.

— Каб і прасілі, не буду...

Ён перавёз праз колькі дзён сям'ю ў вёску. Пачаў рабіць на полі. Тады яму паверылі і ўсе папісаліся ў калгас.

Гісторыя крыху патыхае так званым калядным апавяданнем. Але чамусьці думаецца, што гэтак зрабіць мог і такі чалавек, як той, што даўжэй за ўсіх гаварыў на сённяшнім сходзе.

Мусіць, гэта праўда: не гаварыць, а рабіць трэба нешта пераканаўчае.

*

Мы з Паўлікам вычарпалі міску бураковага квасу з уюнамі і бяромся за бялёны прасяны крупнік.

— Сынок! — кажа Паўлава цётка, жанчына з вельмі бледным тварам.— Толькі праўду скажы, сынок...

— Скажу, скажу...

— Ці хоць авечак вясною можна будзе стрыгчы?

Не паспяваю вымавіць слова, як Павел усхватваецца, нібы на спружынцы. Ходзіць па хаце і прытанцоўвае. Вочы ў яго без зрэнак, бліскучыя і чорныя, як апошнія пераседзелыя вішні.

— А вы, цётка, думаеце, што мы іх з воўнаю будзем есці? Гэта ж толькі за Пінскам злодзеі так рабілі: украдуць барана ды з аўчынаю ў кацёл...

— Знікнісце! — адмахваецца цётка.— Сынок, кароўка ў мяне благая, адна, а як пайду ў калгас, можа нігоднае не будзе?..

Дзверы адчыняюцца, упускаючы таго самага дзядзьку ў бурцы, што займаў у клубе палавіну лавы.

Дзядзька дае «добры вечар», мы дзякуем гаспадыні за вячэру і спрабуем разлічыцца, але яна і слухаць не хоча.

— Тады можа пояс ёсць на продаж?

— Ты чындакор хочаш?

Жанчына прыносіць некалькі штук. Выбіраю два, кожны ў тры колеры, неймавернай даўжыні, так што некалькі разоў абкручваецца чалавек у кажусе і ў халаце, і ладнай, далоні на дзве, шырыні.

Чындакоры ткуцца з самай лепшай шарсцяной пражы, і такія тоненькія, што іх цяжка палічыць за саматужныя вырабы. Як і славутыя слуцкія паясы, чындакоры, перад тым як падперазацца, складаюць у некалькі столак, каб на кожнай пераважаў адзін які-небудзь колер. Можна фарсіць, быццам у цябе не адзін, а цэлыя тры паясы. Толькі на слуцкіх былі ўзоры і кветкі, а на гэтых колер ідзе роўнымі палосамі: чырвоная, зялёная, жоўтая і паміж імі цямнейшая нітка.

Гэтае старажытнае ткацтва, відаць, ужо звялося і на Палессі. У першыя гады пасля Кастрычніка існавала яшчэ прыватная майстэранька ці то ў Нароўлі, ці то ў Петрыкаве.

Мне пашанцавала: чындакоры дасталіся выдатныя — чырвоныя з зялёным і ліловым. Адзін я доўга насіў замест кашнэ, а другім заслаў столік з бюстам Кастуся Каліноўскага.

Збіраемся выходзіць, раптам наш маўклівы госць загаварыў:

— Вернешся ў Мінск, скажы Чарвякову: ваш свет нам свеціць, але хай ён прыедзе сюды. Калі Чарвякоў скажа, пойдзем усе ў калгас.

*

Колькі нас тут, каму «адзін свет свеціць», а не ўсё ведаем, не на ўсё можам адказаць. Відаць, мы занадта маладыя, занадта горача паварочваем, а хутчэй за ўсё — не ўмеем знайсці ключ да сялянскага сэрца. Мусіць, таму і цягнецца яно да старэйшых, хоча пачуць тых, што ведалі Леніна, стаялі наўкруга яго, неслі яго слова далей.

*

Мне не здаралася сустракацца з тымі, хто ўдзельнічаў у першых з'ездах і канферэнцыях нашай партыі, вёў падпольныя гурткі, сядзеў у перасылках, пераганяўся па этапах у Сібір, уцякаў з месцаў не так то і далёкіх, як іранічна называлі пункты катаржнага і пакатаржнага зняволення. Разам з імі, з гэтымі людзьмі, што ўваходзілі ў першыя ўрадавыя і партыйныя прэзідыумы нашай краіны, у час Кастрычніка стала пакаленне маладзейшых, але такіх жа, як і яны, дзеячаў народа, дакладней кажучы, народных дзеячаў.

Перарываючыся на рабоце ў гады галоднага існавання савецкай рэспублікі, і адны і другія нават не маглі ўявіць, як можна ўзяць для сябе асабіста васьмушку хлеба, восьмую частку фунта, 50 грамаў, звыш той, што атрымлівалі ўсе.

Гэта было чужое бацькам і абаронцам Кастрычніка, хто клікаў да энтузіязму, будучы сапраўдным энтузіястам сам, хто ведаў, што ў сутычцы поглядаў нараджаецца ісціна, хто хацеў як найхутчэй накарміць краіну, сам здавольваючыся аскетычнай нормай, хто стараўся як найлепей падабуць і падапрануць яе, а сам насіў лінялыя касавароткі, старыя палітончыкі і шынялі з зацыраванымі дзіркамі ад белагвардзейскіх і тэрарысцкіх куль. Яны не ўмелі дбаць пра сябе, не разумелі, як можна ўзяць сабе — зноў паўторым — лішнюю васьмушку, прыняць пас-

танову, не памеркаваўшы і не паспрачаўшыся, хваліць тое, што не заслугоўвае пахвалы.

З гэтых светлых людзей многа загінула.

Не давялося тады пастаяць блізка ні пры кім з людзей ленінскай вывучкі, хваткі, біяграфіі, а ўсярэдзіне жыве перакананне, быццам добра ведаеш іх, што ўсе яны — твае асабістыя знаёмыя, настаўнікі, не ў агульна-прынятым разуменні слова, а тыя, хто навучаў азбуцы жыцця, падпіраў крылом на ўзлёце жаўтадзюбага по́длетка.

З тых людзей, што адстойвалі і ўсталёўвалі Кастрычнік у Беларусі, мне пашчасліціла ведаць Змітра Жылуновіча і Аляксандра Чарвякова.

Аляксандр Рыгоравіч вельмі цёпла аднойчы прымаў мяне і Кузьму Чорнага, абяцаў дапамагчы ў нашым пачынанні ўвесці асобныя літары для гукаў дз і дж, што прапаноўвала тады «Узвышша».

Вышэйшага аўтарытэту, асабліва для сялян, тады ў рэспубліцы не было. Імя Чарвякова вымаўлялася поруч з імем М. І. Калініна. Да яго ў Мінск, у невялічкі двухпавярховы дамок ЦВК на Пляцы Волі плылі хадакі. Яны вярталіся назад, несучы ўжо не надзеі на дапамогу, а самую дапамогу.

Чалавечая патрэба нездарма падпільноўвала старшыню ЦВК у яго паездках па рэспубліцы. У 1927 годзе ён быў на Полаччыне, глядзеў, як хораша рушыла насельніцтва правіць дарогі, рамантаваць масты спосабам народнай будоўлі.

Пра гэта Аляксандр Рыгоравіч паведамляў у пачатку наступнага года на сесіі ЦВК.

У словах чутна была добрая гордасць: вось як растуць нашы людзі! Самі дружна падымаюцца на працу, самі бяруць на сябе новыя абавязкі, каб толькі дапамагчы дзяржаве, якую адчулі яны па-сапраўднаму роднай.

Аляксандр Рыгоравіч падкрэсліваў: працаваць трэба сумленна. Так патрабавалі праграма і змест уласнага жыцця.

Сведкі яго падарожжа па Полаччыне могуць успомніць і пацвердзіць. Машыну даводзілася часта спыняць. Згледзеўшы яе здалёк, упоперак дарогі кладліся дзядзькі і накрывалі галовы паперай, дзе былі спісаны ўсе мужыцкія крыўды.

І Чарвякоў кожны раз выходзіў сам, браў заяву, падымаў з зямлі чалавека, памагаў яму абтрэсці пыл і падвозіў да вёскі або да раёна. А дарогай лёгка і нязмушана пачынаў распытваць, і за нейкую гадзіну жыццё цэлага сельсавета рабілася ясным, заставалася запісаць найбольш важнае. Запісваў жа заўсёды, развітаўшыся з тым, каго распытваў. Аловак у руках, смяяўся ён, не абяцае размовы па шчырасці.

Дасюль помніцца, як ён выглядаў: вялікі лоб, шорсткая, але нязлосная шчотачка вусаў, сіняя касаваротка і шараваты, паважнага веку пінжачок.

Просты ў вопратцы, ён быў такі і ў абыходку. Падлетак-радыётэхнік, цяпер вядомы кампазітар, устанаўліваў у драматычным тэатры мікрафоны для трансляцыі спектакля. Яму спатрэбілася зайсці ва ўрадавую ложу. Там сядзела жанчына, яна загадала хлопцу выйсці. Ён папярэдзіў, што выконвае службовае заданне. Яго абразілі. Не зважаючы, хлопец скончыў работу і сказаў, што падасць у суд. Тады жанчына назвалася сваячкай Чарвякова.

Можна сабе ўявіць становішча юнака і яго хваляванне! Яшчэ большым было здзіўленне хлопца, калі назаўтра да яго падышоў Аляксандр Рыгоравіч і папрасіў прабачэння. Не праз каго-небудзь, хто, напэўна, параіў бы прыгасіць справу, не тэлефонным званком, а сам, асабіста, старшыня беларускага парламента.

Двое дукорцаў, мае таварышы па навучанню, былі землякі Чарвякова. Яны хадзілі да яго кожную нядзелю, а то і часцей, калі хацелася есці. З гэтага стану мы выходзілі рэдка, хіба што ў дні атрымання стыпендый. Наогул жа, уявіўшы несуразмернасць нашых васемнаццацігадовых апетытаў з колькасцю і якасцю студэнцкіх харчоў, частату наведванняў чарвякоўскага дома землякамі вызначыць няцяжка.

Як там паводзілася і наогул сваім высокім знаёмствам мае сябры, да іх гонару, ніколі не хваліліся. Аднойчы толькі пачуў я ад іх ці то асуджальнае, ці то па-сялянску ўхвальнае: «Скупават». Гэта дазваляла зразумець, што побыт старшыні ЦВК быў просты, дый не дзіўна гэта: ён, як і ўсе камуністы ў той час, атрымліваў так званы партмаксімум.

Увага да маіх школьных таварышаў выклікалася

далёка не адным звычайным і зразумелым пачуццём зямляцтва. Чарвякоў наогул гарнуўся да моладзі, бо хто, як не яна, прыме і панясе сцягі пачатай справы. Пагартайце «Маладыя араты» — часопіс сялянскай моладзі, як зазначалася ў загалоўку. Там часты аўтар — усебеларускі староста. Старастам называлі тады і М. І. Калініна і Р. І. Пятроўскага. Вось яго артыкулы, вытрымкі з прамоў, фатаграфіі з сялянамі і сялянкамі. Адбіткі бледныя, закранутыя часам і ўсё ж вельмі жывыя: людзі не красуюцца перад апаратам, а працягваюць размову, жывуць адным клопатам, думаюць, як найлепей даць яму рады.

У артыкулах Аляксандр Рыгоравіч настойліва тлумачыў моладзі, хто яна зараз, што можа і што абавязана зрабіць: «Моладзі лягчэй ламаць старыя традыцыі, дзедаўскія звычкі. І мы бачым, што яна лягчэй прымае тое новае, што павінна палепшыць жыццё чалавека, што вядзе да сацыялізма».

Адсюль і задачы: наладзіць сельскую гаспадарку так, каб яна давала найбольшы прыбытак, не пакідаць ніводнай лапінкі незасеянай, павялічыць ворыўныя землі, асушаючы балоты.

Аляксандр Рыгоравіч стаяў пры вытоках нашай маладой літаратуры. Але не толькі віншаваў з поспехамі, а і перасцерагаў, папярэджваў.

Канчаўся лістапад 1925 года. Уздымна і ўрачыста праходзіў І з'езд «Маладняка», першай у рэспубліцы літаратурнай арганізацыі. Не абышлося тут без фанфар, маладой самаўпэўненасці, якая загучна запэўнівала, быццам «Маладняк», выпусціўшы дзесятак тоненькіх кніжачак, захапіў «камандныя вышыні ў літаратуры».

Недзе пад канец работы з'езда за трыбуну стаў Аляксандр Рыгоравіч. Тады ўпершыню давялося яго бачыць і чуць. Сціпла, нібы засаромеўшыся шумных воплескаў, пачаў прамову. Стала дзіўна: рэвалюцыйны агітатар, чалавек, які падпісваў маніфест першага савецкага ўрада ў Беларусі, арганізоўваў савецкую ўладу, узначальваў ваенна-рэвалюцыйны камітэт, а зараз стаіць на чале рэспублікі, гэты чалавек гаворыць так проста, без прамоўніцкага запалу, амаль ціха. Потым, калі слухаў, баючыся прапусціць хоць слова, зразумелася: у гэтай прастаце

і ёсць найвялікшая сіла пераканання. Таму адразу даходзілі да сэрца бацькоўскія парады, перасцярогі, патрабаванні:

«...Вы самі, нарадзіўшыся ў глухіх кутках нашай вёскі, знаходзіцеся ў пастаяннай сувязі з вёскай, а таму і будзеце падпадаць пад уплывы ўсяго, і новага і старога, што перажывае наша вёска, усяго таго, што вядзе селяніна да сацыялізма, а разам з гэтым і таго, што адцягвае нашу вёску назад...

Мы творым, таварышы, сацыялізм... у пераважна сялянскай краіне... трэба дапамагчы беларускаму селяніну ідэалагічна зрасціся з задачамі Кастрычніка, і гэта павінен зрабіць наш новы пясняр, радзіўшыся разам з Кастрычнікавай рэвалюцыяй, пранікнуты сам ідэямі Кастрычнікавай рэвалюцыі».

Мiналі гады, пачалі забывацца словы, і іх даводзіцца аднаўляць па няпоўных, відаць, сакратарскіх, а не стэнаграфічных, запісах. А голас жыве ў памяці, глухаваты, як пад час вялікай зморы; здаецца, чуецца, як скупа і выразна вымаўляецца роднае слова.

Аляксандр Рыгоравіч шанаваў мову і казаў: «...Усё тое, што складае складаную псіхіку селяніна і рабочага,— усё гэта выражаецца імі на сваёй дамовай, размоўнай матчынай мове».

Вось чаму на XII з'ездзе КПБ, спыніўшыся на неабходнасці як мага болей наблізіцца да мас, Чарвякоў назваў мову адным з важнейшых сродкаў для гэтага.

«Трэба падносіць усё тое, што мы даём селяніну і рабочаму, на найбольш зразумелай, блізкай гэтаму рабочаму і селяніну мове». Тым часам, працягваў прамоўца, мы «...абсалютна не лічымся з (уз)роўнем культурнага развіцця, з псіхалогіяй таго, да каго звярачаем свае прамовы, і, захопліваючыся сваімі пекнымі прамовамі, аздобленымі вельмі пекнымі чужаземнымі тэрмінамі і словамі, мы падобны да цецерука, які ў часе сваёй песні нічога не бачыць і нічога не чуе».

З заўсёднаю рупнасцю ў сэрцы жыў гэты чалавек, каб ніводзін крок, ніякія захады таго ладу, які ён тварыў і прадстаўляў, не засталіся незразуметымі сярод людзей працы, якім было ахвярована яго чыстае жыццё.

За любоў яму плацілі любоўю і не пакінулі яго труну адзінокай, калі ён нечакана і крыўдна выправіў сам сябе ў апошнюю дарогу.



Не дзіва, што Палессе пісала скаргі Чарвякову, прасіла яго прыехаць, пасылала хадакоў. Складаліся: хто саракоўку, хто паўрубля, а хто і цэлы рубель. Ідзіце, скажыце: тут «самых лепшых гаспадароў крыўдзяць», калі не хочуць у калгас запісвацца. Дык як быць? Хадзілі дзядзькі і з тых вёсак, дзе мне даводзілася быць. Іх вярталі: адных з Мазыра, другіх — з Мінска. Пабачыцца з імі не ўдалося — былі на вывазцы лесу.

На Случчыне такога хадака я ведаў з маленства. Гэта быў дзед Лук'ян, рухавы і скоры на ногі чалавек. За шчупласць і малы рост яго звалі Лук'янчык. Ён хадзіў усюды па грамадскіх справах. Пад час землеўпарадкавання каморнікі не вельмі чыста размералі палеткі, пакрыўдзіўшы Лук'янаву вёску ў карысць суседняй, адкуль выпаў лепшы пачастунак.

Лук'ян, не адкладаючы справы, адзеўся ў чыстае і рушыў у раён. А потым і ў акругу — шукаць праўды. Пешкі, іншага спосабу перасоўвацца ў прасторы ён не прызнаваў.

Калі ў акрузе пачало выходзіць не на яго — прыгразіў, што зараз жа ідзе — заўважце, так і сказаў: ідзе! — у Маскву. Начальства зірнула, бачыць — непярэліўкі. Дзед, сухенькі, зацяты, апрануты як на свята — белая кашуля і споднікі з хатняга палатна, запраўленыя ў рудыя боты, шэра-белая світачка ў руцэ і выгаралая ад сонца, амаль белая шапачка. Такі не адступіцца, дастукаецца і да Масквы. Вырашылі справу пераглядзець, як дамагаўся Лук'ян.

Цяжкую ролю грамадскага прадстаўніка і адваката дзед выконваў з пачуццём адказнасці, ніякае заплаты не браў, хіба што сяляне скідаліся па грыўні на паперу і гербавыя маркі. Затое ўсю работу па гаспадарцы ў час яго адсутнасці рабілі талакою па чарзе, дый так стараліся памагчы, калі ён быў дома і нікуды не падаваўся.

Пазней, я тады вучыўся ў Мінску, дзед прарабіў яшчэ адно падарожжа. Яго хата засталася без гаспадыні. Памерла дзедава старая, а неўзабаве — жонка сына, з якім ён жыў, не дзелячы гаспадаркі. Ні кашулі памыць, ні хлеба спячы, ні сярпа ў рукі ўзяць. Дзед вырашыў жаніць старэйшага ўнука: сын быў хваравіты і не мог знайсці пары — жаночыя рукі ў хаце не з'яўляліся.

Знайшлі нявесту, але ніводзін поп ні за якія грошы не згаджаўся вянчаць — Лук'янаваму ўнуку крыху неставала да 18 год. Такі шлюб мог дазволіць толькі архірэй.

Справа была недзе ў сярэдзіне чэрвеня. Дзед пастукаў у мой пакойчык гадзін у 11 вечара. Я здзівіўся: такою парою цягнікоў са Слуцка не было.

— А я пешкі,— пасміхнуўся дзед,— устаў да сонца дый пайшоў па расе.

— Дзе вы начавалі, дзеду?

— Нідзе. Я ж сёння выйшаў, раз толькі пасядзеў, скарыначку пажаваў.

Ад нашай вёскі да Мінска лічылася каля 100 вёрст. І дзед адмахаў гэты кавалак за дзень. Праўда, крыху падоўжаны. Стары ўстаў да сонца, гэта па летнім часе гадзін у тры, а з'явіўся да мяне ў 11. Значыць, «чыстае» хады было блізка 20 гадзін.

Лук'ян не хацеў сесці, пакуль не расказаў, чаго прыйшоў. Ён увесь час распытваўся, дзе архірэйская канцылярыя і ці рана там пачынаецца работа, бо яму заўтра канечне трэба выбірацца дамоў. Я нагрэў чаю, госць мяне накарміў вясковым хлебам і салам.

Назаўтра, калі я прачнуўся, дзеда на канапцы не было. Знік ён, відаць, зноў на світанні, трэба думаць, выбраўся дадому ў той жа дзень. А свайго дамогся: пад час вакацый я быў запрошаны на вяселле.

У дні вялікай жалобы па Леніне дзед укінуўся да мяне ў палукашак на выездзе з вёскі, дзе спынялася кальцавая пошта.

Тады заходзіла сонца ў чырванаватых снягах, паціху трухаў конь, я сядзеў, унурыўшыся ў газету з чорнымі рамкамі, а насупроць Лук'ян не спускаў з мяне дапытлівых вачэй.

Нарэшце не вытрымаў:

— А колькі ж яму гадоў было, дзеткі?

Відаць, стары ўжо чуў пра смерць Леніна і зараз хацеў дапэўніцца.

Я адказаў. Лук'ян паморгаў абшэранелымі вейкамі. Здалося, на яго твары, што і так нагадваў скураны мяшэчак для тытуню, удвая прыбавілася маршчын.

— Маладыя ўміраюць, а я ўсё без карысці дарогі тапчу. Мы ж праз яго і зямлю аром і хлеб ямо. Рэдка бог на людзей пазірае. Ды, мусіць, недабачвае ўжо. Стары стаў, як я.

Дагэтуль я ведаў Лук'яна за самага набожнага чалавека ў нашай мясцовасці. Не было такой завеі і такога марозу, каб спынілі дзеда і не прыбег ён за тры кіламетры ў царкву на абедню ці вячэрню.

І раптам пачаў сумнявацца ў справядлівасці божых наканаванняў. Больш! Зневажаў бога. Таго самага, перад кім кленчыў усё жыццё.

Бо паверыў у чалавека, праўда, самага большага сярод людзей апошніх часоў. З гэтай верай дзед Лук'ян падаўся ў сваё апошняе падарожжа. Ужо не пешкі, а цягніком са Слуцка прыязджаў дапытвацца ў Чарвякова праўды пра калгас. І, калі вярнуўся дамоў, калгас быў арганізаваны.

*

Раніцай у хату, дзе я заначаваў, прыйшоў хлопец. Выклікаў мяне на двор. Парай, што яму рабіць: хоча ўзяць замуж дзяўчыну з высланай сям'і. Жаліцца на Паўліка. Той прыгразіў: выключым з камсамола, нашто кулачак ратуеш.

— Дык, мусіць, мы пажэнімся ды за бацькамі яе ўслед паедзем...

Гаворыць, нібы пытаецца. Што магу адказаць я, маладзейшы за гэтага хлопца? Чаму яму нельга ажаніцца з тою, каго кахае, і жыць тут, не пабіраючыся ні ў якія далёкія краі?

Следам прыйшла маладая яшчэ жанчына: не прымаюць у калгас. Свёкар яе раскулачаны і таксама высланы. А яна ж удава. І трое дзяцей. Чым іх накарміць, і чаму яны павінны адказваць за нейкага свёкра?

Як жа зрабіць, каб падымаючыся на такую вялікую перабудову не аднае вёскі, а ўсяе краіны, дбаючы пра дабро для ўсіх, не ўкрыўдзіць нічые душы пасобку? Бо яна ж — чалавечая і баліць. Асабліва калі нейкі раённы ёлуп кажа: «Ніхто не вінен, што ў цябе столькі дзяцей. Пашый торбы — і ў свет!»

Жанчына расказвае гэта ўжо не плачучы, але я чую, як скаланаецца ўсё яе прыкрытае даматканай світачкай цела.

А заўтра тыя словы падхопяць злыя языкі, паўтораць з амбону, пашэпчуць на патайнай сходцы — і, чаго добрага, зноў пасыплюцца заявы: «Сключыце мяне з калгасу»...

*

Вёску з усіх бакоў абступае пушча. Шаранеюць дрэвы на высокіх пясчаных берагах. Гэта — з раніцы. А ўдзень, калі ўгрэе сонца, хлюпае пад нагамі балота.

Каля калгаснай аборы — бочка і кацёл, злучаныя трубкай. Пад катлом гарыць вясёлы агеньчык. Высокі танкатвары чалавек падкідае трэскі.

— Што, самагонку гоніш?

Калгаснік, відаць, лічыць, што на такія пытанні можна і не адказваць. Прыходзіцца здагадацца, на што гэта грэецца вада.

— Бабы чортавы! — бурчыць, скардзячыся, калгаснік.— Яны і абагуленэ сваім лічаць. Кожная баба сваёй карове цёплае пойла з хаты цягне. А пусці іх толькі ў хлеў, дык у чужой з жалоба выграбе, а сваёй падкіне... Гэта мы са старшынём такую тэхніку прыдумалі. Хай вада ціпяціцца, будзем паіць кароў ціпачонай вадой.

З павагай аглядаем гэтыя зародкі механізацыі догляду. Дзядзька падыходзіць да нашай фурманкі, папраўляе сядзёлак і кажа:

— Петруся Іванавых, майго свата, конь.

— А можа калгасны, дзядзька?

Ён ужо і сам бачыць, што зрабіў прамашку, і зноў наракае на жанчын, што лічаць абагуленае сваім.

*

Насценная газета ў Тульгавічах. Пад загалоўкам «Думкі з Ламачоў» верш.

Гэй, Янка, Якуб, Базыль, Апанас,
Запішамся мы ў калгас.
Працаваць будзем агульна,
Гэта значыць — не дурна
Працаваць, саабшча —
Будзе малёнька барыша,
Мяса, сала, малака,
Не шманацьмем кулака.
Пахаць разаб'ём на шмат палей,
Гэта ўсяго ўдалей,
А ў гумне шмат культур,
Выбрасім з гаспадаркі дур,
А на сенажаці — сціпты сена,
Яко добра перамена.

Старадаўняе «яко» насмяшыла. Потым, прыслухаўшыся, я высветліў, што не такі рэдкі госць гэтае слоўца ў палескай гаворцы.

«Паглядзім, яко яно павернецца», «яко да Мазыра даедам, солі купім»,— чуў я ў гэтых самых Тульгавічах, дзе вока спыняюць вясёлыя, на ўкраінскі манер пабудаваныя хаты. Тут — добрая школа, бальніца, малочнае таварыства. У калгас запісалася 187 двароў. Непісьменных мала: 55 чалавек; 35 ходзяць на лікпункт. Аб гэтым усім даведваюся з газеты.

Аднак вершу яшчэ не канец, ён перанесены ў другі слупок:

Неабходна падмеціць, што гора не знішчыць
У нашай нацыі,
Калі дзядзька не бачыць
3-ю пазыку індустрыялізацыі.
Неабходна дзядзьку падпісаць,
5 руб. грошай даць.
За гэта будзе савецкая ўлада будаваць,
А дзядзька будзе штодня піроржнага ажыдаць,
Калектыўную гаспадарку будаваць.

Падпісана «Лапустар». Што гэта — прозвішча ці псеўданім? Відаць, аўтар змарыўся ад нязвычнай работы рыфмаваць і прытрымліваецца рытму, а можа каля верша пахадзілі яшчэ чые рукі.

Гавару гэта рэдактару. Так, чуецца адказ, давялося падправіць крыху, «наблізіць да сённяшніх задач».

Нешта падобнае казаў адзін сталічны рэдактар, чытаючы мае радкі:

Дзесьці прырос да сядла,
Мчыцца асілак Будзённы,
І ад сяла да сяла
Звоніцца Першая конная.

Тут, здавалася яму, не чуваць, што наша конніца абараняе кастрычніцкія заваёвы. І я дапісаў радок, не менш нехлямяжы, чым папярэднія. А на добры лад — трэба было перапісаць усё.

*

Мушу звярнуцца да пазнейшага часу. Прайшло больш за 30 гадоў, пабудаваліся і забагацелі калгасы на Палессі, а рэдакцыйныя звычкі мала змяніліся. Не так даўно ў адным з артыкулаў я расказваў, не называючы прозвішча, пра добрага ваеннага чалавека, які ўявіў сябе пісьменнікам і дамагаўся надрукавання свае пісаніны. Мне выкраслілі словы «ваеннага», убачыўшы ў гэтым знявагу ўзброеных сіл.

*

З пашанай схіляю галаву перад памяццю чалавека, які ў ранняй маёй маладосці стаў рэдактарам не кнігі, а ўсяго майго пісьменніцкага лёсу...

Гэта быў Максім Ляўкоў, партызан тае слаўнай беларускай мясціны, якая называецца Рудабелкай, дзе пад час дзвюх акупацый жыла, працавала, накіроўвала жыццё савецкая ўлада.

Па маладосці мне было цяжка ўявіць, колькі спраў, асабістых і неасабістых, прынцыповых для жыцця і работы партыі, колькі чалавечых лёсаў прапускае штодня праз сэрца, думку і сумленне гэты чалавек, стоячы на чале ЦКК, прычым робіць гэта з такой чуласцю ў кожным выпадку, нібы мусіць дапамагчы хвораму дзіцяці.

А прозвішча і пасада ў яго былі грозныя. І я моцна-такі напалохаўся, калі выдавецтва паслала зборнік маіх вершаў Ляўкову на рэдагаванне.

Тады была самая незразумелая і не вельмі лёгкая пара ў маім жыцці. Усё напісанае дружна бралі ў кіі крытыкі і не крытыкі, паэты і не паэты. Пахіб у маёй рабоце доўга шукаць не даводзілася: пісаў, пераймаючы, беспрадметную лухту, афарбаваную запазычанымі смуткамі і настроямі. Чамусьці нападала не за гэта, дарадцы стараліся знайсці нешта звыш напісанага ў радках, штосьці нератлумачыць, а то і прыпісаць.

З другога боку, спробы перайсці на тэмы сучаснасці выклікалі крывыя ўхмылкі ахвотнікаў да «чыстай» паэзіі. У «Звяздзе» — поспех для пачаткоўца! — была надрукавана мая паэмка, праўда, сырая, расцягнутая. Адзін літаратар, дасюль не разбяру — паэт ён ці не паэт, грэбліва заўважыў: «Бачыў твае «кілбасы» — нясмачна». («Кілбасы» таму, што рэч была набрана ў два даўгія слупкі).

Тут чулася не выкпіванне няўмелай работы, а асуджэнне спробы ўмацавацца на грамадска актыўнай пазіцыі.

Усё гэта збівала. Дробныя паэцікі, фальшыва спачуваючы мне пры чарговым разносе ў друку, цягнулі ў сваю драбнату; нябуйныя крытыкі, хоць і заўважалі тое-сёе слушна, пераканаць не маглі, бо праз меру пафасна заклікалі ледзь не да публічнага раскрыжавання аўтара.

Горка неставала разумнага і цярплівага настаўніка. Таму многім маладым, у тым ліку і мне, даводзілася да ўсяго даходзіць самім, і праз гэта цякла кроў з насоў, паразбіваных аб муры класікі ці аб неразуменне чытача і крытыкі.

У такім сваім раздарожжы, дакладней сказаць — бездарожжы, сапхаў я ў кніжку ўсё: наігранае і перажытае, сваё і падхопленае, патрэбнае і, вядома ж, усё, за што мяне бязлітасна лаялі. Да таго ж, кніжка мела манерную назву «Шостае пачуццё»: ва ўступным вершы я сіліўся давесці, што, апрача вызначаных чалавеку органаў пачуццяў, павінен нарадзіцца яшчэ адзін — для распазнавання, хто свой, хто чужы.

Верш быў напісаны на поўным сур'ёзе. Кандрат Крапіва з уласцівай яму здаровай развагай, пакепліваючы, разбіў на галаву мае мудраванні і верш у часопіс «Узвышша» не прыняў.

Я паткнуўся ў «Чырвоны сейбіт», спадзеючыся на заўсёдную прыхільнасць Кузьмы Чорнага. Ён прачытаў верш, адкінуўся на спінку крэсла і засвістаў. Гэта не абяцала дабра. Я пакрыўдзіўся і згроб са стала свае паперы.

Чорны глянуў на мяне і нявінным голасам папрасіў для чарговага нумара апавяданне ці абразок. Адчуўшы, што крыўда мая не адпускаецца, дадаў:

— Цікава ты напісаў... Але складана. А наш чытач — хто? Вясковая дзеўка і хлопец...

Ён гаварыў відавочна не тое, што думаў, але крыўдзіцца на Чорнага доўга было немагчыма.

Такога парадку кніга ляжала дзесьці на стале ў грознага дзеяча ЦКК, а яе аўтар некалькі месяцаў запар абіваў парогі выдавецтва.

— Не вярнуў яшчэ! — адказвалі яму.

Гэта пакідала надзею. Горш было, калі сакратар выдавецкага аддзела, моцны, зарослы чорнай шчацінай чалавечына, гаварыў маім таварышам, якія таксама чакалі ўхвалы сваіх кніг:

— Усё ў парадку. Забракована.

Аднойчы, калі мы вярталіся з універсітэта, з маім аднакурснікам хтосьці павітаўся. Паднашаны пінжак, сіняя, лінялага колеру сацінавая кашуля з касым каўняром і партфель з распёртымі бакамі выдавалі ў чалавеку адказнага работніка. Твар яго, вельмі зморany, з буйнымі рысамі, нагадваў абліччы драўляных фігур, што калісь рабілі вясковыя майстры.

— Твой цёзка — Ляўкоў! — адказаў на маё пытанне таварыш.

Я расказаў пра сваю бяду. Мой знаёмы пакруціў галавою:

— Хітруны ў выдавецтве! Калі Ляўкоў паставіць сваё прозвішча на кнізе, на іх ніхто і пальцам не кіўне. Дый для цябе гэта лепш. Пазвані яму...

Трубку Максім Архіпавіч зняў сам. Абазваўся глухаватым голасам па-беларуску:

— Зараз і паўгадзіны не выкручу. Давайце на тым тыдні. У сераду. Пасля пяці.

Ці трэба гаварыць, як чакаў я прызначанага тэрміну, як, баючыся спазніцца, прыйшоў раней часу і некалькі разоў абкружыў квартал, пакуль стрэлка гадзінніка не скранулася з умоўленай лічбы.

Ляўкоў быў адзін у кабінеце, ён сядзеў за сталом, даволі бязладна заваленым паперамі.

— Вы дружыце? — ён назваў прозвішча майго таварыша, з кім яны павіталіся тады на вуліцы.

Стала дзіўна. Ён запомніў маё аблічча пасля хвіліннай сустрэчы.

Відаць, праз гэта я чамусьці, замест простага адказу, пачаў мармытаць, што мы вучымся на адным курсе.

— Маладзец! — пахваліў майго сябра Ляўкоў.— Мой равеснік амаль, а не пасаромеўся на вучнёўскую лаву сесці.— Ён даволі бесцырымонна агледзеў мяне з ног да галавы і дадаў: — А ў пёры ён з вамі не гуляе?

Я не паспеў пакрыўдзіцца за свой узрост, а Ляўкоў ужо шырока ўсміхнуўся і раптам перайшоў на «ты».

— Сядай! А я чамусьці думаў: ты старэйшы. Які-небудзь такі,— ён пашукаў слова,— модны шляхцюк...

Адкуль яму было ўзяць такое ўяўленне, як не з маіх вершаў? Зразумеўшы гэта, а заадно прадчуваючы лёс свайго зборніка, я заліўся чырванню.

— Ну, гэта зусім па-дзявочы! — Максім Архіпавіч крыху збянтэжана махнуў рукою.— Не чакаў. Давай чай піць.

Ён нагнуўся за стол, дастаў чайнік і наліў негарачага кіпню сабе і мне. Падсунуў пачатую бляшаначку з ландрынам.

— Даўно вершы пішаш? А гэта цяжка? І цікава табе пісаць? Кожны дзень працуеш? І ў ахвоту? А вучышся, відаць, не надта?

Пытанні ляцелі роем, сур'ёзныя і з усмешкай, як на пачатку гаворкі. Хутка я выкладыў яму ўсё і адчуваў сябе як немаўля, якое раптам выгарнулі з пялёнак. Было трохі брыдкавата, але ва ўсім гэтым допытванні чулася спагадлівая чалавечая дабрата.

Тым часам Максім Архіпавіч і не думаў упыняцца.

— Значыць, табе хутка 20? — ён раптам пасур'ёзнеў.— Гадоў з дзесятак назад хлопцы твайго ўзросту і маладзейшыя, некаторым па семнаццаць было, справы рабілі. Пра Рудабельскую рэспубліку чуў? Думаеш, рэспубліка — занадта гучна для Рудабелкі? А на маё вуха — ні кропелькі. Вось мяркуй: немцы стаялі ў Оршы, а ў Рудабелцы — савецкая ўлада.

Ён устаў, падняты хваляю перажытага, пакрысе ўспамінае...

...1918 год. Жалезная сіла яшчэ створанай кайзерам арміі заціснула краіну ў кляшчах акупацыі. А Рудабельскі падраённы камітэт партыі шле нямецкаму камандаванню ультыматум: «Выбірайцеся з нашай тэрыторыі, і чым найхутчэй! А не — ударым зброяй!»

Спярша немцы пасмейваліся: паспрабуйце паткнуцца! Пасля дазналіся: па вёсках ходзяць бальшавіцкія агітатары. З'яўляюцца проста да старасты: «Даволі ты слухаўся немцаў, цяпер будзеш слухацца нас!»

Загулі патайныя сходы. Пасланцы партыйнага камітэта — тутэйшыя людзі — усё і ўсіх ведалі, таму гаварылі проста: «Эй, Хведар, у цябе недзе за гумном стрэльба закопана. А ў цябе, Рыгор,— абрэз пад страхою. Ці не хопіць ім іржавець, пара ў рукі браць...»

Выплывала са схавішчаў зброя, адзін за адным ішлі людзі ў паўстанскія атрады. І ганарлівыя акупанты збянтэжыліся, яны ўжо не маглі саўладаць з сваімі салдатамі: не пойдуць супроць народу, вецер рэвалюцыі шугае па іх уласнай краіне. Хочаш не хочаш, трэба выбірацца. Камандаванне прызначыла для гэтага час: 25 лістапада. Але не датрымала слова: пачало здымаць салдатаў з пазіцый на дзень раней. Як быццам ведала, што партызаны вырашылі выступаць 24. У той вечар на хутар Базыля Шэйка, каля вёскі Лясок, сабралася чатыры сотні ўзброеных партызанаў. І яшчэ прыбывала. Заставалася браць уладу.

Тады быў напісан загад №1: «Безадкладна ў дзве гадзіны ночы выступіць для захопу Рудабельскай

земскай управы, разагнаць засеўшых там эсэраўскіх прыхвасняў капіталістаў і паставіць савецкую ўладу».

Старшынёй рэвалюцыйнага камітэта стаў Алесь Салавей, сакратаром — Максім Ляўкоў, парадкаванне зямельных спраў было ўскладзена на Нічыпара Званковіча, харчаванне і забеспячэнне атрада — на Лявона Адзінца і Максіма Уса.

Роўна а другой гадзіне пастроіліся: марш на Рудабелку. Па дарозе сустрэўся пан, уцякаў з-пад Глуска. За ім цягнуўся абоз фурманак з дабром. Спынілі, раздалі беднаце.

У цемры бязгучна ўвайшлі ў Рудабелку. І адразу — да ўправы: абкружылі, каля вокан і дзвярэй паставілі вартавых.

Рэўкомаўцы загрукалі ў дзверы. У памяшканні забегалі, загарэўся агонь.

— Адчыняйце!

Бразнулі засаўкі, цэлы гурт уваліўся ў канцылярыю.

— Іменем Беларускай Савецкай Рэспублікі... улада перадаецца рэвалюцыйнаму камітэту.

Рэўком не марудзіў. Два атрады рушылі займаць маёнткі Врангеля і Беразоўскага, трэці — на Ратміравічы, аўладаць чыгункай.

Безупынку стукала аж пяць машынак, друкавалі загад аб стварэнні Саветаў, адозву аб пераварoце. Адразу ў ноч паскакалі коннікі, павезлі дарагія дакументы, заклікі арганізоўваць камітэты беднаты.

Раніцай пад уладай рэўкома апынулася прастора на 40—50 кіламетраў ва ўсе бакі. І ў Рудабелку пацягнуліся сялянскія фурманкі. Людзі ехалі паглядзець: якава ж яна, тая новая ўлада? Вельмі спрытная нешта, за адну ноч такі раён захапіла.

Сяляне заходзілі ў рэўком і, на сваё здзіўленне, пазнавалі добра знаёмых людзей.

— Ды гэта ж адзін Яхімаў сын, а другі — Якубаў,— пасміхаліся яны ў вусы.— Свае хлопцы, мусіць, добра павядзецца.

Так над Рудабелкай упершыню ўзвіўся чырвоны сцяг з сярпом і молатам. І пад гэты сцяг пачала збірацца сялянская моладзь:

— Пішыце ў атрад... І мы за Саветы...

Сакавік наступнага, 1919, года прынёс багата трывог. Завязаліся баі з белапалякамі пад Слуцкам, у Гомелі паднялa галаву стракапытаўшчына, бандыцкія шайкі хлынулі ў Мазыр. Заварушыўся вораг і пад Рудабелкаю. Камуністы і спачуваючыя сабраліся на сход: цяжка, як утрымацца? Абарону раёна ўзяла ў рукі надзвычайная тройка: адзін з трох — Ляўкоў.

Можна было спадзявацца толькі на ўласныя сілы. Бабруйскі гарнізон пайшоў на дапамогу Гомелы. І ўсё, чым маглі пасабіць бабруйчане,— 500 палю. І ўсё, чым маглі пасабіць бабруйчане,— 500 патронаў. Дарагіх, некалькі разоў пералічаных, каб не перадаць лішняга.

Але сяляне не пакінулі ў бядзе абаронцаў Рудабельскай рэспублікі. Даставілі весткі аб прасоўванні ворага, аддавалі паляўнічыя стрэльбы, везлі хлеб, неслі прыхаваныя на рыбу гранаты. Хто што мог.

Конна, за сорак вёрст, дабраўся ў Рудабелку селянін. Палажыў перад старшынёю валаснога камітэта нешта ў паперцы.

— Прымі, калі ласка. А можа гэта акурат тыя, якіх не будзе хапаць, каб наша права ўзяло верх.

У скрутачку ляжалі два патроны.

Рудабелка адбівала цяжкую аблогу. І ў самы скрутны момант падышоў чырвонаармейскі атрад.

Так упершыню я дазнаўся пра Рудабельскую рэспубліку. Проста з вуснаў таго, хто яе ствараў, быў на чале яе абаронцаў. Пачутае давялося цяпер аднаўляць па ўспамінах Максіма Архіпавіча, што захаваліся ў перадваенным друку.

Было ўжо недзе пасля поўначы, калі апавядальнік вымавіў:

— Няма іх, многіх няма маіх таварышаў. Заплацілі жыццём, каб мы вучыліся, пісалі вершы.

Максім Архіпавіч памаўчаў.

— Каб мяне слухалася слова,— закончыў ён гаворку,— я напісаў бы аб гэтым. Не канечне пра Рудабелку. Увесь наш народ падняўся тады. Ты вось са Случчыны, і там жа былі партызаны... І ў Дукоры...

Я выйшаў на вуліцу, проста ва ўсыпаную зорамі ноч, ім не лішне тады замінала свяціць электрычнасць.

І ўвесь час здавалася, што ідзе поруч, вядзе на маю ўскраінную вуліцу ціхі, перарывісты ад хвалявання голас партызанскага важака.

*

Максім Архіпавіч аддаў мне рукапіс у той самы вечар.

— Паглядзі і нясі ў выдавецтва, няхай друкуюць. А захочаш са мной яшчэ пагаварыць — заходзь.

Разгарнуўшы рукапіс, я адчуў, што размова працягваецца. Неяк вельмі хараша, па-таварыску гучалі зробленыя тонка завостраным алоўкам заўвагі:

«Што правільна, то правільна!»

«Гэтага я б не даваў, аўтар як сабе хоча».

«Тут я падумаў бы, сказаў бы іначай».

На маё здзіўленне, амаль пад усімі вершамі, якія выклікалі найбольш нараканняў у друку, стаяла: «Заўваг не маю. М. Ляўкоў». Прыйшоўшы праз колькі дзён да яго, я адважыўся звярнуць на гэта ўвагу.

Максім Архіпавіч падняў на мяне вясёлыя вочы.

— Думаеш, я не ведаю, што гэтыя вершы шчыпалі? Ведаю, але мяркую — няма за што. А калі вагаешся сам, давай паглядзім разам. Відаць, цябе ўжо ўгаварылі, што ўсё гэта дрэнна.— Ён хітравата ўсміхнуўся: — Угаворвай ты мяне.

Мы селі пераглядаць кнігу. Ён нічога не навязваў, наадварот — пытаўся я: «Гэта як? Пакінуць, паправіць?» І я правіў радкі, апускаў строфы і вершы цалкам. З лёгкаю душою. Бо са мною яшчэ ніхто не размаўляў так, проста і добразычліва. Знайшоўся чалавек, які адразу разгледзеў усю сумятню, бязладдзе і супярэчлівасць маладосці. Паціснуў руку, гаварыў як з роўным. Далікатна паказаў, за што трымацца, што галоўнае свеціць у нашай дарозе, і на гэты агеньчык трэба кіраваць работу.

І не сказаў, а даў пачуць недзе ў глыбіні вымаўленыя словы:

— Пара табе, хлопец, выбівацца на плынь часу. Ты сабе ціхенька плывеш па затоне, праўда, яно прыгожа: аер, гарлачыкі, рыба ўсплёсквае... А жыцця не відаць.

Таму я не данёс тую кнігу да выдавецтва. Перадумаў. Толькі старонкі з яе, дзе ёсць заўвагі і подпіс Максіма Ляўкова, не даў ветру параскідаць па дарогах і перахоўваю дагэтуль.

А перадрукоўваю адтуль хіба што «Словы без мелодыі» — даволі значны цыкл ды яшчэ некалькі вершаў, тыя, што вылучыў мой добры дарадца.

*

Разоў тры спатыкнуўшыся, жанчына нарэшце вымавіла:

— М а х а т у р а!

Засаромелася, хацела папраўіцца, але махнула рукою і сказала лёгкае, абыклае, па-палеску ўкарочанае слова «крамніна»:

— Крам трэба! Краму не прывозяць.

А дзядзька, мусіць, каб не прававацца з цяжкім словам, падае скаргу пісьмова:

«Як я бядняк, а прадаў дзяржаве 10 пу., хоць і страдаю ціхейным бедствіем. А м а н а в а к т у р у раздалі зажытачнаму слою. Тут ёсць свая ўхіл».

Гэта даводзілася чытаць і чуць многа дзе. І зусім не таму, што раптам упадабалася на Палессі мудрагелістае слоўца — мануфактура. Мала, горка мала яе, а тая, што завозіцца ў вёску на размеркаванне, прыліпае да нячыстых рук.

Заяву пра м а н а в а к т у р у паказваў сакратар партыйнай ячэйкі ў Бярозаўцы. Не без гордасці: з бядою, па параду цягнецца палескі селянін да камуністаў. Ячэйка — невялічкая, не так даўно арганізавана. І сам ён выбраны паўгода назад, у жніўні 1929 года.

Усіх камуністаў — 14. Двое старшынююць, астатнія — члены праўлення ў розных калгасах.

— За паўгода, як астаўся сюды, толькі тры начы сходаў не было.

Твар у сакратара зморамы. І такі ёсць ад чаго. Калі ён браўся за работу, тут былі чатыры дробныя калгасы, 68 сем'яў. Зараз калгасаў сем, але запісалася туды 673 двары, а ўсіх іх у сельсавеце 730.

Камуністаў пабольшала, і паўтара дзесяткі ўжо новых заяў ёсць. «Дзень калектывізацыі» адзначылі

добра, арганізаваўся калгас «Чырвоная зорка». Была нават дэманстрацыя, і ўсе адлічылі дзённы заробак у фонд індустрыялізацыі і калектывізацыі.

Я запісваю, што да патрэбных 8400 пудоў насення нестае 600 пудоў, не сабралі яшчэ. А вось коней абагулена 777, і ёсць маладыя — 229 галоў; кароў 1043, маладняку 271 дый яшчэ і авечак 1302. А трактар пакуль што на раён адзін, і таму калгасныя сходы пастанавілі адлічыць чвэрць прыбытку ад лесанарыхтовак на трактары.

*

Яры, пералескі, азерцы. Падтрэсаюць колы на крыху падмёрзшай храпе. Жвава бягуць коні, іх падвясельвае рыжабароды дзядзька-падводчык.

— Куды вы, жыць не хочаце? — спыняюць нас каля ракі сустрэчныя фурманкі.

Прыпяць сапраўды выглядае грозна: уздзьмулася, пасінела. А ручаіны стараюцца: нясуць жоўтую ваду з поля, прамываюць ручво ў беразе, узрываюць ледзяны покрыў ракі. Ехаць нельга, як кажуць, ні саньмі, ні калясьмі.

Мы едзем калясьмі, а каб скараціць дарогу — хочам абмінуць мост і перахваціцца цераз раку.

— Такі ракою паедзеце?

Наш возчык флегматычна сплёўвае:

— Ву не страшце. Ву пераехалі, і му пераедам.

Мой спадарожнік, супрацоўнік газеты «Беларуская вёска», рабоча-сялянскі карэспандэнт, як ён сам сябе кліча, трывожыцца:

— Вярні, дзядзька, назад! Я яшчэ не ўсю Мазыршчыну пабачыў.

Возчык застаецца няўмольны.

— Но, тупайце, хлопцы! — крычыць ён на коней.

Крыху праехаўшы, ён звяртаецца да нас, прымоўклых і пакорных лёсу:

— Ву бярэце чымайданчыкі ў рукі ды ідзіце ножкамі. А я паеду пакрысе.

Паслушна злазім і, перабіраючы ватнымі нагамі, ідзём перад коньмі па лёдзе. Пасярэдзіне ракі — новая каманда:

— Ну, садзецеся! Я ж еду, а ў мяне двое дзяцей...

— Сядзем, бо ногі яшчэ горш млеюць ідучы,— прызнаецца карэспандэнт.

— Но, но! Тупайце, хлопцы! — зноў разлягаецца па рацэ.

І «хлопцы» датупаліся. Проста перад аглоблямі — продухавіна. Прыпяць дыхае халодным ненаедным нутром.

І адразу — шабоўсь! Праваліўся конь, які бег на ворчыку. Забіў дробна нагамі, ударыў перснямі аб лёд і выскачыў.

— Дзядзька, на бераг! — крычым удваіх.

Возчык зацягваецца і моўчкі паганяе далей.

Нарэшце трывогі канчаюцца, дарога выкіравалася з ракі на поле.

— Ну, от і пераехалі,— цешыць дзядзька і зручней умайстроўваецца ў перадку. Хвілін праз колькі ён азіраецца з усмешкай:

— Папужаліся ву? А я — ніяк. Яшчэ і назад сюдэю паеду.

Аднак назад паехаў цераз мост.

*

Недзе недалёка ўжо Мазыр. Па ярах, па далінках бягуць у горад дрэвы. Вясновыя, яшчэ не апраненыя, яны як быццам саромеюцца, што не могуць затуліцца зялёнымі рукамі:

— Выбачайце нам, добрыя людзі!

На небе бліпічыць тонкая падкоўка маладзіка. Прыветна запальваюцца агеньчыкі. Мінаем стары, напалавіну разбураны касцёл. На самым крыжы чарнеецца буслінае гняздо. Хутка прыляціць бусел і будзе вартаваць на адной назе пустую будыніну.

І ўжо ўяўляецца, што гэта добрая нехлямяжая птушка прыляцела, стаіць цёплы надвячорак, крумкаюць жабы, бегаюць замурзаныя дзеці, чуюцца жаночыя галасы з пагрозай сарваццa на сварку.

Пацягнула дымком. Мазыр.

З правінцыяльнай ціпынёй
Пачнём вячэрняе знаёмства.

Гэта рабоча-сялянскі карэспандэнт загаварыў вершам. У яго ўжо не млеюць ногі.

*

Дабірацца ў Тураў трэба чыгункай. Масты разведзены, а падводчыкі і балаголы баяцца ехаць цераз Прыпяць. Нерухома ляжыць яе сіняе цела. Набухае. А цераз тыдзень рака ўдарыцца аб крыгаломы, вылушчыцца, як змяя, з зімовае скуры і ператворыцца ў ласкавую красуню. Панясе па ціхай вадзе сваёй плыты, параходы, чайкі, дубы.

*

Як загадвае «роспіс руху аўтобуса ■ Мазыра ў Каленкавічы і ■ Каленкавіч у Мазыр», ■ 5-й раніцы прыходжу на плошчу. Паштовага аўтобуса няма. Затое стаіць аўтадораўскі. Бяру яшчэ адзін білет і лезу ў машыну. Перад самым адпраўленнем з'яўляецца паштовы аўтобус з заспаным шафёрам. Ён едзе толькі да моста, але грошай за білет не аддае.

Машына лёгка падрыгвае на свежанамошчаным бруку. Краявід амаль крымскі: то ўгору, то ўніз. Дамы пабліскваюць вокнамі ўгары.

*

У буфеце на станцыі вяндліна і малако. Снедаю, аглядаючыся на кішэню. Яшчэ і за аўтобус заплаціў, на якім не ехаў.

На станцыі поўна людзей, пераважна лесарубы. Прытуліцца няма дзе, а чакаць яшчэ доўга. Іду шукаць прытулку ў гасцініцу: 60 капеек ложак і прасцірадла. У пакоі чалавек 10, душна.

У абавязкі дзяжурнай па гасцініцы ўваходзіць пабудка пастаяльцаў. Яна доўга і прыдзірліва распытваецца:

— Хто вы? Куды вы? А вы хто? А вам куды?

Відаць, гатункуе пасажыраў па пакоях у залежнасці ад маршрутаў. Каб лягчэй было будзіць. Так здагадваецца сусед па ложку, ваенны.

*

У вагоне моцны дым самасаду і махоркі. Цішком перабіраюся ў плацкартнае купэ (у тым жа вагоне).

Следам за мною яшчэ чалавек. У Капцэвічах ён выходзіць. Карыстаючыся тым, што ёсць столік, пачынаю запісваць. Ага! Ужо ж — 12 сакавіка 1930 г.

Пераехалі Пціч, Капцэвічы, Старушкі. Апошняя станцыя — Жыткавічы.

У афармленні мазырскага вакзала моманты ўкраінскай стылізацыі. Дзесьці нават прамільгнуў плакат: «Державна ощадна каса». Сустракаюцца дрэвыпаўзункі. Так, як на невялікіх украінскіх станцыйках па дарозе ў Крым.

А гаворка, гаворка!

Вось і зараз з-за дзвярэй купэ чуваць:

— Шо нэ вмуваешся?

— Він хочэ за мэдведя буть!

— Та ні, карасінавы корак ты. Двэры замукнуты, нават по потрэбі не пушчаюць.

*

Нехта праехаў сваю станцыю. Праспаў, прахапіўся на наступнай.

— Што гэта?

— Жыткавічы.

— А Старушкі хутка будуць?

— Ды ўжо калі пераехалі?

— Не, не можа быць... Не, напраўду?

— Так жа ж.

— Дальбог? Ну і парадак! І не пабудзілі чалавека.

Галасы за сценкаю купэ чуваць выразна.

— Гэта, глядзі адно, дзядзька, пэўна таму, што праваднік — баба, слаба службу знае...

— Напрымаюць баб! Трэба, каб сіла была, мужчына, адным словам. Каб мог сцянуць чалавека, калі не прахватваецца.

«Сцянуць» — гэта па-слуцку — патрэсці, скалануць.

*

Пад грукат колаў добра думаецца і запісваецца. Накід навелы.

Бяжыць паравоз і вязе з сабою чалавека. Нерво-

вага, неспакойнага. А ў другім вагоне, паштовым, едуць два лісты: у маленькім белым канверціку і ў вялікім зялёным пакеце. У кожным з іх — лёс гэтага чалавека: рашучае слова любімай жанчыны і загад... Да часу ніхто не ведае дакладна, што вырашыла жанчына і якога зместу загад.

Чалавек прымружвае вочы на паліцы.

Дрэмлюць лісты.

Але вось праз папяровае адзенне белы ліст пачынае глядзець чорнымі літаркамі-вочкамі і чытае зялёны.

Прачынаецца чалавек і патайным прадчуваннем разумее, які лёс рыхтуюць яму лісты.

І маленькі ліст са словам любімага чалавека, мацнейшы за вялікі, адхіляе небяспеку.

*

Слаўная раніца. Ці то ад марозіку, ці то яшчэ не паспеў сысці — лёд на балоце. Каля чыгункі шмат навезенага дрэва. У Капцэвічах — лесапілка, свежыя дошкі, брусы. Пыхкае комінам заводзік.

Краявід змяняецца. Нядаўна наш цягнік насілу вылузваўся з балота, а вось ужо выскачыў на жвірыстую наспу і пагуквае сярод даліны.

Многа дрэў чахне на балоце, не ідуць у рост, а ліпяць, каржакавеюць.

За дзвярыма купэ гаворка:

— Ву толькі не зблудзеце. Адна дарога ідзе ўліва, а другая — на заводы.

— А якія ж там заводы?

— Смаляныя.

— Багата рабочых?

— Тры.

Праціраю запацелае шкло: відаць, як бяжыць за цягніком лес, пракідаюцца ў хмарах блакітныя стужачкі неба.

*

Паўдня калаціўся па трускіх грэблях. Нарэшце а палове пятай — Тураў.

Старобін, Вызна, усе шляхі да мястэчак на Случчыне — гэта толькі кветачкі. Тут наўкол такое балота, што, здаецца, ступіш — і адразу на той свет.

*

Промні гаснуць на сталe, на дрэнна пабеленых сценах пакоя. Тураў — вялізнае паселішча, брудна, многа цэркваў і сінагог. Гэтым часам у РВК не ведаюць, што рабіць: кожны дзень сыплюцца заявы аб выхадзе з калгаса, разбіраюць насенне, лаюцца, крычаць. Выходзіць, нельга арганізоўваць калгас на паперы, не падмацаваўшы гэта абагульненнем сродкаў вытворчасці. Тут якраз работу зрабілі напалавіну. Вось паехала і ў Тураве.

Галоўнае — няма прыкладу, няма чаго паглядзець, няма дзе пераканацца і павучыцца.

Сяляне і тут пасылаюць хадакоў, напружана чакаюць «самога» Чарвякова: «Ён праўду скажа. Як скажа, так і зробім».

*

Ніяк не вырвацца ў вёску. З раніцы ўзнялася завея. На вокны паволі ўспаўзае мароз. Праз вецер не высунешся на вуліцу. Ледзь дабраўся да пошты.

Гавару з хлопцам. Хоча вучыцца, але амаль зусім непісьменны. Яго паслалі на курсы ў Рагачоў, а там ужо скончылі праграму сямігадовай школы:

— Воны там праходзяць дробы! А куды ж мне, батраку, дробы? Я думаў, дроб — гэтак на шрот каторыя кажуць.

*

«Дзівіцеся? Сам ведаю, што смешна. Аднак пішу. Папера дацерпіць, пошта давязе, яна дачытае. Апошняе — за кошт мае самаўпэўненасці. Яна можа і не дачытаць. Мусіць, будзе лепш, калі не дачытае. Усё адно. Гэты ліст вынікае з неабходнасці пагаварыць, хоць з кім, нават калі ты зусім не патрэбны таму чалавеку. Узяць душу, заклеіць у канверт і паслаць.

— А дзе ж яна, душа? — запытаеце вы.

Павінна быць! Я сам паклаў яе ў канверт. Няма? Дзіўна. Можа вытрасла пошта на палескіх грэблях, а можа засталася на шумным калгасным сходзе ці дзе-небудзь на вакзальнай плошчы. Напэўна, яе перашлюць вам, а можа яна чакае адрасата ў акенцы «да запатрабавання». Вы не цікавіліся, вы прывыклі, што мая душа ходзіць за вамі па пятах. Пацікаўцеся на пошце, папытайце ў сябе, паглядзіце добра ў сваім пакоі. Бо другой выслаць не магу, у мяне была толькі адна.

Тады чаму ж напісаўся гэты ліст? Вам гэта вядома лепш. Чорт вазьмі, як не хапае вас тут, сёння, у апошняй перадвясновай завеі. Гэта яна ўзяла ды нагадала, як грэў я губамі нечыя малыя рукі, ведучы некага па зімовым горадзе праз завіруху, мяцеліцу, мароз. У вясну. Вясна зараз прыйдзе. Я не хачу сустракаць яе адзін».

*

Стрэлы. Некалькі разоў запар. Потым пачалі званіць на каланчы.

На вуліцах — рух, зусім незвычайны для Турава ў гэты час. Затупалі і гасцінічныя жыхары. Неба — палавіна цёмна-сіняй заслоны над Туравам — у агні. Пажар недзе на ўскраіне. Каля пажарнай адрыны лаюцца:

— Куды каня тузаеш? Запрагаць трэба!

— Сам ведаю, што трэба. А дзе хамут?

— Чорт вас ведае, дзе вы яго падзелі.

— Ах, чэрці! Паеду дамоў па хамут!

Чалавек цяжка ўзвальваецца на каня і, цёпкаючы па густым месіве гразі, знікае ў цемры.

Тыя, што засталіся каля адрыны, удваіх цягнуць помпу.

— Цяжка, сагні яго цётку!

— Трэба было каня запрэгчы! — падказваюць збоку прахожыя.

— На кані па хамут паехалі.

— Ну, так, браце, духі выпра!

— Гэй, мужчыны-браткі! Памажэце машыну на пажар зацягнуць!

Цяпер двое ўпрагаюцца ў аглоблі, а двое пачынаюць папіхаць.

— Стой!

— Чаго стой? Што ты стаў, каб ты праўцом стаў! Людзі гараць, а ён стаіць!

— Дай аддыхацца. Усё роўна, пакуль давязём, пажар скончыцца. Туды столькі людзей сыпанула, што той пажар па вугельчыку разнясуць.

— Хоць зірнуць бы!

— Хадзем.

— А машына?

— Пастаіць. Такая штука, што не ўкрадзеш. Дый красці няма каму: усе пажару глядзець пабеглі.

Два добраахвотныя пажарнікі паспешліва кіруюцца ў бок пажару, двое застаюцца чакаць каня.

Іду ўслед, каб не заблытацца ў цёмных завулках.

Праз некаторы час мае спадарожнікі спыняюцца і пачынаюць гукаць:

— Хлопцы! Браткі!

— Хлопцы!

— Хлопцы, чуеце? Няможна ж так.

— Хлопцы, цётку вашу ў сумёт, няхай будзе!

— Хто ж гэтак робіць? Двое сядзяць на бочцы, а трэці на кані. Так толькі на лаўцы ў нардоме можна. А вы ж на пажар ваду везяце.

І праўда! На маленькай канячцы сядзіць даўганогі чалавек у сівай світцы і разважна паплёўвае на бакі. На бочцы, спінаю адзін да аднаго, тварамі ў розныя бакі едуць два маладыя хлопцы. Відаць, іх вось толькі што выклікалі з вечарынкі, яны яшчэ не астылі ад полькі і падспеўваюць:

Часцей шроту, драбней маку
Падкідае Тэкля ногі.

Паволі клыпае канячка, ногі панурага конніка валакуцца па гразі, падскокваюць хлопцы на бочцы. Як назнарок, у давяршэнне анекдатычнага малюнка, ззаду на заткала стараецца ўмайстравацца хлапчук.

*

Гараць, пэўней дагараюць, тры гумны і недалёкія ад іх хлявы. Два гумны былі пустыя, там заста-



12 Зак. 2682

валася толькі трохі саломы і абмецця. У трэцім, адкуль і пачаўся пажар, стаялі толькі што абагуленыя коні. Людзі разгубіліся, забылі, што проста так каня з агню не выведзеш. Трэба надзець хамут. Тады жывёліна, прызвычаеная, што ў хамуце трэба нешта рабіць, супакойваецца і тупае за гаспадаром.

Калі ўспомнілі пра гэта, хапіліся шукаць хамутоў, было позна: шугала вялізнае полымя, да будыніны не падступішся.

На стрэхах суседніх гумнаў і хат людзі льюць з вядзерцаў ваду, накрываюць насохшую салому мокрымі посцілкамі. Усе, як быццам баронячыся ад аваднёў і мух, махаюць рукамі, сілячыся адагнаць зыркія раі гарачых іскраў.

І раптам: ба-бах!

Гэта пагранічнік стрэліў з вінтоўкі ўгару.

Ён крычыць да людзей, што сядзяць на стрэхах:

— Злазь, гавару! Злазь хутчэй!

— Таварыш чырвонаармеец! — падбягае пагранічнік з камандзірскімі нашыўкамі. Тузае за рукаў. Той разгублены, ашаломлены, нічога не бачыць і не чуе.— Што вы робіце?

Ён схамянуўся нарэшце:

— Страляю, таварыш камандзір. Няхай са стрэх злазяць, а то пагараць яшчэ.

— Адставіць!

І яны ўдвух кідаюцца на дапамогу, пачынаюць расцягваць бярвенне з ахопленага агнём зруба.

Змакрэлы, даўно не голены чалавек, з аблічам, зачырванелым і закураным сажаю, п'е ваду з вядра нагбом.

Пахістваючыся ад зморы, ён расказвае:

— Мы, брат, *набеглі* ўтрох. Яшчэ толькі займалася, слабы агонь быў. Дык я кажу: хлопцы, тушэм адно гумно. А яны — не. Кажуць, няхай кожнаму па гумну. А што ты адзін зробіш? Так усё і згарэла.

— Дык што ж яны ў адзін час заняліся?..

— Хто яго ведае? Відаць, пачалося з гэтага, сярэдняга. Вельмі ж моцна нехта *намеўся* падпаліць. Два кулі саломы ўправіў у *сутачкі*. Разлічыў, падла, каб не адно згарэла. Гумны ж у сціску стаяць. Вось яно і пайшло. Многа хіба трэба — загарэцца!

Так пакрысе высвятляецца: падпалілі. Гэта не

першы выпадак на Палессі. Справу не вытлумачыш простай злосцю суседа на суседа: пасварыўся і адпомсціў. Відаць, выкрыецца яшчэ адзін звянчак варожага супраціўлення калгасам і ўсяму нашаму ладу. Слухаю далей:

— Адно шкада — худобы. Важныя коні былі. Я, брат, хапіў паляняку вяршкоў восем. Тоўк, тоўк у дзверы... Дзе тут іх выб'еш!

Плачуць пагарэльцы.

У пажылой жанчыны — здаецца, аблічча яе амаль не кранулі гады — слёзы плывуць двума няспыннымі цуркамі. Упадзе доле адна слязіна, і зараз жа капае другая. Вусны моцна сціснуты і амаль не адрозніваюцца ад збялелых шчок, значна толькі тоненькая сіне-чырвоная рыса, што наўкасы перацінае твар. Жанчыніны рукі беспарадна ляжаць на галоўках дзяцей і то пагладжваюць малых, якія спалохана туляцца да матчыных ног, то бяссільна звісаюць уздоўж тулава. Хлопчык — большанькі — без шапкі, у лапціках на босую нагу, прыціскае кацяня да расхрыстанай споднай кашулькі. Ад гэтага яму, мусібыць, трохі цяплей, але пасінелая грудзіна ўздрыгвае ці то ад плачу, ці то ад перапуду.

Малы не адрываючыся глядзіць на полымя. Яго сястрычка сіліцца ўвярцець босыя ногі, наступае імі на крысе жакеткі, скінутай, відаць, з матчыных плячэй, а каўнер нацягвае на галаву, абвязаную — канцамі пад бараду — паркалёваю белай хустачкай. І ўвесь час сцепаецца: дробна-дробна.

Жанчына стаіць моўчкі і нерухома. А калі агонь траціць сілу і з кучы гарачага вугалля і галавешак вырываюцца сінія чадныя языкі, яна выбухае пранізлівым крыкам. Галосіць так, як галасілі яе прабабкі па дарагім нябожчыку:

— А маё ж ты гуменца! А я ж ведаю тваё кожнае бярвенца! Я ж іх з лесу вазіла, я ж іх на руках насіла! Нашто ж ты згарэла, няхай бы я цябе зусім не мела! Як я цябе згубіла, то і прапала мая сіла...

Ашаломлены, слухаю жахлівую імправізацыю. Гора, менавіта яно, рабіла нашага продка паэтам, яно стварыла большую частку нашага фальклору. Жнучы панскую палосу, выпраўляючы ў салдаты сыноў, праводзячы блізкіх на могілкі, давалі нашы

няшчасныя маці волю свайму гору, выкрычваліся, выгалошваліся, вызвалялі ад яго збалелыя грудзі праз песню-жальбу, песню-крык, песню-галошанне.

А зараз, усё больш усведамляючы памеры страты, крычала гора жанчыны, рабілася песняй-заплачкай, складзенай з аднаго толькі пачуцця, ■ выпадковымі і таму страшнымі сугуччамі.

— А мая ж ты кабылка-сіўка, без цябе запусцее наша ніўка! Была ты трацячка маладзенькая, на хаду, на работу весяленькая! Ужо ты ў варотцах не заржэш, на полі грыўкаю не страпянеш! Была ты добрая матка, прывяла нелапое жарабятка. Так вашы костачкі спапялелі, нібы мае вочы на вас не глядзелі.

Слухаць далей было нельга. І доўга гула наша гасцінічка, пераказваючы хваляванні і падрабязнасці цяжкае ночы.

*

Вядзецца следства. Хоць бы знайшлі таго вылюдка, ён жа мог пусціць з дымам усё мястэчка. Суд тут павінен быць кароткі. Вырак ужо вынесла тая жанчына, што галасіла на пажарышчы. Яе заплачкі да канца даслухалі хлопцы, суседзі па гасцінічным пакоі. І запомнілі. Значыць, не аднаго мяне ўразіла тая страшная песня:

— Спалілі гуменца, згарэлі стрэшка і шулы, каб таго гада ў дугу сагнула. Каб ён у грудзях агонь насіў, каб ніхто яму не ўтушыў! Каб ён як вуж віўся, як асіна калаціўся, каб па зямлі качаўся і ўсё больш займаўся! Каб ад яго вада ўцякала, каб яго хмара мінала! Каб не меў ён дарогі другое, як у вір старчма галавою!

Мае суседзі кажуць, што падпальшчыку мала вышэйшай меры. Можа і праўда, справядліва было б спачатку зрушыць на чорную душу ўвесь цяжар народнага праклёну. Законы класавай барацьбы, з якімі знаёмілі нас у студэнцкіх аўдыторыях, на практыцы выглядаюць больш жорстка. Відаць, яны павінны быць дапоўнены народнымі законамі знішчэння ўсяго, што замінае жыццю або адбірае яго, законамі бязлітаснымі, а таму і гуманнымі.

Крыху пішу і ўслед рву, як толькі ўспомню словы, што вырываліся з расшчэпленых горам вуснаў маці пагарэльцаў.

*

Гэтую заяву мне паказалі ў Тураве:

«Мы, нижеподписавшиеся граждане местечка Турова Илинской церкви верующие, Добропочотный правитель покорнейше просим тов. прокурора Мозырского округа, в скорейшем времени разгледет дело нашего священника Петра Кроля в виду того, что так как сейчас время великого поста то нам верующим прихожанам священник весма нужен для наших религиозных обрядов. Поэтому мы верующие даем ручательство, что священник наш Кроль никогда никакими пропагандами не занимался против властей, а всегда молился вместе с нами за область Беларускую, в том и расписуемся.

1930 года 30 марта».

Заява перапісана рукою школьніка. Склалі яе, відаць, знарок устаўляючы ў граматны і добра прадуманы тэкст непісьменныя выразы, перакрыўленыя словы.

*

Кніга «Крываваю пуцявінай». Зноў перахапіла горла. Проста пішацца там пра злачынства акупантаў. Так проста, што страшна кожнага радка. Можа асабліва востра гэта адчулася тут, на Палессі: цягаюцца недабітыя банды, зноў пачаліся рабункі і забойствы. Не сама сабою ўся ўструшня робіцца: падымае галаву вораг за мяжой, а гэта патыхае значна большаю бядою.

Тутэйшы чалавек яшчэ доўга будзе ісці да асветы, але ж і сёння ён не той паляшук, якім палохалі «культурны» свет старыя гісторыкі і географы. Жыхар цяперашняга Палесся толькі-толькі паспеў адчуць, што значыць жыць пад чырвоным сцягам зараз; няхай ён яшчэ кепска ўяўляе ўсё, што абяцае яму заўтра, але ён ужо сто разоў адцураўся і пракляў тое, што было, і назаўсёды адвярнуўся ад яго.

Праўда, ёсць напамінак і пра мінулы ўціск і пра спробы вярнуць яго: яшчэ не зараслі травою, не ачахлі на ветры крывавыя пуцявіны інтэрвенцыі.

*

І цяпер яшчэ, калі прахвацішся сярод ночы, пачынае здавацца: трухаюць калгасныя шаўлюжкі па ўчарнелым зімніку, а ты ляжыш у санях на пахучым сене, абсыпаны зорамі і крохкаю белаю крупкаю, дыхаеш палескім паветрам і думаеш.

Тонка свішча вецер у тэлеграфных дратах. Бягуць і пакручваюцца слупы, як верацёны, разматваючы з сябе бясконцую чорную пражу. Яна звіваецца, гэтая пража, і звонкімі клубкамі падае з рук прыдрамаўшай вячорнай цішыні.

На дарогу. Проста ў снег.

І ўсё адну і тую ж, але заўсёды цікавую казку расказвае лес.

Пад сухое паметванне снегу здаецца, быццам жыта перашуфлёўваюць з аднаго засека ў другі, пад зялёнае шастанне хвойнага галля думаецца пра Палессе.

Пэўна, хораша будзе тут некалі!

4

## НЕЧАКАНЫ НАПАМІНАК

— Бабы! Га, бабы! — гаворыць прысадзісты каваль жанчынам, якія ўтоптваюць і трамбуюць свежы сілас у яме.— Ах, каб вас пявун не таптаў! Чаго ж вас там аж дзесяць?

Віхрасты белы трактарыст тлумачыць:

— Гэта, дзядзька Каўзель, каб болей соку было.

— Бабы, а шмат у яме соку? — падбадзёрваецца каваль.

— Лезь ды паглядзі! — абзываецца голас.

— Баюся, шмат вас тамака.

Нейкім чынам у сіласнай яме апынуўся падлетак, можа адзін ён і працуе крыху.

— Вылазь адгэтуль,— ушчуваюць жанчыны.— Ты ўжо вялікі. Дурэць табе з бабамі! Сядзь ды пуза паваж.

Хлапчук спрабуе вылезці, а тым часам у яму ляціць каваль.

Юзік, віхрасты трактарыст, рагоча, хапаючыся за жывот.

— Нашто ж ты мяне сапхнуў, брадзяга? — крычыць з ямы каваль.

Відаць, Юзік з прыемнасцю памяняўся б з ім месцамі, каб пажартаваць і паштурхацца з вясёлымі сіласавальшчыцамі. Але сапхнуць яго няма каму, самому лезці няёмка, і хлопец кіруецца да трактара, які гудзе і пыхкае чорным дымам.

Юзік накідваецца на падлетка, што вылез з ямы і дакрануўся дубчыкам да трактарнага кола.

— Куды пакалкам па коле б'еш? Бі па калене. А гэта машына. Калена бацька другое зробіць, а кола і ўдвух не змайструеце.

*

Каля саўгаснай сталоўкі.

— Мурэвіч! Чаму гэта Марута мне палуднаваць не дае?

— Га?

— Чаму мне есці не даюць?

— Га?

— Га-га! Я ж мукі не браў, і полудню няма.

— Што такое?

— Яна кажа: браў. І не дае.

Голас збоку ў дапамогу загадчыку сталовай Мурэвічу:

— А ты не скверся: не дае, не дае! Дасць.

— А ты чаго? Мне талон дан, я талон выядам. Чакаючы абеду, паўбака вады выпіў.

— Паўбака? А ты дакончы і маўчы. Самараз па тваёй рабоце.

*

У той час, у 30-я гады, трактарыстам выдаваліся боты — спецвопратка — на паўтара гады. Пры рабоце з газаю яны гараць за некалькі месяцаў. Аб гэтым і размова. Трактарыст глядзіць на боты — перады зусім converted пeратлелі, відны анучы.

— От занясу ды пакладу дырэктару на стол. Хай абуе, задзярэ ногі ды сядзіць у садзе. Паветра праз дзіркі будзе праходзіць, ногі не прэцьмуць.

— Дзе ж ты таго дырэктара возьмеш? Захварэў і на курорт паехаў.

— Ці ж гэта хвароба? От каб захварэў ды ў бальніцу лёг — гэта была б хвароба.

*

Саўгасныя падлеткі выпілі гарэлкі, лазілі ў нейчый гарох, потым лаяліся ў клубе, заміналі спектаклю. Зараз аднаго з іх дапытваюць на таварыскім судзе. Ускудлачаная чорная галава перад сталом, засланым чырвонаю настольніцай. Хлопец чырванее, блытаючыся адказвае на запытанні старшыні.

Па праходзе паміж лаўкамі праціскаецца сярод людзей жанчына з дзіцем на руках.

Здалёк гукае:

— Лявон! А Лявон!

Падсудны падлетак азіраецца:

— Адчапіся, мама!

— Хадзі адно сюды, валацуга!

— Кінь, мама!

Жанчына падыходзіць да хлопца ўсутыч і бярэцца за чуб.

Старшыня звоніць:

— Грамадзянка маці! Не чапайце падсуднага.

— Тут то я яго не зачаплю, а дома то дам.

Маці садзіцца ў першым радзе. Допыт працягваецца.

— Расказвай, як было!

— Ну, я ў гарох лазіў, а Бурачнікавых дзяўчына дамоў яблыкі носіць... Дык ёй можна...

— Па дзесяць стручкоў абарвалі,— не можа ўтрываць маці.— Што ж яны, з лісцем паелі, ці што? Суддзі, благая ваша маць.

— Грамадзянка маці, сціхніце,— звоніць зноў старшыня і звяртаецца да падсуднага: — А гарэлку піў?

— Мне далі паўшклянкі...

Старшыня выклікае сведку, такога ж калматага вастраносага хлапчука:

— Ты бачыў, як яны пілі?

— Чаму ж не бачыў. Каб мне далі, дык і я выпіў бы.

Старшыня кашляе ад няёмкасці.

— Сядайце, сведка!

— Падсудны, а чаму вы брыдка лаяліся?

Голас забірае маці:

— Ну, няхай старшакласнікі лаюцца, яны трывалейшыя. Але гэтыя, што па першаму гадку ў школу ходзяць. Божа мілы! Ідзе маленечкі, ад зямлі не відзён, а як жарне слова, дык аж у грудзях засмыліць.

Зала смяецца, старшыня звоніць. Гадзіны праз паўтары абвяшчаецца прысуд: грамадскае ганьбаванне за п'янства і брыдкія паводзіны.

Хлопец ідзе ў дзверы панурыўшыся. Можа цяпер упершыню ён адчуў, што словы, якія так лёгка злятаюць з вуснаў яго аднагодкаў і яго самога, брудзяць чалавека.

Працэдура суду, не зусім умела наладжаная і перарываная не вельмі стрыманымі воклічамі, нечым такі дапамагла, нешта такі абудзіла добрае.

А тут яшчэ маці бубніць, ідучы збоку:

— Не журыся, сынок. Лёгка цябе пакаралі, я дома дабаўлю. Каб болей праз цябе сораму не мець.

*

Той самы каваль, з кім мы разгаварыліся на сіласаванні, непаспешна расказвае. Сядзім у яго ў хаце, цераз парасчыняныя вокны падсіненай воўнай напаўзае змрок.

І ў добрай вакольнай цішыні, калі людзі, правёўшы некароткі дзень на саўгасных палетках, запальваюць святло над сталамі з вячэраю, не верыцца...

Не верыцца, што магло быць гэтак, як расказвае каваль, і ўсё ж было, і было зусім нядаўна.

Па ўсёй краіне чынілі рабункі інтэрвенты, цягнулі лес і збожжа. Але параслі новыя гаі, многа разоў адкаласілася жыта, а людзі... Адным быў укарочаны век праз шампалы і гарапнікі, другім назаўсёды пагасілі сонца ў вачах. Гасла яно і ў вачах вось гэтага каваля Ігната, але не пагасла. Вылез, выпаўз з-пад цел расстраляных каля чыгуначнай насыпы.

І ад пачатку 1919-га амаль да канца года качаўся ў бальніцы: папачы крычаў ад жахлівых сненняў, гаварыў мала, хіба што слова за дзень.

Вялікую крыўду ўчынілі нашаму народу паны-акупанты.

Трэба варушыць, не пакідаць у спакоі чалавечую памяць. Пісаць. Рахунак вялікі і неаплачаны. Можа будзе паэма, а можа, як угаворваюць сябры, сцэнарый. Назва не зменіцца.

## НЕАПЛАЧАНЫ РАХУНАК

Гарадскі сад у невялічкім правінцыяльным горадзе. На дарожках шмат людзей. У глыбіні саду відна эстрада. Перад ёю драўляныя лаўкі. Усе месцы заняты. Людзі чакаюць кіно. Сёння дзень МОПРа. Мопраўскія лістоўкі разлеплены на садовых шчытах. На пінжаках і сукенках прышпілены папяровыя значкі, на якіх намалявана акно з кратамі.

Агульнае ажыўленне не закранула далёкіх кутkоў саду. У змрок, пад засень ліп ці якое іншай зялёнай кустаўні, па адной адыходзяць пары.

Твараў не відаць, адны ногі. Наглянцаваныя боты са шпорамі кавалерыста і шоўкавыя лыткі гарадской мяшчаначкі. Шырокі матроскі клёш і крыху грубейшыя панчохі на зграбнай жаночай назе. Чырвонаармейскія боты і нізкія, моцныя абцасы плáтавых чаравікаў. Дужаватыя хлапечыя ступакі ў сандалях без шкарпэтак і дзявочыя сандалікі таксама без панчошак.

І адразу буйней і выразней: новыя, але запыленыя чаравікі мужчыны і маленькія жаночыя балеткі.

Такі ж праход, таго ж абутку, але з цемры на святло.

Запыленыя чаравікі і балеткі ідуць у адваротным кірунку. Прыціснуліся плечы: мужчынскае, прыўзнятае, у пінжаку, суседзіць з белым батыставым рукавом. На другой руцэ ў мужчыны — жаночы жакецік. Дзве рукі, мужчынская і дзявочая, рвуць травінку. Вось яна ўжо ў вуснах. Вусны захватваюць травінку ўсё глыбей, і па ёй набліжаюцца да іх другія вусны.

Гэтая пара абыходзіць сад некалькі разоў. На адным з паваротаў дарожкі перад імі ўзнікае жаночы твар з палахлівымі вачыма. Быццам у птушкі. Мужчына рэзка адварочваецца і нешта гаворыць сваёй спадарожніцы. Але аж да выхаду з саду праводзіць яго позірк сустрэтай жанчыны.

Па цемнаватай вуліцы шпарка бягуць запыленыя чаравікі і балеткі. Жакецік, што вісеў на рукаве ў мужчыны, ускінуты на галовы.

Твары прыціснуты шчака да шчакі. Яна аж свіціцца ўся, ёй добра, што зараз будзе дождж. Мужчынскія вочы, крыху стомленыя, глядзяць на яе ўважліва, яны не кахаюць, яны хутчэй сочаць і гасяць намеры пад вейкамі. Калі пáра ўбягае ў брам-

ку перад драўляным домам на ўскраіне, падаюць першыя кроплі дажджу.

Чыркае запалка. За акном стаяць, абняўшыся, дзве постаці. Акно расчыняецца, жанчына пачынае завешваць фіранку і раптам падае. Галавой назад. Фіранка застаецца напалавіну не завешанай. У акно дзьмухнуў вецер, падняў абедзве палавіны фіранкі, і з дома выскачыў на дождж чалавек.

На зямлі, каля сцяны, выразна вытаптаўся след яго чаравіка.

Ідзе дождж. Пакідаючы сляды, бяжыць чалавек. У іх наплывае вада. Калі ён убягае ў пралёт двухпавярховага дома, першы след яго каля акна ўскраіннага дома заліўся. Там ужо дужаватая лужына.

У скупа асветленым пакоі хутка пераапранаецца ўласнік запыленых чаравікаў. Ён зусім ператварыўся: узлахмаціліся гладка зачэсаныя валасы, зялёная гімнасцёрка надала яму выгляд дэмабілізаванага чырвонаармейца. Скінутую вопратку нядбала кінуў у чамадан, замкнуў яго і, падхапіўшы, выйшаў на вуліцу.

Дажджу ўжо няма. Чалавек не спяшаючыся ідзе па мосце на агні невялікай чыгуначнай станцыі. На сярэдзіне моста, азірнуўшыся ва ўсе бакі, кідае ў ваду чамадан. Усплёск. Чалавек параўняўся з будкай, адкуль выйшаў на гук вартавы.

— Што гэта пляснула так?

Вартавы, відаць, драмаў, ён у лагодным настроі:

— О браце, наша рака рыбная! Тут ямы, а ў ямах сомы́. Пуды́ на паўтара. Як плясне хвастом, страшна, каб мост не абярнуўся.

Чалавек нібыта здзіўляецца і ідзе далей.

Чыгуначная платформа. Некалькі жанчын з клункамі чакаюць цягніка. Асобна ў канцы платформы стаіць знаёмы нам чалавек. Набліжаюцца вочы

паравоза. Чалавек, паказаўшы білет, становіцца на падножку вагона. Шугае моцны павеў ветру, буйны і спорны ліецца дождж.

Вецер расхінуў фіранку ў расчыненым акне. Бліснула маланка, асвяціўшы сярэдзіну пакоя.

На падлозе ў лужыне крыві ляжыць дзяўчына ў балетках.

Заварушылася, застагнала, пачала падымацца. Не здолела, паўзе да дзвярэй і стукае ў іх колькі мае сілы.

За акном зноў дождж. З даху зрываецца вялікі струмень вады, разлятаецца лужына пры акне. Поруч з размытым следам відаць чорны мужчынскі грабянец.

Чахкае цягнік. Мільгаюць асветленыя вокны вагонаў. У адным з іх — аблічча чалавека ў зялёнай гімнасцёрцы.

Цягнік набліжаецца да прымежнай станцыі, пачынае тармазіць. Нехта саскоквае з падножкі вагона. Бяжыць у ноч.

Чалавек прабіраецца праз гушчарнікі. Паўзе па балоце.

Прытаіўся, сцішыўся.

Набліжаюцца дзве постаці. Упэўніўшыся, што гэта польскія салдаты з прымежнай варты, чалавек падымаецца, ідзе проста на іх.

Будынак пастарунка. Афіцэр у чыне паручніка дакладвае па тэлефоне:

— Дакументаў няма. Гаворыць, што можа назваць прозвішча толькі ў Варшаве. Так, так, слухаю, пане палкоўнік.

Павесіў трубку.

— Капрал Ясінскі!

Шчоўкнуў абцасамі і выцягнуўся ў струнку капрал.

— Завесці на мяжу... Няхай ідзе назад.

На твары затрыманага страх.

— Пане паручнік!

— Палкоўнік сказаў, што «пяты» расстраляны бальшавікамі... А ты — іх агент. Дзякуй богу, што ў палкоўніка добры настрой, ён п'е чарку з прычыны сваіх імянін...

Затрыманы бялее, глядзіць пашклянелымі вачыма перад сабою. Ён пачынае разумець: той, хто паслаў яго з заданнем, цяпер адмаўляецца прыняць. Капрал лёгка штурхае яго, выводзячы са здранцвення.

— Пойдзем.

Глухая ноч. Чалавек трывожна спіць, зарыўшыся ў стажок сена на балоце.

Перад вачыма — патайны сход падпольнага партыйнага камітэта. Чорнабароды кіраўнік падполля гаворыць:

— Тут больш сустракацца нельга. У нейкім звяне — правакатар. Пазаўчора арыштаваны член Цэнтральнага Камітэта. Месцы, дзе ён праводзіў сходы, ведалі пяць чалавек. Чацвёра з іх арыштаваны. Пятаму ўдалося ўцячы. Гэта выпадак ці яму памагла дэфензіва? Трэба дазнацца.

Стук у шыбу. У момант гасіцца святло. Той жа голас у цемры:

— Выходзіць цераз гарышча і на чорны ход.

Чорнабароды каля акна ўглядаецца ў змрок:

— Хто?

Прыглушаны голас з двара:

— З касцёла святой Ганны.

Чорнабароды дае знак затрымацца.

— Каго вам трэба?

— Майстра Яблонскага. У касцёле сапсаваўся арган.

Чорнабароды адчыняе. Зноў запальваецца святло. Мы пазнаём у прыйшоўшым уласніка запыленых чаравікаў, таго, хто потым пераходзіў цераз мяжу.

Вострае маўчанне. Прыйшоў «пяты». Зараз вырашыцца ўсё. Падпольшчыкі маюць пэўнасць, што гэта ён здрадзіў, і гатовы выканаць звычайны ў такіх выпадках прысуд.

— Дзе ты быў гэтыя два дні?

— Чакаў, пакуль аціхне. Сядзеў у склепе на Пагулянцы.

— І нідзе болей?

— Не.

— Што скажаш новага?

— Багата.

— Перш скажы, колькі табе заплацілі, падлюга? — не вытрымлівае малады падпольшчык.

Чорнабароды суцішае яго, хоць тон і паводзіны «пятага» і яму самому вельмі падазроныя.

— Расказвай.

— Нас накрылі на яўцы ў Звярынцы. Шпікі і паліцэйскія — па тры на аднаго. Накінуліся, пачалі выкручваць рукі. Мне ўдалося стрэліць. Міхась вырваўся і забіў паліцэйскага. Пачалася рукапашная. Уцякалі, хто куды. Я дабег да Базыля агародамі. Там і хаваўся.

— А можа ў дэфе каву піў? — зноў не вытрымлівае малады.

— Блазнюк!

«Пяты» закасвае рукаў. Засохшыя, набрынялыя крывёю бінты.

— Можа скажаш — і гэта ў дэфе зрабілі?

Стала лягчэй дыхаць, развеяўся халадок недавер'я.

— Я бачыўся з Янам.

Вельмі ціха зрабілася ў пакоі.

— Ён заходзіў да Базыля і наказаў, як зараз дзейнічаць. Але скажу гэта толькі кожнаму паасобку, з вока на вока. Каб не было правакацыі. Нас нехта выдае. Ніводзін з вас не будзе ведаць, што я скажу другому. І калі зноў здарыцца правал, мы адразу ўбачым, куды пацягнецца ніточка.

— Хто гэта «мы»? — востра пытаецца чорнабароды. У яго зноў узнікла падазрэнне.

— Ян, ты і я,— чуецца спакойны адказ.

— Чым ты пацвердзіш, што так наказаў Ян?

«Пяты» дастае з кішэні люльку з металічным абручыкам. Не раз бачылі яны яе ў старэйшага таварыша — Яна. Цяпер не верыць нельга.

Па адным падыходзяць да яго падпольшчыкі. Пашаптаўшы на вуха кожнаму некалькі слоў, ён ціскне руку, развітваецца.

Пусцее пакой. Нарэшце засталіся «пяты», чорнабароды і малады.

— Цяпер,— кажа «пяты»,— будзем гаварыць уголас. Ты паедзеш у Брэст,— звяртаецца ён да маладога,— зойдзеш у майстэрню на рынку. Спытаеш у слесара, ці паправіў замок. Усё, што ён перадасць, запомні. У аўторак увечары вернешся сюды, прыйдзеш у фарны касцёл. Каля абраза багародзіцы будзе стаяць на каленях жанчына. У чорнай хустцы, залажыўшы мезенец у малітоўнік. Перакажы ёй. Ідзі.

Чорнабароды кіруецца за маладым у калідорчык, замкнуць дзверы.

— Костусь! Падскоч да Базыля,— шэпча ён.— Сустрэнемся ў пяць, на гары Гедыміна.

Чорнабароды вяртаецца ў пакой.

— Моцна баліць табе рука, Стах? Можа перавяжам?

Дастае з шафкі бінты і мазь.

— І ты, Бронек! — крыўдзіцца той.— Не верыш...

Крывячыся ад болю, Стах разбінтоўвае руку: запалёная, чырвоная агнястрэльная рана.

Спіць у стозе чалавек. Стах, «пяты». Уздрыгвае ўсім целам.

Панадворак, зарослы маладым вішняком. У глыбіні зарасніку — дом з двума асветленымі акенцамі. За імі чуецца трывога.

Два паліцэйскія выводзяць з хаты жанчыну. Яна нясе на руках малое. Два другія паліцэйскія вядуць следам чалавека. Ён настроен даволі бесклапотна і спрабуе нешта наспеўваць. Жанчына паварочваецца да яго:

— Сціхні, Базыль!

Той не звяртае ўвагі.

— Здурэў чалавек! У турму вядуць, а ён спявае.

— Калі ж добрая песня ўспомнілася.

Цяпер робіцца зразумела, што ён спявае знарок, з разлікам, каб яго хто-небудзь пачуў.

— Мільч! — крычыць паліцэйскі.

Раніца. Вадакачка каля дамочка ў вішняку. Дзве жанчыны бяруць ваду.

— Забралі Базыля. Усю хату ператрэслі. І жонку павялі разам.

Падышоў Костусь.

— Прымайце, цётка, вядро. Поўнае ўжо. А я пап'ю,— кажа ён і нахіляецца да струменя.

Жанчыны працягваюць размову.

— А Базыль быў вясёлы-вясёлы... Ідзе і спявае...

— Няўжо ж?

— Ага! Я за брамаю стаяла і чула ўсё чысценька. Дый песня цікавая: «Ян гарэлачкі не піў, але люлечку згубіў».

Костусь адрываецца ад вады:

— Што, што ён згубіў?

— Люльку,— няўважліва адказвае жанчына.

— Люльку? — быццам нешта ўспамінаючы, перапытвае Костусь.— Гэтую песню я чуў. А чаму яго забралі? Можа ўкраў што?

— Што ты, галубок! Базыль добры чалавек. Але, кажуць, камуністаў хаваў.

Грае арган у касцёле. Жанчына ў чорнай хустцы з малітоўнікам у руцэ стаіць на каленях перад абразом. Перахрысціўшыся, поруч клечыць Костусь.

Усе пачынаюць спяваць пад арган. Ледзь варушачы губамі, Костусь кажа:

— Мне трэба ўбачыцца з тым, хто паслаў цябе.

— Нельга! — адбіваючы паклон, адказвае жанчына.— Арыштаваны. Разам з Бронекам. Учора.

Жанчына глядзіць проста перад сабою. Гэта тая самая, што мы бачылі ў гарадскім садзе, з вялікімі спалоханымі вачыма.

— Дзе знайсці Яна?

Жанчына адмоўна ківае галавою.

— На яго рабілі аблаву.

— Дзе ты жывеш, Марыся?

Адказу мы не чуем.

— Я прыйду.

Позні вечар. Парк. У паставе закаханых, абняўшыся, трымаючы адно аднаго за рукі, сядзяць на лаў-

цы Костусь і Марыся. Чутна музыка з недалёкага кафэшантана. Адтуль вывальваецца добра падпіўшая кампанія. У ёй прыкметна знаёмае аблічча. Добрая вопратка, капялюш зрабілі яго амаль непазнавальным.

— Стах? — бязгучна гаворыць Марыся.

Пахістваючыся, Стах, «пяты», ідзе ў другі бок ад Костуся і Марысі. Ён выхваляецца:

— І тыя, што паўцякалі, знойдуцца. Я іх усіх прываблю. Вось на гэтую штучку. Цоп — і сюды!

У руках у Стаха Янава люлька.

Костусь увесь падабраўся, нібы мерачыся скочыць. Марыся моцна трымае яго за руку.

За будынкам невялікай станцыі, насупроць кранаў з гарачай і халоднай вадою, спыніўся паравоз з некалькімі цяплушкамі. На тармазах — вартавыя. Акенцы ў цяплушках закратаваны. За кратамі — твары людзей. Іх вывозяць акупанты, уцякаючы ад чырвоных войскаў.

Каля паравоза класны вагон. У ім дзесяткі два польскіх салдатаў. У асобным купэ — паручнік. Усё той жа «пяты», Стах.

Салдаты выпускаюць з цяплушак зняволеных набраць вады. Яны ідуць не спяшаючы, са здавальненнем удыхаюць свежае вячорнае паветра, асабліва прыемнае пасля цяплушачнай гарачыні.

Купэ. Стах загадвае капралу:

— На змярканні пойдзем на паравоз. Скажаш машыністу спыніць састаў каля старых глінішчаў. І каб паравозная брыгада не выходзіла і не выглядала.

— Слухаю.

Цішыню разрывае вінтовачны залп. Яшчэ адзін. Яшчэ адзін. Праз некаторы час да станцыі падыходзіць знаёмы нам састаў: цяплушкі і класны вагон. Цяпер дзверы цяплушак адчынены з двух бакоў. Ніз-

кі месяц паказваецца па руху цягніка ў дзвярах то адной, то другой цяплушкі. Яны пустыя.

Выбягаюць з класнага вагона салдаты, грузяць у цяплушкі настаўленыя на платформе скрыні, мяхі, запакаваную ў рагожу мэблю.

Костусь і Марыся расказваюць у падполлі, хто такі Стах. Ім і даецца заданне знішчыць правакатара. Але той знік. Нідзе ніякага следу.

Марысі, каб пазбегнуць арышту, загадана перайсці на савецкі бок. І тут яна пачула пра чалавека, якога ўсе лічаць за шмат перацярпеўшага рэвалюцыянера-падпольшчыка. Нешта падказвае ёй — гэта павінен быць Стах. З гэтым яна і прыязджае ў гарадок, дзе адбылося забойства.

У гарадку трывога. Забітая дзяўчына мела доступ да дзяржаўнай тайны. І Марыся расказвае, як выглядае забойца, якія ён мае прыкметы.

Чалавек з органаў росшуку выслухвае Марысю і раптам сам пачынае ўзнаўляць рысы забойцы. Гэты чалавек адзін толькі застаўся жывы з таго расстралянага Стахам эшалона.

І Стаха знаходзяць — убіўся ў прымакі да палескага дзядзькі.

Толькі ўзяць жывога не ўдаецца.

5

## З ВАЙСКОВАЙ ДАРОГІ

Тая знакамітая нядзеля, дзе чэрвеньскія двойкі, якія не шкодзіла б у календарах друкаваць заўсёды чорным, заспела мяне ў аддаленым раёне, амаль прыгарадзе Масквы. Прыехаў да знаёмых напярэдадні і застаўся нанач.

Драўляны дом стаяў поблізу ад парку, дзе Сяргей Нячаеў і яго паплечнікі некалі вяршылі расправу над нязгодным з імі змоўшчыкам. Прыгадкі аб гэтай таямнічай гісторыі зацягнулі размову за поўнач.

Я прачнуўся позна, гаспадары кудысьці сышлі, пакінуўшы запіску, як і чым паснедаць, а калі не дачакаюся іх, як замкнуць дзверы.

Прарабіўшы ўсё паводле інструкцыі, недзе каля першай гадзіны я паехаў трамваем на Сельскагаспадарчую выстаўку. Газет у кватэры не было, радыё ўключыць не захацелася, і такім чынам страшная навіна, якую ведалі ўсе, яшчэ не зачапіла мяне. Аднак я адчуў, што навокал нешта непрыкметна, але жорстка змянілася. Павеяў халадок унутранай трывогі. Яна няўлоўна тачылася з твараў трамвайных пасажыраў, ці то хмурных, ці то нечым заклапочаных. Каля ларкоў і магазінаў на прыпынках стаялі, хоць і невялічкія, але нязвыкла-трывалыя, як у картачны час, чэргі. Мужчыны і жанчыны пакавалі ў гаспадарчыя сумкі цукар, кансервы, сухую каўбасу, словам, тыя прыпасы, якія набіраюцца не на выхадны, а хутчэй у дарогу. І бралі ўсяго пашмат.

На выстаўцы людзей было не густа. А тыя, што былі, не адпачывалі, а хутка хадзілі, як быццам маючы нейкі неадкладны клопат.

Рэстаран, чайхана, закусачная пуставалі. Пуста было і каля спартыўнай пляцоўкі, дзе мелася адбыцца спаборніцтва па французскай барацьбе. Як толькі пачала барукацца першая пара, слупавы рэпрадуктар ажыў і пераказаў, відаць ужо не раз перададзенае, паведамленне.

Пачалася вайна.

Дык вось яно тое, што вісела ў паветры, адчувалася неадхільным і ўсё ж засланялася трапяткою надзеяй: «А можа абыдзецца?»

Але не абышлося і за нейкі адзін момант стала першачарговым, першаступенным, галоўным, падпарадкаваўшы сабе ўсе іншыя турботы і абясцэніўшы іх.

Пачалася вайна.

І перад тым як аддаць ёй усяго сябе, захацелася пабыць, пабачыцца з самымі блізкімі, з кім хутка давядзецца развітацца, магчыма назаўсёды. Бо ўжо ж стала ясна, адкуль ішло тое даўкае прадчуванне, што неадступна цягалася па пятах з ранняй вясны, сеяла недавер'е ў трываласць уласнага лёсу, калі раптам расхацелася купляць кнігі, лячыць зубы, збіраць матэрыялы на п'есу. З'явіцца памкненне зрабіць што для сябе — і адразу ж схопіць за руку нечаканае пытанне: «Навошта гэта? Пераживецца і так».

Развага асуджала гэтую абыякавасць, тым больш прыкрую для здаровага трыццацігадовага чалавека, але справіцца з ёю не магла. Бо гэта была не апатыя і лянота, а іменна прадчуванне ломкі і перайначання лёсу не толькі майго.

Пачалася вайна.

І ўсё адразу ж стала новым, незнаёмым. У гэтым пабунтаваным свеце чалавек быў павінен знайсці сваё месца, прыкласці розум і здольнасці.

*

На другі дзень пасля абвяшчэння вайны, як патрабуе адзнака ў ваенным білеце, з'яўляюся ў ваенкамат. Людзі, такія ж ваеннаабавязаныя, як і я, не могуць стоўпіцца ў памяшканні, чакаюць на вуліцы, на двары. Кураць і маўчаць.

Непрабіўное, як мур, маўчанне. Там, на прымежжы краіны, многія нашы людзі памерлі, многія паміраюць, многія кідаюць гранаты і перазараджаюць вінтоўкі, а мы павінны замяніць іх усіх. Каб, зазіраючы ў вочы смерці, выстаяць у імя жыцця... Яно ж не спыніцца ад таго, застанецца жывы ці не: вось гэты, што стаіць поплеч, у чорным касцюме, пры галь-

штуку, з усімі адзнакамі дабрабыту і поспеху на твары, ці вось той — у расхрыстанай кашулі, што ўсё пазірае ўгору і час ад часу прыціскае далонь да шчакі, быццам хоча надаўжэй захаваць на ёй нядаўні дотык мілай рукі.

Калі не мы, дык тыя, што нарадзіліся сёння,— ад думкі, што ў такі дзень можа нарадзіцца дзіця, робіцца вельмі дзіўна і ўсё ж весялей — пройдуць каля гэтых газонаў, пастаяць на плітках тратуара, дзе зараз пераступаем з нагі на нагу мы, заўтрашнія салдаты.

Так, мусіць, думаюць усе ў натоўпе, але кураць і маўчаць. Ні жарту, ні ўсмешкі. Няўжо яны так хутка пакінулі нас таму, што няма пэўнасці ў сваёй сіле?

Не, хай усё, толькі не гэта! Гэта было б горш за тую вялікую бяду, што раптоўна ўпала нам усім на плечы. У нашай маўклівасці ёсць прытоеная сіла, і, мусіць, пройдзе многа ці мала часу, пакуль разгорнецца яна ва ўсю сваю грозную шырыню. Проста мы не ведаем, як цяпер жыць, што будзе заўтра.

Мірны лад змяняецца на ваенны, звыклае саступае месца нязвыкламу: спакой — трывозе, смех — слязам, гаворка — маўчанню.

У жыццё і тварэнне ўладна і груба ўкліньваюцца разбурэнне і смерць. Мы жылі, рыхталіся да жыцця, а зараз трэба быць гатовымі да ўсяго, і да смерці.

Мы павінны перайсці ў новую якасць — стаць салдатамі. Тады мы загаворым, засмяёмся і заспяём. А пакуль — маўчым. «Чым больш працяглае маўчанне, тым мова робіцца дзіўней» — успамінаюцца радкі.

Толькі позна вечарам я трапіў у прыёмную ваенкамата і падышоў да бар'ерчыка, за якім сядзелі ваенныя розных званняў і гутарылі з прызыўнікамі. Сярэдніх год чалавек з трыма кубікамі на пятліцах разгарнуў мой ваенны білет («Пяхота, радавы, неабучаны»).

— Трымайце, калі будзе трэба — выклічам.

З чаргі паспрабавалі пажартаваць:

— Пакуль мы будзем чакаць, людзі вайну скончаць.

На мяне зірнулі стомленыя вочы.

— Не турбуйцеся, застанецца і на вашу долю.

У пакой зайшоў ваенны з дзвюма шпаламі, работнікі ваенкамата ўсталі.

— Зайдзіце да мяне! — ён кіўнуў ваеннаму з трыма кубікамі, што гутарыў са мною.

У прыёмнай зрабілася ціха. А з-за пераборкі даляцеў высокі голас, што зрываўся на крык:

— Дэмабілізацыйныя гаворачкі! І пры такой колькасці людзей! У ваенны час гэта раўназначна варожай агітацыі...

Калі праз два месяцы я зноў з'явіўся з позваю ў ваенкамат, на месцы старшага лейтэнанта сядзеў новы чалавек.

3 жніўня 1941 года я стаў салдатам. Амаль на тры гады.

*

Паўдня ганяемся за няўлоўным памочнікам камандзіра палка па тыле. Начаваў каля кухань і раніцою знік, не сказаўшы, куды падаецца. Сувязныя абшукалі, як яны гавораць, паўстэпу і вярнуліся збянтэжаныя — не выканалі загаду. Пошукі загадана працягваць камендацкаму ўзводу. Я, сяржант Ягораў і маўклівы салдат Крукоўскі курым перад тым, як разыходзіцца ў розныя бакі.

Старшына Весялкоў, якога я пакідаю «за сябе», пакуль не буду ва ўзводзе, з дакорам ківае галавою:

— Вось вам — зусім дарэмна ісці. Калі хто і знойдзе, дык хіба што Крук.

Гэта, вядома, праўда. Крук — бывалы франтавік, на гімнасцёрцы ў яго прышыты дзве стужачкі — адзнакі цяжкіх раненняў. Ён лепей за ўсіх ва ўзводзе акопваецца і маскіруе шчыліны, робіць усё з раздлікам: не спяшаецца, але і не марудзіць. Гаворыць мала, у выпадках канечнай патрэбы, і ў слове яго заўсёды чуецца разумная парада. Я цішком вучуся ў яго вайне, дакладней — таму, як трымацца на вайне: не гарачыцца, не паказваць хвалявання, выконваць загады пунктуальна, спадзеючыся на сябе, на таварыша і на салдацкую кемлівасць.

— Сапраўды, вам можна і не хадзіць,— кідае Крук.

Салдаты ўкарацілі яго прозвішча, магчыма, каб зручней вымаўлялася, а хутчэй за маўклівасць, дый мянушка падкрэслівае падабенства з вядомай птушкай, крукам ці крумкачом.

Я згодзен з дарадцамі, але іначай зрабіць не магу. Камандзір палка падкрэсліў: «Ідзіце шукаць самі». Адчуваецца, што на чале ўзвода, які павінен несці ахову і абарону штаба, ён хацеў бы бачыць іншага чалавека. Больш рухавага і спрытнага, а галоўнае — менш цывільнага. Нездарма ён толькі мне і палкавому доктару гаворыць «вы» і толькі ў выключных выпадках, пад вельмі добры настрой, пераходзіць на «ты».

Зараз зварот быў афіцыйны, значыць, загад трэба выконваць самому. Я пабыў у батальёнах, зазірнуў да суседзей, дабраўся нават да тылоў дывізіі. Няпэўныя сляды прапаўшага то паказваюцца («раніцаю яго бачылі»), то знікаюць («не, не быў у нас»). Застаецца спадзявацца на шчаслівы выпадак — можа да гэтага часу сыскаўся — і паварочваць назад.

Палавіна верасня, але сонца прыпякае-такі моцна. Па схілах балачак з павысыхаўшымі азерцамі салапаватай вады кіруюся ў штаб. Пераходжу дарогу, гэта чорная, наезджаная да асфальтавага бляску стужка. Пасля дажджу яна ператвараецца ў неверагодна грузкае балота: засядаюць колы, не выцягнеш ног.

Вось ужо зарослы хмызняком ярок, ён выводзіць да чыгуначнай насыпы — там наш паходны дом.

Пад кустам, хаваючы галаву ў скупы цянёк, спакойна пакурвае Крукоўскі. Няўжо ён так і сядзеў тут, упэўнены ў марнасці пошукаў, не зрабіўшы нават спробы хоць што-небудзь высветліць? Праверыць немагчыма, але не верыцца: хлопцы яшчэ ні разу не падвялі.

Салдат тым часам устае і прымае нешта аддалена падобнае да стойкі «смірна». У франтавых умовах гэтага ніхто не патрабуе, аднак большасць байцоў і камандзіраў пільнуюцца ваеннай далікатнасці.

Я рыхтуюся да ўшчунку, але Крук дакладвае:

— Ваш загад выканан: памкампалка ўжо ў штабе.

Уздыхнулася лягчэй. Мы сядаем поруч, праз нецярплівыя роспыты я высвятляю: памкампалка знайшоўся за некалькі кіламетраў, на дзялянцы саўгасных буракоў. Нашто ж гінуць дабру, калі ім можна накарміць салдатаў, зварыць свежы наварысты боршч! Хоць раз, перад наступленнем, а яно чакаецца з дня на дзень, і абрыдзелая крупеня ніяк не лезе ў рот.

— Як жа ты здагадаўся пайсці туды?

— Чалавека заўсёды трэба шукаць там, дзе менш страляюць. Не падумайце, ён камандзір смелы. Але душа сама выбірае, дзе ёй лепш быць.

— Значыць, і твая душа выбрала такі шлях?

— Выбрала. Самі ногі павялі. Ішоў, ішоў, узбіўся на буракова поле. А ў лагчынцы, бачу, салдаты буракі капаюць, і наш маёр тупае каля фурманак. Пакапаў і я, але мала, падаўся вас шукаць.— Круკоўскі глыбока зацягваецца.— На зямлі кожная работа ўсмак. Абы радзіла толькі. А тут зямля — о-о! Плодная, тлустая, хоць на хлеб маж.

Спрадвечная сялянская туга па спакойнай працы на зямлі! Яна ператворыцца, не можа не ператварыцца ва ўсезнішчальную волю да перамогі.

*

Уздоўж чыгуначнага палатна — некалькі штабных сховішчаў. У адным з іх сядзім з пажылым маёрам, тым самым няўлоўным памочнікам камандзіра палка па тыле. Грызём сухары, чакаючы змроку, калі сюды, на перадавую, можна будзе паднесці бачкі з гарачаю ежаю. Выходзіць, нават выглядаць са сховішча трэба асцярожна: нас ужо накрывала нямецкая артылерыя, а цяпер кюветы паабапал насыпы прастрэльваюцца — снайперы не даюць паварушыцца. Некалькі гадзін назад тут загінуў палкавы інжынер: бег да начальніка штаба — і на самым парожку бліндажа — куля, проста ў галаву, каля зорачкі на пілотцы.

Апошняя ноч перад наступленнем. На світанні зараве артылерыя, пырснуць патокамі агню «кацюшы».

У гэтыя лічаныя гадзіны перад боем — першым

для мяне і бог ведае каторым для маёра — нам абодвум хочацца сказаць адзін аднаму нешта асабліва добрае.

— Ты адкуль? — пытаецца ён і пасміхаецца на мае словы: — Амаль што землякі, — я з Чарнігаўшчыны.

Гэтага можна не гаварыць: чарнявае аблічча і, галоўнае, невынішчальны акцэнт адразу ж выдаюць у ім украінца.

— У мяне жонка з Мінска, я там жыў крыху, да 30-га года. Любіў у тэатр хадзіць. Добры тэатр. А які акцёр «Мешчаніна ў дваранстве» іграў! Век не забуду. І кнігі беларускія чытаў, гэтага як яго... Ну, акурат наш Вышня.

Пакуль я паспяваю вымавіць прозвішча, маёр пачынае чытаць:

А няхай яго з балетам,
Нежывога разбярэ там...

Дзіўны лёс у гэтага крапівоўскага верша! Друкаваўся, калі не памыляюся, толькі раз у газеце, а ведаюць яго на памяць самыя нечаканыя людзі. Гучыць нават вось тут, у халаднаватай вераснёўскай начы, асветленай «ліхтарамі», якія вешаюць на пярэднім краі немцы.

І куды толькі не заносіць цябе, роднае беларускае слова!

Вось нібыта і пабачыўся з Мінскам, з яго параскіданымі вайною людзьмі.

*

Цёмна. Недзе на пярэднім краі час ад часу таххае кулямёт, і па кювеце, паўз нашы бліндажы, пралятае чародка трасірных куль, рознакаляровых і, здаецца, зусім нязлосных. Немцы даюць знаць, што не дрэмлюць.

У маю шчыліну ўціскаецца цёмная постаць. Пазнаю Крукоўскага.

— Кашу прынёс, еш це, пакуль гарачая.

— А сам еў?

— Паспею, мне пакінуць.

— Давай тады разам.

З запаветнага салдацкага сховішча — халявы — дастаюцца лыжкі, і мы па чарзе нахіляемся над кацялком. Смачна: каша ўпрэла і добра засквараная.

— А я зараз Гаргару бачыў,— абзываецца Крук, калі нашы лыжкі пачынаюць даставаць дна.

Праз Гаргару — высозную нязграбную кабылу чырвонай масці, з лысінай між вачэй — прынялі мы ці мала клопату. Яна вазіла камісара палка, але няўдоўга: праз трускую рысь ездзіць на ёй было немагчыма. Дакладней кажучы, хадзіць пасля язды. Яшчэ на месцы фарміравання дывізіі я асядлаў Гаргару, каб падскочыць у Мстэру: была нейкая патрэба да тамашніх мастакоў. І палавіну дарогі назад вёў кабылу на повадзе. А пасля некалькі дзён хадзіў павольна, проста, як праглынуўшы аршын, пазбягаючы садзіцца і класціся на спіну.

Тое ж самае перацярпеў і камісар. Ён нарэшце аддаў Гаргару нам, у камендацкі ўзвод. Але высакародная жывёліна не прызнавала хамута і рашуча адмовілася вазіць кухню. Мы сплавілі яе артылерыстам: можа ў кампаніі з іншымі коньмі будзе цягнуць гармату. Не на такую напалі! Кабыла стаяла, не напінаючы пастронкаў, і не хацела зрабіць ніводнага кроку. Яе ўшчувалі пугаю, дубцом, нават стралялі над вухам з пісталета. Давялося выпрагчы, і тады яна пайшла ўслед за гарматаю, а на прывале патрабавала порцыю аброку нароўні з тымі коньмі, якія не ленаваліся.

Заняўшы вызначаныя рубяжы, мы адвялі коней у бяспечнае месца і выпусцілі проста ў стэп. Але яны жаласна ржалі і беглі за людзьмі пад абстрэл і гінулі.

— Мяне старшына перад вечарам на кухню пасылаў,— як бы цераз сілу гаворыць Крукоўскі.— Па дарозе — яр. Колькі там коней набіта! Ляжаць, пааткідаўшы галовы, параздзімала іх. Гляджу — і Гаргара тут. Стаіць, калоціцца ўся, відаць, даходзіць. Убачыла чалавека — ціхенька рагатнула. А ў самое паўклуба асколкам вырвана. Я ёй — кавалак цукру. Не бярэ, глядзіць, нібыта жаліцца, і раптам з вока сляза. Адна — кап, другая — кап...

Ён задыхнуўся і ўскочыў на ногі. Над нямецкімі

акопамі, раскроіўшы цемру, павісла некалькі сліпучых ракет.

— У, чэрці не нашага бога! — пагразіў салдат у той бок.— Пабілі мужыцкіх памочнікаў. Што ж вы думаеце, загінем? На вас будзем араць. Успомніце тады конскія слёзы.

*

Шпіталь у Іванаве. Сусед па койцы — зусім зялёны яшчэ лейтэнант, Коля. За крок ад яго разарвалася міна. Хлопец застаўся жывы, але нашпігаваны асколкамі ў неверагоднай колькасці. Твар і грудзі ў яго нагадваюць тарку, пад скураю лёгка намацаць кавалачкі металу.

Колю крыху падрапаравалі і залапілі: большыя раны гояцца, а дробныя асколкі выходзяць самі ці выдаляюцца дактарамі. Цераз кожныя тры дні яго водзяць у аперацыйную і што-небудзь выкалупваюць: то з рукі, то з нагі. Твар, відаць, давядзецца ратаваць перасадкаю скуры, але ці зараз думаць пра гэта. І Коля не думае, просіцца хутчэй на выпіску. Яму дазволена хадзіць па палаце, што, на жаль, не тычыцца мяне: нядаўна дзяўблі чэрап, галава кепска падымаецца з падушкі. Коля падае мне ваду і прыносіць сваю порцыю абрыдзелай яму пярловай кашы.

— Еш, хоць і не хочацца, хутчэй правіцца будзеш.

Часамі з прышпітальнага бульвара чуецца гармонік. Славутыя іванаўскія ткачыхі ў нядзелю ці проста адвячоркам выходзяць на праходку. Па даваенным звычаі.

Так вось і сягоння. Колькі красунь — адна ў адну! — важна вядзе, пераваньваючыся з нагі на нагу, гарбаценькі гарманіст. Яны рассаджваюцца на лаўках супроць нашых вокан, і ў самым цэнтры — ён, падфранчаны, з заламанай на патыліцу кепачкай, у малых, амаль хлапчуковых ботах. І ад патуг прыхарашыцца выглядае яшчэ больш няшчасным: так сумна вылучаецца яго горкае ўбоства сярод гэтых, у самым леце красы, жанчын.

Гарманіст, відаць, усё адчувае. Каб перабіць прыкрае адчуванне, мусіць, крыху выпіў і куражыцца,

чакае просьбы зайграць — ён тут адзіны, можа на ўсю вуліцу, хлопец ды яшчэ і музыкант. Не браць жа ў разлік нас, прыстыўшых да шыбін людзей, больш і менш кранутых бядою: хто на мыліцы, у каго — пусты рукаў халата.

Колька не вытрымлівае і расчыняе насцеж акно.

— Іграй, Федзечка,— далятае да нас жаночы голас.

Гарманіст дачакаўся-такі просьбы. Ён глядзіць на перады сваіх начышчаных боцікаў, потым нядбала папраўляе рэмень на плячы і апускае пальцы на планкі.

Плывуць старыя мелодыі, і, здаецца, самі выгаворваюцца словы пра любоў і расстанне, пра салдата, які назаўсёды заснуў недзе на далёкіх сопках.

Прымаць на душу яшчэ чалавечы боль і тугу даўняга часу робіцца немагчыма: і цяперашняе пераліваецца цераз верх. Зачыняем акно, усе, хто можа ўстаць, пераходзяць у пакой ад двара, далей ад шчымлівай музыкі, ад нерухомых, маўклівых жаночых постацей на бульвары.

Не паспеўшы пагасіць адну, Коля прыпальвае новую папяросу.

— Не гаруй, брат, — суцяшае яго Часнакоў, мажны, асмуглы валжанін.— Твае нявесты яшчэ растуць. А вось гэтых — моцна абдзяліла вайна.

Пасля вячэры мы доўга размаўляем з Колем. Ён адкрывае сакрэт, хоць гэта ўжо не таямніца ў нашым, скупым на навіны, з усіх бакоў даступным для вока жыцці. Хлопец паспеў, як яму здаецца, а можа і напраўду, закахацца. Два разы на тыдзень да нас прыходзіць зубная дакторка, і ён акуратна з'яўляецца на кожны прыём, гатовы свідраваць і нават рваць свае белыя, здаровыя зубы. Загаварыць Коля не асмельваецца і рашае выказаць пачуцці пісьмова. Я прыкмячаў некалькі разоў, што ён складае і старанна перапісвае нешта, потым злосна рве на шматкі. Цяпер ён пытаецца проста:

— Ты пісаў калі-небудзь жанчынам лісты? У мяне не выходзіць. Напішы як быццам ад мяне.

Поспех, хутчэй за ўсё ўяўны, складзенага для Колькі ліста робіць мяне палатным пісарам. Пішу жонкам, бацькам, братам і сёстрам, словам, усім бліз-

кім маіх раненых сяброў. Мне паказваюць адказы, калі ж лісты доўга не прыходзяць, пішу жаласней і гразней, асабліва жонкам. Нешта накшталт таго, што вось пасля шпіталя атрымаю адпачынак, прыеду і пра ўсё дазнаюся, дык лепш сама напішы праўду, тады буду падавацца проста на фронт.

Непрыкметна ўваходжу ў курс кожнага жыцця ў палаце, выслухваю гісторыі сем'яў, каханняў, разлук, даведваюся, дзе каго захапіла вайна, якую работу і шчасце яна перарвала. Пішу далёкім і ўжо знаёмым мне людзям ад першай асобы, як бы ад самога сябе, нібыта сваякам, нібыта перажыўшы ўсё, што здаралася на жыццёвай дарозе з адрасатамі і адпраўнікамі лістоў. А прыняўшы нейчы лёс у сэрца, хвалююся пішучы, узрушваюся чытаючы, быццам сапраўды ліст прысланы мне.

Можа зараз лепш радавацца не са свае радасці, смуткаваць не са свайго гора, чым запісваць у палявую кніжку ўласныя радкі. Бо, хто ведае, якія яны павінны быць цяпер, дый ці дойдуць да выдання... Лістоў я напісаў не менш за сотню, а вершаў? Хіба толькі пачаткі:

Цёмнай ноччу за Іванавам
Завіруха тонка плакала,
За сустрэчу нечаканую
Мне няма каму аддзякаваць.

Напэўна, далей справа не пайшла, бо нікога я тады не чакаў і не мог сустрэць. Думалася пра адступленне, пра шлях з апусцелай сталіцы:

Здавалася, неба зялёнае вымерзла
І сілы не мела зямлю накрываць.
Мы доўга ішлі па даўнейшай Уладзіміркі,
А ўслед за плячамі ўздыхала Масква.

Ішлі мы палямі, зімовымі, голымі,
Праз лес анямелы, нібы сухастой,
Ішлі мы вялікімі рускімі сёламі,
Нанова прыгнутымі новай бядой.

Калі мяне выпісалі са шпіталя, на маё імя прыйшоў ліст. Хлопцы прачыталі ўсёю палатаю і ўсёю палатай напісалі адказ. Пасля вайны я прачытаў яго і нібыта пабачыў, як сядзелі яны за доўгім палатным

сталом, дадавалі кожны па слоўцу і хораша ўсміхаліся: вось і мы табе адплацім, таварыш, за дабро дабром.

*

Як асвечана традыцыяй, у навагодніх апавяданнях выпадковыя сустрэчы ператвараюцца ў трывалыя сяброўствы, неакрэсленыя намеры перарастаюць у добрыя ўчынкі, казкі, пасміхнуўшыся з фантастычнай далечы, сыходзяць на зямлю, неверагоднае мяжуе з праўдай.

І ўсё ж я схілен думаць, што такія творы ў большасці маюць пад сабой рэальную глебу, гэта значыць — грунтуюцца на праўдзівых здарэннях. І вось доказ гэтаму.

Меўся нарадзіцца тысяча дзевяцьсот сорак чацвёрты. Ноч бралася пад палавіну, а я ўсё стаяў каля Павялецкага вакзала ў Маскве. Выглядаў таварыша, з кім мы збіраліся сустракаць Новы год у коле людзей, што гэтак, як і мы, трэці год не бачылі Мінска і знецярплівіліся, чакаючы сустрэчы.

Паднощаны шынялёк мала бараніў ад сіверу. Хутчэй бы ў цяпло, у яркае святло па-святочнаму прыбранага пакоя! А таварыш бавіўся, ён пабег па рэшткі нашых ваенных пайкоў, на той час яны былі зусім не лішнімі на навагоднім стале.

— Ваш цягнік хутка?

Чалавек з худым, нядаўна і старанна паголеным абліччам дакрануўся да майго рукава. Не чакаючы адказу, зноў загаварыў:

— Разумееш... Мы вось, жонка і дачка, хацелі запрасіць сягоння каго-небудзь. У шынялі. Каб разам год пачаць...

Я падзякаваў.

— Шкада,— сказаў ён.— Тады давай хоць пакурым разам.

Мы пачаставалі адзін аднаго папяросамі.

— Я па гэтай дарозе цягнікі ваджу... І жыву зусім блізка.

Падышоў таварыш з пакункамі. Чалавек пачаў адвітвацца.

— Ведаеце, хлопцы, запішыце мой адрас. Давайце сустрэнемся цераз год. Добра, што пакурылі, як быццам пасябравалі. Бліжэй сталі.

Хто яе ведае, дзе падзелася тая запісная кніжачка. Там было занатавана мала чаго: адвячорак, калі апошні раз пацісnuў мне руку Янка Купала, дата атрымання афіцэрскага звання і вераснёвая раніца, калі наш полк падняўся ў наступленне пад Сталінградам. Усё гэта я пазней аднавіў, без следу толькі сцёрся ў памяці адрас маскоўскага чыгуначніка.

А два развітальныя словы не забудуцца:

— Бліжэй сталі!

# 6

## РАЗМАЎЛЯЮЧЫ З КУЗЬМОЙ ЧОРНЫМ

Асенні адвячорак. Толькі што вярнуўся з Дома друку і бяруся правіць матэрыялы ў наступны нумар «Звязды». За сцяною ні на момант не ўціхаюць крокі. Гэта Кузьма Чорны шпацыруе, як ён сам гаворыць. Пасля хваробы Чорны асцерагаецца выходзіць далёка ў горад адзін і замяняе праходку бясконцым пераменваннем пакоя, ад сцяны да сцяны.

У хадзе, як звычайна, у яго выспяваюць задумы, спішаюцца турботы. Ён рвецца хутчэй сесці за стол, але ў разбураным Мінску сціск, няма кватэр, няма дзе падзецца ўстановам. Таму даводзіцца жыць у падсуседзях на вуліцы Берсана. У трох пакойчыках драўлянага дома месцяцца канцылярыя Саюза пісьменнікаў, Літфонд, жывём Чорны, Лынькоў і я. Цяпер крыху папрастарнела: Лынькоў выехаў з рускімі пісьменнікамі на фронт, у Польшчу,— туды ўжо адкаціліся баі.

Крокі набліжаюцца, Чорны прачыняе дзверы да мяне:

— Што добрае робіш? Калі сваё, прызнавайся. А не — дык пойдзем уніз. Анюта прыехала з Цімкавіч. От расказвае! Распяражашся з рогату.

Кузьма запрашае, як на свята. Твар у яго светлы: відаць, ужо наслухаўся і, слухаючы, набыўся з мілымі сэрцу людзьмі і мясцінамі. Анюта — гэта яго малодшая сястра, яна перажыла ў Цімкавічах усю акупацыю і зараз паспяшалася прыехаць пабачыцца.

— Расказвай,— адразу ж камандуе Кузьма.

Мы прыпіраемся на нераспакаваных рэчах, якія чакаюць пярэбараў на паабяцаную Кузьму кватэру.

— Дай ты ёй спачыць,— спрабуе пярэчыць Рэвека Ізраілеўна, жонка Чорнага. Але ён няўмольны:

— Нічога, ноч наперадзе, выспіцца. Раскажы, як немцы ўцякалі.

І Анюта расказвае, па ўсім відно, не без задавальнення.

— Бою вялікага не было, яны спяшаліся вельмі. Але і людзей набілі і жывёлы наглумілі — канца-

краю няма. Дык мы хаваліся: я, Галя і япрук — у бульбе сядзім, а Маша, Вова і карова — у каноплях...

Кузьма штурхае мяне локцем: ці заўважаю хаця гэта незнарочыстае, але выключнае, што карова і япрук «хаваліся» нароўні з людзьмі, узведзены ў ранг членаў сям'і. Мне таксама смешна, але больш займае іншае. Выходзіць, апавядальніцкая здольнасць у Раманоўскіх — фамільная. Гэтак жа расказвае пра цімкаўцоў сам Кузьма, з вельмі падобнымі інтанацыямі, з вылучэннем акцэнтаў на смешным і трагічным. А галоўнае — і ў сястры тая ж магутная, страшэнна ўчэпістая памяць не проста чалавека, а мастака, памяць на самыя найменшыя падрабязнасці, якіх не прыкмеціць ніхто іншы, ад якіх падзеі адразу малююцца перад вачыма, быццам прысутнічаеш сам. І яшчэ: умельства выхапіць у чалавеку самы яго стрыжань — высакародства і слабіну, прыхільнасць да чаго-небудзь ці рашучае адмаўленне.

І вось з гэтага бясхітраснага і тым самым непаўторнага апавядання майстар, што зараз смяецца весела і непасрэдна, як дзіцянё, адбярэ зноў жа найбольш вартае, прапусціць разоў дзесяць праз горан слова і пачуцця, і яно стане адменнай адзнакай, свежай характарыстыкай асобы, а то і часу. І мы будзем толькі дзівіцца: адкуль гэта ўсё бярэцца ў Кузьмы?

Тым часам апавяданне скончана, але ў Анюты ёсць яшчэ што расказаць, ёсць чым пацешыць брата.

— Ці ты помніш дзеда? — яна называе прозвішча.— Дык ён надумаўся ў Мінск на аперацыю ісці. «Кіла, кажа, заела, а я б яшчэ папараблять мог». Адгаворвалі, палохалі: «Куды ты пабіраешся? Хто цябе цяпер лячыць будзе? Уколюць немцы якое трасцы ў азадак — і кончышся без пары». А дзед рвецца, як на тры тузы: «Не можа быць, гаворыць, каб у Мінску нашых дактароў згалела, ёсць!» Пайшоў і прапаў. Сямейнікі паплакалі і думаць аб ім перасталі. Ведама ж, 70 гадоў, а гэта, лічы, адзін дзень да могілак.

Кузьмоў локаць зноў упіраецца мне ў бок: «Чуеш — 70 гадоў, што адзін дзень да могілак».

— Аж месяцы праз два дзед сыскаўся. Ну і папараcказваў! «Дастукаўся, гаворыць, я ў Мінск да больніцы. Дык там ніхто і слухаць не хоча. Прый-

шоў я ў больніцу з раніцы, вось ужо сонца зайшло, а я сяджу ў сенечках. Хто ні ідзе, прашу: уважце на старога. А яны і не шманаюць. Ноч находзіць, драмлю я на лаве, сенцы вялізныя, пад столлю лямпачка цьмее, а са сцяны Гітлер пазірае, як быццам падміргвае, дражніцца. «Трасцы,— гавару яму цішком,— я не толькі цябе, каго хоч пераседжу, бо я тут — тубылец». Перадрамаў ноч, зноў бог сонца дае, а я не кранаюся з месца. І тут заходзіць немец у халаце, а пад халатам мундзір з крыжамі. За ім цэлы хвост цягнецца: дактары, санітары. Стаў ён каля мяне і вызверыўся, нешта пытае, але мармыча хутка — не разабраць, хоць я па-іхняму ўмею».

— Ты ж ведаеш,— усміхаецца Анюта,— што ён умее! Хадзіў-хадзіў у лікбез і за дзве зімы толькі О пісаць навучыўся. Настаўніца тлумачыць, каб лепш запомнілі, што гэта літара падобна на кола, а дзед у спрэчку лезе: «Няправільна вучыш, калі гэта кола, дык павінны быць спіцы. Я сам колы раблю і ведаю. Значыць, фальшывыя твае літары».

Чорны ціхенька смяецца.

— Але ж!— спахватваецца апавядальніца.— Ніколі не разбярэш, дзе той дзед маніў, дзе праўду гаварыў. «Тут як гыркну я, кажа, на таго доктара: «Дакуль вы чалавека марнаваць будзеце? Чорта б я да вас пайшоў, каб не балела!» Доктар закалаціўся і пабег. Мусіць, падумаў, што я — партызан і зараз па ім страляць пачну. Усе ўслед рынулі. Толькі адна дакторка засталася і шэпча: «Пацярпі крыху, дзед, немцаў адсюль хутка выкурае, дык я цябе тады палячу». І спраўдзіла. От пажыў я ўсмак! Гэтак і бяльгейскі цар Абрам не дапяў...— Апавядальніца не вытрымлівае і рагоча разам з намі, што біблейскі Аўраам ператварыўся ў нейкага бельгійскага цара. Потым працягвае: — Перш узяліся тамака яны мяне стрыгчы нагала,— працягвае яна,— пасля мыць. Мо разоў дзесяць ваду напускалі, а яна ўсё чорная. Санітарка шаруе мне плечы вехцем, уваўрэла ўся і кажа: «Мусіць, цябе ад таго і не мылі, як хрысцілі». От зараза! Мы ж, цімкаўцы,— людзі чыстыя. Гэта я ўжо цяпер радзей у лазню хаджу, а ззамаладу два разы на год, ці трэба, ці не трэба, і перад вялікаднем і перад калядамі паласкаўся. Ну, я ёй нічога не ска-

заў, яшчэ ўгнявіш. Далі мне сподняе, пашыта з краму, на гузіках, і павялі ў палату. Палажылі на ложак, а там гэтаксама ўсё белае, падушка белая, пад бок — белае, наверх — белае, ды яшчэ і суконная коўдра. Ляжу, да ніякай работы не дапускаюць, а калі ўстанеш — сварацца. У палаце вокны расчынены, каўзнячок, дыхаць лёгка (гэта ён на скразнячок так). Абы раніца — нясуць есці: салодкага чаю з белым хлебам і кашы якой. А ў абед — бялёнага крупніку і рознай далікатнай яды, аладачку ці чаю яшчэ. А дакторка тая, мусіць, улюбілася ў мяне. Прыйдзе, сядзе, паляпае рукою па мордзе: «Ну, як правішся, стары?» Доўга сядзіць, распытвае: калі баба памерла, ці вялікая сям'я. Па ўсім відаць — улюбілася. А сама маладзенькая, але ў целе, харошая-харошая, дакранецца, дык мурашкі па спіне бягуць. Сама больш ёй гадоў сорак было... Ляжаў я, ляжаў і хацеў ужо застацца назусім. І мог застацца. Была ў мяне залатая пяцёрка прыхавана. Трэба было аддаць, а я пашкадаваў — і выпісалі. Прыходзіць аднаго разу мая дакторка, сумная такая, і кажа: «Трэба нам разлучацца, дзед! Не магу я цябе трымаць тут больш. Каб не было кепска і табе і мне». От тады і трэба было аддаць пяцёрку. Пашкадаваў, дурань!»

— А што, ён жыве? — пытае, адсмяяўшыся, Кузьма.

— Жыве, нічагуткі. Ага, траха не забылася. Цяпер ужо мы дазналіся, нібыта ні ў якай больніцы ён не ляжаў, а прыбіўся ў зальдатхайм; мёў двор і выносіў памыі з кухні...

— Гатовая навела,— гаворыць Кузьма перад тым, як разысціся нам па пакоях.— Бяры і перанось на паперу. А ты кажаш, што выдумляць умее толькі фамілія Раманоўскіх. Усе цімкаўцы такія.

*

Кузьма Чорны весела смяецца. Сёння нехта з маладзейшых сказаў на яго — *дзядзька*.

— Дзядзька Янка, дзядзька Якуб, і маеш: дзядзька Кузьма! Спёкся, трапіў у святыя.

Рагоча, але не без здавальнення.

Пачынае гартаць часопіс.

— Крытыкі, ліхаматары, а пішуць, як паэты. Чуеш, як «р» са сказа выломваецца?

Пасміхаючыся, чытае ўголас: «Некаторыя апрыёрна сцвярджаюць...»

Устаў, пахадзіў па пакоі, адцягваючы вялікімі пальцамі шлейкі з-пад камізэлькі.

— Апрыёрна! Апрыёрна! — гэта ён выспеўвае пад опернага саліста, які сіліцца патрапляць за італьянцамі.— Слухай, давай напішам добры верш, каб гэтае самае «апрыёрна» рыфмавалася! У нас жа выходзіла некалі!

Гэта ён успамінае калектыўную нашу пародыю. У нейкага чалавека

Пляснуўся бык.
Плача Малання,
Плача Аксання,
Плачуць гаі
Па бугаі.

Птушкі пяюць у бары.
Чорт іх бяры!
Буду ўжо я
За бугая.

Пародыю ўпадабалі і надрукавалі ў газеце «Раздавім фашысцкую гадзіну». Зараз мне чамусьці не хочацца круціць упадабанае Кузьмой слоўца ў рыфму, і ён разумее гэта. Ідзе ў свой пакой, чуваць, як парыпваюць маснічыны за тонкай сцяной, як зноў нешта выспеўвае, мармыча, прыглушана рагоча. Пазней, калі надыходзіць пара піць чай, прачыняе мае дзверы:

— Пусціш?

Твар хітраваты і трошкі ўрачысты. З кішэні дастаецца паперка.

— О!

Чытаю:

Дзядзька Чорны
Апрыёрна,
Але слушна заўважаў:
Хто валодаў добрым шворнам,
Той у рове не ляжаў.

— А што? Абышліся і без помачы паэтаў.

— Дык вы ж і самі ў паэтах ходзіце!

Успамінаю пра Кузьмовы вершы, надрукаваныя некалі ў беларускім дэкламатары,— цяпер гэта заўсёдная мішэнь кпін Чорнага з сябе і няўдалых вершапісцаў.

— Што было, тое было!— ківае ён галавою.— То пісаў цімкавіцкі пісарчук Мікалай Раманоўскі, а гэта, пане мой, майстар.

Даючы дабранач, становіцца ў позу:

— А ты што думаў? Дайце час на трэніроўку, закасую ў рыфмах Броўку.

І вось яшчэ некалькі навел, нявыдуманых, цімкавіцкага паходжання, у свой час пачутых і блізкіх Кузьму Чорнаму.

*

Перад нямецкім камендантам, схіліўшы галаву, стаіць стараста.

— Людзей збіраў?

— Збіраў, пане камендант.

— І што, усё маўчаць па-ранейшаму?

— Сабраў я сход. Звяртаюся далікатна: «Браткі сяляне!» А стары Сіляўка штурхель суседа пад бок: «Чуеш, кажа, сват? Мусіць, гэтаму лісу добра хваста ўшчамілі, калі ён нас браткамі заве...»

— Ты сапраўды перабраў...

— Выбачайце, ваша ласка... Вы ж самі загадалі ўзліць ім крыху алівы на душу...

— Я загадваў гаварыць так, каб былі чуваць клопат і моцная рука нямецкага парадку.

— Дык я ж гэтак казаў: «Слаўны наш камендант, маючы добры клопат аб народзе і падтрымліваючы моцнаю рукою асновы нямецкага парадку...»

— Для пачатку — няблага...

— «Добры наш камендант,— гавару я далей,— загадаў перадаць, каб усе, малыя і вялікія, збіраліся ў дарогу. Нямецкія сілы выроўніваюць лінію фронту, і сюды могуць прыйсці бальшавікі...» А Лявончыкава Ганна, несвядомая жанчына, пытае: «Ці хутка ўжо яны прыйдуць?» Я на яе цыкнуў: «Хутка ці не хутка, не твая справа. Час у нас ёсць, каб усім вы-

брацца адгэтуль». Тады загулі ўсе: «Куды выбірацца? Тут дзяды і прадзеды жылі, зямля нашым потам угноена». Я ім на гэта: «Бальшавікі,— кажу,— будуць нішчыць усіх, хто заставаўся пад немцам».

І вось утыкае свой язык Пятро Семачок: «Гэта,— так і плявузгае,— мусіць, тычыцца толькі ўсіх старастаў, дык нам асабліва баяцца няма чаго». На гэты выбрык я ўвагі не звярнуў. «Браты сяляне,— працягваю,— хто застанецца жывы, зноў павядзе кароўку ў калгас». Сіляўка перапыняе: «Мы,— гаворыць,— рады весці, але немцы кароўку з'елі, а цяпер і на вяроўку заглядаюцца». Тут, ваша ласка, пачалася адна непрыстойнасць...

— Кажы!

— Вылез наперад дзед Загуменны: «Як нам у тую Нямеччыну падавацца? — пытае.— Ці можна з сабою рыдлёўку ўзяць?» Я тлумачу, што ў Нямеччыне такога дабра поўна, а ён насуперакі: «Нам без рыдлёвак ісці не сходна. Там цесна, на кожную пядзь чалавек пяць. Нездарма той фюрэр, дай божа яму тое, што мы ўсе жадаем, чаўпе пра жыццёвую прастору. Дык, прыйшоўшы туды, ой, як спатрэбіцца рыдлёвачка! Давядзецца капаць вялікую яму і загаціць туды ўсю фашызму. А самі ўжо як-небудзь наверсе пражывём».

— Як ты смееш?

— Дык гэта ж не я, а яны...

— Значыць, не збіраюцца?

— Збіраюцца збіраюцца, але, відаць, у партызаны...

*

Гісторыю пра тое, як італьянскі цырульнік Тамаза стаў беларускім партызанам Памазком, расказаў знаёмы, якому давялося пагаліцца ў цырульні на радзіме гэтага чалавека.

Тамаза трымаў цырульню і з раніцы да вечара стрыг і галіў сваіх сталых кліентаў. Гарадок, дзе ён жыў, быў невялічкі, кожная барада на ўліку, і заработкаў насілу ставала на ўрэзаную норму макаронаў сабе і сям'і — жонцы і тром сынам-падлеткам.

Жыць з пустым жыватом і няпэўнай надзеяй на

тлустую будучыню было не дужа весела, але нічога не зробіш, так загадваў дучэ — ішла вайна. З гэтай прычыны наведвальнікаў у цырульні рабілася менш і менш, нарэшце мабілізацыя дабралася і да Тамаза, пажылога ўжо чалавека, рэзервіста.

Цераз некалькі сутак эшалон, у якім Тамаза ехаў на фронт, спыніўся на раз'ездзе ў невядомай цырульніку краіне — Беларусі.

Далей ехаць было нельга, наперадзе падарвана чыгуначнае палатно.

Тамаза растлумачылі, што гэта зрабілі партызаны, страшныя дзікуны, яны падсмажваюць палонных на агні або топяць у грузкім балоце. Таму трэба біцца да апошняй кулі і ні ў якім разе не здавацца ў палон.

Частку італьянскіх салдатаў высадзілі з цяплушак і пагналі за некалькі кіламетраў пешкі — прыбіраць абломкі падарванага састава, правіць наспу і хаваць забітых.

Тамаза і пяцёра яго таварышаў зносілі трупы ў прыдарожны хмызняк і капалі там ямы. Нечакана пачалася страляніна. Цырульнік схаваўся ў кусты і ляжаў. Не сказаць каб баяўся страляць, а проста не меў ахвоты выказваць сваю схованку: ён ведаў, што на кожную кулю знаходзіцца куля ў адказ. З зáцішку вывалак яго хлопец, з аблічча зусім дзяўчына, у невайсковым адзенні. Ён адабраў у Тамаза аўтамат і загадаў ісці ў глыб лесу.

Калі яны дабраліся да партызанскага лагера, перад камандзірам атрада ўжо стаяла трое палонных італьянцаў з палка Тамаза.

Яны былі смутныя, у думках развітваліся з пакінутымі на радзіме сваякамі і прасілі ў мадонны лёгкае смерці. Але палонных апыталі, далі крыху з'есці і пакінулі з вартавым пад разгалістай ліпай.

Тамаза правёў трывожную ноч. На раніцу з бліжэйшай зямлянкі выйшаў партызан, паставіў у рассошках бярэзіны кавалак люстэрка і пачаў галіцца. Брытва была самаробная — выастраны кавалак касы — і тупая, майстар няўмелы: валасы крычма-крычалі, не хочучы зразацца.

Тамаза на мігі паказаў, што ён цырульнік і можа пасабіць.

Партызан недаверліва правёў пальцам па шыі:

— А па гарляку часам не шарахнеш?

Тамаза, адмаўляючы, паківаў галавою: не, ён сумленны майстар.

Адбылася кароткая прапагандысцкая размова: Гітлеру трэба рабіць капут, а Гарыбальдзі — сапраўдны герой. Тамаза пераканаўча растлумачылі, што ваяваць разам з немцамі яму няма ніякай рахубы. На гэта цырульнік, як мог, адказаў: ён наогул не хоча ваяваць, усё жыццё займаўся мірнай справаю, падхарошваў добрых людзей, каб яны выглядалі маладымі і прыгожымі, і гатоў давесці гэта зараз. Хай толькі вернуць яму ранец, там ёсць прыхопленае на кожны выпадак цырульніцкае начынне.

Ранец адшукалі, а ў ім брытву, машынку, нажніцы і грабянец, неставала толькі памазка.

О, цяпер Тамаза пакажа, чаго ён варты.

Цырульнік хутка загаварыў па-італьянску, часта паўтараючы ўласнае імя.

Прыслухаўшыся, нехта з партызанаў перапытаў:

— Памазок?

Італьянец, падумаўшы, што яго клічуць, упёр палец у грудзі.

— Так, Тамаза.

— Ну і завіся Памазок.

Пад вечар палавіну лагера нельга было пазнаць: паляцелі далоў паадрастаўшыя чупрыны і чубы, пышныя паўгадовыя бароды.

Чалавека такой далікатнай прафесіі ў атрадзе не было, і калі партызаны з горам папалам выскрабалі шчокі, дык управіцца са стрыжкаю ніяк не маглі.

Тамаза здаволена ўсміхаўся і еў з кацялка заслужаную порцыю кашы. Так пачалося яго партызанскае жыццё. У адным з баёў ён здабыў сабе зброю і ўжо разам з усімі хадзіў на заданні, падрываў чыгунку, нападаў на нямецкія гарнізоны.

Але да канца вайны так і застаўся не Тамаза, а Памазком. І ахвотна адгукаўся, калі яго клікалі гэтак.

*

На борце ваеннай машыны, накрытай брызентам, стаяў чорны даўгалыгі певень і раз-поразу спяваў.

І да таго ж — з такой адказнасцю за сваю спявацкую справу, быццам была праз гэта вялікая ласка ўсім, каму давялося чуць тое кукарэканне.

З-пад машыны вытыркнулася нагала астрыжаная галава і гукнула:

— Паветра!

Певень папярхнуўся і, не дакончыўшы воклічу, палез пад брызент. Спевака напалохалі, відавочна, з разлікам на гледача, і я павітаўся з шафёрам.

Пеўня звалі Антон, а ехалі яны з Усходняй Прусіі ў камандзіроўку, некуды за Смаленск. Прыкладна год назад сержант Даўмейка, так звалі шафёра, праязджаў цераз дашчэнту спаленае паселішча на Аршаншчыне, прабіў балон і спыніўся памяняць кола. Жыхароў там не было, і калі Даўмейка, упраўіўшыся з работаю, падышоў да ручаіны апаласнуць рукі, з кустоў пачулася ціхае кохканне. Там сядзеў певень, ён быў зусім знясілены і не мог уцякаць. Даўмейка ўзяў птушку на рукі, накарміў з далоні хлебам, адпаіў вадою і — не кідаць жа тут жывую душу на галодную смерць — прыхапіў з сабою. Певень акрыяў і хутка асвойтаўся з усімі прыгодамі паходнага жыцця, нават навучыўся хавацца разам з салдатамі пры воклічы «Паветра!».

— Заеду зараз туды,— усміхнуўся, скончыўшы расказваць, сержант.— Можа гаспадары вярнуліся. Няхай бяруць на развод, трэба ж з нечага гаспадарку пачынаць.

Мне ўжо даводзілася чытаць у партызанскіх часопісах пра тое, як хатнія жывёлы і птушкі сыходзілі з дому ад ворагаў. Калі ў адну вёску з'яўляліся немцы, адтуль адразу ж знікаў сабака, звычайны дварняк. Ён бег кіламетраў за трыццаць да гаспадынінай сястры, і там ужо ведалі, што здарылася. І неадкладна паведамлялі партызанам. За гэтую міжвольную паслугу сабаку шанавалі і стараліся лепей накарміць. Дзіўней жа за ўсё, што сабака дакладна ведаў — ці не хадзіў ноччу ў разведку? — калі мінецца небяспека, і толькі тады кіраваўся дадому.

Чытаў я і нешта падобнае пра пеўня, які з прыходам немцаў, ратуючы ад гэтых ласунчыкаў сваю курыную душу, уцякаў у лес і сядзеў у гушчарніку на высокай яліне.

А адзін такі выпадак давялося пабачыць на ўласныя вочы. Праз некалькі дзён пасля вызвалення Мінска немцы апошні раз агрызнуліся: наляцелі бамбіць горад. Я начаваў у доме на вуліцы Розы Люксембург, каля самага пераезду. Здарожыўся за дзень, моцна заснуў і прахапіўся, калі на рагу разарвалася бомба і да дома пачало падступацца полымя. Упохапкі апрануўся, сунуў у кішэню пісталет і памкнуўся праз акно выскачыць на вуліцу, але там ужо ўсё гарэла, а на пераездзе рваліся вагоны са снарадамі. Я выскачыў у сад. Заняты паратоўляй апошняга скарбу, гаспадар махнуў рукою:

— Бяжы туды! Пад чыгункай — бетонная труба.

Наперадзе ў мяне вельмі хутка бег чалавек, з разгону ён, як ластаўка, узвіўся над двухметровым частаколам і схаваўся ва ўратоўчай трубе. Я пастараўся зрабіць тое самае, але не здолеў падскочыць так высока і выламаў штыкеціну. У трубе закурыў і разгледзеўся. Поруч цяжка дыхаў вядомы мастак, каго я з маладых сваіх год помніў з сівымі валасамі і барадой. Дык вось хто толькі што зрабіў амаль неверагодны падскок!

Мы павіталіся.

— Ну, ведаеце, вам можна яшчэ рэкорды ставіць.

— А што такое?

Ён нічога не помніў і не ведаў, як апынуўся тут! Засталося яшчэ раз падзівіцца, як небяспека дадае сілы чалавеку.

Дачакаўшыся раніцы, я пайшоў адведваць сяброў, што таксама начавалі ў раёне бамбёжкі. На шчасце, усе былі жывыя і здаровыя. Мы сядзелі на бярвенцах каля скасабочанага выбуховай хваляй драўлянага дома і размаўлялі. Непрыкметна найшла хмара і ўдарыў гром. Калмаценькі сабачка падцісн‌уў хвост і стрымгалоў кінуўся ў садовы бункер, дзе звычайна хавалася ўся сям'я пад час ваенных нягод. Пабачыўшы, што ніхто не бяжыць туды, сабака вярнуўся і вінавата памахаў хвастом.

— Ая-яй, Жучок! — сказала гаспадыня.— І не брыдка табе: забыўся, як гром грыміць!

А мы стаялі на роднай зямлі, слухаючы далёкія раскаты, ад якіх і сапраўды пачалі адвыкаць за тры доўгія-доўгія гады.

Лінуў дождж, прыйшоў час зноў расці жыту і траве.

7

## СУД ПАЧАЎСЯ

Шматсвечныя лямпы вырвалі з паўзмроку невысокі бар'ер і за ім два шэрагі зялёных і папялястых мундзіраў. Вырысавалася васемнаццаць твараў, як быццам сумысля падабраных для лавы падсудных.

Тады здалося, пэўна, не аднаму мне: усе гэтыя ўнураныя галовы, разам з тымі, што ўнурваліся на працэсах у Бранску і ў Нікалаеве, і тымі, што ўнурваюцца перад судом у Кіеве і ў Нюрнбергу,— усе яны зліваюцца ў адну, велізарную і ад таго яшчэ больш пачварную, галаву гадзіны. Гадзіна раздушана. А галава не хоча паміраць. І варушыцца.

Усе яны маюць чалавечыя імёны, але на плечы кожнага з іх ціснуць нялюдскія злачынствы. Дый што нам да гэтых імёнаў, дадзеных богабаязнымі пастарамі і ці раз паўтораных вірлавокімі Грэтхен і чуллівымі Мільхен, якія хціва распорвалі швы на пасылках з нахапаным у нашых людзей дабром.

Усе яны — той, хто бароніцца сам, і той, хто шукае абароны, той, хто адмаўляе віну, і той, хто ва ўсім прызнаецца,— зраўнаны адзіным таўром злачынства.

Іх сапраўдныя імёны: здзек, прымус, голад, гвалт, пажар, забойства.

Тут ёсць старшыя афіцэры і радавыя; голыя, абцягнутыя бліскучай скурай чарапы і фасоністыя стрыжкі «боксам»; выпрабаваныя нацысты і так званая гітлераўская моладзь.

Большасць галоў адсвечвае рыжыною, поўсць гэтага колеру — немалы гонар арыйцаў.

Зараз яны ўсё складаюць на фюрэра: «Я быў салдат і мусіў выконваць загады». Аднак падсудныя вымаўляюць гэты штампаваны адказ усё менш і менш упэўнена: выканаўцы былі пунктуальныя, але не без ініцыятывы. Арганізуючы вынішчальныя аперацыі, яны давалі ім рамантычныя назвы: «Герман», «Балотная птушка», «Вясновае свята». Не проста цынічны нелюдзь мог ахрысціць «вясновым святам» раз-

бойніцкія наезды эсэсаўцаў на беларускія вёскі, а той, хто меў схільнасць да такога парадку «свят», той, каму падпаліць вясковую страху важыла не больш, чым кінуць галавешку ў мурашнік, каго цурок чалавечай крыві хваляваў у такой жа ступені, як лужынка журавінавага морсу.

Спачатку яны спрабавалі пасміхацца адзін аднаму і вельмі ж далікатна кланяліся, дзякуючы суседу за цыгарэту. Акурат як быццам сядзелі ў вячэрнім кафэ дзе-небудзь на Курфюрстэндам. Але пакрысе пачалі ліняць. Задумвацца, заводзіць вочы пад столь ці ўпірацца імі ў падлогу. Быццам нешта неадкладнае забыта і ўспамінаецца, а яно вельмі ж патрэбна! Быццам сярод глыбокай начы, без агню, на самоце, драпнула за шпалерамі мыш і сціхла. А чалавек насцярожыўся.

І хоць наўкол ціха, аж вусцішна, ужо не ўціхае, скрабе і скрабе мышыная лапка. Толькі не пад тынкам, а ўсярэдзіне, пад сэрцам.

Мусіць, адчуўшы нешта падобнае пад час чытання абвінаваўчага акта, падсудныя ўжо не могуць саўладаць з рукамі: яны робяць характэрны жэст — праводзяць пальцамі за каўняром наўкруга шыі.

Вопратка зрабілася цесная!

І ўсе прысутныя бачаць і чуюць:

як над прасторамі разлілося гора маці, што шукала ў попеле свае хаты косці немаўлёнка, каб занесці на могілкі;

як быў аддадзены загад расстрэльваць над ровам людзей, пакуль не загаціцца ён трупамі даверху, каб там прайшлі салдаты і танкі;

як шампаламі распорвалі жываты нашым салдатам і афіцэрам;

як кідалі ў агонь непрытомных ад гвалту і сораму нашых дзяўчат...

Робячы ўсё гэта, рукі падсудных не дрыжалі, а зараз не могуць утрымаць некалькі старонак скупога расказу аб злачынствах, які называецца актам абвінавачання.

Аблічча падсудных, што спярша нагадвалі сцэнічныя маскі з густа накладзеным грымам, каб — барані божа! — не ўсплыла крыха якога-небудзь пачуцця, трацяць непарушнасць, афарбоўваюцца прыха-

ванай злосцю, усведамленнем безвыходнасці, страхам. І праз гэта яны то чырванеюць, то бялеюць.

Як ні тужыцца Рыхерт здавацца арлом, ён на вачах траціць пер'е. Генеральская фуражка не-не ды з'едзе з каленяў на падлогу. Гэта ён трымаў на снезе закінутых за лагерны дрот людзей, не даючы ім есці. Дзесяць тысяч замучаных у Азарыцкім лагеры смерці невідочна прысутнічаюць у зале, вымагаючы пакарання крываваму генералу.

Паліцэйскі ліс Герф прыкідваецца сагнутым гадамі дзядком. Але глыбока схаваныя пад брывамі вочкі паблісквають злосна і молада.

Ён крывадушна паказвае, нібы не падзяляў праграмы нацыстаў цалкам, але не можа абвергнуць доказаў, што выконваў яе пунктуальна.

Герф меў сакрэтны загад Гітлера абыходзіцца з беларускім насельніцтвам іначай, як у «культурных» краінах. Загад падлягаў спаленню. Генерал вымушан растлумачыць, што гэта за «інакшае абыходжанне»: людзей знішчаць, а жытло паліць.

Дарогі Герфа падплывалі крывёй і асвятляліся зарывамі. Калі, шкробаючы падагрычнымі нагамі, ён ідзе на сваё месца, дык крадком глядзіць на падлогу: ці не застаюцца там крывавыя сляды.

Часамі, даючы паказанні, Герф забываецца, дзе ён. Тады маска прыкідвання спадае, спіна распростваецца, даўгаваты мундзір шчыльней прылягае да плячэй, палец робіць уладны жэст... І вось перад намі — паліцэйскі кацюга, вораг усяго жывога, майстар стрэлаў у патыліцу.

Герф быў прызначаны ў Беларусь «кіраўніком калгасаў». Успамінаць пра гэта яму не вельмі прыемна. Беларускія калгаснікі, стаўшы партызанамі, такіх кіраўнікоў сустракалі як належыць.

Герф ператварыў Масюкоўшчыну ў могілкі, ён загадаў падпаліць жахлівыя крэмацыйныя кастры Трасцянца.

Сведкі ўспамінаюць: 20 лістапада 1941 года, пасля чарговай расправы ў Мінскім гета, на вуліцы Дзімітрава трупы ляжалі так густа, што нельга было ступіць.

Разбойнікі страцілі ўяўленне аб цане чалавечага жыцця. Гэта ў аднолькавай меры тычыцца спракты-

каванага забойцы Коха і маладое фашысцкае гадзючкі Фішэра. Кох асабіста ўдзельнічаў у 500 масавых расстрэлах. Фішэр, едучы лесам, без дай прычыны разрадзіў пісталет у першага стрэчнага.

Пракурор спытаў у Коха: у чым вінаваты знішчаныя ім 2000 чалавек? Той не задумаўся: «Яны былі яўрэі». У яго вачах вінаваты ўсе: яўрэі — за тое, што яны яўрэі, мы — за тое, што беларусы, гаспадары багатай краіны, без паноў з «вышэйшай расы». Ім — кіраваць, мець маёнткі, смачную страву. Нам — сагнуцца ў крук у нявольніцкім ярме, чакаць на каленях грознага гаспадара.

Выклаўшы ўсё гэта, Кох міргае ў бок гебельсаўскага міністэрства: «Праз уздзеянне прапаганды мы лічылі сваю місію вызваленчай».

Вядома ж!

Яны намагаліся вызваліць нас ад чалавечай годнасці, ад заваяванай у Кастрычніку свабоды, ад зямлі і лесу, ад самога жыцця.

Здарылася іначай. Як і павінна было здарыцца па ўсіх законах праўды і справядлівасці. Мы вызваліліся ад ненаедных «вызваліцеляў» і сягоння судзім іх.

Поруч са мной у зале сядзела не па гадах сівая жанчына. Паклаўшы на спінку крэсла чырвоную руку з паапухаўшымі ад холаду і недаядання пальцамі, яна слухала паказанні Коха. Зрэдку, калі не магла стрымацца, ціха гаварыла мне: «А братачка!» Потым шумна дыхнула ў плячо і ўсё так жа нягучна прамовіла: «Чаму ж той Кох у калысцы не здох!»

Гэта можа стаць прымаўкай. Так, напэўна, і нараджаліся нашы прыпеўкі і заплачкі, у хвіліны найвышэйшага напружання пачуццяў. Зрываліся з вуснаў невядомых творцаў як усхліп, усмешка, уздыханне.

Праўду сказала, сястрыца! Лепш бы не глядзелі нашы вочы на гэтых нелюдзяў, лепш бы прыгарнуў іх магільны жвір малымі, не даўшы вырасці ў тое, чым яны сталі. А яшчэ справядлівей — лепш бы зусім не вырастаў злачынны зародак са злачыннага семені. Каб не трэба было з часам віць на яго вераўчаную пятлю, хоць не асудзяць нашчадкі за гэтую работу, назавуць яе гуманнай, а саму намыленую ўдаўку — гуманісткай.

Мы павінны ўзяць на сябе цяжкі, але гуманны абавязак: злачынцы хацелі пазбавіць нас будучыні. Яны знішчалі нашых дзяцей.

Падсудны Эрмандсдорф, былы камендант Магілёва, вымушан пераказаць словы галоўнага заплечнага майстра Гімлера: «Пакінуўшы жывымі дзяцей, мы павінны былі б нанова пачынаць знішчэнне дарослых».

Забойцы ведалі, што з маладога парасніку неўзаметку ўздымаецца добры лес. Сягоннящняе дзіця заўтра падыме зброю супроць гвалтаўніка.

І Гімлер загадаў дзейнічаць на акупіраваных тэрыторыях, як гэта рабілі полчышчы Чынгісхана: адрываць ад матчынах грудзей немаўлят — і ў агонь, або шабляю папалам, ці ўзбіць слабенькае цельца на піку, каб заставалася скрозь палітая чалавечай крывёй пустэльня.

Рыцарскі крыж быў паабяцаны Кубэ, калі ён знішчыць 20 мільёнаў рускіх і беларусаў. Рука народнай помсты дагнала яго, не паспеў пакрасавацца з найвышэйшай у Германіі ўзнагародай.

У Беларусі — незлічоная колькасць Лідзіцэ, вёсак, якія былі выпалены і вынішчаны дазвання. Назавём адну — Казулічы на Бабруйшчыне. Там нарадзілася і вырасла сведка Е. Габрусь.

11 чэрвеня 1942 года вёску абкружылі нямецкія салдаты. Выгналі ўсіх на вуліцу, адлучылі старых, жанчын і дзяцей асобна і замкнулі ў млын. Пасля млын падпалілі.

Там згарэла 368 чалавек. 70-гадовы бацька сведкі, такога ж узросту маці і малодшы брат. Іх яна не пазнала сярод трупаў, знайшла толькі цела братавай з грудным дзіцем. І ні разу не зварухнулася ні адно чорнае сэрца ад смяротнага крыку дзіцяці. Іх турбавала іншае. Дзеці заміналі забойцам механізаваць расстрэлы.

Падсудны Бурхард паказвае, што яму скардзіліся эсэсаўцы: нязручна расстрэльваць дзяцей — яны меншыя ростам, а немаўлят маці высока падымаюць на руках. Таму за адзін праход разбойнік не паспяваў скасіць усіх аўтаматам.

Чаго можна чакаць ад звера, які асмеліўся загаварыць чалавечым голасам і вымавіць такія словы!

Уставай, белабрысы вылюдак Вайсінг! Цябе пазнаў стары свяшчэннік. Ён ведае ўсе выпаленыя табою вёскі на Полаччыне.

Падніміся, чорны пёс Гес! Тут ёсць дзяўчына з Даўгінава. Схаваўшыся ад смерці на гарышчы, яна бачыла праз шчыліну, як ты забіў на вуліцы шаснаццаць чалавек. За адзін той жахлівы дзень у дзяўчыны забілі 30 блізкіх людзей — сваякоў, знаёмых.

Устань, уся лава падсудных! Вы загубілі бацьку, брата, братавую і трое дзяцей у гэтага сведкі.

«Усіх спалілі жыўцом,— у сведкі дрыжыць і зрываецца голас.— А самай зялёнцы было чатыры месяцы...»

З чым параўнаць гэта гора па самай меншанькай, «зялёнцы»! Ён не сведчыць, гэты чалавек, ён абвінавачвае.

Нас шмат у судовай зале, мы ўсе абвінавачваем разам з ім.

Прайшло амаль два дзесяцігоддзі па хмарным дні, калі на беразе Свіслачы быў выканан прысуд над тымі васемнаццаццю.

І зноў вялікая зала і бар'ер.

За ім нізка апушчаныя галовы.

Адшукаліся крывавыя прыспешнікі крывавых катаў. Гэтыя — здрадзілі народу, сумленню, ваеннай прысязе, пакляліся на вернасць нямецкаму СС і пайшлі ў паліцыю і ў карныя атрады.

Што кінула іх у бяздонную прорву: несвядомасць, падман, прымус? Затоеная злосць ці асабістая крыўда?

Нічога гэтага не было, ніхто іх не няволіў і не крыўдзіў. Вайна была парою, калі ад чыстага зерня адвейвалася палова. Каб на момант узляцець над зямлёю і назаўсёды ўтаптацца ў твань. Гэтыя ўтапталіся не ўзляцеўшы.

Вось адзін: блатная стрыжачка з чубком і круглы, абыякавы, не захмараны ні раскаяннем, ні прадчуваннем кары твар.

Другі — інакшы, зверават, аж робіцца страшна і крыўдна, як можа гучаць у яго пашчы гэта мілая чыстая, музычная ўкраінская мова. Не гаворыць, а

быццам выплёўвае словы лысаваты, прысадзісты, да непрыемнасці фізічна здаровы граміла.

Трэці трымаецца роўна, не апускае вачэй і не ўгінае галавы. Сівы і такі бледны, што, здаецца, уся кроў адліла ад ягонага твару і рук.

Такія самыя і астатнія.

Розныя і аднолькавыя, зноў-такі злучаныя і адзначаныя таўром злачынства.

Яны адказваюць аднолькава:

— За што вы забілі жанчыну ў Барысаве?

— Ні за што.

— Вы рабавалі насельніцтва?

— Была адна грабёж — цялячая скурка, хацеў узяць сабе, а схапіў немец.

— А вы забівалі людзей?

— Дом быў падпален, а я страляў у вокны.

— А вы?

— Немец забіў мужчыну, а я — бабулю.

Яны не гавораць і сотай долі, прызнаюцца толькі прыпёртыя да сцяны паказаннямі сведак і доказамі.

— Я нікога не магу пазнаць,— гаворыць сведка Бабкевіч, рабочы саўгаса,— цёмна было ў вачах. Падстрэлілі мяне, а жонку — адразу на месцы, у лоб пацэлілі. А васьмігадовае дзіця бегала і крычала: «Дзядзя! За што б'яце?»

Сведка цяжка дыхае:

— І ўсё рускія языкі, і так здзекавацца з рускага народу!

Яны не рускія, дружа! Гэта фашысты. І, будзем спадзявацца, апошнія.

## 8

## ТАМ, АДКУЛЬ РОДАМ ВАЙНА

З не астыўшым ад болю страт і знішчэнняў сэрцам я выбіраўся ў краіну, адкуль пачуўся першы стрэл, а за ім пачалося шматгадовае крывавае няшчасце — вайна.

Дасюль з немцамі даводзілася сустракацца даволі проста: зброя супроць зброі. Як жа будзе цяпер? Фашызм не толькі руйнаваў краіны і гарады, ён разбураў чалавечыя душы, загнездаваўшыся ў народзе, які перш за ўсё падтаптаў пад сваю ўладу.

Пабыўшы ў Германіі, я хутка адчуў, што прыехаў з руін на руіны, з бяды ў бяду. А гора народа — усюды горкае.

Па свеце ішоў 1946 год, трымаючы за руку першую пасляваенную, агаладалую і ахаладалую вясну.

*

У Берлін прыехалі шэрым снежным адвячоркам. Сілезскі вакзал. Запас нямецкіх слоў вельмі сціплы — тлумачыць дарогу мне кінулася адразу чалавек дзесяць і, трэба сказаць, растлумачылі: мешанінаю нямецкіх, польскіх і рускіх слоў, а найболей на мігі. Гэтая ветлівасць мяне спачатку здзівіла, потым жа выкрылася яе падбіўка: усе дзесяць памагатых папрасілі закурыць.

Гадзіны праз дзве я ўжо сядзеў у чыстым пакоіку гасцініцы з двума ложкамі. Мяккія пярыны — пад бок і накрывацца — і дзве начныя пасудзіны ў тумбачках.

Холад неверагодны! Піў, калоцячыся, каву, прынесеную гаспадыняю, а потым палез у ложак. Але як заснуць! На галаву надзеў шапку, бо, здаецца, мерзнуць мазгі.

*

Прыкладна ад Патсдама ці Эркнера пачынаюцца жахлівыя руіны. Калі ўявіць памеры Берліна, зруй-

наванні падаюцца такімі вялікімі, што адбудовы, відаць, хопіць не на адзін дзесятак гадоў.

Вецер ходзіць па вуліцах і плошчах, не сустракаючы перашкод, і часам задзімае так, што здаецца, нібы ўключана вялізная аэрадынамічная труба. Асадная артылерыя працавала шчыруючы, многія дамы папрабіваны навылёт. Стаўшы перад такою прабоінаю, бачыш неба ў другім, а то і ў трэцім квартале.

Готыка ляжыць доле, у цаглінах. Увесь цэнтр горада: Фрыдрыхштрасэ, Унтэр дэн Ліндэн, Аляксандэрплац — руды друз.

Цэлы строй, відаць, некалі прыгожых, універсітэцкіх будынкаў, ратуша, опера разбіты. Нейкім цудам засталася бібліятэка з усімі яе скарбамі ды славуты замак Вільгельма I з помнікам насупроць, вельмі масіўным, які з усім скульптурным ансамблем займае амаль цэлы квартал на беразе Шпрэе.

Славуты DOM — кафедральны сабор — і Стары музей каля яго пабіты і абгарэлі. На саборы, верх якога змецены снарадам ці бомбаю, устоялі скульптурныя постаці Хрыста і апосталаў. Стары немец гаварыў пра гэта, як пра цуд.

Мазаічныя і пісаныя пано пры ўваходзе ў Стары музей абсыпаліся абгарэўшы, цяпер іх дабіваюць снег і дождж. I па рэштках відаць, якая выдатная была работа, ды памер жа, памер! Метраў восем у вышыню і метраў дваццаць шырыня.

Будаўніцтва пакуль не відно, але руіны разбіраюцца. Цэлая цэгла паскладана штабялямі ў рост чалавека накшталт сцен.

Аднак у самім выглядзе горада ёсць нешта няўлоўнае, і яно падказвае, што дыхаецца тут куды лягчэй, чым, скажам, год ці два назад.

*

Брандэнбургскія вароты. Назва прымушала чакаць чагосьці незвычайнага. А гэта вельмі масіўная і тапорная, як на цяперашні густ, брама з трыма праездамі між калон і рэшткамі квадрыгі наверсе. Устояла.

Утрымаўся непадалёку і страшэннага мацунку будынак, квадратны, з ляпнымі фігурамі — рэйхстаг.

Купал збіты, вокны пазамуроўваны, пакінуты толькі малыя шчыліны для святла.

Успомніўся працэс над Дзімітро́вым. Калі гэта збудаванне не надта зачапіла такая вайна, дык якія могуць быць гаворкі аб магчымасці спаліць яго некалькім чалавекам? Дык вось, каля тых самых варот, што былі наглуха замураваны, каб праз іх не прайшоў савецкі баец, каля таго самага рэйхстага, які помніць не спружыновага фігляра, а канцлера, якога звалі жалезным,— самая звычайная барахолка!

Зараз сюды прыскочыла паліцыя на дзесятку грузавікоў і ачапіла пакупнікоў і прадаўцоў. Падняўся гвалт, лямант, але з-за ланцуга не выйшаў ніводзін чалавек. Праўда, асабліва ўпартых уцекачоў не было: немцы народ дысцыплінаваны і загады выконваюць без пярэчанняў. Нарвіся сюды пара шумлівых інвалідаў, яны разапсюрылі б мыліцамі ўсіх гэтых белапальчатачных «шупо», як называюць тут паліцэйскіх. Зброі ў іх няма, адны палкі, і не гумовыя, а драўляныя.

Машыны, напакаваныя вольнымі і нявольнымі гандлярамі, накіравалі ў паліцыю: іх штрафуюць ці папярэджваюць, гэта залежыць ад злоснасці і паўторнасці спекуляцыі.

Праз гадзіну сабраўся яшчэ большы натоўп. І, госпадзі ты, божа мой! Чаго толькі няма на тым кірмашы! — паўтарыў я ўслед за Гогалем.

Фотаапараты, сталовая бялізна і пасуда, нажы, відэльцы і безліч іншых рэчаў хаваюцца ў бяздонных кошыках немак. Запрос у тры-чатыры разы, прычым рэчы часта з бракам, прапаленыя, паедзеныя моллю, але ўмела выпрасаваныя і залапленыя. Калі хіба не выяўлена, здзяруць, скажам, тысячу марак; чалавеку з вачыма тую ж рэч аддадуць за сотню.

З мяне бабка за памазок запрасіла 15 (fünfzehn) марак. Глухі, я пачуў fünfzig (50), даў 30.

Салдаты саюзных армій мяняюць кансервы, тытунь, масла, цукар і муку на нямецкія транты. Іменна транты: губныя гармонікі, лялькі, кашнэ. Усё людскае паспродвана яшчэ ў часы галоднага 1945 года, калі за кіло сала берлінец аддаваў найлепшы гарнітур ці паліто. Цяпер яны маюць на

дзень 600 грамаў хлеба, 100 грамаў мяса, 30 грамаў тлушчу і г. д. Праўда, гэта толькі ў нашай зоне акупацыі. Аднак прадукты на рынку бяруць не дужа ахвотна, патрабуюць маркі: блізка вясна, трэба рамантавацца і адбудоўвацца.

Сярод натоўпу шныраць элегантна апранутыя, добра паголеныя асобы, яны часам нядрэнна гавораць па-руску ці па-польску, а то і па-балгарску. Гэта — валютчыкі, яны мяняюць на маркі грошы ўсіх дзяржаў,— спекулянты золатам і тытунём. Цыгарэты — найбольш дарагі тавар: пачак каштуе 100 марак, а купляць трэба, бо месячны паёк берлінца — 8—10 цыгарэт.

Даволі шыкоўныя дамы, у чарнабурых лісах і сабалёвых накідках, трымаюць штосьці ў руках, скажам, бутэлечку таннай парфумы ці іншую драбнічку. Гэта зачэпка, каб надарыць выбраную ахвяру сліпучай усмешкаю, паказаўшы праз густа намазаныя ліловым з чорнымі беражкамі вусны белы рад зубоў, і ўскінуць аршыновыя вейкі.

Пакуль мужы іх носяць цэглу на мінскіх ці смаленскіх руінах, яны не толькі не распрадаюць напрысыланага ў пасылках з усіх краін дабра, а, наадварот, прагнуць прыдбаць яшчэ больш і пры гэтым смачна есці і піць.

Я меў прыемнасць выслухаць паўгадзінны торг жанчыны з амерыканцам, зусім бессаромна, уголас. Побач стаяў паляк; ад яго я атрымаў дадаткова кансультацыю і растлумачэнне.

За батон белага хлеба і пачак цыгарэт дама можа прыйсці ў гасцініцу на адну ноч, аднак перад гэтым трэба весціся ў кіно ці вар'етэ, абавязкова ў ложу. Частаваць кіслым чарнічным віном ці старым півам за 3 маркі, а не звычайным за 50 пфенігаў. Кілаграм масла забяспечвае сімпатыі такой дамы на тыдзень. Калі ж харчу многа, маркі не ашчаджаюцца і ўласнік іх ездзіць на машыне, ён атрымлівае месца на сямейным парным ложку і ў прыдачу мужаў халат і начныя патэпцы.

Такія кралі — на жыўца ніжэй капітана не бяруцца, ахвотна клююць на французскіх маракоў і англійскіх інтэндантаў, а больш за ўсіх падабаюць амерыканцаў.

*

Дзве цыганачніцы ў форменных курцiках з двухпудовым мехам сала скуплялi рынак.

Немцы стаялi да iх у чаргу, тыцкаючы пад нос розную дрэнь. Жанчыны бралi ўсё: сукенкi, трыко, электрычныя плiткi, лыжкi, спiхаючы ў нейкую бяздонную скрыню жахлiвых памераў. «Бяры, Ядзька, дома разгледзiм».

А ёсць жа не менш прыкрыя Ядзькi мужчынскага роду: чамаданы, кiшэнi, галовы набiты розным барахлом i думкамi аб iм.

*

Бачыў невялiчкую кнiжачку «Мы говорим порусски». Сабраны першаўжытковыя сказы: надвор'е, час, рух у горадзе. Асаблiвы нацiск — на гандаль i на завязванне знаёмства. Жанаты, разведзены — спярша гэтыя пытаннi. Далей iдуць: куды сёння пойдзем, не хочаш мяне правесцi, я прыйду да цябе, я цябе кахаю.

Некаторыя майстэрнi, цырульнi, прыёмныя дактароў вывесiлi надпiсы: «Здесь говорят по-русски». Гэта, натуральна, забяспечвае лепшы заробак. Ёсць i такiя шыльды: «Парикмахерская для мущен и женчен» або «Портреты ресования и фотоснимков».

*

Зубны доктар, фрау Элiзабет Фольш, не ведае нiводнага рускага слова. За дзесяць дзён работы ўчынiла ў маiм роце прыборку як да свята, а ўзяла зусiм дробязь.

Людзi iнтэлiгентных прафесiй жывуць дрэнна, плацяць iм — аглядаючыся на старыя часы, а марка каштуе мала.

*

У магазiнах пуста: саламяныя капялюшыкi, зубны парашок, драўляныя гузiкi, блакноты з благой паперaю, бляшаныя вырабы — таркi, патэльнi, за-

пальнічкі. Добрай паперы, вечнай ручкі, атраманту не дастаць. Затое ёсць мазь для абутку, авоські ўсіх гатункаў: вераўчаныя, папяровыя і палатняныя.

Рэстаранаў шмат, іграе музыка. Але без картак, апрача дрэннага рэдкага піва, кавы без цукру і мінеральнай вады, нічога не падаюць.

Гняздуюцца рэстараны і кафэ на старых руінах. Калі раней яны займалі ўвесь дом, дык зараз хоць куток, але ў тым самым падвале. Па картачках — таксама не дужа, усё ohne Fleisch (без мяса). Я абедаў у славутым «Адлоне»: сподак горкага, з перцам, булёну і талерка бручкі ў вадзе — першае, бульба з морквай — другое, кава без цукру — трэцяе. Я паспытаў адчэпнага і ледзь прагнаў несмач кубкам піва.

У прадуктовых магазінах — сушаная бульба, берлінцы ў сярэдзіне сакавіка з'елі ўжо красавіцкую норму. Затое хлеб нават выносіцца на рынак; батоны адменнай выпечкі, з добрай мукі, вельмі белыя, але мала салёныя.

Усе крамы — прыватныя. Ці існуе сістэма прымацавання картак да магазінаў і як улічваецца выдаткаванне фондавых тавараў, дазнацца не мог. Але што б ні купіў: газету ці білет у кіно — дзякуюць і праводзяць да дзвярэй.

*

Едучы сюды, наскроб у памяці дзесяткі два слоў: утрымаліся ад школьнай лаўкі. Цяпер слоўны запас павялічыўся сотнь да трох, а гэта ўжо колькасць, з якою некаторыя ўмудраюцца пісаць вершы. Адным чынам, я магу папрасіць усё, што хачу, запытацца, як і куды ехаць, зразумець адказ і расчытаць загалоўкі газетных артыкулаў, што вельмі важна, бо нашы газеты трапляюць позна.

Толькі ад дзікай пабудовы сказа стрэчныя немцы, якія часамі звяртаюцца да мяне, кідаюцца ўбок.

*

На Шосэштрасэ шыльда D-r Mylo. Цікава, як і калі занесла сюды гэтае мыла? Віктар Чайка на

Эльзасштрасэ прылаўчыўся рабіць берлінцам труны, трымае вялікае пахавальнае бюро з катафалкамі коннымі і газагенератарнымі. Лявон Якубоўскі, не помню па якой вуліцы, поіць карамельным півам.

На Карлштрасэ шыльда: K. Wegener-detektiw. Жартуюць, што ён пераключыўся на расшукванне гарнітураў і харчовых прадуктаў.

*

На Кесэльштрасэ жыў, відаць, вялікі ахвотнік да шчасця. Над парогам свайго жытла ён прыбіў ажно дзве падковы. Дом разбіты — падковы не памаглі, але засталіся вісець на дроціку, пазвоньваючы ад ветру.

*

Немцы зазналі цяжкую долю мяшэчнікаў. Апрача партфеляў у руках, за плячыма рукзак. Там часцей за ўсё — трэскі, якія здабываюцца вельмі цяжка, за горадам. Людзі едуць на далёкія ўскраіны, каб падняць галінку ў парку ці ў лесе або знайсці якую цёсачку (напісаў слуцкае слова цёсачка — і страшэнна захацелася дамоў!).

Тым часам у кожнай пабітай будыніне ляжаць літаральна тоны паперы, пашматаныя кнігі, архівы. Папера ж гарыць! Няма «славянскай вынаходлівасці», ці гэта так званая сумленнасць: не чапай чужога! Тады чаму пазнікалі лаўкі з садоў і паркаў?

*

У кожным магазіне, кіно, гасцініцы, рэстаране — абавязкова жывыя кветкі, альпійскія фіялкі, яшчэ часцей — зяляніна: галіны сасны, елкі, вішні, вярба з каткамі. З'явіліся нарцысы і ландышы. На Патсдамплацы купіў пару каліў белага бэзу, буйнага і прыгожага. Пакой ажыў і пасвятлеў. А гэта так важна ў горадзе, які вайна ператварыла ў вялізную труну.

На Карлштрасэ каля помніка Вірхаву — галубы.

Яны такія тоўстыя, хоць запытай, па якой норме харчуюцца. Сытасць гэтую пасля растлумачыла суседства нашай ваенторгаўскай сталоўкі.

*

Найбольш катрыншчыкаў у раёне Гартэнштрасэ і на Аляксандэрплацы.

Катрынкі тут велічынёй з добрую камоду, а катрыншчыкі неймавернай таўшчыні. Адзін такі музыка быў літаральна з газетны кіёск, у хламідзе накшталт папскай і ў капелюшы з вялікім зялёным пяром на патыліцы. Выслухаўшы некалькі матываў, у тым ліку «Из-за острова на стрежень», я палажыў яму ў бляшанку крыху дробязі. Тумба абазвалася нечакана тонкім голасам:

— Тоўварысь, я хотель курыць.

*

У суседнім рэстаранчыку, якраз за сцяною майго пакоя, завялася музыка, кашэчая, як і кожны джаз.

У суботу музыка пачалася ад шасці і трывала аж да поўначы. Гэта так званая lange Nacht (доўгая ноч). Калі я папрасіў пакаёўку даць чаю, яна сказала, што гэта зробіць гаспадарская дачка Эрна, а ёй няма калі. Яна матнула галавою на маю «музычную» сцяну і, крутнуўшы пяціпудовым азадкам, прамовіла: «Сёння спяваю і танцую». Уяўляю, як макрэе яе кавалер, пакруціўшы такое стварэнне цэлую танцавальную змену.

*

Безліч усякіх калясак. У калясках перавозяцца дзеці, на руках не бачыў ніводнага. Аднойчы жанчына каціла цераз рынак малое і жартліва крычала:

— Тысяча марак! Без ніякага клопату! Гатовае дзіця!

Каляскі для падвозу прадуктаў, іх пхаюць пажылыя немцы ў чырвоных шапках; каляскі на двух роліках, як у нашых малых, для перавозкі цяжкіх

партфеляў; машыны на трох колах, пераважна грузавога тыпу.

Шмат газагенератарных аўтамабіляў, нават легкавых.

Прычэп — рэч абавязковая для ўсіх машын, канчаючы веласіпедам.

На веласіпедах ездзяць нават манашкі; страчаюцца яны тут даволі часта. Аднойчы ў тэатры яны займалі цэлую ложу. У поўнай уніформе — чорнае адзенне з белай палярынай і чорны вэлюм на плячах унапуск. Яны, паапляскаўшы акцёрам, паселі на веласіпеды і пакацілі па Фрыдрыхштрасэ. Гэтая сярэдневяковая прафесія ў маім уяўленні не сумяшчаецца ні з якою тэхнікай, і хоць веласіпед у часы атамнай бомбы — тэхніка не вельмі зайздросная, але манашкі на ім — нешта падобнае на шабаш вядзьмарак.

Дазволіўшы ўяўленню пажартаваць, я паспрабаваў асучасніць вядзьмарку, пасадзіўшы яе не на памяло, а на спартыўны самалёт. Гэткая механізаваная асоба можа ўзляцець з Патсдама, скажам, у 19 гадзін, зрабіць пасадку ў Гале ў 20, сапсаваць малако ўсім каровам у наваколлі і ў 22, даўшы некалькі кругоў, пасадзіць машыну на тры кропкі дзе-небудзь каля Панкова.

*

Аднаўляюцца заняткі ў Берлінскім універсітэце, пачынае, здаецца, працаваць лінгвістычны факультэт. Каля руін геалагічнага інстытута ў канцы Луізерштрасэ прытулілася кафэ «Вышэйшая школа». Студэнтаў там бывае шмат, і калі б залікі прымалі па колькасці выпітых куфляў піва, паспяховасць можна было б лічыць выдатнай.

*

Знаёміўся з вершамі сучасных паэтаў. Рытмы цікавыя, сэнс, нават з дапамогаю перакладчыка, застаецца цемнаватым. Кажуць, адзін з іх падобен да Пушкіна. Каб жа ж! Пушкіна чакаюць усе, і сустрэць яго ёсць каму — булгарыны не звяліся.

*

Белы мармуровы помнік Р. Коху, з імем якога звязаны пачатак змагання са страшнымі бактэрыямі сухот. Між руін нямецкай сталіцы жыве не толькі светлы розум вучонага, але і яго воблік у камені. Насупроць — дом Чырвонай Арміі. Добрае суседства! Вучоны, які выявіў бацылу, каб забіць яе, і дом воінаў, якія знішчылі бацылу яшчэ больш небяспечную.

Сонца свяціла ярка, і нечакана для пустой плошчы залілася спевам нейкая птушына. Якая — не зразумеў, песня была кароткая і не на нашай мове.

*

Некалі, ходзячы хлапчуком за коньмі, я з тугой невандраваўшага падарожніка разглядаў каляровую паштоўку, якую выпадкам выкінуў з кішэні нямецкі салдат. Зухаваты каменны яздок, седзячы на кані, пастаўленым хвастом да горада, моўчкі глядзеў на вялізную будыніну. Музей Фрыдрыха-Вільгельма мачаў шэрае крысо ў дзягцярную ваду Шпрэе. Павабнасць малюнка павялічвалася ад незразумеласці яго, бо сэнс надпісаў і кароткага паведамлення на адвароце таіўся пад недаступнай для мяне готыкай.

Паштоўка хавалася доўга, пасля забылася, і прыгадка маленства раптам выбліснула перада мной ва ўсёй яскравасці таго летняга дня, калі немцы вывелі палавіну вясковых коней, пакінуўшы ў нашым двары сотню нічога не вартых марак за каштанавую жаробку.

Зараз стаю на ўзбярэжнай каля папрабіванага асколкамі конніка, рака адлюстроўвае ў сабе бязвокную аграмадзіну музея Фрыдрыха-Вільгельма.

Лёс даў нам нарадзіцца ў вёсках Уздзеншчыны, Случчыны ці іншай якой беларускай мясцовасці. Многа чаго зазналі яны за сваё існаванне: неаднакраць за нашу памяць выпальваліся і вынішчаліся, выпраўлялі ў баі дарагіх сыноў, але не зводзіўся светлы ручай радасці. Выходзіў з лесу народ, вярочаліся з перамогаю сыны, на папялішчах пачыналі ўзлятаць угару дахі дамоў з вечаровым дымам над

імі. І зноў плыла над полем песня жней і начлежнікаў, выганяла сонца трубкі аўса, раслі людзі з сапраўднымі чалавечымі сэрцамі.

Тут, на руінах, якія, мусіць, былі такімі ж вялізнымі і змрочнымі казармамі, як і гэты музей, падумалася мне, што ва ўсе часы мала было радасці жыцця ў горадзе. Ліхаманкавая прагавітасць павялічыць «жыццёвую прастору» не пакідала трэсці тутэйшых ваяк, заўсёды ўдзёўбваліся ў галаву гэтыя «гарматы замест масла». Інакш не напоўз бы адсюль па свеце карычневы змрок, пакідаючы за сабой кроў і руіны.

На ніжняй пліце коннікавай падмуроўкі зроблены чорным надпіс. Я шмат перачытаў імён, прозвішчаў і памятных надпісаў, пакінутых нашымі салдатамі на сценах больш-менш прыкметных будынкаў. Мінчане, магілёўцы, пінчукі — хто толькі не пабыў, хто не ваяваў тут! Прозвішчам іх радуешся, як сустрэчы з найлепшым сябрам.

Мне ўявіўся той ротны весялун і завадатар, напэўна музыкант і запявала, які, толькі што выйшаўшы з цяжкога бою, успёрся локцем на скатку і вывеў на помніку: «А мы тут перакурылі!»

*

Каля пад'езда дзень і ноч тырчыць асоба. Гэта стараваты немец, з выцягнутым тварам, у акулярах і ў капелюшы. У яго ёсць дэмісезоннае паліто, рудзенькае, у клетку, і светлы габардзінавы плашч. Гэтую вопратку ён носіць па чарзе. Калі дзень удасца цёплы, ён хавае плашч у вялізны, як і ва ўсіх немцаў, партфель і стаіць з выглядам самага бесклапотнага фланёра. У такім партфелі звычайна змяшчаецца пасудак, каб узяць абед з рэстарана, некалькі нумароў газет, такія-сякія рэчы: порткі, кашуля, будзільнік — адным словам, усё тое, што можна збыць за грошы ці тытунь.

Гэтаму «малойчыку» зусім няма чаго рабіць. Трэба ці чытаць увесь дзень трохрадковае, з адной гароднiны меню рэстаранчыка, ці пільнаваць уваход у лазню, нібыта чакаючы сябра на eine Bier (куфаль піва).

Немец, відаць, прыватны дэтэктыў. Ці асочвае якую легкадумную фрау, каб даць мужу доказы яе вінаватасці, ці яшчэ што.

*

Цёплы дзень павёў за горад. Цёпла па-сапраўднаму, як у нас у канцы мая.

Паміж Эдзінбургштрасэ і Зээштрасэ — на паўкіламетра могілкі за невысокай з чырвонае цэглы сцяной. Зайсці не заманулася: роўныя алейкі, роўныя пліткі, роўныя кусточкі.

Пайшоў далей, туды, дзе адчуваецца канец горада. На ўзгорку — бярэзінкі, вельмі беланогія. Наўкол маленькія фанерныя дамочкі на агародчыках, іх цяпер старанна апрацоўваюць: скрозь варушацца людзі.

Падняўся на ўзгорак, зарослы беразаком і кустамі: яны ўжо развіваюцца, у пупышках, і смольна пахнуць.

Гораду канца-краю няма! Раён, мусіць, фабрычны, відно з паўсотні каміноў, дым ідзе з двух ці трох.

Дзеці гуляюць у пяску, большыя шнырадь у кустах, а фрау, даволі гладкія на галодны час, качаюцца па малой мураве, падстаўляючы пад сонца бялявыя аблічча.

З узгорка перайшоў на яшчэ большы, абстаўлены белымі плітамі, з дзвюма вежамі ад усходу — нешта накшталт замчышча. Наверсе растуць ліпы і каштаны, крыху ніжэй — пляцоўка з помнікам.

Шылер!

Вялікі паэт глядзеў угору, аблічча яго дыхала мужнасцю і страсцю, і здавалася, лісты лаўру на галаве трапечуцца жывыя.

Ён усё пераўжыў і ўсіх моўчкі перастояў, пакуль адкружылася і асела ўзнятае ветрам смецце. Германія пачынае свой новы дзень ад тых незабыўных слядоў, што пакінулі свету Гётэ і Шылер.

Каля ног паэта сядзелі бронзавыя музы. Праўда, не ўсе. Адну аднесла выбуховая хваля метраў за дваццаць. Месца яе займаў сівы немец. Падумаўшы, што я палічыў Шылера за статую святога, ён пачаў тлумачыць мне, што гэта вялікі паэт. Мая

нямецкая мова не дазволіла як след сказаць яму, што мы ніколі не забывалі пра гэта.

Непадалёку немцы раскопвалі зялёны дзірван. Ізноў жа — пад агароды. Некалі гэты дзірван — лужок, які з'яўляецца цэнтрам парку Шылера, квітнеў гіяцынтамі. Цяпер тут парасце бручка і салата. Гэта не знявага Шылера, а навука тым, хто ў свой час забыўся пра яго.

*

Вялікі квадратовы дом з светлымі вокнамі паведамляў чырвонымі палотнішчамі, што ў ім змяшчаецца сакратарыят Ведзінгскай арганізацыі КПГ. Шыльдаў такіх у горадзе шмат, і на Аляксандэрплацы і на Фрыдрыхштрасэ. Усе дамы аднатыпныя, ёсць спецыяльныя спартыўныя залы і партыйныя кафэ.

31 сакавіка адзначалася 120-я гадавіна з дня нараджэння Вільгельма Лібкнехта, наладжваліся сходы; самы большы праводзілі ў будынку оперы.

Шырока адзначалася гадавіна Карла Маркса. Усе кіно паказалі хроніку ўрачыстага пасяджэння, дзе прысутнічаў Вільгельм Пік. Яго даклад на партканферэнцыі, якая адбывалася ў сакавіку, выдадзен вялікім тыражом.

*

Часта ў кіно ці дзе яшчэ на людзях пачынаеш непакоіцца ад вострага, нібыта ўбітага ў цябе позірку. А добра разгледзіш гэтыя сабачыя вочы, адначасна і вінаватыя і поўныя злосці,— усё зробіцца зразумелым. Вось яно, шалупінне, якое спрабавала каламуціць нашу ваду і пры кожным зручным і нязручным выпадку кідалася ўцякаць за мяжу. Хто і куды іх прыме, гэтых «учарашніх рускіх»? Так, помніцца, гаварыў Маякоўскі. Мусіць, усе ахранкі і разведкі забяспечылі сябе такім таварам на многа гадоў. Нашых вайсковых яны баяцца як агню, а з людзьмі ў цывільным спрабуюць загаворваць.

У адным тэатрыку поруч са мной сядзела жанчына з папялястымі і ўпрокідку сівымі валасамі. Мажная, павольная ў рухах. Толькі мне падумалася, што гэта руская, як не вытрымала, загаварыла. Яна не з пароды «ўчарашніх», жыве тут з пяці гадоў. «Чым займаецеся?» Паціскае плячамі: муж, сям'я. Што робіць муж? Той жа рух: што бог дасць. Быў статыстам у тэатры, трымаў маленькую крамку, цяпер перапродвае рэчы каля Брандэнбургскіх варот.

*

На вялікай станцыі метро — Леапольдплац — стаяў чалавек. Мышасты аксамітны гарнітур з палапленымі каленьмі, крагі і шляхецкая шапачка, сіняя з чорным козырам. Рудаватыя сівыя вусікі падкручаны ўгару,— ну, акурат які-небудзь шляхцюк з залатой калекцыі Кузьмы Чорнага. Да таго ж ён вельмі старанна калупаўся ў носе таўшчэразным чорным кіпцем. Шляхціц! — вырашыў я. І не памыліўся. Родам ён з-пад Нясвіжа, быў прывезены на работу ў нейкі прыгарадны маёнтак. Цяпер гаспадары паўцякалі, ён застаўся за пана і за работніка.

Магла б быць цікавая гаворка — бадай што землякі, але ён спяшаўся трапіць да цямна дамоў.

Ашаламонены беларускаю мовай, ён не мог вымавіць нічога іншага, толькі паўтараў:

— Дык вы з-пад Слуцка? Скажыце, а божа мой!

На адвітанне я папытаў:

— А дадому скора?

Ён глянуў на мяне з жалем:

— Як гэта я, па-вашаму, паеду адсюль, такі дом і зямлю кінуўшы? Трэба галаву мець.

*

Моды. Маладыя жанчыны і дзяўчаты носяць на галаве буслянкі з пер'ем і розным ламаччам, бываюць яшчэ рашоты і чорт яго ведае што. Найбольш цікавыя пабудовы гэтага тыпу робяць са звычайных кашнэ і хустак, так закруціўшы іх, каб ямчэй вылучалася маладая мордачка.



На мосце цераз Шпрэе, блізка ад вакзала электрычнае чыгункі Фрыдрыхштрасэ, стаяў вельмі стары немец і пілікаў на скрыпцы пастаральны і адначасна калючы матыў. Каля ног у яго тулілася не менш старая такса, калоцячыся ад золкага сіверу позняй вясны. Колькі прабыў тут гэты музыка, сказаць цяжка, толькі слядоў заробку не было значна ў яго рудым капелюшы. Можа б так і запуставаў ён, каб не трапілася пераходзіць мост дзяўчыне ў шынялі з пагонамі лейтэнанта нашай арміі. Яна ішла, узяўшыся за рукі, з такім жа яснатварым лейтэнантам і нешта яму хутка гаварыла. Параўняўшыся з музычнаю групаю, яны спыніліся і зірнулі адзін аднаму ў вочы, як гэта бывае ў людзей, ахопленых чыстым пачуццём. Пасля дзяўчына дастала 100-маркавую паперку, палажыла яе ў капялюш, і абое, смеючыся, пакіраваліся на вакзал. Сягоння ў яе, відаць, быў такі дзень, калі ўсё наўкола робіцца даастатку празрыстым, і праніклівасць духоўнага зірку дасягае немагчымага ў будзённы час: у сэрцы іншых можна чытаць так жа лёгка, як і ў сваім уласным.

Гэта цягнулася адзін момант. Схіліўшыся дзяўчыне ўслед, немец схаваў у футарал скрыпку, узяў таксу за раменьчык і пашкандыбаў па тратуары.

Мне ўспомнілася, што гэты самы чалавек тужыўся прадаць свайго сабаку на рынку каля рэйхстага. Відавочна, продаж не адбыўся: каму патрэбна старая такса? Гэта ж не абутак ці адзенне, нават не бутэлечка адэкалону. Сёння яму пашанцавала. І не выпадкам, а праз духоўнае высакародства нашых людзей.

Яны не ставяцца да пераможаных з пагардаю, а бачаць у чалавеку тое, чым ён ёсць ці павінен быць,— чалавека. Добрага і кепскага, старога і хворага, сумнага і вясёлага.



Раніцаю адшукаў гэтак званую рэйхсканцылярыю, рэзідэнцыю, жытло і, як сцвярджаюць тут, месца самагубства Гітлера. Квартал разбураны

ўвесь, дзве бомбы трапілі ў самую сярэдзіну будынка, адна, дарэчы, за пакой ад Гітлеравага кабінета. Дом не парушыўся, бо збудаван ён вельмі моцна, на тры паверхі — крылы і на два — сярэдзіна, сцены — крокаў на колькі таўшчыні. Для пабудоў новага часу гэта зусім выключная рэч. Такой жа моцы і столь: за метровай муравнай кладкай падвешан пераплёт сталёвых прутоў, залітых цэментам, а на іх — звычайная атынкоўка. Вось чаму бомбы ўвалілі столь толькі там, дзе ўпалі. У асфальце тратуара — два трапы, пэўней — два пад'ёмныя масты. Адзін — вялікі — апускаецца ў сутарэнне, на ім можа змясціцца пара машын, а магчыма і самалёт. Другі трап падымаецца ўгору, як пастка, і прыкрывае мураваныя сходы. Вялікі трап застаўся апушчаны ўніз, відна частка сутарэння і пад'ёмныя механізмы. На ім ляжыць чорная эсэсаўская шапка, стаптаны жаночы чаравік і зломаны супрацьгазнік. Вось і ўсе Гітлеравы спадкі!

На агледзіны ўсяго жытла, нават не вельмі ўважлівыя, зглумілася гадзіны тры часу.

Гітлер любіў напусціць туману ў вочы. У яго зале для праходак 200 крокаў налічыў я ў даўжыню і 16 у шырыню. Зала займае ўсю ніжнюю палавіну сярэдняй часткі будынка і адлучаецца ад вуліцы таўшчэзнай сцяною.

Паралельна зале ідзе невялікі калідор, а за ім кабінет, спальня і прыёмная. Акурат пасярэдзіне залы дзверы ў кабінет. Гэта даволі вялікі пакой, адкуль некалькі дзвярэй у сад, поруч уваход у спальню, пакой памерам 10 крокаў на 6. Так і жыў ён: увесь час азіраўся на дзверы. Пэўна, і сам адчуваў: ці так ці гэтак, а скончыцца пекалі яго авантура. Раптоўна, як пачалася.

Зала для праходак упіраецца ў квадратовую залу для пасяджэнняў. Ад абсталявання тут засталося толькі дзве люстры на тоўстых ланцугах.

Перад кабінетам Гітлера — мазаічная пачакальня, таксама неверагодных памераў. Быць пэўна, блукаючы ў адзіноце па ўсіх гэтых бясконцых пакоях, унікаючы нават зірнуць у акно, хоць за ім тырчалі толькі сукі дрэў ды галовы варты, можна калі не

звар'яцець, дык ва ўсякім разе ўпасці ў клікушаства і істэрыю, чым і вызначаўся тутэйшы жыхар.

У Гітлеравых пакоях не засталося нічога з рэчаў, разнеслі па руках амерыканцы. Цяпер выдзёўбваюць мазаічныя каменьчыкі ў пачакальні і шчапаюць па трэсцы дзверы. Што тычыць ручак з дзвярэй, патронаў ад люстраў, мэблевай абіўкі — дык гэта як ветрам вымела. Адным словам, узята ўсё, што можна панесці. Трэба думаць, што сапраўдныя бізнесмены яшчэ сюды не дапялі, бо ў спальні Гітлера ўтрымаліся парцалянавы ўнітаз і вогнетрывалая шафа [1].

Ганяючыся за сувенірам, абышоў усё памяшканне. Апрача шаф і сталоў, праўда, з арэхавага дрэва, нічога не знайшлося. Люстры — памятка добрая, але пад кожную з іх патрэбна чыгуначная платформа. Пультавы тэлефон — таксама не падняць. Давялося здаволіцца чыстым бланкам рэйхсканцыляры, нейкім дакументам за подпісам Заўкеля і нумарам часопіса нацыянал-сацыялістычнай партыі, які я выцягнуў з кампдекта.

У садзе — старыя дубы, басейн. Бункер — галоўнае сховішча — не зусім дабудован. Наўкол выцяжных труб паўстаў каркас, але бетон заліты толькі да палавіны. Апушчан бункер у зямлю глыбока, метраў на 10 — 15, мае шмат пакояў, свой вадаправод, электрастанцыю і камутатар.

Апошнія дні перад капітуляцыяй яны жылі тут ужо не вылазячы: Гебельс з сям'ёю, апошні камендант Берліна, доктар, Ева Браун, Гітлер і яго ад'ютант.

У пакоі Гебельса стаяць дзве двухпавярховыя нары, яны падобны да турэмных; на гэткіх ложках сон незайздросны.

Гітлер меў кабінет і спачывальню. Ева Браун — пакой. Сцены закураны; адсюль выбівалі агнямётамі эсэсаўцаў, яны сядзелі да астатняга.

---

[1] Час пацвердзіў мае меркаванні. Польскі часопіс (Dookoła świata» (1970, № 5/840) піша: «Гі Гарыс, былы капітан, выставіў на продаж у Лос-Анджэлесе сядзенне з прыбіральні. Як сцвярджае Гарыс, у 1945 годзе яму пашанцавала здабыць гэты сувенір у бункеры Гітлера ў Берліне».

Бомба, вядома, тут не магла дастаць, але жытло вельмі непагляднае. Адзін капітан, што хадзіў разам са мною, ніяк не мог даць веры і ўсё дамагаўся, каб яго завялі ў сапраўдны Гітлераў бункер.

— Няпраўда,— гаварыў ён.— Гэта ж нейкая кухня, а ён жа быў глава дзяржавы.

Капітан спасылаўся на газеты, дзе гэтая пабудова была размалявана як цуд з патайнымі ходамі і падземнымі ангарамі. Патайных ходаў я не бачыў, а падземны ангар, дзе стаяў Гітлераў самалёт, кажуць, у Тыргартэне, поблізу адсюль.

Каля самага ўвахода ў бункер — трохі раскапаная яма. Знаходзяцца відавочцы. Пачынаецца гавэнда, што нібыта тут знайшлі абгарэлы труп Гебельса, тут жа, як быццам, на некалькі дзён раней быў пахаваны і Гітлер разам з Еваю Браун. Перадаюць, што згоду на раскопку ямы павінны даць камандуючыя ўсіх чатырох зон, бо рэйхсканцылярыя і тэрыторыя наўкол яе знаходзяцца пад апекаю ўсіх іх.

Каля ямы стаіць наш вартавы. Нехта гаворыць, нібыта амерыканцы тут пачыналі капаць і знайшлі адлітую з золата галаву Гітлера. Да гэтай галавы пустабайства вельмі лёгка дадае яшчэ і залатое тулава, а таксама скрыню з дакументамі і каштоўнасцямі.

Амерыканцы ляпаюць лейкамі, здымаючы і бункер, і яму, і вартавога, а амерыканкі, апрача таго, просяць дазволу сфатаграфавацца разам з ім.

Вось і ўсё, што засталося ад таго, хто спачатку абяздоліў народы Еўропы, пасля паклаў у руіны Германію і блізка што на дзесяцігоддзе, а можа і не на адно, асеў крывавым змрокам на даляглядзе.

*

Колішні берлінскі цуд — Zoo. Уласнік яго меў птушынае прозвішча, Фогель. Гэтая птушка частку звяроў, пярнатых і гадаў з'ела сама, тое-сёе давялося скарміць на буйных драпежнікаў. Рэшту расхапалі і спажылі берлінцы, калі бомбы паразбівалі вальеры і загарожу і напалоханая зверына кінулася куды вочы глядзяць.

Адным словам, ад заапарка, багацей за які быў хіба што лонданскі, застаўся правінцыяльны звярынец.

Дзесятак малпаў, бабёр, які вельмі настойліва апрацоўваў нейкую паляняку, і пара качак. Яны плавалі паводле свайго звычаю хвастом угару, тужачыся знайсці спажыву ў зялёнай вадзе сажалкі.

Слон, праўда, добры, але страшэнны падарэйка. Смешна глядзець, як гэтая аднапавярховая будыніна завіхаецца, каб дастаць сухарык, спрытна хапае ў хобат і, абдзьмухаўшы пясок, накіроўвае ў рот.

Нядрэнна выглядаюць і мядзведзі — шэры і чорны. Я сказаў ім: «Здарова, Міхалы!» Шэры не пакідаў есці, а чорны намерыўся нешта адказаць, але толькі зароў. Пры мне ім прынеслі па буханцы хлеба і кілаграмы па два свежага мяса. Усё гэта было закінута на самую сярэдзіну клеткі. Наглядчыкі жаляцца, што надпісы на клетках: «Nichts geben» (нічога не даваць) трэба змяніць на «Nichts nehmen» (нічога не браць).

Ад аслоў, мулаў і мустангаў застаўся толькі збіты з гліны хлеў з павеццю на дубовых слупах, каб было аб што чухацца. Саламяная страха, дзе парос зялёны машок, прыемна нагадала пра нашы вясковыя. Авечкі і козы адчуваюць сябе ніштавата: малако захавала ім шкуру.

На каменнай выспе, нібы пастаўленай у басейн з вадою, уподбега хадзіў мокры воўк. Здавалася, ён абрасіўся, ганяючы зайцы. Аднак высветлілася іншае: жывучы на высцы даволі многа год, ён дзень пры дні спрабуе ўцякаць, скача з каменя на бераг і, вядома, трапляе ў ваду, а вылезці не можа — сцяна басейна слізкая і высокая.

Львіцы — як толькі могуць уседзець яны ў адной клетцы! — з чыста жаночай цікаваспю пагдядалі праз краты: што робіцца на белым свеце? З львінага гарэма ў рэзідэнцыю льва ёсць невялічкія дзверцы. Гэта сведчыць, што ў звярыным царстве не цураюцца звычаяў палігаміі.

Што ж тычыць льва, дык ён спачываў, як і належыць цару, адвярнуўшыся хвастом да наведвальнікаў. Вялізная галава з рудою грывай ляжала на лапе, а вочы, хоць і не былі заплюшчаны, аднак не

заўважалі ні беларускага пісьменніка, ні двух амерыканцаў, якія, наставіўшы фотаапараты, марна тужыліся выклікаць льва на размову. Потым адбылося незвычайнае: паветра скаланулася ад страшнага гуку, падобнага да какафанічнага абуджэння пары дзесяткаў труб. Амерыканцы пакідалі сваіх дзяўчат і фотаапараты.

Леў роў. На жывёл гэта справіла ўражанне кшталтам бамбёжкі. Ганарыстыя пеўні ў момант пахаваліся ў клеткі, каза замэкала і, задраўшы хвост, уцякла ў катух, нават самы галасісты сабака змоўк і палез у будку. Пачаў жа ён раўці ад вельмі звычайнай прычыны: адсутнасць мацыёну, прагулак на якую сотню кіламетраў у суткі, цягнула за сабой прыкрую нястраўнасць. Падбеглі зараз жа наглядчыкі і пачалі ўпікаць адзін аднаго: жывёла сама не папросіць, трэба даваць ёй рыцыну.

Пакруціўшыся па клетцы, леў адышоўся ў куток і стаў цяжка стагнаць. Каб не страціць павагі да царскай асобы, заспетай у такім непаважным стане, усе пайшлі да малпаў. На жаль, яны вельмі мала дбаюць аб правілах прыстойнасці. Шукаць вошы ў суседа і аблізваць яму чырвоны, як апечаны, азадак ва ўсіх на вачах — гэта яшчэ паўбяды...

Самая цікавая жывёла — рыжы дзінга, далікатны, разумны і вельмі спрытны сабака. Згледзеўшы кульгавую жанчыну, якая прынесла ўсім яго сябрам па драбку храшча, па костцы і па кавалачку сырога мяса, ён зрабіў тройчы сальта і абышоў клетку на пярэдніх лапах. Усе іншыя ў гэты час толькі аблізваліся, строілі падхалімскія выразы мордаў і матлялі куртатымі і доўгімі хвастамі. Вялізны чорны ньюфаўндленд, здавалася б, павінен быў хапаць ежу з лёту і глытаць яе так, што адно ўпраўляйся кідаць. А ён браў кавалкі асцярожна, адносіў убок і толькі добра разнюхаўшыся рабіў ласку ўзяць у рот.

Але які галас справілі ўсе трыццаць клетак, калі ў памяшканне ўвайшоў малады немец з сваім сабакам. Брахалі ўсе: крываногія таксы, вастрапысыя разведчыкі, пачварыны-бульдогі, віславухія дварнякі. Завылі нават гіены, а вялікі з рудымі падпалінамі кот пырснуў і вызверыўся. Толькі се-

рабрыстая арыстакратка-ліса зморшчыла мызачку і, чхнуўшы, пайшла спаць.

На адной палянцы цвілі кветкі, вельмі падобныя да нашага сну. Насілу разабраў, што гэта гіяцынты — такія буйныя і так многа было іх. Пакуль я, пасвістваючы, запісваў у блакнот радкі, нехта пачаў перадражніваць мяне, і вельмі падобна. Людзей поблізу не было. Я доўга азіраўся, пакуль убачыў на ліпе чорнага дразда. Велічынёю ён з нашага шпака, а голасам паб'е яго. Калі я пакінуў свістаць, дрозд яшчэ трохі падражніўся, а пасля ўзяўся за кампазіцыю сам.

*

Вясна вельмі неўраўнаважаная: пасля двух дзён цяпла — холад. Усю ноч дзьмуў страшны вецер, усе тратуары засыпаны цэглай і атынкоўкай. Пазрывала вялікія лісты бляхі, паабурвала сцены. Яшчэ і зараз, калі вецер ударыць у твар, даводзіцца спыняцца. Вада ў Шпрэе ідзе буйнаю хваляю з белымі камякамі шумы.

*

Суха, гоніць пыл з руін. З вясны насельніцтва пачало варушыцца на адбудове. З раніцы можна бачыць запрэжаныя параю коней платформы і на іх чалавек па 10 з ламамі і рыдлёўкамі: гэта пераважна сем'і і сваякі, працуюць талакою. Сцены валяць, зачапіўшы вяроўкамі ці ланцугамі, часам з дапамогаю платформенных кранаў.

Пад руінамі бываюць знаходкі. Разбіраючы на рагу Эльзасштрасэ сваю краму, уласнікі знайшлі сёе-тое з тавараў. Жанчына пры мне набрала цэлы хвартух запалак. Пры цяперашняй дарагоўлі — здабыча відавочна добрая. Бензін натуральны і сінтэтычны для запальнічак прадаецца ў ампулах, па 30—50 пфенігаў. Хапае ампулы на дзень-два, і таму ўсе стараюцца прыкурыць у суседа.

Кажуць, што ў некаторых месцах трапляюцца страшныя знаходкі. Сутарэнні адначасова былі і

бамбасховішчамі. Калі абвальваліся шматпавярховыя дамы, дык выратаваць з такіх сутарэнняў людзей было немагчыма.

*

Дарога на Шпандау — вясёлая. Прыпынкі праз чатыры ад цэнтра пачынаюцца маленькія агароды з летнім жытлом на іх, вельмі падобным да шпакоўніц.

Цвітуць кусты дроку, выпускае завушніцы ляшчына; даволі бадзёра стаіць хвойнік з амялою на кожнай лясіне. Амяла — шкоднік. Дзіўна, як ёй дазволілі расці, бо паміж пасаджаных шпалерамі хвой усё падмецена і перагрэбена кожная травіна. Магчыма — справа камерцыі: з амялы робяць вясельныя вянкі.

Спецыяльны прыпынак каля стадыёна Reichssportfeld: гэта — круглая пабудова, дужа вялікая. Над ёю — англійскі сцяг.

Шпандау — не надта чысты гарадок з малымі дамамі.

У вагоне вастравокая жанчына з тонкім аблiччам і вельмі яркімі губамі пускала ў ход усе агнявыя сродкі супроць маладога лейтэнанта. У руках яна трымала альбом з акварэлямі, відаць, уласнымі, бо пальцы ў яе запэцканы фарбаю.

Лейтэнант глядзеў усё ў акно і курыў. Я хацеў быў пажартаваць, але ён пачаў гаварыць сам:

— А калі б мяне прыгналі да іх у двор палоннага? Што б яна тады рабіла?

Сказаў жорсткую рэч, і ў самога вочы ўсмешлівыя.

*

За вялікай люстраною вітрынай з надпісам «Усё для сабачага туалету» падстрыгаўся пад такую ж электрычную машынку, як і ў «чалавечых» парыкмахерскіх, стары калматы пёс. Поруч стаяў гаспадар і нешта гаварыў яму, але сабака калаціўся, як у трасцы. Прадчуваў, мусіць, далейшую горкую долю, бо тут жа налівалася ў балею гарачая вада і

раскладаліся розныя вехці. Я паспачуваў яму, ведаючы, як дрэнна мыцца пад прымусам, калі гэтага страх не хочацца.

*

Фрыдрыхштрасэ — вуліца вельмі доўгая, на ёй пяць ці шэсць прыпынкаў метро, ідзе перпендыкулярна да Унтэр дэн Ліндэн. Прыкладна ў палавіне вуліца адыходзіць пад англійскі сектар. Там ужо ўсё складзена ўпокат, ніводнага цэлага дома, нават узарваны бетон над метро.

Яшчэ раз прайшоў каля універсітэцкіх будынкаў, а заадно агледзеў усё наўкола. Стары музей, карцінная галерэя, музей Фрыдрыха-Вільгельма складаюць вельмі зграбны архітэктурны ансамбль; з двух бакоў ідуць узбярэжныя, а спераду — вуліца Музеяў.

Помнікі ўсім Вільгельмам захаваліся, коннікі падобны адзін да аднаго і аднолькава сядзяць на конях, толькі Вільгельм, празваны Вялікім, адпаведна паганяе і большага каня. Не так далёка, каля чырвонае кірхі, стаіць цікавы помнік Лютэру, вядома, не такі шыкоўны, як каралям. Каня, прынамсі, яму не палажана.

*

Граміла ў англійскай зоне. Ці дэманстратыўна, ці так абадраўся, падла, ходзіць у карычневай кашулі. Тканіна — кшталтам палатачнай, фасон — свабодны курцік з штрыфлямі, на плячах карычневыя пагончыкі. На стаўбунаватую галаву ўзбіта скураная кепачка. Нос лупіцца, вочы прабіваюць наскрозь, як нажы.

Калі іх многа знойдзецца такіх, з кропляй нянавісці ў зрэнцы, шмат будзе тут клопату.

*

Белы мармуровы Гётэ на ўваходзе ў Тыргартэн — вядомы берлінскі парк, тэрыторыя на шмат гектараў, засаджаная старымі дрэвамі ўздоўж Алеі

Перамог. Дрэў цяпер засталося няшмат, зямля гарбаціцца акопамі, ляжыць непатрэбнае ламачча — разбітыя машыны і танкі.

Каб устояць на гэтым месцы, трэба сапраўды быць алімпійцам. Пастамент амаль зруйнаваны, фігуры ўнізе помніка — усе інваліды самай цяжкай катэгорыі: без рук, без ног, а ёсць і без галоў. Паэт таксама мае некалькі ран, цэлае засталося толькі аблічча. Глядзіць ён проста за агарожу гітлеравага саду, на яго басейн і сходы. Цяпер гэта ўжо нішто, а калі па садзе шпацыравала аднавокая постаць са зблытанай пасмай валасоў цераз лоб — нават быўшы каменным — цяжка было не перабегчы ў іншае месца.

*

На адным з будынкаў надпіс: «Работа авіяцыі выдатная. Рамонту не спатрэбіцца». Сапраўды, ад усяго квартала застаўся толькі кавалак сцяны.

*

У метро — дзве жанчыны, дзве такія спіны, што ніхто не мог абмінуць: у тунелі стварыўся затор. Гэта не ў крыўду жанчынам, але не ў гонар метро.

*

Берлін зараз мае вельмі мяшанае насельніцтва: перасяленцы, бежанцы. Таму і мова таксама вельмі мяшаная. Вымаўляюць «штрас» і «стразэ», «тэлерн» і «талірэн», «парфюм» і «паарфюм», як хто можа.

*

Тое, што лічыцца цэнтрам Берліна (Stadt Mitte) — гэта цэнтр палітычны, а яшчэ дакладней гістарычны. Цэнтр горада як сучаснай гандлёвай і фінансавай адзінкі ляжыць хутчэй на Курфюрстэндам, вуліцы шырокай, прыгожай і багатай. Яна нават цяпер захавала даўнейшы глянец. Люстраныя вітрыны, за якімі — кнігі і зайздросныя гравюры.

*

Зараз адбываецца вельмі прыкметная падзея: утвораны блок камуністаў з сацыял-дэмакратамі. «Нямецкая народная газета» піша аб гэтым як аб «пачатку новай эпохі ў палітычным жыцці Берліна і ўсяе Нямеччыны наогул». Ідуць шматлікія мітынгі.

13 красавіка быў партыйны дзень, які адкрыўся вялікай прамовай Вільгельма Піка, перадрукаванай амаль ва ўсіх газетах.

Выпушчана адозва да сумеснага святкавання 1 Мая, падпісаная камуністамі, сацыял-дэмакратамі, рабочымі, работнікамі навукі і мастацтва. Сярод іх Бехер, Вольф, Вайнерт.

*

Мінулая нядзеля была вербніца, немцы ішлі і ехалі з зялёнымі галінкамі. Сягоння «чыстая» пятніца, зачынены рэстараны, горад прыціх. Спецыяльна, мабыць, падгадана да гэтага дня выступленне «рускага кафедральнага хору» — платны канцэрт. Кіраўнік, як пішуць у афішах, «былы рэгент хору чарнаморскіх казакаў».

Вялікая зала Шонебергскае ратушы паўнюсенькая, людзі сядзяць і стаяць у аркестры, забіты ўсе праходы, такога перапаўнення не было нават на «Чыо-Чыо-Сан» у оперы.

Большасць публікі — рускія, добра апранутыя і зусім бедна, моладзь і старыя. Мову яны забываюць, гавораць часцей па-нямецку. Нейкага старога грыба пульхная рудая жанчына ўвесь час звала «экселенц», і ён яе таксама.

Перад пачаткам канцэрта з'явіўся сівабароды чалавек у кацялку, чорным візітным, але не маладым гарнітуры з кветкаю ў бутаньерцы.

Ансамбль невялікі — 15 чалавек з кіраўніком, усе ў гадах. Адзін толькі тэнар — пад 35, і дзяўчына ў трэцім дзесятку.

Рэпертуар: Бартнянскі, Турчанінаў, Кастальскі і працяжныя спевы вялікага посту. Абвешчаныя ў праграме народныя песні не выконваліся. Ура-

жанне ад канцэрта трэба пераадрасаваць на стваральнікаў музыкі.

Праўда, сівабароды ў візітцы прыкладаў да вачэй хустачку. Яму актыўна замінала слухаць жанчына побач. Вясна натхніла яе на выкарыстанне згасаючай бальзакаўскай пары.

Відаць, гэты ансамбль і слухачы — атрускі першай эміграцыі і іх прыплод — напаўчужаземцы, адным словам, усё нават не ўчарашняе, а леташняе, што растане, як ляжалы снег.

*

Як утрымалі берлінцы такую колькасць псоў, хоць у мінулым годзе самі хадзілі ўлукаткі ад голаду?

Калі я на першай пары бытавання ў горадзе выходзіў на вуліцу пад час сабачых прагулак, у паветры стаяў лямант і сабачыя праклёны. Не магу сказаць, што сумысля адціскаў лапы і наступаў на хвасты гэтым сапраўдным нашым сябрам. Проста я прывык, каб сабака саступаў дарогу чалавеку.

Аднойчы ў метро ехаў пёс-разведчык з такімі разумнымі вачамі, што мне здалося — ён прачытаў усю газету, якую трымала ў руках яго губатая гаспадыня. На жаль, заглядание ў газету было абумоўлена зусім іншым: там быў загорнут хлеб.

*

У Берліне крыжуюцца чатыры розныя ўплывы ў адпаведнасці з чатырма зонамі акупацыі. Гэта накладае адбітак і на агульны ўклад побыту, і на друк, і на мастацтва.

У англійскай зоне даволі чыста і парадна.

Газеты акцэнтуюць прамовы Бэвіна, праграмы ў кабарэ не вельмі фрывольныя. У кіно дэманструецца хроніка з Чэрчылем і фільмы з Маргарытай Локвуд. Хлебная і іншыя нормы выдаюцца ў абрэз, але выдаюцца.

Тое ж прыкладна і ў амерыканцаў. Але месца Чэрчыля займае Трумэн. Харчоў яны маюць больш за іншых, ды не дужа раздурваюць немцаў. Перад

кожным зніжэннем нормы на сто калорый б'юць сябе ў грудзі, што самім крута. Газеты з-пад амерыканскай цэнзуры дазваляюць сабе гебельсаўскія выпады супроць камуністычнай прэсы і многа чаго іншага. Прыкмячаецца ажыўленне фінансавага капіталу, былыя гітлераўскія вараціла выкарыстоўваюць яго часта насуперак устаноўленым у Патсдаме пагадненням.

Французы ў сваім сектары паводзяцца даволі бесклапотна. Харчоў у іх мала ў саміх, хлеб купляецца ў нас і ў Амерыцы. Яны добра не ведаюць, елі што іхнія немцы ці не. Салдаты цэлыя дні ходзяць па вуліцах, прыціскаюць у кіно дзяўчат.

У нашай зоне немцам перападае харчоў больш, як ва ўсіх іншых. З гэтай прычыны тут сядзяць нават і ўсе тыя, каму страшнавата за мінулае. Поруч з хлебам надзённым пашыраецца хлеб духоўны: ён ёсць у кіно, у газеце і ў кніжках. Выдаюцца Маркс, Ленін, Гісторыя партыі, прычым вялікімі тыражамі.

Адносіны да насельніцтва чулыя, але не пераходзяць у панібрацтва і кумаўство, як у суседзей. Вельмі жыва працуюць камуністычныя і сацыялістычныя арганізацыі.

*

Хітрае дрэва ліпа! Уважаючы на нясталы характар вясны, зверху яшчэ і не думае распуквацца. А ўнізе, дзе дамы затуляюць ад халоднага ветру, растуць ужо дужаватыя лісточкі. З падобнай асцярожнасцю прыглядаецца і насельніцтва да новых шляхоў, памкненняў, подыхаў новых вятроў.

*

«Гамлет» у тэатры імя Макса Рэйнгардта. Сумленная падача шэкспіраўскага тэксту на вельмі сціплай сцэнічнай пляцоўцы. Пастаноўшчык зрабіў захады, каб усё, што сказаў драматург, было належным чынам падкрэслена, а галоўнае — не забыта. Маючы перад сабою акцёраў вельмі рознай здольнасці: ад выдатнага выканаўцы ролі Гамлета да вельмі пасрэднага Лаэрта, які «перажываў» проста

скрыгічучы зубамі,— рэжысёр ці не захацеў, ці не здолеў дамагчыся вытлумачэння роляў у адным малюнку. Вось чаму спектакль стварае ўражанне мазаікі, вельмі розных гатункаў і яркасці. Калі дзея ажывае са з'яўленнем Караля, Палонія і асабліва Гамлета, дык часамі прыходзіцца проста нудзіцца.

Гамлета іграў безумоўна таленавіты акцёр з вельмі ўдзячнай надворнай фактурай. Высокі рост адразу вылучае яго, тонкае хударлявае аблічча вельмі выразнае і нервовае, тонкія і даўгія пальцы іграюць не горш за твар. Грыму ён амаль не накладае, валасы — свае, вопратка традыцыйная. Глянуўшы на яго, адразу ўспамінаеш гравюры са старых выданняў Шэкспіра. Тэмпераменту, пачуцця шмат, і, відаць, гэтую ролю ён вядзе, выкарыстоўваючы ўсе свае магчымасці: пасля трэцяга акта так змарыўся і змакрэў, што насілу мог адказаць на прывітанні.

Славутае «быць ці не быць» гаворыць седзячы і тым не менш у гэтай вельмі нязручнай і цяжкай паставе дасягае непазбыўнага ўздзеяння. Што датычыць рухаў, дык ён робіць іх так чыста і рэагуе на весткі так непасрэдна, што шпага вылятае з пожнаў.

Між іншым, Гамлет з'яўляецца з таго самага люка, куды знікае здань. Сама здань занадта матэрыялізавана, чуваць нават крокі па сцэне, вопратка цяжкая: скураны панцыр, шпага. Афелія была ў меру мілая, у меру няшчасная, у меру безгустоўная.

Ідзе п'еса ў старым перакладзе Аўгуста Вільгельма фон Шлегеля, якому перапала некалі ад Гейнэ ці мала горкіх слоў.

Сцэна вельмі малая, яна не паварочваецца, антракт адзін. Для пастаноўкі «Гамлета» гэта ўмовы вельмі цяжкія, аднак перапынкі літаральна па хвіліне.

Увесь спектакль ідзе без змены дэкарацый, у калонах. Калі дзея адбываецца ў палацы, калон на сцэне адзінаццаць, на ўзмор'і — дзве і балюстрада, на могілках — дзве і крыж на малой загародцы. У спачывальні каралевы да дзвюх калон дадаецца ложак пад полагам. Вельмі ўдала паказана начное неба ў першым акце: глыбокае, з зорамі і вельмі паступовым пераходам у колерах да раніцы.

*

«Дзядзя Ваня». Калі не дух Станіслаўскага, дык ва ўсякім разе блаславенне яго прысутнічае ў пастаноўцы гэтай п'есы.

Але актрыса, якая іграе галоўную гераіню,— хай свет забудзе яе прозвішча! Яна паўтарае ўлюбёныя прыёмы трагічных актрыс, прычым не маючы падстаў — ні натхнення, ні таленту: яна ломіць рукі, трэцца падбароддзем аб плечы і, галоўнае, пішчыць. Калі ўжо тэатры вызваляцца ад гэтай прыкрай манеры пераймаць! Апрача таго, актрыса ў адным акце два разы ўткнулася носам у парцьеру, гэта, відаць, азначае слёзы, а паўторы прыёмаў, ды яшчэ такіх прымітыўных, даводзяць гледача да зубнога болю.

*

Да апошняга часу з операй у мяне былі крыху дзіўныя адносіны. Я сядзеў на спектаклі дарэшты прыгнечаны неймавернымі памерамі сцэны і зіхценнем дэкарацый, сярод якіх адзінокая, амаль непрыкметная кучка людзей марна натужвала галасавыя звязкі. Пры гэтым паранены насмерць герой, замест таго каб аддаць богу душу моўчкі, спяваў яшчэ добрыя паўгадзіны.

Кажучы без жартаў, я заўважаў і тонкія пераходы і хараство арый, аддаваў належнае майстэрству спевака, скажам, умельству цягнуць высокую ноту без асаблівай шкоды здароўю. Аднак пачуццё заставалася халодным: музыка не магла замяніць дынамікі сцэнічнай дзеі. Але аднойчы, нечакана для сябе, пачуў, як у аркестры хітранька ўсміхнулася скрыпка, пасля ўжо зусім галасна засмяялася другая, а за імі — мядзяным басам зарагатала труба. Я пачаў чуць.

*

«Атэла» ў гарадской оперы. Бачыў гэтую шэкспіраўскую жамчужыну неаднойчы з выдатнымі акцёрамі і ў добрых рэжысёраў, слухаць — прый-

шлося ўпершыню. Людзей было вельмі мала, пастаноўка рабілася, відаць, з разлікам на англічан, а іх у тэатры і не было. Сядзела некалькі амерыканцаў, паводзіліся вельмі галантна, нават раскланяліся са мной, палічыўшы маю зялёную кашулю за афіцэрскую.

У першым радзе, якраз перада мной, селі дзве жанчыны. Дачка з італьянскім тварыкам і кудзеркамі і маці з сівою галавою і дагледжаным маладым абліччам — яно захоўваецца ў некаторых гэтага тыпу жанок да труны. Як толькі яны з'явіліся, усім адразу здалося, што лепш апраненых жанчын у зале няма, хоць на дачцэ была дзяружка ў сінія і белыя палосы і танная ліска на плячах, а на маці — нешта чорненькае, але з ніткаю сапраўднага жомчугу.

Размова ў іх была пра спектакль, гаварылі дзве актрысы і, відаць, спрактыкаваныя. І вось што.

Вердзі, пасля доўгага перапынку ў кампазітарскай рабоце, звярнуўся да Шэкспіра, да тых магутных страсцей, якія кіпяць у «Атэла». Без звароту да такога асілка творчасць яго засталася б як бы недаканчанай, няпоўнай. Але трагедыйнага відовішча ў поўным сэнсе гэтага слова атрымацца не магло. Цяжка паверыць, што можна, нават добрым барытонам, выспяваць усю ўнутраную пакуту Атэла, а на нотках саладжавага тэнарка перадаць усю нізасць Яга. Таму Атэла атрымаўся спрошчаным, звычайным раўнівым чалавекам, а Яга — занадта подлым. Што датычыць Дэздэмоны, дык яна выглядае праўдзіва, але ні туалеты, ні рэшткі колішняга голасу не кампенсуюць адсутнасці пачуцця і маладосці. Выканаўца ролі Атэла, мабыць, быў не ў голасе і, як кажуць, «пускаў пеўня», а Яга не выцягваў свае партыі і хаваўся за аркестр. Аркестр жа гучаў наогул нядрэнна, калі б не маніла першая скрыпка.

Жанчыны пачалі ціхенька смяяцца, а заўважыўшы, што я разумею гаворку, перайшлі з рускай мовы на французскую.

Мне засталося толькі падзякаваць за рэцэнзію.

Яшчэ б я дадаў, што трэба пахваліць тэатральных мастакоў. Каб паказаць палац, яны спускаюць

са столі аднаго льва і робяць дзверы, сад паказвае адна галіна яблыні ў цвеце, а спачывальню — ложак і балдахін. На мяне гэта робіць куды большае ўражанне, чымся нуднае дэманстраванне дэкарацыйных надмернасцей, такіх раскошных, што чалавек губляецца ў іх, робячыся зусім мізэрным. Няма тут ні сукна, ні чорнага аксаміту. Гэта ўсё замяняе памалёваная ў добры чорны колер папера. І ўсё роўна сцэна атрымлівае належную глыбіню.

Іншая справа, што і леў і яблыневая галіна павінны быць пастаўлены так, каб іх усе ўбачылі і зразумелі іх прызначэнне.

*

«Паласт-вар'етэ» мае мяшаную праграму цыркарэвю. Вялізны будынак са слядамі бамбёжкі. Тут спалучэнне балетных нумароў з двухсэнсавым ускідваннем спаднічак, дрэсіроўшчыкі, парадысты выдатных танцораў і спевакоў. Ёсць і гэтак званыя людзі «без касцей», яны могуць залажыць адразу абедзве нагі за галаву і ў такім стане піць ваду ці курыць папяросу.

Два здаравякі старанна выкручвалі рукі гнуткай немачцы, выдаючы гэта за гімнастыку. Пасля быў малапрыстойны нумар «Парыжская ноч»; добра іграў на гармоніку вулічны музы́ка, пара салістаў танцавала чортведама што, а кардэбалет паказваў ружовыя і чорныя падвязкі з кавалкамі голых сцёгнаў паміж панчохамі і трыко.

Усю гэту мутарнасць перабіў чорны сабачка. Адбыўшы свой нумар, ён выйшаў з дрэсіроўшчыцай на воплескі і, пакуль тая кланялася, пагаўкаў, падняўшы нагу, у аркестр на бліскучую лысіну басэтлі.

*

На экране шмат савецкіх фільмаў. Поспех яны маюць выключны, білеты расходзяцца ў папярэднім продажы, і па іх з раніцы выстрайваецца чарга. Каштуе білет на ўсе месцы аднолькава, да 2 марак,— у залежнасці ад разраду кінатэатра. Заходзіць і выходзіць з залы можна калі хочаш.

Пайшоў на «Чапаева». Дыялог у большасці выпадкаў перакладзены ўдала — дапамагае лаканічнасць нямецкай мовы, гук дапасован да рухаў, аднак агульнае гучанне атрымліваецца ўлагоджаным. Думаю, што аўдыторыя не здолела цалкам успрыняць такую сугуба нацыянальную з'яву як Чапаеў. Але ў фінале былі спачувальныя выгукі і воплескі. Гэта сцэна, калі імчыцца да Чапая дапамога і белыя пачынаюць уцякаць.

*

«Без віны вінаватыя». Манера гаварыць і склад нямецкай мовы робіць усю карціну вельмі нязвыклай. А дзе шукаць больш рускага сюжэта і тыпажу! Нават цудоўнае майстэрства Тарасавай набывае незнаёмую афарбоўку, калі з вуснаў яе злятаюць словы другой мовы.

У зале многа слёз. Выдатная актрыса, можа быць, народжаная сыграць іменна Кручыніну, глыбока ўзрушвае.

Толькі як ні шкада, роля гэтая для кожнай актрысы вяршыня, ад якой — паступовы шлях на больш паважныя амплуа. Усё прыходзіць да чалавека з гадамі — пашана, слава, спакой, мінае толькі маладосць...

*

«7 маладых сэрцаў». Амерыканскі фільм, пусцей цяжка прыдумаць! Але глядзіцца гэта драбнічка ўвесь час з усмешкаю: столькі тут сонца, галубоў, маладосці і свежых твараў. Можа гэта рэакцыя на цяжкія гады перажытага, але я дзякую людзям, што дбаюць пра ўсмешку.

*

Амерыканскія дэтэктыўныя фільмы неадменна збіраюць поўную залу. Дэтэктыў перамагае з голымі рукамі ўзброеных, кожную хвіліну адбірае ў іх пісталеты, прымушае палаць да сябе каханнем прыгожых жанчын-злачынцаў, сам уздыхае па іх, але

ўсё ж накіроўвае ў турму. Можа каму гэта і казыча нервы, але з палёгкай уздыхаеш, убачыўшы, як пачынае днець на экране і ў зале.

*

Калі я правільна ўяўляю аб'ём паняцця — геніяльнасць, дык, мусіць, Чаплін зараз адзіная з'ява такога парадку. Увесь час хадзіць па мяжы крайняга трагічнага і крайняга смешнага — і прымушаць верыць у неверагоднае. Але для гэтага ёсць грунт: «Я вывучаў чалавечую прыроду, бо без гэтага маё мастацтва немагчыма»,— гаворыць Чаплін. Так вось і ў «Залатой гарачцы». Колькі іх, добрых і ўсякіх, твораў пра шукальнікаў золата! Чытана і забыта, чытана і прынята ў сэрца. А Чаплін стварыў камедыю — і як быццам паказаў табе зусім невядомы свет... хоць і тут пошукі золата, здабыванне багацця. Але якога, як, у імя чаго!

Гатаванне чаравіка ў галодны час і абсмоктванне цвічкоў з падэшвы, быццам костачак найтанчэйшай дзічыны. І поруч — навагодняе чаканне каханай, самотны, за прыбраным за апошнія цэнты сталом, сон, у якім Чарлі бачыць сябе ўважлівым і дасціпным гаспадаром і забаўляе гасцей. Або танец выпушчанага з падушкі пер'я, нешта кшталтам «зрокавай музыкі», як сказаў сам майстар.

А галоўнае — чаплінаўскае каханне! Смутнае і з праблёскам надзеі, удача поруч з няўдачай. І ва ўсім гэтым пад жабрачымі лахманамі свеціць хараство душы, сама мужнасць увасабляецца ў маленькага, смешнага, абшарпанага чалавечка. І шчасце ён знаходзіць, хоць і забагацеўшы, але ўсё роўна ў тым самым вандроўным рыззі.

Гэтак і будзеш войкаць ад захаплення, сплёскваць рукамі, а слоў няма, каб расказаць пра зграбнасць тварэння, пра яго дасканаласць і завершанасць, пра святло высокай чалавечай думкі.

*

Публіка ўвесь час жуе ў антрактах і пад час дзеі: хлеб белы або чорны, з морквай ці горкім павідлам, рэдка — печыва. Дзе-хто дазваляе сабе

выпіць піва, калі яно каштуе 50 пфенігаў (тры маркі — гэта ўжо дорага!), ці чарачку кіслага чарнічнага віна. За 20 марак наліваецца паўчарачкі гарэлкі, ад чаго не ўп'ецца і муха. Наўкол курацъ, урнаў няма, але няма і недакуркаў: яны хаваюцца ў кішэню. Гэта брыдкавата, але нічога не зробіш — тытунь дарагі.

У драбнейшых тэатрах больш моладзі: лягчэйшы рэпертуар і вальнейшыя паводзіны: можна сядзець абняўшыся і ўпрыцемку цалавацца.

*

Учора вецер ганяў слупамі пыл па разбітым вайною горадзе, а зараз, з самае раніцы, ідзе перагонамі цёплы вясновы дождж-траўнічок. Я добра ведаю, як гэта пачынаецца пасля нуднаватае імглы, асабліва цяжкай для людзей з хворымі лёгкімі: дзень устае над ракою такі празрысты, што грудзі не могуць змясціць паветра, а вочы — увабраць усё святло і, нарэшце, змяшчаюць яго, заўважыўшы, як праз каменную аблямоўку берага прабіваецца спічастая трубка першай травы.

Усё гэта будзе заўтра. Наперадзе даўгі і непрыветны вечар. У пакоі гарыць, не грэючы, печ, змрок кладзецца павольна і густа, па чарзе замалёўваючы квадраты падлогі. І вось у пазабіваных фанераю вокнах процілеглага дома загарэўся яркі чатырохкутнічак святла. Звечарэла.

Непагодны вечар. Сумна, дружа, мусіць?
Каб разважыць смутак, ціха запяваю:
«Ой, ляцелі гусі ды з-пад Белай Русі,
Ваду замуцілі на сінім Дунаю...»

*

А што ты думаеш, ці не пачынаецца ў нас сапраўды вясна?

Дзе гэта ў нас?

Навошта пытаешся, дружа? Ты добра ведаеш, што я гавару пра тыя мясціны, дзе мы з табою нарадзіліся. Хіба ж не ўсё роўна, што яны адлучаны нейкай сотняй кіламетраў? Ці ж не аднолькава

першы раз ступілі мы на выбіты гліпаю ток, ці ж не таксама смяяліся, прасціраючы рукі ўслед уперпшыню ўбачанаму жарабяці, высокаму, на тонкіх ножках, і гэткаму ж нехлямяжаму, як і самі мы былі пачынаючы хадзіць?

Ты хочаш успомніць усё?

Тады трэба пакінуць сцэны: табе — свой прытульны пакой на добра знаёмай мне з юнацкіх дзён вуліцы, мне — абадраны нумар гасцініцы з двума шырачэзнымі ложкамі.

За сцяною адзначае суботні вечар стары даўгалыгі немец. Я стаяў на калідоры, калі ён упускаў да сябе рыжанькае тратуарнае стварэнне. Пасля гаспадыня панесла ў гэты пакой чайнік рэдкае кавы і два кубкі. Яны з'ядуць тонкія лустачкі хлеба, між якіх засвечана крыху гаркаватага павідла, а пасля пасцелюцца ў гэткім самым шырачэзным і халодным ложку.

Хутчэй пакінем гэтыя сцэны і выйдзем на абкружаны веснавою вадою гарбок сяла.

Ты чуеш, як цяжка шумець ветру ў чорным алешніку?

На крайняй алешыне, што ступіла ў ваду ды так і засталася стаяць на агародзе, мабыць, пабаяўшыся лезці глыбей, гайдаецца цяжкі тоўсты грак. Ён добра не ведае, што рабіць. З раніцы ён ламаў тут галлё і цягаў яго ў гняздо, а цяпер нахваціўся змрок, і работу, відавочна, давядзецца спыніць.

Разважыўшы, грак кідаецца ў паветра, быццам даючы нырца, і праз хвіліну на цвінтары каля царквы пачынаецца гучны крык. Гэта ён шукае сваю сяброўку і трывожыць галасістых субкватарантаў, што паспелі прыдрамаць на высокай разгатай бярэзіне.

Помніш, як мы хадзілі ў заработкі, дастаючы ад царкоўнага старасты па грыўні за кожнае спаранае гняздо? На той час як вылупліваліся гракавяняты, на цвінтары стаяў такі галас, што цяжка было зразумець, дзе ж правіцца набажэнства.

Аднойчы поп не стрываў крыку і рынуўся, як быў, у рызах, на цвінтар. Стоячы пад бярэзінай, ён грозіў крыжам — сухі і старэнькі,— патрэсаючы вузлаватаю барадою на птушак.

Стараста — хітруга і жартаўнік, для якога бог быў такім жа гаспадарлівым палешуком, як ён сам,— гаварыў:

— Лепш пайсці, бацюшка. Крыку ў іх многа, а розуму няма. Яшчэ абгнюсіць могуць, а камсамолам — смех.

«Камсамолы» — гэта былі мы з табой, бо пераступілі ўжо свае права на грыўню за гняздо меншым хлопцам з гэткімі ж белымі галовамі і ў гэткіх самых кужэльных нагавічках, якія маці зашывалі кожнае раніцы, каб увечары, агледзеўшы новыя дзіркі, грозна брацца за паўразы.

Так мы стаім пры рэчцы, успамінаючы вясну ў сваім маленстве. У чароце шархацяць невялікія крыгі. Пакручваючыся, яны выплываюць на шыршую ваду, дзе затоплены вербалоз трымае на разгатых пальцах пуховыя пупышкі, жоўтыя, як малыя кураняты.

— Не я б'ю, вярба б'е, за тыдзень вялікдзень,— усміхаючыся, гаворыш ты.

Хутка сапраўды будзе вялікі дзень. Дзень нараджэння летняга сонца. Ён падзеліць пораўне суткі, аддаўшы палавіну іх ночы, каб потым адбіраць у яе гадзіну за гадзінай, аж пакуль не запяецца:

Купала, ночка маленька,
Не выспалася паненка.

Але чакай, чуеш? Быццам выліўся, забулькаўшы, з вузкага горлейка струменьчык вады. Пазнаў?

— Здаровенькі, мілыя! Ключом! — задраўшы галовы, крычым мы абодва.

Але ўжо цёмна, неба хмарнае, і ў ім нічога не знаць. Толькі нам здаецца, што мы чуем, як рассядаецца паветра пад дужымі крыламі, бо ведаем: гэта — журавы!

Яны ляцяць высока і сядуць не тут, не скончылася яшчэ іх падарожжа. Заўтра ці паслязаўтра па нейкіх, зусім не прыкметных для чалавецкага вока, адзнаках знойдуць наш куток другія, але абавязкова тыя самыя, што гнездаваліся тут летась. А там, глядзіш, закрача і боўтнецца ў балота качка.

Цяпер мы ўжо добра ведаем, чаму ўвесь гэты дзень мінаўся ў трывозе, работа выпадала з рук, думалася зусім нечаканае, жаданні не мелі акрэсленых рамак. Гэта вясна гнала нас з выраю на тыя самыя мясціны, дзе прабылі мы сваё маленства.

Пасмяёмся з дзіцячае думкі, але мне чамусьці здаецца, што вясну заўсёды трэба сустракаць там, дзе яна пачалася для нас.

Міне яшчэ тыдзень. Абчахнуць груды, лёгкая, падобная на дымок пара будзе стаяць раніцаю на папары, калі плугі павядуць баразну, адвальваючы вільготныя скібы.

Тады ўсе ўбачаць і павераць, што прыйшла вясна. А мы чулі яе сёння, дружа!

## 9

## ГАСЦІННЫ ВЫРАЙ

Чэхаславакія сустрэла нас пагоднымі днямі цёплае восені. Праўда, не раз шкадавалі гасцінныя гаспадары, што не трапілі мы да іх вясною, калі бушуе маладая зеляніна і белы цвет па-святочнаму прыбірае гарады і сёлы. Але і ў асеннім уборы нязвыклай прыгажосцю абдарыла нас краіна мужных і працавітых людзей.

*

Раніца. Паўз вокны вагона праходзяць малыя і вялікія станцыі. На адкрытых тэрасах вакзалаў з уваходнага боку да столі падвешаны ўзорныя паліваныя міскі і невялікія скрынкі з белых бярозавых сукоў. У гэтым пасудку дацвітаюць яркія асеннія кветкі.

На адным з большых прыпынкаў выходжу. Лістаўныя лясы на горах. Пры падножжы гор — палеткі з густою шчоткаю руні. Жыруе пара фазанаў, яны падымаюць галовы ад зеляніны ў бок цягніка. Некаторыя палеткі толькі што пабаранаваны. Зроблена гэта так ахайна, нібыта грудкі зямлі на загонах падабраны ў адзін памер. Ні каменьчыка, ні агрэха. Глеба ўзрыхлена ўсюды аднолькава, усутыч да тэлеграфных слупоў, і здаецца, што яны спушчаны зверху і пастаўлены на баранаванае.

Едуць сяляне на пары коней у рагатых хамутах і аброцях з вялікімі навочнікамі. Следам кіруецца другая фурманка. У запражцы, зусім неспадзявана для вока... валы. Фурманкі спыняюцца, людзі рыхтуюцца пачаць ворыва.

1955-я восень жадае нам шчаслівай дарогі.

*

Праз шараватую апону вільготнай смугі прабіваецца сонца, асвятляючы абрысы вялікага горада: фабрычныя коміны, вежы гатычных будоў, барочныя

гмахі, абкружаныя кварталамі старых і новых дамоў.

Горад Жыжкі і Гуса, Ірасека і Нямцовай, Сметаны і Парлержа. Тут гарэла бунтоўнае сэрца незабыўнага Фучыка.

У 1813 годзе на подступах да Прагі рускія воіны разбілі напалеонаўскія войскі, уратаваўшы краіну ад разбурэння і ці мала паспрыяўшы далейшаму яе развіццю. Цераз стагоддзе ў горадзе сабраліся на сваю канферэнцыю бальшавікі на чале з Леніным, мацуючы міжнародную салідарнасць барацьбітоў рэвалюцыі. Звыш дзвюх тысяч барыкад збудавала на сваіх вуліцах паўстаўшая ў маі 1945 года Прага. І ў незабыўны майскі дзень пражане сустрэлі прынёсшых ім волю гвардзейцаў-танкістаў маршала Конева.

*

Убачанае далёка перавышае ўсе спадзяванні. Для нашай зацікаўленасці шырока адчынены ўсе дзверы. Варта толькі, скажам, прыйсці ў бібліятэку ці ў школу, каб табе паказалі ўсё і расказалі аб усім, што магло цікавіць.

Калі, ходзячы па вуліцах старажытных гарадоў, ты траціў арыенціроўку і не мог выбрацца куды хацеў, зараз жа знаходзіўся добраахвотны праваднік. Ён не проста паказваў кірунак, а вёў да месца, звяртаючы па дарозе ўвагу на выдатныя мясціны і будынкі, стараючыся дадаць хоць што-небудзь новае да твайго ведання краіны, раіў, што трэба паглядзець, і, вядома ж, распытваў пра Савецкі Саюз. Пры гэтым табе ветліва прапанавалася цыгарэта, са здавальненнем закурвалася наша, савецкая, адбываўся абмен запалкамі ці грашовай дробяззю.

*

Вуліцы ў цэнтры даволі вузкія, як ва ўсіх гарадах даўнейшай забудовы, дамы — пераважна шэрай афарбоўкі. Здавалася б, павінна быць змрачнавата. Аднак штосьці падвясельвае зрок. Гэта — дрэвы і шматлікія лапіны зеляніны, бульвары і скверы з ружовым гравіем на алеях і з вясёлымі чырвонымі лаў-

камі. Ліхтарныя слупы, на першы погляд, крыху дзіўнавата пафарбаваны: напалавіну ў чырвоны і напалавіну ў жоўты яркія колеры. Паміж іх рушыць бліскучы жоўта-чырвоны паток трамваяў і аўтобусаў. Кантрастная рэзкасць і нечаканасць усіх гэтых фарбаў парушае аднастайнасць шэрага адзення горада і асвяжае аблічча старых муроў.

*

Срэбная стужка паўнаводнай Влтавы пераразае горад. Цераз яе перакінута больш за дзесяць цудоўных мастоў: гэта — значная з'ява будаўнічага мастацтва. Яны названы па імёнах нацыянальных герояў, кампазітараў, мастакоў (Карлаў мост, мост Швермы, Ірасека).

Мала Страна, Градчаны, Старэ і Новэ Места — гэта і ёсць той горад, які мы ведаем пад любоўнай народнай назвай — Злата Прага. На ўсходзе і поўдні — прамысловыя раёны Высачаны, Сміхаў; там вагона- і паравозабудаўнічыя, піваварныя, шкловарныя заводы, машынабудаўнічая Іноніцэ.

Калі мы трапілі ў Град, над палацам развяваўся сцяг. Гэта значыць, што прэзідэнт рэспублікі ў горадзе.

Праз Маціяшаву брану (браму) з вялікімі скульптурнымі групамі асілкаў кіруемся ва ўнутраныя двары Града. Адзін двор, другі, трэці. Сабор святога Віта, выдатны помнік нацыянальнай архітэктуры, будаваўся каля 600 год. Праз гэта атрымалася некаторае напластаванне стыляў: чыстая готыка мяжуе з псеўдаготыкаю і ўплывамі рэнесансу.

Найбольш прыгожую частку сабора — вацлаўскую капліцу — будаваў Пётр Парлерж. Ніжняя частка яе выкладзена чэшскімі самацветамі, уваход зачыняюць масіўныя кратаваныя дзверы XIV стагоддзя з надзвычайнай лёгкасці рысункам. Драўляная разьба ў адным з бакавых нэфаў — цуд: невядомы майстар смелаю рукою ажывіў постаці людзей за працаю.

Тут адбываліся турніры. Рыцары ўязджалі на конях па сходах. Яны так і называліся: «сходы для конікаў».

Пад гатычным скляпеннем гэтай залы цяпер адбываюцца выбары прэзідэнта. Пасля ён прымае прысягу ў невялікім бакавым пакоі.

*

Мы ехалі ў Новэ Места на трамваі. Адзін вагон быў запоўнены дзецьмі, яны вярталіся са школы. У Празе ёсць і спецыяльныя трамваі для дзяцей, трохі меншыя за звычайныя.

Малыя грамадзяне рэспублікі карыстаюцца выключнай увагаю. Для іх выдаецца вялікая колькасць часопісаў (больш за 20), у спецыяльных магазінах можна знайсці ўсё: ад пялёнкі да выгоднага спартыўнага гарнітура для юнака. У Татранскай Ломніцы мы бачылі санаторый, які так і называецца — «Дзіцячы рай».

Віхрасты бялявы школьнік падарыў мне спартыўны значок і спытаў:

— А заўтра вы прыйдзеце да нас?

Даведаўшыся, што заўтра мы ад'язджаем, ён падумаў і разважыў:

— Тады прыязджайце налета. Я навучуся гаварыць па-руску, і вы скажаце, ці можна мне ехаць у Маскву.

*

Сельскагаспадарчы кааператыў паблізу Прагі. На двары толькі што прывезены з поля інвентар. Поруч з канцылярыяй жанчыны пераганяюць вячэрні ўдой на сепаратары. Сёлета ім прыпала на працадзень па 12 крон. Найбольш жвавая з жанчын пытае:

— А калі мы прыедзем да вас, прымеце?

Пажылая паважная кабеціна з шэрай хусткай на галаве перапыняе яе:

— Куды ўжо нам, хай маладыя едуць у Маскву.

На гэта, пад агульны смех, абзываецца бабулька, што, седзячы на калодачцы, круціць ручку сепаратара:

— Калі так, дык я сама младша з вас! Я паеду!

*

Самадзейны калектыў абутковага камбіната ў Готвальдаве ўжо выступаў у гэты дзень. Аднак артысты з добрым майстэрствам і нават бляскам спявалі, ігралі і танцавалі да позняе пары. Жартоўная песня змянялася працяжнай, сольны танец — шумлівым вясельным. Уражанні дапаўняла своеасаблівае ўбранне. Мужчыны былі ў капялюшыках з пёрамі, з намёткамі на стане. Жанчыны выступалі ў аксамітных вышываных кабаціках, вострыя каўнерыкі якіх падпіраюць падбароддзе, у каляровых спадніцах з безліччу дробных фальбонак і ў боціках гармонікам з абцасамі, падобнымі да ножкі бакала.

Слаўны гумар, прывабныя мелодыі песень западалі ў сэрца, і праз некаторы час мы пачалі іх спяваць самі.

*

Ноч. Варочаемся ў Прагу з Добжыша. Там, у загародным доме творчасці, мы развітваліся з сябрамі-пісьменнікамі. Патрэсквалі сажнёвыя паленні ў каміне, на беласнежных абрусах былі шчодра рассыпаны зяляніна і чырвоныя кветкі. Сардэчная размова, хутчэй працяг яе.

Напярэдадні ў пражскі пісьменніцкі клуб спаткацца з намі прыйшлі Марыя Майерава, Вітэзслаў Нэзвал, Ян Дрда. Нэзвал гаварыў аб сувязях братніх народаў і літаратур, успамінаў сустрэчы з Янкам Купалам, вершы якога перакладаў на чэшскую мову. Мы расказвалі пра новыя кнігі, пра свае планы і думы.

У нас знайшлося старое мінскае выданне адной з частак «Прыгод удалага ваякі Швейка». Кніга гэта ў свой час не трапіла сюды і цяпер выклікала радаснае здзіўленне нашых сяброў.

Гаворым кожны на сваёй мове і ўсё цудоўна разумеем.

*

У Празе, асабліва калі ходзіш па вуліцах адзін, увесь час здаецца, што вуха чуе нейкую ціхую і доб-

ра знаёмую музыку. То штосьці са «Славянскіх танцаў» Дворжака, то ўрыўкі з «Мае радзімы» Сметаны, то матывы чэшскіх народных песень.

Адгадка прыйшла пазней.

Адзін паэт доўга і горача расказваў мне пра дарагі яго сэрцу горад. Гэта было не апавяданне, а імправізацыя, узнёслая і страсная. Паэт думаў уголас, не зважаючы на вясёлыя твары і ажыўленую гаворку сяброў, ствараў вобразы і маляваў карціны Прагі ва ўсе поры года. Яна паўставала перад вачамі сарамлівай дзяўчынай у белым вэлюме вясны, смяшлівай маладзіцай у зыркай красе сонечнага лета, задуменнай красуняй на беразе асенняй ракі.

У думках мы хадзілі па вузенькіх вулачках, што складаюцца толькі з брамы і двух-трох дамоў, каля якіх нібы яшчэ клубіцца туман старасветчыны і чуецца звон зброі рабочых і рамеснікаў, узняўшых меч супроць габсбургскага абсалютызму. Перагарнуўшы стагоддзе, мы перакідаліся на прасторныя праспекты сучаснага горада, якія бачылі гнеўны рух народу, змёўшага ганебную спробу буржуазнай рэстаўрацыі...

Раптам паэт запытаў: «А вы не прыслухоўваліся да музыкі ранішняй Прагі?»

Старое выслоўе сцвярджае: «Душа народу заўсёды ў яго сталіцы». У многіх народных песнях, у творах чэшскіх і славацкіх кампазітараў зварот да радзімы ў той жа час з'яўляецца і зваротам да сталіцы.

Тут узнікала музыка, яна была навеяна Прагай. Вядомыя і невядомыя творцы з любасцю, проста і дакладна расказвалі аб ёй, і перад слухачом узнікалі абрысы незнаёмага горада, уяўляліся архітэктурныя ансамблі, рокат хваль вялікай ракі, галасы і постаці людзей і пялёсткі славутых каштанаў. Калі ж слухач трапляў у гэты горад, уваходзіў у яго гісторыю і жыццё, прасякаўся яго хараством, бачыў усё на ўласныя вочы — узнаўлялася і складзенае калісьці ўяўленне ад музыкі, а следам успаміналіся матывы і мелодыі.

*

Абутковы камбінат «Світ» — буйнейшае прадпрыемства краіны.

Праца ў цэху ідзе ў рытме. Аперацыі разлічаны дакладна па хвілінах, і скураная загатоўка імгненна ператвараецца ў дабротны мужчынскі чаравік.

*

Заходзім у адну з рабочых кватэр. Адразу з прыхожай уваход у кухню. На газавай пліце смачна падсмажваецца бульба. У сталовай — дзве паліцы-шафы з кнігамі чэшскіх класікаў; ёсць «Вайна і мір», «Ціхі Дон». Ва ўсіх пакоях выгодная мэбля, зеляніна, кветкі, на сценах рэпрадукцыі. У кватэру не далятае лішніх гукаў ад суседзей і са сходаў. Сходы пакрыты чырвонаватым лінолеумам. На краі кожнай прыступкі прыбіта рубчастая гумовая планка. Такім чынам усе гукі паглынаюцца.

Каля дамоў невялікія зямельныя ўчасткі. Тут кожны займаецца чым пажадае: адны ставяць вуллі, другія саджаюць гародніну і кветкі, трэція — пладовыя дрэвы.

Да паслуг рабочых вялікі стадыён і басейн. Паколькі ён глыбокі і можа служыць нават для трэніроўкі, на сцяне добразычлівы надпіс: «Не пераацэньвай сваіх магчымасцей — ты маеш адно-адненькае жыццё».

*

Готвальдаўскія вуліцы па ажыўленасці нічым не адрозніваюцца ад пражскіх. Так жа сціпла і проста, але ў той жа час з густам апрануты людзі, так жа гасцінна паказваюць магазіны свае вітрыны. Дарэчы, вітрыны робяцца так, каб не было патрэбы хадзіць па паверхах і лішні раз турбаваць прадаўца за прылаўкам. Усе рэчы, што сёння ёсць у продажы, выстаўлены і ў вітрыне з адпаведным нумарам і цаною.

У гарадах і паселішчах многа сталовых, закусачных, аўтаматаў. Назвы ў іх прывабныя: «На ражку», «Каля возера», «Хатка на скрыжаванні». Тут можна паабедаць, пачытаць газету, пасядзець з дружбаком за традыцыйнай каваю ці півам.

*

Гатаванне славутага піва ў Плзені хутчэй падобна да свяшчэннадзеяння. У цішыні, у глыбокіх, даўжынёю з кіламетр, падвалах, высечаных у пясчаніку, дзе няма вільгаці, выстойваецца пеністы чэшскі «Праздрой» (першакрыніца). Дазіроўка соладу, дабаўленне хмелю, мыццё пасуды — амаль што аптэчныя. Затое прадукцыя не ашуквае самых высокіх патрабаванняў.

Плзень — славуты металург і паравозабудаўнік. Плзеньскія рабочыя шмат гадоў былі ў першых шэрагах чэшскага пралетарыяту і ў 1945 годзе падняліся на дапамогу паўстанцам Прагі. Аб гэтым нагадвае сівавусы рабочы пасля прыёму ў заводскім клубе, дзе мы мелі магчымасць пераканацца, што мясцовае піва сапраўды восьмы цуд свету. Так і было адзначана ў кнізе наведвальнікаў.

*

У раёне горада Слаўкова — поле вядомай Аўстэрліцкай бітвы. На высокім узгор'і — так званы помнік міру. У магіле пахаваны паўшыя на гэтых прасторах салдаты. Па кутах помніка застылі каменныя воіны, пры ўваходзе — схіленыя жаночыя постаці ў слязах.

Невялічкая гранітная капліца з дзівосным гукавым эфектам. Калі, стаўшы тварам у куток капліцы, прамовіць слова, дык сцяна ў процілеглым куце выразна перадасць яго.

Пажылы наглядчык музея і магілы пытае:

— Галасы чулі?

І сам адказвае:

— Старыя салдаты патрабуюць міру.

*

Плешча ў гранітны бераг Дунай. На прычалах Свабоднай гавані буксіры і баржы. Гэта ўжо Браціслава, сталіца Славакіі. За прыгарадам Петржалка зусім блізка венгерская мяжа. Успамінаем Араўскае мора, яно ператварыла занядбаную Араву, даўшы жыццё магутнейшым электрастанцыям краіны. Зараз

у Славакіі на душу прыпадае больш электрычнай энергіі, чым у Злучаных Штатах.

Мілаш Крно, высокі, з зусім юнацкім абліччам, усё яшчэ жыве ўспамінамі аб Беларусі. Ён нядаўна вярнуўся з Палесся, дзе быў разам з бацькамі Героя Савецкага Саюза Яна Налепкі, славака па паходжанню, які слаўна ваяваў у нашых партызанскіх атрадах.

— Каб не паехаў да вас,— гаворыць Крно,— не напісаў бы кнігі пра нашага агульнага героя ці напісаў бы горш. Стала зразумела, чаму іменна на вашай зямлі Налепка рашуча павярнуў зброю супроць ворага. З такімі людзьмі і жыць добра, і працаваць у ахвоту, дый паміраць не страшна.

І вось ужо расце шырокая задушэўная размова пра паэзію, пра тое, што голас яе павінен мужнець, набываючы смеласць і страснасць Маякоўскага, а зрок — пранікаць у далечы будучага свету.

*

Незвычайным хараством надараюць асеннія Татры. Сонца ўсходзіць з-за густой, як быццам спрасаванай з шэрага бетону хмары з трыма вострымі рагамі. Хмара ляжыць на такіх жа шэрых рагах гор і здаецца іх працягам. Вечныя снягі паблісквають на вяршынях. Магутныя елкі падымаюць галовы, зліваючыся з небам. Як яны могуць дасягаць некалькіх абхватаў, растучы на зусім стромых скалах, дзе, здаецца, не можа ўтрымацца пушынка і на якія глядзіш задраўшы галаву? У расколінах, дзе няма мяккага грунту, запусцілі сівыя яліны сваё карэнне, і яно, растучы, разрывае камень.

Ад падвеснай дарогі ўніз — вузкая сцежка. Там парк з нязвыкла чорнымі вавёркамі. Яны смела падыходзяць да рук, становяцца на заднія лапкі, нібы пазіруючы фотааматарам.

Гэта Татранская Ломніца.

Невялічкая станцыя электрычкі. Пераязджаем у Смаковец, а адтуль пешкі па горных дарогах кіруемся да Вялікага вадаспада. Ён чуцён здалёк. Са страшнай вышыні ляціць празрысты і пеністы паток вады, такой халоднай, што ад яе ломіць рукі. Туман вадзя-

ных пырскаў стаіць над пешаходным мосцікам. Уні-зе растае сняжок, сінеюць яшчэ не пабітыя марозам альпійскія званочкі.

*

У кожным новым горадзе, пры кожнай новай сустрэчы, здавалася, працягваецца даўно пачатая размова духоўна блізкіх людзей, звязаных моцнай дружбай сям'і славян, блізкасцю моў, гістарычных лёсаў, агульнымі шляхамі ў будучыню.

Памяць падказвае нядаўнія гады Айчыннай вайны.

За гарадскім садам у Мінску, на ўскраінных вуліцах, была размешчана славацкая часць. Гітлераўцы прыгналі яе сілком і, баючыся пасылаць на фронт, пакінулі ў тыле. Крыху разгледзеўшыся, салдаты пачалі хадзіць па хатах і весці размовы. Спачатку задаваліся наіўныя пытанні, навеяныя варожай прапагандай: «Пакажыце падвалы, дзе ў вас жывуць рабочыя». «Ці аднолькавую зарплату атрымлівалі камуністы і беспартыйныя?»

Мінчане сумленна тлумачылі, што для рабочых будаваліся добрыя дамы, што зараблялі на аднолькавай рабоце і камуністы і беспартыйныя роўна, і наогул жылі добра, каб не гэтая вайна.

Салдаты ківалі галовамі і горка ўздыхалі. Насілі цукар і хлеб дзецям, а пасля пачалі гаварыць самі: і ім гэтая вайна — нож у горла, і яны гібеюць пад фашысцкім ботам, дык трэба ваяваць не супроць Саветаў, а супроць Гітлера. Найбольш свядомыя шукалі сувязей з падполлем, з партызанамі.

*

На пражскім могільніку ў Альшанах разам з героямі Ульма і Дрэздэна знайшлі спачынак савецкія салдаты, якія вызвалялі Прагу. Маці прыводзяць туды сваіх дзяцей. У строгай цішыні малыя кладуць кветкі ў галавах тых, каму яны абавязаны жыццём і свабодаю.

Кусты чырвоных руж красуюць шчодрым цветам над ружовымі надтрунніцамі, дзе выбіты прозвішчы

рускіх, украінскіх, беларускіх хлопцаў. Гэта не проста могілкі, а месца, дзе людзі вучацца мужнасці, адвазе, гатоўнасці засланіць друга сваімі грудзьмі.

*

У Празе ёсць сцены, якія чулі голас Ільіча. Музей Леніна змяшчаецца ў былым Народным доме. Там адбывалася Пражская канферэнцыя партыі.

Па вузкіх сходах падымаемся ў бакавое крыло на самы верх. Вузкі пакой, сталы, звычайная мэбля, некалі ўзятая напракат у бліжэйшым рэстаране. Не трэба нічога гаварыць і нічога пытацца. Тут быў Ленін, тут ён горача выступаў, вёў бai за партыю новага тыпу.

За вокнамі шуміць горад. А ўяўленне падказвае: ажыўленыя спрэчкі, аловак у руцэ Леніна хутка накідвае праекты рэзалюцый. Поруч невялікая зала з кветкамі і сцягамі. Часта тут чуюцца звонкія дзіцячыя галасы: піянеры даюць урачыстае абяцанне. Гэтыя хвіліны — на ўсё жыццё.

*

Дробная імжака, што заслала Татры пасля паўдня, развеялася. Сумна было б пакідаць гэтую слаўную мясціну ў асенніх слязах. Лёгкі марозік мацуе зямлю.

Зоры, буйныя, свежыя, як налiўныя яблыкі, засвяціліся ў вышыні. Ад бляску снягоў на вяршынях яны здаюцца яшчэ ярчэйшымі, яшчэ больш срэбнымі. Над Беланскімі Татрамі знаходзім Палярную зорку і па ёй вызначаем, як кіравацца дамоў. І ўжо расце прадчуванне сустрэчы з Радзімай, светлай нашай краінаю.

*

Мінула некалькі год. Лячу на ТУ-104 у Карловы Вары. Азёры на зямлі, як палонкі сярод вясновага сіняга лёду. Стрэчныя купы хмар здаюцца дубовымі гаямі ў шэрані. А далей тыя ж хмары,— як намеценыя гурбы снегу.

*

Маланка, буйная і бурная навальніца. Потым вясёлка ляжала на падножжы зарослай дрэвамі гары. Тоўсценькі чалавечак, стоячы на балконе пятага паверха, відаць, адчуваў сябе грамавержцам — вясёлка была ў яго пад нагамі.

*

На Карлаварскай каланадзе, дзе б'юць усе амаль мясцовыя крыніцы, надпіс: «Чалавецтву — здароўе, краіне — слава, свету — мір. Карловы Вары. 1358—1958». Чэхам ёсць ад чаго адчуваць сябе імяніннікамі: 600 год існавання горада над гаючымі крыніцамі. А Мінску над Нямігай 900 год, а Полацку над Палатою і ўся тысяча! Праўда, такіх крыніц няма, але я хачу і магу ганарыцца сваімі гарадамі.

*

Каля крыніц з вясны кветкі цвітуць у жоўтых драўляных карытцах, летам іх фарбуюць у зялёны колер. Садоўнікі робяць так нездарма. У гэты час трацяць колеры яркія трава і лісце, трэба дадаць штучнай зеляніны.

На карытцах далікатны надпіс «Co služi ludskiemu zdrawi, škodi kwetinam». Што карысна для здароўя чалавека, шкодна для кветак. Тым не менш у кветкі льюць недапіўкі шпрудэлю. З гэтага не трэба рабіць вывадаў аб культуры наведвальнікаў. Проста — задалікатны надпіс.

*

Выселіўшы вераб'ёў, шпакі сядзелі на галінках каля сваіх хат, як вартавыя пры дамах у вызваленым горадзе: не ведалі, ці брацца ўжо за работу і заставацца на аселасць, ці чакаць яшчэ якіх неспадзяванак.

*

Назіс — гасіч — цудоўна! Яго справа гасіць пажар, чаму ж называць такога работніка пажарнікам? Каб ён раздзімаў пажар, тады іншая справа.

*

Вагончык фунікулёра паўзе па крутым зялёным схіле, ад ваннага будынка на беразе ракі Тэплай — угору. Пакуль чакалі пад'ёму, паўнурваліся ў свежыя газеты. Кожны ў сваю. Крэпіць дождж. Моўчкі гартаюцца «Жыце Варшавы», «Таймс», «Берлінер Цайтунг».

Кантралёр — хударлявая кабетка сярэдняга веку, дае адпраўленне. Цераз плячо ў яе — дужаватая скураная торба для выручкі, а на галаве — нечаканы ў гэтых мясцінах убор: не берэт, не капялюшык, а белая хустка ў бубачкі. І завязана ражкамі пад бараду, зусім як у нашых вёсках.

Кантралёрка пачынае збіраць талончыкі на праезд. Спыняецца каля пасажыраў і, зірнуўшы ў каго якая газета ў руках, звяртаецца па-польску, па-англійску ці па-нямецку. Усім робіцца цікава, вочы адрываюцца ад газетных прасціродлаў, на тварах ласкавеюць усмешкі, і вось ужо ўвесь вагон ажыў і загаварыў.

Жанчына прыняла ўсю размову на сябе. Адразу ж выпрасталася і папрыгажэла, як быццам стала гаспадыняй вялікага дома сярод вясёлага тлуму гасцей. З наўздзіўнай лёгкасцю пераходзячы з мовы на мову, пытаецца, як памагае лячэнне, ці не смуткуецца па доме. Га́ніць дажджыстае надвор'е: не замачыце, барані божа, ногі, бо давядзецца падвязваць шчаку хусткай, вось гэтак, як у яе.

Падаю талончык. Жанчына глядзіць на кнігу, якую трымаю ў руках, і не верыць. Гэта Марыя Майерава. Нарыс яе — «Дзесяць тысяч кіламетраў над Савецкім Саюзам». Спроба пагаварыць са мною па-чэшску аказваецца марнай і смешнай: я жахліва блытаю склоны, націскі і, галоўнае, дапасаванні. Тады жанчына хітранька прыглядаецца да «Звязды»,

якою абгорнута кніга, і пераходзіць на балгарскую мову.

— Не ўгадалі,— кажу і называю сваю рэспубліку.

— І я нарадзілася ў Расіі...

Тым часам вагончык прыпыніўся каля драўлянага памосту, і наша размова перарвалася на самым пачатку.

Пазней я дазнаўся, што тая жанчына з сям'і эмігрантаў. Такое цудоўнае веданне моў ішло не ад прыроджанай здольнасці, а выклікалася неабходнасцю. Іначай у свой час, пры буржуазным ладзе, было на хлеб не зарабіць. Асабліва ў такой мясціне, як Карловы Вары, дзе поўна турыстаў і курортнікаў з розных частак свету. А маючы такога работніка, гаспадар кафэ ці пансіяната вешаў пры ўваходзе шыльдачку: «Тут размаўляюць на галоўных мовах свету».

*

— На вечныя часы! — гаварыў муляр на скверыку Карловай Плошчы.

Мы пазнаёміліся проста. Прыўзняўшы капялюш, ён сеў поруч на лаўку і спытаў, ці добра сядзіць на ім толькі што купленае без жончынай парады паліто.

— Каб не лаялася часам,— растлумачыў ён.

Як мог, я задаволіў цікавасць да асаблівасцей мулярскай працы ў Савецкім Саюзе, даведаўся, што ў яго сям'і дзяўчына і два хлапчукі, і атрымаў даручэнне перадаць паклон сваім хатнім.

— На вечныя часы! — гаворыць на развітанне наглядчык Татранскага парку і моцна цісне руку, змацоўваючы абяцанне.

10

## ЗБОР-ДРУЖЫНА

З б о р - д р у ж ы н а — зборышча розных людзей, яшчэ дакладней,— з б о р - к а л я д а, сумесь рознага збожжа. Яшчэ ў 20-х гадах задумалася кніга пад такою назвай. Па маладосці я паспяшаўся сказаць пра гэта ў хроніцы. Справа зацягнулася. Але я думаю, як і думаў: трэба сцвярджаць форму кніг у выглядзе нататак, запісаў, выслоўяў, назіранняў. Такія спробы, хоць і не густа, былі. Мае пачынанні ў гэтым кірунку — кнігу пра Коласа, падтрымалі лістамі чытачы.
Можа пашанцуе і гэтым старонкам. Тут сабрана многае: ад маладых, як кажуць, пазногцяў да прымглёных акулярамі вачэй.

*

Каластэ (Чырвоныя Камяні) — невялікае эстонскае паселішча пры самым Чудскім возеры. Дыхаць так лёгка, што праз некалькі хвілін адлятае змора і духата трускага аўтобуса, што прывёз сюды. Як вокам кінуць — неаглядная вадзяная прастора, ледзьледзь парушаная лёгкім зыбаннем.

Стары рыбак выбірае зялёны капронавы невад. Раз-поразу ён кідае ў лодку дужаватыя рыбіны. На прывітанне адказвае нечакана чыстаю рускай мовай:

— Здароў, калі не жартуеш.

— Можна пасядзець з вамі?

— Чаму ж не, лодка вялікая.

— Добры ўлоў у вас.

— А як жа — сёння «Дзень рыбака». Закускі стараюся.

— Такі ж выстараліся, трэба добрая чарка, каб столькі рыбы паплыло.

— Знойдзецца. Мы — рыбакі, многа не п'ём: так, вядзерца на брата.

— Даўно жывяце ў Каластэ?

— Восемдзесят шэсць гадкоў хутка будзе. Адных прэзідэнтаў пераждыў некалькі штук.

— А як вам жылося тады, рускаму чалавеку?

— Хваліцца не будзем. Мнагавата розных баронаў тут было. А кожны для важнасці да прозвішча яшчэ «фон» дадаваў. Калі пішацца фон-барон, значыць — ён чалавек чыстай крыві, дваранскай. А я быў самага адборнага заводу, самы важны.

— Як жа гэта?

— Ды так. Яны былі проста «фоны», а я тры разы — фон. Імя маё — Трыфон, разумееш: Трыфон Малыхін. Выходзіць, над усімі баронамі барон. Прыходзь увечары на юшку.

*

Доўгі летні дзень стаяў-стаяў, рабіў-рабіў і нарэшце-такі надумаўся спачыць. Пакаціў уніз сонца, і адразу падаўжэлі цені, паменшала віднаты.

У шырокі комін старасвецкай будоўлі пара за парай напакоўваюцца галкі. Пяшчотна абзываюцца адна да аднае і ўсё лезуць і лезуць у цаглянае жарало.

Сяджу ў акне насупраць і лічу: о, ужо семнаццатая пара схавалася. Раптам, як па сігналу, яны пачалі высыпацца назад, перад акном зачарнела, нібыта з коміна іх вылецела ўдвая больш.

Галкі кружыліся на адным месцы і заклапочана крычалі.

Я выйшаў на ганачак паглядзець.

Гвалту і галасу, як толькі птушкі згледзелі чалавека, нельга было стрываць. Дый галак, відавочна, прыбыло. Мусіць, вылецелі не толькі з усіх трыццаці камінοў старога радзівілаўскага палаца, а з'явіліся і з-за возера, аж з самога Нясвіжа...

Старыя ліпы на затравянелым вале аж кіпелі ад чорных крыл, і кожная дзюба без упынку, ва ўсё горла, выкрыквала нешта сваё, адной толькі ёй і яе сяброўкам зразумелае.

— Якога вам ліха! — я не пачуў свайго голасу, але ўсё ж рушыў наперад, задзёршы галаву і разглядаючыся.

Проста над сцежкай навісалі разгатыя лапы старой ліпы. На скрыжаванні сподніх галін неспакойна варушылася галчаня. Яно не сядзела на ножках, а ляжала: упершыню ўзляцеўшы, не ўцэліла, мусіць,

сесці як трэба, шухнула на грудзіну і не магло ўзняцца.

Птушаня лёгка было дастаць, але галкі не дазвалялі ні паварушыцца, ні падняць рукі: птушыная гамана адразу ж узрастала да гучнасці зводнага духавога аркестра.

Пасля некалькіх марных спроб птушаня стала-такі на лапы і зляцела пад куст баярышніку. Галкі адзначылі гэты мужны заход крыкам зусім іншага тону, нечым накшталт: «Ага! Наша бярэ!» Аднак, калі я памкнуўся падсадзіць іхняга выхаванца на куст, не зразумелі намераў і не далі: зноў падняўся такі самы лямант.

Праз нейкія паўгадзіны птушкі разабраліся па сваіх камінах і нясвіжскіх сядзібах. Каля подлетка засталіся толькі бацькі. Пад самым носам у малога яны пачалі паказваць майстэрства лёту, узляталі і садзіліся, усё падбівалі ў паветра.

І спакусілі-такі! Птушаня падбегла, не вельмі зграбна замахала крыламі — і паднялося.

*

Канчаецца сакавік. Быў сёння за горадам. Маладая вадзіца падмывае снег, памагаў ёй кійком сцякаць у разоркі. З неба ўпала чыстая кропля, гук, які ні з чым не зблытаеш, ні з чым не параўнаеш. Такі, што толькі да па́ры і гэтай маладой вадзіцы, і кавалачку незахмаранай сіні́зны над галавой.

Жаўранак!

Пяе, і хоць бы што. За нейкіх паўтара дзесятка кіламетраў ад мільённага горада з мільёнам камі-ноў — фабрычных, дамовых, машынных, у якіх свая песня і свой клопат — пашы́рыцца і захапіць над сябе гэты кавалачак лесу, поля і неба над імі.

Пяе, даючы болей радасці, чым сустрэча з другам, з добрым радком, з вясёлымі жаночымі вачыма.

*

Улетку сініц не відно і не чутно. Але вось аднойчы, золкаватай раніцай, ідзеш з ручніком цераз плячо на рэчку і раптам, з-за якой-небудзь агароджы, такі знаёмы, празрысты і светлы напамінак:

— Пінь!

Вось і сама красуня! У шэра-чорнай жакетцы, надзетай на жоўтую блюзачку. Пераскочыла з калка на калок і зноў:

— Пінь!

Тады толькі ўспамінаецца, што лету — канец. Кроплямі шызай расы на зямлю апаў верасень, у садзе дазбіраюцца антонаўкі і дацвітаюць вяргіні. Неўзабаве першы маразок.

Восень падкрадаецца неўзаметку. Так і ты, апошняя пара чалавечага жыцця. Толькі-толькі, здаецца, шумеў, поўны сяброўскімі галасамі, лес.

І — пінь! І ты ў адзіноце.

*

Калібры віе гнёзды нават на тэлеграфных правадах, выседжвае дзяцей і потым корміць іх адна ў самоце. «Тата» адразу ж шукае новага кахання.

Гэта птушка робіць каля васьмідзесяці рухаў за хвіліну, і таму павінна без упынку есці. Інакш — праз гадзіну памрэ з голаду. І на выгляд такая далікатненькая, лёгкая, быццам пушынка.

У сэнсе забеспячэння на заўтрашні дзень — аналогій шукаць недалёка. Амерыканскі бізнесмен жаліўся: хочаш нешта зарабіць, завіхайся мудрэй за калібры. Нашто пярэчыць, і яму завіхацца трэба. Толькі не ад голаду. Дый хараство не тое.

*

На Кубе жыве беладзюбы дзяцел, ад дзюбы да хваста каля паўметра. Ліней назваў яго principales — князёўскі, цудоўны.

Калі я бачу аднаго чалавека, белатварага, ухарчаванага, у чорнай пары, з беласнежным каўнерыкам, сэрца заходзіцца ад радасці за чалавечую пароду! А разявіць рот — і мовы, як у таго дзятла: тук-тук!

*

Краб-баксёр мае дзве клюшні: маленькаю есць, а вялікаю адбіваецца, вабіць крабіху і выстаў-

ляе з вады, нібыта вітае вясну. Прырода, як і заўсёды, вырашыла мудра: будзь добра ўзброены для абароны жыцця і кахання, а пад'есці — хопіць і меншае лапкі.

Успомнілася гэта за акіянам, дзе некаторыя гатовы адгадаваць трэцюю руку, каб пабольш і як найхутчэй нахапацца.

*

Дзве пажылыя жанчыны сядзяць на скверы. Амаль каля ног у іх, на мураўцы, верабей корміць жаўтадзюбага свайго нашчадка. Нешта ціўкае, навучае малое...

— І што, вы думаеце, ён расказвае? — пытаецца адна жанчына ў другое.

— Каб жа тую мову разумець!

— А што вы сваім дзецям расказвалі? Казкі. Вось і ён таксама. Перадае казку, што бярэ пачатак ад ягоных прапрадзедаў.

— Ну і якую ж?

— «Вось быў некалі час,— гаворыць ён.— Гэтыя смярдзючыя машыны, ад якіх нічым не пажывішся, рэдка калі бегалі. Па вуліцах ездзілі на конях... Што такое конь? Я і забыў, што ты не ведаеш. Вось падрасцеш, злётаем у прыгарадную гаспадарку, там пабачыш. Конь — гэта на чатырох нагах, як наш вораг — кот ці сабака. Толькі многа большы. Бяжыць і губляе на брук круглыя камякі. А з іх ідзе пара і ўсярэдзіне трапляюцца зернеткі аўса. І пад'ясі, і награбешся ў цёплым». Вось і ўся яго казка...

— У кожнага свая праўда і свой размах. У вераб'я таксама.

*

Вечарэе. Яшчэ добра відно, як заўсёды пад канец мая. Садок каля даўжэзнага дзесяціпавярховага дома: пладовыя дрэвы, і за завяззю на іх не відаць лісця.

Маладыя людзі на лаўках старанна абціскаюць адзін аднаму рэбры. Па траве, ад лаўкі да лаўкі, цягаецца валачашчы кот, ён тут старажыхар і мае сабачае імя — Рэкс. Жыве тым, што застаецца з за-

кускі ад ахвотнікаў выпіць у зялёнай засені. Вось і цяпер шукае.

— Рэкс! Рэксік! — кліча з аднае лаўкі дзяўчына.

Кот выгінае спіну, падчапурваецца і абдарае з-пад вусаў нечым падобным да кашэчае ўсмешкі. Але ні ў дзяўчыны, ні ў хлопца няма нічога ■ ежыва. Выходзіць, дарэмна пасміхаўся.

Рэкс падышоў да скамечанай газеты, грабянуў лапаю, узбіў на кіпці паперыну. Як на відэльцы, паднёс да носа, панюхаў: нічога вартага!

І, грэбліва абтросшы лапу, пасунуўся далей.

*

Па глыбакаватым рове, выкапаным наўкол старога замка, плыве лебедзь, белы даўгашыі прыгажун. Людскуецца перад разявакамі, што гадзінамі тырчаць на мосціку, велічны, дужы, безудзельны. І здаецца: плывуць два лебедзі — ён і яго адлюстроўка на вадзе.

Ляніва зварухнуў лапаю, пасля другою і неўзаметку апынуўся каля самага берагу. Выцягнуў гнуткую шыю і ўсутыч падплыў да чорнага ірландскага качара з чырвоным, як у пеўня, падбароддзем. Паглядзеў, прымерыўся, ляснуў таго дзюбай па чубатай патыліцы і сеў сам на ўгрэты качарам камень.

Што ты яму зробіш — дужэйшы! Толькі пасля гэтага лебедзь здаўся не такім ужо і прыгожым.

*

Ліпнёвая паўднёўка. Гарачыня, паветра здаецца густым, як быццам горад раптам падплыў у нейкай белавата-блакітнай смузе. Усё знясілела і знерухомела, ніштo нідзе не шурхне, нават лісток на неспакойнай прырэчнай таполі і той не можа зварухнуцца.

Адзін толькі верабей бадзёра скача па асфальтаванай алейцы. Кожны дзень яна моцна ўграваецца, і травінкі, што звісаюць на ўскрайкі асфальту, вянуць і пакрысе падсыхаюць.

Але верабей, відаць, ваяка бывалы — галава ў яго добра карычневая і гальштучак чорны, як нале-

жыць,— не першы год жыве на свеце. Заклапочана сіліцца адарваць сухую травінку — не паддалася, зацiснуў меншую ў дзюбку — не ўпадабаў і кінуў: малая ці шорсткая.

Намеры птушкі не пакідаюць ніякіх сумняванняў: недзе шыкуецца гняздо.

— І што ты сабе думаеш? — цішком пачынаю распытваць, калі верабей упадскочку набліжаецца да лаўкі, дзе я хаваюся ў цяньку.— Сабраўся, брат, будавацца, а лета — у палавіне. Суседзі твае, пэўна, ужо дзяцей жэняць або замуж аддаюць. На што ты спадзяешся?

— Жыць! — ціўкнуў верабей і павалок выскубеную нарэшце травіну.

Няйначай, ён адгуляў ужо ўсе вяселлі сваіх першых, вясновых дзяцей.

*

Міколка ляжаў хворы і ўсё прасіў новую казку. Бабулька апынулася ў скрутным становішчы: запас вычарпаўся. Давялося расказваць легенду пра нараджэнне Хрыста, як цудоўныя людзі валхвы прыйшлі ў горад Віфлеем.

Вечарам хлопчык пачаў усё пераказваць бацьку. Бабка ўмлела: пачнуць ушчуваць, што задурвае малому галаву.

— Ведаеш, тата,—расказваў Міколка,— Хрыстос прыехаў у горад. Да яго прыйшлі і кажуць: «Няма халвы». А ён гаворыць: «Нічога, я вафлі ем».

*

Маладыя людзі перад Новым годам прыйшлі ў магазін купіць віна і цукерак. Хвост даволі доўгі, пасоўваецца марудна. Можна пагаварыць.

— Што такое ка́са? — глыбакадумна пытае адзін.

Другі не губляецца:

— Будачка са шкла з касавым апаратам, дзверцамі для пераказвання плётак сяброўкам і акенцам для лаянкі з пакупнікамі.

— Стаўлю пяць.

Абодва рагочуць.

— А што такое касірка?
— Па-першае, не што, а хто.
— Можна сказаць і ш т о. Касіркі бываюць некалькіх гатункаў: магазінныя, устаноўскія і ніякія...
— Як гэта?
— А вось так. Стаіць стол, звычайны, на чатырох ножках. Пры ім — нікога, ніхто не стаіць і не сядзіць. А самае галоўнае — ляжыць...
— Разумею: ведамасць на зарплату і грошы...
— Правільна! Распісвайся, адлічы, колькі табе належыць, і тупай у «Гастраном» выпіць таматнага соку.
— Можна і наадварот...
— Спачатку выпіць?..
— Ну, без грошай не вельмі... Можна спачатку адлічыць грошы, а потым распісацца.
— Так, але што ж такое касірка?
— А што, па-твойму, сядзіць у касе, чытае кнігу, пудрыць нос і крычыць цераз увесь магазін: «Маня, вымя ёсць?»
Хлопцы не заўважылі, што дайшлі да касы. Касірка, учуўшы апошнія словы, абураецца:
— А ў нас і вымя ніколі не бывае... І на мясе не Маня, а Каця стаіць... От вазьму ды не выб'ю вам мазгоў...

*

Пачатак сорак шостага. Скрозь — сляды вайны. Жывецца не так цяжка, як горка. Вочы плачуць, і многія няўцешна. Цяпер ужо не ашукае надзея: тых, што не прыйшлі, не дачакаешся ніколі.
Калгасная хата, яна ж і клуб. Душна, цесна. Адны бабскія хусткі. Ражкі іх часта падносяцца да вачэй, хоць, як я разумею, чытаем мы дрэнна, і вершы дрэнныя. Выхвальныя, з пазычоным аптымізмам. Можа таму і ўціраюцца вочы: праз неадпаведнасць таго, аб чым пішам, і таго, што ёсць.
Пасля чытання праводзяць старшыня калгаса і жанчыны, брыгадзіры ці звеннявыя. Адна, у нізка завязанай на лоб хустцы, гаворыць:
— То ашчэ прыязджайце!
Па гэтым «ашчэ» пазнаю зямлячку, случчанку.

— А унь таго...— яна падымае вочы на самага рослага і прыгожага з нас, ён перад партызанствам служыў у флоце,— унь таго і пакінуць можна...

І ўжо зусім весела, задзіраючыся, дадае: — На семяно.

*

Снежны перадранішні прыцемак. Ціхі час, калі яшчэ не папрачыналіся людзі і машыны, і паветра чыстае, пахне падмёрзшым сокам лістаўных дрэў.

З цэнтральнага скверыка, проста ад бюста Купалы, выкацілася на вуліцу нешта-нейкае: круглы скрутак вопраткі і крыж-на́крыж завязаных хустаў.

Праз хвіліну гэтае нешта аказалася румянай ад марозу бабуляй і свежым голасам прамовіла да мяне:

— Дзед, ідзі сюды!

Слухаюся, іду.

— Абабі з мяне снег... О, так, так. І адкладзі каўнер. Я сама не дастану.

Выйшаўшы пад вулічны ліхтар, агледзела мяне больш уважліва:

— А цяпер завядзі мяне ў царкву. І ты ж, мусіць, туды, на ютрань.

Нагадвае, што сягоння 15 лютага, Стрэчанне. Бабка глядзіць на мяне не толькі як на аднагодка, але лічыць аднадумцам:

— Рана ўстаеш? Не спіцца старому... Грахі ўспамінаюцца. І мне — таксама.

*

У гарадскім садзе, якраз на тым месцы, дзе да вайны стаяў дом Коласа, пабудаваны планетарый. І гэта хораша! Адсюль паэт бачыў радзіму, адчуваў свет, тварыў новыя светы сам. А зараз тут кожны дзень думаюць сотні падлеткаў, сочачы за рухам светаў у касмічнай прасторы.

І не можа быць, каб не вырасла з іх хоць яшчэ аднаго Якуба!

*

Перад саменькай вайною я вельмі бярог адзін перакладны раман. Назвы і аўтара не помню. Не ведаю таксама, аб чым пісалася там: далей пачатку чытанне не ішло: кніжка была найлепшым сродкам ад самай лютай бяссонніцы.

Пасля раман дзесьці згінуў. І хоць мы аж пасюль завалены такога тыпу прадукцыяй, у доўгую асеннюю ноч не-не дый пашкадуеш:

— А той, здаецца, быў ямчэйшы, на дзесятай старонцы валіў у сон.

*

Леў Талстой скончыў чацвёрты том рамана «Вайна і мір» у студзені 1868 года, а ў сакавіку кніга выйшла з друку.

— Мы плануем свае кнігі за два гады наперад, а здаём у выдавецтва за год да выхаду,— жаліцца празаік.— Страшэнная несправядлівасць! Анахранізм!

Як быццам акажыся цяпер Талстой, дык не было б яго творам зялёнай вуліцы!

*

Ад дзядоў і прадзедаў-паляўнічых кабеціне дасталося ўдалае прозвішча — Бабёр. Але з бялявае мызы яна была падобна да цялушкі, а злосці ў яе хапіла б на ўсурыйскага тыгра.

Муж утрымаўся пры ёй адзін толькі тыдзень.

*

Газета, якой трэба было б быць граматнай, у артыкуле крытыка павучае маладога пісьменніка і піша: М а р ы л е в а хата.

Паслухаўшыся такой навукі, малады аўтар пачне, чаго добрага, пісаць не Марыля, а Марыль.

*

Ёй, мусіць, было за восемдзесят, той бабцы. Карэнная масквічка, жанчына шырокай косці і нялёгкага характару, яна так і засталася непісьменнай. Але трымала ў руках увесь дом у Замаскварэччы, дакладней, вялікую шумную кватэру, дзе і мне давялося з паўгода праспаць на высокім старасвецкім куфры.

Сыны, дочкі, унукі і праўнукі хадзілі па струнцы, разам садзіліся за стол і, пад'еўшы, дзякавалі бабцы, хоць яна даўно не кухарыла.

Бабка любіла, каб яе слухалі. Яна расказвала мне многа і ахвотна. Аднойчы цэлы вечар я слухаў гісторыю забойства вялікага князя, таго самага, пад каго шпурлянуў бомбу Іван Каляеў.

— Я прыбегла ў Крэмль, пытаюся: «Каго забілі?» А гарадавы і адказвае: «Каго трэба, таго і забілі».

Я казаў ужо, бабка была непісьменная, пераказваць не раз паўторанае ў друку не магла.

Яна сапраўды была відавочцам. Выходзіць, тыя словы так і сказаліся.

*

На сходах вялікага дома пацягнула паленым.

Тады заўважылі, што з-пад адных дзвярэй на трэцім паверсе выпаўзае дым. А гаспадароў кватэры няма дома.

Пакуль дарослыя войкалі, раіліся, званілі ў пажарную, шасцікласнік Сяргей узлез па трубе на балкон, выбіў шыбу і выкаціў з кухні газавы балон.

Управіўшыся з агнём, пажарнікі абвясцілі падлетку падзяку, і ён стаў прыкметнаю асобаю ў двары, хоць да гэтага ўсе махалі рукою: хлопец ні да гульні, ні да навукі, расце, як трава.

— Як ты дадумаўся, Сяргей? — пачаліся роспыткі.

А ён не ведаў, што адказаць.

Чалавек раскрываецца нечакана і заўсёды праз учынак.

Цяпер Сяргей выпрабоўвае новыя самалёты.

*

У горадзе абвешчана паветраная трывога. Чубаты малады чалавек прыбаўляе кроку і заходзіць на пошту. Насустрач яму з акенца ў драцяной агарожы ўсміхаецца дзяўчына з нечакана дзіўнымі, нейкімі сталёвымі вачыма:

— Вашы лісты яшчэ не дайшлі.

Хлопцу, як відаць, нялёгка паверыць у гэта, і ён у непаразумеласці марудзіць каля акенца. Карыстаючыся тым, што ўвага паштавікоў і наведвальнікаў адцягнута на беганіну асаавіяхімаўцаў у супрацьгазніках, дзяўчына ціха гаворыць:

— Заўтра я пайду ў адпачынак, і вы атрымаеце цэлы пачак гэтых лістоў. Мне не хацелася перадаваць іх вам. А вы ходзіце цэлы месяц і нічога на свеце не бачыце.

Хлопец глядзіць на яе вялікімі вачыма.

— Заўтра я выязджаю адсюль. Мой адпачынак скончыўся,— адказвае ён.

*

Стары грэецца на прызбе і нездаволена бурчыць, адкуль у мяне цікавасць да ягонага суседа:

— У яго веку ўжо ўсе коні паздыхалі...

— А колькі ж яму гадоў?

— Ды налета 82 будзе.

— А вам, дзеду?

— За два месяцы 90.

*

Маленькаму Валодзю страшэнна не хочацца ехаць у горад, і ён выдумляе розныя прычыны, каб застацца на дачы. Бацька няўмольны.

— У. мяне галава баліць,— выкладае чарговы козыр Валодзя.

— От і добра, у горадзе мама да доктара павядзе.

Не, гэтая выдумка можа скончыцца непрыемнасцю. Пачнуць ставіць градуснік і, чаго добрага, пачастуюць рыцынай.

Валодзя доўга думае над новым аргументам. Ад напружання сцягваецца скура на лбе і маленькае ружовае вуха раз-поразу пасмыкваецца.

Ён успамінае, што бацька нядаўна купіў паляўнічую стрэльбу, ганарыцца фірмай і выхваляецца перад сябрамі. А яму, Валодзю, толькі раз дазволіў патрымаць у руках. Выспявае геніяльны ход.

— Тата, мы ўсе паедзем, а як жа стрэльба тут адна застанецца?

— Не твой клопат!

Бацька пачынае злаваць, і тады Валодзя абдымае яго абедзвюма ручкамі і шэпча, мяшаючы словы са слязьмі, тое, з чаго трэба было пачынаць просьбу:

— Татачка! Ну нашто мне ехаць, калі не хочацца?

Бацька пасміхаецца:

— Добра, бяжы гуляй.

*

Некаторыя прозвішчы адказваюць на запытанне — чый: Іванаў, Пятроў, Сідараў, несучы ў сабе родавую адзнаку. Другія мовы выбралі іншы шлях. Яны пытаюцца ў чалавека: хто ты? І адказваюць: Кравец, Шавец, Каваль, Млынар, Рыбак. Гэта — прозвішчы працоўныя, у іх няма гонару родам, а гонар тым, што ўмею рабіць і перадаю ўмельства ў спадчыну.

Па занятках бацькоў называлі сябе і сыны: украінскія Каваленкі і беларускія Кавальчукі, Млынарэнкі і Млынарукі, хоць і не ўмелі ні адкаваць падкову, ні змалоць збожжа.

І ўжо зусім бязлітасна, ідучы следам за сваімі законамі, мова выкрывае не толькі прафесіі і заняткі, а і гісторыю сямей, тое, чаго не хацелася б паказваць на людзі. Быў багаты чалавек, прозвішча яго паглыналася мераю багацця, укладзенага ў слова пан. Так яго і звалі. А збяднеўшыя сыны, дробныя панкі, а то і панскія байструкі сталі звацца Панкоўскімі, Паночнікамі, Пaненскімі, Панскімі і нават Падпанскімі.

*

Пятра Канцавога паставілі вартаўніком. 70 год чалавеку, хай спачне. Сяк-так ён працягнуў на новай пасадзе паўгода, а вясною прыйшоў да старшыні:

— Можа б мне, Мікалайка, лягчэйшую работу?

Той адмахнуўся:

— Няма лягчэйшай. А якую б ты хацеў?

— Ды я касіў бы!

Так мы і засталі яго на касьбе канюшыны ў калгасным садзе. Станавіты, з белай барадою, ніяк не прыгнуты гадамі. Доўга вагаўся, пакуль даверыў мне касу. Даў, але мянташыць не дазволіў, вастрыў сам. Потым паглядзеў на пракос, чмыхнуў:

— Глядзі ты, не забыўся касіць!

*

Нядаўна перакладаў Сыракомлю. Неспадзеўкі напісалася: «Няхай стаіць **аднанож**, як бусел». Ніколі не чуў гэтага слова, але ж недзе ёсць ці можа быць яно ў глыбіні мовы, іначай не ўсплыло б так лёгка. На ўзор вядомага, праўда, крыху застарэлага: паехаў **аднаконь**.

Шырока пайшло прыслоўе **аберуч**, ёмкае, лаканічнае. А вось у Максіма Гарэцкага бліснула нечаканае: «стаў **абенаж** на дол». І адразу стала ў гурт сваіх, найбольш улюбёных. Можа таксама не было пачута гэтае слова, а выйшла само з-пад пяра.

*

Ірынка яшчэ ў школу не ходзіць, але ўжо чытае. Дзве цёткі, якія дзьмуць не надзьмуцца на адзіную пляменнічку, вырашылі змалку прывучыць яе і да нямецкай мовы. Ірынка тыдзень цярпела, потым запрасілася:

— А можа не трэба гэтай нямецкай. Вучыце мяне той, што радыё гаворыць.

З галасніка чулася беларуская перадача.

Горнецца дзіця да сваё мовы, хоць і не ведае, як назваць яе.

*

Мароз, глыбокі снег. Дзядзька выбраўся па дровы за Старобін і пакінуў дома малое жарабя. Каб не перасільвалася, туды ж кіламетраў з дванцаць.

Ён даганяе мяне сярод поля і падвозіць да раёна. Кабыла не хоча ісці, за кожным крокам іржэ і азіраецца, ці не дагнала часам жарабя.

— Н-нэ! — злуецца дзядзька.— Што ты думаеш, там без цябе трэскі ядуць?

А памаўчаўшы дадае:

— Не была б то маці. І жывёліна, а трывожыцца па малым.

*

Замуруй, муляронак,
Мае чорныя вочы,
Каб не шукалі
Іншае па́ры
А ні ўдзень, а ні ўночы.

Толькі народ можа так сказаць аб вернасці: проста і хораша!

І зусім адваротнае:

Як учора, дык і ў вусенкі,
А сягоння — нічагусенькі...
Як учора, дык бяжы на караваць,
А сягоння — ах... ідзі ж ты араць...

*

У Гданьску ладны кавалак Балтыйскага мора накрыты памостам з дубовых брусоў. Паміж імі даволі вялікія шчыліны — бяда для жаночных «шпілек». Наша спадарожніца з Таварыства польска-савецкай дружбы ступае вельмі ацярожна.

На памосце людзі загараюць, купаюцца, слухаюць музыку. Насустрач чалавек. Вельмі паважнага веку, у крыху пакамечаным гарнітуры. Ягоны кій з грукатам ляціць на памост. Чалавек з натугаю падымае і зварочваецца да нас:

— Proszę powiedzieć, jestem czy nie jestem? (Скажыце, я існую ці не існую?)

У нас таксама ўзнікае філасафічнае пытанне, колькі і чаго трэба нюхнуць, каб засумнявацца ва ўласным існаванні.

*

Маці бурчыць на дачку, што не можа даць рады дзіцяці.

— Ну, бо як ты яго трымаеш? Ні спавіць, ні памыць не ўмееш. Вас пагадавала, а цяпер унукі гадуй...

— А што я табе казаў! — пакеплівае збоку дзед.— Трэба самім за ўнукі брацца.

*

Купэйны вагон у цягніку «Ленінград — Брэст». Па вузенькім калідорчыку лётае сюд-туд хлапчына гадоў трох, сама меней. Тупае так, што, глядзі, падэшвы адскочаць. Каля дзвярэй нашага купэ, прываблены апельсінамі на століку, спыняецца і, вядома, атрымлівае жаданае. Мордачка заззяла, схапіў, прыціснуў да грудзей, і зноў дробна затупацелі ножкі. Праз хвіліну вярнуўся і моўчкі паклаў каля мяне цукерку — аддзячыў.

— Як цябе зваць? — пачынаецца самая што ні на ёсць банальная размова.

— Міхаліл Паваліц!

— А з кім ты едзеш?

— З мамай і татам.

Праз акно відаць, што цягнік на суседнім пуці пачаў рухацца.

— Ну, што ты, Міхаліл Паваліц! Твой тата вунь ужо ў тым цягніку паехаў.

Мордачка ў малога насупліваецца, ён робіцца падобны да пічанюка, пад носам у якога ўзляцела птушка.

— Пабіду і пагіду! — выпальвае ён і знікае.

Таня, старэйшая сястрычка, перакладае:

— Ён кажа: пабягу і пагляджу! — І бязлітасна дадае: — І ніякі ён не Міхаіл Паўлавіч, а Валера. Гэта тата наш Міхаіл Паўлавіч.

*

Марылька хадзіла з сваёю цёзкаю, бабкай Марыляю, пазваніць у горад маме Іне. Тэлефон быў на пошце, у доме адпачынку.

Там у ляску адпачывальнікі дагульвалі апошні вечар перад зваротам на працу, палілі кастры, спявалі песні.

Дым слаўся па вільготнай зямлі акурат пад ногі Марыльцы. Яна ішла, трымалася за бабчыну руку і ўсё азіралася на вясёлыя галасы хлопцаў і дзяўчат, не магла адарвацца ад ружавата-сініх языкоў вогнішча.

Вяртаючыся назад, бабка з унучкай нават крыху прыстоялі каля крайняга вогнішча. Марыльку абвеяла смольным дымком, і дома, кладучыся спаць, яна ўсё чула не адмыты ад рук і тварыка гаркаваты пах сасны:

— Бабка, а заўтра мы пойдзем у д ы м адпачынку?

*

У 1811 годзе кароль Хрыстафор — на жарт ці на здзек — даў свайму міністру замежных спраў тытул — граф дэ ля Ліманад. На Гаіці да гэтага часу адна мясціна так і называецца — Ліманад.

Дзяўчынка, п'ючы салодкую жыжку пад гэтай назвай, выслухала і спытала:

— А што, той міністр быў падобны на бутэльку? — Хвілінку падумала і дадала: — Не, напэўна, ён умеў салодка гаварыць.

Для першакласніцы не так і блага. Я пачаў расказваць далей, заглядаючы ў часопіс:

— У 1931 годзе на Гаіці ў 361 школе было 997 парт — усяго. Школамі загадвала... Міністэрства сельскай гаспадаркі! Працавала 355 настаўнікаў: 257 з іх — не ўмелі чытаць, а 288 — не ведалі чатырох дзеянняў арыфметыкі. Чаму вучылі?

Малая прыняла гэта без асаблівай цікавасці.

— І наша настаўніца, відаць, столькі сама ведае.

— Адкуль ты гэта ўзяла?

— Бо яна ніколі нічога не расказвае, толькі да нас чапляецца, пытае ўсё.

Вось і паспрабуй пасля гэтага чым-небудзь падзяліцца з моладдзю!

*

З выглядам пераможцы Міхасёк абвяшчае старэйшаму брату:

— Мне паставілі двойку, а заўтра кол прынясу.

— Значыць, ты нічога не ведаеш.

— Дзівак ты! Гэтак жа трэба: пяцёрка, чацвёрка, тройка, двойка ў мяне ёсць, толькі кала не хапае.

*

Кожнага, хто прыходзіў да іх у дом, Уладзік сустракаў з парога:

— А вы можаце пачухаць левай нагою за правым вухам, як шабака?

І, пачуўшы адмоўны адказ, сядаў на падлогу і з задавальненнем паказваў, як гэта робіцца.

*

Алесік не ўмее чытаць, але гартае кніжку і — каб хоць дзе памыліўся! — называе намаляваных там звяроў і птушак.

Бацька цешыцца, верыць і не верыць, калі і як назбірваецца столькі навін у віхрастай галоўцы.

— А гэта цецярук! — маленькі палец упіраецца ў новую старонку.

— Можа не цёцярук, а дзядзярук,— выпрабоўвае дзіцячую памяць бацька.

Алесік ніякавее і напружана ўспамінае: няўжо ён паблытаў? Але ж тата не будзе гаварыць абы-што. Хлопчык забірае кніжку і бяжыць у другі пакой. Вяртаецца ён з вясёлымі вачыма.

— Лявон сказаў: цецярук. А ты, мусіць, ніколі ў лесе не быў і птушак не бачыў. Дзядзярук! — Алесік звонка смяецца.— Можа яшчэ дзюдзярук!

Лявон — старэйшы брацік, вучань другога класа. Вышэйшага аўтарытэту для Алесіка няма.

*

Славік бег з аўтакрамы за мамаю. Яна зайшла ў сваю браму і, не аглядаючыся на хлопца, загадала:

— Ідзі проста да рукамыйніка, будзем абедаць.

Але па дарозе трапіўся Венька, а ў Венькі ў скрыначцы сядзеў вялікі чорны жук, было чуваць, як ён шкрабае лапкамі па донцы. Памяняць жука на два каменьчыкі Венька не згадзіўся, а даць прыдачу ў Славіка нічога не знайшлося. Тым часам мама прачакалася. Наліўшы хлопцу талерку крупніку, агледзела дворык і гарод і выбегла на вуліцу.

— Ах, вось як! Ты мяне гэтак слухаеш?

Два гучныя плескачы разлучылі сяброў.

— Я табе яшчэ больш задам.

Абмываючы замурзаную мордачку, Славік хліпаў:

— Што ты ўсё: задам, задам! Гэта ж проста непрыгожа. Давай, але пaціху.

*

Каля ганка чысцілі рыбу, і на пах аднекуль з кустоў выпаўзла чорнае худзезнае кацяня. Слабое, голасу не магло адцягнуць, прасіла есці, разяўляючы мызачку без гуку.

Катка накармілі, ён пажадаў запіць вячэру: пачаў хлябтаць са слоіка раскалочанае ў вадзе мінеральнае ўгнаенне.

— Псік, што ты робіш, дурань! — спалохалася жанчына, каб не атруціўся хаця.

— Нічога, мамачка,— супакоіла малая Таня,— тата гэтым паліваў бурачкі, і яны вунь якія добрыя. Можа і каток падрасце.

*

Марынка дурэе ў аўтобусе. Мама — зморaная, каб утаймаваць дзяўчынку, расказвае казкі і цікавыя здарэнні пра качку-спявачку, катка-лапатка і кароўку-сяброўку.

У Марынкі на хвіліну ажывае цікавасць. Яна пачынае перапытваць, але маміны выдумкі робяцца такія самыя квяцістыя і неверагодныя, як і яе, Марынчыны.

— Мама! Ну і фантазёрка ж ты стала,— кідае малая і змаўкае, ашаламоненая выбухам вясёлага смеху пасажыраў.

Яна глядзіць у акно. Нядаўна прайшоў дождж, асфальт мокры, з-пад колаў аўтобуса разлятаюцца пырскі. Дзяўчынка нешта спакмячае, потым пытаецца:

— Гэта мы па рацэ едзем? Па рацэ, мамачка? А чаму?

*

Хлопчык доўга сядзеў над малюнкам, відавочна, застаўся здаволены і панёс паказваць бабулі. Тая зірнула, прачытала подпіс: «Паляўнічы са стрэльбай і сабакам».

— Ілючок, а дзе ж сабака?

— А во, бачыш ланцужок?

— Бачу.

— А на сабаку паперы не хапіла.

*

Кожнай раніцы ў двор прыходзіла бліскучая блакітная «Пабеда». Саша зажмурваўся ад нецярплівасці дазнацца: адкуль і чаго яна сюды? Потым прыкмеціў, што ездзіць на ёй таўставаты стары чалавек з суседняга пад'езда. Зрэшты, гэта яму мала абыходзіла. От каб звесці знаёмства з шафёрам! Магчыма, дазволіў бы падсесці, а можа нават выехаць са двара!

Як клічуць шафёра і дзеда, што ездзілі на машыне, Саша дазнацца не мог. Звяртацца проста «дзядзя», без імені, чамусьці здавалася няёмка. І Саша прыдумаў. Дачакаўшыся, калі шафёр паставіць машыну ў цянёк і адчыніць дзверцы, ён выбягаў з-за нізенькай агароджы, што бараніла пасохлыя кветкі дворыка, і крычаў:

— Добры дзень, машына!

*

Прыйшоў Гена. Вельмі грунтоўна апрануты хлопчык. На дварэ сакавік, а ён у цёплай шапцы, балгарскім кажушку і ў цёплых чаравіках з галёшамі. Доўга распранаўся, абціраў ногі ў калідорчыку, потым зайшоў у пакой. І з парога абвясціў:

— Нам выдзелілі вас, прыходзьце да нас у школу.

З вялікага пэнту ўпацеў, размазаў рукой пот на лбе і палез па хустачку, бо і нос таксама завільгатнеў.

Неўзабаве высветлілася, што мяне «выдзелілі» настаўнікі беларускай мовы чацвёртаму класу не помню якой школы. А можа яно і няблага было б паразмяркоўваць пісьменнікаў па школах!

— А ты хто будзеш?

— Сувязны. Гена Шпак.

Гена застаўся піць чай і, даядаючы аўсянае пячэнне, паведаміў, нібыта раней веласіпедам называлі чалавека, які кіраваў машынай, а сама машына звалася веласіфер.

Назаўтра ён пазваніў:

— Я забыўся ў вас галёшы. Аддайце маёй маме.— Трубка памаўчала.— Бо іх можна і не насіць.

*

З масткоў штучнага возера бясконца скачуць хлопцы. Рукі наперад і проста ў ваду.

Паплаваюць крыху, вылезуць, паскачуць на адной назе і зноў назад, тым жа парадкам, што і раней.

Толькі і чуецца:

— Ганяй, Грыня!

— Націскай, Юра!

Абодва «ганяюць» і «націскаюць» блізка гадзіны. Асабліва завіхаецца Грыня, вельмі зграбненькі, быццам вытачаны.

За дзесяць крокаў ад масткоў, на сцежцы паміж возерам і паркам, не менш заўзята купаюцца вераб'і. Зарываюцца ў пясок, растрэсаюць яго ва ўсе бакі крылямі. Павыку́пвалі дужаватыя ямкі: ускочыць туды верабейка і не відзён! А ціўкае, падымае пыл, падлятае, дурэючы. Усяе і розніцы, што не клічуць адзін аднаго па імені: «Ганяй і націскай!» А можа і клічуць, толькі мы іхніх імёнаў не ведаем.

*

Малая Ксана. Дробненькая ростам як на чатыры гады, але круглая ў плечыках і з твару.

Дзядзька Цімох любіць пагаварыць, падражніцца:

— Ксана! Прыгожанькая, слаўная, разумная дзяўчынка.

Тая адразу бянтэжыцца і цягне да вачэй падалок і так кароценькай сукенкі.

— Не распранайся, Ксана! — гневаецца бабка.— Надакучыў гэты стрыптыз.

Так малую і клічуць: Ксана-стрыптыз. Але равеснікі слухаюць і паважаюць яе. Дзяўчынка ветлівая, запрашае ў госці. Дакладна называе адрас: Ленінград, Неўскі праспект, нумар дома і кватэры.

— Я не магу заблудзіцца, я свой дом ведаю.

— А ў лесе ўчора хто роў? — падколвае Вова.

— Дык лес жа вялікі-вялікі. А Ленінград зусім маленечкі. Усе вуліцы простыя і ўсе людзі знаёмыя.

*

Гурык і Ліза прыехалі да цёткі Ганны ў калгас. Тая рада, не ведае, дзе пасадзіць, чым участаваць.

На снеданне наварана цэлы паўмісак яек, буйных, у жоўтым шалупінні.

Гурыку падабаецца заядаць такое ячка чорным хлебам са свежым маслам, добра пасыпаўшы зверху соллю.

— А ў вас яйкі — смачнейшыя. Чаму вы не даяце сваім курам знак якасці?

Жанчына не знаходзіць што сказаць: які знак якасці, куды павесіць яго пеўню або курыцы?

Здагадваецца маці малых: яны прызвычаіліся да гарадскіх яек. І лічаць штамп з датай выпуску ў продаж за знак якасці.

*

У Ліпачкі двое дзядзькоў: Кузя — з ім дзяўчынка ў дружбе, і Пятрусь — з гэтым як калі.

Кузя ажаніўся і пераехаў на новую кватэру. «Яго забрала Ніначка»,— растлумачылі малой.

Тым часам адносіны з Петрусём не наладжваліся, Ліпачцы пападала ад яго за пачэпаныя кніжкі і паперы.

Калі маладыя прыйшлі да бабкі ў госці, дзяўчынка папрасіла:

— Цёця Ніначка! Аддай нам дзядзю Кузю і вазьмі сабе дзядзю Петруся.

*

Бальніца. Па калідоры, з канца ў канец, сноўдаецца дробненькая постаць. Шэрая, мытая-перамытая піжамка — завялікая на гэта тулава, і здалёк не разабраць: дзяўчынка ці хлопчык схаваны ў ёй.

Хлопчык такі! Тварык — зялёны, вочы хваравіта паблісквакюць. Шыйка такая тонкая, як толькі трымаецца на ёй галава, відаць, таму яна і нахілена крыху наперад.

Чысты каласок на папары: самотны, заглушаны пустазеллем. Якім цудам вырас — і самому дзіўна.

Хлопчыку страшэнна надакучыла сярод незнаёмых, занятых кожны сваёю бядою людзей. Хочацца ў хатняе цяпло, хай сабе і мама пасварылася б. На возера зірнуць бы, хоць праз акно: хвалі ж якраз плешчуцца за парогам іхняга дома.

Малы чапляецца да кожнага сустрэтага: сястра — да сястры, санітар — да санітара, студэнтка-практыкантка — да яе: скажы, калі яго дамоў пусцяць.

Усе бягуць, усе спяшаюць, ніхто толкам адказаць не можа, але адзін пасміхнецца, другі — па галаве пагладзіць: мацуйся, хлопец.

Нарэшце ён трапляе да доктара, які загадвае аддзяленнем і сапраўды можа нешта вырашыць. Нізенькі, амаль квадратны, з бліскучымі і быстрымі, як у сініцы, вочкамі, доктар перапытвае:

— Дадому хочаш? А чаго ты там не бачыў?

Малы глыбока пакрыўджаны доктарскімі сумненнямі ў сур'ёзнасці і неадкладнасці спраў, што клічуць яго ў хату.

— Там жа ў мае сястры дзіця нарадзілася. Дык яны не будуць ведаць, дзе калыску павесіць. Яшчэ клетку са шчыглом парушаць.

*

Свецік узлез да прыезджага дзядзькі на калені, прыгарнуўся, угрэўся. Выпрасіў у таго казку, пасля другую і не хоча ісці ў ложак. Не слухае бабкі і дзеда. Сонным галаском дае дзядзьку ўсякія ласкавыя мянушкі — падлізваецца на трэцюю казку.

— Ведаеш, хто ты, ведаеш? Ты — зайчык.

Дзядзька згодзен на зайчыка, абы малы клаўся спаць. А хлопец — ані блізка:

— Ведаеш, хто ты? Ты — салавейка.

Так ён даходзіць да катка, пеўніка і нават кароўкі.

Бабка робіць устрывожаныя вочы:

— Хлопчанька, ты ж усе добрыя імёны раздасі. А хто ж я тады буду?

— Не бойся, бабка, і табе застанецца. Самае лепшае. Ты — слон.

*

Бацька прыехаў з работы і прылёг. Нават з Косцікам не пагаварыў — нядужыцца.

Увайшла маці, дакранулася да галавы хворага.

— Мамачкі, які ён гарачы! Костуська, бяжы да суседзей, папрасі градуснік.

Хлопец з усіх ног туды, выскачыў на лесвічную пляцоўку, націснуў званок і з парога:

— Градуснік! Давайце хутчэй, а то наш бацька астыне.

*

Ігар жыве ў агульнай кватэры. Ён прывык, што кожныя дзверы з калідора — гэта ўжо шлях у новую сям'ю. Таму ў трохпакаёвай кватэры свае цёткі, куды ён прыйшоў у госці, хлопчык адчувае сябе не зусім ёмка і спыняецца перад кожнымі новымі дзвярыма:

— А хто тут жыве?

Нарэшце дзверцы ў насценную шафу — і зноў тое самае пытанне.

— Снягурачка тут жыве! — адказваюць яму.

Хлопчык некаторы час глядзіць недаверліва, по-

тым узважвае, што дзверы ў параўнанні з усімі іншымі крыху меншыя. Магчыма, яму гавораць праўду пра Снягурачку. Але ж не можа яна жыць адна, і хлопец хоча высветліць усё дарэшты:

— А тата і мама яе таксама там?

*

Перасыльны пункт. Раскідаўшы раскошна ногі, ляжыць на нарах прысадзісты здаравяк з такімі сінячорнымі кудзерамі, што мімаволі закрадаецца падазрэнне ў натуральнасці іх колеру і кучаравасці. Твар, зарослы шчацінай не менш чым двухтыднёвага ўзросту, свіціцца ўсмешкаю. Чырвоненькія, наўздзіў малыя, як у дзіцяці, вусны разяўлены. Ён без упынку пяе: «Сидит ворон на стога, чужой кушает нога».

У такт песні падымаюцца валасатыя грудзі, на іх складаная татуіроўка: карты, нешта падобнае да жанчыны — аб гэтым здагадваешся па вялізных грудзях, што вывальваюцца з купальніка, і бутэлька — тут падабенства поўнае. Пад малюнкам мнагазначны подпіс: «Вось што нас губіць».

У адным з прыволжскіх гарадоў ва ўскраінным дамочку жылі двое старых. Чамусьці ўсе лічылі, што ў іх прыхавана золата. Гэты здаравяк прыйшоў удзень з сякерай і пачаў страшыць старога: «Аддай грошы». Той на каленях прасіўся: «Няма, добры чалавек». Махнуў сякерай і аглушыў. «І табе, бабка, тое самае будзе!» — «Галубок, няма ў нас золата!» — «Брэшаш». І пачаў цюкаць яе сякераю: «Не крычы, бабка! Я цябе, любенькая, пакрысе, паціхеньку...» Панівечыў абоіх і пайшоў з пустымі рукамі. А міліцыя следам знайшла два гладышы золата. Стаялі ў хаце, на лаве, прыкрытыя драўлянымі кружкамі. Нібыта з квасам.

На жаночай палавіне двара, адбітай некалькімі столкамі калючага дроту, да песні прыслухоўваецца жанчына [illegible] дачасна звяўшым, але ўсё ж маладым абліччам. Яна стаіць перад агарожай і трымаецца за дрот праваю рукою. На руцэ ад пляча да кісці — буйныя сіняватыя літары: «Кленус любит Колю».

Жанчына слухае летуценна.

Крыху воддаль — заслухалася другая жанчына, сястра першай. Сказаць — прыгожая — мала. Зграбная птушыная галоўка асаджана на шыі самых строгіх рысаў. Твар такі белы і вочы такія бліскучыя, хоць зажмурся. Цынічныя слоўцы і грубыя мужчынскія позіркі ніпчацца ў паветры, не далятаючы да яе. І вопратка — ужо забруджаная ружовая кофта і сіняя спадніца — здаюцца на ёй святочным уборам.

Гісторыю расказваюць цікавую, але, відаць, добра прыпраўленую выдумкай. Кажуць, гэта няўлоўная ўдзельніца шматлікіх афёр і махінацый. Усе спробы знайсці хоць якую зачапку, хоць маленькі слядок да яе не мелі поспеху. А тым часам следства даводзіла, што галоўную ролю, калі не кіраўнічую, дык у кожным разе выканаўчую, ва ўсіх злачынствах іграла падобная жанчына.

Надворна яна вяла жыццё зусім не падазронае, яно не выходзіла з рамак добрапрыстойнасці. Іграла невялічкія ролі ў скетчах на эстрадзе. З поспехам. Пад заслону сыпаліся кветкі. Пасля канцэртаў не адмаўлялася павячэраць у рэстаране, дазваляла праводзіць сябе, але толькі да дзвярэй кватэры. Не далей. Кватэрку, больш чым сціплую — адзін пакой,— дзяліла з далёкай сваячкаю, сястрою ў трэцяй стрэчы. Ніякіх збыткаванняў, простая з густам вопратка, тоненькі залаты пярсцёнак на мезенцы. Спробы распытваць яе паклоннікаў нічога не далі, ды не ў кожнага можна было папытацца: высакавата стаялі.

Раптам пасля адной асабліва дзёрзкай афёры крымінальны росшук насцярожыўся. Жанчына выявіла схільнасць выехаць з горада. Пайшлі чуткі, што яна выходзіць замуж за работніка вялікага будаўніцтва. Чуткі спраўдзіліся. Маладыя сабраліся адбываць на месца работы мужа, у адзін з прымежных раёнаў краіны. Была ўжо думка зняць нагляд, але чалавек, які не спускаў жанчыну з вачэй, сваім адумам пайшоў за маладою парою на вакзал. Іх ніхто не праводзіў, толькі сястра. Новаспечаны муж палез у вагон, а жанчыны затрымаліся на колькі хвілін — уцерці абавязковыя ў расстанні слёзы. Хаваючы хустачку, сястра дастала з сумачкі плітку шакаладу: «На, каб саладзей ехалася!» Хтосьці штурхнуў яе пад руку, плітка ўпала на платформу.

Работнік росшуку паспяшаўся падняць: «Глядзіце, і не пабілася, цэленькая!» Для пэўнасці ён абмацаў плітку: пальцы хутчэй адгадалі, чым адчулі нешта зусім не крохкае. Ён наважыў рызыкнуць, пайшоў на асабісты вобыск. Пад шыкоўнаю абгорткаю «Золотого ярлыка» хавалася валюта, з подшыўкі паліто дасталі пашпарт на іншае імя. Далей — болей. Пад грудзямі ў жанчыны пачварна чырванеў пісаг. Майстры дазнання вызначылі: след ад выведзенай татуіроўкі. Усё ж расчыталі не дужа прыстойны надпіс: «Напавер — нікому».

Па гэтай нітачцы і дакапаліся: яшчэ падлеткам жанчына звязалася з шайкай крымінальнікаў; тады на яе рахунку былі дзесяткі пакраж і рабункаў. Шайку пералавілі, а дзяўчына знікла і ўсплыла праз многа гадоў у постаці артысткі. Выходзіла замуж, намерваючыся ўцячы за мяжу.

Хто яго ведае, што тут праўда і што прыманена! Ва ўсякім разе, яе не выпускаюць на работы і, мусіць, павязуць у больш «надзейнае» месца. Бо, як сказаў апавядальнік гэтай гісторыі, «уцячы ёй — раз плюнуць». А пакуль што будзе, стварыўся не вельмі банальны трыкутнік: дзве сястры-аферысткі і кучаравы рабаўнік. І дзе толькі не прачынаецца яно, гэтае неадчэпнае, бязлітаснае пачуццё, нават тут, у лапіне прасторы, якую пільнуюць вартавыя і драты.

*

Гошка, архіварыус, клянецца, што ён выпісаў гэтыя прозвішчы з дакументаў:

Анна Алексеевна Там, Дуська Вновь, Надежда Ивановна Еще, Мария Михайловна Никогда, Таиса Александровна Перестань, Любовь Марковна Куда, Елизавета Никитична Добролежа, Александра Николаевна Безрук, Клава Нескем, Фаня Полуляг, Кузьма Петрович Масло, Арсений Петрович Будьдобр.

Трэба думаць, што Гошка прарабіў нескладаную махінацыю: да сапраўдных імён далучыў блатныя мянушкі, якія замянялі на пэўны час гэтым асобам іх прозвішчы. Нядрэнна гучаць яны і па-беларуску. Можна запрапанаваць каму-небудзь з празаікаў.

*

У далёкім сібірскім гарадку ад вакзала да гарадскога саду вуліца забудавана толькі з аднаго боку. Рыплівыя драўляныя тратуары. Жанчына пакаўзнулася і адарвала абцас.

На шчасце, поблізу шыльда: «Шавец М. Ігнаценка». Узрадавалася, зайшла.

Каля століка з шавецкім начыннем нерухома сядзіць чалавек у хвартуху.

— Тут шавец?

— Так.

— Можаце падладзіць чаравік?

— Не.

— Чаму?

— Сляпы.

— А нашто шыльда?

— Трэба зняць.

Гэта інвалід імперыялістычнай вайны. Трапіў пад газавую атаку немцаў. Спачатку, вярнуўшыся дамоў, пачуваў сябе добра, працаваў машыністам. Гадоў цераз пяць — адабрала ногі. Каб не сядзець без работы, купіў пару капылоў, рашпіль, шылле і пачаў калупацца ў шавецкіх справах. Толькі падвучыўся і стаў браць не адну наладу, а і новае шытво,— узяў аслеп. Працаваць не можа, але раніцаю спаўзае з ложка, надзявае хвартух і сядзіць пры варштаце ўвесь дзень. Уяўляе, што заняты. Усе ў гарадку ведаюць пра гэта і не нясуць яму работы, хоць шыльда па-ранейшаму вісіць на брамцы.

Сляпы ўгадаў у жанчыне прыезджую.

— Адкуль вы?

— З Масквы.

— А праўда, што там ёсць майстэрні, дзе сляпыя працуюць на станках?

— Не чула.

— Казалі, ёсць. Вясною паеду туды. Без работы ўмерці можна.

*

Калгасны брыгадзір спраўляў радзіны. Ведаючы шумлівы характар аднаго з гасцей — абавязкова

завядзецца з кім-небудзь на вуліцы,— завёў яго ў бакоўку і ўгаварыў прыснуць.

Бяседа ішла далей. Праз гадзіну ў дзверы бакоўкі загрукалі:

— Мужчыны, браткі! Я не магу так доўга піць адзін.

Госць быў запаслівы: прыхапіў з сабою чарку і да чаркі.

*

Жэнька сядзіць у дваровым садку на лавачцы, есць на поўную губу белы хлеб і матляе нагамі. Поруч з ім маладая жанчына лёгка пагойдвае ружовую калясачку.

— Што ў вас там? — пытае Жэнька з напханым ротам, сілячыся зазірнуць у сярэдзіну каляскі.

— Дзяўчынка, зусім маленькая дзяўчынка,— бянтэжачыся, адказвае маці.

Жэнька ловіць у адказе разгубленасць і суцяшае:

— Нічога, яшчэ з яе можа і хлопчык вырасці.

Як у ваду глядзеў! Бацькам вельмі хацелася мець сына.

*

30-я гады ў Заходняй Беларусі. Беларускае слова забараняецца і выкпіваецца ў школах і ўстановах.

Паўлік прыйшоў са школы.

— Што ў вас там было?

— Запісвалі, хто якога нараджэння. А я ўзяў ды прызнаўся, што беларус.

*

Над сасновым борам загусаюць сіня-белыя клубістыя воблакі, яны ідуць угору кучаравыя, падобныя на дрэвы. І, здаецца, глядзіш на дзве сцяны лесу: адна летняя, зялёная, а другая — зімовая, зашаранелая, завеяная снегам.

*

Камісійны магазін. Каля сцяны — дзіцячыя каляскі, чамаданы. Насупроць прылавак, за ім пазя-

хае, не ведаючы куды сябе падзець, прадаўшчыца.

Стараваты мужчына — адзін пакупец на ўвесь магазін.

— Выпішыце мне вось гэты чамадан,— паказвае ён прадаўшчыцы.

— Падай мне яго сюды,— лянiва камандуе тая.

Чалавек спрабуе крыўдзіцца.

— Што гэта за «падай»? І чаму я павінен падаваць? Хіба я таргую ў магазіне?

Прадаўшчыца заводзіць вочы пад столь:

— Вось хам! Я ж — жанчына.

— Праўда?

Чалавек шчыра здзіўляецца і выходзіць.

*

Спіпла апранутая жанчына, з выгляду і вымаўлення — калгасніца, просіць даць ёй набор пласцінак з операй «Яўгеній Анегін». Рылатае, расхарчаванае стварэнне, з пагардай нядбала кідае цераз плячо:

— Ёй трэба Анегін! Вось табе гапачок!

А поруч, у аддзеле тканін, вясковая бабка дзесяты раз просіць паказаць ёй аксаміт.

Акурат такая ж рылатая істота нарэшце абзываецца з-за прылаўка і перадражнівае:

— Аксаміт-ваксаміт! Многа ты ў ім разумееш! О, бяры мультан.

І гэта не ў стары час, не ў прыватнай краме дзенебудзь на даўняй Нямізе ці Камароўцы, а сягоння, у чыстым, прыгожым дзяржаўным магазіне.

*

Д. В. Грыгаровіч, аўтар «Антона Гарамыкі», занатаваў у запісной кніжцы размову беларускіх грабароў:

— Што вам за работу плоцяць?
— Кормяць.
— Ну, а грошы даюць?
— Паны бяруць.
— Што вы дадому прынесяце?
— Ды нічога.
— Як нічога? У вас жа ёсць жонкі і дзеці?

— Ёсць.
— А хлеб у іх ёсць?
— Нямашака.
— Што ж яны ядзяць?
— Нічога.
— Як нічога? Значыць, яны памруць?
— Памруць...

І яшчэ адзін запіс: калі бог хадзіў па зямлі і надзяляў людзей розумам, дык зайшоў і да Радзівілаў, але іх дома не было.

Не шкодзіла б помніць, што Грыгаровіч, здаецца ў «Літаратурных успамінах», арыгінальна падзяліў літаратуру на вертыкальную, тую, што праходзіць углыб сілаю свайго ўнутранога зместу, і гарызантальную, часамі бліскучую, але якая коўзаецца па паверхні.

*

На ферме здарэнне: сарваўся з прывязі завадскі бугай. Налётаўшыся з задраным хвастом, чацвераногае страшыдла абвясціла на дварэ асаднае становішча. Варта было каму-небудзь зрабіць крок на сядзібу, як бугай кідаўся біць рагамі загародкі, капаў рацiцамі зямлю і працяжна роў.

Нехта надумаўся абвесці здалёк жывёліну доўгаю вяроўкаю, аблытаць ногі, а можа ўдасца накінуць пятлю на шыю. Але бугай разгадаў чорныя намеры, угнуў галаву і прыпусціўся так, што незадачлівы ўтаймавальнік мімаволі зрабіўся чэмпіёнам свету па бегу на сто метраў.

Атрымлівалася нешта кшталтам сапраўднай карыды: на здарэнне збеглася палавіна калгаса. Апошні, як і належыць, з'явіўся тарэадор: старшыня, чалавек уладны, нялёгкага характару, які нават і думкі не дапускаў, каб хто-небудзь ці што-небудзь магло яго не паслухаць. Перш за ўсё ён прапёр на работу ўсіх гледачоў, а сам з плашчыкам на руцэ, нібыта сапраўды першая шпага Іспаніі, пайшоў проста на бугая.

Чалавек, якога пабойваюцца не толькі ў калгасе, а і ў раёне, няўжо ён не ўправіцца з жывёлінай з уласнай фермы? Але бугай не быў выхаваны ў духу

ўсеагульнай павагі да старшыні і не пажадаў падпадаць пад магію культу ягонай асобы. Як толькі старшыня наблізіўся і працягнуў руку да ланцуга, акідваючы вокам пераможцы баязлівых жывёлаводаў, бугай, які нейкі момант стаяў нерухома, ідаць, здзіўлены адважнасцю шчуплага чалавека, раўнуў і, не будзь дурань, прыціснуў нахабніка рагамі да агарожы. Тут на яго навалілася чалавек з дзесяць і забрыталі.

Самаўпэўнены старшыня, едучы ў вобласць лячыць памятыя бакі, ніяк не мог пагадзіцца з актам бугаінага непаслушэнства:

— Гэта ён мяне не пазнаў, падла!

Бугая было загадана прадаць, але здарэнне запомнілася. І калгаснікі пачалі смялей гаварыць з сваім старшынёю.

*

Цімкавец, бацька даволі вядомага артыста, прыехаў наведаць сына ў Маскву. І на вузенькім Арбаце проста заламаў з аднаго боку вуліцы на другі, не пільнуючыся пешаходнай дарожкі.

Міліцыянер падазваў яго да сябе.

— Плаціце штраф.

Дзядзька без слова, ведаючы, што задзірацца не варта, заплаціў.

— Дазвольце спытаць — за што?

— За тое, што вуліцу пераходзіў.

Цімкавец пачухаў патыліцу, крыху адышоў, але, як чалавек практычны, вярнуўся:

— Братка! А дзе тут дармова можна перайсці?

*

У ваенкамаце афіцэры запасу праходзяць медыцынскі агляд. На вазе стаіць невысокі журналіст, у якога ад прычоскі застаўся толькі смешны віхорчык-закрутак: спружына не спружына, каркоўнік не каркоўнік. Узважыўшыся, ён падыходзіць пад рэйку, дзе мераюць рост.

— Сто шэсцьдзесят два! — абвяшчае дзяўчына.

— Павінна быць сто шэсцьдзесят тры,— нясмела пярэчыць журналіст.

— На сантыметр стаптаўся.

Журналіст ніякавее і потым выціскае з вуснаў гук, які выражае найвышэйшую ступень здзіўлення:

— Ухм-хм-хм!

*

Пліній гаварыў пра Апелеса: Nulla dies sine linea (ніводнага дня без рысы).

Запавет са стажам! Але паэты ўсё роўна не пішуць кожны дзень. Можна меркаваць па прадукцыі: нават у вялікіх усё лепшае без лістоў і, галоўнае, без пульхных каментарыяў змяшчаецца ў аднатомніку.

Амаль усе яны гаварылі, што чакаюць вядомай залётнай птушкі, пары, калі «душа сціскаецца лірычным хваляваннем». Многія падавалі нараджэнне верша як цуд, не хавалі здзіўлення з уласнай работы.

Паэзіі спатрэбілася прайсці шлях ад Пушкіна да Купалы, каб выявіць чыстую праўду пра свае вытокі:

> Каса, і сякера, і цэп малацьбітны...
> Мне песню, як звон, як пярун, адлілі.

А калі чалавечая праца выклікае творчы настрой, дык і сам закасвай рукавы. Натхненне натхненнем, а зірні на чарнавікі Пушкіна або Лермантава: колькі там пошукаў адзінага, самага патрэбнага слова.

Дый не пішучы кожны дзень рука траціць пэўнасць, пачынаюць замінаць розныя назапашаныя ўражанні. Мерышся расказаць пра першую баразну, а думку перабівае жніво, журавіны на балоце. Ад гэтага адзін ратунак: узнаўляй абставіны, дзе заспела цябе першае ўражанне, першае перажыванне, выкліч на вочы ўсю тую карціну ў найдрабнейшых падрабязнасцях. Тады яна пяройдзе і на паперу.

*

Уся справа ў тым, каб знайсці слова, у якім бы з'явам вярталася іх першаіснасць.

Калі не можаш сказаць, як у шыбы паскробся першы вясновы дожджык, так, каб у пакоі адразу

папрастарнела, а кавалак паперы ў цябе перад вачыма воляй твайго цудадзейнага слова ператварыўся ва ўскраіну лесу, дзе маладая каза патупвае зграбным капытком,— лепш не брацца за пяро!

*

Нідзе не знойдзеш столькі адступленняў ад моўных норм, як у паэзіі. Аднак часамі такія адступленні робяцца нормай. Гэта ў тым выпадку, калі вершы піша Шаўчэнка або Купала.

А як стрываць той каляровы кангламерат, што выдаецца за мову, а ў сапраўднасці ёсць нуднае спалучэнне нахапанага са слоўнікаў і прачытаных твораў. І ніводнага слова, пачутага самім — на ўсё жыццё! — у маленстве.

*

Паэзію з усіх бакоў павучалі. Тыя, каму мядзведзь на вуха наступіў, тыя, хто не ведае мовы, тыя, хто ўмее чытаць не настолькі добра, каб дабрацць сэнсу ў напісаным.

Найбольш павучаюць па спосабу параўнання: Пушкін не так пісаў. Як быццам хто з гэтых дарадчыкаў можа сказаць, як пісаў Пушкін ці Маякоўскі!

*

Маякоўскі выступаў у мінскім кіно «Культура» (цяпер Рускі тэатр).

Пайшлі туды з сябрам, аддаўшы апошняга паўрубля, які павінен быў накарміць нас абедам.

І не пакаяліся. Маякоўскі апусціў паэзію са штучных нябёс, дакладней, з рыштаванняў, якія нам здаваліся нябёсамі, на зямлю і давёў, што вось тут і павінна быць яе сталае жыхарства.

*

У Кіраве жыве паэт па імені Авідзій. А ці няма дзе-небудзь у Давыд-Гарадку Гарацыя? Там жа, пісаў Сыракомля, памёр рымскі Авідзій, сасланы цэза-

рам Аўгустам. А даследчыкі сцвярджаюць, што ў сярэдзіне мінулага стагоддзя на Піншчыне людзі паказвалі ўзгоркі Авідзія.

*

Мнагазначнае ўмоўчванне — такая ж пошасць, як і нястрымнае пустабайства. І калі ў літаратуры паспела нарасці столькі прыхільнікаў Краціла, таго самага філосафа, які засвоіў ад Геракліта, што нельга ўвайсці ў адну і тую ж раку двойчы. З той пары Краціл не вымаўляў слоў, а торкаў на рэчы пальцам.

І вось дасюль сустракаюцца глыбакадумныя вершыкі пра захад сонца за ўзгоркам у той мясцовасці, што пусціла на свет вершапісца. Не так вялікі ўжо той узгорак, каб за ім хавалася сонца.

*

Мілікюры — размернасць, якая амаль не паддаецца ўяўленню. Ёю шырока карыстаюцца нашы крытыкі — уседаравальнікі. Абы кніга — знойдуць абавязкова мілікюры розуму ці таленту.

*

Культ асобы развянчаны, але, на жаль, у літаратуры дзьмуцца сям-там чвэрцькульцікі, васьмушкі і нават шаснасткі. І яны аблізваючыся паглядаюць на пастаменты, каб пры выпадку рынуцца туды, пабіўшы ўсіх маляваных ідалаў, вылепленых з сябе іх калегамі па прафесіі.

Нездарма вастраслоўцы перайначылі так закон вялікага фізіка: кожны нядзара, будучы дапушчаны да літаратуры і мастацтва, імкнецца набыць у сваёй вазе столькі, колькі важыць выціснуты ім талент.

І, здараецца, набывае.

*

У добрым творы на вачах у чытача, але непрыкметна для яго,— бо калі можна заўважыць форму, значыць, майстар яшчэ слабы — ідзе лепка вобраза.

З кожным сваім крокам вобраз набывае новыя рысы, узбагачаецца поглядамі, намерамі, якія перарастаюць ва ўчынкі. Так вырысоўваецца характар і, хоць гэта нам удаецца не вельмі часта, перарастае ў тып.

Рост характараў дае дзею і канфлікт. Тое, што для аднаго і таго ж характару паказальна на адной ступені яго развіцця, можа стаць нехарактэрным на чарговай. І такім чынам вобраз можа ўступіць у супярэчнасці з самім сабою і з сваім акружэннем, якое ён выперадзіў або астаўся ад яго, а таксама і з другімі характарамі.

Тады — твор жыве.

Гэта вядома даўно.

Але ёсць кнігі, дзе ўсё загадзя разлічана і абумоўлена. Каб раскрыць характар героя, аўтар адбірае ад яго па адной рысе і такім чынам абнажвае задуманы касцяк.

А трэба — дадаваць!

У шмат якіх раманах лёгка намацаць рагі схемы, часамі моцна аснаванай, ёмка закручанай у сюжэт, але тым не менш схемы. А яе аўтар спакойна распякае ў друку іншых за схематызм і зададзенасць вобразаў.

Аказваецца, усё ведае і разумее. А на сваю работу прыжмурваецца!

Праўда, веданне рэцэптаў кулінарнай кнігі яшчэ не дае смачных страў.

*

«А в полдень, когда землемер уже спокойно лежал на столе, на сене, застланном простынею, вымытый, причесанный, в сюртуке и крахмальной рубашке, в зал на цыпочках вошел Иван Павлов, поклонился ему до земли, поцеловал в ледяной лоб, в лиловатые выпуклости закрытых глаз и, увидав выходящую из кабинета заплаканную Марию Яковлевну, вежливо, кротко и радостно сказал:

— Имею честь поздравить с новопреставленным».

Гэта — Бунін. Канец апавядання, выкраслены аўтарам у пазнейшых выданнях. І каб уладалі па-

добнай, не скажу сілай, мужнасцю некаторыя аўтары, ад таўсценных тамоў засталіся б толькі тытульны аркуш і выхадныя весткі.

А на несапсутай паперы можна было б падвойным тыражом друкаваць добрыя кнігі.

*

Чалавек быў у мястэчку. У доктара. Вярнуўся пануры, сядзіць пры стале, не дакранаючыся да вячэры. Жонка — румяная жанчына, нібыта налітая тугім саракагадовым здароўем, мае за гэта мянушку — Вішня. Яна не ведае, як дагадзіць мужу, чым смачней накарміць яго.

— І што ж ён, хаця, той доктар, сказаў?

— Парашкі даў.

Дзядзька памачыў у капусту драўляную лыжку, адкусіў хлеба і адсунуў міску:

— Загадаў цяжка не рабіць.

— Ну, нічога, я ж у сіле... І на свінаферму збегаю, і сваіх сотак дагледжу. А ты парашкі пап'еш і падужэеш...

— Яшчэ казаў, каб еў я што далікатнейшае.

— Я табе, любенькі, блінчыка спяку, крупніку звару... А што доктар у цябе яшчэ прызнае?

Даводзіцца гаварыць апошняе, чаго не вельмі хацелася б.

— Кажа, сэрца не натруджваць. Каб мы спалі асобна...

— І доўга?

— Да вялікадня...

Запас аптымізму ў жанчыны ўсё ж аказваецца невычарпальны:

— Да вялікадня? — павесялеўшы, перапытвае яна.— Дык мы гэтыя паўгода слабодна каля людзей пераспім.

*

Цана запалкі. Колькі ж можа каштаваць гэта цудоўная весніца агню?

Камбінат пачаў выпускаць запалкі па зменанай тэхналогіі. Зменшана таўшчыня стружкі на лу-

шчыльных апаратах, а гэта, відавочна, абяцае эканомію драўніны. Такім чынам, пакупнік у пачку таго ж самага памеру, як і раней, атрымае не 50, а цэлых 60 запалак. Але не спяшаймася радавацца. Цана пачка запалак павялічваецца на дзве капейкі (старымі грашыма).

— Падумаеш, капітал! Адно на адно выходзіць! — пачуюцца галасы.

А вось якраз і не выходзіць! Да змены тэхналогіі запалка каштавала 8/50, цяпер — 10/60 капейкі: падаражэла на 2/300 капейкі. Розніца, проста скажам, дробязная. Але ж і запалка не вельмі вялікая рэч, толькі попыт на яе вялізны. Таму працягнем падлікі.

Уявім, што кожны жыхар рэспублікі чыркае ў суткі адну запалку. Не будзем праводзіць мяжы між тымі, хто запальвае некалькі разоў на дзень прымус ці пліту, і тымі, хто яшчэ не ведае смаку папярос і задавальваецца салодзенькім мамчыным малаком. Абыдземся без вылучэння ў асобную катэгорыю заядлых курцоў, каму высмаліць за дзень пачак папярос усё роўна што глынуць вітамінную таблетку.

Што ж атрымаецца? За дзень у Беларусі згарыць прыкладна 8 мільёнаў запалак. Гэты нявінны феерверк каштуе:

пры новай цане запалкі:

8 млн. $\times {}^{10}/_{60}$ кап. = 13 333 р. 33 кап.

пры старой:

$8 \times {}^{8}/_{50}$ кап. = 12 800 р.

Розніца, як бачым, 533 р. 33 кап., гэта пры ўяўным выпуску 8 мільёнаў запалак у дзень.

Калі ж у дзень, скажам, выпускаецца 8 мільёнаў пачкаў, а кожны пачак адпаведна падаражэў, дык адпаведным чынам павялічыцца і розніца, яна складзе ні многа ні мала — падлічыце самі.

Змена тэхналогіі праведзена, як тлумачыцца ў друку, для таго, каб карыстацца ў продажы паслугамі аўтаматаў.

Аўтамат — прылада добрая! Ён не абважыць, не аблічыць і нават не аблае. Кідай манету і атрымлівай, на здароўечка, пачак з якою хочаш наклейкаю: ці з беларускім краявідам, ці з палымяным заклікам пажарнае аховы.

Не тое з прадаўцом, калі ў яго нячыстыя рукі. Паколькі ў продажы ёсць запалкі па 8 і 10 капеек за пачак, усе яны будуць прадавацца па грыўні. Роўны лік! Значыць, 2 капейкі з кожнага пачка пойдзе простым ходам у кішэнь...

Чыя гэта кішэнь, не заўсёды ўдакладніш і на лаве падсудных.

Мінецца час, скончацца запасы запалак старое цаны, усё забудзецца. А помнікі нескладанай фінансавай аперацыі ў выглядзе ўласных дамоў, аўтамабіляў, дарагіх футраў і залатых завушніц застануцца!

*

4 чэрвеня 1606 года на магілёўскім рынку бургамістра Васіля Якімовіча «соромотил и на его здоровье пофалки чинил». Так, паводле гістарычных крыніц, выглядае ўдзел Стахора Мітковіча ў Магілёўскім паўстанні. Лентвойт хацеў арыштаваць яго, але паўстаўшыя не далі. Яны выбралі дэмакратычны магістрат: бургамістрамі Ходзьку Багдановіча і Сямёна Івановіча, а пісарам Віракоўскага. Стахор ніякіх пасад не атрымаў, у магістрат не ўвайшоў, імя яго болей не ўспамінаецца.

У жніўні 1608 года пад націскам канцлера Л. Сапегі і рэфрэндарыя Е. Валовіча была дасягнута згода паміж старым і новым складам магістрата. Правы беднейшага насельніцтва значна пашырыліся (12 паспалітых выбіралі райцаў). Новы магістрат праіснаваў два гады і два месяцы.

У 1610 годзе адбылося новае паўстанне. Паўстанцаў абвінавацілі ў змове супроць улады, хоць абурэнне вынікала з той самай глебы — нездавальненне самакіраваннем. Сігізмунд III загадаў адсекчы галовы Івану Харку, Мікіту Мількевічу, Максіму Яблышаву, Гаўрылу Івановічу і Міхайлу Чабатару (на Ільінскай гары ў Магілёве).

Стахор Мітковіч не ўсплыў нідзе і ў гэтых падзеях.

Гэта мог быць зусім выпадковы чалавек, які бясследна знік пасля свайго нечаканага выступлення на рынку.

Цяжка пісаць гістарычныя аповесці аб гістарычна няпэўных асобах!

Да ведама: Магілёў таго часу (1590 год) меў 1261 дом, 137 крам, 17 разніц.

*

Раніцаю званок у дзверы. Бабулька ў бедным, але вельмі чыстым адзенні. Гадоў 50 назад так апраналіся старыя вясковыя жанчыны, выбіраючыся ў госці або на кірмаш. Белая хустачка ў чорныя гарохі альбо бубачкі, саматканы рудаваты курцік, але, замест каляровага андарака, такая ж, як андарак, шырокая спадніца з чорнага саціну.

І адразу ж з парога, нязвыклы, слаўны, больш як пяцідзесяцігадовай даўнасці зварот:

— А мае ж вы людцэ! Калі вы людзі, памажэце... Ніколі ні ў кога не прасіла...

Села на краёчак крэсла, паплакала, зусім скупа: скрывіліся вусны і дзве-тры слязінкі выплыла на павекі. Бо, відаць, недзе на адзіноце не раз умылася даўкімі, беспараднымі, бясконцымі ручаямі слёз.

І пачала расказваць. Сама яна аднекуль з-пад Слоніма. Прыехала адведаць хворую, безнадзейна, мусіць, дачку. Муж палажыў яе ў бальніцу, дзяцей уладзіў у школу-інтэрнат...

— А сам з другою злёгся...

Так і сказала. Не «зблытаўся», нават не «злыгаўся», і ні адно з тых слоў, якія перадаюць знявагу да легкаважных паводзін. А менавіта гэтае, ніколі мною не чутае, ёмкае, грубавата-дакладнае.

— Я прыехала, дык і на парог не пусціў... У іх суседзей, у тым жа доме, перабыла. Да ўнучкаў паехала, гасцінца завезла. І да тае няшчасніцы кожнага вечара ў бальніцу хадзіла. З пустымі ж рукамі не пойдзеш... Хоць няма, а нясу, бо ўсе ж хворыя нешта маюць ад сваіх. А хіба ж маё дзіця — не дзіця? Дый я ж ёй маці...

У жанчыны зноў завільгатнелі вочы. Але спрадвечны матчын боль, які робіць слёзы такімі важкімі, што яны, літаральна, сыплюцца з вачэй, гэты боль перамагла матчына, таксама спрадвечная, гордасць. Не заплакала, не пашкадавала сябе, не сказала: хоць

сама галодная і халодная, а накарміла дзіця, як усе людзі.

Сядзела пры стале і паволі піла чай, тоненька намазвала масла на скібку белага хлеба. Зноў праз той самы гонар ці прыроджанае пачуццё ўласнай годнасці: за пачастунак — дзякуй, прыму, каб не крыўдзіліся. Але ж я не галодная: от так укушу, адчэпнага; і не прагавітая якая: не вазьму шмат смачнага, куплёнага.

— Дык не давайце мне лішняга, не трэба. Толькі каб на ваўтобус хапіла. Я ж ваўтобусам і сюды прыехала... Каля самай нашай хаты спыняецца...

Устала, пакланілася прыгожа, ледзь нахіліўшы галаву.

— Дзякуй, людцэ!

І, відаць, падумаўшы, што такой падзякі мала, дадала:

— Яно праўда такі, людзі не звяліся.

Падняла вочы на артыста, які падышоў на размову і сардэчна распытваў, спагадаў ёй:

— А вы, мусіць, вялікай асветы чалавек, што панашаму так хораша гаворыце?

Нізка кланяюся табе, старая вясковая маці!

*

Дзеці гуляюць у двары.

— Як тваю маму зваць?

— Ліза.

— А тваю?

— Маша.

Слаўка гаворыць сам:

— Мая мама завецца Магдаліна.

Тады ўсе астатнія аднагалосна рашаюць:

— Такіх мам не бывае. Можа быць — мандаліна ці мандарына.

*

Смерць загадзя значыць чалавечыя твары. Я двойчы бачыў гэта.

У. зазваў мяне ў кафэ, частаваў, гаварыў, што збіраецца адпачываць на поўдзень і вельмі добра адчувае сябе пасля аперацыі.

Я глядзеў на яго і не пазнаваў: твар стаў далікатней, быццам і не паблажэў, а нейкая невыразная смуга легла на яго, абцягнула скуру, пазначыла пад ёю косці.

Раптам прыйшла здагадка: так выглядае чалавечая галава, калі ляжыць нерухома на мулкай падушцы сярод не патрэбных ужо кветак. Гэта было пад восень, а на пачатку года я прачытаў некралог...

Алёша падвозіў мяне. Машына падымалася ад узбярэжнай на вуліцу Карла Маркса. На брусчатцы засвяціліся зялёныя вочы. Шафёр прыцішыў ход, але кот не ўцякаў, у яго быў перацiснуты хрыбет.

Мы вылезлі з машыны, але памагчы не маглі, засталося хутчэй адысці: кроіла сэрца тонкае жаласнае мяўканне.

Мы селі ў скверыку, закурылі.

— Нешта такое будзе і са мною,— Алёша глыбока зацягнуўся.

Успышка папяросы асвятліла яго твар, і я ўбачыў у гэтага прыгожага жыццялюба з вясёлай усмешкай над роўнымі, як у юнака, зубамі скрыўленыя смутным прадчуваннем вусны. І яшчэ: той самы, ужо знаёмы мне смяротны выраз, калі аблічча адначасна суровее і мякчэе.

Праз паўгода ён трапіў у аварыю. Я стаяў каля труны, поруч млела яго знясіленая жонка, і не было змогі падысці хоць што сказаць... Перад вачыма ўсплывала асенняя ноч, зялёныя кашэчыя вочы на бруку, чуліся тыя апошнія словы...

*

Дзіўны народ кінематаграфісты. І самому дзіўна, што да гэтага вандроўнага, неспакойнага племені з некаторага часу належу я.

Часамі, паказаўшы так званы матэрыял — шматкі знятай з пачатку, з канца, з сярэдзіны істужкі, яшчэ не ў тых прапорцыях, як яны ўвойдуць у фільм канчаткова, мы пытаем: як ураженне?

Гэта ўсё роўна што, запрапанаваўшы гасцям пакаштаваць асобна муку, соль, ваду, сыры фарш і газавае полымя, гаспадыня пацікавілася б — ці ўдаліся ёй пірагі.

*

Шафёр Ілья Мікалаевіч расказвае:

— Прыбіраем з пляменнікам друз са двара. Я капну тры разы, а ён — раз. Тады кажу: «Давай дзяліцца. Ты парадкуй гэту кучу, а я — гэту». Дык ён адразу выперадзіў мяне, управіўся са сваёю дзялянкай за гадзіну і пайшоў гуляць.

Казачка не без маралі!

*

Немаладая мэбляманка сур'ёзна думала, што Сервантэс — той, хто робіць серванты.

*

У школе.

— Хто ведае, што такое руль?

Некалькі галасоў адразу:

— Гэта, каб машына ўправа і ўлева ішла.

І адзін голас з задняй лаўкі:

— Накрышы ў міску хлеба, нарэж цыбулі, гуркоў, налі расолу. Вось будуць рулі!

*

Сямён Сямёнавіч у прысутнасці старэйшага начальства — сама здагадлівасць, кемлівасць, красамоўства, гатоў перавярнуць горы работы.

— Чаго ён так пнецца?

— Стараецца кавалка персанальнай «Волгі».

*

Спачатку хаваліся Марына і Ала, а Гэлька шукала іх. Потым прыйшла Марынчына чарга.

— Засляпіся,— закамандавалі ёй сяброўкі,— і не адслепплівайся доўга-доўга. Каб мы паспелі добра схавацца.

Калі Марынка адсляпілася, дзяўчатак і след знік. І яна зразумела: пакінулі яе, меншанькую, а самі пабеглі ў лес па ягады.

Гэта было чыстае здрадніцтва. Але ж не жаліцца бабцы, так рабіць — не па-таварыску.

І Марынка хадзіла па ўзлессі, плакала і прыгаворвала:

— А я ведаю, чаго я плачу! Ведаю!

Гэта была ўжо скарга, і ад яе рабілася лягчэй.

*

Дарэчы ці не дарэчы — пра шахматы. Кніга Амара Хайяма якраз разгарнулася на чатырохрадкоўі:

Свет я зраўнаў бы з шахматнай гульнёй:
То дзень, то ноч, а пешкі — мы з табой.
Пасоваюць, прыціснуць і — пабілі
І ў цёмны куфар кінуць — на спакой.

Ім больш за восем вякоў, гэтым радкам харасанскага мудраца. А яны — жывуць, і жыве іронія, нават болей — бунт.

Тут жа свежы часопіс паказаў равесніцу хайямаўскай рабайі — выразаную з косці шахматную фігурку. Яе знайшлі ў Ваўкавыску, а магчыма, уважаючы на падабенства да старасвецкай беларускай скульптуры, і зрабілі там.

Гэта — пешка, але не абы-якая: на мяне глядзіць салдат, старажытны воін. Не сказаць каб у шаломе, хутчэй — у шапачцы-аладцы, носам яго не абдзялілі, навесілі ніштаватую такі бульбіну, плечы крыху апушчаны, відаць, багата работы перапусцілі цераз сябе.

І што дзіўна: паміж кплівым настроем персідскага паэта, вясёлага бязбожніка, строгага матэматыка і патайнай думкай невядомага беларускага разьбяра пачынае снавацца спярша ледзь улоўная, а потым усё трывалейшая нітка сувязі.

Не таму, што яны жылі прыкладна ў адзін час — гэтага мізэрна мала. Адлучаныя мноствам зямных і марскіх прастораў, яны хацелі, прагнулі, дамагаліся аднаго, недасяжнага для іх, але канечне патрэбнага, без чаго нельга жыць.

Перачытаем верш. За смутнай усмешкай з нетрываласці існавання кіпіць, не вырываючыся на прастор, абурэнне. Чаму чалавек асуджаны быць пешкай, папіхачом, паслугачом уладара зямнога ці нябеснага? Не адзін век падпарадкаванне нейчай волі ўзводзілася ў закон. А каб пакора была безумоўнай,

людзям утлумачвалі, нібыта жыццё іх нічога не варта, нібы з іхніх абліччаў і душ дазвання пасціраны асабістыя рысы.

Зірнём яшчэ раз на воіна. У адной руцэ ў яго — палка, у другой — барабан. Ударыць па напятай скуры — і слухайце: сігнал да бою!

Нездарма хітры майстар адступіў ад прызвычаенай для пешак формы. Не выразаў іх у выглядзе цыліндраў і конусаў, не майстраваў нечага блізкага да пузаценькіх кегляў, што выпускаюцца і дасюль, а ўзяў ды вытачыў салдата. Матайце на вус, людзі: пешка то пешка, ды ўсё ж такі чалавек!

Гісторыя нашпігавана наскрозь прыкладамі такога супраціўлення. Як цяжка ні былося чалавеку, не хацеў, дый не мог пагадзіцца ён са скасаваннем уласнай годнасці, з адмаўленнем самавартасці яго як асобы і прыняць сілком навязанае прызначэнне — быць адной з бязлікіх узаемазаменных шрубак ці кольцаў механізма, займаць становішча пешкі ў зменлівай гульні тых, хто ўяўляў сябе гаспадарамі лёсу, гаспадарамі ідэй і часу.

Чалавек бунтаваўся. Калі ж нехапала сілы паўставаць адкрыта, рабіў інакш: сцвярджаў сябе розумам і пачуццём, выяўляў сваю сутнасць у мастацтве.

Дарма гавораць, што народнае мастацтва — ціхая пакора. Гэта заўсёды — бунт. І грозны. Ва ўсе часы, ва ўсіх народаў. Паспрабуйце не мінаць хуткім крокам і безуважнымі вачыма помнікі старадаўнасці — песні, карціны, скульптуры, будынкі. Вам адкрыюцца твары, акажуцца галасы, адчуюцца імкненні многіх тысяч, здавалася б, бястварых, безгалосых, безымкненных тварцоў. Да вас гукнуць даўнія пакаленні, цалкам і кожны чалавек паасобку:

— Чытайце, слухайце, глядзіце, нашчадкі! Мы гаворым так выразна, як можам і ўмеем, паўз галовы тых, што ўмасціліся на нашым карку.

Мы — не зломкі, хоць нас з усіх бакоў тужацца зламаць, крыўдай гвалту патаптаць праўду волі.

Мы не можам маўчаць, мы абавязаны перадаць вам свой розум і сэрца, каб маглі вы стаць тым, чым павінны былі стаць мы, стаць там, дзе павінны былі стаць мы, бо не чые ж рукі, а нашы стварылі свет і ўсё, што ёсць у ім добрага. А які б ён быў прыгожы,

каб дыхалі мы на поўныя грудзі — вольна, каб рабілі на ўсю сілу — вольна!

Вось што гавораць старажытныя помнікі. І нам трэба расчытаць і расслухаць іх усе, каб узяць з сабою ў свет, які мы творым як вянец чалавечых спадзяванняў.

*

Лета пачыналася з холаду і дажджу. Як і вясна. Дождж прыпусціўся з раніцы, па-асенняму спорны,— і ўжо не чакай прасветласці на ўвесь дзень! А пад вечар прыхватвалася празрыстая золкасць: май не май, а палі, браце, у печы!

Людзі так і рабілі, а дрэвы і расліны стаялі зусім збянтэжаныя: ці то выпускаць тую зеляніну і цвет, ці, можа, лепш пачакаць, азіраючыся на ляны дуб, які ўпарта не страсаў леташняга, паскручванага ў трубку, рудога лісця.

Такі клопат быў і ў каліва садовага маку. Яно сядзела ў агародчыку каля вокан дому, куды ў пагодны час перш за ўсё зазірала ранішняе сонца.

Мак не ленаваўся і нічога не чакаў, ён рос добра і ўжо стаў лапушным кустам. Апушаныя мяккімі шарсцінкамі парасткі паўгіналіся пад буйнымі наквецямі і зрабіліся падобнымі на маладых гусянят, калі толькі вучацца яны насіць галовы на выгнутых шыйках. Але расхінуць цёплы кажушок і паказацца ва ўсей красе каляровых пялёсткаў не асмельвалася ніводная макавая душа.

Аднойчы, калі не спуджанае дажджом сонца затрымалася ў агародчыку на нейкую гадзіну больш чым звычайна, адзін мачок набраўся рашучасці, павярушыў плячыма, і ўсе ўбачылі, што ён чырвоны. А кажушынкі не захацелі ападаць ды так і засталіся, прыляпіўшыся да распукнутай кветкі, нібыта маглі пры выпадку зноў затуліць яе ад нягоды. Па цяплейшым дні перабылася і цяплейшая ноч, а на раніцу ўся макавая града залілася чырвоным цветам. І пад кожнай сцяблінай ляжалі непатрэбныя ім цяпер цёплыя кажушынкі.

Мак паверыў у цяпло і ўжо не асцерагаўся.

Давялося і сонцу плаціць за давер даверам: не хавацца больш за хмары, а грэць шчырэй і цяплей.

## 11

# ВАКОЛІЦЫ МАЛАДОСЦІ

## ПРАЗ ГАДЫ Ў ЮНАЦТВА

Колькі б мы ні хадзілі па тваіх дарогах, колькі б вёснаў ні сустракалі пад дахам тваіх нябёс, колькі б разоў ні натольвалі нашу смагу тваё ручаіны з бараВою вадой — ніколі не здасца чэрствым твой хлеб і ніколі не будзе скупою рука твая, бацькаўшчына!

Некалі я любіў цябе, як любяць у ранняй маладосці: кожны старонні погляд на абранніцу сэрца забівае духі гарачынёю. Цяпер гэта пачуццё стала роўнае, як жнівеньская сінеча над пожняй: мы мелі час і магчымасць пераканацца ва ўзаемнай вернасці.

Многа год назад Мінск прыняў мяне на свае вуліцы і, падгадаваўшы крыху, кінуў у самы вір гарачай работы. Юнаком я доўга жыў непадалёку ад цяперашняга возера, на Старажоўцы, так называўся драўляны раён з невялічкаю пякарняй і цеснай цэркаўкай пры могілках. Там звычайна вычэквалі пацалуначнага змроку пары, а аднойчы ў шопшы тыдзень, як называюць раданіцу случакі, п'яны, на маіх вачах ударыў юнака, і той, схапіўшыся за скронь, абсунуўся, белы, на жалезную агароджу.

Я любіў свой раён, вяртаўся туды позна, ноч у ноч, калі ўсё наўкол спала, толькі ў двух-трох дамах за прычыненымі дзвярыма, што выходзілі проста на тратуар, мігцелі ўкручаныя лямпы-васьмілінейкі. Гэта дробныя крамкі, у якіх і тавару ўсяго на дзесятку, амаль без надзеі чакалі пакупца, хоць і ведалі — адкуль яму ўзяцца такою парою! Але пастукай, дзверы адчыняцца, уверчаная ў цёплую хустку сівенькая мама зважыць табе соннымі рукамі хвост каўбасы, дасць кухен, а калі будзеш есці тут, нальe шклянку кіпню або газіроўкі. Грошай і не спытае: ведае, што ты студэнт, здымаеш пакойчык у доме шаўца і таксама недзе прырабляеш у газеце, як і ягоны сын. Прынясеш, што завінаваціўся, як завядзецца капейчына.

Я хадзіў у той бок і пазней: скончыўшы цяжкую вайну, зноў давялося пасяліцца на старым месцы;

хаджу і зараз, без патрэбы. А можа з самай вялікай чалавечай патрэбай — хоць гадзіну, а павандраваць у ваколіцах свае маладосці.

І — чалавеку часамі вельмі хочацца памыліцца — ці не яна гэта, мая маладосць, махнула белым рукавом, выхапіўшыся на святло, з садочкаў прыснуўшага завулка? Ці не яна, звонкая, заводзіць песню пра зорку Венеру, пра партызанскія сосны і калгасную вечарыну?

Не, ужо не тыя мілыя вусны спяваюць, як некалі, чакаючы мяне адвячоркам і збіраючыся ў кіно, але ўсё роўна — мая гэта песня, мая радасць, мая гэта маладосць!

Доўга ёй хадзіць па дарогах, засмучацца ад нягод, цешыцца з удачы. Дый, зрэшты, і з сябе самое нацешыцца, бо нічога ж няма на свеце лепшага за маладосць, калі і дыхаецца поўна, і адчуваецца моцна.

І нездарма я, у пару сівых валасоў сваіх, благаслаўляю, як усім вядомае мімалётнае зданне, цябе, кірпаценькае смяшлівае дзяўчо з ластавіннем на носе, што прымусіла мяне, васемнаццацігадовага задаваку-вершапісца, разуцца дый так ісці ў горад. І сама, босенькая, ішла поруч аж ад прыгараднай фермы, дзе мы, трэцякурснікі, адбывалі сельскагаспадарчую практыку: карчавалі пні, абганялі бульбу, даглядалі коней і кароў.

Мы ішлі праз увесь, праўда, не такі вялікі яшчэ, але ўсё ж стотысячны горад. Дзе проста па бруку, дзе па скабістых дашчулках тратуараў, дзе па шэрых і ружовых цэментавых плітках з прозвішчам уласніка майстэрні, дзе іх рабілі. А каля твайго дома, недзе поблізу цяперашняга аэрапорта,— тупалі па пяску і ніштавата запыленай траве.

Затое — з расою, на ўсходзе сонца, у прахалодзе маёвай раніцы!

Што там пагардлівыя ўхмылкі нэпманаў з рысорных рамізніцкіх пралётак, дарма і калючыя позіркі пляткарак за платамі мяшчанскіх дамочкаў і сядзіб.

Ішлі.

Шчаслівыя ветрам поля, куды, шчыруючы, укладалі працу дзень у дзень, светлыя нядаўнім красаваннем саду і, здаецца, поўныя аднатонным погудам

пчаліных раёў на яблынях і слівах. Адна пчала была заблыталася табе ў валасы, праўда?

Мне ж і цяпер свеціць тая сцяжына, магу і ўночы адшукаць яе. І калі-небудзь збяруся, прайду з канца ў канец, не схібіўшы ні на крок. Хіба што давядзецца збочыць, абысці Палац спорту, не пералазіць жа цераз верх для дакладнасці маршруту.

Толькі не знойдзецца ўжо твайго прыганка, аплеценага хмелем. Не будзе тваё маці ў акне, не скажа, глянуўшы на босыя ногі, і вусаты міліцыянер на рагу: «Што, падтапталіся, студэнты?»

І ты, са змоўніцкімі вачыма, не зашэпчаш, дацягваючыся на пальчыках да ягонага вуха: «Дзядзечка, не забірайце нас! У нас сёння вечар, танцы. А туфлі ў мяне — адны!»

Ты казала чыстую праўду: туфлі былі адны. І ў цябе, і ў мяне, і ва ўсіх нашых аднагодкаў. А мы праторвалі дарогі.

## БАБЧЫН МЕСЯЦ

Яна жыла доўга. Колькі — дакладна не ведаю, і спытацца няма ў каго. Аднаго разу прачнулася і сказала маёй маці:

— Юля, дай мне ненадзяваную кашулю, я памыюся крыху.

Выйшла з хаты, села на лаўку, што стаяла на росным грудку каля плота, і доўга мыла твар, быццам хацела вышараваць кожную зморшчку, намыльвала рукі і ногі. Маці палівала ёй нагрэтаю вадою з чыгуна.

— От і добра,— сказала,— цяпер пайду, убяруся.

Узлажыўшы ўсё чыстае, перахрысцілася ў кут і легла на лаву галавою пад абразы.

Калі праз нейкае паўгадзіны я ўехаў у хату, галасна панокваючы на кійку-скакунку, маці ўзяла мяне за руку.

— Ціха, няма ўжо нашай бабы...

Сёння глянуў за акно, а месяц — маладзенькі-маладзенькі! Правядзі па рожках палачку, атрымаецца «Р» — расце. Гэтак бабка вучыла пазнаваць, якая квадра: маладзік ці ветах.

Што ж я ведаю пра Месяц? Не ў агульнапапулярным сэнсе — спадарожнік, аддаленасць, квадры і г. д.

Нашы вымпелы на паверхні спадарожніка... І напісана, і нараскаэвана.

Вось і пачало ўспамінацца ўсё, чаму навучыў народ.

Першае — з самага маленства. Бабка паказвае на Месяцы цьмяныя абрысы постацей і вытлумачвае, што за яны, расказвае даўнейшую легенду: Авель, сын першага чалавека Адама, быў забіты сваім братам Каінам. Бог пакараў забойцу адміністрацыйнай высылкай на Месяц. І ад тае пары стаіць забойца над ахвяраю.

Далей снуецца бабчына апавяданне. Месяц меў божы загад свяціць і ўночы, каб людзі маглі што рабіць пры патрэбе. А ён узяў разгультаіўся: спіць, а калі выйдзе на работу, дык свеціць, як газніца,— нічога не відно. Тады яму было загадана кожныя чатыры тыдні перараджацца: ад малога да нядужага дзядка.

Мяне цікавіць: як гэтак хутка паспявае Месяц нарадзіцца і састарыцца? Мне ўжо цэлых пяць гадоў, а яшчэ не вырас як след, чаму?

Старая падціскае ніжнюю губу, разважае:

— Бо чалавек не з тае гліны.

— А чалавек хіба з гліны? З якое, га, баб?

— Чалавек — з жывое, а Месяц — з мёртвае.

— Як мёртвае? Дык як жа ён расце?

Гэта бабка прапускае міма вушэй, не прызнавацца ж малому назоле, што не ведае. І працягвае вядомае, чутае ў сваім маленстве.

Месяц ходзіць навыперадкі з сонцам, але дагнаць не можа, худнее і пачынае хварэць. Тады зоры кладуць яго ў бальніцу, там ён ачуньвае і выходзіць пасля папраўкі яшчэ прыгажэйшы.

— Чуў прыказку: «Што гэта за вочы — адно свеціць удзень, другое ўночы»? — бабка пытаецца і пачынае новае апавяданне.

Маўляў, Месяц пасе зоры і падупадае, бо без упынку бегае за сваёю шкадлівай жывёлаю. Збегаўшыся, паміpae, але праз некаторы час нараджаецца малады.

— Гэта яму кара — бог так даў. За тое, што ле-

наваўся вучыць літары,— бабка падымае вочы на мяне.— Так ленаваўся, што адну гэту работу ўмее: зоры пасвіць.— Яна ўспамінае новую загадку: — Поле не мерана, статак не лічаны, пастух з рагамі — што гэта?

Мне робіцца смешна: як гэта, рогі не ў жывёлы, а ў пастуха!

— Цяпер, унучак, добра запамінай. Гэта я ад старых людзей чула, значыць, праўда. Дый сама іхнюю праўду спраўдзіла, па Месяцы надвор'е ўгадваю. Вось ён нарадзіўся, рожкі глядзяць уніз — чакай цяпла, адлігі ўзімку, а ўлетку і гарачыня можа быць. А рогі ўгору — паказваюць на мароз або на вецер. Запомніў? Калі ў месяцы абодва рагі крутыя, будзе пагода, а як спусцістыя яны — нягода нахопіцца. Цьмяны месяц прарочыць халепу і слату, ясны — сухія дзянькі, пасінены кажа, што задажджыцца, пачырвонены — вецер усхопіцца.

Вельмі хочацца запытаць: ці хаця бачыла бабка пасінены і пачырвонены месяц, і ад чаго гэта?

Але старая перабірае прыкметы хутка, не дае ўткнуць слоўца. Мала што можа ўбіцца ў дзіцячую галаву, дзе ты на ўсё адкажаш!

— Як маладзіковымі днямі, у самае настаццё, дожджык цыркае, людзі кажуць: малады месяц абмываецца. Калі ён дні за тры абгледзіцца, будзе гадзіць пагода аж да сходніх дзён, а як замакрыцца надаўжэй — наробіць чалавеку псоты нягода.

Высыпаўшы столькі вестак, назбіраных за ўсё жыццё, бабка здагадваецца, што не на маю гэта сілу запомніць усё, і пачынае цікавую гульню.

Загадвае вясёлыя загадкі, перуказвае прымаўкі. Гэта забаўляе абоіх, шкада толькі, што адгадка і адрас усюды адны і тыя ж.

— Над бабчынай хацінкай хлеба скарынка.

— Ведаю, бабка, ведаю!

— У рэчцы капыток утапіўся.

— І гэта ведаю.

— Лесам ідзе — не хрусне...

— Вадою ідзе — не сплясне,—канчаю прыказку сам.

— Сіняя хуста, на ёй срэбра луста, а вакол залатыя цвікі паўбіваны.

— Ты загадвала ўжо гэту спачатку.

— Ну, слухай зусім новую: паміж сініх дарог — срэбны гарох, а сярод гароху — хлеба бохан. А што?

Загадка даўно вядомая, але я паўтараю яе ўголас. Вельмі складна вымаўляецца, слова да слова нібыта прыліпае і гучыць аднолькава. Што гэта рэч называецца ўнутраная рыфмоўка, ні я, ні бабка не ведаем, аднак цешымся ў роўнай меры.

— Свеціць, ды не грэе, дарма ў бога хлеб есць,— гаворыць бабка і тлумачыць: — Без праўды гэта прыказка. Навошта яму ўначы грэць? Лішняе цяпло, раслінка б пачэзла. А што пасвеціць добраму чалавеку ў цёмнай дарозе, дзякуй за гэта. Тым ён свой хлеб і адрабляе. Вось людзі і кажуць: і месяц свеціць, калі сонца няма. Пакуль ураднік Сінькевіч не выйдзе на сяло, дык і стараста Апанас — начальства. А ведама ж, нікне месяц перад сонцам.

Бабчыны прымаўкі ўражаюць, вось і запомніліся дагэтуль:

«Чым большыя рогі, тым месяц горай свеціць».

«Усю ноч сабака на месяц брахаў, а месяц таго і не ведае».

«Каму месяц свеціць, а ад сіраты хаваецца».

«Гледзячы на месяц, хлеба не замесіш».

«Месяц зубамі не ўхопіш». І гэты, і сучасны варыянт («месяц з неба кіем не скалоціш») без сумнявання выражаюць павагу і пашану да тэхнікі.

«Каму месяц свеціць, таму і зоры ўсміхаюцца».

«Абы месяц быў, а па зорах калом б'ю».

«— Месяц, дзе быў? — У лес хадзіў.— А што рабіў? — Лыка лупіў.— А дзе схаваў? — Мядзведзь забраў».

З паданняў пра нараджэнне месяца найбольш запала ў памяць адно. Бог, калі месяц састарае, крышыць яго на зоры. Адзін кавалачак кладзе ў дзяжу, на закваску. Зоры падаюць туды, з іх пачынае рабіцца рошчына, цеста падыходзіць і пераліваецца цераз край. Гэтак і нараджаецца месяц.

А што месяц сваім з'яўленнем абавязаны палескаму кавалю, я, мусіць, прыдумаў сам. Большасць бабчыных апавяданняў знайшлася ў зборах народнай творчасці, а гэтай версіі не сустрэў. З яе ўзнік верш «Малады месяц».

Адзін каваль выкаваў такі цвярды серп, што ніяк не мог назубіць яго, зрабіць насечку на лязе. Мучыўся-мучыўся і шпурнуў свой серп угару. А ён узяў загарэўся і паплыў па небе наўкруга зямлі.

Зрэшты, чаго толькі не выдумлялі пра месяц паэты і закаханыя!

І ўсё ж, за што яму такая пашана? Чаму склаліся многія сотні паэтычных загадак і прымавак, вершаў і навел, чаму, пры адной толькі прыгадцы пра месяц, усе вочы захоплена падымаюцца ўгару?

Праз ягонае хараство, скажаце, за акрасу цёмных начэй? Бо і жыццё было доўга цёмнае, народ радаваўся кожнаму праменьчыку. Праўда, гэтага не аспрэчыш. А найбольш, відаць, любілі і шанавалі людзі свой месяц, прыгледзеўшыся, што прыходзіць і знікае ён, абавязкова выклікаючы змены ў надвор'і. Вось і сталі прыкмячаць, што сеяць пад дождж трэба маладзіком, касіць — поўняю, араць — сходнімі днямі, збіраць лекавыя травы — зноў жа пад маладзік.

Зараз Гідраметэаслужба пацвердзіла: у іхніх, складзеных паводле дакладных вестак, апрацаваных найноўшымі спосабамі прагнозах, народныя прыкметы не адкідаюцца.

Значыць, нездарма шанаваў тыя прыкметы Колас.

І мая бабка.

Помню і я.

## ПАЛЯШУЦКІ ГОНАР

Пана павесяць, а ты перад ім тры дні шапку здымай: можа яшчэ адарвецца часамі.

Як ты мусіў зняверыцца, добры мой народзе, каб вымавіць такія словы. А падумаўшы, колькі розных паноў тапталася на нашым карку, можа і дзівіцца няма чаму.

Замежная экспедыцыя доўга ездзіла па старой Беларусі. Вучоныя хацелі на свае вочы дапэўніцца, што ж за яны, палешукі. Дапялі за Старобін.

— Ёсць тут палешукі?

— Не. Му не палешуке, от вярстоў семдзесят адсюль — самыя яны.

Паехалі ў Тураў — няма, дагрукалі па грэблях да Радзівілавіч.

— Ці ёсць палешукі?

— Недзе ёсць,— кажа дзядзька з віслымі вусамі.

— А дзе ж яны?

— Можа і тутака.

— Дык можа і ты?

— Можа і я.

Глядзяць. Чалавек як чалавек, чысты, ніякіх каўтуноў у валасах. Арэ папар, а ва ўсім белым — шарачковыя споднікі і кашуля,— як вялікія паны ўлетку. Толькі што босы.

Абмералі, абстукалі, сфатаграфавалі разоў з дзесяць. Пачалі ўгаварваць: чаго табе, такому ладнаму чалавеку, пароцца ў балоце? Конік чэзлы, кароўка, як мыш, поле родзіць блага.

А дзядзька — ані блізка: мне і тут добра.

Пачалі падпойваць. Віскі, джын, брэндзі. Дзядзька п'е конаўкаю — і ні ў водным воку.

— Вельмі далікатная,— кажа,— не чую, што п'ю, нават у горле не паказыча.

Прынеслі сівухі, выпіў паўкварты, песню завёў. Ну, думаюць госці, угаворым цяпер.

— Ну, паехалі да нас?

— А ў вас лёвы ёсць?

— Не, гэта ў Афрыцы.

— Тады вязіце мяне ў Афрыку.

— Чаго ты там не бачыў?

— Злаўлю два лёвы і назад.

— А нашто яны табе?

— Навяжу на ланцуг: у адным канцы сяла і ў другім. Каб такіх гасцей не падпускалі.

І тут жа павярнуўся да гасцей спінаю. Падміргнуў суседу з недаедзеным дранікам у руцэ.

— От які: разяваеш рот, а што ясі — не ведаеш!

— Як гэта не ведаю — бульбу...

— Бульбу, бульбу... А хто яе стварыў?

— Бог.

— Не бог, а Пётра Вялікі. Стварыў, а мы ўсе ямо.

— Ды ён жа быў рускі цар, а бульбу ўсюды ядуць.

— А хто ездзіў па чужых краях? Пётра. Ездзіў і даваў бедным мужыкам па бульбіне... З нас і павялося...

## «ЧАКАЮ ЦЯБЕ»...

Вечарэла, а ў чытальным пакоі ўсё яшчэ не запальвалі электрычнасці, вокны былі расчынены проста ў лета — пачыналася якраз тая самая светлая пара года, калі

Дзень з начыцаю не належацца,
Не ўначуюцца, не нацешацца,
Месяц сонейку ў дзверы стукае,
Сонца месіку ў ручкі хукае.

Просценькі напеў як узнік, так і не адступаўся, і я гуў сабе паціху гэтую добрую, няма знаць як даўно складзеную песню, балазе яна нікому не замінала: наведвальнікі разышліся, а да мяне падкрадалася змора.

Не першы дзень я прыходзіў сюды, у славутае вільнюскае кнігасховішча, і, чаго таіцца, зайздросціў ягонаму багаццю. Каб пагартаць наш мінскі часопіс «Полымя» за першыя гады выдання, давялося ехаць блізкі свет. Дома гэтага не зробіш: недаграбленыя фашыстамі кнігі датлелі ў пажарах вайны, а тут нейкім цудам усё ацалела і перахоўвалася ў зайздросным парадку.

Ужо можна было б і скончыць работу, ды рабілася шкада, не хацелася расставацца, як бывае заўсёды, калі дарвешся да выпадкам сустрэтай, немаведама колькі нябачанай кнігі, і яна за нейкія лічаныя хвіліны адновіць перад вачыма гады, а то і дзесяцігоддзі, куды ўкладзена безліч працы, лятункаў і сіл тваіх і твайго пакалення.

Забыўшыся, што трэба выбіраць артыкулы загінуўшага на фронце таварыша, я чытаў нумар за нумарам, камплект за камплектам і так зноў прайшоў за сваёю рэспублікай па ўсіх яе стромых і радасных дарогах ад самага пачатку аж у сягоння.

Я пачаў думаць пра гэтыя дарогі, а тым часам вецер, заляцеўшы знадворку, пакрысе рабіў маю работу — гартаў старонкі. І дагартаўся. Акурат да тае, дзе ляжала карталюшка, звычайны бібліятэчны бланк, па якім кнігі заказваюць загадзя. Выпушчаны мясцовай друкарняй аж у 1933 годзе, ён папярэджваў на польскай мове, што пісаць трэба чытэльна, не прапускаючы ніводнай рубрыкі.

Пажоўклая паперчына не магла зараз нікому спатрэбіцца, і першы рух быў адправіць яе ў кошык. Аднак яна мела паважны ўзрост, і я стрымаўся. І не пашкадаваў.

На адвароце расчытаўся напалавіну выцвілы надпіс па-беларуску. Усяго два словы: «Чакаю Цябе».

Сама сабою напрошвалася здагадка, у якім слаўным стане лунаў між зямлёй і аблокамі мой папярэднік, чытач, чыя рука трымала гэты нумар часопіса і так пашанотна вывела «Цябе» з вялікай літары. Каб ён мог, той закаханы, пачаў бы залатое слоўца з невымерна большай, сажнёвай, напісаў бы яго на верхавінах баравых соснаў і — яшчэ вышэй! — выштукаваў бы промнямі на сінечы роднага неба.

Пасмуткаваўшы аб незваротнасці такога стану і такога часу для сябе, я вырашыў пакінуць лісток у часопісе. Неяк жа ўсцярогся ён ад жорсткага вока бібліятэкараў, якія, прымаючы ад маладых людзей замоўленыя пад час экзаменаў кнігі, старанна вытрасаюць з іх любоўныя запісачкі. Столькі ляжаў тут, месца не пралежаў, і нічога не станецца, калі застанецца на большы ці меншы тэрмін.

А можа калі-небудзь, агорнуты прыгадкамі, прыйдзе сюды, успіраючыся на кіёк, той самы чытач. Разгорне нумар і ўспомніць. Хай яму добра ўспамянецца! І тая, каго чакаў, і праходкі з ёю па беразе начное Вяллі і, пэўна ж, пацалункі ў парку каля старасвецкага замчышча. Хай пагрэецца каля свайго юнацкага вогнішча колішні студэнт, а цяпер можа вядомы ў краіне чалавек, ці, як пішуць у газетах, пенсіянер саюзнага значэння.

Супакоіўшыся на гэтым, я пачаў парадкаваць выпіскі, рыхтавацца да адыходу, чым ці мала ўзрадаваў бібліятэкарку. Яна бліснула на мяне вясёлым вокам з-за шкляное перагародачкі, бо даўно сядзела там, рабячы нешта адчэпнага, каб не нудзіцца і не думаць, як хораша зараз было б удыхаць лета, павольна ісці, ківаючы знаёмым, па ўгрэтай за дзень вуліцы дадому, дзе яе чакае прыветлівае слова і смачная вячэра.

Раптам цвёрдая, здавалася б, непарушная пэўнасць мае здагадкі пахіснулася. Версія наконт закаханага цярпела крах. Я ўспомніў пра дату на блан-

ку: 1933 год. Вільня была пад рукою Пілсудскага. Горад прыцягнулі пад гэтую высокую руку крыўдамі і няпраўдамі, а як магло быць інакш? Тут жа нарадзіўся ён, сівавусы маршалак. І спрадвеку няпольскі горад на вачах змяніў аблічча.

Польскімі зрабіліся ўстановы і школы, шыльды на крамах, мова на вуліцах. Не было толькі ўправы на рынак і вёску, яны ўпарта гаварылі па-беларуску. Разам з новымі гаспадарамі прыйшлі старыя звычкі здрабнелай шляхты: удаваная выхаванасць, лоск уяўнай культуры, несхаваная прага здавацца нечым большым, лепшым, багацейшым. Абы каўнерык быў белы, а што пад манішкай няма кашулі — глупства, усё роўна нікому не відаць. Гэта стала як бы нормаю абыходку.

Дык ці мог, жывучы ў такім атачэнні, студэнт нават самы бедны, з беларусаў, аб чым сведчыла запіска, прызначыць спатканне на службовым шматку паперы? Хутчэй не паснедаў бы ён, а купіў паштовай ці пісальнай або, на апошні выпадак, выразаў бы старонку са сшытка. А такі нядбалы зварот дзяўчына палічыла б за непрыстойнасць, бо яшчэ моцна трымаліся тут за надворную шляхоцкую далікатнасць, хоць усе ведалі, што сапраўдныя рыцарскія звычаі даўно сышлі на ніц і жаночае каханне прадавалася нароўні з сумленнем суддзі і партфелем міністра.

Чакай, чакай! — спыніла мяне новая думка: а якому б гэта студэнту, хай сабе і закаханаму, стукнула ў тыя часы рыхтавацца да залікаў па савецкім часопісе? Дый яшчэ пакідаць у ім рэчавыя доказы, ставячы пад пагрозу сябе і другога чалавека! Тады ж на кожны гук былі шырока настаўлены ўважлівыя вушы, кожны крок праводзілі пільныя вочы паліцыі і дэфензівы: зачэпяцца за почырк, дакапаюцца і да аўтара.

Не, не звычайны студэнт ці гімназіст заказваў наша «Полымя», а, быць пэўна, той, каго вельмі грэла яно. І няйначай, як быў ён у змове з бібліятэкаркай, бо ці ж мог першы-лепшы з вуліцы дастуціцца да бальшавіцкага слова, калі яно даходзіла сюды, скрываві ўшыся на калючым дроце кардонаў, і адразу ж складалася ў мураваныя недаступныя фонды.

Уяўленне павяло далей, у 1933 год. За праведзенай па жывым целе мяжою лютаваў тэрор. Панскія каморнікі перамервалі зямлю так, каб селяніну прыпала паменш і самае горшае. Панскія чыноўнікі ішлі ў наступ на апошні дзесятак беларускіх школ. Штыхом без лішніх абяцанак і гарапнікам, не падманьваючы на абаранкі, пілсудчына прымушала нашых людзей забыць, што яны людзі і беларусы. А яны цярпелі катаванні, паміралі, але не забываліся. Траплялі з падполля ў адседку, вырываліся адтуль і вярталіся назад у падполле — зноў браліся за сваё: спрадвеку справядлівую справу вызвалення.

І неўціхана шумелі народныя хваляванні на Гродзеншчыне, зырка ўспыхвалі паўстанні на Палессі.

Пра ўсё гэта якраз гаварыў кожны радок артыкула, у якім знайшлася запіска. І не проста гаварыў, а крычаў, абураўся, клікаў. Тут і высветлілася, што невядомы чытач не толькі сумысля пакінуў лісток у часопісе, а і вызначыў яму пэўнае месца. Той самы аловак, якім быў зроблены надпіс, лёгкімі лініямі акрэсліў правільны чатырохкутнік пасярэдзіне старонкі. Я прылажыў туды бланк, ён дакладна ўпісваўся ў рамачку.

Ого! Ды ці не пахне тут якімі-небудзь зашыфраванымі весткамі?

Я схапіўся чытаць тэкст у сярэдзіне чатырохкутніка, праглядаў зверху ўніз, злева направа і наадварот, пасля ўзяўся за слупкі, адбітыя лініямі па баках,— нічога людскага не расчытвалася. Тады я пачаў складаць словы з асобных літар, па якіх прайшоўся аловак. І гэта намарна! Ці занадта складаны быў шыфр, ці шыфравальшчык — няўмека.

З'явілася думка, што гэта, мусіць, умоўны знак, патайны сігнал. Той, каму ён адрасаваны, павінен з'явіцца ў пэўны час і ў пэўнае месца. А калі на яўцы яго не ведаюць у твар — паказаць пропуск, лісток з напісанымі вядомай рукою словамі.

Узнікла мноства пярэчанняў. Падполле звычайна не пакідае пасля сябе слядоў. А тут яны заставаліся, ды яшчэ пісьмовыя, рабіўся відавочны крок да правалу. Каб прызначыць сустрэчу, даволі было пакінуць у кнізе лісток. Паспрабуй прычапіся: забыты і ўсё, і ніякіх табе падазрэнняў. Для пэўнасці, на вы-

падак, калі паперка вытрасецца ці выкінецца, можна было абвесці алоўкам месца на ўмоўленай старонцы. І не больш! Бо паролем для з'яўлення на яўку мог бы паслужыць, скажам, нумар часопіса ці той жа самай старонкі. А пісаць запіскі? Не! Тады, што гэта — простая неспрактыкаванасць ці паспешлівасць, недаравальная нядбайнасць?

Адгадка знайшлася не адразу, бо ляжала яна, як гаворыцца, на самым версе.

Бібліятэкарка павярнула выключальнік. Далікатны напамінак,— даруйце, але вы даўно перасядзелі пару! Дзякуй, што яна знецярплівела, нарэшце, добрая жанчына, але чаму ж было не зрабіць гэтага раней!

Святло паказала мне паміж радкамі ўнізе старонкі амаль непрыкметныя, з-пад іншай рукі і з-пад іншага алоўка, дробненькія літары:

«І я!»

Ды гэта ж перапіска — новы голас адказвае першаму! Чаго ці каго чакалі абодва скупыя на словы карэспандэнты?

Я зноў прылажыў да рамачкі бланк замаўлення. Радок над верхнім абрэзам яго горача сцвярджаў, што на змучаную зямлю Заходняй Беларусі хутка прыйдзе Кастрычнік.

— «Чакаю Цябе!» — не ўтрываў, прачытаўшы, Нехта, а другі Нехта адразу ж скеміў і далучыўся ўсім сэрцам:

«І я!»

Яны не гукнулі ўголас, відаць, не хапала яшчэ рашучасці і сілы, але, сустрэўшыся завочна, не быўшы знаёмыя, пашапталі адзін аднаму на вуха самае запаветнае — і сталі свае. І з патайнага шэпту нечакана вырасла набатнай сілы адозва! А хто ведае, можа і такім шляхам раздзімаўся агонь рэвалюцыйнага слова, калі партыйныя друкарні правальваліся, а друкары сядзелі за таўшчэзнымі мурамі астрогаў. Магчыма, на гэты след натрапіў і трэці і дзесяты Нехта, усё адчуў і зразумеў, толькі ўжо нічога не пісаў, а пайшоў падымаць чырвоныя сцягі.

Поруч з табою, Вера Харужая, разам з табою, Мікола Дворнікаў!

Чамусьці верыцца, што, паднятыя мужным пры-

кладам, да вас далучыліся і тыя два Нехта. Бо чакаюць жа людзі да пары да часу, дый моцна чакаць — значыць прыспешваць жаданае.

---

Бланк замаўлення я папрасіў на памяць, ён перахоўваецца разам з «Мужыцкай праўдай» і партызанскімі лістоўкамі. А часопіс? На гэта адкажу даўнім жартам. На споведзі мужык прызнаўся, што ўкраў кабылу. «Каешся ў сваіх грахах?» — «Каюся, бацюшка, каюся, што і жарабятка не забраў».

Праз некалькі гадоў я не знайшоў гэтага нумара на месцы, а можа, выпісаў не той камплект. Было фатаграфаваць у часе.

Магчыма, якой-небудзь здольнай руцэ заманецца ўзяць гэты сюжэт для аповесці, прапаную першы чарнавік. Я ж і накідаў яго, каб ведалі. Каб не забыліся.

## РЫЖЫ МЛЫНАР

Жытняя ніва набягае хвалямі на ўзгорак, дзе стаіць вятрак. Па селавой дарозе сюды падыходзіць калгасны млынар. Не дзед і не пажылы дзядзька, каго звычайна вылучаюць на такую адказную пасаду, а нягеглы рыжаваты падлетак гадоў пад васемнаццаць. Яму вельмі хочацца спаць, а вось жа ўзбудзілі сярод ночы, каб не прапусціў ветру. Звечара была на гэта пэўная прыкмета: сонца заходзіла ў чырвань. Хочаш не хочаш, а ідзі, завозу назбіралася многа.

Вецер мацнее, а млынар як узышоў на затравянелы ўзгорак, так і стаіць, не пускае ў ход свайго рыплівага збудавання. Прыпёршыся да ветрака каля самага крыла, цалуюцца хлопец з дзяўчынаю, балазе ноч хмарная, нікога і нічога не відно. Але млынар даўно пазнаў іх — суседскую Ганьку і трактарыста Кадзю Чубчыка. Чубчык — не прозвішча, а мянушка, ад якое трактарыст ніяк не можа адчапіцца: як прыляпілі ў маленстве за ўпарты віхор над ілбом, так і носіць за сабою.

Млынар уздыхае і пераступае з нагі на нагу. Заўчора, так, акурат у суботу надвечар, ён гуляў каля млына з Ганькаю, расказваў, як мякка навучыўся малоць, падладзіў вагу, як хвацка выпісвае за памол квіткі з пячаткаю... Яна слухала і пазірала кудысьці ўбок. І ён нават не асмеліўся ўзяць дзяўчыну за руку, а гэты...

Тут да хлопца далятаюць Чубчыкавы словы:

— Няхай гэты рыжы млынар толькі паткнецца да цябе, я яму...

Млынар не вытрымлівае:

— А ну, адступіцеся! Пускаю млын... Каб каторае ўгару не ўзляцела.

## АХАЛАДАЎ ЧАЛАВЕК

Леснікова старожка наводшыбе. Сінім слупком упіраецца ў неба вячорны дым з коміна. Мароз. І так не дыхнуць, а ўсё яшчэ бярэцца: у глыбіні лесу парыпваюць ахаладалыя дрэвы.

Па блакітнаватай ад змроку снежнай сцежцы да старожкі нешта сунецца. Здаецца, стажок атавы сышоў з адонка на балоце і падаецца да тых, што туляцца каля жытла.

Гаматная постаць адчыняе дзверы ў добра напаленую хату. Пад столь узлятае вялізны воблак марознай пары. Пакрысе з яе вырысоўваецца чалавек у кажусе пад буркаю і ў заечай шапцы пад башлыком.

Скінуў рукавіцы, пагрэў рукі над прыпечкам, пасля здзёр з галавы шапку. Сіліцца загаварыць, а слова не можа вымавіць: толькі ляпае зубамі ды агладжвае рукою голае, як бубен, цемя.

Маладзенькая лесічыха дастала чайнік і спяшаецца наліць кубак кіпню. На печы паварочваецца ляснік і гукае прастуджаным голасам:

— Няхай лезе сюды, у яго слова да касці прыстыла... Можа яшчэ загаворыць...

Гэта — начны саўгасны вартаўнік. Яго змянілі не раніцаю, а толькі-толькі, ужо на другія суткі зайшло. Адубееў на паветры дый гарачага не еў.

Дзед сядзіць у кажусе і ў бурцы, а валёнкі, пэўна, на тры суконныя анучы. Хаціна невялікая, лес

блізка, рукі свае, значыць, дроў хапае. Ад гарачыні нельга трываць, а госць, як каменны, не зварухнецца.

Лесічыха цэдзіць і налівае ў бутлю піва. Хараша пахне яно, запаранае на падрумяненых бульбяных галачках і запраўленае соладам і хмелем. Дзед паварочвае на пах галаву і падстаўляе кубак з-пад кіпню.

Пакаштаваў. Смачна, і ў ногі дае. Падставіў кубак: яшчэ! Глынуў і гэты, і ўсё моўчкі. Раптам усхапіўся, ляснуў вобземлю шапку:

Гэх, мак цябе мяці,
Гіньце, мае грошы!
Дзе бабу падхваціў,
Там баба хароша.

— Будзе жыць! — абзываецца ляснік.— А я думаў, зусім ахаладаў чалавек. Трэба і сабе паспытаць.

І ўжо ўдвух садзяцца каля пачатай бутлі.

## ГРАКАВЯНЯ

Я нёс укручанае ў ручнік гракавяня, а ўслед, насядаючы проста на плечы, ляцелі бацькі, грак-мама і грак-тата, і лаялі мяне самымі адборнымі птушынымі словамі.

Калі я вылазіў з возера, бераг быў зусім пусты, толькі пад купкаю ўзбярэжных соснаў варушылася нешта чорнае. Падышоўшы, я ўбачыў гракавяня, яно нават не памкнулася ўцякаць, відаць, не маючы яшчэ горкага дасведчання, што на свеце шмат чаго трэба асцерагацца. Сядзела сабе на пяску і раз-пораз разявала вялікую, акаймаваную жоўтым дзюбу.

Гнёзды на дрэвах, дзе вяліся гракі, былі высока, узлезці туды, каб пасадзіць подлетка, я не мог. Пакідаць жа яго, бездапаможнага, на спажыву драпежнікам было б жорстка. Хай пабудзе ў нас на панадворку, пакуль падужэе і падвучыцца лятаць.

Птушаня далося ў рукі, аднак даволі балюча ўшчыкнула за палец, мусіць, палічыла, што даюць нешта есці, бо так і засталося з разяўленай дзюбай.

Усё гэта адбывалася ў поўным маўчанні абодвух

бакоў, я пакіраваўся дадому, і ўсё было б добра, але нахваціліся старыя гракі і ледзь не лезлі ў бойку, сварачыся не вельмі прыемнымі галасамі.

— Дзе ж вы былі? Трэ было глядзець дзіцяці. Падзякуйце, што не нарваўся які-небудзь коршак-птушанятнік. Плакалі б зараз, па лесе пер'е збіраючы.

Расхваляваныя птушкі і слухаць не хацелі, і я вырашыў зрабіць тое, чаго яны так настойліва дамагаліся.

— Калі вы ўжо такія добрыя бацькі, трымайце! І не пакідайце аднаго. Другі раз не аддам.

Я раскруціў ручнік і падняў малое ўгору, хацеў пасадзіць на ляшчыну. Яно страпянулася і з жаласным крыкам спланіравала на бліжэйшую хвойку. Лапы раз'ехаліся ў бакі, гракавяня гайдалася на тонкай галінцы і са страху жаласна крычала.

Бацькі не бачылі ў гэтым нічога трагічнага і ўзяліся за абвыклую справу: пабегаўшы па беразе, падляталі да хвойкі і напіхалі бяздонную жоўтую дзюбу смачнымі ласункамі накшталт чарвякоў і азёрных стракоз.

Цяпер, стоячы за суседнім дрэвам, я добра разгледзеўся: гэта было не птушаня, а ладная дужая птушка з паўметровым разлётам крыл. Малады грак выглядаў адкормленым франтам, чорным-чорнае ўбранне блішчала на ім, аж палыскавалася.

Куды тым бацькам! У абедзвюх старых птушак ва ўсе бакі тырчала нашатыранае пер'е і, як гавораць у народзе, адны вочы свяцілі — такія яны былі худыя. Якое тут дзіва! Колькі трэба сілы і клопату, каб выкарміць да такой ухарчаванасці, ды не аднаго, а пяць ці ўсе шэсць ненаедных гарлачоў.

Было крыху смешна, як гэты здаравец усё яшчэ гайдаецца, ушчаперыўшыся за галіну, каркае ад няпэўнасці, але не забываецца глынуць чарговую порцыю ежы.

— Ці не пара на свой хлеб! — я выйшаў са схову і махнуў ручніком.

Малады грак варухнуў крылямі — трымаюць! — і зляцеў на вільготны пясок, пад самую хвалю, дзе збіралі спажыву старыя птушкі. І яны ўсе шпарка пабеглі па беразе возера ланцужком: наперадзе, му-

сіць, тата — паказваў дарогу, мама прыкрывала маладога ад небяспекі ззаду.

А мне хоць бы дзюбаю хто кіўнуў!

## НА РАСТАНЦАХ

Незадоўга да першай, што была на нашай памяці, вайны з немцамі ў згалелым маёнтачку каля Слуцка з'явіўся чалавек. Не сказаць каб пан, бо не меў зямлі і аселасці, а праз гэта, відаць, і разгубіў, калі яно было, сваё панства. Не цягнуў нават на хутаранца, бо нічога не рабіў і не ўмеў рабіць, а хутарскія заўсёды выжыльваліся на полі і пры доме. Ды ўжо ж не быў ён і з мужыкоў, бо хадзіў кожны дзень чыста, хоць еў і піў, можа, горай за першагалепшага хлебзвадоечніка.

Разам з гэтым чалавекам прыйшла пагалоска, праўда ці чутка, нібыта прычыніўся ён да паўстання матросаў недзе на Чорным моры. Але, відаць, была гэта прыдумка, бо паліцыя тут надта не нюхала, разы са два прыязджала і болей не наведвалася: ці не знайшла за што ўчапіцца, ці ад яе ў пору адкупіліся.

Гэта не дапамагло хоць што дазнацца аб тым прышлым. Ніхто так і не ўведаў, адкуль ён узяўся, і не пачуў яго імені. Дык знайшлася мянушка, або вулічнае прозвішча, без якога, вядома, не можа абысціся ў нашым баку чалавек і якое заўсёды пасуе да яго лепш, чым запісанае ў метрыцы. Прышлага пачалі зваць Наводны, як гаварылі на прыблуднае каняня ці падкінутага шчанюка; гэта літаральна азначала — немясцовы, аднекуль прыведзены.

У тых паноў — сяброў ягоных, ці што,— да каго застаўся жыць Наводны, было можа з дзесяць такіх, большых і меншых, маёнткаў. Усе яны пакрысе пераходзілі ў другія рукі, бо гаспадары звыклі жыць шумна, у вялікіх заграніных і тутэйшых гарадах. Маёнтак пад Слуцкам быў апошні і ацалеў праз нейкі выпадак, дый то не зачапіла продажам адну сядзібу: сад з сажалкаю, дзе плюхаліся здрабнелыя карасікі, і парнік, у якім вырастала з дзесятак ранніх гуркоў і трохі садовых суніц.

Стаяў яшчэ і панскі дом, але з пазабіванымі вокнамі і дзвярыма, а жыў Наводны ў двухпакаёвым дамочку аконама. Там жа ў кухні, праўдзівей сказаць на варыстай печы, мясціўся селавы бабыль Базыль Рай; ён, вярнуўшыся з салдатаў, на сваю гаспадарку не ўзбіўся і пайшоў у двор у памагатыя. А паколькі сам Наводны нічым не займаўся, не было яго відаць ні ў царкве, ні ў касцёле, толькі часам сядзеў з вудачкай каля сажалкі, дык і не было яму ў чым памагаць. Не рабіў нічога і Базыль, хіба што падвясельваў зямлю ў парніку ды пільнаваў саду. Увесь ураджай з разгатых неагледжаных бэр і антонавак за некалькі гадоў наперад быў запраданы касавокаму перакупшчыку Шмуйлу, які з таго і жыў, што браў у арэнду папоўскія і яшчэ там чые сады.

У садзе і заспела двух старых адзінокіх людзей паведамленне царскіх улад пра вайну. Абодва сядзелі дзень пры дні, панураныя, каля цяпельца пад ігрушай-фунтоўкай, з'ядалі ў адну пару горшчык бульбы ці прасянай кашы, што ўжо там пад настрой упраўляўся накухарыць Базыль. І ўсё прыглядаліся і прыслухоўваліся, нібыта вось зараз з вільготнай глыбіні саду выбежыць і падзьме на прыгасшыя вугалі высокае страшыдла з захінутым тварам — вайна!

Яна такі з'явілася, але пазней і трохі інакшая з выгляду. Налета недзе пад Баранавічамі пачало моцна грымець, білі гарматы.

Потым на Пагост і далей на Рагачоў пацягнулася доўгая патока вазоў, людзей і статкаў, якую ахрысцілі вострым і шчымлівым імем — бежанцы. Пакончыўшы з хатнімі прыпасамі, яны змяталі ўсё, што траплялася на дарозе: стажкі сена, копы ярыны, нявыбраную бульбу і буракі. Златашылі за адзін адвячорак і сад Наводнага. Базыль спрабаваў пагражаць, хапаўся за стрэльбу, а Наводны толькі асцерагаў людзей, каб не наядаліся сыравіны, і пытаўся:

— А праўда, немцы блізка?

І хоць тых немцаў ніхто і ў вочы не бачыў, усе адказвалі:

— Блізка.

Праз некаторы час бежанцы схлынулі, а яшчэ тыдні праз два іх патока паспрабавала завярнуцца і паўзці назад. Першымі з'явіліся на кінутыя сядзібы жыхары з бліжэйшых да маёнтка вёсак і хутароў. Пасля пачалі ехаць людзі і з-пад самай лініі фронту, дзе, гаварылі, ён спыніўся: з-пад Маладзечна і Баранавіч.

Гэты горкі чалавечы рух не прынёс асаблівых навін у жыццё Наводнага і Базыля Рая. Хіба што пачалі жыць галадней. Але ж неяк перазімавалі.

Вясною Наводны выбраўся ў горад, пад'ехаў з вясковымі фурманкамі нібыта на нядзельны кірмаш, а прабыў там аж цэлы тыдзень. І на кірмашы ніхто яго не бачыў, бо ўсё хадзіў ён па горадзе і шукаў майстроў, што робяць намагільныя пліты. У наступную нядзелю Наводны падышоў на рынку да знаёмага хутаранца і за добрыя грошы папрасіў давезці яго з грузам да маёнтка. Нешта падобнае да даўгаватай скрынкі было ўверчана ў рагожу і аблытана моцнымі матузамі, а важыла столькі, што траха не паадрывалі яны рук з Раем і падводчыкам, пакуль унеслі груз у пакой Наводнага.

— Мяркуючы па ўсім,— сказаў Наводны, калі яны засталіся ўдвух,— немцы такі прыйдуць сюды. Ваяваць з імі я застары, глядзець, як вораг ходзіць па нашай зямлі — не вытрымаюць вочы. А ўцякаць — не хачу, дый няма куды дзецца. Лепш пайсці зусім. І я хутка пайду. Калі памру, пахавай мяне на самым раскрыжаванні дарог. А на магілу пакладзі вось гэта...

Наводны паказаў на рагожны скрутак, даў Базылю гадзіннік і некалькі залатых манет.

— За гэта мяне пахаваеш і памянеш. Гадзіннік захавай на памяць. Не забудзеш, як трэба зрабіць?

Прыйшло лета, за ім восень, перажылася зіма, а наступнае вясны Наводны не дачакаўся...

Так з'явілася на людных ростанях магіла і прастаяла там ад першай да другой вайны, што адбушавалі на нашых вачах. Магіла была чыстая, не загнюшвалася ніколі і пліта, хоць не несла яна на сабе ні імені, ні прозвішча таго, чые косці прыціснула. Усяго некалькі слоў выбілі на ёй, але трыма мовамі: нашаю, французскай і нямецкаю. Яны нібы

папярэджвалі падарожніка: «Пакрэпяць і на цябе».

Напісана было, вядома, крыху не так, а як спрадвеку гаварылі нашы дзяды і прадзеды, простым словам, каб зразумелі ўсе.

Улетку 1941 года на тых ростанях спыніўся танк са свастыкай. З люка вылез прысадзісты афіцэр, зверыў скрыжаванне дарог з картаю, пасвістаў і хацеў падавацца далей, але заўважыў магілу з пліцою. Ён нядбала падышоў туды і з задаваннем пераможцы, звыкшага апаганьваць памятныя мясціны ў чужых краях, зрабіў гэтак і тут. Зацярушаны пылам надпіс выразна пазначыўся на апырсканай пліце.

Афіцэр разрагатаўся.

— Пусці гэта прароцтва следам за іхнім прарокам! — загадаў ён.

Танк зароў, наехаў на пліту гусеніцай і крутануўся. Гранітныя аскабалкі пырснулі ва ўсе бакі...

А надпіс такі спраўдзіўся. Браня тых танкаў даўно пайшла на пераплаўку, а тысячы дажджоў лілі на косці заваёўнікаў...

Аж пакуль яны не сатлелі...

## БУЛЬБЯНЫЯ РУКІ

Пасля цяжкой хваробы ў старога Ільі Мікалаевіча трасуцца рукі. Ён доўга стаіць перад форткай у двор, ніяк не можа злаўчыцца адчыніць засаўку. І чуе: унучак Дзіма гаворыць Хвёдзьку, таварышу па гульні:

— Наш дзед — вібратар. Патрасе рукамі, вось брамка і адчыняецца.

Ілья Мікалаевіч ківае галавою ў бок бабкі:

— Тэхнічна адукаваны хлопчык!

Стары прыляпіўся душою да ўнучкі Алачкі. Прыехала пажыць на чыстым паветры да верасня, пакуль заняткі пачнуцца, і стала душою ў доме. Без яе ні кроку: ні за стол, ні ад стала. А галоўнае, навучыла іх, старых, пячы бульбу ў газавай духоўцы.

Ядуць печаную, з прыгаркамі. Успамінаюць старыя вёску, дзе раней жылі, асеннія дні, калі проста

на полі закладалі ў прысак ад цяўніку бульбіны. Самыя лепшыя, адборныя, толькі што выкапаныя.

Печаную бульбу ўпадабала ўся сям'я. Сталі пячы па чарзе. Аднак лепш, як ва ўсіх, удавалася гэта ў Алачкі: так спрытна паварочвала яна бульбіны і вымала іх проста голымі рукамі.

І кожную раніцу стары пачынаў з аднаго:

— Давай напячом, малая! Можа апошні раз каштую...

Дзяўчына казала што-небудзь вясёлае, падавала смачную страву на стол, і дзедаў смутак развейваўся.

Нарэшце Алачцы прыйшоў час ад'язджаць. Дзед заплакаў, пацалаваў у лоб, падзякаваў, што глядзела.

— Ну што ж, нічога не зробіш... Трэба дык трэба, пара ехаць... Будзем помніць цябе, чакаць на лета... Залатыя рукі маеш для бульбы...

І дадаў, каб разважыцца:

— Дык пакінь хіба нам адну руку... Бульбу з печы даставаць. Мы з Дзімкам сваімі не ўправімся.

## ПТУШЫНАЯ ГАСЦІНІЦА

Мароз браўся за дваццаць. Я пераходзіў мост на вуліцы Янкі Купалы. З рэчкі моцна пацягнула рэзкім сіверам, і людзі пачалі настаўляць каўняры, подбегам абмінаючы адзін аднаго.

Не шманалі толькі два хлопцы-школьнікі, як павялося цяпер, без шапак, у лёгкіх модных паліцечках. Яны ішлі перада мною, не прыбаўляючы кроку, і ўсё падхвальвалі бадзёрае надворайка. Аднак, час ад часу, то адзін, то другі рабіў нядбалы рух, быццам папраўляючы зашаранелыя валасы, і неўзаметку праводзіў рукою па вуху. Нарэшце ім надакучыла прыкідвацца трывалымі і сур'ёзнымі.

— Давай марафонам!

І пабеглі, падкоўзваючыся па выслізганых да бляску лапінах тратуараў.

Я пабачыў хлопцаў, перайшоўшы скрыжаванне за скверам, дзе ляжаў нятоптаны снег і пахлі журавінавым сокам ахаладаўшыя дубы і ліпы. Хлоп-

цы стаялі каля ліхтарнага слупа і пазіралі, задраўшы галовы, угару.

— Ціха,— зашыкалі яны на мае рыпучыя крокі,— зараз другі палезе.

Уверсе, на самым краёчку ліхтара, сядзеў, падціснуўшы крыльцы, верабей і выцягваў шыю, каб зазірнуць падыспад, пад эмаліраваны кружок, дзе гарэла лямпа.

Толькі я хацеў пацікавіцца, хто і куды мае лезці, як хлопцы парушылі маўчанне і запляскалі ў ладкі.

Калі я падняў вочы, вераб'я на старым месцы ўжо не было.

— Куды ж ён дзеўся?

Хлопцы агледзелі мяне з відавочным жалем:

— Няўжо не заўважылі?

І зноў утаропіліся на ліхтар.

Шкляной накрыўкі на ім не было, лямпа звісала на провадзе, не ўваходзячы ў штампаванае гняздо. Адчыняўся невялічкі, але, як на вераб'іную камплекцыю, зусім прыдатны лаз у сярэдзіну, пад металічны каўпак.

Вось яно што! Там было зацішна і, напэўна, цёпла ад лямпы, ва ўсякім разе куды больш прытульна, чым пад намёрзшым дахам недалёкага опернага тэатра, бо ў залу, дзе можна пагрэцца і паслухаць добрых салістаў, туды вераб'ёў і нават салаўёў, вядома, не пускаюць, не як магчымых канкурэнтаў, а каб не засталося, крый божа, на крэслах слядоў птушынага захаплення.

У адказ на маю здагадку з адтуліны каўпака высунулася рудаватая галоўка. Верабей ціўкнуў, нібыта запрашаючы на начлег, і схаваўся.

Гэта і праўда было запрашэнне. З абкіданага снегам дрэўца на ліхтар узляцеў другі верабей і, пасядзеўшы крыху на беражку, шмыгнуў пад каўпак.

— Усё! — гукнулі хлопцы.— У гэтай гасцініцы месцаў больш няма. Пайшлі далей.

Каля наступнага слупа гісторыя паўтарылася. Вераб'і ляцелі са сквера і плішчыліся пад ліхтаровыя каўпакі, у «гасцініцу», а калі там знаходзіўся вольны ложак, клікалі яшчэ не знайшоўшых прытулку сяброў.

— Чыстае кіно! — сказаў мне адзін з хлопцаў на развітанне.— Мы кожны вечар сюды ходзім такою парою. А як вы думаеце — гэта што, умоўны рэфлекс? Па-мойму, нешта большае. От каб можна было папытаць у Івана Пятровіча Паўлава!

Мінуў год. Абазваліся шчымлівыя маразы, і я зноў апынуўся на вуліцы Янкі Купалы. Але там ліхтары старога ўзору паспелі памяняць на лямпы дзённага святла ў вузкіх бляшаных карытцах. Тут ужо не перабудзеш ноч!

Дзе ж яны цяпер ратуюцца ад холаду, тыя разумныя вераб'і? Якую знайшлі сабе раду і што б сказаў пра іх новыя захады акадэмік Паўлаў?

Усё гэта пакуль астаецца без адказу. Хіба што зноў давядзецца сустрэць тых цікаўных хлопцаў.

Яны павінны дазнацца.

## ПАПОЎ ЗУБ

Дантыстка, мажная бялявая жанчына, наводзіць парадак у роце пацыента.

— Ну і запушчана ў вас зубная гаспадарка!

Чалавек крывіцца ад болю, і дакторка расказвае для развагі смешныя гісторыі.

— На тым тыдні прыйшоў бацюшка. Сівенькі, чысценькі, як з іконы. Трымаецца за шчаку: «Ці не можна, калі ласка, без болю?» І ўсё бародку памыквае. Пасадзіла яго ў крэсла: «Разяўце рот!» Кутні зуб невядома на чым трымаецца, можна сказаць, сам вырваўся. «Гэты?» — «Мг-гм. Толькі без болю, злітуйцеся...»

А я сабе думаю: укалю — горш будзе балець, лепш так, знянацку тузануць. Набрала ў шпрыц вады, пырснула на дзясну. «Цяпер патрымайцеся крышку!» — і пацягнула. Зуб — у руцэ, як і не было, а поп зароў немым голасам, дзесятку на стол — і ў дзверы. Крычу ўслед: «Забярыце свае грошы, прапаласкаце рот!» А яго і завідам няма. Я — сама не свая: што, думаю, за ліха? Няўжо дзясну прыхапіла? Не, на зубе крыві і не значно. Зірк на абцужкі — і ўмлела: тырчыць касмыль сівой барады, і дужаваты. Гэта я разам з зубам падчапіла...

Яна вінавата глядзіць на свае дужыя рукі. Гляд-

жу і я, бо ведаю, колькі цяжкай работы перарабілі яны: жанчына была доктарам у партызанскім атрадзе. Лячыла запаленне лёгкіх ліпавым цветам і малінаю, рвала зубы і рабіла ампутацыі без кроплі наркотыкаў, інструментам, які і блізка не ляжаў каля медыцынскага. І ўсё абыходзілася. А тут на́ табе!

— Нічога, жыў будзе той бацюшка.

Яна, пасміхнуўшыся, зноў бярэцца свідраваць мне зубы.

— Добра, што ў вас барады няма.

## КАРОТКІ ДЗЕНЬ

Снежная зіма. Такіх тут не бачана і не чута, асабліва сярод малодшых людзей.

Невялічкі гарадок завеяны з дахамі. Найбольш пазадзімала ўскраіны, дамок, дзе месціцца цесная цыруленька, амаль не відзён з гурбаў. Тут і ў добрае надвор'е работы малавата, хіба што пад святочны дзень.

Два майстры, не зважаючы на мяцеліцу, з'явіліся акуратна ў восем. У сваё «прадпрыемства» адразу не трапілі, з гадзіну прабівалі рыдлёўкамі траншэю да дзвярэй, размяталі падыходы. Потым спачывалі, мыліся, грэлі чай. Адзін як глянуў праз акно, хлеб так і засеў у горле: тае работы і знаку не відаць, зноў намяло ледзь не пад саменькі дах.

Зімовы дзень кароткі, не паспее рушыць з паўдня, ужо і на прыцемак бярэцца. А наведвальнікаў — ні туп, ні рып.

Яшчэ пасядзелі майстры, паспрабавалі дарашаць красворд. Тры словы так і не дабралі, не ведаюць, як называецца рака ў Афрыцы, што за ён — дыван без ворсу і нешта яшчэ больш мудрагелістае.

— Дай хіба я цябе пагалю, Міша? — знецярплівеў малодшы цырульнік.

Пагаліў, паправіў на скронях, бровы параўняў. Усё ж такі занятак. Пасля зрабілі перапынак на абед, зноў пагрэлі чаю. Па абедзе падахвоціўся старэйшы майстар:

— Цяпер сядай ты, Сёмка! Я цябе падчапуру, як перад загсам.

Доўга мыліў шчокі, правіў брытву на рэмені, але, як ні цягні, праз паўгадзіны работа ўся.

Зноў глядзяць у завеянае акно. Запалілі святло: на ходзіках — пяць гадзін. Можна зачыняцца. Майстры збіраюць рэчы і на адыходзе нявесела жартуюць:

— Што, можа яшчэ па разу паголімся?

## СУМЛЕННЕ

Пажылы чалавек дастаяўся ў касу. На ім заечая шапка са спушчанымі кляпамі, цяжкое паліто з прудкага, нібы фанернага, драпу — не павярнуцца. У адной руцэ — рукавіца, а ў другой тонен кі скураны кашалёк.

Калі падаваў касірцы грошы, ззаду папярэдзілі: рукавіца ўпала. Азірнуўся на голас, падзякаваў. Нагінацца ў такой гаматнай адзежы нязручна, але трэба. Падняў рукавіцу, узяў чэк і рэшту і пайшоў, а каля прылаўка агледзеўся — няма кашалька.

Давялося тупаць назад, аглядаць падлогу, пытацца ў касе, ці не перадалі чаго. Адышоўся ўбок, перамацаў усе кішэні раз, другі: няма, як і не было. Ну, што ж зробіш! Людзей у магазіне многа, усіх не перапытаеш, а так хіба дазнаешся, у чыіх руках апынулася твая ўтрата?

У тамбурчыку каля ўваходных дзвярэй нехта прытрымаў за рукаў: бабка! Маленькая, белы поснцы тварык, шарсцяная хустка ражкамі пад бараду, не на тыя плечы шыты тонкі палітончык з вялікімі гузікамі. Адразу падумалася: бачыла, хто падняў, але там не сказала, лепей шапянуць цішком.

А бабка падала кашалёк і аказалася нечакана густым мужчынскім голасам:

— На, і другі раз лепей трымай.

Чалавек не верыў вачам, тым часам старая тлумачыла:

— Я думала, у цябе якіх рублі тры, тады б не аддала. Не пасміхайся! А тут чатыры дзесяткі і траяк. Шкада стала, можа на месяц без хлеба застанешся.

— Дзякуй вам... Вазьміце вось, калі ласка, дзесяць...

Пальцы ў чалавека не слухаліся, ніяк не маглі дастаць патрэбную паперку. Бабка строга зірнула на яго.

— Дык ты не толькі разявака, а яшчэ і дзівак. Куды мне столькі? Давай рубель і бывай здароў. Болей не зарабіла.

На вуліцу выйшлі разам. Бабулька яшчэ раз агледзела чалавека.

— Нядрэнна зарабляеш, відаць. Можна было і не аддаваць...— І хітранька запыталася: — А ты б аддаў каму? Маўчы, усё роўна праўды не скажаш. Думаеш, дурная? А тут ужо не мая воля. У людзей пад старасць сумлення прыбывае. Дажывеш маіх гадоў, пачнеш аддаваць. І сваё стане непатрэбным.

## У ГАСЦЯХ

Давыдка здарожыўся і драмаў за сталом, прыхінуўшыся да цёплага матчынага пляча. У калгас яны дабіраліся доўга: ехалі цягніком, ад станцыі трэсліся па гравійцы аўтобусам і добрыя паўгадзіны ішлі да цётчынага дома пехатою.

Узімку Давыдка кволіўся здароўем, таму яго і прывезлі сюды. Набудзецца на паветры, надыхаецца поля і лугу, выбегаецца па расе, тады можна і ў школу.

— Як бачыш пойдзе на по́праўку,— гаварыла цётка.— Мы яго тут цёпленькім сырадоем адпоім. Ты дзе хаця малако бярэш? — спыталася яна ў Давыдкавай маці.— На рынку? Дык там жа могуць і з вадою прадаць, разбаўленага...

Гэта было апошняе, што пачуў Давыдка. Соннага, яго перанеслі ў сенцы, распранулі і палажылі спаць.

Прачнуўся хлопчык на незнаёмым ложку і сам не ведаў, як трапіў туды. Нешта кальнула ў бок. Ён выцягнуў з сенніка сухую травінку — хораша пахне! Хутчэй апранацца і на двор.

Раніца была запоўнена прыемнымі нечаканкамі. Высветлілася, што вішні зусім не абавязкова перапускаць праз тры гарачыя вады і тады толькі есці. Можна рваць іх проста з галіны і адразу кідаць у рот, нямытыя. А па каўбасу не трэба хадзіць у ма-

газін ці даставаць з халадзільніка. Яе здымаюць з гарышча, цвёрдую, падсушаную, і не наразаюць на скрылікі, а ломяць на кавалкі і адкусваюць, запіваючы кіслым малаком. Любата!

Давыдка не паспеў асвойтацца з усімі навінамі, як з пашы прыгналі кароў. На дзень, як гавораць, каб перастоялі ў хлеўчуках спёку.

— Вось і наша Стэфа! — сказала цётка, адчыніўшы варотцы вялікай, белай ■ чорнымі бакамі карове.— Не бойся, Давыдка, яна рахманая.

Пакуль цётка хадзіла ў хату па вядро, Стэфа стаяла каля студні, над карытам з зялёным машком на дне, абмахвалася ад заедзі і, памыкваючы, прасіла піць.

— Зараз, зараз,— весела прыгаворвала цётка, вярнуўшыся.— Напоім цябе, а ты дасі смачнага малачка нашаму госцю.

Давыдка наглядаў з ганка. Ён стаў на ўсякі выпадак бліжэй да сенечных дзвярэй: Стэфа то Стэфа, але ж вунь якія рогі!

Цётка ўзялася за вочап і зачэрпала вады, але вось жа паспрабуй уліць у карыта! Перасмяглая ад гарачыні карова замінала, яна задзірала галаву і ўсё мерылася ўсадзіць яе ў вядро. Жанчына засмяялася і лінула Стэфе проста на задзёртую пысу, карова ўцягнула ў сябе халодны струмень, аблізалася і толькі тады пачала спакойна піць з карыта. Дастаўшы яшчэ вядро, цётка абмыла вымя і ўзялася даіць.

— Бяжы па кубак, Давыдка! Зараз будзеш піць цёпленькае!

Хлопчык ускочыў у хату і горача зашаптаў маме на вуха:

— Я не хачу гэтага малака, яно разбаўленае!

— Не выдумляй, сынок!

— А як жа! — пакрыўдзіўся хлопчык.— Я сам бачыў. Яна спачатку наліла ў карову вады, а цяпер доіць. Няхай сама і п'е, калі гэтак.

## НЕДАКОНЧАНАЯ СПРЭЧКА

Новы дом на рагу дзвюх вуліц усутыч падышоў да старога, двухпавярховага. Паміж імі з двара

ўтварылася нешта кшталтам калідорчыка. Той прытулак адразу ж агледзелі галубы і засталіся жыць. Яны найбольш карміліся ў двара, лёталі часамі падмацавацца і да гарадскіх кармушак, а потым лянiва драмалі на сонцы, абсеўшы бляшаны гзымс на старым доме. Гэта была прыступачка далоні са дзве шырынёю, але зляталася сюды нанач можа пар дваццаць. Найбольш спакойным лічыўся ў птушак куток, дзе сыходзіліся сцены новага і старога дома. Зацішнае месца аблюбавала адна пара: вялікі голуб з мянёным пер'ем на крылах і яго крыху святлейшага колеру сяброўка, у яе волле скідалася ў сівізну. Калі яны пазніліся на начлег і ў сваім кутку заставалі якую-небудзь іншую пару, голуб, ад прыроды зусім не забіяка, ужываў сілу. Ён бесцырымонна сядаў на плечы задрамаўшым, штурхаў іх крыламі і грудзінаю, а то і пускаў у ход дзюбу. Так паўтаралася, пакуль за голубам не прызналі права дужэйшага, і больш туды ніхто не патыкаўся.

Тут птушкі летавалі, тут перабылі і зіму.

Але зімоўка на халоднай блясе далася ў знакі. Яны паабмарожвалі лапы і нягегла ступалі па жалезным лісце чырвонымі пакурчанымі кульцяпкамі.

Вясна выпала халодная, дажджыстая. Галубы выглядалі камякамі нашатыранага пер'я і, як толькі паказвалася сонца, пачыналі церабіцца, рабіць туалет.

Кожную раніцу я чуў, як, ідучы на работу, сталяр Цімох гаворыць свайму напарніку:

— Галубы ніяк не спарадкуюцца... Бачыш, той чорны, скочкі з камізэлькі дастае.

Ваяўнічы голуб сапраўды рабіў нешта падобнае: выгінаў шыю і бясконца перабіраў пер'е на грудзінцы.

Нарэшце, пара вясновага акрыяння мінула, усе птушкі ўзяліся за будоўлю. Вераб'і пачалі цягаць пад дах сухія травінкі са сквера, а галкі знайшлі добры матэрыял не лятаўшы далёка: абскублі каўнер зімовага паліто, вывешанага ветрацца на суседні балкон.

Безудзельнымі заставаліся толькі галубы. Праўда, да работы птушка гэта не вельмі ахвочая і выводзіць дзяцей на гарышчах у кошыках, падвеша-

ных шматлікімі прыхільнікамі, або дзе-небудзь у слухавых вокнах. Аднак род ёсць род, ён не можа звесціся, і калі ніхто не дапамагае, трэба брацца за работу самім.

Аднойчы ў кутку, абжытым знаёмаю параю галубоў, з'явілася разгатая галінка. Наўрад ці голуб сам ламаў яе, пэўна, недзе падхапіў астачу ад гракавых будоўляў, балазе гракі, калі не ўтрымаецца ў дзюбе адламаны сучок, не падымаюць яго, а бяруцца за новы. Потым голуб прынёс другую галінку і палажыў на край гзымсу; там было скоціста і слізка, і галінка ўпала. Голуб зляцеў уніз, падняў і прымайстраваў на гэты раз так, каб трымалася. Адразу ж паміж галінак села галубічка, і ўсё няхітрае збудаванне стала падобна да гнязда. Неўзабаве там з'явілася яйка, а за ім і другое.

— А ваш голуб — таксама мадэрніст,— сказаў малады рэжысёр.— Бачыце, нават птушкі перайшлі да ўмоўнасці. І не ў тэатры, а ў побыце. Толькі вы ўсё дарма ўпарціцеся, не хочаце ўявіць на сцэне лесу, калі там пастаўлена адна яловая лапка. Але, як ні круці, аджывае ваш абрыдлы рэалізм.

Ён і слухаць не захацеў прагнозаў наконт таго, што яйкі могуць скаціцца з гзымсу. Чаму ён тады аддасць перавагу: сапраўднаму ці ўмоўнаму гнязду?

На жаль, мае перасцярогі былі не марныя: адно яйка такі ўпала далоў і пабілася. Затое галубы выседжвалі другое з наўздзіўнай упартасцю і асцярожнасцю. Калі галубцы быў патрэбен мацыён і падмацунак, яны падмянялі адно аднаго так ціхенька, нібы краліся на пальчыках. Голуб, калі быў вольны, не адлятаўся далёка, а сядзеў на варце. Няхай толькі завядзецца за чарвяка якая пара вераб'ёў! Гляне так, што адразу сціхнуць.

Таварышы ж нашай па́ры былі вельмі далікатныя і самі вызвалілі памяшканне; перайшлі начаваць пад другі дах.

Дзён цераз дзесяць ва ўмоўным гняздзе растапырыла крыльцы нягеглае і даволі-такі брыдкае птушаня. Клопату ў яго бацькоў стала ўтрая. Старой вароне чамусьці ўпадабалася гайдацца на бліжэйшай ліпцы, кот Барсік пачаў учашчаць на дах і пазіраў адтуль, аблізваючыся, на галубяня.

Мы гаварылі з тым самым рэжысёрам, калі голуб расклёўваў на асфальце кавалак сасіскі.

— Ну, гэта ўжо лухта! — абурыўся рэжысёр.— Галубы не ядзяць мяса.

— Цяпер жа ўсё ўмоўна,— не ўтрымаўся я.— Чаму галубу не стаць драпежнікам? Па-вашаму, у п'есе заўсёды цікава не тое, што конь вязе чалавека, вось калі чалавек вязе каня — гэта рэч.

— Ну, знаеце! Я гатоў дапусціць іншую ўмоўнасць. Голуб, вядома, не зрабіўся мясажэрам, а сасіскі маглі стаць вегетар'янскімі.

— А вам не здаецца, Віця, што такім чынам вы пераходзіце на зусім рэалістычныя пазіцыі?

Нашы спрэчкі не канчаюцца і дасюль. Галубяня тым часам вырасла і паляцела.

З умоўнага гнязда, падгадаваўшыся на ўмоўных ці сапраўдных сасісках.

## ЮЛІКАЎ ГРЭХ

Іван, здаравенны малады рыбак, рэзаў пад вечар чарот на возеры і шабоўснуў у продухавіну. Пакуль збегліся людзі і дапамаглі вылезці, змогся і ахаладаў у лядзянай вадзе.

Дадому ён бег бягом, а тут расцёрлі гарэлкаю напалам са шкіпінарам, далі і ўсярэдзіну шкляначку, ужо без домесі, чысценькай, а наверх — кубак кіпню, распаранай дачырвана маліны з ліпавым цветам.

Цяпер ён выганяе прастуду потам, ляжыць у ложку пад ватоваю коўдраю, навярнуўшы яшчэ і кажух, хоць у хаце напалена па-зімоваму, сухімі дрывамі.

Малы Юлік спачатку быў занепакоіўся: як гэта так? Ягоны тата, самы вясёлы, самы дужы «на ўсім свеце», маўчыць і калоціцца. А ён жа можа дваццаць разоў падкіне Юліка пад столь і не зморыцца або выцягне на бераг поўную лодку рыбы адною рукою і толькі рагоча. А зараз дазваляў скідаць з сябе боты, укладаць на пасцель і наогул праробляць усе тыя дакучныя рэчы, што цярпеў і Юлік, калі ў яго драпала ў горле і вільгатнела пад носам.

Аднак, калі бацька ўгрэўся і загаварыў, Юліка-

вы трывогі мінулі без следу. Хлопчык пачаў бегаць па хаце і вазіць за шпагаціну грузавічок з адным ацалелым колам, што ніяк не шкодзіла гэтай машыне рабіць столькі ж грукату, як быццам яна была сапраўднай рыбгасаўскай палутаркай.

— Пасядзеў бы ты крыху,— абазвалася маці.— Дай бацьку спакой, ён хворы.

— А ты не бачыш, што я вязу рыбу ў халадзільнік? — адказаў хлопчык.— Яна ж сапсуецца.

Паверыць, што бацька занядужаў, Юлік, вядома, не мог. От паляжыць крыху, выспіцца — і ўсё. Юлік жа на свае вочы бачыў і на свае вушы чуў, калі бацька вяртаўся з вяселля ці з хрэсьбін пахістваючыся і ніяк не хацеў супакоіцца, а ўсё нешта наспеўваў і пачынаў бясконцыя размовы. Маці казала тады:

— Адчапіся, Іван. Прыхварэў, дык ляж і паспі. Заўтра пагаворым.

Так яно і было. Назаўтра бацька прачынаўся такім жа мілым і добрым татам, як і заўсёды. Усмак снедаў і падаваўся на возера, паабяцаўшы Юліку злавіць самага большага шчупака.

Так яно і цяпер будзе. Аднак хлопчык пакінуў «вазіць рыбу» і паставіў машыну «на рамонт». Пасля некалькіх удараў малатком у грузавічка адляцела апошняе кола, і, каб прымацаваць яго, давялося стукаць яшчэ мацней.

Тады ўмяшалася бабка. Яна стала ўшчуваць малога тымі жорсткімі словамі, да якіх, немаведама чаму, звяртаюцца амаль усе старэйшыя людзі.

— Ну, вось які ты неслух! Не любіш тату, робіш усё насуперак. А тата праз гэта возьме і памрэ. І не будзе ў нас таты. Хоць бы разок паслухаў. І ў каго ты ўдаўся такі? Зробіш шкоду і ніколі не прызнаешся. Хто ўчора збанок пабіў? Не ты, скажаш? Толькі што на ката Мурзіка зляжыў. Думаеш, я не ведаю?

Размова набывала непажаданы кірунак. Зараз бабка ўспамяне яшчэ якую правіну, і ўсё можа скончыцца не вельмі прыемна.

Юлік надзьмуўся і сеў на лаву. Ён пачаў хукаць на замёрзшую шыбіну, можа ўдасца зірнуць адным вокам на вуліцу. Дый шуму ад гэтай справы

піякага. Але і тут не дадуць доўга пацешыцца. «Шыбу выціснеш»,— зараз закрычыць бабка. От так ён усюды і заўсёды застаецца кругом вінаваты.

Пашкадаваўшы сябе, Юлік успомніў пра бацьку. Той ляжаў з заплюшчанымі вачыма і, мусіць, драмаў. У хлопчыка зашчымела ў грудзях. «Можа, яму і праўда вельмі кепска? А я, мусіць, моцна грукаў. І не слухаўся яго. Бедны наш тата, ён жа мог і не вылезці з тае халоднай вады. І ніколі б не даведаўся, што я нарабіў без яго».

Юлік вырашыў пакаяцца ў сваім апошнім, нікому не вядомым, нікім не выкрытым граху. Ён падышоў да ложка і чапнуў хворага рукою.

— Тата! Я браў твае папяросы ў рот. І паліў твае запалкі. Бяры вялікую папругу, бі мяне па чым хочаш.

## НАТАША

*

Малой Наташцы забаронена хадзіць, нават уставаць на ножкі. За гэтым сочаць мама, тата, тры бабкі і дзед, зморапы і таму зласнаваты стары. Усе гэтыя асобы, як толькі Наташка спрабуе змяніць становішча, дружна крычаць:

— О, глядзіце: ходзіць, ходзіць!

І кідаюцца саджаць ці класці дзяўчынку. І яна сама, калі ўдасца ўстаць ці зрабіць нехлямяжы разгірэчысты крок, весела рагоча:

— О! Ходзіць, ходзіць!

Часамі яе хутка нясуць з вуліцы ў дом — прыходзіць такі час. Мама спяшаецца, каб у малой не падмоклі трусікі, бяжыць і ўгаварвае:

— Пачакай, Наташа, пачакай!

А тая рагоча і крычыць свайму сівому дзеду, які дрэмле ў крэсле пад яблыняй:

— Дзед Антон, пацякай, пацякай!

*

Дзяўчынка ляжыць у калясцы. Не дзень, не два, хутка месяц будзе. А ножка не гоіцца. Малой усё яшчэ не дазваляюць ступіць і кроку, толькі возяць

ды возяць. Куды лепей, калі носяць на руках. Але бабка рэдка робіць гэта, кажа, што Наташа цяжкая, як гляк, а яна — старая.

Вось хоць бы і зараз. Бабка абцягала каляску па ўсім пасёлку, змарылася і пакінула ў цяньку на сваім дварышчы. А Наташу для пэўнасці прывязала старым шалікам да більцаў: нават і не спрабуй вылазіць, пакуль яна сходзіць да суседкі.

Горача, хоць бы вецер павеяў. Тады заварушылася б, зашамацела б лісце і можна было б убачыць чырванабокія яблыкі.

Нудна дзяўчынцы. Тут якраз у двор забягае сабака Жук, бяздоглядны валацуга, з надзеяй пачаставацца. Не можа ж быць, каб у доме, дзе ёсць дзеці, не засталося чаго недаедзенага. Хоць на адзін хлэм яго вялікай рудой зяпы.

Нідзе нікога не відаць, кепска. На ўсякі выпадак вільнуў хвастом калясцы.

А дзяўчынка і рада!

— Жук! Жучок! Азьмі Натачку на ручкі! — крычыць і ўся падаецца да яго.

Жук, як відаць, разумее, чаго ад яго спадзяюцца, і зноў віляе хвастом. На гэты раз крыху збянтэжана і вінавата: маўляў, не магу, і сваіх дзяцей ніколі не насіў.

Раптам Наташа бачыць, што ў двор заходзіць бацька. Добры, дужы яе тата! Ён заўсёды носіць дзяўчынку на руках, колькі ёй зажадаецца, і ніколі не зморыцца.

Узрадаваная Наташа крычыць акурат так, як загадваюць мама і бабка, тымі самымі словамі:

— Енька! Азьмі маюю!

І Лёнька бярэ і высока падымае сваю малую.

Цяпер яна такі набудзецца на руках!

*

Чорны фланелевы кот — улюбёная Наташына цацка. Ад часу кот зацухмоліўся, стаў аднавокі і трохлапы, але не страціў прыхільнасці свае малое гаспадыні. Не можа разлучыцца з ім, дый годзе! Садзіць разам за стол, вязе з сабою гуляць, прымушае перасыпаць лапкамі цёплы пясочак у скрынцы.

Зараз пара класціся спаць, і кот абавязкова павінен быць пры боку. А ён, як на тое, недзе згубіўся.

— Дай катку хоць хвіліну спачыць. Хай паходзіць, мышку сабе зловіць.

Наташа не зважае на бабуліны ўгаворы і катэгарычна патрабуе ўлюбёнца. Калі той нарэшце знаходзіцца, кладзе катка на падушку. Доўга ляжыць з расплюшчанымі вачыма, потым кліча:

— Бабка! А ты пайдзі злаві майму кату мышку.



— Яна ходзіць! — хваліцца Наташа кожнаму, хто б ні зайшоў у дом.— Сама! — І для пэўнасці скача на той ножцы, што балела.

Праз гэту шчаслівую акалічнасць сям'я пераехала ў горад ужо з новага года. Тут куды весялей, чым у тым закінутым пасёлачку. І раўняць няма чаго! А сягоння і пагатоў: свята, Дзень Перамогі. А перад гэтым быў — Першы май!

Наташы гэты невядомы Май уяўляецца бялявым хлопчыкам: ідзе па лугавой траве і іграе. На чым бо ён іграе? Не на гармоніку, як тата, і не на скрыпцы, як дзед Антон. Ага, ён іграе на трубцы, бліщчастай — чыста залатой! — то кароткай, пры самых губах, а пасунь наперад і стане даўгая, як рукою дастаць. Акурат такая, як у суворацаў, якіх яны з татам бачылі на парадзе.

Наташа павольна ступае, трымаючыся за бацькаву руку, і ёй здаецца, нібыта ідзе з гэтым самым Маем. І трэба ж — вакол трава густая і зялёная: яны праходзяць па гарадскім парку, вяртаюцца з гасцей.

Мама і тата трошкі больш вясёлыя, чым звычайна, загаварыліся і пра Наташу амаль забылі. А яна і не нагадвае пра сябе, не крычыць: «Мамачка, памаўчы!» — пакуль не выгаварыць усё чыста сваё. Ідзе, ціхенька думае, і ўсё па ўсім.

Раптам над дрэвамі і над дамамі ўзляцелі сотні сініх, зялёных, чырвоных агнёў, узляцелі і рассыпаліся па небе. Наташа, заварожаная — ніколі не бачыла такога хараства,— не паспела спытацца, што

гэта. Следам пачуўся страшэнны грукат, падобны да грому, якога яна вельмі баялася.

Дзяўчынка ўчапілася за бацькаву руку, схавала твар у ягоных каленях.

— Што гэта? Што гэта, татачка?

— Салют, салют, Натачка! — у адзін голас адказваюць мама і тата.— У гонар свята, страляюць з гармат...

Не ўхапіла Наташа зразумець, што тут няма нічога пагрозлівага, як грукат паўтарыўся зноў, і, як ёй здалося, яшчэ мацнейшы.

Дзяўчынка збянтэжана глядзіць на бацькоў: з чаго тут смяяцца? Няма нічога смешнага, толькі страшна і ў вушах звініць.

Пакрыўджана, у трэцяй асобе, як гавораць пра яе дарослыя, хліпае:

— Яна не просіць салюта!

Спахапіўшыся, каб не пакрыўдзіць бацькоў, якім усё гэта відавочна падабаецца, малая дадае:

— Калі вам трэба, слухайце. А яна не будзе.

*

Раніца. Ветрык ледзь надзімае фіранку ў расчыненых дзвярах мансарды.

Лёгкі стук. Нешта ўпала там, на балкончыку. Пэўна, белы наліў знудзіўся на галіне і сам зваліўся ў рукі.

Хацеў паглядзець, але на фіранцы мільгнуў цень. Нейчая лапка драпнула полкі тканіны, расхінула іх, і ў шчылінку зазірнула вушаценькая рудая мордачка.

Вавёрка! Я неасцярожна паварушыўся, яна грозна дзьмухнула, пастрашыла: «Фу-фу!» — і знікла.

Можна было б і далікатней крыху. Хто табе, малая валацужка, сыпаў на гэты самы балкончык узімку грыбы і сухарыкі?

Яна перабралася сюды з суседняй вуліцы пасёлка. Там завёўся хітры і памаўзлівы кот Мінёр, сам сабою пакараны за сваю брыдкую натуру. Гуляў па лесе і палез лапаю ў пастку, пастаўленую на нейкую звярынку,— хацеў дастаць нажыўку, кавалак сырога мяса. Дамоў кот прывалокся на трох, дастаў

ад свайго смяшлівага гаспадара новую мянушку — Мінёр — і вымушан быў глытаць у кожнай страве таблетку стрэптацыду, каб гаілася. Лапа ўсё ж балела, і кот выў нéмым голасам цэлыя ночы.

Вавёрка адцуралася таго дома, нагледзеўшы, што ў нашым паддашшы нестае адной дошчачкі. Жыла ўсю зіму, а потым, як стала цяплейшае сонца, сышла ў лес.

Пра ўсё гэта дазналася Наташа. Яна адразу ж заявіла, што будзе начаваць у нас: раніцай, напэўна, вавёрка зноў прыйдзе. А ім трэба канечне пазнаёміцца.

І дзяўчынка засталася. Але мінула раніца, сонца стала над галавой, а чаканне было марнае — вавёрка не з'яўлялася.

Наташа і яе задушэўная сяброўка Воля ўстанавілі насупраць балкона сталы наземны пост. Я сядзеў на лавачцы і недзе пад вечар пачуў у сябе за спінаю шчаслівы шэпт:

— Прыйшлі!

— Хто там прыйшоў?

— Вавёрка і...— Наташа падумала, як сказаць,— і трое малых... ваверанят.

— Ужо і трое? Гэта праўда, Наташа?

— Праўда? — яна надзьмула губы.— Каб сказала: пяць ваверанят, тады была б няпраўда.

Да дзіцячага назіральнага паста далучыліся дарослыя. І падпільнавалі. Сапраўды да нас прыходзіла вавёрка з трыма ваверчанятамі. Яна і не думала выбірацца з-пад даху, дзе ў яе з'явілася патомства. Проста выводзіла малыхранічкай у лес, пакарміцца, паскакаць па дрэвах, а нанач усе з'яўляліся ў старое жытло. Рабілася гэта так ціха, што мы, пражыўшы палавіну лета, нічога не заўважылі.

Нявысветленым засталося толькі адно: чаго б той вавёрцы зазіраць у мой пакой?

Дарослыя сцвярджалі, што ёй заманулася пашукаць якога наедку — бо дзе ж ты ўкорміш, адною жыўшы, без бацькі, такую плойму рыжых хвастоў!

Адна Наташа ўпарта стаяла на сваім: вавёрка прыходзіла падзякаваць дзеду за зімовыя пачастункі. І толькі яны не зразумелі адно аднаго.

## БРЭХ І МЯЎ

Калі шчанюка толькі прынеслі ў хату, малы ніяк не мог астояцца на падлозе. Вочы ў яго былі вялікія, блакітныя і зусім без зрэнак, а лапы — таўсматыя і ўсё распаўзаліся ў бакі. А рухацца шчанюку хацелася: ён шукаў маці, тыкаўся носам у ногі Саніку і яго маме і ціхенька вішчаў.

Горш за ўсё стала, калі скончыўся кароткі перадвясновы дзень. Шчанюк не хацеў заставацца на самоце, пакідаў сваю падсцілку ў кутку каля шафы і на няпэўных лапах тэпаў да Санікавага ложка. Падаваў слабы голас і як мог, на ўсю сваю сысункоўскую сілу пачынаў цягнуць уніз коўдру. Яго лашчылі і заносілі назад, а мінала некалькі хвілін — і паўтаралася тое ж самае. Праз мітусню са шчанюком не спала ўся кватэра.

Санік памыкаўся пакласці яго з сабою, але тата рашуча запярэчыў:

— Што табе, рабакоў нестае?

Нарэшце не вытрымала мама і ўзяла шчанюка да сябе на канапу.

Малы патаптаўся ў нагах, дзе было раўней, потым скруціўся ў абаранак, разявіў пысу, падціснуўшы ружовы язычок, пазяхнуў і адразу ж заплюшчыў вочы. Спаў ён, уздрыгваючы ўсім целам і ўсё павіскваючы, дый то нядоўга. Сярод ночы заскуголіў і пачаў шукаць спосабу дастацца на падлогу: звешваў з канапы галаву, аж пакуль не страціў раўнавагі і не кульнуўся ўніз.

— Эге, братачка, ты маеш розум,— сказала, абудзіўшыся, мама і вынесла шчанюка на двор.

Сабачка прыпаў усім даспадобы і прыжыўся ў доме. Толькі што хадзіў без імені. Санікавы спробы называць малога Жучком ці Шарыкам не сустракалі падтрымкі ў дарослых.

— Як жа нам усё ж яго ахрысціць? — задумаўся тата аднойчы, вярнуўшыся з работы.

— Трэба выбраць добрае імя,— пасміхнулася мама.— Гэта павінен быць вялікі і разумны сабака. Сёння ён бегаў са мною па ваду на калонку. І ведаеш, як толькі падышла суседка з вёдрамі, наставіў поўсць і забрахаў.

— Ад зямлі не відзён, а сваіх бароніць,— здзівіўся тата.— Хай тады завецца Абаронца.

— Санік не захоча такога. Пачакай, імя само знойдзецца.

Аднак шчанюк вырас ужо Саніку па калена, а імя не знаходзілася. Справе дапамог выпадак. Тата сядзеў і чытаў газету. Потым дастаў з кішэні гадзіннік і ўпусціў з рук ланцужок.

Сабачка кінуўся з усіх ног на дапамогу. Перамагаючы прыкрату ад дотыку халоднага металу да зубоў, падаў ланцужок чалавеку.

— Маладзец! — тата пагладзіў сабачку па галаве, а той узрадавана брахнуў.

— Брэх у цябе прыемны. Барытон мяккі, хоць у салісты аддавай. Вось ты і будзеш называцца Брэх.

Неўзабаве Санік пачаў ныдзіць і нават са слязамі даводзіць, што сабаку аднаму нудна і ў хаце павінен быць яшчэ нехта, хто б разумеў яго лепей, чым людзі. Праз гэтыя штодзённыя дакучанні ў Брэха з'явіўся дружбак, шэры каток. Лапкі і грудзінка ў яго былі белыя, кот трымаў іх у такой чысціні, што, паглядзеўшы на ягоную манішку, адразу ж успаміналася пра снег.

Брэх прыняў катка сапраўды як сямейніка, дазваляў пахлябтаць крупніку са свае міскі і аблізваў пасля ўпэцканую мордачку.

— Мама, глядзі: Брэх яму выцірае губы сурвэткаю,— залівался рогатам Санік.

Каток таксама даволі доўга жыў без імені. На сямейную нараду з гэтай прычыны забег порсткі суседскі хлапчук Міля, імя гэта ў адпаведнасці з характарам дзеці перарабілі з даўгога і нязручнага — Амільян.

Аслухаўшыся, пра што гаворка, ён нешта шапянуў на вуха Саніку.

— Сам скажы, я не буду паўтараць такое глупства,— махнуў рукою той.

— Цёця Кла'а! — заспяшаўся Міля, смешна глытаючы «р».— Сабака ў вас Б'эх, а кот...

— Як бы ты хацеў, хлапчуня?

— Я хачу п'оста — Мяў.

Тата ляснуў сябе рукою па калене.

— Ну-ну, Міля! Сапраўды атрымліваецца добра: Брэх і Мяў. Табе вызначаецца прэмія ў памеры трох ірысак. З Санікам і Брэхам можаш не дзяліцца, ім будзе свая доля.

Брэх і Мяў жылі між сабой дружна і добра сябравалі з дзецьмі. Асабліва з Мілем, хоць ён быў і не хатні, а толькі з аднаго двара.

Калі Брэх быў у лагодным настроі, ён садзіўся ў двары на мураву, дзе гулялі дзеці. Нібы дурэючы, цягнуў зубамі Мілю за рукаў. Калі той адварочваўся, Брэх далікатна вымываў языком замурзаны пад час гульні тварык малога чалавека. Акурат як прарабляў гэта з Мявам. Пасля яны сядзелі чыстыя і, здавалася, усе ўтраіх пасміхаліся.

Але, як ні паддобрываліся да Брэха іншыя дзеці, больш нікому такой ласкі ён не рабіў.

## ЗЯЛЁНЫ ХАЛАДОК

Васіль Пятровіч — кіраўнік установы, Пётр Васільевіч — намеснік кіраўніка ўстановы, толькі не гэтай, дзе працуе Васіль Пятровіч, але не менш саліднай. Трэці — я.

Сядзім у зялёным халадку за столікам. Паблізу — калодзеж, туды ў вядры спушчана бутэлька «сталічнай». Чакаючы, пакуль яна ахалодае, мы з Пятром Васільевічам — сябры з вайны — рагочам, успамінаючы франтавыя здарэнні. Дружна і няўмела, па-мужчынску, наразаем каўбасу і хлеб. Цыбулю — дзякуй богу, гаспадынь няма, ніхто не насварыцца! — пакідаем у пёрах, кроп будзем рваць па патрэбе, балазе грады блізка.

Васіля Пятровіча я ведаю здалёк. Ён паважна сядзіць, не памагаючы нам, хіба што час ад часу салідна падкіне заўвагу голасам шматвопытным і мнагазначным. Тады я пачынаю не пазнаваць Пятра, разумнага інжынера, вясёлага сябра, смелага камандзіра разведроты. Як толькі Васіль Пятровіч зробіць ласку абазвацца, Пятро змаўкае і пазірае таму проста ў рот, нібы адтуль вось-вось выпырхне не менш чым залаты салавей. Ён нават прытрымлівае мяне за руку, каб не шастаў газетай, пасланай

на столік. А то якое паўслоўца Васіля Пятровіча возьме ды застанецца недачутым!

Праўда, Пятро тут гаспадар і павінен быць ветлівым. У той жа час пачынае варушыцца прыкрая здагадка: Васіль Пятровіч — кіраўнік, а мой сябар — толькі намеснік.

Я адыходжу за калодзеж і пачынаю выбіраць сабе яблык, павярнуўшыся да стала спінаю.

Нездаваленне ці крыўду можна пазнаць у чалавека і са спіны. Гэта прыкмеціў Пятро, але не хоча ці не можа зразумець Васіль Пятровіч. Ён гаворыць ні да кога не звяртаючыся, як умеюць рабіць начальнікі, каб той, да каго адрасаваны словы, абавязкова пачуў і зрабіў усё, што заманецца начальству.

— Там, у вядры, відаць, ужо лёд,— безадносна кажа Васіль Пятровіч. Але я адчуваю: гэта ён мне загадвае дастаць з калодзежа бутэльку.

Карыстаючыся тым, што высокі госць бесцырымонна звяртаецца да нас абодвух на «ты», я не паварочваюся і знарок груба кідаю цераз плячо:

— А пайдзі ды паглядзі!

Пятро бягом кідаецца да калодзежа, я паспяваю прачытаць у яго вачах невымоўны дакор. Васіль Пятровіч, выставіўшы палец, спыняе яго, павольна дастае вядро і стаўляе пляшку на стол. Ён спагадліва глядзіць на мяне, вымаўляючы аднымі вачыма: «Вось табе і навука! Я хоць і заслужаны чалавек, але просты». У позірку Пятра — тое ж самае і яшчэ: «Ну, і нашто табе задзірацца!»

Васіль Пятровіч налівае мне першаму і, саладкавата жадаючы поспехаў, чокаецца. Пятро горача падтрымлівае. Стараюся і я адказаць тым жа самым.

Але гаворка ў нас не клеіцца. Васіль Пятровіч раптам успамінае, што ў яго ёсць неадкладныя справы, і ад'язджае. Мы з Пятром уздыхаем лягчэй і выпіваем па чарцы без тостаў, проста за зялёны ліст і прыветны адвячорак у гэтым садку.

Аднак твар майго сябра азмрочваецца заклапочанасцю, ён час ад часу пытае:

— Як ты мяркуеш, не пакрыўдзіўся?

І мне дзесяты раз даводзіцца запэўніваць яго, што калі і пакрыўдзіўся, дык толькі на мяне.

Мінуў год, а можа і два. Пятро з намеснікаў стаў

кіраўніком установы. Мы выпадкова сустрэліся і вырашылі пад'ехаць у зялёны халадок на ўскраіне горада.

Як на тое, пакуль мы чакалі машыны, падышоў Васіль Пятровіч. Яму за гэты час не пашанцавала: не выканаў плана, недагледзеў шахрайства. Дык куды там ужо кіраваць установай, ледзь-ледзь на аддзеле ўтрымаўся.

— Віншую, Пятро Васільевіч! — здалёк сказаў ён, чакаючы, пакуль новаспечаны кіраўнік падасць руку.— З вялікім поспехам вас. І абмыць не пашкодзіла б...

На твар майго сябра ўсплыла хмарка заклапочанасці.

— Няма часу,— сказаў ён, нарэшце падаўшы руку,— неадкладныя справы. Так што: дзень добры і бывай здароў.

Ён непрыкметна падміргнуў мне, а Васіль Пятровіч, угнуўшы галаву ў плечы, зачасціў ад нас.

— Пайду і я, Пятро! Не буду адбіраць у цябе часу.

— А ў зялёны халадок? — шчыра здзівіўся ён.— Значыць, не хочаш павіншаваць мяне? Франтавую дружбу ломіш!

І, сеўшы ў сваю новенькую машыну, ён моцна ляпнуў дзверцамі.

## МУЖЧЫНА

Ніначка праходзіла цераз чорны двор і прыгнулася паглядзець толькі што вылупленых куранят. Певень Ігналя ў прыплыве бацькоўскай трывогі за патомства дзюбнуў дзяўчынку. І моцна: з нагі пайшла кроў.

Віцька глядзіць на сястрычку ў абодва вокі. Ён гатоў расчуліцца і цягне да вачэй падалок незапраўленай у портачкі мультановай кашулькі. Іншага ўбору, уважаючы на ўзрост і летні час, яму не палажана.

— Ціха, дачушка, ужо не баліць,— суцяшае Ніначку яе чарнавокая маці Аня.— О, наш Віцька ніколі не плача, ён у нас мужчына. Мала што бы-

вае! А гэты дурань часамі і мяне дзюбне, хоць я яго кармлю. Толькі мужчын сцеражэцца, не чапае.

Пакуль яны абмываюць ранку, Віцька знікае. І раптам з двара чуецца спалоханы голас хлопчыка:

— Певень, не чапайся!

Ніначка і Аня кідаюцца ратаваць. Віцька, растапырыўшы ножкі, туліць да грудзей кураня, на руцэ ў яго чырванее плямка — шчыпок певуновай дзюбы. Гатовы да далейшых дзеянняў, певень Ігналя стаіць насупроць у ваяўнічай паставе.

Віцька вось-вось можа сарвацца на плач, але перамагаецца і ўшчувае:

— А яшчэ і стары пявун! Дурань ты, сваіх не пазнаеш: няўжо ты не бачыш, што я мужчына?

## ДЗЕДАЎ КЛОПАТ

Дзед Дзявочка, з-пад Стоўбцаў, прыйшоў у госці, і не з пустымі рукамі: прынёс крыху бульбы — гасцінца. Расказвае: жонку паралюш разбіў.

— Ідзе вясна, яна паправіцца, дзеду.

— Цяжка! У вёсцы пітанія не тая. Як рабіла ў горадзе ў вучоных, дык ела. А ў мяне што? Чатыры класы скончыў.

Сядзіць, аддыхваецца: валок мех з вакзала пешкі, а потым цягнуў па сходах на сёмы паверх — не працаваў ліфт. Есць павольна аўсянку, далікатна кусае скібачку батона.

— А колькі вам гадоў, дзеду?

— Восемдзесят сёмы пайшоў. Але я б многа жыў. Каб мяне з раніцы цёплым кармілі, во гэтак,— ківае на стол,— сто гадоў адгрукаў бы няіменна. Ды не тая шанса абышла.

Гэта ён жаліцца на няўдалы шлюб. Гадоў з дваццаць назад, калі ў нас пачалося знаёмства, стары страціў сяброўку і надумаўся жаніцца зноў. Насіў у кішэні канверт з жаночымі фатаграфіямі, паказваў усім і падхвальваўся: «Во, бачыш, якія за мяне жадаюць? Але я абы-што не вазьму!»

З фота на мяне глядзелі твары: і прасцейшыя, і танчэйшыя, прыгожыя і так сабе, але ўсе жанчыны былі значна маладзейшыя за пераборлівага жаніха.

Павеяла горкім ветрам вайны: пасірацелі жанкі, не вярнуліся дамоў іхнія мужы. А цяпер — блізка старасць, страшна заставацца ў адзіноце. «Хоць за казла, ды запаўзла»,— раіла прымаўка, і дзед хадзіў у жаніхах.

Мы сядзім і гадаем, як падлячыць дзедаву сяброўку.

— Любіў яе, і цяпер...— слова перасядае ў горле недаконччанае...

## ПЕВЕНЬ ЗЫДОР

Зыдора неслі ў кошыку з перавязанымі крыламі і лапамі, туга пасцягванымі шпагатам. Лёс яго ўжо быў вырашаны. Яго, вялізнага, нікім не пабіванага пеўня, які ўжо тры вясны вадзіў не толькі гаспадаровых курэй, а ледзь не з усяе вёскі.

Праўда, тут была асобная прычына: Зыдор не меў сапернікаў, гаспадыні з бліжэйшых двароў папрыразалі сваіх певуноў, пакуль не замалаціў іх насмерць гэты крыклівы фарсун і задзірака.

Такім чынам, увесь клопат, залёты і частаванне селавых чубатак перайшлі да Зыдора, кавалера неадхільнага, з вялікім грэбенем колеру налітай каліны, і такога бліщчастага з пер'я, што ўпоравень з ім не магла стаць ніводная мядзяная міска, начышчаная пад варэнне, і ніводзін сланечнік з гарода, калі яму сама-сама цвіцецца.

Як бы там ні вялося, Зыдора неслі на рынак.

Шлях гаспадыні з пеўнем, дакладней, апошняя пеўнева дарога праходзіла цераз прыазёрную вёсачку. Гараджанка, што летавала ў адной з хат, згледзела праз акно жанчыну з кошыкам, купіла ў яе белы сыр і ўсё войкала, гледзячы на зняволенага прыгажуна, не магла пагадзіцца з яго горкай доляю. Зыдорава гаспадыня не стала даражыцца, прадала і пеўня, сказала, як яго зваць.

Зыдора развязалі. Ён паспрабаваў ісці, але абваліўся на пераціснутыя ногі. Пасля, пачуўшы, што крылы вольныя, узмахнуў імі і ўжо цвярдзей ступіў на зямлю.

Месца хоць і незнаёмае, але падобнае да таго, якое ведаў ён з пары куранячага пуху. Такая самая

пыльная вуліца, ляны кот пабіраецца паўз платы млявымі лапамі, не ўціхае вераб'інае патомства пад стрэшкамі. А галоўнае, у канцы вуліцы, каля школы, што глядзела вокнамі на возера, хадзіла чародка курэй на чале з нейкім шэра-пярэстым нягеглікам — ён няўмела пляскаў крыламі і хрыпла спяваў.

Гэтага Зыдор стрываць не мог. Пераадолеўшы боль у лапах і падкрыльцах, кохнуў і пабег выяўляць сваю сілу і мужчынскія правы.

Бойка пачалася з ходу. Зыдор наляцеў як бура, чыркнуў крылом, прымерыўся і пачаў малаціць праціўніка дзюбаю і драсаваць шпорамі.

Праз колькі хвілін тутэйшы певень, зваяваны ўшчэнт, сядзеў на руках у настаўніцы, заводзячы вочы белай плеўкаю, нават не мог глынуць вады з лыжачкі. А Зыдор кукірэкнуў — вылазь, пеўні, каму жыццё надакучыла! — і павёўся з курыным статкам шукаць добрага сметніка.

## СКЕТЧ

Невялікага росту, тоўсценькі, з чорнай кучаравай чупрынай, ён расказваў нешта, відаць, смешнае, бо суседзі па сталу даволі дружна рагаталі.

Сталовая паўднёвага санаторыя была амаль пустая, даснедвала якіх дзесяткі паўтара чалавек. У дыетычнай, крыху напружанай цішыні выразна далятаді ўрыўкі сказаў. Чалавек пахваляўся, што ўзяў у палон немца, размалёўваў, які той быў смешны і варты жалю, як калоцячыся адказваў на допыце і прагавіта, па-жывёльнаму хапаў ежу.

Адкуль я ведаў гэта ўсё: чытаў, чуў ад каго-небудзь з таварышаў, быў пры тым?

Цікавасць і нават лёгкае ўзрушэнне прымусілі крыху даўжэй спыніцца вачамі на кучаравым апавядальніку. Ён адчуў гэта і таксама падняў вочы, нейкі момант глядзеў, працягваючы расказваць, потым змоўк і ўнурыўся ў талерку. У насцярожаным позірку — чалавек зразумеў, што яго пазнаюць,— выразна прачыталася трывожнае запытанне: «Дык няўжо гэта ты? І ты ўспомніў мяне?»

Сапраўды, я пазнаваў і не пазнаваў. Каб падмацаваць здагадку, яшчэ раз зірнуў у той бок: чала-

век, хапаючыся, на поўны рот, распраўляўся з маннаю кашаю.

І адразу ж памяць высветліла адлучаны больш чым двума дзесяцігоддзямі час. Судзіловіч! — памылкі быць не магло.

Мы, курсанты ваеннага вучылішча, прыспешаным тэмпам рыхтаваліся стаць сярэднімі камандзірамі. У маім узводзе сабраліся таленавітыя хлопцы: спевакі, танцоры, артысты. Мы наладжвалі канцэрты, нават разыгрывалі невялічкія інсцэніроўкі.

Начальнік клуба, батальённы камісар, добрага сэрца чалавек, палюбіў сваіх самадзейных артыстаў. Часамі яму ўдавалася выстарацца, часцей за ўсё адарваць ад уласнага пайка, невялічкую дабаўку да нашай скупаватай вячэры.

З гэтага вось і вырашыў пакарыстацца Судзіловіч. Ён змайстраваў з газетнага апавядання скетч і выконваў у ім галоўную ролю — палоннага нямецкага салдата. На сцэне з'яўлялася ўверчанае з галавою ў жаночыя хусткі пудзіла ў абматаных саломаю валёнках. Зала абзывалася смехам: большасць прысутных ведала — якраз так і выглядалі захопленыя пад Масквой заваёўнікі. Пудзіла дапытвалі; яно не гаварыла, а раўло, ляпаючы зубамі, прасіла есці. Апякаючыся гарачым, запіхаючы пальцамі ў рот кавалкі хлеба, палонны ў момант умінаў кацялок салдацкага прыварку, аблізваўся і прасіў яшчэ. Гледачы смяяліся, хоць самі глыталі слінкі — на тылавой норме вельмі не параскашуешся.

Скетч упадабаўся, выканаўцу прыкмецілі і пачалі запрашаць у шпіталі, каб хоць чым разважыць раненых. Гэта было якраз тое, чаго дамагаўся Судзіловіч: да кожнага выступлення ў якасці рэквізіту ён патрабаваў акраец хлеба і кацялок якой-небудзь стравы. Як для акцёра, яму давалі не горшай, падкідалі нават мяса. Праўда, у шпіталях стараліся падкарміць і другіх нашых спевакоў і чытальнікаў, але яны далікатна адмаўляліся: не адбіраць жа кавалак у раненых.

Затое Судзіловіч вяртаўся, падмацаваўшыся, з маслянымі губамі і бліскучымі вочкамі. Ён пакруглеў, пасыцеў і, здавалася, зусім не мёрз на палявых за-

нятках, дзе мы дзяўблі рыдлёўкамі ўкамянелы грунт і поўзалі па-пластунску, топячыся ў глыбокім снезе, а маразы на пачатку сорак другога, калі хто помніць, трымаліся не слабенькія.

Адубеўшы ў полі, амаль не сагрэўшыся посным абедам, мы наладжвалі ў гадзіны самападрыхтоўкі жорсткую і ў нечым крыху прыемную гульню.

— Пайшлі ў рэстаран! — камандаваў Лёшка Мілаванскі, наш запявала, выдумшчык і ахвотнік на розыгрышы.

Ён даставаў з кішэні некалькі немаведама дзе падхопленых старонак з «Падарунка маладым гаспадыням», славутай кухаварнай кнігі Алены Малахавец.

Пачыналася чытка ўголас. У Лёшкі быў раздзел кнігі пад назваю «Стравы для прыслужнікаў». Кожны раз ён падкрэслена абвяшчаў гэта і чытаў першы рэцэпт — «Кіслая капуста».

— «Узяць фунт, гэта значыць дзве шклянкі, кіслай капусты, паўфунта мукі-крупчаткі трэцяга гатунку, цыбуліну, два фунты ялавічыны або свініны, або фунт сала...»

— На колькі гэта «персон» норма? — чулася запытанне.

— На чатырох.

— Судзіловіч падручаецца ўправіцца адзін,— ляцела калючая шпілька.

Судзіловіч не абзываўся, а Лёшка чытаў далей:

— «Можна гатаваць капусту наступным чынам. Калі для панскага стала мяркуюць падаць саланіну, дык зварыць яе да палавіны гатоўнасці, пакаштаваць, калі салёная, зліць булён і наліць свежае гарачае вады...»

— Судзіловіч згодзен з'есці і не злітую,— перапыняў хто-небудзь з нас.

— «На злітым булёне,— працягваў Лёшка,— зварыць прыслузе капусту, пакласці туды разварную ялавічыну, якая засталася ад булёну, што гатаваўся для паноў. Наогул жа для «людзей» бяруць ялавічыну ад лапаткі, ад грудзінкі, падпашыны...»

— Хто згодзен на меню для прыслугі? — пытаў Лёшка.— Нязгодных няма. А ты, Судзіловіч, чаму маўчыш? Панскага кавалка чакаеш? Не будзе...

Судзіловіч махаў рукою, мармычучы штосьці накшталт таго, што ў дурняў і дурная работа.

Нам сяк-так удавалася перагрываць рэцэпты, як варыць крутую грэцкую кашу са скваркамі, клёцкі з мукі, закрашаныя смятанай, аднак, калі Лёшка дабіраўся да пірага з капустай, пячонкі і смажанага парасяці, цярплівасць лопалася. Забыўшы нашага ненаеднага таварыша, мы кідаліся да Лёшкі і малілі спыніцца.

— Хопіць!

— Пакінь што-небудзь на заўтра!

— Ціха! Заўтра атрымаеце ўсё меню поўнасцю.

Лёшка складаў старонкі, і яны знікалі ў яго бяздоннай салдацкай кішэні.

— Дзівакі,— бурчаў тады Судзіловіч.— Мне хоць бы што, сябе толькі дражніце.

Сапраўды, скетч нядрэнна карміў яго. Цяжэй даводзілася толькі ў нядзелю: у гэты дзень Судзіловіч выступаў па некалькі разоў, а ўправіцца з двума-трыма салдацкімі кацялкамі кашы, няхай сабе і ў галодны час, не так ужо лёгка. Але Судзіловіч з'ядаў. Праўда, без хлеба, пайкі прыхоўваў на вечар. Пасля адбою, падлезшы з галавою пад коўдру, ён да раніцы жаваў хлеб і ні аднаго разу не запрапанаваў нікому скарынкі, хоць мучыўся жыватом і абіваў парогі ў санчасці.

Набліжаўся Дзень Чырвонай Арміі. Начальнік клуба даў заданне падрыхтаваць драматызаваную хроніку-агляд ваенных шляхоў і подзвігаў. Я скампанаваў урыўкі п'ес з інсцэніраванымі апавяданнямі, зрабіўшы паміж імі невялічкія звязкі. Наўрад ці гэта вытрымлівала хоць якую крытыку. Тым не менш, рэпетыцыі пачаліся. Разам з выканаўцамі мы, як маглі, паляпшалі тэкст. Аднойчы ў клуб з'явіўся Судзіловіч. Пазіраючы сабачымі вачыма, ён папрасіў:

— Устаўце ў спектакль мой скетч.

Гэта была не дарэмная турбота: яго выступленні прыеліся і не знаходзілі аўдыторыі, давялося падцягнуць папружку.

— Усю ежу будзем дзяліць папалам, з месяц пражывём бязбедна. А потым,— ён адвёў мяне ўбок і прыцішыў голас,— вы пішаце, я — нядрэнна

іграю. Ёсць шанс: нас могуць пакінуць тут, пры клубе. У мяне няма жадання ўвекавечыць сваё імя подзвігамі...

Я запрапанаваў лаўкачу падацца не сказаць каб вельмі далёка, але і не блізка. Ён не пакрыўдзіўся і пайшоў да начальніка клуба, а той, не ведаючы нашай размовы, загадаў уманціраваць скетч у пастаноўку.

Дазнаўшыся пра гэта, Лёшка Мілаванскі пакруціў галавою.

— А ты ўстаў, шкада табе, ці што?

Ён мнагазначна падміргнуў.

Надышоў генеральны прагон. Тут ужо трэба было рабіць усё па-сапраўднаму: іграць на поўны голас у сапраўдных касцюмах. Усё было гатова, толькі для Судзіловіча неставала харчовага «рэквізіту». Звычайна яго выдавалі з кухні па запісцы начальніка клуба. На гэты раз ісці на раздабыткі падручыўся Лёшка. Прынёс накрыты газецінай кацялок, але не аддаў у рукі выканаўцу, а паставіў у каморцы начальніка клуба за сцэнай.

— Глядзі ж, каб усяго не з'еў,— сказаў ён Судзіловічу.— Папалам дык папалам, як умовіліся. Хіба ўжо вельмі добра сыграеш, тады мы табе і сваю палавіну ахвяруем.

Рэпетыцыя ішла ніштавата. Вось байцы прывялі палоннага немца. Судзіловіч вёў сцэну на вышэйшым узроўні аматарскай тэхнікі: пакручваў вырачанымі вачамі, калаціўся, кідаўся на калені, маліў пашкадаваць яго маленькіх дзяцей і нарэшце прасіў есці. З'явіўся доўгачаканы кацялок. Судзіловіч прагавіта схапіў хлеб, уторкнуў у кацялок лыжку і асекся. Натхненне прапала без следу, ён рабіў выгляд, што жуе, давіцца, але нікому не было смешна.

— Я думаю,— сказаў начальнік клуба на разборы рэпетыцыі,— палоннага трэба выключыць. Зайгралі, не дзейнічае.

Я зірнуў на Лёшку. Стрымліваючыся, каб не зарагатаць, ён непрыкметна перадаў мне кавалак хлеба, той, што нядаўна жаваў Судзіловіч на сцэне. Гэта быў муляж, таксама як бульба і кавалкі мяса ў кацялку.

Дык вось чаго адпрошваўся Лёшка ў мясцовы тэатр!

Так і размінуліся негалодныя два чалавекі цераз дваццаць гадоў пасля вайны. Успомнілі ўсё, а пазнаць адзін аднаго не захацелася.

## ДАЛІКАТНАЯ ДЗЯЎЧЫНКА

Тут было хораша: малы стол пад настольніцай у кветкі запрашаў сесці, лямпа ў шаўковым абажуры з махрамі абяцала прыемнае ружовае святло, а чорная блішчастая скрынка на трох ножках, раяль, як здагадалася дзяўчынка, сама клікала: зайграй! Усё-ўсё падабалася Тасі ў гэтым пакоі, але чаму ж так высока жыве гэтая цёця Надзя? Тася з мамаю падымалася сюды вельмі доўга. Вось, здаецца, канец прыступкам: пляцоўка — і на ёй дзверы. Але сходы нечакана рабілі зноў паварот, і зноў лічы прыступкі!

Разоў пяць, мусіць, яны так абкручваліся па сходах, аж горача стала. У іх дома, у малым дамочку на ўскраіне, куды лепш: адчыніў дзверы — і адразу ў сад!

Вокны ў пакоі былі адчынены, і Тасі захацелася паглядзець на вуліцу: як яно там, можа з такой высачыні ўжо і людзей не відаць.

Дзяўчынка падышла да акна, але вызірнуць не ўдалося: яе падбароддзе толькі-толькі даставала да падаконня, а лезці наверх страшнавата дый няёмка ў чужым доме.

Мама і цёця Надзя гаварылі безупынку, смеючыся і наперабой, як заўсёды робяць жанчыны, даўно не бачыўшыся; спяшаюць адна перад адною ўспомніць і перадаць усё, каб, крый божа, чаго не забыцца. Адкупіўшыся цукеркаю, яны зусім не звярталі на Тасю ўвагі. Праўда, цукерка была добрая і называлася «Паспрабуй, адбяры!». Але нават калі яе кусаць далікатна, патрошку, а потым акуратна разгладзіць паперку з намаляваным хлопчыкам і бліскучую абгортку, і тады забаўкі хапае ненадоўга.

І тут Тася заўважыла, што на мяккім крэсле нешта заварушылася. Яна і раней бачыла гэтае шэ-

рае футра, але палічыла яго за ваўчыную шкуру. Якраз такую падараваў ім Вася, сусед, ён часта ездзіў на паляванне.

Ажно гэта было нешта жывое. На крэсле спаў кот, ды які — дзіва! Вялізны, вусаты, вось з гэтакай доўгаю поўсцю!

На пальчыках, каб не ўзбудзіць часамі, дзяўчынка падышла да крэсла і застыла, залюбаваўшыся. Гэта ж яе даўняя мара — мець дома катка, паіць малачком, а як кладзешся спаць, каб і ён быў пры боку, спяваў курну.

Нарэшце Тася асмелілася, працягнула ручку і лёгенька пагладзіла шэрага прыгажуна.

Кот пацягнуўся, расплюшчыў зялёныя ліхтарыкі вачэй і аблізаў нос вострым, амаль малінавым языком. Пабачыўшы перад сабою нешта малое і недамашняе, ён не зрабіў нават ласкі муркнуць у адказ на палашчванне, але, будучы добра выхаваным, нічым не паказаў, што пакрыўдзіўся за перарваны сон.

Узрадаваная Тася прысела на кукішкі каля крэсла і стала ўжо гладзіць ката раз-поразу, шэпчучы і прыгаворваючы самыя лепшыя словы, якія толькі ўмела. Ён крыху пацярпеў, пасля прыжмурыўся і адмахнуўся ад дзяўчынкі лапаю, але мякка, не выпускаючы кіпцюроў. Мусіць, не пажадаўшы абвастраць далей адносіны, кот падняўся, на хвіліну зрабіўся пругкай пушыстай дугою і скочыў на падаконне.

Тася спалохалася: там жа гэтак высока, яшчэ разаб'ецца! І не стрымалася, крыкнула з адчаем, жалем і пашанай, моцна, як толькі магла:

— Куды ж вы? Не ўпадзіце!

## СОНЦА НА ЗАХАДЗЕ

Млява палыскуецца пацягнутае рэдкім туманам возера.

Да люстра вялікай вады, агінаючы задзірванелы ўзгорак, точыцца крынічная ручаіна — вузкі, крывы, як серп, струмень. Нешта мармыча сама сабе: на твані — зусім ціха, упошапкі, і весела званчэе, узліўшыся на каменьчыкі.

Насустрач, з возера, на лілаваты жвір узбярэжжа раз-поразу накочваецца ляная хвалька. Вада ўгрэлася за дзень, як быццам загусла, і, здаецца, возера пляскае далонню па беразе ўжо спрасонку, так сабе, адчэпнага, абы паказаць, што не спіць. Але як толькі ручаіна спрабуе падпаўзці па прамытым ёю пясчаным жалабку хоць крыху бліжэй, азёрная хваля жвавее, накрывае сабой прышлы струменьчык і цягне яго ў глыбіню.

І ўсё па ўсім: ні следу, ні знаку... Аж пакуль не збярэцца з сілаю няўтомная крыніца, пакуль не зліе кроплю за кропляю ў новы цурок і на вільготны мул зноў бязгучна высунецца шкляное лязо. Тады ўсё паўторыцца спачатку.

Да бясконцых размоў вады далучаецца больш выразнае шастанне мяцёлак. Высокія сцябліны трысця здаюцца паўтыканымі проста ў туман, і шорсткія лісты іх, дакранаючыся адзін да аднаго, парыпваюць, як бляшаныя.

Іншая гаворка точыцца на беразе. Два цесляры мянялі насціл на мастку цераз ручаіну. Работы тут было на адны прыхваткі, але не скончылі: удзень прыпарвала, марудна хадзілі рукі. Дый яны не вельмі спяшаліся, няма рахубы брацца перад вечарам за што іншае, пераходзіць на «новы аб'ект», як гаворыць іх калгасны старшыня. А хто яго ведае, які ён яшчэ будзе, той «аб'ект»! Добра, калі трапіцца перацягваць падлогу ў клубе, а то і пашлюць мяняць падрубы на ферме. Ляпайся цэлы тыдзень, а наедку слаба.

Цесляры сядзяць на акораных плашках і раяцца. Яны ўжо крыху падвесяліліся і цяпер шукаюць спосабу дадаць весялосці, бо нешта атрымалася ні ў пяць, ні ў дзесяць: ні заспяваць, ні пасварыцца. На другую паўпляшку, колькі ніператрасалі кішэні, не хапае цэлага рубля. Папрасіць у канторы аванс — позна, а звяртацца да хатняга райфа — нічога не выйдзе, толькі наслухаешся непрыемнасцей.

Ад няма чаго рабіць яны закурваюць і пачынаюць перамываць косці старшыні. Нявыліняўшы руды сабака ляжыць каля ног, паглядае на газеціну, на недаедзены хлеб і — недасяжная сабачая мара! — кавалачак сала з прорасцю. Не, яго гаспадар не дабраў

яшчэ дабраты, каб чым-небудзь падзяліцца. Але на ўсякі выпадак трэба напамянуць пра сябе. Сабака садзіцца і нясмела падымае пярэднюю лапу, просіць.

— Цябе яшчэ не хапала! — зрывае злосць гаспадар.— Слухаеш тут абы-што, а потым разбрэшаш на ўсё сяло!

## ПАЙШОЎ БЯРОЗАВІК

Вясна бралася за работу неўзаметку, але заложна. Праўда, зранку ёй было пад сілу зрабіць нясмелы, невялічкі крок — дзынкнуць кропляю са страхі дзе-небудзь: у за́цішку, на ўгрэве, затое за дзень яна ўпраўлялася выбегчы на ўсе ўзгоркі і распароць праменнямі снегавыя шапкі на іх, а пад вечар, напрацаваўшыся, ступала павольна і шырака, несучы ў разводдзе палявых ручаін негарачае сонца.

Адразу пасвяжэла гліца на хвоях, павылузваў з цёплых пазух каткі вербалоз, цьмяным перламутрам пачалі адсвечваць кусты а́рэшніку, пупышкі на ім крыху раздаліся і выпусцілі малінавыя зорачкі цвету.

Тады заўпарцілася зіма. Не хочучы выбірацца з абжытых за паўгода прастораў, яна задзімала сіверам на павесялеўшыя руні, зацягвала нетрывалымі люстэркамі праталіны на балоце, падсявала на рэдкіх рашотах апошні снег.

З воблакаў сыпаліся буйныя высеўкі і ўслед раставалі. Вясна і слухаць не хацела аб адступленні. Над ускрайкамі пушчы, быццам выпрабоўваючы, ці не падалася за вымушаны прастой яго ўдарная сіла, мармыну ў, прачышчаючы лёгкія, як бас перад канцэртам, першы гром і адразу ж паправіўся, грукнуў мацней, яшчэ мацней, і пачаў біць, раз-поразу разлягаючыся працяжным пошчакам.

Гулка забубнілі па зямлі раптоўныя ліўні; яны то наляталі зноў і ўсё абмылі, усё падчысцілі, сагналі мутнымі пераваламі з двароў і палеткаў бруд, трэскі, салому, што там ні заставалася пасля неахайнай работы вятроў і туманаў — старых дворнікаў вясны.

На другі ці на трэці дзень, калі скончылася ўсё гэта вымыванне і вышароўванне, пад захад сонца не-

як асабліва бела засвяцілася большанькая бярэзіна ў прыдарожным гаі. Каля карча паварушыўся руды лісток, чырванаватае шыльца падняло яго, адхіліла ўбок, і на свет вызірнула травінка.

Далей усё пайшло прызвычаеным парадкам.

У гаі раптам пацямнела — сюды апусцілася хмара гракоў; яны пачалі перагаворвацца, быццам раіліся, як лепей пачаць работу. Тады адзін, найбольш маўклівы, відаць, самы паважаны ў гэтым шумным тлуме, пераляцеў на маладую бярэзіну. Вяршок угнуўся пад дужаю птушкаю: грак нейкі момант не стуляў крыл, падтрымліваў раўнавагу, каб не грымнуцца вобземлю. Перастаўшы гайдацца, ён пасядзеў у спакоі, нібыта нешта думаў ці разважаў, потым прымерыўся да ніштаватай галінкі, сціснуў яе ў моцнай дзюбе і перашчыкнуў, як нажніцамі.

Гэта быў сігнал. Ножны пачалі працаваць на кожным дрэве. Гракі абразалі галлё і ляцелі майстраваць гнёзды, цяжка махаючы вялікімі, як бы адсырэлымі ў вільготным паветры крыламі.

Раптам на дол упала кропля, адна, другая, потым дзве разам. Адкуль бы гэта, калі дождж даўно перасціх і нідзе не нахмарвае?

Ды вось яно што! Бярозы развітваюцца з адламаным веццем, шкадуюць, што не зашуміць яно лістамі,— не сказаць, што плачуць, а спалоскваюць сокам параненыя мясціны, каб хутчэй заплылі, загаіліся. А якая там утрата дрэву адна ці дзве галінкі, дый птушкам жа трэба будавацца!

Пайшоў бярозавік!

Яшчэ дзень-два — і на падсохшыя пагоркі паплывуць струменьчыкі зярнят.

> Пакланілася вясёнка:
> Зарадзі, баразёнка!

## 12

## РАЗВІТАЛЬНАЕ

Гэта вогнішча самае кароткае і самае працяглае. Я не магу сказаць, калі яно ўзгарэлася, і не хачу думаць, што яму заманецца ўціхаць.

У гарачыні вялікага клопату мінала жыццё ў мяне і ў мае раўні, у нас не было часу заўважаць, што яно мінае. Мы мелі заўсёды турботу — паджыўляць касцёр, і ў свеце рабілася цяплей ад гэтай работы.

Пяцьдзесят крокаў у будучыню ступіла Радзіма. І ў кожным — па веку, а можа і больш, гэтага не ўзважыш дакладна, яшчэ стоячы ўсутыч да таго, што тварылі самі, што зрабілі на зямлі блізкія і далёкія людзі.

Мы выйшлі з вайны ў добрым коле сяброў.

Народы свету пачалі ўсё часцей афарбоўваць дзялянкі глобуса ў колер незалежнасці меншых і большых дзяржаў. Атросшы пыл ваенных дарог і разбурэння, забудаваўшыся і акрыяўшы, мы сачылі на дахах, калі мільгне новая зорка — першы савецкі спадарожнік. Следам пратарыў першую сцяжынку ў космас наш чалавек. У Беларусі з'явіўся атамны рэактар. Кукуруза, не ўправіўшыся выціснуць з палеткаў канюшыну, саступіла ёй законнае месца. І яшчэ пабольшала збожжа ў засеках, малака ў дайніцах, машын на дарогах. А да таго ж беларускія шахцёры сыпнулі на поле паднятую з глыбінь мае Случчыны калійную соль, а нафтавікі пагналі на перагонку палескую нафту.

І яшчэ відней стала ў рэспубліцы ад зыркага святла з новых ліній.

Калі ж тут было агледзецца, што і самому стукнула паўвека. Але проста расказваць, дзе нарадзіўся, кім і ў чым хрысціўся, нецікава нікому і сабе, асабліва ўваходзячы ўсё глыбей ва ўзрост, калі дзяўчатам не вельмі паказваюць метрыкі.

Будзем і далей назапашваць лаўжы і паліць дванаццатае вогнішча. Яно не апошняе: пасля дванаццатай гадзіны абавязкова надыходзіць поўдзень, а за ім — і новы дзень.

Будзем і далей расказваць пра тое, што пачута і ўбачана, а калі часам і пракінецца нешта з асабістага, дык не адаб'еш жа яго мяжою. Бо і дарогі мераў не адзін, а з людзьмі, і стаяў на пастах часу не сам, а з іншымі вартавымі. Усё маё ў нашым свеце.

Ярчэй шугай, залатое полымя!

*1946—1976*

# ЗМЕСТ

## ПАЭМЫ



## ВЕРШЫ 1955—1965 гг.

## ДВАНАЦЦАЦЬ ВЯЧОРНЫХ ВОГНІШЧАЎ

МАКСИМ ЛУЖАНИН
(Александр Амвросьевич
Лужанин-Каратай)

СОБРАНИЕ
СОЧИНЕНИЙ
В ЧЕТЫРЕХ
ТОМАХ

ТОМ 2

*Поэмы*

*Стихи 1955—1965*

*Проза*

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»

На белорусском языке

Рэдактар Р. І. Барадулін. Мастак М. Р. Казлоў. Мастацкі рэдактар Л. Я. Прагін. Тэхнічныя рэдактары З. Г. Сень, Л. М. Шлапо. Карэктар Я. А. Бебель.

ІБ № 541.
Здадзена ў набор 16.10.79. Падп. да друку 10.11.80. АТ 05239. Фармат 84×100¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 27,30. Ул.-выд. арк. 25,07. Тыраж 12 000 экз. Зак. 2682. Цана 2 р. 40 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, Паркавая магістраль, 11.

Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.

**Лужанін М.**

Збор твораў. У 4-х т. Т. 2. Паэмы; Вершы 1955—1965; Проза.— Мн.: Маст. літ., 1980.— 560 с.

У пер.: 2 р. 40 к.

Другі том старэйшага беларускага паэта Максіма Лужаніна склалі паэмы, вершы, нататкі з дарог маладосці і сталасці, а таксама лірычныя мініяцюры ў прозе.

Л $\frac{70403-223}{М\ 302(05)-80}$ падпіснoe

ББК 84 Бел 7
Бел 2